## ДАРОГА Ў ВЯЛІКАЕ ЖЫЦЦЁ

У 1961 г. у прадмове да зборніка «Што ён за чалавек», азіраючыся на пройдзены, зусім яшчэ невялікі творчы шлях, Іван Мележ пісаў: «Дарога гэта мае свае ўздымы і спады, свае павароты. Ёсць людзі, якія лічаць, што творчасць пісьменніка павінна быць простай, няспыннай дарогай угору. У жыцці так бывае — калі толькі бывае! —рэдка. Нават шасэ, як яго ні стараюцца раўняць, амаль ніколі не сцелецца роўным абрусам. Творчая дарога, мне здаецца, — гэта дарога ў полі між лесу, дарога цераз выспы і брады, дарога па звычайнай зямлі. Можна засыпаць на ёй ямы і каляіны, зрабіць грэблі цераз брады, але адзнакі спаду і ўздымаў, сляды таго, хто ішоў тут, застануцца на ёй для пільнага вока назаўсёды».

Так пісьменнік ацэньваў сваю дарогу яшчэ да таго, як былі напісаны раманы «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань» — творы, якія склалі знакамітую «Палескую хроніку», да таго, як з'явілася глыбокая на думкі, страсная пафасам кніга артыкулаў, эсэ, інтэрв'ю «Жыццёвыя клопаты». Але, думаецца, што і ў канцы свайго жыццёвага шляху Мележ пра сваю творчую дарогу сказаў бы гэтак жа, бо яна для яго ніколі не была простай і роўнай. Хаця сумленнай, мужнай, мэтанакіраванай — заўсёды. І вывела яна яго, сына пакутнай палескай зямлі, у вялікую літаратуру, у вялікае жыццё. Зразумела, пісьменнікава дарога ў літаратуры, у жыцці — гэта не толькі факты ягонай біяграфіі, ягоныя творы, але і ягоныя ідэі, творчыя прынцыпы, іх жыццёвасць, неабходнасць народу і літаратуры, той прыклад чалавечых і мастакоўскіх паводзін, які ён сцвярджаў сваім жыццём, сцвярджае сваёй творчасцю.

Нарадзіўся Іван Паўлавіч Мележ 8 лютага 1921 г. у вёсцы Глінішча Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці.

Дзяцінства ягонае — гэта звычайнае дзяцінства сялянскіх дзяцей: «...яшчэ соннага маці будзіць гнаць свіней; торба цераз плячо, у торбе — акраец хлеба, гурок, у лепшыя дні — кавалачак сала, у халодныя дні — на плячах даматканая світка...»

Сярэднюю школу Мележ закончыў у Хойніках. Чатыры гады вучобы ў Хойніках, па ягоных словах, былі «вельмі дарагія і вельмі важныя». Ён шмат чытае. «Кнігі адкрылі свет, пра які я не падазраваў, свет, поўны незвычайнага, дзівоснага... Кнігі — мая першая вялікая любоў за межамі роднага дома», — напіша шмат пазней Мележ у артыкуле «Знайсці сябе».

У 1939 г. ён едзе вучыцца ў Маскву, паступае ў Інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры; у тым самым годзе быў прызваны ў армію. Служыў у Карпатах, тут сустрэў першы дзень вайны. Потым было адступленне, удзел у цяжкіх баях, акружэнне.

Летам 1942 г. у баі пад Растовам Іван Мележ быў цяжка паранены. Лячыўся ў шпіталях Растова і Тбілісі. «У шпіталі — у Тбілісі — пачаў пісаць апавяданні. Іншы раз, здаралася, і вершы, але гэта было ўжо як развітанне. Не так проста было адысці ад іх, ад маладосці.Але цяперашнім маім і будучым была проза».

25 лютага 1944 г. у газеце «Звязда» было надрукавана першае апавяданне Мележа «Сустрэча ў шпіталі». Тады ж з гэтым апавяданнем, а таксама з апавяданнем «Апошняя аперацыя» пазнаёміўся выдатны майстра беларускай прозы Кузьма Чорны. У лісце да маладога аўтара ён пісаў: «У Вашых апавяданнях правільна дадзен аналіз чалавечай душы і добра нарысавана тыповая абстаноўка, у якой дзейнічаюць Вашы персанажы. І надалей сачыце за псіхалагічным абгрунтаваннем чалавечых учынкаў». Адзначана самае істотнае ў пісьменнікапачаткоўца. Зразумела, у гэтых апавяданнях жыццёвы факт яшчэ пасапраўднаму не прачуты, асабіста не перажыты. Матэрыял рэчаіснасці яшчэ слаба падпарадкаваны аўтаравай мастацкай думцы.

Першым, сапраўды ўдалым, было апавяданне «У завіруху» (1944), якое дало назву і першаму зборніку прозы, што быў выдадзены ў 1946 г. Гэтае апавяданне, як і іншыя творы зборніка, напісана на матэрыяле вайны, на матэрыяле — і гэта галоўнае — перажытым пісьменнікам, глыбока асабіста спазнаным і адчутым («І завіруха, і дарога, і стомленасць — усё гэта было ў мяне, я пісаў, можна сказаць, пра сябе»). Твор атрымаўся жыццёва праўдзівы, характары псіхалагічна пераканаўчыя. Ён і сёння хвалюе чытача. Хвалюе сваёю чалавечнасцю, суровым драматызмам, праўдзівасцю.

Галоўны герой апавядання Засмужац пастаўлены ў такія абставіны, якія патрабуюць асаблівага напружання фізічных і духоўных сіл і дзе адбываецца выпрабаванне чалавека на трываласць. Увага пісьменніка засяроджана на даследванні ўнутранага стану чалавека, выяўленні ягонай духоўнай існасці.

Ноччу, у завіруху, трацячы апошнія сілы, Засмужац прыносіць камандзіру кавалерыйскай брыгады са штаба пакет. Мележ вельмі ўважліва прасочвае гэты шлях свайго героя. Напружанне ўзрастае, напружанне становіцца ўсё больш усхваляваным. Адбываецца як бы непасрэднае раскрыццё пачуццяў і перажыванняў героя. Толькі вострае

ўсведамленне значнасці даручэння, пачуццё вайсковага абавязку, адказнасці за таварышаў даюць Засмужцу сілу дайсці, выканаць заданне.

Ужо ў гэтай карціне выявіўся характар галоўнага героя, ёсць пэўны ідэйнамастацкі змест. Але яна ў той самы час падрыхтоўвае і заключную, самую важную сцэну.

Засмужац страшэнна стомлены, да апошняга знясілены. Але не паспеў салдат адпачыць, як яго зноў пасылаюць з заданнем. Мележ нічога не гаворыць пра сутнасць задання, яго важнасць. Галоўнае для яго — чалавек, ягоны ўнутраны, душэўны змест. Новае заданне для Засмужца здаецца неверагодным. Ён спрабуе адмовіцца. Ды той, хто мог бы пайсці, забіты. «Цяпер, блізка стоячы перад загінуўшым, Засмужац упершыню адчуў, што нейкія невядомыя дасюль сувязі збліжаюць і моцна яднаюць іх». Засмужац ідзе з новым заданнем. «Уперадзе зноў ляжала далёкая цяжкая дарога. Не змаўкаючы, гула завіруха». Апошнія радкі надаюць твору жыццёвую і мастацкую перспектыву.

Апавяданне, калі не лічыць асобных, некалькі агульных, у нейкай ступені публіцыстычных мясцін, вылучаецца праўдзівасцю і натуральнасцю інтанацый, даверлівасцю аўтаравага голасу, свежасцю ўспрымання свету, самастойнасцю мастацкага мыслення, насычана жывым трымценнем навакольнага жыцця. У ім упершыню ярка выявілася схільнасць пісьменніка да псіхалагічнага даследвання ўнутранага стану чалавека ў сітуацыі, абумоўленай у асноўным знешнімі абставінамі, якія, у сваю чаргу, раскрываюцца даволі грунтоўна.

Пазней Мележ скажа: «Здавалася б — вось урок, замацуй знойдзенае, ідзі ў тым жа напрамку. Але за ім зноў цяжкія блуканні, незадаволенасць».

У жніўні 1946 г. у Глінішчах пісьменнік стварае невялікую аповесць «Гарачы жнівень». У ёй упершыню звяртаецца да адлюстравання мірнага жыцця на вызваленай зямлі. Мележу ўдалося стварыць прывабныя, надзеленыя запамінальнымі рысамі характары звычайных працаўнікоў вёскі: клапатлівага, нервовага і чулага старшыні калгаса Марціна; ціхай, сардэчнай, паглыбленай у сябе жанчыныбрыгадзіра Алёны; вострай на язык, гордай і ўпартай Насці; працавітай, душэўна адкрытай Маланні. Аповесць прываблівае таксама праўдзівасцю дэталяў, побытавых карцін, сцэн працы, выразнасцю і паэтычнасцю пейзажаў.

І калі ў апавяданні «У завіруху» ў паказе людзей, у адлюстраванні прыроды на першы план неяк выходзіць драматычны пачатак, то тут, у аповесці, усё пранізана светлай паэтычнай настраёвасцю.

Твор быў напісаны ў родных мясцінах, дзе Мележа акружала ўсё, што такое блізкае было яму з дзяцінства, што стала вельмі важнай часцінай ягонай існасці, з чым звязана, чым народжана паэтычнае ўспрыманне свету. Напэўна, адсюль увесь паэтычны лад, прыўзнятапаэтычная атмасфера, натуральнасць і нейкая як бы празрыстасць аповесці. Жыццё нібы пададзена ў сваім уласным рэальным аб'ёме, тэмпе і рытме.

Аповесць гэтая ўвабрала ў сябе штосьці вельмі важнае з душэўнага набытку пісьменніка, звязанае найперш з душэўнапаэтычнымі адносінамі да жыцця.

Але, як і ў папярэдніх творах, тут таксама заўважаюцца сляды нявопытнасці. Талент Мележа — гэта ўжо адчувалася — схільны да эпічнага ўзнаўлення рэчаіснасці, адлюстравання чалавека ў багатай разнастайнасці сувязяў з навакольным светам. Але падаць гэта цэласна, у мастацкім адзінстве пісьменніку не заўсёды яшчэ ўдаецца. Шырыня ахопу рэчаіснасці абарочваецца часам пэўнай нескампанаванасцю, апісальнасцю, жанравай неакрэсленасцю. Багаты жыццёвы матэрыял не заўсёды яшчэ паддаецца ідэйнамастацкаму афармленню. Эмацыянальнадухоўная атмасфера тых гадоў, складаная і супярэчлівая, падпарадкавана ў «Гарачым жніўні» і ў апавяданнях, што ўвайшлі ў аднайменны цыкл («Перад навальніцай», «Павел прыехаў»), аўтараваму настрою, народжанаму ўспамінамі пра дзяцінства, захапленнем роднымі мясцінамі, якія ўбачыў пісьменнік пасля доўгага расстання. Тут у самой канфліктнай аснове адчуваюцца некалькі аблегчаныя адносіны да жыцця.

Зборнікі «У завіруху» (1946), «Гарачы жнівень» (1948) паклалі пачатак творчаму шляху Івана Мележа. Тое лепшае, што створана ў гэтыя гады («У завіруху», «Ноччу», «Перад навальніцай», «Гарачы жнівень»), засведчыла, што ў беларускую літаратуру прыйшоў пісьменнік таленавіты, пісьменнік, які шукае, імкнецца да праўдзівага адлюстравання жыцця, псіхалагічна пераканальнага абгрунтавання ўчынкаў чалавека, пісьменнік, які здольны ўжывацца ва ўнутраны свет сваіх персанажаў.

З 1947 па 1952 гг. Іван Мележ працуе над вялікім эпічным творам «Мінскі напрамак». «Раман мой падобны многімі рысамі на другія раманы пра вайну, якія ствараліся ў тыя гады. Ён шырокі па складзе дзеючых асоб і па ахопе падзей. Асноўная танальнасць яго — гераічная. Гэта кніга пра нашу перамогу ў Беларусі, пра вызваленчую бітву за беларускую зямлю ў 1944 г. Гэта кніга па задуме — пра веліч народнага подзвігу. З гэтай тэмай пераплятаюцца і маральныя праблемы, але яны маюць другараднае значэнне. Я імкнуўся ўсё падпарадкаваць задачы — намаляваць воблік народа ў цяжкую, але вялікую гадзіну. Гэтае імкненне — усебакова паказаць народ у барацьбе — і патрабавала ўвесці ў раман мноства герояў, вызначыла сюжэтную і кампазіцыйную яго пабудову, яго панарамнасць». Так пазней вызначыць пісьменнік ідэйную накіраванасць, мэтавую ўстаноўку ягонага твора, яго жанравы характар. Тут не так патрэба выявіць сваё светаразуменне, як патрэба паказаць час, перадаць яго наказ. Сапраўды, сваёй ідэйнай сутнасцю, агульнымі вызначальнымі мастацкімі асаблівасцямі раман гэты блізкі такім творам, што былі напісаны ў тыя гады, як «Сцяганосцы» А. Ганчара, «Бура» В. Лацісa, «Бура» І. Эрэнбурга, «Векапомныя дні» М. Лынькова і інш.

Творы гэтыя багатыя на падзеі, шматпланавыя, «панарамныя», прасякнуты «вострым адчуваннем ап’яняючай радасці доўгачаканай

перамогі, маштабнасцю і веліччу дасягнутага» (Мележ). Іх галоўная задача — уславіць вялікі подзвіг народа, паказаць масавы, усенародны характар барацьбы з фашызмам, барацьбы, дагэтуль не бачанай па сваіх маштабах, па напружанні фізічных і духоўных сіл, па сваіх выніках — палітычных, сацыяльных, маральнаэтычных. Адсюль пафас, ідэйны змест, характар вобразнай сістэмы, спецыфіка сюжэтабудавання і кампазіцыі, эмацыянальная афарбоўка.

Мележ паказаў усенародны характар барацьбы за вызваленне Беларусі ў 1944 г. Падзеі, адлюстраваныя ў творы, непрацяглыя ў часе — усяго чатыры месяцы, але прасторавы маштаб іх даволі шырокі. Трывожныя, суровыя будні танкістаў, што рыхтуюцца да бітвы за вызваленне беларускай зямлі; бяссонныя, неспакойныя ночы камандуючага Трэцім беларускім фронтам І. Д. Чарняхоўскага; партызаны, іхняя няроўная барацьба з рэгулярнымі войскамі вермахта; страшэнна цяжкое жыццё падпольнага Мінска; партызанскія блакады і фашысцкія канцэнтрацыйныя лагеры — вось той багаты жыццёвы матэрыял, які пісьменнік уводзіць у твор. У рамане дзейнічаюць дзесяткі персанажаў, розных сваім сацыяльным і службовым становішчам, непадобных характарамі. Многія запамінаюцца сваімі чалавечымі якасцямі, непаўторнымі жыццёвымі біяграфіямі, незвычайнымі ваеннымі лёсамі. Напісаны яны з пісьменніцкай павагай, душэўнай цеплынёй.

Каларытныя атрымаліся некаторыя эпізадычныя вобразы, напрыклад, Шабуніхі і Шашуры. Яны, па словах Фадзеева, «вылеплены без паглыблення іх у смецце жыцця». Гэтыя характары, народныя па сваёй сутнасці, унутрана блізкія пісьменніку.

Толькі ў некалькіх эпізодах бачыць чытач Аўдоццю Шабуніху. «Шабуніха стала. Грэбелька раптам абрывалася, далей была твань». Гэтымі словамі пра самага звычайнага, простага чалавека, што воляю лёсу апынуўся ў незвычайных умовах вайны, пачынаецца раман. Партызаны з сем'ямі выходзяць з блакады. І пісьменнік неяк натуральна асноўную ўвагу засяроджвае на гэтай жанчыне і яе дзецях. Для іх усё гэта асабліва цяжка і складана пераносіць. «На твары з рэзкімі, амаль мужчынскімі рысамі, з плямамі засохлай крыві і гразі быў адзін застылы выраз трывогі і зморанасці». «Аўдоцця ішла маўкліва. Не было ніякіх думак, хацелася аднаго — дайсці б хутчэй. Легчы на траву, выпрастаць здзервянелую спіну, даць спачын напружаным нагам». Але, нягледзячы на страшэнную стомленасць, трывогу за мужа, які застаўся разам з іншымі прыкрываць выхад жанчын і дзяцей з акружэння, нягледзячы на штохвілінную небяспеку, Шабуніха не губляе чалавечай дабрыні, чуласці. Яна ўся ў клопатах пра дзяцей, ні на хвіліну пра іх не забывае. І гэтая любоў да ўласных дзяцей неяк натуральна пераходзіць і на іншых людзей. Так, не асабліва завастраючы ўвагу на станоўчых рысах, псіхалагічна пераканаўча паказвае Мележ гэты народны па сваёй сутнасці характар. У самой эмацыянальнай атмасферы гэтага вобраза, у ягоным маральнаэтычным напаўненні адчуваецца драматызм вайны, яе разбуральная сутнасць.

Значны сваёй функцыянальнай роляй, змястоўны ўнутранай сутнасцю вобраз Аляксея Лагуновіча. Яму ў творы адведзена шмат месца, адведзена шмат пісьменнікавай увагі. Гэты вобраз нясе галоўную ідэйную нагрузку — сцвярджэнне гераізму і мужнасці савецкага воіна, ягонай вялікай любові да радзімы і нянавісці да ворага. У сюжэтнакампазіцыйным плане вобраз Лагуновіча з'яўляецца тым цэнтрам, які арганізуе асноўную сюжэтную лінію, галоўную падзейную плынь рамана. Плынь гэтая — баявыя дзеянні танкістаў пад камандаваннем Лагуновіча, спачатку камандзіра танкавай роты, потым — батальёна.

У Лагуновічу, як і ў іншых вобразах савецкіх салдат і афіцэраў, Мележ вылучае найперш тыя якасці, якія характарызуюць яго як воіна: смеласць, мужнасць, вернасць воінскаму абавязку, дысцыплінаванасць, любоў да радзімы і нянавісць да ворага.

Дзяцінства ў сялянскай сям'і, школа, камсамол, вучоба ў палітэхнічным інстытуце, захапляючая праца інжынера, вайна, няспынныя баі з ворагам, пачынаючы ад легендарнага Брэста — праз Сталінград, Варонеж, Курскую дугу — да вызвалення роднага Мінска, —такі жыццёвы шлях Аляксея Лагуновіча, пададзены рэтраспектыўна ў асноўных вехах праз успаміны і паказаны ў раманным дзеянні.

Тры гады вайсковай службы з нецярплівага, тэмпераментнага Лагуновічахлопца зрабілі мужнага салдата, патрабавальнага, прынцыповага і чулага камандзіра. Салдаты паважаюць яго, любяць. Пісьменнік надзяліў Лагуновіча запамінальнай індывідуальнасцю, стварыў своеасаблівы ўнутраны свет чалавека, у чыёй душы жывуць глыбокія інтымныя пачуцці. Каханне ў яго закончылася трагічна. Ніну, жонку, немцы забілі. У душы Лагуновіча разам з радасцю перамогі, радасцю ад сустрэчы з маленькай дачкою застаецца глыбокая журба, несуцішны боль і нянавісць да ворага. Зразумела, гэты цэнтральны вобраз толькі выйграў бы, калі б аўтар зрабіў яго больш псіхалагічна непасрэдным, надзяліў непаўторнай эмацыянальнадушэўнай цеплынёй.

Вобразная сістэма другой сферы ўсенароднай барацьбы з фашызмам — партызанская — багатая і разгалінаваная. Тут мы бачым рашучага камісара Тураўца, смелую разведчыцу Клаву Сняжко, юных партызанаў Васю і Ваню Залескіх, нястомнага аматара «эфектных учынкаў», фантазёра і прыдумшчыка, смелага падрыўніка Шашуру, вобраз якога, побач з вобразам Шабуніхі, з'яўляецца пасапраўднаму каларытным. За кожным з гэтых персанажаў паасобку бачацца ў рэальных контурах лёсы людзей, якія мужна змагаліся супраць фашысцкіх захопнікаў, а за ўсімі разам — лёс гераічнага, няскоранага беларускага народа.

Важную ролю ў рамане адводзіў Іван Мележ вобразу камандуючага войскамі 3-га Беларускага фронта Івана Чарняхоўскага. Аўтар паказаў яго і як военачальніка новай школы, адукаванага, надзеленага моцнай воляй і мужнасцю, і як чулага, душэўнага чалавека. Мы бачым яго сярод салдатаў і камандзіраў на перадавой, калі ён у глыбокім роздуме старанна вывучае сілы і абарончыя ўмацаванні ворага, творча падыходзіць да ацэнкі сілаў і магчымасцяў сваіх войскаў пры падрыхтоўцы ваеннай

аперацыі. Бачым вельмі простым, непатрабавальным у штодзённым жыцці, поўным бацькоўскага гонару за сына. У працэсе неаднаразовай дапрацоўкі твора пісьменнік значную ўвагу аддаваў гэтаму вобразу. Імкнуўся паглыбіць духоўны змест, знайсці непаўторныя рысы ягонай чалавечай прывабнасці, ухапіць псіхалагічную непасрэднасць. Шмат у чым аўтару гэта ўдалося. Хаця ў цэлым вобразу Чарняхоўскага, як, дарэчы, і іншым цэнтральным вобразам рамана, напрыклад, Аляксею Лагуновічу, Ніне, Тураўцу, не заўсёды хапае непаўторнай чалавечай натуральнасці, глыбока асабістай ідэі жыццёвых паводзін, індывідуальнага эмацыянальнага і маральнага напаўнення.

Работа над раманам «Мінскі напрамак» з’явілася для Івана Мележа добрай школай эпічнага спасціжэння жыцця, школай стварэння складаных, шматпланавых, шматгеройных мастацкіх палотнаў. І хаця ў далейшай сваёй працы пры стварэнні «Палескай хронікі», калі мець на ўвазе глыбіннае разуменне эпічнага жанру, пісьменнік ішоў не так ад уласнага вопыту, як ад вопыту такіх пісьменнікаў, як М. Шолахаў, Якуб Колас, Кузьма Чорны, усё ж у выпрацоўцы асобных тэхнічных прыёмаў, у выпрацоўцы эпічнай манеры пісьма гады, аддадзеныя на стварэнне «Мінскага напрамку», былі карыснымі. Апрача таго, кніга гэтая мела важнае значэнне для ўнутранага мастакоўскага самасцвярджэння («Яна памятная для мяне, гэтая кніга, і таму, што, мабыць, толькі з яе выхадам я адчуў сябе пісьменнікам»).

«Пасля «Мінскага напрамку» я, — прызнаецца Мележ, — апынуўся нібыта на раздарожжы. Цяжкая работа над раманам так выматала мяне, што не было сілы брацца за вялікую кнігу. Я і думаць не хацеў, што гэта можа здарыцца яшчэ калінебудзь.

Каля трох гадоў я не пісаў вялікіх твораў. Надрукаваў некалькі апавяданняў, дзве аповесці: «Зямля, якую любіш» і «Дом пад сонцам», дзве п’есы: «Пакуль вы маладыя» і «Дні нараджэння», якая была пастаўлена ў Мінску ў тэатры імя Янкі Купалы».

Мележ шукае сябе, сферу свайго жыццёвага матэрыялу, свае тэмы і ідэі, сваё мастакоўскае бачанне свету і чалавека, свой тон і сваю манеру пісьма; яму патрэбна было выпрацаваць, знайсці арганічнае зліццё жыццёвага матэрыялу і асобы пісьменніка.

«Тады адкрылася мне тая простая ісціна, што калі «стыль — гэта чалавек», то, каб стыль мастака праявіўся больш выразна, своеасабліва, трэба, каб выразна праявілася асоба чалавека, яго светаадчуванне, яго погляды, яго матэрыяльны і духоўны вопыт». І яшчэ адно прызнанне ў пісьменнікавай аўтабіяграфіі: «Відаць, трэба пісаць лепш за ўсё аб тым, што асабліва дорага душы, што яе хвалявала і хвалюе, што стала дарагой часткай тваёй асабістай біяграфіі».

Іван Мележ не адразу прыйшоў да гэтай бясспрэчнай ісціны, хаця інтуітыўна ўжо ў першых творах яе ўлоўліваў. У тым, што гэтае інтуітыўнае адчуванне не адразу стала ўсвядомленым творчым законам, сутнасцю эстэтычнага крэда пісьменніка, — не толькі ягоная віна: час

моцна ўздзейнічаў на фарміраванне творчай асобы, прад'яўляў свае патрабаванні.

Грамадскапалітычныя ўмовы, што склаліся ў краіне ў сярэдзіне 50х гадоў, станоўча адбіваюцца на творчасці Мележа. Час неадольна ўрываўся ў само светаразуменне пісьменніка, перабудоўваў свядомасць, істотна мяняў мастакоўскую канцэпцыю свету і чалавека. Зразумела, інерцыя ранейшых літаратурных паняццяў і ўяўленняў адчуваецца яшчэ нейкі час у творах тых гадоў. Назіраецца своеасаблівае суіснаванне твораў, створаных адным і тым жа пісьменнікам, у адзін і той жа час, у адных і тых жа ўмовах, але адрозных ідэйнамастацкай сутнасцю. Калі, напрыклад, творы «На рацэ» (1953), «Блізкае і няблізкае» (1954), «На скрыжаванні» (1954), «Што ён за чалавек» (1955), у нейкай ступені «Дом пад сонцам» (1954–1955) з'яўляюцца як бы працягам непасрэдна ранейшай пісьменнікавай працы, то ўжо такія апавяданні, як «У гарах дажджы» (1955) і «Спатканне за горадам» (1955) азначаюць сабою пачатак якасна новага этапу ў творчай біяграфіі пісьменніка.

Тут упершыню назіраецца арганічнае зліццё ідэі, духоўнага вопыту аўтара і аб'ектыўнага матэрыялу рэчаіснасці. Час, яго маральна-этычная атмасфера, натуральна ўвайшоў у творы, надаўшы ім своеасаблівае эмацыянальнае асвятленне. Агульная тэндэнцыя літаратуры, звязаная з далейшай гуманізацыяй і дэмакратызацыяй, таксама досыць выразна выявілася ў гэтых апавяданнях.

Апавяданне «У гарах дажджы», праўдзівае ў разгортванні дзеяння, у раскрыцці характараў, вылучаецца шырокім ахопам той рэчаіснасці, якая стала аб'ектам пісьменнікавай увагі, вылучаецца натуральнасцю, знешняй стрыманасцю аповеду, сагрэта знутры аўтарскім цяплом.

«Даліна ляжала між шасэ і ракою. З аднаго боку гула магутная жаўтаватая плынь Стрыя, з другога — дыбіўся круты схіл невысокай гары, што кучаравіўся знізу хмызняком, а вышэй — галлём сосен. Гару, самае падножжа, абгінала шасэ, — гладкая істужка яго неўзабаве, нібы радуючыся таму, што вырвалася з горнай цеснаты, выпроствалася і весела бегла па бяскрайняй, здавалася, раўніне. Тут канчаліся горы, канчалася апошняя града сінезялёных Карпат».

Ужо сам пачатак апавядання, нягледзячы на падрабязнасці, дэталёвае апісанне абставін, стварае своеасаблівае адчуванне непасрэднасці, лёгкасці і ў канчатковым выніку той глыбокай праўдзівасці і даверлівасці, якія адзіна могуць быць народжаны свабодай, арганічнасцю пісьменнікавага голасу, пісьменнікавага дыхання. У такім ключы напісаны ўвесь твор. Але яго мастацкая адметнасць не толькі ў гэтым. Апавяданне, эпічнае па сваёй жыццёвай аснове, па сваім унутраным руху, насычана глыбокім драматызмам. Драматызм гэты нарастае паступова, надаючы твору эмацыянальную напружанасць. Драматызм жа знешні, што ўзнікае ад сутыкнення вядучых характараў, нібы прыглушаецца, становіцца нечым звычайным, дзякуючы дэталёваму апісанню абставінаў, падрабязнаму даследаванню ўнутранага свету герояў. І якраз аўтарава маральная пазіцыя, ягоная асабістая далучанасць да падзей

надаюць твору напружанасць, а сутыкненню характараў — шырокае гучанне, агульназначны сэнс.

Два характары, дзве чалавечыя індывідуальнасці. Памкамузвода, старшы сяржант Запара, не ведае ў жыцці ніякіх кампрамісаў, бачыць у сваіх падначаленых толькі салдатаў — салдатаў у іх самых знешніх праяўленнях. Гэтым ён кіруецца і ў сваіх адносінах да Макоўчыка, марудлівага, непаваротлівага, які на вайсковых занятках заўсёды апошні злазіць з каня, пляцецца апошні да гарматы. Сяржанту здаецца, што Макоўчык усё гэта робіць знарок, нібы пасмейваючыся з яго.

Запара «закаханы ў вайсковую службу, адданы ёй усімі сваімі пачуццямі і думкамі, старанны, ён любіў і цаніў у другіх таксама стараннасць і адданасць службе». І гэтыя пастаянныя прыдзіркі да Макоўчыка псіхалагічна правамерныя, г. зн. адпавядаюць характару Запары. Але да адказу на пытанне, на чыім баку праўда, пісьменнік, па сутнасці, падводзіць паступова.

Аднойчы ноччу пайшлі моцныя дажджы. Рака разлілася. Артылерыстам трэба было знімацца. У спешцы днявальныя Макоўчык і Калюга забываюць на каня, прывязанага да дрэва на другім баку раўчука, які ператварыўся ў мнагаводную бурную раку. І Макоўчык, які зусім дрэнна плавае, з цяжкасцю дабіраецца да каня і выратоўвае яго. Зрабіў ён гэта проста, сур'ёзна, як абавязак, зразуметы сэрцам. Учынак гэты пісьменнік нікольк не гераізуе, не робіць нечым выключным. Тут ён бачыць праяўленне звычайнага характару, але ў незвычайных умовах, даследаванае і паказанае без асаблівага мастацкага завастрэння, а як бы ў натуральнай плыні жыцця. Чалавек раскрыты ў сваёй галоўнай, пастаяннай якасці — маральнай, раскрыты ва ўмовах, што даюць магчымасць выявіць у яго непераходнае, тое, што робіць яго, звычайнага, простага чалавека, носьбітам народнага маральнага пачатку.

Жыццёвая праўда і мастацкая праўдзівасць, натуральнасць і пераканальнасць, арганічная завершанасць гэтага апавядання засведчылі, што талент пісьменніцкі змог выявіцца пасапраўднаму. Разам з тым у гэтым невялікім творы не ў якіхсьці рэаліях побыту, не ў выказваннях герояў, а ў самім разуменні жыцця і чалавека, у этычных і эстэтычных крытэрыях увасобіўся час, яго грамадскі і маральны змест.

«У гарах дажджы», «Сустрэча за горадам», творы ў сваёй танальнасці лірычна светлыя, празрыстыя, як і апавяданні Я. Брыля, Я. Скрыгана, А. Кулакоўскага, М. Лупсякова, створаныя ў сярэдзіне 50х гг., як бы даюць пачатак галоўнай плыні наступнай літаратуры, звязанай з асаблівай увагай да глыбіняў жыцця простых людзей, плыні, якая дасць самыя значныя мастацкія вынікі.

У 1956–1960 гг. Мележ працуе над сваёй галоўнай кнігай — «Людзі на балоце», першым творам знакамітай «Палескай хронікі». У 1961–1965 гг. была створана другая кніга хронікі — раман «Подых навальніцы». У пазнейшыя гады — аж да самай смерці — пісьменнік самаахвяр самааддана працаваў над працягам гэтай сапраўднай эпапеі народнага

жыцця. У 1976 г. у часопісе «Полымя» (№№ 3–5) быў надрукаваны трэці раман хронікі, на жаль, незавершаны — «Завеі, снежань».

Жаданне напісаць кнігу пра Палессе, пра родную зямлю выспявала ў Мележа доўгія гады. Вось ягонае прызнанне: «Задума палескіх раманаў нарадзілася з памяці аб перажытым. Малюнкі родных мясцін раней мяне хвалявалі менш, з гадамі — старэю, ці што? — усё гэта стала набываць нейкае асаблівае хараство і значэнне. Малюнкі, вобразы перажытага жылі ва мне, хвалявалі, турбавалі, звалі пісаць, гаварыць. Я адчуваў пахі родных лясоў, балот, я нібы нанава хадзіў па незабыўных дарогах, я нібы зноў бачыў перад сабой людзей, якія маляваліся, поўныя незвычайнай прывабнасці. Потым прыйшло жаданне напісаць кнігу аб жыцці сярод балот, кнігу, героем якой быў бы народ, людзі, якіх, чамусьці, называюць простымі. Кнігу, у якой бы цудоўнае жыло ў звычайным, трагізм — у звычайным, вялікае — у звычайным».

Усё, пра што пісаў Мележ у гэтых раманах, было не толькі знаёмае яму. Яно было блізкае і дарагое. Ён усё ведаў у галоўным і ў дробязях, у знешніх праявах і ў глыбінных сувязях. Рэальны матэрыял доўгія гады выношваўся пісьменнікам. І надышоў час, калі ён адчуў неадольную патрэбу як бы нанава перажыць мінулае, даследаваць, асэнсаваць пэўны перыяд жыцця свайго народа, бацькоўскай зямлі, паказаць яе людзей, паказаць і ўславіць іхнюю ўнутраную прыгажосць, іхнюю сціпласць, працавітасць, чэснасць. Гэта была патрэба душы, патрэба мастаковага сумлення, абавязак сына роднай зямлі.

Адсюль ідзе ўсё: тыя этычныя і эстэтычныя ідэалы, якія ляжаць у аснове адчування і бачання навакольнага свету, тая непасрэднасць успрымання рэчаіснасці, усхваляванасць і багатая ўнутраная лірычная насычанасць раманаў. Раманы ў такой ступені насычаны любоўю да роднага кутка Палесся, да яго людзей, што ўспрымаюцца сапраўды як «запаветная песня» (Я. Брыль). Яна, гэтая песня, глыбокая і мілагучная, шырокая і жыццесцвярджальная, поўная любові і светлага суму, веры ў прыгажосць і высокі сэнс чалавечага быцця.

Іван Мележ пачаў пісаць хроніку ў атмасферы грамадскага ўздыму, далейшай дэмакратызацыі і гуманізацыі народнага жыцця. «Людзі на балоце», — гаворыць пісьменнік, — у такім выглядзе, у якім яны напісаны, маглі з’явіцца толькі пасля тых перамен, што адбыліся ў выніку XX з’езда партыі»

Раманы «Палескай хронікі» ўяўляюць сабой арганічнае паяднанне, узаемапранікненне матэрыялу, рэальных фактаў і падзей, жыццёвага вопыту, духоўнага і душэўнага свету пісьменніка і маральна-этычнага, грамадскага зместу часу.

Хроніка прысвечана карэнным пераўтварэнням у паслярэвалюцыйнай вёсцы, найперш калектывізацыі. Ужо сам выбар якраз гэтага перыяду ў жыцці вёскі глыбока абумоўлены. У час работы над раманам «Подых навальніцы» Мележ пісаў: «Пра калектывізацыю напісана многа. Але, мне здаецца, сказана пра яе далёка не ўсё. Хочацца глыбока і праўдзіва паказаць гэты важны паварот у жыцці вёскі. У цяжкія трыццатыя гады брала пачатак не толькі добрае, але і злое. У тым, што

адбывалася тады, было нямала такога, што выклікала непатрэбную вастрыню адносін, нараджала несправядлівасці, крыўды, прыводзіла да неапраўданых ахвяр».

То быў час, насычаны выключнай сацыяльнай і духоўнай грамадскай напружанасцю і актыўнасцю. Вызначыць сацыяльную і маральную сутнасць, раскрыць сацыяльны і маральны змест часу пісьменніку было нялёгка. Патрэбныя былі выпрабаваныя літаратурнай практыкай, часам крытэрыі, якія б дазволілі надаць багатаму жыццёваму матэрыялу заканамернасць і сістэму, мастацкую мэтанакіраванасць і сучаснае гучанне. Такімі крытэрыямі для Мележа сталі праўда і чалавечнасць — як нешта адзінае, непадзельнае, узаемаабумоўленае. Сцвярджэнне чалавека, гуманных адносін да яго праз глыбока аналітычнае, праўдзівае, усебаковае адлюстраванне і асэнсаванне рэчаіснасці — у гэтым ідэйная аснова, ідэйная сутнасць твораў пісьменніка.

Праблема чалавека і гісторыі, чалавека і грамадства, чалавечай свабоды і сацыяльнай неабходнасці ў літаратуры другой паловы 50–60х гг. набывае асабліва моцнае гучанне і мае даволі ярка выяўленую тэндэнцыю да яе гуманістычнага вырашэння. Дастаткова нагадаць раманы і аповесці тых гадоў А. Адамовіча, Ч. Айтматава, Г. Бакланава, Ю. Бондарава, В. Быкава, І. Друцэ, С. Залыгіна, К. Сіманава.

Сваёй праблематыкай, ідэйнамастацкай скіраванасцю раманы Мележа народжаны грамадскімі ўмовамі таго самага часу і нясуць на сабе выразны адбітак яго ідэйнай і маральнай атмасферы.

Зварот пісьменніка да пераломнага ў жыцці грамадства перыяду не з’яўляецца выпадковым: у такія перыяды — рэвалюцыя, грамадзянская вайна, калектывізацыя, Айчынная вайна — пытанне ўзаемаадносін чалавека і грамадства, народа, узнікае востра і бескампрамісна. І падзеі, што пакладзены ў аснову раманаў «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань», у гэтым сэнсе, у сэнсе даследавання ўзаемаадносін чалавека і часу, дастаткова значныя.

Такім чынам, у раманах покліч часу і індывідуальная ўнутраная патрэба зліліся, прымусілі пісьменніка звярнуцца менавіта да гэтага матэрыялу, паспрабаваць даследаваць, разабрацца ў ім, каб адказаць на пытанні, асабліва важныя для сучаснасці, пытанні, якія заўсёды турбавалі, турбуюць і будуць турбаваць чалавека.

У другім рамане «Палескай хронікі» адзін з асноўных герояў, старшыня райвыканкама Апейка, пасля сходу, дзе абмяркоўвалася пытанне пра арганізацыю калгасаў, думае: «Урэшце ж, самае важнае і самае цяжкае — тое, што трэба не толькі звесці іх у адну сям’ю, але і навучыць думаць, адчуваць інакш! Трэба змяніць душы, псіхалогію іх: уласнік павінен стаць калектывістам. От у чым найбольшы сэнс! І тут — ясна — галоўнае: пераконваць людзей. Цярпліва, доказна...» Гэта не проста прыгожая фраза. Для Апейкі, савецкага кіраўніка, гэтая рыса чулых, удумлівых адносін да людзей з’яўляецца галоўнай унутранай якасцю. Ісці ў адносінах да людзей ад жыцця, ад усёй яго

складанасці, заўсёды бачыць у чалавеку чалавека — вось асноўны прынцып дзейнасці Апейкі. Дзесьці ў гэтым заключана сутнасць і Мележавага ідэйна-мастацкага прынцыпу. Зыходная маральная пазіцыя праўды і дабрыні заўсёды дапаможа пісьменніку знайсці, паказаць і сцвердзіць у творы глыбокую праўду жыцця. Такая пазіцыя вельмі выразна адчуваецца ў Мележавых раманах.

Палессе — адзін з самых глухіх куткоў Беларусі. Увесну і ўвосень па некалькі месяцаў вёска адрэзана ад вялікага свету. Жыццё тут ідзе па спрадвеку ўсталяваных, пісаных і няпісаных, законах. Людзі жывуць, як жылі іх бацькі, дзяды, прадзеды і прапрадзеды. Здабываюць хлеб, працуюць, смуткуюць і радуюцца, пяюць песні і плачуць, раджаюць дзяцей і хаваюць памерлых. Людзі жывуць, таму што ім трэба жыць, яны народжаны жыць.

Эпічна спакойны, шырокі і павольны пачатак рамана «Людзі на балоце». Пісьменнік як быццам нічога не хоча прапусціць, хоча прадмет, з'яву паказаць з розных бакоў, у розны час, у рознай якасці. Але ў гэтай аб'ектыўнай плыні, апрача таго, што дзесьці падводна ўлоўліваецца аўтарскі эмацыянальны струмень, у самім апавяданні таксама чуецца голас аўтара (характар вобразнасці, пэўная ацэначная афарбоўка асобных слоў).

Далей, калі Мележ пераходзіць ад больш агульнага, шырокага і аб'ектыўнага паказу жыцця палескай вёскі, да апісання непасрэднага, канкрэтнага ўзнаўлення той рэчаіснасці, якую ён цяпер успрымае і адчувае, апавяданне становіцца больш эмацыянальна насычаным, лірызм асабліва яскравым, малюнак набывае паэтычнасць, шчымлівую замілаванасць: «Жылі ўжо Курані і ў гэту чэрвеньскую рань. Калі сонца выпырснула першыя праменні між вяршынь Церамоскага лесу, з камінoў на куранёўскіх стрэхах віліся цяжкія ранішнія дымочкі, у расчыненых хлявах там і тут чулася цырканне малака ў даёнкі, лагодныя і строгія покрыкі жанчын. У некалькіх дварах гук гэты перабіваў чысты, працавіты клёкат жалеза аб жалеза — касцы хадзілі, адбівалі малаткамі косы, рыхталіся ісці на балота. На пустой вуліцы, з торбай цераз плячо, ніжучы босымі нагамі цёмны след на падбеленай расой траве, ішоў, размахваў доўгай вераўчанай пугай яшчэ санлівы хлопецпастух. Ён час ад часу звонка ляскаў пугай і аднастайна, хрыпата пакрыкваў:

— Каровы!.. Каровы!.. Каровы!..

Голас яго пасля сну быў нямоцны, высільвацца яму не хацелася, і ён як бы памагаў сабе лянівым, але звонкім ляскам пугі».

Мележ як бы зверху глядзіць на гэты куток, адкуль пачынаецца гэтая задушэўная песня, сацыяльная і псіхалагічная драма, шырокая эпічная карціна побыту, нораваў і звычаяў свайго часу, гэты глыбокі роздум пра найважнейшыя праблемы сучаснасці, пра месца чалавека ў грамадстве. Пісьменнік як бы паступова набліжаецца да зямлі, ужо не проста апісвае, канстатуе, паведамляе, а пачынае маляваць, захапляцца тым, што бачыць. Зрок схоплівае не ўсю карціну, а як бы разбягаецца, спыняецца на асобных яе дэталях, падае іх выразна, усхвалявана. Слых

таксама пачынае ўлоўліваць найбольш характэрныя праявы жыцця, найбольш каларытныя і яркія падрабязнасці. Усё знаходзіць водгук у сэрцы, выклікае эмоцыі, паэтычныя і свежыя, чыстыя і прыгожыя.

Як бы выпадкова пісьменнік заўважае чарнявую дзяўчыну, што, выгнаўшы карову, ідзе па ваду да калодзежа. Бачыць іншых людзей, спыняе сваю ўвагу на хлопцу «з хмурнымі заспанымі вачыма, з калматай не то русявай, не то цёмнай чупрынай, з упартымі, невясёлымі губамі».

Пачынаецца дзень, звычайны дзень на вёсцы, — пачынаецца хроніка. Жыццё звычайнае, пранізанае своеасаблівай паэзіяй, людзі звычайныя — працаўнікі, хлебаробы. Паступова бытавая, штодзённая плынь набывае глыбіню, паўнаводнасць і шырыню. Узаемадачыненні людзей са сферы асабістых, бытавых штодзённых адносін пераходзяць у сферу сацыяльных супярэчнасцяў, ідэалагічнай барацьбы. Жыццё цячэ шырокай плынню, не губляючы і далей першапачатковай натуральнасці, канкрэтнасці і паэтычнасці.

Паўната ахопу жыцця абумоўлена не толькі ўнутрана арганічнай адпаведнасцю абставін і характараў, умоў і чалавечых узаемаадносін, але і арганічным увядзеннем мноства персанажаў, арганічнасцю іхніх узаемадачыненняў у гэтым своеасаблівым мастацкім свеце. І жыццё, і чалавека Мележ бачыць як дыялектычнае адзінства, як жывы арганізм, у якога свае крыніцы руху, свой кірунак, свая прыгажосць і мэта, якая вынікае са складанасці ўзаемадзеяння мноства дзейных сіл.

Характэрная рыса «Палескай хронікі» — арганічная ўраўнаважанасць умоваў і характараў, жыцця грамадскага і асабістага, свету знешняга і ўнутранага; жыццё ўзнаўляецца ў той эпічнай паўнаце, дзе матэрыяльны свет і свет духоўны, прырода і чалавек, адзіныя. Уражанне паўнаты і цэласнасці ва ўзнаўленні рэчаіснасці абумоўлена яшчэ і тым, што Мележу ўдалося памастацку сінтэзаваць аб’ектыўнае адлюстраванне рэчаіснасці з яе суб’ектыўным успрыманнем і асэнсаваннем персанажамі. Персанажы, за выключэннем хіба што аданаго Апейкі, не звязаны з якойсьці адной сферай дзейнасці, як гэта часта бывала ў ранейшых творах пісьменніка, а натуральна, арганічна ўваходзяць у вялікі свет грамадскасацыяльных канфліктаў. Час, насычаны грандыёзнымі зменамі ў грамадстве, уцягваў кожнага чалавека ў сваю арбіту, прымушаў яго вырашаць важныя пытанні сацыяльнага і палітычнага характару. Чалавек вымушаны быў не толькі працаваць, кахаць, гадаваць дзяцей, утрымліваць сям’ю, але і думаць значна шырэй, бачыць жыццё глыбока. Адносіцца гэта не толькі да персанажаў вядучых (Васіля, Ганны, Глушака, Апейкі), але і да другарадных (Хоні, Хадоські, Міканора і іншых).

Спачатку сфера дзейнасці герояў абмяжоўваецца толькі асабістабытавымі адносінамі: праца, каханне, сям’я. Але амаль адразу пачынае адчувацца сацыяльная атмасфера, подых падзей вялікага грамадскага зместу. Яны, падзеі гэтыя, у значнай ступені ўплываюць на асабістыя ўзаемаадносіны, на паводзіны чалавека ў сферы побыту. Паступова падзеі ахопліваюць усё большую колькасць людзей, усё шырэй разгортваюцца ў прасторы: з вёскі пераносяцца ў раённы цэнтр, потым — у

Мінск. Сацыяльнае гучанне становіцца вызначальным; тое, што адбываецца ў Куранях, уводзіцца ў сферу падзей усёй рэспублікі, усёй краіны, асабліва моцнае гучанне набываюць пытанні грамадскія.

Мележ паказвае сваіх герояў ва ўсёй іх рэальнай канкрэтнасці. Яны як бы выхаплены з жыцця, але не аддзелены ад яго. Мы не можам уявіць сабе Васіля, Ганну, Яўхіма, Хадоську, людзей старэйшага пакалення без пастаянных штодзённых клопатаў і турботаў, без працы, сям'і.

Свет Мележа — гэта багаты, рэальны свет простых людзей у іхнім адзінстве з прыродай, у душэўна шчырым адзінстве з зямлёю, у супярэчлівым, складаным бытавым і сацыяльным перапляценні. Жыццё ў хроніцы ўспрымаецца як бы роўнае, тоеснае самому сабе, г. зн. як жыццё рэальнае.

Калі ж разглядаць кожны раман паасобку, то зусім проста заўважыць, як акцэнты пэўным чынам змяшчаюцца.

«Людзі на балоце» — гэта пераважна свет Куранёў. Гэта свет Васіля і Ганны, свет «людзей на балоце» з іхнімі клопатамі і турботамі, з малымі і вялікімі іхнімі радасцямі і засмучэннямі, трывогамі і надзеямі. Гэта свет пераважна як бы ў самім сабе.

«Подых навальніцы» — той жа рэальны свет Куранёў, але ўжо далучаны да вялікіх падзей краіны, насычаны драматызмам гэтых падзей, свет, які ўжо самаасэнсоўваецца, самаўсведамляецца. Адсюль вялікая інтэлектуальная насычанасць твора, яго глыбокі ідэйны змест. Адсюль своеасаблівая роля вобраза Апейкі як структураўтваральнага і ідэйнавызначальнага цэнтра твора. У пэўным сэнсе можна сцвярджаць: свет «Подыху навальніцы» — таксама і свет Апейкі. Ва ўсякім разе агульна-эмацыянальная і духоўная атмасфера рамана створана пераважна гэтым характарам.

«Завеі, снежань»... Свет Куранёў, багаты, рэальны, мала прысутнічае ў творы. Ён падаецца пераважна ў адлюстраваным выглядзе — у спрэчках Башлыкова і Апейкі, у іхніх думках, разважаннях. Галоўная роля ў гэтым рамане належыць Башлыкову. Але гаварыць пра «свет Башлыкова» як пра ідэйнаэмацыянальную стыхію твора тут нельга. Башлыкоў у адносінах да таго вялікага свету сялянскага жыцця, які складае аснову і змест «Палескай хронікі», — як бы «чалавек збоку». Гэта — папершае. Падругое, ён у канчатковым выніку — носьбіт адмоўных тэндэнцый у агульным ідэйнаэмацыянальным змесце твора.

І ўсё ж... Усё ж Башлыкоў у рамане «Завеі, снежань» стаў героем першага плана. Ды няма тут выпадковасці, няма нечаканасці. Ёсць логіка развіцця аўтарскай думкі, ёсць паслядоўнасць аўтарскай эстэтычнай пазіцыі, ёсць, нарэшце, глыбокае адчуванне сучаснасці.

Сцвярджэнне гуманных адносін да чалавека, самакаштоўнасці чалавека (галоўная праблема раманаў) у першым рамане ставіцца і вырашаецца ў плане сацыяльнабытавым; у другім узнімаецца да ўзроўню ідэалагічнага; у трэцім рамане гэты аспект узмацняецца і паглыбляецца, набываючы яшчэ больш агульназначны змест і сэнс:

адносіны да чалавека — адносіны да сялянства — адносіны да народа. Ідэалогія нараджаецца практыкай і служыць палітыцы.

Мележу важна было не проста паказаць падзеі тых гадоў, цяжкі, драматычны шлях у новае жыццё, але і неяк даць адчуць, убачыць перспектыву тых падзей, паглядзець на іх шырэй, у агульным руху краіны, улічыць гістарычны вопыт. Пісьменніку гэта ўдалося. Сістэма вобразаў, рух галоўных характараў, у першую чаргу такіх, як Васіль, Ганна, Апейка, Глушак, Башлыкоў, падпарадкаваны якраз гэтай ідэі.

З асаблівай сілай паэтычнага майстэрства, псіхалагічнай і сацыяльнай глыбінёй, жыццёвай паўнакроўнасцю і індывідуальнай непаўторнасцю напісаны вобраз Васіля. У сістэме вобразаў, у вызначэнні ідэйнага зместу раманаў ён займае асаблівае месца. Гэта адзін з тых сучасных герояў, якія сведчаць пра асаблівую цікавасць літаратуры да простага чалавека, таго чалавека, які ўвасабляе ў сабе моцны гуманістычны змест, драматызм і чалавечы сэнс гісторыі.

Васіль абыходзіцца з іншымі так, дзейнічае так, як ён павінен абыходзіцца і дзейнічаць у адпаведнасці са сваім характарам, у адпаведнасці са сваім духоўным воблікам. Неаднойчы, трапляючы ў складанае становішча, ён дзейнічае так, як чытачу вельмі не хацелася б. Дастаткова прыгадаць эпізод, калі вясковы бяднякактывіст Грыбок, сусед Васіля, прыходзіць пазычыць для хворага дзіцяці трохі мёду, а Васіль груба адмаўляе. Адмоўныя адносіны ў чытача выклікаюць і паводзіны Васіля падчас апошняй сустрэчы з Ганнай перад вяселлем. Ён грубы, узлаваны. Але мастацкая праўда, логіка развіцця характару, глыбокае разуменне ягонай унутранай сутнасці, псіхалогіі такія, што аўтару верыш ва ўсім.

Асноўная ідэя, галоўны змест засяроджаны ў сацыяльных падзеях твора. У гэтым сэнсе вузлавыя сутыкненні паміж героямі, глыбінны канфлікт разгортваецца не так у сферы асабістых узаемаадносін, як вакол зямлі. Зямля — гэта нібы магнітнае поле, вакол якога групуюцца ўсе героі хронікі. І Мележ выключна глыбока, моцна, не ўступаючы ў гэтым плане ні Я. Коласу, ні К. Чорнаму, паказаў арганічную, як бы нават стыхійную, неаддзельную ад самой сутнасці чалавека сувязь селяніна з зямлёю. Зямля — аснова ягонага быцця, ягоная радасць і гора, светлыя мары і горкія расчараванні.

Нават у першае каханне Васіля, глыбокае і чыстае, дысанансам урываецца мара пра зямлю. Зусім не выпадкова, што ў тых дзвюх сустрэчах Васіля з Ганнай, якія паказаны ў «Людзях на балоце», ён і адзін, і другі раз марыць пра зямлю.

Пазней, калі Васіль, ажаніўшыся з нялюбаю Маняю, узяў у пасаг добры кавалак зямлі, ён адчуў сябе сапраўдным чалавекам, гаспадаром.

Ды зноў раптоўна ўспыхвае каханне да Ганны. Ганна кліча яго кінуць усё, шукаць разам шчасце ў іншым месцы. Васіль хоча падумаць, агледзецца. Пачынаюцца нелады ў сям’і, лаянкі. А тут яшчэ насядаюць, каб Васіль уступіў у калгас. Здавалася б, зараз толькі і кінуць усё і пачаць будаваць сваё шчасце з Ганнай на новым месцы.

І, быццам спрачаючыся ў думках са сваімі галоўнымі апанентамі, Васіль выказвае самае запаветнае, самае глыбокае: «Аддай сваё поле, дзе кожную сцяблінку, здаецца, сагрэў бы сам! Ішоў бы ад адной да другой ды хукаў бы, каб не мерзла! Аддай чужому, якому на яго напляваць! І сам рабі немаведама на каго, немаведама за што!..»

І далей: «Аддай поле, абагуль! Аддай поле — ето ўсё адно што — аддай душу! Папрабуй, адарві душу!» — як бы гаварыў ён Міканору. Потым кінуў гаварыць яму; ababегшы позіркам палоску, падумаў ужо сам сабе: «Уся сіла чалавека — у зямлі. І сіла ўся, і радасць! Няма зямлі — няма, лічы, і чалавека!»

Урываюцца ўспаміны пра Ганну. Васіль адганяе думкі пра яе, перад самім сабою абвінавачваючы яе ў здрадзе. «Ён растрывожана павёў вачыма па полі. Яно, здавалася, глядзела, чакала, спадзявалася тысячамі сваіх сцяблінак, што варушыліся, хваляваліся, як жывыя. І раптам ён адчуў, як нязбытны цяжар спадае. Як вяртаюцца даўно не знаныя дужасць і яснасць. Поле, бяда яго і радасць! Яго сіла і надзея яго! Быў ён з імі і застанецца з імі! З імі толькі і жыць яму!»

Мележ стварае ў гэтай сцэне высокае эмацыянальнае напружанне. У Васіля ўсё сплялося ў адзін клубок. Нервы абвострaны да апошняга. Зямля — гэта з малаком маці, гэта адвечнае імкненне селяніна. Вякамі, ад пакалення да пакалення, мара пра зямлю, прага яе збіралася ў сэрцы, у розуме селяніна. І не здзіўляешся, адразу неяк і не заўважаеш, што Васіль пра Ганну ніколі не думаў так высока, паэтычна, як пра зямлю. Ён памятае, адчувае, што поле яго чакае, але ў той жа час забывае, што і Ганна яго чакае. Ягоны ж маналог пра зямлю гучыць пасапраўднаму глыбока, паэтычна, узвышана.

І вось ключавая, для Васіля асабліва драматычная, сцэна, звязаная з барацьбой за зямлю. Сутыкнуліся ўжо не Васіль з Яўхімам, а Васіль з Міканорам, прадстаўніком бедных сялян, які безаглядна прымае ўсё новае і энергічна імкнецца правесці яго ў жыццё.

«— Зямля — народная, — прамовіў Міканор. У голасе яго пачулася зноў помслівая злараднасць.

— Мая!!!

Васіль аж задрыжаў. Ад крыку, ад упартасці. Ён чуў, што сіла такі на Міканоравым баку, што надзеі ў яго, Васіля, амаль ніякай, што, мабыць, не даб’ецца нічога. Але гэта цяпер не толькі не кволіла, але дзіўна ўздымала адвагу. Зямля, якую ён любіў і раней, цяпер была яму даражэй, як калінебудзь.. Даражэй за ўсё, за сябе самога. Даражэй асабліва таму, што ён чуў — отот яна сыдзе зпад яго ног. Ужо сыходзіць. Ён цяпер гатоў быў для яе на ўсё. Не здольны ўжо разважаць, ён, як стаяў, упяўся лапцямі ў разору, закрычаў:

— Не пушчу!!!»

Але нічога не дапамагае. Сутыкнуліся не на жыццё, а на смерць «маё» і «наша». У гэтай зацятай барацьбе сіла і права (у той час) не на баку Васіля, хаця пачалавечы ягоная пазіцыя, ягоная ўпартасць, ягоная вялікая страсць да зямлі такія зразумелыя і выклікаюць спачуванне,

шчымлівы боль. Васіль пераможаны фізічна, пераможаны сацыяльна, надламаны маральна. Ён страціў каханне, згубіў зямлю, якая была для яго запаветнай марай, сэнсам і мэтай існавання. І якім павінен быў быць гэты ўнутраны надлом, калі Васіль, які раней адчуваў зямлю, як жывую, самую для яго дарагую істоту, паэтызаваў яе, раптам губляе ўсякую пашану да яе. Ён «важка пайшоў цераз паласу ад людзей.

Ішоў, горбячы плечы, угнуўшы галаву. Лапці ўязджалі ў пульхную раллю, таптталі, нявечылі сцябліны руні».

Доўга ў Васіля будзе балець гэтая рана. Пойдзе ён да старшыні райвыканкама Апейкі. Той будзе пераканаўча даводзіць пра неабходнасць уступлення ў калгас: тады ўся зямля будзе і ягоная, Васілёва, і калгасная. Васіль гэтага не зразумее.

У сцвярджэнні гістарычнай праўды і галоўнай ідэі твораў, яе абгрунтаванні важная роля належыць вобразу Апейкі. Апейка — вобраз гістарычна праўдзівы і ў той жа час народжаны сучаснасцю, г. зн. часам напісання твораў.

Васіль і Апейка, нягледзячы на іх чалавечую і ідэйную адрознасць, у чымсьці галоўным служаць сцвярджэнню адной і той жа думкі, «працуюць» для выражэння галоўнай ідэі — сцвярджэння гуманных адносін да чалавека ў любых сацыяльных сітуацыях. Сюжэтныя лініі, звязаныя з Васілём і Апейкам, уяўляюць сабою ў сюжэтнакампазіцыйных адносінах як бы дзве плоскасці, якія знаходзяцца на розных узроўнях. Васіль бліжэй да зямлі. Само жыццё тут поўнае супярэчнасцяў, жывога пульсавання і трымцення. Апейка ідзе як бы ад Васіля, ён адлюстроўвае і асэнсоўвае тое, што адбываецца з Васілём. Вобраз Апейкі ўзбуйняе змест твораў, робіць яго як бы шматслойным. У Апейку злучаны ідэйнасць, мэтанакіраванасць, чалавечая прастата і прывабнасць. У ім менш, чым у Васіля, зямной непасрэднасці, але больш ідэйнай пэўнасці. Дзякуючы гэтаму вобразу, падзеі калектывізацыі, якія непасрэдна закранаюць Васіля і жыхароў Куранёў, звязваюцца з жыццём краіны, набываюць больш шырокае грамадскасацыяльнае, палітычнае гучанне.

У самым пачатку рамана «Людзі на балоце» ёсць выключна важная ў ідэйных адносінах сцэна, па сутнасці, ключавая. Апейка прыходзіць да начальніка раённага аддзялення міліцыі Харчава вырашыць пытанне пра Васіля, які быў арыштаваны за тое, што пад пагрозай абрэзаў паказаў бандытам, дзе жыве вясковы актывіст Грыбок. Адбываецца крутая размова. Для Харчава дастаткова толькі аднаго факта. Галоўнае — каб баяліся. «Аднаго пасадзіш — другі баяцца будзе!

— Баяцца будуць, — згадзіўся Апейка.

Ён, зблізку гледзячы ў вочы Харчаву, уздыхнуў:

— Але што мы за такая савецкая ўлада, калі нас свае баяцца павінны?».

Чалавек патрабуе да сябе ўсебаковага падыходу, чулых, добразычлівых адносін — гэты галоўны ідэйны матыў раманаў ідзе адсюль, з гэтай сцэны.

У далейшым, супастаўляючы падзеі, што адбываюцца ў рамане «Подых навальніцы», са сцэнай у кабінеце Харчава, заўважаем цікавую метамарфозу. Апейка, па сутнасці, аказваецца на месцы Васіля, г. зн. у аналагічным становішчы. Менавіта ў адносінах да яго цяпер найбольш ярка і драматычна раскрываецца ідэйны канфлікт паміж гуманнымі адносінамі да чалавека і груба сацыялагічнымі. Асабліва моцна гэта раскрываецца ў эпізодах чысткі.

Пазней Апейка прысутнічае на сесіі ЦВК. Ён слухае тых, хто выступае, думае над выступленнямі, аналізуе, адчувае, што не ўсё робіцца так, як трэба. Адначасова яго турбуе, як папярэдзіць непажаданыя з'явы, ён бачыць сілы, якія б маглі зрабіць гэта, верыць у іх. Але трывога не пакідае яго ні на хвіліну. Пісьменнік зноў, як бы развіваючы і паглыбляючы, перадае думкі Апейкі пра гуманныя адносіны да чалавека. Апейка як бы сам сабе яшчэ раз імкнецца ўнушыць гэтыя думкі, гэтыя ідэі. Логіка развіцця гэтага вобраза прыводзіць да высновы: за гуманныя прынцыпы адносін да людзей, справядлівыя прынцыпы і метады пабудовы новага грамадства трэба змагацца, змагацца пераканана, рашуча.

Але... У рамане «Завеі, снежань» Апейка рашуча, непрымірыма спрачаецца з Башлыковым; за ім, ягонымі словамі відаць жыццё, праўда жыцця, праўда чалавека. Але дзіўная рэч — жыццё на баку Апейкі, праўда на баку Апейкі, а адчуванне такое, быццам яго ахоплівае нейкая кволасць, якой ён не толькі не ўсведамляе, але і не адчувае. У спрэчках з Башлыковым Апейка хутчэй абараняецца, чым наступае. І хоць Башлыкоў на сходзе ў Глінішчах атрымаў паражэнне і ў асобны момант часам адчувае нейкую бездапаможнасць, нават страх, усё ж якраз ён нясе ў сабе сілу, якая вызначае рух падзей у творы, стварае трывожную эмацыянальную атмасферу. Спачатку паводзіны Башлыкова здаюцца быццам выпадковасцю, нейкім непаразуменнем, але пазней усё больш акрэсліваецца іх заканамернасць у тагачасным жыцці.

Чалавек, адарваны ад народа, незалежна ад таго, хто ён і што ён, не мае глыбокай духоўнай, маральнай асновы, якая б яму ў любых умовах, пры любых абставінах дазволіла застацца чалавекам, не ператварыла яго ў бяздушную функцыянальную адзінку, у самы звычайны вінцік (больш ці менш значны) сацыяльнай машыны. У гэтым гістарычная праўда, у гэтым агульназначны сэнс Мележавага апошняга твора.

Не менш househ памастацку пераканальныя, маральна і сацыяльна напоўненыя, не менш праўдзівыя і іншыя вобразы Мележавых раманаў. Кожны з іх непаўторны ў сваёй чалавечай характэрнасці, значны сваёй ідэйнай змястоўнасцю. Кожны з асноўных персанажаў мае сваю асабістую і сацыяльную біяграфію, у кожнага свая псіхалогія, свой самастойны глыбокі ўнутраны свет, аўтаномны ў мастацкіх адносінах. Гэта ж адносіцца і да адмоўных персанажаў. Напрыклад, голас Глушака ў шматгалоссі герояў раманаў гучыць не менш самастойна, не менш выразна і пераканальна, чым голас Васіля. Гэтай аўтаномнасцю персанажаў абумоўлена, у прыватнасці, сюжэтнакампазіцыйная і апавядальная структура хронікі. Творы пабудаваны так, што большасць раздзелаў уяўляюць

сабою апавяданне таго ці іншага героя пра навакольны свет, пра сябе і пра іншых. У асноўным вачыма сваіх герояў пісьменнік глядзіць на жыццё, іхнія пачуцці выражае, іхнія думкі выказвае, толькі ў нейкай ступені іх аб'ектывуючы. З аднаго боку, характар такім чынам можа раскрыцца асабліва глыбока ў сваёй непаўторнасці, у сваёй самастойнасці. З другога боку, навакольны свет адлюстроўваецца эмацыянальна абвострана, падаецца ярка і запамінальна. Суб'ектыўнасць жа, апрача аўтаравага голасу як бы «збоку», нейтральнага, зніжаецца за кошт «размеркавання» галасоў у ацэнцы падзей, а таксама «размеркавання» пунктаў назірання. Эпізоды, падзеі, асабліва важныя, пераломныя ў жыцці герояў, вызначальныя ў ідэйным сэнсе, раскрываюцца ў розных паваротах, падаюцца ў самых супярэчлівых ацэнках. Усё гэта абумоўлена галоўнай аўтаравай задачай: даследаваць чалавечы лёс у складаны час, даць магчымасць героям самім сказаць пра сябе, выказаць менавіта сваю праўду. Тут патрэбна было высокае майстэрства псіхалагічнага аналізу, высокае, дасканалае валоданне багаццем народнай мовы.

Увогуле ж форма хронікі, яе жанравая і сюжэтнакампазіцыйная структура, спакойная, паглыбленанетаропкая манера аповеду, задуменналірычны агульны тон як нельга лепш адпавядаюць падзеям, жыццёваму матэрыялу, што з'яўляецца рэальнай асновай твора. Сапраўднае мастацтва, напэўна, і ў тым, каб жыццё перадаць у адпаведнай месцу і часу форме.

Шырынёй гістарычнага погляду, глыбінёй сацыяльнага даследавання, маштабнасцю і моцным сучасным напаўненнем аўтаравай мастацкай думкі, тонкім, бездакорным раскрыццём псіхалогіі зусім непадобных сваім унутраным зместам чалавечых характараў, эпічнай разгорнутасцю і глыбока асабістымі адносінамі да ўсяго, што адбываецца, майстэрствам мастацкага жывапісу, глыбока арганічным адчуваннем народнай моўнай стыхіі раманы «Людзі на балоце», «Подых навальніцы» і «Завеі, снежань» сталі адным з самых значных дасягненняў сучаснай прозы.

Мележ упэўнена выйшаў на цяжкую дарогу сапраўднай вялікай літаратуры. Ішоў ён па ёй смела, сумленна, з поўнай аддачай фізічных і духоўных сіл, з глыбокім разуменнем высокага грамадскага прызначэння літаратуры і мастацтва.

Была ў яго глыбока прадуманая, выверанай эстэтычная пазіцыя. Шырока і грунтоўна яна выкладзена ў кнізе крытычных артыкулаў, эсэ і інтэрв'ю «Жыццёвыя клопаты» (1975). Гэтая кніга вылучаецца эстэтычнай і філасофскай глыбінёй, прадуманасцю і выверанасцю ацэнак, грамадскай страснасцю.

9 жніўня 1976 г. жыццёвая і творчая дарога Івана Мележа нечакана абарвалася. Памёр пісьменнік на 56м годзе жыцця.

Творчакрытычныя адносіны да рэчаіснасці, жыццёвая і літаратурная прынцыповасць, пасапраўднаму шчырая сыноўская любоў да бацькоўскай зямлі, любоў і павага да чалавека, працавітасць і выключна сур'ёзныя адносіны да сваёй справы, сапраўднае мастакоўскае майстэр-

ства — вось якасці, якія так ярка выявіліся ў апошнія гады ў творчасці і ў грамадскім жыцці пісьменніка і якія прынеслі яму ўсенародную любоў і ўсенароднае прызнанне.

Працягваючы і развіваючы нацыянальныя літаратурныя традыцыі, найперш Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага, творча выкарыстоўваючы вопыт сусветнай прозы, Іван Мележ напісаў творы, якія сталі гонарам нацыянальнай літаратуры, якія вызначаюць сёння яе высокі мастацкі ўзровень, сцвярджаюць найбольш жыццёва важныя і перспектыўныя шляхі яе далейшага развіцця.

*Серафім Андраюк*

Бацьку, маці, бацькоўскай зямлі

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, не кожны прызнаў бы за востраў — аб яго не плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навокал адно гніла куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы.

Вёска тулілася ля берага вострава — платы агародаў дзенідзе забягалі на куп'ё ўзболатка. З другога боку, на поўнач, балоты крыху адступалі, дорачы людзям пясчанае поле. Адступалі балоты і на заходнім баку, дзе рунелі ці жаўцелі да краю лесу палі, таксама скупыя, няўдзячныя, хоць у іх глебе і было менш пяску. З поўдня балоты зноў падбіраліся да саламяных, замшэлых радоў стрэх, але ў гэты бок ішла найбольш сувязь са светам, і тут па дрыгве была намошчана дарожка. Што гэта за дарожка, можна меркаваць хоць бы з таго, што ездзілі па ёй смела толькі ў маразы, калі непралазная твань навокал рабілася цвёрдая, як ток, ці ўлетку, калі дарожка перасыхала.

Большую частку года востраў быў як бы адасоблены ад іншых вёсак і мястэчак. Нават у непаганыя дні рэдкія газеты ці лісты ад сыноў і братоў дабіраліся сюды ў паляшуцкай торбе нялёгка — каму было прыемна лазіць па гразі без вельмі важнай прычыны, — але і гэтая нямоцная сувязь са светам пры кожным зацяжным дажджы лёгка рвалася. Восенню ці вясной яна перарывалася на цэлыя месяцы: багна, што страшна разбухала ад слоты і разводдзя, адразала востраў ад свету мацней, чым гэта маглі б зрабіць абшары вадзянога прастору. Многія дні людзі жылі, як на плыце, які злая нягода адарвала ад берага і

занесла ў мора, — трэба чакаць адно, калі спадарожны вецер ці лёс зноў падгоніць да зямлі.

Але такое становішча тут не палохала, людзям на востраве яно здавалася зусім звычайным. З усіх бакоў, блізка і далёка, ведалі яны, — такія ж самыя выспы сярод бясконцых багнаў, дзікіх зараснікаў, што разлегліся на сотні вёрст з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход. Людзям тут трэба было жыць, і яны жылі. Аднастайныя нудныя дажджы, што месяцамі лілі на мокрыя стрэхі, сцюдзёныя вятры, што люта білі ў замерзлыя вочкішыбы завеямі, цёплае сонца, што ўставала ў пагодныя дні над купамі алешніку, — усё бачыла гэты востраў заклапочаным, у няспыннай, штодзённай руплівасці. Людзі заўсёды чымнебудзь былі заняты: уранку і ўвечары, летам і зімою, у хаце, на двары, у полі, на балоце, у лесе...

Жылі ўжо Курані і ў гэту чэрвеньскую рань. Калі сонца выпырснула першыя прамені між вяршынь Цярамоскага лесу, з камінoў на куранёўскіх стрэхах віліся ціхія ранішнія дымочкі, у расчыненых хлявах там і тут чулася цырканне малака ў даёнкі, лагодныя і строгія покрыкі жанчын. У некалькіх дварах гукі гэтыя перабіваў чысты, працавіты клёкат жалеза аб жалеза — касцы ладзілі, адбівалі малаткамі косы, рыхтаваліся ісці на балота. На пустой вуліцы, з торбай цераз плячо, ніжучы босымі нагамі цёмны след на падбеленай расой траве, ішоў, размахваў доўгай вераўчанай пугай яшчэ санлівы хлопецпастух. Ён час ад часу звонка ляскаў пугай і аднастайна, хрыпата пакрыкваў:

— Каровы!.. Каровы!.. Каровы!..

Голас яго пасля сну быў нямоцны, высільвацца яму не хацелася, і ён як бы памагаў сабе лянівым, але звонкім ляскам пугі. Вароты на вуліцу хутка расчыняліся, каровы павольна, са шляхецкай паважнасцю сыходзіліся ў статак, які багацеў рыкам, пярэсціўся, шырэў на ўсю вуліцу. Калі ён дайшоў да краю сяла, з апошняга двара высунулася рудая, з белай лысінкай карова, якую падганяла чарнявая дзяўчына з дубцом. Далучыўшы карову да статка, дзяўчына з дубцом подбегам вярнулася ў хату, але не выпаўз яшчэ статак з вуліцы, як яна ўжо з драўляным вядром у руцэ паявілася на двары. Яна падышла да зруба калодзежа, які другім бокам выходзіў на суседні двор, бразнула, начапіла дужку вядра на крук вочапа. Журавель варухнуўся, падаўся вочапам да вады, задаволена, радасна зарыпеў.

Набраўшы вады, дзяўчына ўжо звыкла намерылася пацягнуць вочап і раптам адумалася, аслабіла рукі. Нахіліўшыся больш над калодзежам, прытрымліваючы рукой вочап, каб не

вагаўся, стала глядзець уніз, чакаць, калі вада супакоіцца. Яна хацела, мусіць, паглядзецца ў ваду, але з хаты раптам пачуўся незадаволены крык:

— Ганноо! Дзе ты, нячыстая сіла?!.

— Я — зараз!.. Нясу ўжэ!..

Дзяўчына заспяшалася, хутчэй зняла вядро з вочапа і, разліваючы на пясок ваду, падалася к хаце...

На суседнім двары, каля хлява, завіхаўся пры калёсах барадаты, у палатнянай доўгай сарочцы дзядзька — квачом з дзёгцем, што маслена пабліскваў ад сонца, мазаў восі. Паблізу яго, прывязаны да плота, стаяў нязграбны галавасты конь, лянiва штосьці шукаў у траве... У двары, што быў за гэтым, жанчына несла зелле свінні і падсвінку, якія рохкалі і вішчалі так прагна, што віск іх на час заглушыў усе іншыя гукі куранёўскай раніцы.

— Ціхо! Няма на вас угамону! — крыкнула на іх жанчына, падаючы спажыву, на якую свінні адразу накінуліся, душачыся, адпіхваючы адно аднаго і кусаючыся. Асабліва лютавала худая свіння, і жанчына пашукала вачыма дручка, каб супакоіць яе, адагнаць ад пасвінка. Але дручка не было, і яна злосна таўханула свінню парэпанай нагой, прыгразіла:

— Вось я зараз цябе!..

З кожнай хвілінай Курані ўсё больш поўніліся людскімі галасамі, людскім рухам — на адным двары маці клікала сына, на другім плакала, залівалася слязьмі не ў час разбуджанае дзіця. У двор каля ліпы пажылы чалавек уводзіў з пашы каня, з двара насупраць выганялі парасят, і ішло за імі пакорлівае мурзатае дзіця, як старое, угінаючы плечы...

У такі час з хаты, недалёка ад той, дзе дзяўчына брала ваду, выйшаў на ганак, пацягваючыся, хлопец з хмурнымі заспанымі вачыма, з калматай не то русявай, не то цёмнай чупрынай, з упартымі губамі.

Маці пашкадавала будзіць яго раней. Але і цяпер прачынацца яму было нялёгка — калі яна будзіла, у галаве некаторы час мяшаліся і малюнкі перарваных дзіўных відовішчаў, і словы маці, і назойлівы бусліны клёкат... Жмурачыся ад сонца, на ганку Васіль успомніў пра гэты клёкат, паслухаў — хтосьці блізка адбіваў касу — клё, клё, клё. У галаве варухнулася абыякавая думка, што гэта і быў той клёкат, які ў дрымоце здаўся за бусліны.

За гэтым на памяць прыйшлі яму словы, якімі маці будзіла: «Устань, сынок... Устань, бо ўсе ўсталі... Позно будзе...» Ён зірнуў на сонца — дзе яно, нізка ці высока — і на момант аслеп

ад яго бляску. Ён, было добра прыкметна, адразу як бы ажыў, занепакоіўся — сонца ззяла, яму здалося, высока.

«Не разбудзіла палюдску! Калі ўсе ўставалі, — падумаў нездаволена, нават узлавана пра маці і тут жа заклапочана падаўся з ганка. — Каня трэ хутчэй прывесці!.. А то выберашся пазней за ўсіх цераз ету матку!.. Сорам будзе!..»

Ён подбегам падаўся да ўзболатка, дзе пасціўся перад алешнікам спутаны конь. Калі ён уехаў зноў на двор, убачыў сутулаватага, з жоўтай лысінай дзеда Дзяніса, які корпаўся пры калёсах. Дзед колькі дзён таму, ловячы рыбу, вымак і прастудзіўся — учора пластам ляжаў на печы, а сёння — нá табе, таксама падняўся.

— Мо паправіліся ўжэ? — кінуў Васіль, саскочыўшы з каня.

— Эге, паправіўся! — панура пакруціў галавой дзед. — Тым часам, як дзіця, якое першы раз устало...

— Дак леглі б пайшлі.

— Улежыш тут! У етакі дзень! — Дзед правёў худой рукой пад пузам каня. — Наеўся непагано!

— Наеўся.

Васіль прывязаў каня да падмазаных яшчэ ўчора звечара калёс і ўвайшоў у хату; маці стаяла пры печы, варушыла ў ёй качаргою. Пачуўшы сына, не азіраючыся, стала завіхацца хутчэй, і Васілю ад гэтага маўклівага знаку матчынай увагі і пашаны да яго стала весялей. Ён, аднак, не паказаў, што заўважыў гэта, — чаму тут здзіўляцца, калі ён ужо не хлапчук які, а гаспадар, — кінуў ёй дзелавіта:

— Збірайся... Чарнушкі ўжэ едуць...

Ён вярнуўся ў каморку, зняў адбітую дзедам касу, паспрабаваў, як вучыў Чарнушка, ногцем вастрыё — хоць гэта ён ужо рабіў учора некалькі разоў, — выцягнуў зпад палацяў лапці і стаў абувацца. Валодзька, малы бялявы брат, што спаў на палацях, раптам заварушыўся, расплюшчыў вочы, зірнуў на Васіля і мігам ускочыў.

— Вась, а Вась, — і я?!

Васіль прамовіў:

—Ляжы ты, нуда! Чаго ўспёрся ні свет ні зара!

—Вась, вазьмі мяне... з сабою!..

— Трэба ты мне!

— Ну, вазьміі!

Дарэмна Валодзька чакаў адказу, пазіраючы на брата вачыма, якія прасілі і малілі, ніяк не хочучы верыць у братнюю чэрствасць. Васіль маўчаў. Ён быў непахісны. Абуўшыся, Васіль

заклапочана пашаргаў у хату, паранейшаму нібы не заўважаючы брата, што, як прывязаны, патупаў услед.

Калі маці падала на стол аладкі і нават — дзіва! — скавародку з салам, Валодзька амаль не аддаў гэтаму ўвагі, паранейшаму чакаў.

— Ну, Вась?

— Дай, тым часам, паесці чалавеку, — сказаў дзед, які ўжо гарбата сядзеў каля стала, нічога не браў у рот. — І сам еш.

— Глядзі от, — ласкава прыступілася маці.

Яна знарок паклала перад Валодзькам аладку і кавалачак рудога сала, зірнуўшы на якое, Валодзька не ўтрываў і на час адстаў ад брата. Маці падала яму яшчэ кавалачак, дадала некалькі ласкавых слоў, і сэрца малога палагоднела ад гэтай дабраты. Але неўзабаве яму давялося адчуць, што гэтая матчына дабрата была ўсягонаўсяго хітрасцю, бо ледзь толькі Валодзька пад'еў, маці мякка, ласкава сказала:

— Ты, сыночак, будзеш з дзедам, хату пасцеражэш. Ды глядзі добранько — усё дабро тут на вашых руках!.. Не дай Бог штонебудзь учыніцца — згалеем зусім!

— Я на балото хачу! — заявіў упарта малы.

Выціраючы аладкай скавародку, Васіль жорстка кінуў:

— Мало што ты хочаш!

З якой зайздрасцю і непакоем пазіралі Валодзькавы вочы, як каля хлява запрагаў старэйшы брат рудога Гуза, пагрозна пакрыкваючы, як дзед укладваў касу, як маці прывязвала торбу з харчамі і абгортвала ўкінутай у воз травою дубовую біклажку з вадой. Сачыў малы то за маці і дзедам, то за братам, нахмурыўшы шаўкавістыя выцвілыя на сонцы броўкі, ніяк не мог паверыць у чалавечую бессардэчнасць, чакаў з тайнай надзеяй жаданай перамены.

Васіль тузануў вераўчанымі лейцамі Гуза, і калёсы паволі пакаціліся па двары на вуліцу. Тут Васіль азірнуўся — на ўсёй вёсцы, амаль каля кожнай хаты, стаялі калёсы, касцы, жанчыны і дзеці. На ўсёй вуліцы было на рэдкасць людна, яна ўся жыла добрай чалавечай заклапочанасцю.

Маці чамусьці яшчэ раз забегла ў хату, потым сказала дзеду, каб ён не высільваўся, пайшоў лёг, стала наказваць Валодзьку, што яму трэба і чаго няможна рабіць: каб быў пры хаце, каб слухаўся дзеда, каб не дурэў з агнем, — і Валодзька адчуў, што апошнія яго надзеі прападаюць.

— Не хачу! — адказаў адным словам Валодзька.

— А етаго во — хочаш? — памахаў яму пугай брат.

Валодзька толькі яшчэ больш нахмурыў бровы. Маці ж усё не траціла надзеі дамовіцца падобраму:

— Я табе кулеш у чыгунку ў печцы паставіла. Смачны, з малаком... А ў прыпечку яечко вазьмі!.. Можаш узяць!

— Едзьце бо! — сказаў дзед. — Угаворваюць, ейбо, як пісара валаснога!..

Маці падабрала даматканую сваю спадніцу і звычна села на калёсы, спусціўшы з драбінак босыя парэпаныя ногі.

— Дак глядзі ж, кеб пільнаваў добра! Бо ўвечар я прыеду!

Валодзька, здаецца, нічога не хацеў слухацца: ні матчыных добрых слоў, ні дзедавай строгасці, ні братавай пагрозы пугай. Ледзь калёсы рушылі па вуліцы, ён, набычыўшыся, падтрымліваючы рукой штонікі, што спадалі, маўкліва падаўся ўслед.

— Вярніся, неслух! — пачуў ён дзедаў загад, але і не падумаў спыніцца.

Валодзя ведаў, што дзед не любіў неслухмянасці і што маці таксама не дай Бог увесці ў гнеў, але яму так хацелася ехаць на балота, што і страх не ўтрымліваў, — Валодзька адно для бяспекі трымаўся наводдаль ад воза. Калі калёсы прыпыніліся і брат паказаў, што збіраецца саскочыць, малы адразу стаў таксама, гатовы да ўсяго. Васіль пагразіўся:

— Толькі пайдзі ўслед!

Калёсы спыняліся яшчэ разы тры, і кожны раз то маці, то брат загадвалі вярнуцца, не на жарт абяцалі набіць, і, можа, Валодзька адолеў бы сваё вялікае хаценне, калі б не ўбачыў, што на другім возе, які выехаў услед з сяла, сядзіць разам з бацькам яго найбліжэйшы прыяцель, супольнік ва ўсіх шкодах, Хведзька. Гэта надало Валодзьку порсткасці, і ён яшчэ смялей кінуўся за калёсамі.

— Аа, — закрычаў, душачыся слязьмі, ён,— вазьміце!

Маці злезла з калёс.

— Вярніся! Ідзі дамоў, чуеш!

— Не пайду!

— Не пойдзеш?

Праз некалькі хвілін ён ляжаў на мяккай раллі між кусцікаў бульбы блізка ад дарогі, і ўзлаваная маці моцна і гучна пляскала яго па голых паружавелых палавінках.

— Вернешся?.. Вернешся?.. Вернешся?..

Валодзька, рыючы лбом пульхную зямлю, выў і роў ад болю, ад крыўды, ад злосці, але не гаварыў нічога.

Маці пайшла ад яго, так і не дачакаўшыся хоць слова.

Седзячы ў бульбоўніку, ён цераз завалоку слёз зверавата пазіраў, як яна ішла да воза, як села і паехала, грозна глянуўшы на яго. «Кеб ты... кеб табе... немач!» — кіпела ў ім няўтольная злосць.

Паўз малога па дарозе ехалі і ішлі мужыкі, і амаль кожны падсмейваўся з яго бяды: «Што, усыпалі?» Гэта распальвала яго крыўду. Невясёлы, адзінокі і, як мала хто ў свеце, няшчасны, пацёгся ён дамоў, пацёгся цераз бульбоўнік, цераз агароды, толькі б нікога не сустракаць, нікога не бачыць!..

Калёсы, на якіх сядзелі Васіль і маці, ужо ўязджалі ў лес. Пасля поля тут было ад гушчыні маўклівых, нібы прытоеных, хмурных хваін цемнавата і сыра, хоць лясок і рос на пясчаніку. Ранішняе сонца, што чырвоніла хвойнік угары, яшчэ не магло прабіцца да нізу, да зямлі, і на рэдкай траве тут мутна трымалася раса, а на пяску значыліся вільготныя цемнаватыя плямы. Не зважаючы на расу і сырасць, адчувалася ўжо набліжэнне дзённай задухі.

— Душно будзе, — сказала маці.

Неўзабаве яны дагналі Чарнушкаў. Можна было б ехаць за імі, аддаючы знак пашаны дзядзьку Цімоху як старэйшаму, і можа ў іншых абставінах Васіль так і зрабіў бы, але побач з дзядзькам сядзела задзіра Ганулля, яго дачка, Васілёва равесніца. Гэтая задзіра ў апошні час Васілю проста жыць не давала, пры кожнай сустрэчы, калі б ні трапіўся ён — смяялася ці нават здзекавалася з яго. От жа толькі пазаўчора пры ўсіх абсмяяла. «Васіль, а чаму ето ў цябе вочы не адзінакія — адно як вада светлае, а другое — як жалудок! І валасы унь — ззаду як не чорныя, а спераду — рудзенькія! Як у цяляці рабого». Стаяла і рагатала пры ўсіх! Каб не праўду казала, яшчэ б нішто, а то ж праўда ўсё — розныя вочы, як на грэх, і валасы ад сонца наперадзе зарудзеліся! Усё нялюдскае нейкае!..

Ці ж мог пасля ўсяго гэтага Васіль паслухмяна цягнуцца за Чарнушкамі? Ледзь маці ўправілася сказаць дзядзьку Цімоху, што, мусіць, будзе задуха, як Васіль, тузануўшы Гуза лейцамі, чапляючы калёсамі за нізкае галлё падлеску, порстка аб'ехаў Чарнушкаў, пакінуў ззаду. Ён знарок не паглядзеў на Ганну, але і не пазіраючы на яе, Васіль адчуваў сябе ў поўнай меры шчаслівым. Вось як ён «абступіў» яе, задзіру.

Хто яна, гэта ганарліўка, якая так абыходзіцца, нібы яна не толькі нараўне з ім, а Бог ведае што. Каб яна была і праўда кімнебудзь асаблівым, тады б і трываць можна было б, а то ж

хто — усяго бацькава дачка. І гэтак абыходзіцца з ім, з чалавекам самастойным, гаспадаром! Што ж, ён паказаў ёй!..

Тут, калі Васіль быў увесь напоўнен слодыччу адплаты, стары, вельмі пацёрты хамут раптам разышоўся, і аглобля зашоргала па рудых Гузавых нагах. Васіль трывожна саскочыў. Нічога страшнага не было: проста парвалася супоня.

Васіль хутчэй звязаў парваныя канцы, але калі паспрабаваў, пацягнуўшы з усяе сілы, ці моцна завязаны вузялок, той разышоўся. Прыйшлося зноў звязваць. Калі, паружавеўшы ад натугі, сцягваў супоню на хамуце, побач зарыпелі калёсы дзядзькі Цімоха.

— Што такое?

— Супоня... ззараза...

Ганулля весела зіркнула.

— Ён... супоню дома забыў!

Васіль ад такой абразы аж перастаў сцягваць хамут. Калёсы дзядзькі Цімоха, а на іх дзядзька, Хведзька і здаволеная Ганулля, прайшлі паўз Васіля і сталі пакрыху аддаляцца...

— Ну, ты знаеш!..

Васіль не ведаў, што сказаць.

— У чужое проса не ўтыкай носа!..

Ён прамовіў гэтыя словы ціха, больш для маці ды сябе, каб супакоіцца. І наогул, хіба добра было б яму, няхай і маладому чалавеку, але ж мужчыну і гаспадару, старшаму ў сям’і, звязвацца з нейкай дзяўчушкай? Але ні словы, ні думкі гэтыя не вярталі яму спакою і раўнавагі.

Васіль ехаў цяпер пануры, паглыблены ў свае думкі. Ён наогул быў схільны да развагі, не любіў вельмі адкрываць сваю душу, асабліва калі ў ёй варушыліся думкі, невясёлыя і нядобрыя. Пахістваючыся, крыху горбячыся, хмурачы яшчэ дзіцячы лоб, ён міжвольна прыгадваў, дзе і калі яна казала штонебудзь крыўднае, думаў, як аддзячыць ёй. У думкі гэтыя хутка ўпляліся іншыя — спачатку пра старую, патлелую ў зямлі супоню, стары хамут, потым пра небараку Гуза, якога калісьці кінулі балахоўцы, не маючы на яго, мусіць, ніякай надзеі. І праўда ж, конь тады дадыхаў, і не было веры, што ён яшчэ ўстане на ногі. Колькі з ім папаваждаліся, каб падняць зноў. Ён устаў, але як няпэўна ходзяць па зямлі слабыя яго ногі. А што ж з яго карысці, з такога каня, які не мае сілы!

Калі б быў у Васіля хоць такі канёк, як у Чарнушкі. Таксама не Бог ведае што, не раўня таму, якога прывёў стары Корч з мазырскага кірмашу зімою, а ўсётакі конь як конь. Аснова.

Дарога пачала паніжацца, і сыпкі пясок яе змяніўся мяккім, падатным забалочаным грунтам, на якім вырэзваліся дзве чорныя вільготныя каляіны. У каляінах часта віднеліся вылузганыя жылы карнявішчаў, было многа ям, і калёсы амаль увесь час падскоквалі, моцна хісталіся з боку на бок. Камлі дрэваў часам сунуліся паўз самыя драбінкі, і маці перасцярожліва схавала ногі ў воз. Васіль жа сядзеў паранейшаму, час ад часу, нібы ў гульні, перакідваючы ногі цераз драбіны.

Турботы было не толькі нагам, але і рукам: вакол хмарамі звінелі, апаноўвалі асатанелыя камары, амаль безупынна даводзілася адмахвацца ад іх, біць. Маці закрыла хусткай ледзь не ўвесь твар, падкурчыла ногі, але ратунку і так не было. Камарэча даставала цераз вопратку, залазіла ў рукавы, за каўнер.

Гуз адбіваўсяадбіваўся хвастом, галавой, не вытрымаў, патрухаў уподбег. Але гэта не памагло, і ён зноў пайшоў, круціў хвастом, матляў грывай, стрыг вушамі...

Лес тут быў зусім іншы, як на пясчаніку. Рослыя, з чорнымі, быццам абпаленымі, камлямі, з дзіўна паточанай карой, старыя алешыны танулі знізу ў густым балотным разнатраўі, у маладой порослі алешын, у гнілым, асклізлым ламаччы. Алешнік вельмі часта мяшаўся з лазняком, што рос моцнымі дружнымі купамі, уздымаючы ў лясны прыцемак шызыя кучары пераплеценага галля.

У лесе буяла мноства злой, палючай лясной крапівы, што дзенідзе ўздымалася загонамі ў чалавечы рост. «Глядзі ты, колькі выперлася яе, етай поскудзі! — мімаволі праплыло ў галаве ў Васіля. — І якая — як каноплі!..»

Зза паварoту ён зноў убачыў наперадзе Чарнушкавы калёсы, белую Ганніну хустачку, і думкі яго вярнуліся к дзяўчыне: «Я етаго табе не забуду! Пабачыш!»

## 2

Калі Васіль пад’ехаў да сенажаці, Чарнушка ўжо выводзіў з аглабель распрэжанага каня. Хведзька, прысеўшы наўколенцы, штосьці зацікаўлена разглядаў у траве, а Ганна перакладвала пад калёсы біклажку. Васіль знарок адвярнуўся, каб не глядзець у яе бок, але міма яго ўсё ж не прайшло ні тое, што яна рабіла, ні тое, як яна зірнула на яго. Зірнула з усмешачкай, і Васілю здалося, што з яе язычка зноў сарвецца штосьці кплівае, крыўднае.

Яна прамаўчала.

— Васіль, а мо тут станем? — прамовіла маці. — Разам з імі? Мясцінка, глядзі якая...

Надзелы Чарнушкаў і Васілёвай маці былі побач. Васіль у іншы час так і зрабіў бы, як казала маці, — гэта было зручна і выгадна: спакайней было б і за коней, і за калёсы, за якімі назіралі б і Чарнушкі. Але сёння сын панура заўпарціўся:

— Мясцінка як мясцінка...

Ён суняў каня далей, крокаў праз трыццаць, ля куста маладога арэшніку. Азірнуўся, акінуў позіркам даволі вялікае, акружанае з усіх бакоў лесам балота. На балоце там і тут кучаравіліся кусты лазы, якія дзенідзе зрасталіся ў цэлыя астраўкі. Але Васіль не даў ніякай увагі гэтым астраўкам, яго больш зацікавіла, што на балоце яшчэ было многа вады, часам цэлыя разводдзі. Вада была і на яго надзеле. «Чорт бы яе пабраў!» — падумаў Васіль.

Пры ўзлесках амаль усюды стаялі калёсы, завіхаліся людзі. Нямала людзей было і на балоце — ужо дзенідзе касілі.

Стрыножыўшы Гуза, Васіль пусціў яго пасвіцца, вярнуўся к калёсам і выцягнуў касу. Ён развязаў анучку, абгорнутую вакол нажа касы, і, ускінуўшы касу на плячо, перапоўнены гонарам, стрымана, паважна падаўся да сенажаці.

Маці, маўклівая і паслухмяная, пайшла ўслед за ім.

— Тут. Нашае — адсюль і унь датуль, дзе калок, — сказала яна.

Яна магла б і не гаварыць гэтага, бо Васіль і сам ведаў свой надзел, — відаць, ёй проста было няёмка стаяць каля сына.

Васіль заўважыў на яе твары, у складцы родных губ выраз нейкага шкадавання і вінаватасці і строга прамовіў:

— Знаю.

Уваткнуўшы канец кассе ў мяккую зямлю, трымаючы моцна рукой тупы край касы, Васіль стаў мянташыць. Адмахнуўшыся ад камароў, коса зірнуўшы на Чарнушкаў, убачыў, што Цімох яшчэ корпаецца каля воза, і задаволена падумаў, што пачынае раней.

Расставіўшы памужчынску ногі, моцна ўпінаючыся ў грунт, ён размашыста правёў касой, і трава шыркнула, паслухмяна лягла злева акуратнай купкай. Ён правёў другі раз, трэці, трава злева стала выцягвацца ў вільготны зялёны рад. Хутка ногі яго ступілі на пакошу, перад ім быў ужо лапік чыстага, скошанага ім. Хто гэта казаў, што ён яшчэ зялёны касіць? Што яму, быццам, кашы яшчэ многа трэба! Кашы, можа, камунебудзь і трэба, толькі — каму іншаму. Але не яму, не Васілю. Праўду кажуць,

што касіць — справа не абыякая, мужчынская справа, тут трэба і сіла, і спрыт, умець трэба. Але ў Васіля ўсё гэта ёсць. Глядзіце, як ладна шыркае ў яго каса, як кладзецца, даўжэе рад!

«Шшырк, шшырк», — згодна прамаўляла ў лад Васілёвым думкам каса.

Ён адчуваў, што ззаду стаіць маці, пазірае ўслед, ласкавая і гордая, і ад гэтага ў руках і нагах сілы быццам большала. Разам з маці, акрамя яе, ён адчуваў за спіной яшчэ адну істоту, зусім іншую, чым маці, кплівую і нядобрую, якая, можа быць, таксама сочыць за ім сваім падсцярожлівым позіркам. Што ж, няхай сочыць, яму гэта ніяк не абыходзіць!

Васіль заўважыў, што дзядзька Цімох таксама пачаў павольна, мерна махаць касою. Ён ідзе паціху, крыху горбячыся. Васіль таксама крыху прыгорбіўся — так ходзяць усе сталыя людзі. Убачыўшы, як дзядзька ідзе, успомніў, што галоўнае пры касьбе — не спяшацца, не высільвацца, каб не змарыцца да пары.

Задумаўся, не асцярогся, і каса знянацку з усяго маху ўрэзалася ў нешта цвёрдае. Купіна, каб яна праваліласяся! Васіль хутчэй выцягнуў касу і коса зірнуў да Чарнушкаў— ці не заўважылі.

— Што там, Вась? — адгукнулася маці.

— Нічога.

Ён сказаў рэзка, нездаволена, спагнаў на ёй прыкрасць. Няхай не крыўдзіцца, няма чаго стаяць ды глядзець, калі чалавек заняты!

Маці нібы здагадалася пра яго думкі.

— Я пайду к каню... Памагай табе Бог!

Яна перахрысціла яго, благаславіла і, уздыхнуўшы, пайшла к калёсам. Васіль, не нагінаючыся, каб не паказаць, быццам нешта здарылася, агледзеў касу і супакоіўся. Каса была цэлая. Ён зноў правёў па траве, каса ішла добра, як і раней. Касіў ён цяпер асцярожней, сачыў за куп’ем, якое пачынала трапляцца ўсё часцей і часцей.

Трава была тут небагатая, найбольш асака. «Эх, удзялілі дзяляначку, растуды іх...» — падумаў ён і ўспомніў, як крыўдавала маці, вярнуўшыся дамоў пасля падзелу. «Ведамо, адна, без чалавека. Няма каму пастаяць... Нічога, ето апошні раз. Цяпер я вазьмуся, няхай паспрабуюць зрабіць яшчэ так!.. Праўда, у Чарнушкі таксамо надзел не лепшы. Што ж, ён сам вінаваты! Ціхі занадто. Яму хоць палец у рот пакладзі!.. Няхай сам абабіваецца, калі такая ўрода!..» А Васіль не дасць, каб клалі палец у рот! Не папусціцца!..

Нагам стала мокра. Спачатку вада толькі чулася, дзе пасталы ўціскалі пакошу, потым стала хлюпаць між куп'я. Неўзабаве Васіль ужо ўвайшоў у ваду, якая абступіла, нібы нанова абгарнула ногі. Анучы ўраз прамоклі, калошыны знізу таксама сталі мокрыя, і ногі зрабіліся важчэйшыя, быццам самі набраклі вадою. Ад намоклай тканіны ногі першы час, пакуль не прывык крыху, непрыемна казытала. Але Васіль амаль не звярнуў на ўсё гэта ўвагі — хадзіць па балоце даводзілася ўжо нямала, і ў пасталах і без пасталоў, і ўсе такія дробныя прыкрасці здаваліся звычайнымі. Горш было тое, што скошаны рад цяпер лажыўся ў ваду. Трэба будзе зграбаць у вадзе, несці на сухое і раскідваць там, каб прасохла. Столькі лішняга клопату.

Вось што добра — вада цёплая. Не студзіць ног, не гоніць дрыжыкаў па целе, як у іншыя дні ўвосень або зімою, калі ад халодных мокрых ануч аж дух займае. Цёплая вада, і — дзякуй Богу. Ідзі, хлюпай пасталамі, вадзі касой мерна, роўна, справа — налева, справа — налева. Праўда, трохі цяжэй стала ісці — касу трэба амаль увесь час трымаць навісу, многа вады. Касіць тут не тое, што на сухім месцы. Запытай любога куранёўца, і ён табе скажа, што Мокуць — чортава месца, гіблае для касца.

«А чаго яе, етую сенажаць, так завуць? Мокуць... — падумалася Васілю. — Хіба ж толькі таму, што недалёко сяло, якое называецца Мокуць? Пэўна, кеб сухо тут було, то на сяло не паглядзелі б, далі б лугу мянушку не такую. А так от — «мокуць» і «мокуць», мокрае, гіблае месца...»

Часам каса чапляла ваду, уздымала, раскідвала пырскі — яны разляталіся, весела паблісквалі на сонцы. У вадзе каса шыркала інакш, як без вады, гушчэй, важчэй, працяжней.

Усё мацней угравала. Пот мачыў цвёрдыя, двух колераў валасы, поўз на лоб, абпалены сонцам, засцілаў вочы, цёк на кволыя, яшчэ амаль дзіцячыя грудзі, прыклейваў да спіны ўшчэнт змакрэлую сарочку.

Каса станавілася ўсё цяжэйшая. Рукі напіваліся ўтомаю, балелі ў локцях і плячах, слабелі, нагам было млосна. Млосць расплывалася і па ўсім целе. Хацелася сесці. З цягам часу жаданне гэтае не толькі не адыходзіла, а ўсё мацнела. Сесці хоць на купіну, хоць у ваду. Пасядзець трохі, адпачыць, а там можна зноў устаць, зноў ісці.

Але Васіль не сеў. Ён трываў. Гэта было ўжо не ў навіну — цярпець, адольваць стому, адганяць прываблівую спакусу пагуляць, паленавацца. Зялёны гэты хлопец ужо з найпершага маленства адчуў, што жыццё — не вясёлае, бесклапотнае свята, а найбольш доўгі і клопатны будзень, што трэба цярпець. З усіх

мудрасцей жыцця ён, як адну з найпершых, уведаў — трывай, цярпі! Усім цяжка бывае, усе церпяць, цярпі і ты!

Гэтаму яго вучыла маці, вучыў небагаты і немалы горкі вопыт. І ён цярпеў. Аблізваў салёны пот з губ, выціраў валасы, выцягнуў ніз сарочкі са штаноў, каб ветрык мог дайсці, астудзіць. І ўсё ж якая цяжкая была цяпер каса, як цяжка было адганяць млосць і слабасць у руках і ў нагах! І як хацелася сесці! Проста дзіва!

Ужо ні пра што не думалася, ні пра тое, дзе цяпер дзядзька Цімох, перагнаў ці не, нават пра тое, што вось ён, Васіль, не зялёны, а сталы чалавек, гаспадар...

Толькі калі знямогся зусім, калі дрыготкія, бяссільныя рукі апусцілі страшэнна важкую касу і не маглі ўжо скрануць, уваткнуў кассё ў купіну, падаўся да калёс. Ішоў важка, павольна, цягнучы ногі, што хлюпалі ў цёплай вадзе. З выгляду гэта быў падлетак, худы, даўгарукі, з тонкай шыяй, а па хадзе, па прыгорбленай постаці — мужчына.

Васіль ішоў нібы напіцца. Маці, завязаўшы хустку падзявочы, як касынку, — камары ўжо не назалялі, горача, — зграбала траву, абярэмкамі на граблях зносіла на сухое. З травы цякла вада, і маці старалася трымаць абярэмак і граблі перад сабою. На сухой пакошы ўжо было крыху разасланай травы.

Кінуўшы траву, яна зірнула на яго, і Васіль заўважыў, як на твары яе з'явілася шкадаванне. Хмурная, страсянула мокрую спадніцу.

— Передыхні!.. Паляжы вунь там, у цяньку... Управімся, нідзе не дзенецца... трава етая.

Калі ён паваліўся ў траву каля воза, нахілілася, пагладзіла па галаве.

## 3

Пад вечар стары Чарнушка і Васілёва маці сабраліся ў сяло. Маці трэба было ехаць, каб накарміць Валодзьку, падаіць карову, дагледзець гаспадарку. У Чарнушкі ж дома была хворая жонка.

Хведзька і Ганна засталіся начаваць на лузе. Заставаліся тут і біклажка, і каса, і латаная світа — нашто ж вазіць тудысюды без прычыны!

— Трымайся каля Васіля, — наказаў Чарнушка дачцэ, сеўшы на калёсы. — І ты, Васіль, глядзі за імі. Дзеўка, яна — дзеўка. І малое...

Маці, здаволеная тым, што Чарнушка ўзяўся падвезці, ахвотна падтрымала:

— Жывіце дружненько!

Васіль прамаўчаў. Але, калі калёсы схаваліся ў лесе, ён адчуў, што нічога горшага, як застацца аднаму з Ганнаю тут, нельга было б і прыдумаць. Лепш бы і ён паехаў дамоў, чым вярэдзіцца тут з ёю!

Васіль знарок паказваў, што быць з ёю — яму як кара. Ганна сціпла маўчала, але яму бачылася, што яна таксама не рада такому таварыству. Стаяць, маўчаць з ёю было, як ні з кім, няёмка. Васіль не вытрымаў: паказваючы, што ў яго поўна галава клопатаў, раптам рынуўся да Гуза, які стаяў каля арэшніку.

Хлопец звадзіў каня да азярца, амаль ушчэнт зарослага асакою, напаіў. Да азярца было з вярсту, і пакуль вярнуўся — на балота leглі першыя поцемкі. Павеяла сырасцю, стала халаднавата. Наводдалек у лазе пачаў збірацца туман.

«Жывіце дружненько!» — успомніў Васіль матчыны словы, убачыўшы Ганну, якая штосьці гаварыла брату. «Дружненько — і скажа ж, ейбогу!..» Ён падумаў, што будзе трымацца свайго воза і туды, да Чарнушкаў, больш не пойдзе.

Але прыбег Хведзька.

— Дзядзечко, хадзем к нам!

— Чаго ето? — Васіль няветліва адвярнуўся.

— Агеньчык раскладзем!

Васіль пастаяў, зрабіў выгляд, што заняты, — развязаў торбачку, стаў перабіраць у ёй, нібы чагосьці шукаў. Думаў, што малы не стане чакаць, але той не адыходзіў, сачыў за кожным яго рухам.

Што з ім зробіш! Васіль сярдзіта пажаваў скарынку, завязаў торбачку. Накінуў на плечы світку.

— У нас е запалка, — радасна паведаміў Хведзька, забягаючы наперад Васіля.

Ганна ўжо раскладвала агонь сама. Кволы агеньчык, перад якім яна ляжала на ўколенцах, ледзьледзь жыў. Ён быў такі немачны, што не мог запаліць нават жмуток сухога сена, які трымала на ім дзяўчына. Амаль прыпаўшы тварам да агеньчыка, нібы ў паклоне, старалася вярнуць Ганна яму жыццё, дзьмухала, падтрымлівала, а ён тлеў усё слабей. Дзяўчына была ў адчаі.

— Дай я!

Васіль стаў наўколенцы поруч з ёю. Яна крыху адсунулася, але не адышла. Так яны некалькі хвілін і ляжалі, пляча каля пляча, намагаючыся ажывіць агеньчык, што канаў. Шчаку

Васіля казытала пасма яе валасоў, незвычайна блізкая, але ён не адхіляўся. У яго быў адзін клопат, адзін непакой.

Агеньчык патух. Ганна ўстала, уздыхнула. Стала чуваць, як гудуць камары.

— Нічога. Я пайду пазычу вугольчык... — прамовіў суцешліва Васіль.

Вакол у розных месцах свяцілася ў цемры некалькі агнёў. Ён выбраў самы блізкі і хутка нацянькі пакрочыў на вясёлы гэты бляск. Каля агню ўкруг сядзелі стары Глушак Халімон, празваны павулічнаму Карчом, — сухенькі, няголены, — фарсісты Карчоў сын Яўхім і іх парабак, малады рабаваты хлопец зза Прыпяці.

Вячэралі.

Васіль павітаўся.

— Што скажаш, чалавеча? — лагодна, сціпла сказаў стары.

— Вугольчык пазычце...

Яўхім устаў, плюнуў на далоні, прыгладзіў чуб. Фарсун, ён і тут ужо быў у крамным пінжаку, у ботах.

— Свой трэба мець!

— А вам шкода?

— Шкода не шкода, а трэба мець! Цяпер жа ўласць усё для такіх стараецца!..

—Яўхім! — адгукнуўся строга, нават грозна, бацька, папярхнуўшыся куляшом. Стары Глушак лагодна зірнуў на Васіля. — Бяры, чалавеча!.. Ён смяецца...

— Не, я — сур'ёзно. Аб етым унь напісано ў «Беднаце»...

— Яўхім! — павысіў голас стары Корч. Пасля паўзы ён запытаўся строга: — Ты куды?

— Да Аўдолісалдаткі. Ці то — чырвонаармейкі?

Парабак засмяяўся.

— Як ты кажаш бацьку! — пачырванеў Глушак.

— Ну, куды? — Яўхім павёў плячамі. — Ну, пайду, пашукаю весялейшай кумпаніі!..

— Глядзі, недалёко. Штоб на бандзітаў не нарваццца! Чуў я, у Мокуці ўчора былі...

— Не нарвуся!

Нёс вугольчык Васіль голымі рукамі — перакідваў з далоні ў далонь, нібы гуляў. Чырвонае вочка весела бегала ў цемры.

Часам прыпыняўся і дзьмуў на агеньчык, каб не гас. Калі прыбег да Чарнушкаў, там адразу зрабілася клопатна. Ганна хутчэй падала жмуток сухога сена, схілілася разам. І зноў яе пасма казытала яго шчаку, але цяпер гэта не толькі не замінала,

а было нават дзіўна прыемна яму. Яны разам дзьмулі на вугаль, на сена, і гэта таксама было прыемна.

Яшчэ больш прыемна стала, калі вугаль падпаліў сена і ўскінуўся жвавы агеньчык. Хведзька, які бегаў каля іх, хутчэй паспрабаваў сунуць галіну.

— Куды ты такую! Дурны, і дурны ж ты! — Ганна адпіхнула галіну і чамусьці засмяялася.

4

Нічога асаблівага не было ў гэты вечар, але памяць пра яго грэла і трывожыла іх потым многія гады.

Ганна памыла ў блізкай ямцы бульбу, насыпала ў кацялок і хацела паставіць яго пры агні, але Васіль перабіў:

— Давай я ралцы зраблю!

Ён, стараючыся не траціць паважнасці, памужчынску стала пакапаўся ў ламаччы, што было каля вогнішча, выбраў дзве дубовыя голькі, выразаў з іх ралцы і ўткнуў у зямлю. Зрабіўшы перакладзінку, паспрабаваўшы яе моц у руках, узяў у Ганны кацялок і павесіў над агнём.

— Так лепей, — прамовіў Васіль пад канец.

Ганна прамаўчала, але ў яе маўчанні ён пачуў згоду. Для Васіля гэта было ўцехай. Яны сядзелі адзін супраць аднаго, глядзелі на ваду, што пачынала кружыцца, зацягвацца белай малочнай плеўкай, і хоць не гаварылі ні слова, дзіўна разумелі, чулі адзін аднаго. Між іх жыла незвычайная лагода і добрая згоднасць. Не ўмаўляючыся, узялі яны кожны сабе абавязак і глядзелі яго: Ганна здымала накіп з вады, сачыла за кацялком, Васіль падкладваў ламачча, каб вогнішча не спадала. Пакуль варылася бульба, ён з Хведзькам некалькі разоў схадзіў у лес, падбавіў галля і толькі тады, калі запас быў зроблены добры, зноў сеў перад агнём.

Калі Ганна, зліваючы ваду, папрасіла яго вячэраць, Васіль, ад звычкі, якой трымаліся амаль усе ў Куранях, ад прыроджанай схільнасці да адзіноты, усё ж хацеў быў адмовіцца.

— Я пад'еў ужэ.

— Калі ты там еў! — як гаспадыня, запярэчыла яна. — Садзіся. Нядобра без гарачага!..

Васіль паслухаўся, але без ахвоты. Ён прынёс ад свайго воза паўкаравая хлеба, брусок сала і жменю зялёнай цыбулі, паклаў перад Ганнай на хустку.

Вячэралі маўклівыя, насцярожаныя, нязвыклыя да такой, нібы сямейнай, блізкасці. Абдзіраючы ліпкую шкурку з бульбін, Васіль хмурыў лоб і ўсім сваім выглядам паказваў, што ён зусім не бянтэжыцца, што яму ведама, як належыць у такім разе трымацца мужчыну, але вачэй на Ганну не падымаў і ў думках злаваў на свае асабліва непаслухмяныя пальцы.

Толькі адзін Хведзька, мусіць, не зважаў ні на што: душачыся гарачай бульбай, прыкусваючы салам ды цыбуляю, выбіраў з кацялка бульбіну за бульбінай. Ён першы адступіўся ад кацялка.

Услед за ім выцер рукі аб штаны і Васіль.

— Шчэ еш, — сказала Ганна. — Ты ж не пад'еў.

— Не, хопіць...

— Нясмачная, можа, картопля?..

— Картопля як картопля...

Ён сапраўды не заўважыў, смачная ці нясмачная была гэтая бульба. Не да таго было. Ён нават быў рады, што гэта дзіўная, цяжкая вячэра скончылася. Падумаў, што сказаў, напэўна, нядобра, што трэба было б пахваліць бульбу. Але хваліць бульбу — гэта значыла хваліць і Ганну, а ён ніколі ў жыцці нікога не хваліў, тым больш дзяўчат. Гэтага ніхто з мужчын не рабіў.

Як мог стрымана, паважна, як і належыць мужчыну, Васіль падзякаваў.

— Няма за што, — адказала Ганна.

Васіль устаў, паглядзеў на сіняватае, глыбокае, зорамі вышытае неба.

— Пагода павінна буць!..

Ён хацеў быў ужо ісці да свайго воза, але Хведзька папрасіў:

— Дзядзечко, вы з намі застаньцеся!

Васіль нерашуча стаў. Ганна брала хустку, маўчала. Васіль кінуў на яе насцярожаны позірк.

— За Гузам глядзець трэба...

Ганна адгукнулася:

— Яго і адсюль відаць...

— Адсюль не так.

Ён намерыўся ісці, але Ганна, зразумеўшы гэта, ускінула на яго вочы, ціха, спалохана прызналася:

— Мне страшно...

— Чаго ето?..

— Бандзіты раптам аб'явяцца...

Яе шчырае слова, просьба ўразілі яго, адразу размякчылі ганарыстае мужчынскае сэрца. Такой просьбе ён не мог адмовіць. Сказаў, што застанецца. Прайшоў толькі да каня, паглядзеў,

як трымаюцца путы, забраў з воза світку і зноў вярнуўся да вогнішча.

— Васіль, — сказала раптам Ганна дзіўна, нясмела і вінавата, — ты, мабуць, сердзішся... што я пасмяялася... Пра вочы і пра валасы — розныя...

Васіль нахмурыўся, прамаўчаў.

— Ты не сердзіся, — Яна пашкадавала. — Як што за язык цягне мяне — кеб цябе зачапіць! Але ты не сердзіся! Я — не ад зла на цябе...

Неяк не хацелася верыць таму, што чуў. Усё чакаў, што выкіне штонебудзь зноў. Але не, не зарагатала. Пад канец дык проста збянтэжыла Васіля, аж пачырванеў.

— А што вочы такія ў цябе — дак мне ето, папраўдзе, даспадобы! Такіх ні ў кога няма болей. І сам ты — харошы, толькі што маўклівы, унурысты. Усё адно як грэбуеш дзеўкамі ці баішся!

— Е чаго пагарджаць ці баяцца.

— Ну, а так здаецца!..

Памаўчалі. Ганна стала ладзіць Хведзьку і сабе пасцелю. Хутка яна, абняўшы адной рукой брата, другой адбіваючыся ад камарэчы, ляжала каля вогнішча, а Васіль яшчэ сядзеў, праз меру ўважліва пазіраў на агонь. Было вельмі радасна ад таго, што яна сказала пра кпіны свае і пра яго вочы. І ўжо як і не было злосці на яе. Была толькі радасць і турбота, якая мяшалася з гэтай радасцю і з якой невядома што было рабіць. Усётакі класціся тут, каля Ганны, хоць яна і прасіла, было не проста, няёмка.

— Дзядзечко, а вы чаго седзіце? — не ўтрываў, нарэшце, Хведзька.

— Не хочацца нешто спаць...

— А ты ляж, паспрабуй... Заснеш, можа... — параіла Ганна.

Васіль стаў ладаваць світу на другі бок вогнішча, але Хведзька — вось жа зараза! — папрасіў:

— Сюды ідзіце, бліжай!

Васіль, каб не падумалі чагонебудзь непатрэбнага — што ён баіцца Ганны, напрыклад, — перанёс світу бліжэй.

Доўга не спалася Васілю ў гэту ноч, такую звычайную і незвычайную. Укрыўшыся з галавою ад камароў, ён толькі прыкідваўся, што спіць, але сон не ішоў да яго. Расплюшчваючы вочы, бачыў Васіль знад світы, як ападаў, гас агонь, як сівелі вугольчыкі, бачыў у парадзелай цемры воз і каня непадалёк, які час ад часу пырхаў, бачыў, як пануе далей белым возерам туман. І ўсё, што ён бачыў, было дзіўна сагрэта Ганнінай блізкасцю, яе

стомленым дыханнем, якое ён слухаў, нечым цёплым, невыказным, незразумелым, што паявілася ў гэты вечар, што бянтэжыла яго і ад чаго аж млелі перапоўненыя радасным чаканнем грудзі.

Але змора, нарэшце, узяла сваё.

Абудзіўшыся ўранку ад штуршка, Васіль убачыў над сабою Яўхіма Карча, які, мусіць, вяртаўся з начной уцехі.

— А хітра прыладзіўся, Дзятлік! — падміргнуў Яўхім. — Такі нібы варона, а як да дзеўкі — не промах!

Васіль спасцярожліва азірнуўся на Ганну — яна ўжо не спала, усё чула, — і губы яго задрыжалі ад гневу.

— Адыдзі ты!..

Яўхім дабрадушна ўсміхнуўся.

— Не бойся, не адаб'ю. Такога цвету — па ўсяму свету!

Ганна едка адгукнулася:

— Чаго не ясі, таго ў рот не нясі! Шчасце якое! Патрэбен ты мне, як хата сабаку!

— Патрэбен не патрэбен, а, мабуць, не адмовіла б!

— Малы жук, ды — вялікі гук!

Яна сказала гэта з такой абразлівай насмешкай, што Яўхім адразу не знайшоў, што і сказаць. Не зважаючы на яго, Ганна папрасіла Васіля ласкава:

— Я хутка паснедаць чаго зраблю. Прыходзь. Добра?

— Добра...

— Ну, язык Бог даў!

Яўхім плюнуў, павёў плячом і ляніва пацягнуўся да свайго табара.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Усё лета перад хатай Чарнушкаў ціха грэлася на сонцы маладзенькая, з тонкім, як дубец, камлём рабіна. Ніхто ў Куранях, бадай, не заўважыў, калі і хто пасадзіў яе, не бачылі як трэба яе і тады, калі яна красавіцкай раніцай апранулася ў лёгкае празрыстазялёнае плацце з кволых, рэзных лісточкаў. Дні за днямі цікаўна, але нясмела глядзела яна на вуліцу, на ўсіх, хто праходзіў міма, — сціплая, непрыкметная за нязграбным плотам, блізка ад вялікіх дрэў. Ніхто не даваў ёй ніякай увагі, мылі яе, песцілі толькі цёплыя дажджы ды любілі шумець маладым лісцем вятры. Людзі ж яе як бы не заўважалі, спачатку таму,

што проста не прыкмецілі, а потым таму, што непрыкметна прывыклі.

І неспадзявана адбылося незвычайнае: ціхая, нявідная, у жніВеньскім росквіце рабіна заружавела, зазырчэла яркім, кідкім хараством, гарачым полымем агністых гронак. І не адны вочы, не абыякавыя, не ачарсцвелыя ў жыццёвых пакутах да хараства, глядзелі здзіўлена, зачаравана: «Глядзі ты!..»

Як тая рабіна, цвіла ў гэтае лета Ганна. Яшчэ, здаецца, учора была гарэза, падлетак, а вось ужо, глядзіце — у самай добрай пары дзяўчына, у самай красе сваёй! Калі толькі вырасла!

Глядзелі на Ганну, разважалі і — за малым выключэннем прыдзір з жанок — згаджаліся: выспела, нявеста, нічога не скажаш! Часам пры гэтых гаворках — асабліва жанкі — успаміналі Ганніну мацінабожчыцу, казалі, што дачка ва ўсім выйшла ў матку. З аблічча — дык як вылітая: і невялікая ростам, і не гладкая — худая, можна сказаць, і плечы, як у маткі, вузкія, і рукі тонкія. І косы чорныя, густыя, аж блішчаць, бы намочаныя, і смуглявасць на твары такая ж, і шчочкі таксама ж выпінаюцца.

Іншы раз языкі жанок — прыдзір ці зайздросніц — мерквалі, што грудзі ў Ганны малаватыя, як кулачкі: чым толькі дзіця карміць будзе, калі давядзецца? Але пры ўсім тым — нават прыдзіры і зайздросніцы не пярэчылі — Ганну ніяк нельга было палічыць за кволую: збоку, з аднаго позірку відаць было — крамяная ў Цімоха дзяўчына, дужая, сілаю ўся налілася! Вунь якая пругкая ў хадзе, спрытная якая ў рухах, так і відаць — маладосць, сіла ў кожнай жылачцы!

Той, каму быў час і ахвота прыглядацца, хто лепш бачыў Ганну, заўважаў, што перамянілася яна не толькі з аблічча. Багата што інакшае было і ў тым, як яна хадзіла між людзей, — стрымана і паважней, як трымалася з хлопцамі, — стражэй і з нейкай кплівасцю. Нават смяялася цяпер яна інакш, як дасюль, — смех быў ужо не бесклапотны, не пусты падзіцячы, у ім таксама звычайна чулася кплівасць; і штосьці як бы таілася ў гэтым смеху. І глядзела яна інакш, — нядаўна адно дзікаватацікаўнымі вачыма. Як і раней, не было, здавалася, такой хвіліны, каб вочы яе, вільготнацёмныя, падобныя на спелыя вішні, былі абыякавыя, нудлівыя, увесь час блішчэла, ззяла ў іх няўціхнае хваляванне. Але сачылі яны зпад шаўкавістачорных смелых броваў цяпер з падсцярожлівай, пільнай уважнасцю і, здавалася, толькі і чакалі выпадку кпліва падсмяяцца. Іншы раз маглі яны, як і раней, бліснуць весялосцю, але часта, вельмі часта

гарэлі ў іх недавер’е і насмешка. У іх таксама ж нешта таілася, у цудоўных вішнёвачорных вачах.

Амаль усе куранёўскія цёткі і дзядзькі згодна лічылі, што, набыўшы паважнасці, Ганна разам з тым стала і больш неспакойнай і — аж залішне задзірыстай. Не аднаму ў Куранях не даспадобы была і яе ганарыстая ўпэўненасць: ледзь не кожным учынкам Ганна, здавалася, паказвала, што ў яе на ўсё свае сталыя меркаванні, свой цвёрды погляд...

Хлопцы і гарнуліся да яе і нібы пабойваліся. Акрамя таго, што стрымлівалі Ганніна задзірыстасць і ганарлівасць, ім помнілася, што не лішне асцерагацца і яе язычка. Ведалі яны і тое, што Ганну не дай Бог увесці ў гнеў: тады яна ўмомант страціць роўнасць сваю, забудзецца на ўсё, загарыцца адным. Гарачая, нястрымная, небяспечная яна, ганарліўка Ганна!..

Васіль не прыглядаўся асабліва, не перабіраў, не вымяркоўваў. Ён быў для гэтага вельмі ж здзіўлены, зачараваны. Жылі побач, бегалі з другімі на выган, пасвілі жывёлу, колькі гадоў бачыў між іншых і не ведаў, не здагадваўся, хто такая Ганна. І нечакана пасля вечара на лузе адкрылася ўсё, і, убачыўшы, адчуўшы такое, збянтэжаны, уражаны, стаў як сам не свой. Свет як бы перайначыўся адразу.

Ён быў цяпер поўны цудаў і радасці, незвычайны свет, — і ўсе цуды і радасць у ім тварыла Ганна. Адны яе рукі, пераплёўшыся пальцамі з Васілёвымі, маглі рабіць яго многія ночы шчаслівым. Калі яна паслухмяна тулілася, яго поўніла дзіўнае, незразумелае і невыказна харошае тамленне ў грудзях. Туман таямнічы над балотам, ціхі шэпт груш — нават яны змяніліся, сталі інакшыя, дзівосныя дзякуючы ёй. Калі яна была побач, радасць, шырокая, бязмежная, жыла ў ім, ва ўсім, што акружала іх. У гэтай радасці ночы не плылі, а ляцелі, і світальныя зоры прыходзілі заўсёды вельмі рана. Цэлымі днямі, што б ні рабіў, Васіль зачаравана ўспамінаў Ганну, думаў пра Ганну, шукаў вачыма Ганну, чакаў ночы спаткання з Ганнай.

Час быў не для кахання — гарачы жнівеньскі час. Людзі ўставалі раней за сонца, вярталіся ў сяло ўпоцемку. Павячэраўшы, куранёўцы адразу валіліся спаць. Кароткія яшчэ ў жніўні ночы, вечар ледзь не сустракаецца са світаннем, а трэба даць уціхнуць зморы ў руках, у нагах, учыгунелай спіне, адпачыць целу ад едкага поту. Васіль жа, ледзь толькі пачне гусцець поцемак, бачыў адно жардзяны плот каля Чарнушкавага агарода, дзе стаялі першы раз, калі яшчэ не асмельваўся ўзяць Ганну за стан, і дзе з таго вечара стаялі ўсе ночы.

Як заўсёды, спяшаўся і ў гэты вечар. Сербануў некалькі лыжак гурочнага расолу, схапіў гурок, каб даесці ў дарозе, ускочыў зза стала. Маці, амаль нявідная ў душным хатнім змроку, з другога боку стала параіла:

— Вазьмі шчэ. Ці от рэдзькі ўкусі...

— Наеўся ўжэ...

Васіль варухнуўся, нібы адганяючы стому, пачуў, як ные натруджаная за дзень спіна, млосна падгінаюцца ногі.

— Не баўся вельмі... — не ўтрывала, папрасіла ўслед маці.

Зачыняючы дзверы, чуў, як уздыхнула. Спачатку, калі ўсё толькі пачалося і не ведала яшчэ, што з сынам, пыталася, куды ідзе, раіла лепш дома астацца, адпачыць, потым па шчаслівым Васілёвым твары, па гаворках жанчын зразумела ўсё, адно ўздыхала ўслед...

Васіль саскочыў з ганка і на момант стаў, думаючы, дзе ісці, вуліцай ці гумнамі. У іншыя дні хадзіў паўз гумны, каб не сустракаць нікога, не бавіцца марна, сёння прыпазніўся, пакуль завёў каня на ўзболатак, — можна ісці і вуліцаю. І на вуліцы цяпер нікога.

Усё ж падаўся на прыгуменне, звыклаю сцежкай. Мінуўшы чорнае гуменца, што пахла старою гніллю і сухім, свежым жытам, па загуменнай дарозе ўжо не ішоў, а бег, вясёлы і нецярплівы, да знаёмых, цяпер такіх мілых груш ускрай сяла.

Яшчэ зводдалек заўважыў, што Ганна ўжо чакае. Прытулілася да кала, ціха стаіць каля плота. У цемры постаць яе ледзь значыцца, а твару і зусім не відаць, але Васіль ведае: гэта яна. Хто ж яшчэ можа быць тут, на іх запаветным месцы?

Яна адхінулася ад плота, прамовіла:

— Вельмі ж ты хапаўся!

— Вельмі, — не адразу зразумеў ён.

— Яно і відно: пеўні скора заспяваюць!

— Гуза на ўзболатак вадзіў...

Васіль разумее, што апраўданне гэтае ніяк не апраўдвае яго, бачыць, што вінаваты.

— Другі раз няхай Прося гарбатая цябе столькі чакае. А я не буду...

Васіль і не апраўдваецца, і не просіць, каб не злавала. Ён не ўмее прасіць. Так яны і стаяць спачатку, блізкія і далёкія, стаяць і маўчаць, адзін вінаваты, а другая — пакрыўджаная. Васіль няёмка корпае пальцам жэрдку, адкалупвае кару, Ганна хоць бы зварухнулася.

Недзе на другім канцы завялі сумную песню, мусіць, сабралася купка моладзі. Песня хутка сціхла, знянацку віскнула дзяўчына, якую ўшчыкнуў ці паказытаў гарэзахлопец.

— Алена Зайчыкава, мабуць, — першая гоніць цягучую маўклівасць Ганна.

— Мабуць, Алена...

— От, любіць вішчаць... Шлакоткі страх як баіцца! — Яна раптам упікае: — А вы ўжэ і рады!

— Я што?.. Трэба яна мне, як леташні снег!..

— Мабуць, трэба.

— Ды я каля яе ніколі і блізко не сядзеў.

— Не брэшаш?

— От шчэ!.. Хрысціцца хіба!..

Васіль адчувае, што Ганна ад гэтых яго слоў мякчэе. Ён, праўда, яшчэ з асцярогай, бярэ ў сваю яе цёплую руку — Ганна не адбірае. І Васілю становіцца радасна, да яго зноў вяртаецца шчасце, вялікае, неабсяжнае, — здаецца, шчасцем гэтым напоўнены не толькі Васілёвы грудзі, а і ўся ноч, уся цёмная, духмяная цішыня, што дрэмле над Куранямі.

Усё здаецца добрым, радасным, — нават старыя, патрэсканыя, дзенідзе аблезлыя, без кары жэрдкі, за плотам — гарбузнік, упарты хвост якога ўзлез поблізу на кол. Далей на агародзе — сярод гарбузніку, градак з агурочнікам, пахучым кропам і кіяхамі — няпэўныя ў змроку абрысы груш, як вартавыя ў балахонах. Грушы то маўчаць, то шалясцяць, шэпчуць між сабою, як даверлівыя сяброўкі, шэпчуць, вядома, аб шчасці згоды, аб цеплыні рук дзявочых, аб гарачых юнацкіх поцісках.

— Рукі якія ў цябе... — здзіўляецца Васіль.

— Якія?

— Малыя. А дужыя...

— Шурпатыя, — ціха гаворыць Ганна. — Як граблі...

— Не...

— Недалікатныя...

— Далікатныя, то ж у дзяцей...

— У гарадскіх дзевак, кажуць, мяккія, гладзенькія. Як падушачкі.

— Ведамо, чыстая работа... Не з віламі...

Яны зноў маўчаць, але маўчанне гэтае радаснае, чыстае, ад яго весялосць у грудзях шырыцца. Прыціскаючы да сябе Ганніны рукі, Васіль, нарэшце, гаворыць:

— Ты, мабуць, б’ешся балюча...

— Баішся? — лагодна смяецца Ганна і дадае: — Я злая, як што не па мне! Хведзька аж дзіво як баіцца!

— А я дак — не баюся...

— Глядзі, які смелы стаў! Герой!

— І цябе, і языка твайго... усё адно...

— Уга, смелы!

Жартам сваім Васіль хавае дзіўнае жаданне, якое даўно не дае спакою: чамусьці вельмі хочацца пацалаваць яе. І, разважыўшы, быццам нічога асаблівага, не вялікі страх, а не можа Васіль асмеліцца. Не было яшчэ ніколі такога, маці і то, як помніць, не цалаваў. Калі толькі падумае, што зараз пацалуе Ганну, ніякавата робіцца, адразу сорамна і трывожна, але неадчэпа-спакуса, ліха на яе, не адыходзіць, нават з часам мацнее. У другіх хлопцаў гэта вельмі проста. Хонягарэза — той і на танцах, пры людзях, бывае, пацалуе, і яму хоць бы што!

А Васілю цяжка. У яго ўсё выходзіць няпроста.

— Ой, не цісні так пальцаў! — просіць Ганна.

— Я ж не вельмі...

— Не вельмі! Аж трываць няможна!..

Васіль адпускае яе рукі. Доўга пасля гэтага стаіць ён моўчкі, тоячы ў душы крыўду. Падумаеш, якая далікатная, трошачкі ад душы пальцы пацiснуў, а яна ўжо трываць не можа! Не хоча, ну і не трэба! Ён і зусім можа за рукі не браць! І не возьме.

І так не ў меру для сябе пагаварыўшы перад гэтым, адасоблены ў думках, ён маўчыць доўга. Маўчанне, як і раней, яго, аднак, не бянтэжыць, Васіль яго нібы і не заўважае. Ён і то аж дзіва гаваркі з Ганнай зрабіўся, другія, бывае, з яго слова не выцягнуць. Васіль не ахвочы да пустой гаворкі.

Шумяць, шапочуць грушы. Недзе зайшоўся брэхам сабака, яму падсабіў другі. Сабакі хутка ўціхаюць, і ўжо зноў толькі грушы шумяць...

Васіль маўчыць, не зважаючы на тое, што Ганна пачынае неспакойна варушыцца, пазглядвае на яго з нецярплівасцю.

— Гляджу я на цябе і думаю... — кажа Ганна і знарок змаўкае.

— Што?

— Кавалер з цябе вясёлы!.. Усё адно як вада ў роце!

Васіль ужо гатоў быў зноў пакрыўдзіцца, але Ганна добра, шчыра просіць:

— Скажы штонебудзь!..

І ў Васіля ад гэтай яе добрай шчырасці гатовая ўзняцца крыўда ўраз ападае. Ён, падвесялелы, думае, шукае, што ёй сказаць.

— У Карча вараны жарабец нагу на цвік насадзіў... Кульгае... Корч ездзіў у мясцечко па дохтара...

— Аге, я яго бачыла. Ён вёз яго ўжэ пад вечар...

— Пад вечар...

— Ну, то бачыла. Стары сам, як грак, сядзеў з пугай... І што — будзе ён бегаць, жарабец той?

— Кажуць, будзе. Але, мабуць, папарваў на сабе валасы стары Корч... пакуль супакоілі, — са злой радасцю дадаў Васіль.

Ганна неспадзеўкі прамовіла:

— Ты бо зайздросціш?

— Я? Не... — асекся Васіль. — Е чаго!

Ён зноў змоўк, і можа — надоўга б, але раптам успомніў важную навіну, якую пачуў днём на полі.

— Кажуць, зямлю нанава перарэзваць будуць!

— Аге ж, і я чула. Жанкі на выгане гаварылі...

— Добра б. А то некаторыя — расселіся, як паны. Усё лепшае пахапалі!..

— Мабуць, праўду кажуць. Парадкі цяпер такія, што могуць перадзяліць па справядлівасці.

— Корч які кавалак адхапіў! Каля цагельні!.. А другім — дак пясок ці балото!

— Зямлі мало, душацца людзі...

Васіль думаў узрушана, недаверліва.

— Не дадуць яны перамераць! Гады такія!..

— Хто?

— Багацеі! — Але не вытрываў, сказаў горача, як мару: — Што б мне — у тым ражку, што за цагельняй! Я б паказаў!

— Ахвотнікаў багато на тое...

— Аге, ухопіш за імі...

Неспадзеўкі блізка прарэзліва кукарэкае певень, і Ганна азіраецца, заўважае, што неба на ўзболатку ўжо вельмі пасвятлела, нават крыху пачало брацца чырванню. Яна адхіляецца ад Васіля, заклапочана перавязвае хустку.

— Развідняе ўжэ. Ісці трэба...

— Шчэ трохі...

— Не. Мачыха хутко ўстане...

Абдымаючы яе на развітанні, Васіль з рашучасцю, блізкай да адчаю, думае: ці цяпер, ці ніколі! Ён заплюшчвае вочы і прыкладвае губы да Ганнінага твару, пацалунак трапляе ў скронь. Учыніўшы гэта злачынства, ён апускае галаву і чакае прысуду. Ганна таксама стаіць, апусціўшы галаву.

— Васіль, — ціха кажа яна, як бы перасільваючы сябе. — Ты мяне любіш?

— А як жа...

— І я...

Яна звешвае галаву яшчэ ніжэй, потым нespадзеўкі ўскідвае яе, і Васіль бачыць, што вочы яе, цёмныя, глыбозныя ў блеклым ранішнім святле, радасна блішчаць. Яна раптам абвіла Васіля моцнымі рукамі, прытулілася ўся і з нейкай урачыстасцю, сур'ёзнасцю, з выразам чалавека, які ведае ўсю глыбіню бездані, у якую кідаецца, прыпала сваімі вуснамі да яго.

2

Нібы праз туман, даходзіла да Васіля, як жылі гэтымі днямі Курані.

Было найбольш звычнае. Як і летась, і пазалетась, і ўсе гады, якія помніліся Васілю, зарастала раскай цёплая, з душным балотным смуродам нерухомая вада ў лужынах, у сажалках, у затоках. Усюды было безліч жаб — калі даводзілася ісці паўз балота ці сажалку, яны разляталіся па мокрай траве, пляскалі ў ваду амаль бесперапынна. Кваканне іх поўніла дзённую млоснасць, вечарам і ўночы дралі яны горла, як асатанелыя, на ўсе лады.

Не было адбою ад камароў. Пад вечар куранёўская вуліца, двары, сады, агароды аж гулі ад камарэчы, якая кіпела хмарамі, бязлітасна кідалася на ўсё жывое. Пасядзець, пагаманіць на вуліцы куранёўцам можна было, толькі расклаўшы дымны, з мокрай лазы ці алешніку, агонь. У такі час Курані выглядалі, як нейкі дзікі табар, як бы вярталіся на тысячы гадоў назад — там і тут чадзелі агні, і людзі туліліся да іх, кашлялі, варушыліся, адмахваліся — у цьмяным, невясёлым святле яны вельмі нагадвалі дзікуноў.

Агні спакваля тухлі. Намахаўшыся ад назолыкамарэчы, наеўшыся да дурноты дыму, людзі не вытрымлівалі, хаваліся па хатах. Толькі Васіль і Ганна не ўцякалі, туліліся адно да аднаго каля плота, як бы і не заўважалі напасці...

Узболатак і балота — не якіянебудзь далёкія, а зараснікі алешніку і лазы, можа, за сто крокаў ад Ганнінага агарода — кішэлі гадаўём. Малыя, як бы іх цягнуў хто, як на забаву, стараючыся не паказваць адзін аднаму, што сэрца трымціць

ад страху, лазілі ў зараснікі, цікавалі, як варушацца ў гушчыні кустоў слізкія клубкі. Забавы не часта канчаліся адным цікаваннем: куды больш было радасці, хвалячыся адвагаю, прыціснуць гадзюку дручком, зашчаміць яе, што грозна сычыць, у распірку і вынесці на выган. На выгане агулам учынялі расправу. Тут было завяршэнне відовішча: глядзелі, як доўга круціцца без галавы гадзючы хвост...

Аднойчы маці дачулася, што Валодзька таксама ходзіць у гадзючнік, — увесь вечар жахалася, палохала малога, расказваючы розныя страхі пра гадзюк. Васіль, збіраючыся на спатканне, памог ёй, прыгразіўся — калі смаркач хоць раз сунецца туды яшчэ — пабіць няшчадна!..

Гадзюкі былі не толькі ў зарасніку. Яны запаўзалі на агароды, нярэдка грэліся на выгратай сонцам, перамешанай з цёплым пясочкам кастрыцы прызбаў. Жартаўнік Зайчык казаў, што скора не будзе як сесці на прызбу ад гэтай поскудзі...

Вужы жылі ледзь не на кожным селішчы пад падлогамі, у хлявах, у прыгрэбніках. Ляснік Міця, гультай і свавольнік, якому з выгоды лезла ў галаву розная дурнота, дык нават выносіў вужоў на вуліцу пазабаўляцца. Забаўкай было і хлопцам узяць вужа на вячэрнія пасядзелкі, падпусціць у дзявочы гурток, што адразу ўсчынаў віск, лямант. Віску было на ўсё сяло, але больш з ахвоты, абы пакрычаць, — вужоў у Куранях не баяліся.

Матка казала Васілю, што ў суседа Дамецікa вуж, які ўжыўся ў хляве, ссе карову, але Дамецікавы не гналі яго. Васіль не здзіўляўся гэтаму: як і ўсе ў Куранях, лічыў ён вужа добрай істотай, крыўдзіць якую — грэх...

У гэтым годзе багата бяды было ад ваўкоў. Летняй парой асцярожныя, можна сказаць, памяркоўныя ў іншыя гады, клыкастыя драпежнікі ў гэтае лета, здавалася, вачэй не зводзілі з сяла, з выганаў, не толькі ўночы, але і сярод дня выляталі з зараснікаў. Асабліва моцна воўчае племя церабіла авечыя чароды: у Куранях, можа, не было такога двара, дзе б не клялі драпежнікаў. Пастухі статак у лес не ганялі, рэдка пасвілі і каля лесу, найбольш трымаліся выгану, бліжэй да хат, да людзей. Некалькі дзён Курані хвалюваліся, пераказваючы адзін аднаму на розныя лады, як нахабавоўк напаў на Пракопавага каня. Меркавалі, абураліся, спачувалі: спутанаму каню давялося папаржаць, папакруціцца, адбіваючыся ад звера. Не раз каціўся воўк ад конскіх капытоў, але ўсё ж вырваў кавалак мяса са сцягна, і невядома, чым кончылася б, каб не падбеглі людзі...

Але над усім былі клопаты. Спелі ягады. За суніцамі — чарніцы, ад якіх аж чорна было між рослага папаратніку. Нядоўга было чакаць і малін, што густа спелі ў гадзючых зарасніках. Малеча і старыя, каго не бралі рабіць на сенажаць ці ў поле, з дня ў дзень снавалі па лесе з лазовымі каробкамі і кошыкамі. Кожны зручны момант хапаліся з лугу, з поля ў лес і жанкі і мужчыны, працаўнікі — у лесе цяпер была важная праца. Ягады былі не якія там прысмакі, як у другіх, — у Куранях ягадамі карміліся, ягады збіралі, сушылі на продаж, на грошы, на чорны зімовы ці веснавы дзень. Лес быў памочнік полю, скупой, ненадзейнай зямлі.

Памагала полю балота, ціхія, цёплыя, зарослыя асакою затокі, зацягнутыя тванню канавы з асклізлым ламаччам, смярдзючыя лужыны з цінай і раскай. У Куранях, мабыць, не было такой хаты, якая не мела б рыбалоўнай прылады. Прылады гэтыя былі асобыя: ва ўсім сяле ні ў кога ніколі не вадзілася нерата. Васіль толькі чуў, што на Прыпяці ловяць рыбу нейкімі жалезнымі кручкамі. У Куранях ракі, прастору і глыбіні воднай не было, і снасць тут у людзей трымалася свая, балотная: лазовыя баўтухі, лазовыя таптухі, венцяры, сплеценыя з канапляных нітак кломлі. З кломляй трэба было ісці ўдваіх, утраіх, а з таптухай і аднаму ўправіцца няцяжка. Ускінуў на плячо, занёс лёгкую, амаль нячутную, з белых высахлых дубцоў, сунь у ваду і тупачы, гані рыбу да яе...

У Васіля была і таптуха, і кломля — усё дзедавага вырабу — снасць, чужым вачам простатакі зайздросная. За лета Дзятлы, можа, разоў дваццаць выпраўляліся з двара з усёй гэтай зброяй. Ішлі ў поўным складзе — не толькі матка, Васіль і дзед Дзяніс, але і Валодзька. Памочнік з малога такі, што, каб сядзеў ён дома — лепш было б, але паспрабуй утрымаць дома гэту неадчэпузаразу. Цягнеш яго па дрыгве, цераз чорныя брады, цераз канавы.

Дзед, у чорнарудых штанах, якім было, можа, з паўсотні гадоў, сам выбіраў Васілю з маткаю рыбную мясцінку, але за гэтым адразу ж адасобліваўся. Трымаючы Валодзьку за руку, з таптухай ён знікаў у зарасніках і вяртаўся толькі тады, калі трэба было ісці дадому. Усяляк і яму лавілася, і ўсё ж не раз было так, што са сваёй таптухай ён прыносіў торбу, паўнейшую і важчэйшую, чым тая, што вісела на Васілёвых плячах. Валодзька, стомлены, чорны ад твані, аж ззяў ад шчасця.

Дзед рэдка радаваўся ўдачы. Васіль прывык ужо да дзедавага крактання: хіба гэта рыба, здрабнела, перавялася сапраўдная

рыба! З дзедавых слоў выходзіла, што цяпер ні звера вартага не засталося ў лесе, ні рыбы ў балоце.

Хто яго ведае, як там было раней, а толькі цяпер, і праўда, у кломлю больш трапляла зялёнай, мяккай ціны, камякоў раскі, чорнага ламачча, як той рыбы. Серабрысты, трапяткі бляск рыбы цешыў, як невядома што. Калі Васіль выкопваў з ціны і раскі рыбіну з далонь, сэрца заходзілася ад радасці.

А ўсётакі і гэта была нейкая падтрымка ядзе. Калі добра пахадзіць з лета да восені, то ўсё ж нешта збярэцца перабіць нішчымніцу. Ягады, рыба ды грыбы — усё адно да аднаго, усё неяк паможа пратрымацца і з дробнай картопляю і нікчэмным збожжам. Ну, а да іх яшчэ — мёд, сем дзедавых вулляў, якія — што ні кажы, — а прыводзяць жа нейкую капейчыну ў хату...

Адным словам — старацца трэба. Лета год корміць: нельга марнавацца, маргаць. Усюды, дзе можна, трэба браць, запасіць на зіму, на год — у полі, у лесе, у балоце...

Што б ні рабіў Васіль, Ганна быццам была поруч — думаў аб ёй, шукаў яе вачыма, чакаў. І мала было за лета такіх дзён, каб не толькі ўвечары, але і сярод дзённай мітусні не сышліся, не пабачыліся, не перакінуліся хоць некалькімі словамі. Сустракаліся часам выпадкам, але найбольш — так толькі паказвалі другім: каб не плялі чаго лішняга языкастыя цёткі. Выпраўляліся нібы кожны будзённай сваёй сцежкай, нібы і думаць не думалі аб нейкім спатканнімілаванні, а самі яшчэ звечара ведалі, дзе і як пабачацца. І сустракаліся дзе толькі можна было — на загумені, у полі, у балоце, падляснымі шатамі.

Для другіх лета было як лета, як ва ўсе іншыя гады. Для сонца, для неба яно было такім, як і тысячы, сотні тысяч гадоў, усю тую спрадвечнасць часу, калі млела тут навокал дрыгва і гнілі мокрыя лясы. Для іх жа гэта было першае лета, летапесня, летасвята.

З гэтага лета застаўся ў іх на ўсё жыццё ўспамін неабсяжнай, бязмежнай, бясконцай радасці. Шчасце гэтага лета было самае вялікае, шчасце іх жыцця. Але, успамінаючы гэтыя сонечныя дні, бязмежнасць і яснасць іх радасці, Ганна потым нязменна згадвала адно прыкрае, выпадковае здарэнне. Вылезлі з вады з кломлямі, сядзелі каля лазовага куста — няблізка адзін ад аднаго, бо недалёка былі бацькі. Гаварылі тым спосабам, калі пра ўсё кажуць адны закаханыя вочы. Шчасце поўніла грудзі, шчасцем поўніўся бераг азярца, трава, асака, увесь свет. І раптам — Ганна з жахам крыкнула, ускочыла: між іх паўзла гадзюка... Пакуль Васіль схапіў, выламаў дручок, гадзюка ўцякла...

Здарэнне гэта праз некалькі дзён Ганне забылася, але потым, калі мінуў ужо не адзін месяц, выплыла зноў у памяці. Выплыла, ажыло, як бы вырасла, поўнае злавеснага сэнсу...

Але гэта было — потым. Пакуль жа цвіло іх лета. Летапесня, летасвята... За летам была святавосень...

3

Кончыўшы ўпоцемку малаціць, Васіль павесіў на шула цэп і выйшаў з гумна. Не зачыняючы варот, ён некалькі хвілін стаяў нерухома. Жыта было нікчэмнае, малаціць яго — адна пакута, і Васіль быў хіба здаволены тым, што адпрацаваў, што сёння больш рабіць не трэба і можна вось так ціха стаяць, не згінаючыся, не махаючы цэпам, выпрастаўшы спіну. Стаяць і чуць на твары халаднаваты пад вечар асенні вецер, ад якога пачынаюць браць дрыжыкі пад лапаткамі, слухаць мірныя гукі вячэрняга сяла. Цапы па гумнах ужо не цупалі, ляскаталі недзе ў полі калёсы, поблізу, мусіць, на суседнім двары, бэлькалі авечкі.

Васіль прыслухаўся, што чуваць з Чарнушкавага двара, пачакаў, ці не пачуе Ганнінага голасу, але там было ціха. Здалося, што рыкнула іх карова, і Васіль падумаў, што Ганна, мусіць, доіць. У яго грудзях, як заўсёды, калі ён думаў цяпер пра Ганну, пацяплела, стала хораша, і разам з тым узяла нецярплівасць: каб хутчэй зноў пабачыцца!

Ён замкнуў гумно і ўжо сабраўся ісці ў хату, калі яго гукнулі. Васіль спыніўся: на прыгуменне ішоў дробны, кульгавы Грыбок Ахрэм.

— Жыто малаціў? — сказаў ён.

— Жыто...

— Добрае? Да каляд на хлеб і аладкі будзе?

— Ат... — паморшчыўся Васіль. — Няма нічога...

— Зямля, туды яе маць! — вылаяўся Грыбок.

— Зямля... Пясок адзін...

— У Карча, братко, урадзіло...

— Каля цагельні?

— Але. Зерне, братка, як боб. Што сноп, то мех.

— Дзіво...

Васіль ведаў, што ўся гэта гаворка і Грыбкова цікаўнасць толькі так, для прыліку, і чакаў далейшага, гадаў, што ж прывяло да яго Ахрэма. І не сябры — Грыбок бадай ці не ў тры разы

старэй, і не суседзі — жыве Грыбок наводдаль і не мог збочыць так сабе. З нейкім клопатам прыйшоў...

Грыбок не спяшаўся.

— Як дзед Дзяніс, як здароў?

— Здароў...

— Узяў што з вулляў?

— Ат, пустое...

— Не кажы, братко. Мёду таго возьмеш у рот лыжку, а... чуеш!

— Толку што з яго — без хлеба...

— Мудры стары, — завяршыў, з пашанай круцячы галавой, Грыбок. — Пчалу тую лепш як чалавека якога разумее! І рыбу!.. Мудры!

«Мёду, мабуць, хоча папрасіць! Чаю закрасіць скажа ці яшчэ што выдумае», — насцярожана сачыў за Ахрэмавай гаворкай Васіль. Але той звярнуў на іншае, галоўнае, мяркуючы па тым, як сур'ёзна загаварыў.

— Землю перадзельваць хочам... Мо чуў?

— Чуў...

— Штоб палюдску було. А не так, як дасюль...

— Даўно б пара!

— А калі тое було, сабрацца?.. Дак от на нядзелю надумалі... Я так думаю, што трэба табе прыйсці. Матка ўсё ж, сказаць, жанчына. Ці мо Дзяніс няхай прыйдзе?..

— Я прыйду, — цвёрда сказаў Васіль.

— Ну, от і добра. — Грыбок ужо сабраўся ісці, але спыніўся. — Я ето пачаў апавяшчаць шчэ пазаўчора. А цябе дак не бачыў. То ты не крыўдуй, я ето так, без хітрасці... Дак, кажаш, няма мёду?

— Няма... Дзед нядаўна глядзеў.

— А мо е трохі? Хварэе малое ў мяне. Паласавацца б яму. Мо паправілася б хутчэй...

— Няма...

— Ну, калі няма, то няма... — вінавата прамовіў Грыбок і падаўся на дарогу за гумнамі.

«Ласы на чужыя каўбасы! Мёду захацеў! — падумаў непрыхільна Васіль. — Аге ж, чакай!.. Надаешся вам усім!..» Васіль тут жа разважыў, што, можа, трохі і трэба было б занесці, бо што, як Грыбок пакрыўдзіцца за адмову і, каб на яго немач, абдзеліць, наразаючы зямлю. Якніяк, у камітэце ж гэтым...

— З кім там гаманіў? — сустрэў дзед Дзяніс, калі Васіль увайшоў на двор.

— Ат, Грыбок.

— Чаго ён?

— Сход, кажа, будзе пра зямлю... І мёду прасіў. Для дзіцяці — маўляў, хворае...

— Хворае? То трэба б даць лыжку.

— Даць! Надаешся кожнаму! А што на кірмаш павязем, хлеба купіць!

Дзед не стаў пярэчыць: Васіль у доме станавіўся як бы старэйшым па чыну, гаспадаром, забіраў уладу.

Калі Васіль, павячэраўшы, устаў зза стала, маці клапатліва параіла:

— Світу вазьмі. На дождж бы збіраецца.

— На холад бярэ, — азваўся Дзяніс. — Дажджу не павінно... Але світу надзень...

Васіль накінуў світу на плечы і выйшаў з хаты. На двары было цямней, хмурна і холадна, з блізкага балота несла гнілой вільгаццю.

Ганна прыйшла на запаветную іх мясцінку каля плота ў акуратным, з дамашняга сукна жакецiку. Васіль ужо не раз сам сабе адзначаў, што яна прыбіраецца, ідучы на спатканне, і яго гэта поўніла гонарам. Стараецца, каб падабацца яму, стараецца, як перад сапраўдным кавалерам...

Васіль хацеў прытуліць яе, прыкрыць світаю, але яна ўперлася рукамі, адхінулася і доўга стаяла асобна. Вільготны вецер з балота варушыў яе валасы, яна час ад часу іх папраўляла. Жакетка, відаць, грэла кепска. Ганна мерзла, але не прызнавалася. Яна моцна застыгла і, калі Васіль зноў прытуліў яе пад світу, перастала дрыжаць не адразу.

Разам было цёпла і хораша. Васілю было чутно, як трапеча, б'ецца каля яго рукі Ганніна сэрца...

Горнучы яе, Васіль марыў:

— Кеб з таго кавалка, што каля цагельні, дасталося. То б надзел быў!.. Мёду прадаў бы, насення б купіў адборнага... Пабачылі б!

— Любіш ты хваліцца!

— А чаго ж! Мо не верыш?

— Да не, можа, і веру! Калі не хлусіш, то, мабуць, праўда.

— Праўда. — Ён дадаў пераканана: — За мной не прападзеш!

— Уга! Ты ж не казаў, што хочаш узяць мяне!

— А чаго казаць. І так відно.

— А я думала, ці не на Просю гарбатую памяняць сабраўся! Ні слова не кажа пра ето!

Васіль заклапочана, пагаспадарску стала прызнаецца, дзеліцца з Ганнаю:

— У хаце — холадно, цесно. Сцены пагнілі нашчэнт... Не хата, а просто дамавіна...

— Што дамавіна, то дамавіна...

— Хачу зімой трохі лесу купіць. Думаў, куплю болей, за мёд думаў. А тут — жыто пустое. Мёд трэба мяняць на хлеб... Ну, але ў еты год — трохі, трохі — у другі...

Недзе сумна, доўга, павоўчы завыў сабака. Ганна трывожна стаілася.

— Як скуголіць... Аж страшно. Бы на хаўтуры...

— Сказала.

Ганна доўга не магла супакоіцца. Васіль туліў яе да сябе, нязграбна, важкай рукою гладзіў пругкае плячо, спіну. Раптам слых яго ўлавіў непадалёку шарганне крокаў, і ён, не выпускаючы Ганны, азірнуўся. Да іх ад могілак, трымаючыся плота, набліжалася панурая ў змроку постаць. За ёй Васіль разгледзеў яшчэ дзве.

Яны падышлі і сталі, прыглядаючыся.

— Бач, прыліплі! — нядобра сказаў першы.

Другі груба, нібы загадваючы, кінуў:

— Хто такі?

— А табе што! — у тон яму, таксама груба адказаў Васіль.

— Пагавары, балда! — У гаворцы яго Васіль улавіў ясную пагрозу. — Як зваць?

Ганна ўжо вызвалілася зпад світы і быстрым позіркам аглядвала незнаёмых. Толькі тут Васіль разабраў, што рэч, якую чалавек трымае пад пахай і якой Васіль не даў раней увагі, — вінтовачны абрэз. Гэты абрэз пагрозна варухнуўся. Адчуваючы, як між лапатак адразу пахаладзела, Васіль перавёў позірк на двух другіх — яны таксама былі з абрэзамі. Далей цямнелі яшчэ дзве ці тры постаці.

— Васіль зваць...

Да яго слыху дзіўна дайшло, як густа, цягуча шумяць грушы, ён з трывогай зірнуў на Ганну. Яна, здаецца, спакойна чакала, што будзе далей. Незнаёмы, відаць, заўважыў Васілёў позірк.

— Твая дзеўка?

— Мая.

Другі раптам абхапіў Ганну за стан, прыліп, брыдка, здзекліва захіхікаў:

— Цёплая, ядры яе!..

Ганна гнеўна рванулася, з усяе сілы кулаком таўханула яго ў грудзі.

— Адыдзі, чорт слінявы!..

— Я? — Той ступіў крок, раззлавана хапіў Ганну за руку, крутнуў. — Вось зацягну зараз у поле...

Але тут, не помнячы нічога, як бясстрашны коршак, грозна рынуўся на яго Васіль.

— Не лезь!..

Ён штурхнуў «чорта», тузануў за каўнер. Той адразу адпусціў Ганну, ствалом абрэза сунуў Васілю ў жывот. Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б адзін з іх хэўры не крыкнуў пагрозна:

— Кінь!

«Чорт» абвяў, апусціў абрэз, неахвотна адступіўся. Злосна, праз зубы працадзіў:

— Шчасце тваё! Памаліся Богу, авечка!..

Той, хто выручыў Васіля, хрыпата запытаўся:

— Грыбка Ахрэма ведаеш?

— Ну, ведаю... — Васіль гарэў перажытым, палам бойкі, словы выходзілі важка.

— Хадзем пакажы!

У Ганны вырвалася трывожнае, патрабавальнае:

— Нашто?

— У госці... — Грозны незнаёмы раптам загадаў: — Лезь дахаты. Ды глядзі, дзяржы язык за губою. Твая нара? — кіўнуў ён галавою ў бок Ганнінай хаты.

— Мая.

— Дак от, сядзі не дыш, калі хочаш быць цэлаю, ясно? І калі яму дабра хочаш!

Ганна адказала спакойна, дзёрзка:

— Чаго ж, зразумела.

— Ну дак зматвайся.

— А з ім што? — не пайшла, кіўнула на Васіля Ганна.

— Жыў будзе! Не з’ядзім!.. Ну, давай адсюль! — ужо злуючы, загадаў ён Ганне.

Яна пайшла ціха, не хапаючыся, звычайнай сваёй сталай хадою. Калі бразнула клямка за ёю, хрыпаты скамандаваў аднаму:

— Глядзі ва ўсе бакі. Калі што якое — страляй. І з хаты вачэй не спускай. Каб не выходзіў ніхто.

— Чысто будзе.

Хрыпаты варухнуў абрэзам.

— Давай! Па загуменню!

Васіль зразумеў, што гэта яму загад, і сумна зашаргаў лапцямі па сцежцы. Не азіраючыся, ён чуў, што хэўра пацягнулася ўслед, чуў шум іх крокаў, смарканне, важкае дыханне хрыпатага, які сунуўся адразу за ім.

Паўз агарод выбраліся на загуменную дарогу. Гумны стаялі ў цемры панурыя, непрыветлівыя, нізка насунуўшы на сябе важкія мокрыя кучомкі стрэх. У Васілёвых грудзях нешта сумна, тужліва сціснулася, нагам стала млосна, і ён мімаволі стаў.

— Ну, ты, варушыся! — паддаў ззаду ствалом абрэза хрыпаты.

Васіль неахвотна паплёўся далей. Адчуваючы халадок на патыліцы, ён мімаволі трывожна, пільна лавіў усё, што было там, за ім, дзе ішла хэўра. Ён ужо не здагадваўся, а, можна сказаць, ведаў, што ішлі ззаду бандыты з атрада Маслака, чуткі пра якіх ужо не адзін месяц страшылі людзей па ўсёй воласці. Яго поўніла разуменне вялікай, неспадзяванай бяды. Нядаўняя смеласць, з якой ён абараняў Ганну, ужо выветрылася. У пацверазелай яго галаве прайшла ясная думка, што не на дабро дапытваюцца яны Ахрэма, што за нешта палічыцца хочуць. «Можа, нават і заб'юць!..»

І вось яму, Васілю, выдалася няшчасце весці з сабой згубу. І ён вядзе. Бо што ж рабіць, няўжо ж самому на згубу аддацца? Хіба ж не праўда, што свая сарочка бліжэй да цела? Хіба ж Грыбок, каб яму давялося, не зрабіў бы таго ж, што Васіль, хіба ж палез бы на ражон, на смерць... Але думкі гэтыя не давалі спакою, і больш за ўсё таму, што трывожыла Васіля далейшае. Як там ні ёсць, а заўтра, калі прыедзе з воласці міліцыя, Васіль будзе ўсё ж вінаваты. Прыцягнуць на допыт, паспрабуй тады апраўдайся перад імі. Памагаў гэтым, праводзіў...

Зноў цягуча, павоўчы завыў сабака. «Праўду Ганна казала. Бы на хаўтуры. Як чула ўсё роўна...»

Хоць бы душа на прыгуменнях. Хоць бы цэп дзенебудзь азваўся. Усё ж было б не так самотна, не так безнадзейна. Стукнуць бандзюкі, і людское вока не ўбачыць. Маўклівыя, абыякавыя чарнеюць пустыя гумны пад панурымі кучомкамі стрэх... А можа, і лепш, што яны пустыя, не бачаць нічога, — ведаць ніхто не будзе пра Васілёву сцежку...

Раптам поблізу заліўся брэхам нечы сабака, злы, няўціхлы, вылузнуўся зпад варот, чорным камяком кінуўся пад ногі.

Хрыпаты мімаволі стаў, адмахваючыся, крутнуў абрэзам. Васіль адступіў крок, насцярожана азірнуўся і ў той жа момант пачуў моцны ўдар па галаве нечым цвёрдым.

— Улізнуць хочаш, сволач!

Сабака ўпарта не адставаў, заліваўся брэхам, абудзіў многіх іншых сабак, што падмагалі яму на дварах. Ён, відаць, не ў меру асмялеў, бо раптам енкнуў ад удару і захліпнуўся.

— Дзе? — нецярпліва запытаў хрыпаты Васіля. — Далёка?

— Зараз...

Не даходзячы да Грыбковага гумна, спыніўся:

— Там... Селішча яго...

— Не брэшаш? Глядзі, калі збрахаў!..

— Яго... — Васіль папрасіўся: — А цяпер — пусціце!..

— Управішся! — рэзка адказаў хрыпаты, збіраючыся. — Пачакаюць дома!..

Пакінуўшы аднаго на варце і Васіля пры ім, хрыпаты, ляснуўшы затворам, рушыў з іншымі на Грыбкова прыгуменне.

## 4

Першая на стук у акно ў Грыбковай хаце прачнулася жонка. Яна хвіліну слухала, не разумела добра, што стукаюць ім, — слухала і спала.

— Ахрэм, устань... — нарэшце паварушыла яна мужа за плячо.

Грыбок, сапучы, неахвотна падняўся, са смакам, уголас пазяхнуў, пачухаўся. У хаце было душна і цёмна. Шоргаючы непаслухмянымі босымі нагамі па халаднаватай глінянай падлозе, ён паплёўся да нізкага акенца. Спрасонку выцяўся аб рог вушака, вылаяўся. Прыціснуўшыся тварам да шыбы, пільна ўглядваўся ў постаць за акном, але яна цьмяна расплывалася ў змроку.

— Хто там?

— Свой. З воласці.

— Хто такі?

— Па зямельнай справе я...

— Па зямельнай... Мала вам дня!..

Грыбок сапеў, думкі варушыліся неахвотна. А голас за шыбай тлумачыў:

— Бяда выйшла. Запазніцца давялося... Конь нагу вывіхнуў... Па доктара ездзілі...

— Неспакойна ў нас...

— Дак я ж свой...

— З воласці?

— З воласці. Упаўнаважаны...

Жонка няласкава папракнула:

— Улез у ету бяду... Ноччу сну няма...

— Конь, кажуць, нагу папсаваў...

Грыбок упоцемку намацаў конаўку, зачэрпнуў вады. Нешта вельмі сушыла смага, ён выпіў аж дзве конаўкі, у цішыні было добра чуваць, як булькала ў яго горле вада: коўць, коўць. Адно з дзяцей спрасонку штосьці часта замармытала, ён паслухаў, але не разабраў і, бразнуўшы клямкаю, выйшаў у сенцы.

Ледзь толькі Грыбок звыкла адсунуў засаўку і шэры, у зрэбным споднім, паявіўся ў расчыненых дзвярах, постаць, якая чакала на ганку, тузанула за каўнер.

— Пікні толькі, сволач!

Ён пачуў, як у грудзі ўперлася нешта цвёрдае, халоднае. Нічога не цямячы, разгублены ад неспадзяванасці, выціснуў:

— Ббратко... шшто ты?..

— Мы табе не браты, юда!

Таксама ціха, злавесна хрыпаты прашыпеў:

— Пайшлі!

Грыбок, скамянелы ад страху, пакорліва пацягнуўся ў бок хлява.

— Пастой тут, пасцеражы, каб з хаты... — дайшлі да яго словы кагосьці з бандытаў.

«Маслакі!» — як маланка, успыхнула ў важкай, быццам налітай вадой, галаве. Думка гэтая адазвалася ў сэрцы смяротным сумам: «Канец!» Давядуць да хлява, паставяць і — канец. Як і не было яго, Ахрэма. Ім звесці чалавечае жыццё — што плюнуць. Не аднаго ўжо камітэтчыка паклалі... Чуў жа Ахрэм пра гэта, ведаў, што не прывядзе да дабра камітэт, а не, не ўтрымаўся. Чорт яго панёс...

Дык ці ж ён сам набіваўся! Выбралі — выбралі на яго галаву!..

— Стой! — загадаў хрыпаты.

Ён стаў.

— Кайся!

Словы заселі ў горле.

— Не хочаш?

— Ббраткі, — выціснуўГрыбок, — ппашкадуйце!.. Нне... неввінны я... Я не сам у камітэт, нне ахвотаю.

— Чаго з імваждацца?! — нецярпліва адгукнуўся адзін, які стаяў далей. — Развідняе скора... Кокнуць і — усё!

— Не ввінны я... ббраткі!..

Бандыт падняў абрэз, ляснуў затворам, памацаў пальцам, ці ёсць патрон.

— Дзетак, калі не мяне... пашкадуйце!

Бандыты былі няўмольныя.

— Самому трэба было шкадаваць!

— За што ж мяне?.. Нагаварылі, мабуць... Не верце...

— Не вінны, кажаш? А— перадзел зямлі, хто захацеў?

— Не я. Сход рашыў...

— Сход. Апраўдваешся, сволач?!

— Сход. Вобчаство...

— Вот як дам па мазгаўні! Будзе — вобчаства! Слухай! Перадзел атаман Маслак адмяняе!.. Запомні, калі хочаш дзетак бачыць! Ясна?

— Ясно... Але ж сход...

— Калі будзе перамер, заказвай труну! — павысіў голас бандыт. — Загадзя лажыся!

— Браткі, дак хіба ж я адзін...

— І другім перадай! Хай таксама, калі жыць неахвота, закажуць! Перадасі?

— Скажу...

— На еты раз — усё. Ідзі!

Грыбок нясмела, яшчэ як бы не верачы, што ўсё гэта скончылася, бачком, азіраючыся на хрыпатага, ступіў некалькі крокаў. Зараз крыкне, верне зноў — чакаў са страхам Ахрэм. Але хрыпаты крыкнуў іншае:

— Да раніцы — штоб не рыпаўся!

Грыбок, узрадавана кіўнуўшы, пайшоў хутчэй. Ён яшчэ раз трывожна азірнуўся, калі бандыт свіснуў, але свіст гэта быў не да Ахрэма. Хрыпаты, напэўна, клікаў другога, які сцярог хату, — той адразу рушыў на яго свіст.

Грыбок асцярожна прытуліўся да плота, даў дарогу. Толькі схаваўшыся за дзвярамі ў сенцах, шаргануўшы засаўкаю, ён адчуў сябе вальней. Але спакою не было і тут.

Жонка драмала, як бы нічога і не здарылася. Кладучыся побач, ледзь стрымліваючы дрыготку, ён штурхнуў з папрокам:

— Спіш!..

— А?.. Што?.. Што табе?..

Грыбок, увесь напоўнены нядаўна перажытым, не адказаў.

— Накіраваў куды іх? — пазяхнула жонка.

— Накіраваў!.. Тут ледзь самога не накіравалі... На той свет!..

— Што ты пляцеш!

— Тое, што чуеш!.. Прападзі ты пропадам, такая жжытка!
— Чаго ж ён?.. Упаўнаважаны еты?
— Упаўнаважаны. Такія ж яны ўпаўнаважаныя, як я... Кеб іх зямля не насіла!
— Хто ж то?
— Маслакі!
— А! — са страхам ускрыкнула жонка.

Зачыніўшы дзверы, Ганна момант пастаяла ў сенцах, прыслухоўваючыся да таго, што адбываецца між бандытамі і Васілём. Але гаворкі іх яна не магла разабраць. Паспрабавала ўгледзець іх у шчылінку каля дзвярэй — не было відаць.

Яна ўбегла ў хату, зірнула ў акно. У змроку ледзь разабрала — Васіля павялі наперадзе, а самі драпежнымі ценямі панура пацягнуліся ўслед. Пайшлі не на вуліцу, а кудысьці на прыгуменні.

Божа мой, што яны хочуць з ім зрабіць! Яна тут жа апаліла сябе папрокам: як яна магла паслухацца гэтай хэўры, адысці, пакінуць яго аднаго!

Ганна кінулася ўжо да парога, але спынілася. У цёплай цішыні чулася роўнае, лёгкае дыханне Хведзькі ды стомлены бацькаў сон. Ганна нахілілася над ложкам.

— Тато... Тато...

Мачыха нездаволена павярнулася.

— Чаго табе?
— Бандзіты! Маслак!

Сон ад бацькі ўраз зляцеў.

— Васіля на прыгуменне павялі!..
— А Божа! — спалохана перахрысцілася мачыха.

Хацела сказаць пра дзядзьку Ахрэма, але стрымалася: ён быў братам нябожчыцы маці, мачыха вельмі не любіла яго.

Калі бацька стаяў каля акна, прыглядаючыся да постаці, што тырчала зусім блізка за плотам, Ганна амаль з адчаем, хапаючыся, думала, што рабіць, чым памагчы яму, любаму Васільку. За трывогай пра Васіля яна неяк мала думала пра дзядзьку.

— Іх тут мало. Усяго чалавек пяць...
— З вінтоўкамі? — запытаў бацька.
— З абрэзамі... — Ганну таміла яго павольнасць, марудлівы, маўклівы роздум. — Людзей трэба апавясціць! — нецярпліва прамовіла яна.

Бацька зноў азірнуўся на акно, за якім цямнела поле.

— Як?
— Я сюды, етым акном — на агарод... На вуліцу...

— Здурнела! — жахнулася мачыха. — Ды ён жа цябе з вінтоўкі ўмэнт!

— Не прыкмеціць ён.

— Загубіць захацела ўсіх! Калі сваёй галавы не шкода, то падумала б хоць пра бацькаву! Пра Хведзьку падумала б!

— А вы б пра Васіля падумалі! — у голасе Ганны захліпаў плач.

— Нічога з ім не станецца, з Васілём тваім!

Ганна ступіла крок да акна, але мачыха кінулася наўперад яе, раскінула рукі.

— Не пушчу!.. Цімох! — крыкнула яна бацьку на падмогу. — Ты, ты што ж стаіш, як ёлапень! Не бачыш!

— Не трэба! — мякка сказаў Ганне бацька. — Не зробяць яму нічога...

— Не зробяць!..

Ганна, душачыся слязьмі крыўды і роспачы, адышла ад мачыхі, апусцілася на лаўку. Трывога за Васіля, за дзядзьку Ахрэма, аднак, хутка высушыла яе слёзы. Яна востра ўслухоўвалася ў цішыню сяла, чула зацяты сабачы брэх у баку прыгуменняў, з даўкім неспакоем, са страхам чакала, што восьвось грукне стрэл, але і на прыгуменнях і ў сяле было ціха. Ні аднаго падазронага гуку не ўлавіла Ганна.

— Спяць, скажы ты, усе, як проса прадаўшы... — здзівіўся ўголас бацька.

— Хто спіць, а хто сядзіць ды не дыша, — адгукнулася мачыха. Яна з асцярогай ступіла да акна ў поле. — Стаіць, як тое пудзіло!..

Потым Ганна пачула непадалёк ціхі свіст. Яна насцярожылася і ўзрадавалася — ценьпудзіла, што тырчаў за плотам, пацягнуўся ад хаты.

— Пайшоў, — з палёгкай адзначыў і бацька.

Постаць хутка знікла ў змроку поля. Ганна ўстала, моўчкі падалася ў сенцы.

— Ты куды? — пачула яна за сабою голас мачыхі.

— Туды ж!.. Пагляджу пайду.

— Зноў! Сама на ражон лезе!..

— Не чапай! — уступіўся бацька.

У сенцах Ганна асцярожна адчыніла дзверы, выглянула. Навокал было ціха, але цішыня гэта не толькі не супакойвала, а нават як бы насцярожвала. Сыходзячы з ганка, Ганна мімаволі ўслухоўвалася, баялася вокрыку. Тулячыся да сцяны, хутка перабегла за рог хаты і толькі тут на міг агледзелася — ці не

цямнее дзенебудзь постаць. Было паранейшаму ціха, ніхто не стаяў на дарозе. І яна, ужо не азіраючыся, не слухаючы нічога, пералазячы платы, напрасткі цераз мокрыя, паасенняму голыя агароды паляцела да Васілёвага селішча.

На яго двары ад павеці, што страшна чарнела пустатой, Ганна пайшла цішэй. У грудзях зашчымела ад нядобрага прадчування: з Васілём нешта здарылася! Яна баялася ўявіць сабе, што з ім, адганяла прыкрыя думкі, няясныя, няпэўныя — нешта нядобрае, сама спрачалася з сабою, супакойвала, але страх за Васіля браў яе ўсё мацней. З гэтым страхам яна зноў папракала сябе, што адышла, пакінула аднаго ў такі час!..

Дробна, нецярпліва зазвінела шыбка пад яе пальцамі.

— Цётко Алена!

Чакаць, здавалася, прыйшлося цэлы век. Яна прытулілася лбом да халоднага шкла, старалася ўгледзець, што там у хаце. Было цёмна, не разабраць нічога. Нарэшце хтосьці падышоў да акна, пачуўся голас старога Дзяніса:

— Хто там ні свет ні зара?

— Ето я. Ганна Цімахова.

Ведала ўжо, што Васіля дома няма, пахаладзела, але выціснула:

— Васіля няма?

За шыбай мільгануў устрывожаны твар яго маці.

— Васіля?!

Праз момант адчыніліся дзверы.

— Я ж думала!.. Ён жа да цябе...

— Мы стаялі каля нашай хаты... Толькі вы не бойцеся. Шчэ нічога невядома...

— Ой, што ты кажаш, Ганулі!..

На ганак выйшаў стары Дзяніс, закашляў.

— Мы стаялі, як раптам падышлі два чалавекі. З маслакоў, аказалася!..

— Бандзіты?!

— Павялі яго з сабою. Мяне прагналі, а яго павялі...

— Божачко мой! — жахнулася маці.

— Яны нешто пра дзядзьку Ахрэма пыталіся... Дак Васіля, мабуць, і пагналі, каб паказаў...

— Ахрэма, кажаш? — адгукнуўся дзед. — Нашто Ахрэм спатрэбіўся?

— Не сказалі.

— Не на добрае, ведамо... — з роздумам прамовіў дзед.

— Божачко ж! — паківала галавой цётка Алена, і невядома было, аб кім цяпер гэты яе непакой: аб адным сыне ці і аб Ахрэме.

Толькі тут раптам уразумела Ганна ўсю прычыну такой трывогі. Не, не аб адным жыцці яго яна непакоілася. Калі ён паслухаецца іх, пакажа, яго адпусцяць, мусіць. Але няўжо ён пакажа, прывядзе бяду к дзядзьку Ахрэму?

Калі ён пакажа, ён усё роўна як стане заадно з імі! Памагаты іх! Ці засудзяць яго, ці не засудзяць — яна пра гэта не думала, — ён пасобіць, можа загубіць чалавека! Злачынец будзе!

Нене! Ён не зробіць гэтага! Не павінен зрабіць! Не стане іх хаўруснікам, няхай і не з ахвоты! Ён — смелы, вунь як заступаўся за яе... Але ж тады яны могуць учыніць над ім Бог ведае што! Не ўчыняць!.. Хутчэй за ўсё — ён ці ўцячэ, ці ашукае іх... Пакажа кагонебудзь другога...

Васілёва маці збегала ў хату, вярнулася, завязваючы хустку. Ганна зразумела, што яна хоча рабіць, папрасіла:

— Не хадзіце вы!.. Я пайду пашукаю! Шчэ, чаго добраго, яны тырчаць дзенебудзь, хэўра етая!

— Не, я пайду! Не магу я!.. Боязно нешто за яго...

Дзед Дзяніс патупаў на вуліцу, а яны падаліся пад прыгуменне. Ледзь толькі выйшлі за хлявы, убачылі постаць, што ціха сунулася па разоры насустрач.

— Васіль?! — узрадавана заспяшалася маці. — Жывы!

Ён адказаў не адразу, неахвотна:

— Цэлы!..

Ганна па яго насцярожанасці, па голасу яго здагадалася, што было з ім. Але яшчэ не хацелася верыць, калі запыталася:

— Што там... з Ахрэмам?

— Не буў там... Жывы, мабуць...

Цяпер яна ўжо не сумнявалася. Завёў. Паказаў. Памог ім, бандытам. І Ганна пачула, як спагада і пяшчота да Васіля быццам выветрыліся з яе. Здалося раптам, нібы не Васіль, а нехта іншы, незнаёмы, чужы стаіць. З крыўдай, як няшчасная, не развітваючыся, падалася цераз агароды ў свой бок.

Ён неўзабаве кінуўся за ёй, здагнаў, ухапіў за руку, хацеў штосьці сказаць.

— Ганна!..

Яна спакойна, але рашуча вырвала руку, прамовіла непрыхільна:

— Адыдзі!..

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

Ісціна, што няма нічога тайнага, якое не зрабілася б яўным, была вядома куранёўцам, мусіць, больш за ўсякую іншую. Яшчэ напалоханы Грыбок нікому, акрамя сваёй жонкі, і слова не сказаў, маўчалі ўсхваляваныя кожны пасвойму Ганна і Васіль, а погаласка пра начную падзею плыла па вёсцы ад хаты да хаты, ад калодзежа да калодзежа.

Чутка гэта, пераходзячы ад чалавека да чалавека, абрастала багатай, найбольш жаночай, куранёўскай фантазіяй, і пад вечар здарэнне разраслося так, што сэрцы не толькі малых, але і дарослых таміліся ў трывозе. Казалі, што бандытаў было не менш за сотню, а можа, і болей, і што быў там сам Маслак, і што Маслак казаў: калі яны, куранёўцы, будуць перадзельваць зямлю — не жыць ім, не бачыць дабра. Пасля гэтага звычайна ішлі здагадкі пра тое, што ж могуць зрабіць маслакі. Былі, вядома, сярод куранёўцаў і скептыкі, якія смяяліся з чутак, даводзілі, што ў іх дзевяноста дзевяць працэнтаў выдумкі, — скептыкаў у сяле жыло таксама нямала.

Як бы там ні было, у Куранях панавалі непакой і насцярожанасць...

Яшчэ ў той жа дзень, а можа, на другі ўранку, чутка перабралася цераз гразкую дарогу да цэнтра сельскага Савета, бо назаўтра апоўдні ў нязграбнай, доўгай, як хлеў, хаце куранёўскага грамацея Андрэя Дзятла, ці, як яго ўсе звалі ў сяле, — Рудога, сядзеў міліцыянер Шабета і высвятляў усе акалічнасці прыходу бандытаў.

Шабета быў выдатны, амаль легендарны чалавек. Звычайны міліцыянер, ён меў тут такі аўтарытэт, якога, мабыць, не было ні ў аднаго не толькі валаснога, але павятовага кіраўніка. Ён здзіўляў людзей у многіх вёсках рэдкай адвагай, адданасцю справе. Не раз і не два гразіліся яму бандыты, білі з абрэзаў, прастрэлілі каля локця левую руку, а Шабета бясстрашна, нястомна гайсаў на цярплівым коніку з сяла ў сяло, высвятляў, супакойваў, наводзіў парадак...

Першым Шабета выклікаў Грыбка. Ахрэм паявіўся ў хаце не адзін, а пад вартай сваёй сёння вельмі рашучай жонкі. Адаслаўшы на двор пасыльнага, плячысты, паўнацелы, здаровы, як асілак, Шабета, які перад гэтым з самым заклапочаным выглядам разбіраў нейкую паперку, халоднымі вачыма зірнуў на Грыбкову Адар'ю і загадаў:

— Грамадзянка, прашу выйсці...

— Чаму ето, выйсці?.. Ці я чужая? — Грыбчыха нават не варухнулася.

— Не паложано. Тут зараз будзе следствіе.

— Ну і няхай!..

— Не паложано, ясно?

— Ці ж ты не ведаеш мяне! — Грыбчыха гатова была абразіцца, але раптам перамяніла тон, відаць, падумаўшы, што так толькі ўзлуе яго. — Ведаеш жа, Антон, а так гаворыш!..

Яна сказала «ведаеш» і мякка, і з націскам, мабыць, напамінаючы пра тое, што некалькі разоў карміла яго абедам і нават закрашанай самагонкай частавала, пакляўшыся, што на кірмашы купіла.

— Не паложано, ясно?

— Я ж хачу памагці табе ў следстве етым, — падступіла з другога боку Адар'я.

— Самі разбяромся.

— Не разберацеся. Бо ён без мяне нічога вам не скажа! — ужо ўпарта, загараючыся, заявіла Грыбчыха. Яна штурхнула мужа. — Што ж ты маўчыш, як язык прыкусіўшы!

— Яна праўду кажа... — кінуў маўклівы, унураны Грыбок.

Шабета памаўчаў, быццам паказваў, што рашэнне гэтае не абыякое, і дазволіў застацца. Чорт з ёю, з гэтай упартай бабай, можа, і вартае яна кажа.

І праўда, Грыбок, напэўна, нічога не сказаў бы. Ён быў так прыгнечаны прыходам бандытаў і іх пагрозамі, што адразу, як толькі Шабета пачаў допыт, папрасіў:

— Ббратко! Пусці мяне... Я нічога не знаю...

— Як не знаеш? Прыходзілі яны да цябе?

— Прыходзілі...

— Колькі іх?

— Утраіх булі на дварэ... — адказала за Грыбка жонка.

— Былі між іх знаёмыя?.. Апазналі вы кагонебудзь?

— Не! — закруціў галавой Грыбок.

— Не пазнаў ён, — пацвердзіла Адар'я. — Бо цёмно. І два з тых бандзітаў стаялі моўчкі... Толькі я думаю, што без сваіх тут не абышлося. Я так думаю — адкуль яны ўведалі, што ў нас дзяліць землю хочуць? Само яно хіба дайшло да таго Маслака? Данёс нехто ж. Прыйшоў і сказаў! І, скажы ты, нядаўно ж там буў. Бо пра дзяльбу і гаворка пачалася колькі таго часу!..

— І, мусіць, нехта ж з такіх, якім не хочацца землеўпарадкавання, — дадаў Шабета.

— Ну, мусіць жа!..

— На каго вы падазраваеце? — мякка, шчыра падступіўся Шабета.

Вочы Грыбчыхі патухлі.

— Не буду Бога гнявіць, не знаю. А калі не бачыла, то і казаць няма чаго. Не схапіўшы за рукі, не злодзей...

— Хтосьці звязан з імі, факт. А хто? — не адступаў Шабета.

— Не буду казаць, не злавіла нікога... — Кінуўшы спасцярожлівы позірк на дзверы, наблізіўшы да Шабеты твар, ціха прамовіла: — Пра Дзятліка Васіля, каторы каля таго канца, кажуць — бы ён прывёў!.. Ён у той вечар сядзеў з Чарнушкавай Ганнай! — Яна адразу ж адсунулася і на ўсякі выпадак голасна заявіла: — Не бачыла нічога, не знаю!..

Даючы знак, што сказала ўсё, яна ўзнялася з услончыка, папрасіла:

— Толькі вы пра тое, што я казала... нікому!..

— Добра... — паабяцаў Шабета.

Можа, ніколі не было ў Ганны такой цяжкай, поўнай супярэчлівых пачуццяў размовы, як у гэты дзень з міліцыянерам. Яна не трывожылася за сябе, сумленне ў яе было чыстае, яна ведала, што паклікалі сюды за сведку. За Васіля трывожылася Ганна. І хоць Шабета спачатку і словам не ўспамінаў Васіля, дапытваючыся, якія былі бандыты, іх прыкметы, галасы, паводзіны, яна думала адно: зараз павінен будзе рашацца лёс Васіля. Што яна скажа міліцыянеру?

— Значыцца, у той вечар вы сядзелі з Дзятлам Васілём... — паслухаўшы яе, не запытаўся, а як бы паўтарыў Ганніны словы Шабета.

Ганна кіўнула.

— І вы нічога не чакалі, ні пра якіх бандытаў не думалі?.. А яны раптам падышлі і — проста да вас? Так адразу і падышлі! Як ето яны вас так адразу знайшлі?

— Не знаю... Мы там ужэ многа разоў былі...

— Дапусцім, што вас бачылі там не раз. Дапусцім, што на вас накіраваў хтонебудзь, хто хацеў сам застацца ў ценю...

Ганна з палёгкай адгукнулася:

— Я і сама так думала! Хтосьці паказаў, падвёў!.. Чужымі рукамі хацеў за гарачае ўзяцца!..

— Хто ето мог быць?

— Не знаю...

— Загадка... Туман... — задуменна прамовіў міліцыянер. Ён пільна паглядзеў на Ганну. — Е адна здагадка, і вельмі простая. Што Дзяцел Васіль... сам... чакаў іх!

— Ён? Ето дак выдумалі!..

— Ён, можа быць, сам назначыў сустрэчу ім!

Ганна ўскочыла ўражаная, абураная.

— Ён... Яны яго кеб трохі — прыстрэлілі б!.. Кеб яшчэ трохі, канец буў бы яму!.. А вы кажаце!..

— Але ж ён павёў іх?

— Я... не знаю, як і што патом було...

— Вы даўно ведаеце яго?

— Аладкі з зямлі разам ляпілі!.. Хаты ж — рукой падаць!.. — Ганна горача, парывіста дадала: — Няма ў яго нічога з тымі, з нелюдзямі! Я знаю! Паверце!.. Нічога няма!

Яна з непакоем, з надзеяй зірнула на Шабету, чакала, як прысуду, яго слоў. У грудзях яе не гасла спадзяванне — паверыць ёй, паверыць Васілю, бачыць жа, што не маніць яна...

— Ён нязлы... Добры ён...

— Усе добрыя, — недаверліва, непрыхільна прамовіў у адказ Шабета. — З каго толькі бандыты выходзяць...

Ён устаў, сагнутымі пальцамі цвёрда пастукаў па стале, пагрозна закончыў:

— Нічога, я дакапаюся! Выведу на чыстую ваду!

Выходзячы ад Шабеты, поўная вялікай трывогі за Васіля, які зноў зрабіўся самым дарагім у свеце, яна раптам на ганку ўбачыла яго самога. Ён сядзеў, нявесела схіліўшы галаву, мусіць, чакаючы сваёй чаргі да міліцыянера. У парыве пяшчоты, спачування, што ўмомант залілі ўсю яе, аддаўшыся гэтаму пачуццю, не помнячы нічога, ні аб чым не думаючы, нібы падхопленая хваляй, кінулася да Васіля.

Яна адразу ж абвяла, так няласкава зірнуў насустрач Васіль. Ён хутчэй адвярнуўся насцярожаным тварам і, як чалавек, гатовы на ўсё, рашуча пайшоў у сенцы.

— Са мной так жа само,—прамовіў пасыльны, Руды Андрэй, што курыў каля плота. — Ішоў, сядзеў, таскаць, усё маўчком... Думае нешто...

— Перажывае...

Ганна ціха сышла з ганка, падалася на вуліцу.

Шабета сустрэў Васіля, стоячы за сталом, пільна, хутка аглядваючы. У важкім, як бы непадступным Васілёвым позірку спадылба, зпад калматых, непаслухмяных пасмаў шорсткіх валасоў, ва ўсёй панурай постаці ў расхрыстанай зрэбнай сарочцы і зрэбных, у рудых плямах твані, штанах Шабета ўлавіў штосьці нядобрае, звераватае.

— Зброя е? — запытаўся Шабета такім тонам, які гаварыў, што жартачкі з ім паганыя.

— Чаго?

— Не дайшло! Зброя — абрэз ці наган — е?

— Няма...

«Твар які, чысто бандыцкі... — мімаволі прайшло ў галаве Шабеты. — Вочы — у такіх нічога не ўбачыш! Як за хмараю... І адно не падобна на другое. Зусім розныя! Як не ў аднаго чалавека. Адно нібы трохі сарамяжае, а другое, карае, звераватае, як у воўка...» У яго дзіўна расло недавер'е да гэтага панурага куранёўца.

— А што ў кішэні?

— Асялок...

— Дастань. Пакажы... Стой там!

Шабета пабачыў усяго за сваю службу, усялякіх нечаканасцей, таму стаяў напагатове. Гэта была ўжо прывычка чалавека, які ездзіць адзін і адзін адказвае за ўсё, за ўсе свае ўчынкі ў часам вельмі нечаканых абставінах. Асцярожнасць тут ніколі не лішяяя.

У руках у хлопца быў сапраўды звычайны асялок. Шабета загадаў падаць асялок, паклаў яго каля сябе, сеў.

— Нашто прынёс яго?

— Нож вастрыў... Забыўся пакласці...

Шабета знянацку ўдарыў пытаннем:

— Даўно ў лесе буў?

— У якім лесе?

— Не прыдурвайся! У бандзе?

Такая нечаканасць, грубаватасць была яго звычайным прыёмам, калі ён дапытваў падазроных. У такія моманты пільным вачам яго нярэдка многае адкрывалася. Гэты ж куранёвец вокам не міргнуў, толькі яшчэ больш набычыўся.

— Не буў я.

— І не вадзіў іх па начах?

Васіль маўчаў.

— Чаго не адказуваеш?

— Чаго ж... Знаеце ўжэ...

— Знаем. Усё знаем. І я раю не круціць дарэмно. Усё роўна нічога не будзе... Даўно з імі звязан?

— З кім?

— Ну, не паказвай дурня! З маслакоўцамі?

— Не знаю я іх...

— Як жа не знаеш, калі — вадзіў?!

— Табе б прыставілі абрэз...

— Нуну, ты мяне не бяры рукамі! Я табе не прыяцель, не твайго дзесятка!.. Знаю я такіх. Кажны, як толькі ў пастку ўшчэміцца, авечкай стаць хоча... Бач! — «наставілі абрэз»!

Васіль не пярэчыў. Чаго казаць попусту.

— Многа було іх?

— Пяць, здаецца...

— Здаецца!.. Хто буў, прозвішчы іх!

— Не нашы. Не знаёмыя...

— Скрыць хочаш? Думаеш на мякіне абвесці! Хто?

— Не нашы, кажу...

— Горай толькі сабе робіш! Круціць хочаш?

Васіль не сказаў нічога. Шабета нездаволена пабарабаніў аб стол.

— Пра што яны гаварылі?

— Нічога...

— Загадалі?... Наставілі абрэз — і ўсё?

Васіль кіўнуў.

Шабета больш не пытаўся. Узяўшы аловак з нагруднай кішэні выгаралай гімнасцёркі, ён падсунуў да сябе кавалачак жоўтай абгортачнай паперы і, паказваючы Васілю, што, як і раней, сочыць за ім, стаў штосьці пісаць. Грамацей ён, відаць, таксама быў невялікі, бо літары паяўляліся цяжка і крывыя, нязграбныя.

— Вот, падпішы пратакол! — падсунўў Шабета паперку Васілю.

Васіль узяў аловак, паслініў графіт, нахіліўся.

— Тут, пад нізам?

— Чаго ж бярэшся падпісваць не чытаўшы? — строга зірнуў на яго Шабета.

— Усё адно... Усё адно не разбяру...

— Няграматны?

— Амаль што...

— Як пратакол падпісуваць, дак няграматны, а як бандзітаў весці —навукі хапіла... Пратакол — ето следствія, з ізлажэннем маіх пытанняў і тваіх адказаў. Ясно?

— Ясно...

— Тут усё фактычно. Без круцяльні... Пачытаць мне, можа?

— Не трэба.

— Парадак такі... Ну, ладно — падпісувай!

Падпісаўшы, Васіль з палёгкай устаў. Надакучыла яму гэта гаворка, ды і спяшаўся ён дакончыць перарваную справу, таму і задаволен быў, што, падпісаўшы, нарэшце, адбыў усё.

— Куды? — спыніў яго Шабета. Ён таксама ўстаў.

Васіль не адразу зразумеў значэнне Шабетавага пытання, адказаў спакойна:

— Дадому.

— Пачакай.

Тон яго здзівіў Васіля, гэта быў ужо загад. Шабета заступіў яму дарогу, згінам пальцаў цвёрда пастукаў па аконнай раме. На гэты яго стук з двара неўзабаве павольна ўвайшоў Андрэй Руды.

— Давай зараз да яго, — Шабета кіўнуў Андрэю Рудому на Васіля, — і скажы... Хто там у яго дома?

— Дзед е, таскаць, Дзяніс. Матка...

— Скажы матцы яго, штоб прынесла адзецца... — Шабета зірнуў на босыя, з попельнымі плямамі падсохлай гразі Васілёвы ногі. — Абутак якінебудзь. І харчоў торбу.

— Харчоў? — адгукнуўся Андрэй Руды і падтуліў губы: вунь яно што! Ён нейкім дзіўным позіркам агледзеў Васіля.

— Харчоў. І кеб хутко!

— Як умею... Эх, — Руды нявесела пачухаў патыліцу.

Калі ён выйшаў, Шабета, не адыходзячы ад дзвярэй, загадаў хлопцу сесці. Васіль не паслухаўся, спадылба з ваўкаватай насцярожанасцю зірнуў на Шабету. У вачах яго яшчэ было сумненне — а можа, гэта ўсяго выдумка?

— Ну, чаго ўпяўся? — нядобра прамовіў Шабета. — Бегці, можа, думаеш?!

— Не... — Васіль раптам спалохана, неяк падзіцячы запытаў: — Куды ето мяне?

— У Юравічы пойдзеш.

— У... у цюрму?

— Пад стражу.

— А... — Васіль адразу патух, сеў.

Шабета пільна зірнуў на яго, як бы вывучаючы. Але з таго, як Васіль трымаў сябе цяпер, цяжка было вывесці штонебудзь пэўнае, такая скрытная была ў гэты момант душа яго. Ні баязні, ні шкадавання, ні якойнебудзь надзеі ці просьбы аб літасці — нічога не адбівалася на яго, здавалася, безуважным, халадна застылым твары.

«Як скамянеў, — падумаў Шабета. — Вокам не міргне... Ну і тып, мабуць...»

— Уцякаць не спробуй, калі жыць не надакучыло, — на ўсякі выпадак прыгразіўся ён. — Ад мяне яшчэ ніхто не вылузваўся. Не было такіх здарэнняў!..

Васіль не адказаў. З той хвіліны, калі ён даведаўся, што дадому ўжо не вярнуцца, калі развеяліся такія ўпартыя надзеі, што шчасліва ўсё кончыцца, у душы яго сапраўды нібы ўсё звяла і скамянела. У гэты цяжкі ў яго жыцці момант, калі яму трэба было б, здавалася, бедаваць аб няшчасці, аб ганьбе, якія так бязлітасна блыталі яго надзеі, ён, дзіўна, ні аб чым не думаў, нічога не шкадаваў, у анямелай душы яго была важкая і жорсткая спусцеласць.

Свет быў для яго цяпер напоўнен толькі чужымі, абыякавымі людзьмі, і ён сярод іх жыў адзінокі, такі ж абыякавы, як і яны, і яму не шкада было нікога з іх, і ніхто з іх не хваляваў яго. Нават тое, што недзе там дома маці, напэўна, у слязах, ніяк не абыходзіла яму. Ніщто не выбівала Васіля з цяперашняй жорсткай безуважнасці.

Маці ўбегла задыханая, перапалоханая. Васіль пазнаў яе крокі, яшчэ калі яна была ў сенцах, але не варухнуўся, хмурна, унураны ў сябе сядзеў і тады, калі матка, выпусціўшы з рук мяшок і лапці, з жаллівымі прыгаворкамі, з лямантам кінулася да яго, прагна, трывожна прытуліла:

— Васілёчак, каласочак, сынку мой... Куды ж цябе, за што ж цябе, за якія грахі, дзяцінаку маю...

Васіль холадна, з ранейшым безуважным выглядам адвёў маці ад сябе.

— За што яго бяром, табе б, маці, лепей ведаць, — цвёрда адгукнуўся Шабета. Ён дзелавіта запытаў: — Усё прынеслі?

— Усё, што загадано, — адказаў Руды, які са світай цераз руку сумна стаяў каля дзвярэй.

— Усё, — кіўнула і маці, стрымліваючы галашэнне.

— Дайце яму.

Яна падняла з падлогі лапці і мяшок. Калі Васіль стаў накручваць парыжэлыя анучы, замотваць аборы, ціха назірала і толькі сутаргава хліпала, выціраючы вочы вялікімі патрэсканымі пальцамі. Калі ён абуўся, пачала гаварыць, што паклала яму ў торбу: булку хлеба, гуркоў, — але Васіль, не даслухаўшы, пайшоў да Андрэя Рудога, узяў світу.

— Можна було б тую, у якой рабіў, — прамовіў Васіль, надзяваючы світу напашкі. — Не ў сваты, кеб у новай...

Гэта было ўсё, што ён сказаў тут.

— Тая ж — як сіто, сыночак. Уся ў дзірках...

Васіль кінуў позірк на міліцыянера, чакаючы каманды. Калі ж Шабета, перакінуўшы сумку цераз плячо, даў загад выходзіць і Васіль спакойна рушыў, маці зноў прыпала да сына, поўная гора, адчаю, забедавала:

— А мой жа ты дубочак, месячык ты мой залаценькі.. А як жа ты адзін!..

«Ну, от, няможно ёй без етаго!» — нездаволена нахмурыўся Васіль. Маці заўважыла, як бы прачытала гэты яго папрок і крыху прыціхла.

— Раней трэба було плакаць, — адгукнуўся Шабета ўжо на двары. — Як гадавала. Вучыць трэба було, каб жыў чэсно...

Шабета, не выпускаючы зпад свае ўвагі Васіля, адвязаў ад дручковага плота гнядога коніка, аж да сядла абляпанага гразёю.

— Ну, давай, ідзі! — загадаў Шабета.

Васіль на міг як бы прачнуўся, зірнуў на маці пяшчотна, са шкадаваннем — як яна тут адна са старым ды малым упраўляцца будзе! Адчуваючы, як усярэдзіне нешта чула, квола затрымцела, сказаў ёй:

— Мамо, астаньцеся тут!

Яна, душачыся слязьмі, кіўнула.

Ідучы вуліцаю, Васіль бачыў: людзі стаялі каля варот, ліплі да вокан. Ішоў ён зноў абыякавы да ўсяго, з нерухомым, застылым тварам, нікога нібы не пазнаючы, не даючы нікому ўвагі. На вуліцы было гразка, ногі глыбока ўлазілі ў гушчу. Трэба было брацца бліжэй да плота, сцежачкаю, але ён не бярогся, ступаў напрасткі.

Праходзячы паўз свой дом, заўважыў дзеда Дзяніса без світы, без шапкі, Валодзьку, які глядзеў цікаўна, весела нават, але не падаў знаку. Усё было як у тумане, як выдумка, у якую самому яшчэ быццам не верылася. Несапраўдным быццам было ўсё: і гэта вуліца, і гразь, і ён, арыштант, і Шабета, які следам цярпліва цягнецца, ведучы на повадзе каня, і нават дзед...

Толькі адно жыло, хвалявала Васіля — Ганна. Як ні быў прыгнечаны, абыякавы, здавалася, да ўсяго, яшчэ здалёк заўважыў неспакойную яе постаць. Трымаючыся за слупок адчыненых веснічак, Ганна глядзела на Васіля, нецярпліва чакала. І дзіўнае сталася з Васілём — хоць і сам чакаў яе, нібы назло сабе, прагнуў апошні раз, на развітанне, зірнуць, адчуў, як падступіла да грудзей гаркота, насцярожаная непрыхільнасць. «Стаіць, выйшла паглядзець — знайшла дзіво! Мала, што другія глядзяць!» Успомнілася яе непрыязнае: «Адыдзі!» — і бровы нядобра, самалюбна ссунуліся, вочы адарваліся ад яе,

утаропіліся ў халодную гразь, што паўзла пад ногі. Так і падыходзіў, не зірнуўшы больш на яе, поўнячыся ўпартай помслівай непрыхільнасцю.

— Васіль!.. — адарвалася Ганна ад веснічак насустрач.

Ён толькі на момант прыпыніўся, зірнуў на яе і адразу ж схамянуўся, важка пацёгся далей.

— Васіль... не вінавата я!..

Васіль не азірнуўся, не адказаў, быццам не чуў. Ганна прайшла трохі ўслед, адстала. Моўчкі, час ад часу асклізваючыся, мясіў гразь ён, цёгся за сяло, дзе была гіблая дарога цераз балота, невядомасць.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Адразу пасля таго, як Васіль прайшоў, Ганна падалася ў двор. Ёй, чужой дзяўчыне, нядобра было не тое што ісці за хлопцам, але і глядзець доўга ўслед яму, у Куранях лічылася гэта за вялікі грэх для дзяўчыны. Амаль палавіна вёскі была на вуліцы, сачыла за Васілём і, значыцца, за Ганнаю, і Ганне трэба было асабліва трымацца няпісанага, але неадменнага закону.

Яна ўжо і так парушыла гэты закон, сама падышоўшы да Васіля, парушыла на стольexpress людскіх вачах, цяпер трэба было як бы павініцца перад людзьмі, паказаць, што яна не абыхто, што яна шануе сваю славу, людзей і людскія звычаі. І яна ішла дахаты, з выгляду спакойная, паважная, ішла так, як і належала ёй ісці. Ні разу не азірнулася, нават не паглядзела, куды яго павялі. І трэба сказаць, Ганне цяпер і не хацелася ні ісці за Васілём, ні глядзець услед. Ён так абышоўся з ёю, так адказаў на яе шчырасць — зняважыў перад усёй вёскай. Ідучы дваром, яна першы час несла ў сабе толькі крыўду.

Мачыха была ў хаце, замешвала парасятам, і Ганна падумала: добра, што яна хоць на вуліцы не стаяла, не бачыла. Мачыха сцерла з паружавелых рук naліплыя бульбяныя камы, выпрасталася, кінула Ганне як загад:

— Занясі от...

Але, калі Ганна ўзяла цэбар, не ўтрывала, неспадзеўкі папракнула:

— І не сорам!.. Віснуць на хлопцы, пры людзях!

«Бачыла ўсёткі. У акно ўгледзела!.. Кеб яна ды прапусціла што!..»

— Хто — вісне? Скажаце!..

— Бачыла!.. І ён, ён — добры! Адвярнуўся, гаварыць не стаў!.. Пан які ганарысты!..

Ганна хутчэй зачыніла дзверы за сабой — і без таго маркотна, хоць ты плач.

Накарміўшы парасят, стала ў роздуме каля хлява, не ведала, куды ісці. Вяртацца ў хату не хацелася, ведала, што там зноў чакаюць мачышыны папрокі. Зірнула ў бок гумна: бацька быў ці ў гумне, ці недзе поблізу, бо вароты былі адчынены.

Убачыла бацьку на таку — горбіўся наўколенцах у зрэбнай запатнелай сарочцы, з асцюкамі ў радкаватых, пабітых ніткамі сівізны валасах, шырока, мерна размахваючы лапаткай, веяў жыта. Мякіна і пустое калоссе злятаі на дол амаль каля яго кален, зерне ж ляцела вясёлым і пругкім залацістым струменем, з шорхатам асыпалася на даўгаватую, раскідзістую горку. Бацька быў стомлены, зірнуў на Ганну моўчкі, абыякава, ні на момант не прыпыніўся — чэрпаў і чэрпаў лапаткай, мерна кідаў ёю на горку пасярэдзіне тока.

Нічога не пытаючыся, Ганна ўзялася памагаць яму — адграбла к застаронку мякіну, акуратна прыбрала акалот, падмяла, дзе можна было, ток. У клопаце гэтым, у халаднаватай цішыні гумна, угары якога толькі разпораз цвіркалі вераб'і, яна на нейкі час забыла пра сваю крыўду і скруху. Бацька, добры, ціхі бацька, ён таксама, здаецца, супакойваў яе сваёй стомленай, як бы непадуладнай ніякаму смутку пастаццю. У гэтыя хвіліны супакаення Ганне падумалася, што і яе крыўда, і нават Васілёва бяда — не такія ўжо страшныя, як ёй здалося. Васіля, вядома, не забяруць. «Давядуць да Алешнікаў, так, абы пастрашыць, штоб іншым была навука, ды і пусцяць... Ну, можа, прыгрозяць, кеб другі раз не вадзіў, мо возьмуць слова, што ніколі з бандзюкамі знацца не будзе... Разбяруцца, што не вінаваты ён сам па сабе. Пусцяць!..» А тады — няхай толькі вернецца, яна яму пакажа! Ой, як пакажа, як папомніць зло — прыйдзецца яму папахадзіць за ёй, папамаліць, каб забыла ды даравала крыўду. Не даруе яна зняваги так проста, век напамінаць будзе, аж закаецца ён...

Непрыкметна ў гумно ўпаўзлі поцемкі, але бацька не ўставаў з тока, хацеў, мусіць, давеяць усё. Толькі крыху не давеяў, поцемкі хутка пагусцелі, і ён паслухаў Ганну, паклаў лапатку, неахвотна падняўся.

— Мало ж і не ўправіўся, грэц яму... Жменя якая... — прамовіў ён са шкадаваннем.

— Заўтра кончыце... Не ўцячэ яно... — супакоіла Ганна.

— Не ўцячэ. Але неяк шкода кідаць не кончыўшы...

Ён адчыніў шырэй вароты, каб у гумне пасвятлела, і дастаў мяшок. У змроку яны ссыпалі, што было павеяна. Бацька хацеў яшчэ наўздагад падмесці ток, калі прыбег Хведзька і аб'явіў:

— Трэба есці зараз! Мамо кажа, картопля прастыне!

— Зараз ідзем!

Бацька стаў моўчкі збірацца — узяў з застаронка шапку, світу, выйшаў на прыгуменне, зарыпеў варотамі.

Вячэраючы, Ганна спасцярожліва паглядвала на мачыху, чакала, што тая восьвось зноў пачне гаворку пра Васіля. І праўда, мачыха нядоўга маўчала — як бы між іншым, паведаміла:

— Васіля Дзятліка забралі...

Бацька толькі скоса зірнуў на Ганну. І не сказаў нічога.

— Шабета павёў. У Алешнікі... — паспрабавала завязаць гаворку мачыха, але і на гэты раз Чарнушка прамаўчаў, і яна змоўкла. Ганне на момант стала лягчэй.

Усё ж яна не была ўпэўнена, што мачыха зноў не вернецца да горкай падзеі, — сядзець за сталом Ганне было неспакойна. Хутчэй павячэраўшы, яна, хапаючыся, перахрысцілася на абразы, устала, не пераадзяваючыся, падалася да дзвярэй.

— Ты куды? — перапыніла яе мачыха.

— Нікуды. На вуліцу, пагляджу...

— Не прыйшоў ён.

— А я — не да яго.

Бразнула клямкаю, выскачыла на двор і, чуйная, пільная, з такім адчуваннем, быццам за ёй сочаць, пайшла на вуліцу. Знарок старалася не глядзець у той бок, дзе іх плот, дзе ўчора стаялі, гнала ад сябе неадступную думку: а можа, ён там, можа, прыйшоў? У ёй невядома чаму жыла, не адступалася ўпартая ўпэўненасць: ён — там, ён прыйшоў, выглядае. Яна мімаволі чакала яго воклічу і думала, рыхтавала яму адплату за крыўдную знявагу перад людзьмі.

Як ні прымушала сябе не азірацца на плот — не ўтрывала, глянула. Там нікога не было!

Яна, аднак, прагнала трывогу: гэта яшчэ нічога не значыць. Васіль мог проста не ўправіцца прыйсці. Ён і ў іншыя дні, бывала, пазніўся, а тут жа такая прыгода — конь не кормлены, гаспадарка не дагледжана. Калі выйшла на вуліцу, падумала: «К Хадосьцы пайду», — падумала, хочучы пабачыць не Ха-

доську, а Васілёў двор, Васілёву хату, Васіля. Ёй здавалася, што пабачыць Васіля ёй хочацца не таму, што сумуе, трывожыцца па ім, а проста каб пераканацца, што ён дома.

На Васілёвым двары было ціха, пуста, сумна. Сумнай выглядала і хата, што маўкліва чарнела ў змроку, — ні гаворкі ў ёй, ні святла ў вокнах. Хоць не бачыла, што там у хаце, яна здалася нежылою, нібы ні душы ў ёй.

Ганна ўспомніла Валодзьку: вось хто мог бы памагчы. Пабачыць бы зараз яго, даведацца пра Васіля. Звычайна, калі не трэба, Валодзька многа разоў на дзень трапляўся на вочы, цэлымі днямі ў іх, Чарнушкаў, у хаце або на двары з Хведзькам гуляў. Цяпер жа — нібы знарок — не відаць, не чуваць яго. Можа, хіба Хведзьку пайсці папрасіць, каб паклікаў? Яна ўжо намерылася вярнуцца дамоў, пабачыць Хведзьку, але адразу ж адагнала гэту думку: зноў трэба будзе бачыцца з мачыхаю. Да таго ж, мачыха наўрад ці дазволіць Хведзьку ў такі час пайсці кудынебудзь. А калі і дазволіць, то, не інакш, будзе дапытвацца, дазнаецца ад Хведзькі, аб чым яна просіць. Гэтага Ганна баялася больш за ўсё. Усё, што было ў Ганны з Васілём, іх начныя гамонкі каля плота, думкімары і думкітрывогі — усё сарамліва, насцярожана берагла яна ў сабе як дарагую, чыстую таямніцу. Гэтую таямніцу не павінен быў ведаць ніхто, тым больш мачыха. Тое, што адбылося ўдзень, калі яна знянацку выказала таямніцу ўсяму сялу, яшчэ больш насцярожвала яе.

Успамін пра апошні, злы Васілёў позірк зноў затушыў агеньчык у сэрцы, вярнуў ёй горыч неперажытай крыўды. З крыўдай гэтай і з важкай, поўнай нядобрага прадчування трывогай яна пайшла да Хадоські.

У Хадосьчынай хаце на шыбе варушыліся глянцавітыя водсветы ад агню, што палаў у печы. Ганна прытулілася тварам да шыбы, стараючыся ўбачыць сяброўку, гукнула:

— Хадоська!

На голас яе ад печы насунуўся цень, пачуўся матчын адказ:

— Няма яе... Хто ето? Ганна?

— Аге, я... А дзе яна?

— Хто ж бо яе знае! Гуляць кудысь падалася...

Ісці шукаць Хадосю ў вясёлых дзявочых гуртах, што там і тут гаманілі, смяяліся на прызбах, на калодах каля платоў, Ганне не хацелася — апошнімі днямі яны з Васілём мала былі на зборах дзяўчат і хлопцаў, і яе прыходу, напэўна, вельмі здзівяцца. Пачнуць, мабыць, шаптацца між сабой, гаварыць пра

Васіля. Калі ж ён не вярнуўся, злыя языкі без літасці асудзяць: не ўправіліся хлопца звесці з сяла, як яна ўжо ў гурт з'явілася!

Ат, няхай гавораць, што хочуць, чалавеку рота не залепіш, калі язык свярбіць. Толькі ж — хіба ёй абавязкова слухаць усіх, мала што каму прыйдзе на язык! Ці ж ёй так і марнець адной, таміцца невядомасцю, гадаць па зорках, што там з Васілём? Адной быць з трывогай аб ім і крыўдайганьбай, якую ні забыць, ні задушыць? Што ж, калі праўду казаць, то і ідзе яна не да хлопца якога, каторыя ёй цяпер проста ненавісныя, а да сяброўкі сваёй. Адразу, як знойдзе Хадоську, яна пакліча яе з сабою, і абедзве пойдуць з гурту — тут можна будзе і даведацца аб усім, што непакоіць...

Хлопцы і дзяўчаты гаманілі ў цемры зусім недалёка на бярвеннях, складзеных перад Грыбковай хатай. Ганна сказала «добры вечар» знарок абыякава і, як бы загадзя папярэджваючы непатрэбную гамонку, з такім выглядам, нібы зайшла не так сабе, нібы спяшаецца, заклапочана запыталася:

— Хадоські тут няма?

У Куранях было некалькі дзяўчат Хадось, але Хадоськай звалі адну. Яе быццам выдзялялі з усіх гэтым лагодным, ласкавым імем.

Хадоська замест адказу радасна пазвала:

— Ой, Ануля! Хадзі сюды!

— Хадзі ты! Штосьці скажу табе!..

— Дак ты тут, ціхо! Хадзі!

Хтосьці з дзяўчат крыкнуў добразычліва:

— Пасядзі! Не грэбуй кампаніяй!..

— От, сказала: ці ж я калі грэбувала!..

— Ну дак пасядзі ў гурце!..

— Часу няма... — няцвёрда прамовіла Ганна. — Матка чакае...

Гарэзны хлапечы голас засмяяўся:

— Усіх нас маткі чакаюць!

Дзяўчаты зарагаталі. Пад гэты добры рогат Ганна падышла да Хадоські, села побач.

## 2

Дзяўчаты і хлопцы, што хвіліну назад бачылі і слухалі адну яе, цяпер ураз як бы забылі аб ёй, загаманілі кожны пра сваё. Ганна, адчуўшы, што за ёй ніхто асабліва не сочыць, ужо хацела

прытуліцца да Хадоські, запытацца аб тым, што трывожыла, калі Хадоська раптам горача абняла яе, голасам, поўным бязмежнага спачування і жалю, абпаліла:

— Бедная... Бедная ты мая, Ганулечка... Няшчасная...

«Значыцца, няма, не вярнуўся Васіль», — здагадалася Ганна і раптам зноў успомніла, як ён ішоў па вуліцы, не гледзячы ні на кога, дзікаваты, злосна мясіў гразь... Шабету ўспомніла з канём на повадзе, твары людзей, якія ўсё бачылі — Васілёву і яе ганьбу. Прыкрасць і жаль, сорам і боль зноў ажылі ў ёй, замуцілі свет... Чаму ўсё так сплялося?

— Забралі яго? — як бы не паверыла, ціха прашаптала Хадосьцы.

— Павезлі. У Юравічы, кажуць...

Ганна нічога больш не пыталася, нічога не гаварыла. Ёй не хацелася і думаць нічога — усё было такое незразумелае, блытанае. Доўгі час яна і не заўважала нічога навокал, не магла слухаць. Як бы праз туман, прайшлі праз яе смутную прыгнечанасць першыя словы, якія нечым кранулі ўвагу, прымусілі яе адгукнуцца.

— І цяпер калачуся, як успомню!.. — пачула Ганна. Яна мімаволі, нявесела стала слухаць. — Бацько сам едзе ні жывы ні мёртвы... Хрысціцца сам сабе... Губы сашчапіў, не варухне губамі... кеб той, крый Божа, не пазнаў, што малітву бацько робіць... не ўгнявіўся...

— Аб чым ето яна? — не зразумела Ганна.

— Ведзьмака сустрэлі, — ціха, з асцярогай прашаптала Хадоська, неспакойна азірнулася ў цемру, быццам баялася, што іх слухаюць. Яна перахрысцілася. — Не дай Бог, пачуе!..

Ганна зразумела яе страх, ведала, што ведзьмакі не любяць, калі іх так завуць, помсцяць за гэта. Ведзьмакі хочуць, каб іх звалі чараўнікамі.

— Чараўніка?! — здзівілася Ганна. — Якога? Што ў Хвоенцы?

— Аге ж.

— Усю дарогу калаціліся, — апавядала гарбатая Прося. — Як, скажыце, жывыя з лесу выбраліся!.. Лес той — то буў ціхі, а то зрабіўся страшны — гудзе, скуголіць, як на хаўтуры... А ў тым гудзе — чую — як бы костачкамі стукае мярцвяк... Ідзе, ідзе за намі, блізенько, рукой дастаць, і — стукае... Стукстук... Стукстук...

— Страхоцце якое! — жахнулася адна з дзяўчат.

— Мабуць, пачуў, што бацько моліцца... Ён і раней, мабуць, чуў, таму і злаваў, пужаў, стукаў костачкамі... А падысці баяўся, ці малітва не давала...

— Е такія малітвы, што як пачуе ён, дак як ліст затрасецца, — сказаў нехта тонам знаўцы. — Толькі трэ знаць яе, тую малітву... І казаць, не пужацца — хоць што! Бо ён, хоць і пужае, а баіцца яе... Не любіць — страх!..

— А конь — што?! — перабілі «знаўцу». — Ідзе сабе?

— Аге, ідзе! — адгукнулася Прося. — Ідзе!.. І ён сам не свой! Хістаецца, як п’яны, — як не падае. Вушы наставіў, грыву натапырыў і вачмі ўсё — зірк, зірк. А вочы — круглыя, перапуджаныя!.. Але, дзякуй Богу, — хоць хістаецца, а ідзе і ідзе! Толькі ён і выратаваў!.. А то б там і — канец наш!

— Добра шчэ, што па́мараку на каня не нагнаў, — зноў загаварыў «знаўца». — А то, бувае, як нагоніць чараўнік па́мараку , то конь ідзе і ідзе, ды толькі не туды, куды трэба. А то і так бувае: здаецца, ідзе, ідзе ён, а сам — на месцы!..

— Дзякуй Богу, што пачуў малітву! Пачуў і заступіўся!.. — сказала Хадоська.

Чысты хлапечы голас, у якім чуўся прытоены смех, раптам уварваўся ў ціхую гаворку дзіўна весела і звонка:

— Бог? А знаеце, дзе ён цяпер?

Ганна пазнала: пытаўся Хоня, павулічнаму — «Бацько і матка». Хадоська даверліва пацікавілася:

— Дзе?

— У Нароўлі ў воласці! За сакратара!

— Кеб табе язык адсох! За такія твае словы...

— Праўда — у Нароўлі! Бачылі яго! Ён, праўда, не прызнаецца, баіцца, кеб не прагналі з работы!.. Бо не пралетар сам!..

Хлопцу не далі дагаварыць — мусіць, нехта закрыў рот. Дзяўчаты абурана гаманілі, клялі адступнікаў ад Бога, ад якіх, казалі, усе няшчасці ў сяле. У гэтым гомане і Прося, якая расказвала пра сустрэчу з ведзьмаком, не адразу зноў заваявала ўвагу.

— Прыехалі... Паклаліся спаць... Бацько ўсё жагнаецца, ніяк супакоіцца не можа. І я — як гляну ў цемру — усё бачу яго: вочы, як тыя вугалі, зырчаць! Агнём!.. Страх!

— Прыйшла б да мяне ў павець, я супакоіў бы! — зноў уварваўся Хонеў голас.

Хлопцы зарагаталі. Зарагаталі куды больш дружна, чым тады, калі іх таварыш асмеліўся зачапіць Бога. Дзяўчаты, бясконца зняважаныя недалікатнай парадаю іхняй прыяцельцы, заступіліся за яе, пачалася вясёлая валтузня з няшчырымі па-

грозамі, з нязлоснымі дакорамі, між якіх былі чутны мяккія ўдары дзявочых рук па хлапечых спінах.

— Добры які аб'явіўся! — сказала Прося.

Дзяўчаты падтрымалі Просю кпінамі з хлопцаў і смехам. Але не апаў яшчэ гэты смех, як яго працяў такі прарэзлівы віск дзяўчыны, быццам ёй пусцілі за пазуху вужа.

— Аай! Дзевачкі! — За гэтым пачуўся часты пляскат рук па твары.

— Ну, ну, кабулка! Не брыкайся!..

— Ай!.. Памажыце!.. — Алена Зайчыкава аж заходзілася ад рогату. — Не шлакачы... чорт... паганы!.. Ой!.. Чуеш? Не лезь!..

— Пятро! Дзе ты ёй шлакочаш, што яна так смяецца?.. — пацікавіўся адзін з хлопцаў.

— У якім месцы? Бо мы не знаем!

— А ты ж знайшоў такое!

Ганна слухала гэтыя гарэзныя смешкі, спрэчкі, але ні разу, ніводным словам не адгукнулася на іх. Яна, звычайна і сама ахвочая да кпінспрэчак, задзірыстая, слухала цяпер, сачыла за ўсім так, як сочаць дарослыя за дзіцячай гульнёй. Бесклапотны смех як бы не даходзіў да яе, не кранаў душы.

Ганна была здаволена, калі ў хвіліну зацішку, які прыйшоў на змену рогату, Хадоська завяла:

Шумяць вербы ў канцы грэблі,
Што я пасадзіла...

Галасок яе быў нясмелы, кволы — здавалася, ён, лагодны, задуменнажурботны, з недарэчнай скаргайкрыўдай, восьвось патоне ў выбуху рогату, але хвіля за хвіляй ішлі, а ён не тануў. Ён, праўда, і не мацнеў, нейкі час усе маўчалі, як бы слухалічакалі, як бы не ведалі, не здагадваліся, пра што шумеліжаліліся вербы. Раптам скарга, якая на момант сціхла, прапала ў вячэрнім змроку, загучала зноў, але ўжо мацней, балючай, на многія галасы:

Няма таго міленького,
Што я палюбіла...

Ганна заспявала разам з усімі, заспявала звыкла, не думаючы асабліва пра словы песні, — даўнодаўно была знаёмая Ганне гэтая песня. Але не даспявала дзяўчына і першых слоў, як яе знянацку ўразіў новы, нязнаны сэнс іх, такі блізкі, такі балючы:

Няма таго міленького!

Абуджаныя гэтымі словамі сум, крыўда зноў ажылі, горкай хваляй падступіліся к горлу...

Няма яго, дай не будзе,
Паехаў ў Адэсу...

«Паехаў... Павялі ў Юравічы...» — Ганна ў вялікім наплыве журботы змоўкла, сціснула губы, слухала так, як бы гэта была і не песня, даўняя, чужая, а яе скруха, яе бяда. Калі яна маркотна далучылася да ўсіх, здалося, што не спявае яна, як раней, як усе, а нібы думае ўголас, гамоніць з сабою:

Плачце, вочы, плачце, кары, —
Така ваша доля.
Палюбіла казачэньку,
Пры месяцы стоя...

У гэты час перад гуртам дзяўчат і хлопцаў зацямнела некалькі постацей, і зухаваты, не ў меру радасны голас убіўся ў песню, перарваў яе.

— Хто тут каго палюбіў!

«Корч прыпёрся», — пазнала Ганна і раптам пачула, як усхвалявана трапеча прытуленае да яе Хадосьчына плячо.

— Яўхім! — шчаслівая, прашаптала Хадоська.

Другая постаць паздароўкалася далікатна, ветліва, і Ганна пазнала Яўхімавага брата Сцяпана, які вучыўся ў Юравічах у школе.

Сцяпан сціпла прысеў на бервяно, а Яўхім, схіліўшыся, стаў узірацца ў твары дзяўчат. Паказытаў адну, жартам звонка цмокнуў перад другой, абышоў, абгледзеў, хто сядзеў тут, спыніўся перад Хадоськай.

— А, Хадзюля! Канаплянка! — прамовіў ён весела, падсмейваючыся з яе твару, абсеянага, як канапляным насеннем, рабацінкамі.

— Якая е! — знарок непадступна строга адказала Хадоська, млеючы ад чакання.

Яўхім спакойна, упэўнена абняў яе за плечы і тады заўважыў побач Ганну. Ён выпусціў Хадоську, прамовіў стрымана:

— А, і Чарнушка тут! Прыйшла!

— Можа, папытацца трэ було?

— Пытацца няма чаго, месца хапае! Не цесно!.. Толькі ж даўно нешта не было відаць!

— А табе што, карцело?

— Па праўдзе сказаць, не дужа. — Ён зарагатаў.

Ганна, якую зачапіў гэты, здалося, нядобры рогат, заўважыла, што дзяўчаты і хлопцы прыціхлі і прыслухоўваюцца да іх. Яўхім усюды выклікаў да сябе ўвагу: відны быў хлопец, з норавам, паважалі і пабойваліся яго — мала хто з дзяўчат адважваўся пярэчыць. Ведалі ўсе, што і ў Ганны — характар, не саступіць. Маўчалі, чакалі, што будзе.

— А я цябе — дак з ранку да вечара выглядала! —лагодна, з прытоенай яхіднасцю сказала Ганна.

— Ну? Вот не знаў! — у тон ёй здзівіўся Яўхім.

— Шкада! Вельмі ж бо трэба було!..

— Няўжэ? Нашто?

— Вераб'і насядалі на жыто, кеб на іх немач! Пужаць не було каму!

— А Дзятлік — хіба не мог? — падчапіў Яўхім.

— Не баяліся яго! Чуб не такі!

Хтосьці з дзяўчат прыдушыў смех. Уцэліла Ганна! Лепш нельга было ўцэліць: Яўхім сваім чубам ганарыўся, фарсіў ім, чуб быў яму святой мужчынскай красою. І вось з красы гэтай — такі здзек!

Яўхім на момант як бы анямеў ад гэтай абразы. Усе чакалі, што ён выбухне злоснай лаянкай, можа ўдарыць Ганну, але ён нават не варухнуўся.

— Часу, пэўне, у Дзятліка не було, —сказаў ён як мог спакойна. — Ён жа ўсё па начах... То з дзеўкай, то — шчэ з кім!

Тут ужо Ганна не адразу знайшла, што адказаць.

— Шчэ невядома, ты з кім... — пачулі ўсе як бы пагрозу.

— Я — з такімі, як ён, не ваджуся. Я — з людзьмі.

— Людзі розныя бываюць!..

— Па загуменнях не хаджу!

Яўхім кінуў апошнія словы так, што ўсе адчулі: яму надакучыла гэтая нудная, непатрэбная гаворка. Ён зноў весела абхапіў рукамі Хадоську.

— Канаплянка! Мяккая ты, як булка Ёселева! — Яўхім зарагатаў.

— Шчэ што скажаш! — задаволена запярэчыла Хадоська.

— Магу і шчэ сказаць! Хочаш — скажу?

— А што?

— Хадзем ка мне ў свіран!

— Чаго ето? Сказаў!

— Просо таўкці!

Хлопцы засмяяліся. Хадоська паспрабавала вырвацца, але Яўхім не адпусціў яе, з лагодным дакорам сказаў, што не трэба ж быць такою ганарліваю. І пасмяяцца нельга — ён жа і не думаў крыўдзіць яе, проста язык з нуды пачасаць хацелася. Слухаючы яго добры, вінаваты шэпт, Хадоська перастала рвацца, пакорліва схіліла галаву.

— Я страх як не люблю, калі вы... чэшаце языкі... — ціха прамовіла яна. — Ахвота вам... паскудства ўсякае... казаць.

— Далікатная вельмі ты...

— Якая е!..

Хадоська зняла яго руку з плеч, але мякка, так, для прыліку, таму што так трэба было на людзях, такі быў звычай. Ганна адчувала, што Хадоська ўжо супакоілася, зноў сядзіць шчаслівая. Мімаволі, са здзіўленнем, з прыкрасцю думала: што яна, добрая, ласкавая «канаплянка», знайшла ў Карчу гэтым — аж млее, калі ён сядзіць побач! У ім жа нічога прывабнага, багацце хіба адно, бацькам нажытае, боты хромавыя з рыпам ды чуб! У гэты вечар, пасля спрэчкі з Яўхімам, Ганне нават яго хараство, упэўненасць, дасціпнасць здаваліся агіднымі.

Пасядзеўшы яшчэ, колькі трэба было, каб злыя языкі не сказалі, што яна паддалася, уцякла ад Яўхіма, Ганна ўстала. Успомніла, што гаварыла, калі прыходзіла ў гурт, спакойна прамовіла да Хадоські:

— Мабуць, ужэ заўтра пагаворым. Я прыйду ўвечары...

— Аге. Прыходзь, Ганулях...

Ганна, хоць і не глядзела ў той бок, дзе сядзелі прыяцелька і агідны Корч, заўважыла раптам, як Яўхім выпусціў Хадоську з абдымку, варухнуўся з нейкім намерам.

— Ты чаго ж адна?

— А мне і адной не пагано!

Яна знарок павольна, паважна пайшла з гурту. Ужо адышоўшы, пачула ўслед, як ён сказаў:

— Хлопцы, няўжэ ніхто не хоча правесці?..

Ёй здалася ў словах яго насмешка, хоць прамовіў ён здзіўлена і неспакойна. За гэтым Ганна пачула за сабой паспешлівы хлюпат ботаў па гразі, які ўмомант нагнаў яе. Хоць паранейшаму не глядзела на таго, хто ішоў побач, ведала, адчувала: гэта Яўхім. Ганна насцярожылася, падрыхтавалася да абароны, да любой неспадзеўкі, а ён ішоў і ішоў, маўклівы, ціхі, не дабіваўся нічога, нічога не гаварыў. Яе, аднак, гэта не супакойвала, яна чакала, што ён тоіць нешта незразумелае, хітрае...

— Гарачая ты, ейбо! — прамовіў Яўхім раптам лагодна. — Наравістая! Слово табе не скажы супроць!..

Ганна не адказала, ішла строгая, непадступная, паказвала гонар свой, але мацней за клопат аб гонары з’явілася цяпер у яе здзіўленне: гэта Яўхім так гаворыць з ёй? Так мякка, нават вінавата?..

«Так ён і Хадосьцы гаварыў! — знарок нагадала яна сабе. — Гаворыць, прыкідваецца, а сам, можа, смяецца...» Але нагадвала яна гэта дарэмна, адчувала, бачыла: Яўхім не прыкідваўся.

— Каса на камень найшла! — усміхнуўся ён пасяброўску. — Я і сам — як жарабец неаб’езджаны! Мне кеб — хто пярэчыў?! Ды шчэ дзеўка!.. Ну, і— акрамя таго: не магу ж я на людзях паказаць, што я перад дзеўкай... разумееш?.. Ну, ніц, значыць, перад дзеўкай! Нішто, нуль! Уцяміла?.. — Ён шчыра, ад душы зарагатаў: — Смяяцца з мяне будуць усе! Сабакі па завуголлю і тыя!.. Дайшло?

Яна паслізнулася і ўпала б, напэўна, але Яўхім спрытна падхапіў яе за локаць.

— Не падай! Гразь халодная! — пажартаваў ён і паслухмяна выпусціў Ганніну руку.

Неўзабаве прыйшлося ісці адзін за адным, паўз самыя платы, бо пасярэдзіне былі глыбокія, поўныя гразі ямы.

— Скарэй бы замерзло, — прамовіў Яўхім, — хоць бы хадзіць па вуліцах можна було!.. — Ён сказаў, адчувала Ганна, толькі для таго, каб завязаць гаворку, але яна прамаўчала. Калі, нарэшце, стала можна ісці побач, Яўхім нагнаў яе. — Ну, не злуй. Ейбо, не злуй!.. Ты ж сама — варонім пудзілам мяне паставіла, а я, бач, смяюся!.. Ну, на міравую, а?

Яўхім сам узяў яе далонь, паціснуў. Здзіўленая ўсім сяброўскім ладам яго гаворкі, нечаканай добрай шчырасцю, яна цяпер не вырвала руку.

Калі дайшлі да Ганніных варот, Яўхім папрасіў яе пастаяць трохі, але Ганна ў адказ адступіла ад яго, узяла руку. Яе здзівіла, што і тут ён не стаў дабівацца свайго, сказаў «спакойнай ночы» і, ціха пасвістваючы, пайшоў у змрок гразкай вуліцы.

Ступаючы па двары, Ганна хвіліну думала пра яго, думала здзіўлена, як пра загадку. У той жа час, калі ў галаве варушыліся гэтыя думкі, вочы яе выбралі з цемры абрысы плота, калоў. Там было пуста, сумна, як каля свежай магілы. Грудзі яе апаліў боль:

«Васіль, Васіль...»

3

Вечарам, памыўшыся над цэбрам, выціраючыся, бацька сказаў мачысе:

— Буў Яўхім Карчоў... Малаціць сабіраюцца... Казаў, кеб за просо адрабілі...

— Ужо ж адрабілі. На касавіцу, — адгукнулася мачыха.

— Тры дні адрабілі. А два шчэ засталося...

Бацька пагладзіў парэпанай рукой рэдкія, ад сівізны ўжо зямлістыя валасы, зморана згорбіўшыся, сеў на лаўку. Мачыха, выцягваючы з печы чыгун, не ўтрывала:

— От, Корч стары! Ето ж — пяць дзён за жменю!

— Жменя не жменя! — Бацька разважліва зазначыў: — Не хацела, дак не брала б! Ён не набіваўся!

— Не набіваўся! Кеб жа не трэба було!

— От тота ж!

— Дак жа гараваць за жменю колькі!

— Думаеш, другі дзешавей даў бы! Аге, вазьмі!

Бацька ўзяў скібу хлеба, стаў нецярпліва жаваць: прагаладаўся вельмі. Але мачысе ўжо не так лёгка было забыцца пра Карча. Думала яна марудна і была заядлая, упартая, так што, калі што ўбівалася ў галаву яе, выходзіла адтуль не хутка. Вось і цяпер, наліваючы боршч з чыгуна ў вялікую гліняную міску, як бы падумала ўголас пра старога Глушака:

— Не памалаціў шчэ свайго. Малатарню маючы!..

— Сваё нікуды не дзенецца. Зарабіць хацеў. У Алешніках траім памалаціў...

— Крываротаму, кажуць, дзень стараўся! — успомніла Ганна, кладучы на прыпек наколаную лучыну. Агонь, што ледзь асвятляў хату чырвоным, мігатлівым святлом, гатоў быў вось-вось згаснуць, і яна падлажыла ў яго смалісты сук.

— Якому Крываротаму? — зацікавіўся, нібы не паверыў бацька.

— Таму, што ў сельсавеце за старшыню...

— Ну, на етым не вельмі пажывіцца!

— Не пажывіцца? — едка адгукнулася мачыха. — Аге! Стаў бы ён задарам старацца!

— Чаму ты думаеш, што задарам! Табе хто казаў, што задарам? — бацька паглядзеў на Ганну, як бы чакаў, што яна пацвердзіць яго словы.

— А хоць бы ніхто й не казаў, што задарам, — і кінула ўпарты позірк, — я ўсё адно знаю, што не ўзяў ён грошай, Корч! Не

ўзяў, хай мне хоць руку адсякуць!.. — Яна паставіла на чорны, без абруса, вышчарблены ад старасці драўляны стол міску, адну на ўсіх, села побач з бацькам.

Бацька ўзяў шчарбатую драўляную лыжку, такую ж чорную, як і стол, прамовіў прымірэнча:

— Не ўзяў, не ўзяў... Ахвота табе ляскаць, грэц яго...

— Бо знаю, што не ўзяў! От пабачыш!.. Тут свая выгада! Начальство!.. Я — табе, ты — мне. Я табе памалачу, а ты мне аддзячыш сваёй ласкай. Падатак там збавіш ці шчэ што...

— Я — табе, ты — мне! Цяпер ето не так просто, у сельсавеце... не пры цары...

— Калі пры цары було яно, то цяпер і казаць няма чаго!

— Хітры, тхор! — сказала Ганна, адчуваючы, што мачыха, напэўна, не памыляецца ў здагадках пра старога Глушака.

— Аге! — адразу адгукнулася мачыха і, як звычайна, не ўтрывала, каб разам не ўпікнуць і свайго чалавека. — Еты свайго не ўпусціць.

За тым, што яна сказала, яшчэ як бы чулася: «Не тое, што ты».

Бацька прамаўчаў на гэты яўны ўпік, і гаворка абарвалася. Цяпер было чуваць толькі дружнае, працавітае сёрбанне, трэск і шыпенне смаляка, ад якога ў хату ішоў пах дыму і смалы, што перамешваўся з пахам грыбнога баршчу. Святло ад прыпечка не магло тут ніяк саўладаць з чырванаватым прыцемкам, які то крыху слабеў, адступаў, то зноў насоўваўся так, што трэба было напружваць вочы, каб бачыць, што бярэш у місцы, што ў лыжцы нясеш. Можа таму такія сур'ёзныя, заклапочаныя былі твары ва ўсіх чатырох Чарнушкаў, нават у Хведзькі, які, седзячы між бацькам і Ганнай, ледзь даставаў лыжкай да міскі. Разам з заклапочанасцю на тварах была відна ўтома, нейкая пакорлівасць абавязку — як бы вячэра была не радасцю, не ўзнагародай, а таксама абавязкам, працай. З усіх толькі Хведзька сядзеў неспакойна, еў хапаючыся, усё выцягваў шыю, стараўся зазірнуць, што там у місцы, ці няможна падчапіць грыбка, — але, навучаны немалым вопытам, тут жа спасцярожліва паглядваў на маці і пад яе строгім позіркам прыціхаў.

Ад цьмянага, сумнага святла ўсё ў хаце здавалася сумным, суровым, нават святыя з абразоў у кутку глядзелі зпад ручнікоў так, быццам гразіліся за смех страшным судом...

Выцягнуўшы з міскі лыжку, Хведзька ўжо намерыўся паднесці яе к роту, калі ў вачах яго мільганула цікаўнасць. Ён момант разглядаў лыжку, потым сказаў здаволена:

—Прусак!..

— Цыц ты за сталом! — крыкнула была Ганна, думаючы, што ён жартуе: Хведзька ўжо неаднойчы пацяшаўся з яе гідлівасці.

Але сёння ён не смяяўся: у лыжцы сапраўды быў вараны прус.

— Уваліўся, — спакойна прамовіла мачыха і загадала Хведзьку: — Вынесі, вылі ў цэбар! — Калі Хведзька вылез зза стала, знарок трымаючы лыжку з прусаком бліжэй перад Ганнай, мачыха сказала безнадзейна: — Развялося пошасці етай! Надысь ноччу ўстала, падпаліла лучынку, дак яны па падпрыпеку — шась, як войска якое!..

— Тота я гляджу — боршч сягоння смачны, — паспрабаваў бацька перавесці гаворку на жарт. — Як бы з салам!

— Скажаце, ейбогу! — папракнула Ганна, устаючы зза стала. Яна ўжо не магла есці. Бацьку гэта павесяліла.

— Хранцузы — тыя жаб ядзяць! Жывых, не тое што вараных!.. Ядзяць дай шчэ — дзякуюць! Ім жаба — што качка!

— Жаб? Цьфу ты! — гідліва скрывілася мачыха. — Нехрысці, пэўне?

— Нехрысці...

Ганна ўжо надзела жакетку, сабралася ісці, калі бацька, скручваючы цыгарку, напомніў пра пачатак гаворкі:

— Дак Корч прасіў, кеб з жанчын хто прыйшоў. Ці ты, старая, ці мо Ганна.

— Няхай Ганна.. .— Мачыха забрала са стала міску, падалася ў куток, дзе стаяў посуд. Бацька згодна кіўнуў, лічачы, што гаворка скончана.

Але Ганна стаяла каля парога.

— А мо б лепей мне тут, пры хаце астацца?

— Чаму ето?

— Так!.. Нядобра мне к Карчам...

Яна заўважыла, што бацька чакае, каб яна растлумачыла, чаму ёй нядобра ісці, і адчула — цяжка дагаварыць усё. Як тут раскажаш — пры мачысе — пра ўчарашняе заляцанне Яўхіма, ад якога засталіся ў душы асцярога да яго ды віна перад Васілём. Яна дала яму, гэтаму Карчу, ісці з сабой, дала трымаць руку, нібы абнадзеіла...

Мачыха абурана паглядзела на Ганну, потым на бацьку, як бы чакаючы падтрымкі сабе.

— Унь бач! Яна не пойдзе, — не вытрывала старая, не дачакаўшыся Цімохавай падтрымкі. — Хай матка старая лепей! Ёй нядобра, бачыце, не даўпадобы ёй!

Чарнушка паморшчыўся на гэтыя словы, лагодна, спачувальна сказаў:

— Трэба ісці, Ануля... І так еты доўг — як скула...

— Ці ж яна разумее!

Ганна ведала, што працівіцца больш няма сэнсу: мачыха ўсё роўна не адступіцца. Каб скончыць гаворку, прамовіла мякчэй:

— Ну, хай ужэ! Пайду, калі вам так страшно...

На дварэ ціха церусіў нявідны дождж. Ён ішоў з мінулай ночы амаль безупынку, то драбнеючы, то зноў спарнеючы, і на вуліцы яшчэ ўдзень было столькі страшнай, ліпкай гразі, што ніводзін куранёвец не наважыўся вылазіць. Людзі хадзілі цяпер толькі праз мокрыя слізкія гароды ці па загуменні. Два рады хат адарваны адзін ад аднаго, ды можна сказаць, што адасоблены былі і многія хаты: каму ахвота была лезці ў такую макрату без вялікай патрэбы?..

Цяпер, у цемры, гэтая макрата была страшнейшая. Уся вёска, вялікія і малыя, жанкі і мужчыны туліліся бліжэй да цёплых чараноў, да дымных агнёў на прыпечках, хаваліся, драмалі па цёмных, задушных сваіх норах. Маўчалі каровы, не бэлькалі нідзе авечкі, не перагаўкваліся сабакі, хоць бы адзін гук дайшоў ад блізкага лесу, з балот — цішыня, важкая, чорная стыла ў нячутнай сяўбе дажджу над сялом, над звадзянелымі дрыгвянымі абшарамі, над светам...

«Ну, і чарнеча ж! Хоць вока выкалі! — падумала Ганна, падымаючы каўнерык жакеткі. — Чысто — сусветны патоп!» Яна асцярожна, каб не паслізнуцца, сступіла з ганка і пайшла ў цемру.

## 4

Неўзабаве Ганна ўжо сядзела каля Хадоські перад комінкам, на якім палала, чадзела лучына. «Канапляначка», схіліўшы галоўку з залацістым пушком над ілбом і каля вуха, падзіцячы выпінаючы добрыя губы, старанна вязала рукавіцу. Тут жа, каля комінка, падсунуўшы да агню ўслон, на якім тырчала прасніца з барадой кужалю, сядзела і маці, цётка Аўдоцця. Маці прала — адставіўшы руку, цягнула і цягнула пальцамі з «барады» на прасніцы кужаль, спрытна звівала яго ў нітку. Нітка ўсё даўжэла, бегла і бегла на верацяно, што круцілася, скакала ў яе руках, як бы ў цудоўнай полечцы.

Хадосьчын бацька Ігнат, чарнявы, сіваваты, ускудлачаны, гнуўся трохі ўбаку, час ад часу пакрыкваў на жонку, што мяняла паставу, засланяла святло, — каб адхілілася.

— Ціхо бо ты, старое верацяно! — зазлаваў ён нарэшце.

Жонка адхілілася, прымірэнча сказала:

— Што ты ўсё бурчыш, стары лапаць? Як, скажы ты, іголкі збірае.

— Іголкі не іголкі, а і на лапаць — нібыто — святла трэба...

Ён корпаўся з выслізганым вастрадзюбым подплеткам і лазоваю дзяжкаю — плёў лапаць.

Дзеці, дзве Хадосьчыны сястрычкі і брат, сядзелі на печы, то гаманілі аб нечым, то спрачаліся, але як толькі ў спрэчку ўмешваўся знізу грозны бацькаў голас, адразу ўціхалі...

Можна сказаць, Ганна адна тут была без справы, і яна шкадавала, што не ўзяла нітак: магла б таксама не марнаваць часу, павязаць. Ганна і Хадоська гаварылі мала, навін ні важных, ні дробных не было, гаварыць тут пра сардэчныя клопаты, пра Васіля нельга было, і яны найбольш маўчалі. Ганна то сачыла за тым, як Хадоська вяжа, як цётка Аўдоцця прадзе, то спрабавала пражу, хваліла, то глядзела на іх саміх, параўноўвала. Яны былі вельмі падобныя адна на адну, «канапляначка» і матка. Абедзве нізкарослыя, з кароткімі спрытнымі рукамі, абедзве як бы гладкія, мяккія. «Як булкі», — успомнілася раптам, што сказаў Хадосьцы Яўхім. У абедзвюх на тварах, таксама мяккіх, светлабровых, быў адзін добры, лагодны выраз, толькі ў Хадоські быў ён больш ясны, чысцейшы. І давер'я больш было ў яе вачах, і каса была гусцейшая, цудоўная, русявая, з водбліскам золата каса, што ляжала на плячы... І нейкая радасць, патаемная, шырокая, якую ёй цяжка трымаць. Што за радасць?..

— Ой, Гануля, кеб ты знала!.. — схілілася раптам да Ганнінага вуха Хадоська, ціхаціха прашаптала: — Я заўтра іду к яму!.. Малаціць!..

Ганна прытулілася да сяброўкі, але не вясёлая, а здзіўленая.

— Я ж — таксамо!.. Адрабіць доўг трэба!

— Ну, і нам — доўг. Але ето ўсё адно! Ён хацеў, штоб прыйшла я!.. Так і сказаў!..

— От і добра! Будзем удзвюх! — спакойна адказала Ганна.

— Што ето вы там шэпчацеся? — лагодна, без крыўды папракнула цётка Аўдоцця. — Ой, чую, пра кавалераў! Не інакш, пра кавалераў: тота унь мая такая вясёлая, вочы — як тыя вугалькі...

— Скажаце вы, мамо!

— А што ж, дзеўка нібыта ў саку, — азваўся бацька. — Толькі от жаніхоў нешта няма.

— Будуць! Дай выраўняцца! Яблуко ж яшчэ горкае, зялёнае. Вырасце — адбою не будзе, чую!

— Скажаце! — Хадоська пяшчотна тузанула маці за руку, загадала маўчаць...

Вярталася Ганна дамоў тою ж слізкаю дарожкай цераз мокрыя агароды і платы, пад тым жа бясконцым дажджом. У чарнаце ночы думала пра Хадосьчыну радасць, пра заляцанні да абедзвюх. «Глядзі ты, Корч які спрытны: адразу ў дзвюх меціць!..» — мімаволі падумалася ёй, але думку гэтую тут жа змяніла развага: з чаго яна ўзяла, што Корч меціць і ў яе? Паплёўся адзін раз услед — паглядзець, не інакш, хацеў, якая яна бліжэй, ці такая, за якую ўдае сябе. Падступіцца паспрабаваў, як бы падобраму, каб пасмяяцца потым, а яна, недарэка, паверыла, што ён напраўду ўсё кажа. Разгубілася, як малая, руку вырваць з яго рукі забыла, язык прыкусіла! А ён, можа, вярнуўся ды смяяцца стаў з яе, даверлівай дурніцы. І заўтра смяяцца будзе!..

І ўсё ж, не зважаючы на гэтыя думкі, яна глядзела цяпер на працу сваю ў Карчоў без асаблівай трывогі. Што ёй з таго, што здарылася ў той вечар, хіба ж яна не можа трымацца з Карчом так, як бы ў іх ніякай гаворкі не было! Нібы яна яго не ведае і ведаць не хоча! А калі трэба будзе, калі ён абсмяяць захоча, хіба яна не знойдзе, што сказаць! Не паглядзіць, што Карчоў сынок!

Да таго ж, яна будзе не адна, а з Хадоськай — гэта ўжо само па сабе мяняе многае. «Дзівачка, як яна радуецца, што будзе рабіць у свайго Яўхіма, — як бы не на працу, а на свята збіраецца!» — падумала Ганна, пералазячы цераз мокры, халодны плот, за якім быў ужо родны двор.

Дома ўсе даўно спалі, на яе прыход ніхто не азваўся. Яна вобмацкам, асцярожліва выставіўшы ўперад рукі, дайшла на цыпках да свайго ложка ў куце каля акна, дзе чутно было бесклапотнае сапенне Хведзькі, хутка скінула кофту, спадніцу і нырнула пад коўдру...

На другі дзень Хадоська забегла да Ганны, як было яшчэ цёмна. Ганна, якая акурат уставала зза стала, хутка надзела старую даматканую паддзёўку, і праз момант яны ўжо ішлі па двары. Вакол было даволі відно, у халаднаватай шэрані добра акрэсліваліся дрэвы наводдаль, хлявы, гумны. Дажджу ўжо не было, толькі мутныя кроплі на жэрдках, на скручаным лісці напаміналі аб ім.

У каляінах на загуменні, якім яны ішлі, усюды холадна бялела вада, там і тут разліваліся лужыны. Вада ў ранішняй шэрані здавалася густой і важкай, як волава.

Вялікае, толькі летась пабудаванае гумно, строгая, роўная страха якога яшчэ нідзе не зелянела мохам, а сцены толькі пачалі цямнець, было адчынена. Дзяўчатам абедзвюм падумалася, што Корч, напэўна, іх даўно чакае, і яны мімаволі заспяшаліся. У той час, калі яны падышлі да гумна, адтуль якраз паявіўся Халімон Глушак, маленькі, сухенькі, такі дробны ў параўнанні са сваёй шырокай, самай вялікай у Куранях будынінай.

Ён кінуў на дзяўчат востры позірк тхарыных вачэй, адказаў на прывітанне і дробнай, пастарэчы асцярожнай хадой, цягнучы ногі, падаўся к прываду. «Пляцецца, як бы ледзьве кеўляе, — падумала Ганна, пазіраючы ўслед яму. — Дзьмухне вецер — і, здаецца, паляціць, як пясчынка тая, рассыплецца, бы трухля...» Яна глядзела ўслед, хоць не першы раз бачыла, дзівілася: ведала, што, пэўна, ветру такога ў свеце няма, які б мог не тое што сарваць з зямлі яго, хоць бы з ног збіць!..

У Карча ў руцэ была маслёнка. Ён нахіліўся з ёй над прывадам, там, дзе быў кулачок каля прывадной шасцярні, уткнуўся носам амаль упрытык, агледзеў, падліў масла, нахіліўся над шасцярнёй. Рабіў ён усё не хапаючыся, паважна, нават урачыста, з нейкім набожным выглядам, з якім, мабыць, і ў царкве на малітве стаяў.

Калі Халімон, наўколенцах, згорбіўшыся, штосьці разглядаў у шасцярні, падышоў яго сын Сцяпан, папрасіў:

— Тато, дайце я абгледжу!..

Стары нават не паварухнуўся, не сказаў слова. Такая звычка была: нічога важнага нікому не давяраў, сынам нават, рабіў сам. Тут жа было не што якое, не драбяза, тут было яго багацце, яго гонар — конная малатарня. Ганна чула, што з усяго свайго набытку Халімон найбольш даражыў новым гумном і купленаю ў Мазыры малатарняю. Але гумно ўсё ж было гумно, і ў другіх ёсць гумны, няхай горшыя, а малатарня — рэч, якая тут у аднаго яго на ўсю акругу. Ні ў каго тут, прайдзі сёлы на дзесяткі вёрст між гэтых балот і хмызнякоў, не знойдзеш яшчэ такога. Такое калісьці не ў кожнага і памешчыка вадзілася, а гэта ж трапіла ў гумно к яму...

Сцяпан хвіліну для прыліку пастаяў пры бацьку, паглядзеў на яго працу, падышоў да дзяўчат.

— Усё яму самому хочацца... — сказаў ён ветліва, абы не маўчаць. — Бы я горай зрабіў бы.

Сцяпан выглядаў бледным, хваравітым. «З навукі, пэўне», — падумала Ганна. Ён, было відаць, хацеў трымацца з імі, як дарослы кавалер. Не толькі Хадоськы, а і Ганне гэта падабалася. «Не грэбуе, значыцца...» Якніяк, ён быў у сяле самы вучоны, можна лічыць, гарадскі чалавек.

— Надоўга да нас? — запытала Ганна, адказваючы далікатнасцю на далікатнасць.

— Дак от бацько сказаў — пакуль не ўправімся...

— Яно, канешне, не да вучэння, калі дома няўпраўка...

— Канешне, — падтрымала гаворку і Хадоська, якая ўвесь час паглядвала то на вароты ў гумно, то на двор.

— Ты, казалі, у Ёселя жывеш, каторы булкамі таргуе?

— У Ёселя. З Аронам яго ўдваіх. Там закутак е такі, што як паставілі ложкі, дак і размінуцца няма як...

— А які ён да цябе, Ёсель? Не крыўдзіць?

— Неа. Бацько ж плоціць за мяне. Ён, Ёсель, — засмяяўся Сцяпан, — добры да ўсіх, хто дае зарабіць... Надысь мех пшаніцы завезлі...

— А не нудно там, на чужыне? Аднаму, без маткі?

— Цяпер неа. А спачатку, калі меншы буў, і без прывычкі, нудзіўся. Проста суботы дачакацца не мог, кеб дадому бегці... А цяпер прывык...

Ганна зірнула на яго хваравітабледны твар, прамовіла спачувальна:

— Трудно, мабуць, вучыцца? Сухота адна.

— Неа. Мне не трудно. Мне лёгко даецца. Асабліва — пісьмо. Па пісьму я самы першы ў класе... Толькі арыхмеціка падводзіць...

— Якая карых... меціка? — адарвала позірк ад двара Хадоська.

— Ну, задачы. Складанне, дзяленне.

Паўз іх назад у гумно прашаргаў ботамі стары з маслёнкай, хутка, але востра, пільна зірнуў на сына, і ўсе прымоўклі.

— Значыцца, жыць там — непагано?

— Неа. Можно жыць. Толькі адно, што коса глядзяць каторыя...

— Чаму?

— З багацеяў. — Ён пачырванеў, дадаў жорстка: — Кулацкі сынок!

Хадоська спачувальна ўздыхнула, але сказаць нічога суцяшальнага не паспела, бо ўбачыла, што на дарозе ад хлявоў паявіўся Яўхім, а за ім рабаваты хлопец Іван, які парабкаваў у

Глушакоў, — вялі коней. Яўхім ішоў першы, трымаючы гладкага, агністага колеру каня на кароткім повадзе, сам такі ж гладкі, дужы, як конь...

— А што мне, трэба яно, етае багацце? — усхвалявана, з нечаканай крыўдай прамовіў Сцяпан. — Што, я яго нажываў? Ды па мне што яно е, што яго няма...

— Скажаце бо!

Яўхім быў ужо зусім блізка. Ганна, і не пазіраючы ў яго бок, чула, як ён падыходзіць, чула яго крокі, фырканне каня і ўсё больш насцярожвалася. Зноў успомніўся той вечар, яго праводзіны, але няёмкасці такой, як раней, ужо не было, мацней за ўсё брала насцярожанасць...

Яўхім, дайшоўшы да іх, дужай рукой прыпыніў неслухмянага каня, весела паздароўкаўся. Вольную руку падаў спачатку Хадосьцы, якая пры гэтым адразу паружавела, потым Ганне. Ён і знаку не паказаў, што між ім і Ганнаю было штосьці асаблівае.

Яўхім стаў толькі на хвіліну, адразу ж павёў каня к прываду. Калі ён запрагаў гнядога, з варот выйшаў стары, павёў вочкамі па хмурным небе:

— Матка калі ж будзе?

— Сабіраліся ўжэ...

— Абедаць трэба будзе, пакуль саберацеся!..

Халімон гаварыў ціха, роўна, але Ганна пачула, што ён вельмі недавольны. Стары Глушак, усе ў Куранях ведалі, любіў парадак, дысцыпліну і ўмеў стрымлівацца. Ніколі не ўзвышаў голасу.

— Пазаві! — ціха кінуў стары Сцяпану.

Але маці ўжо ішла сама. Убачыўшы старога, што стаяў і глядзеў на яе, здагадалася, напэўна, што запазнілася, адразу заспяшалася, пайшла ўподбег. Корч жа як стаяў, так і стаяў, глядзеў ёй насустрач, чакаў, аж пакуль яна не падышла.

— Будзеш са Сцяпанам коней ганяць, — сказаў Халімон загадным тонам. Ён мелькам зірнуў на Сцяпана і, не чакаючы ні ў сына, ні ў жонкі згоды, павярнуўся да Хадоські і Ганны.

— А вы к малатарні. У гумно.

Дзяўчаты пакорліва пайшлі за ім. Глушакова гумно здалося ім не ў меру светлым — і ток вельмі гладкі, чысценька падмецены, і смалістыя новыя плашкі як бы вымытыя. Акуратна абкораныя дубовыя сохі аж паблісквалі, а страха знізу нібы ззяла: жоўценькі паплёт, жоўценькая салома. Палавіна гумна была прасторная, пустая, у застаронку каля сцяны ляжала толькі купа саломы — другую старану цесна, ледзь не да самага вільчыка, поўнілі роўныя рады снапоў. Але самым важным,

што асабліва прыцягвала ўвагу, што, можа быць, і надавала гумну святочнасці, — было маленькае яркачырвонае дзіва на таку — малатарня...

«Чырвоная, як тая скула нарываючы...» — прыйшло раптам Ганне.

Стары ўзяў з кутка ля варот вілы, падаў Хадосьцы, сказаў, шго яна будзе з Іванам адграбаць салому, а Ганне кіўнуў галавой наверх:

— Палезеш туды!.. Падаваць снапы...

— Не баішся? — спачувальна азваўся Яўхім.

— Чаго?

— Высоко! Галава кеб не закружылася!

Ён зарагатаў і ўраз абарваў смех, перахапіўшы строгі позірк, што кінуў бацька.

— Не на вячоркі пазваны... — прамовіў Халімон. Яўхім паслухмяна прамаўчаў, паказваючы сыноўнюю пакору.

— Драбіну прынясі!

Яўхім кінуўся на двор. Стаўляючы драбіну к снапам, павёў вокам да бацькі і, калі ўбачыў, што той адвярнуўся, папрыяцельску падміргнуў Ганне: не бойся, няма чаго!..

— Патрымай трохі, — папрасіла Ганна сяброўку, беручыся за драбіну. — Кеб я часам не забілася!

Драбіна ледзь даставала да верху і стаяла крута. Здавалася — восьвось адарвецца ад снапоў, стане на момант роўна— і паляціць назад, і Ганна паляціць спіной на застаронак, на вострую яго агароджу з плашак. У яе халадзела ўсярэдзіне, але трэба было лезці і лезці, не марудзіць, бо там, унізе, чакаў стары Корч.

Ледзь яна з палёгкай стала на снапы каля сахі, рабаваты парабак падаў ёй вілы, схіліў набок, узваліў на плечы драбіну, Глушак крыкнуў к прываду пачынаць, і малатарня лёгка і звонка загаманіла. Ганна заспяшалася, падчапіла пад перавясла першы сноп, напружыўшы рукі, узняла і спусціла ўніз к мастку, дзе стаяў побач з бацькам Яўхім. Вілы, аднак, не даставалі да мастка, і сноп прыйшлося скінуць Яўхіму на рукі.

Яўхім, ухапіўшы сноп, мігам развязаў яго, падсунуў па мастку да бацькі, які ўзяў, звыкла разраўняў і пасмай пусціў на барабан. Барабан, што ашалела круціўся, прагна ўхапіў жыта, прагна замалаціў па ім, задаволена, аж надрываючыся, засвістаў, завыў.

З гэтага часу Глушакова гумно было поўна гулу, ляскату, пылу, што разыходзіўся да сцен, падымаўся да Ганны, да вільчыка, вырываўся недзе ў расчыненыя вароты, у шчыліны. Ганна

сноп за снопам падчапляла на вілы, узважвала, кідала Яўхіму, які спрытна хапаў на ляту, клаў на масток. Позіркі іх час ад часу сустракаліся, Яўхім лавіў яе вачыма, ад якіх цяжка, немагчыма было ўцячы. Было ў яго вачах штосьці такое, што напамінала пра той вечар, ад чаго ёй зноў станавілася няёмка, трывожна. Яна старалася паказаць, што не заўважае і не разумее гэтага позірку, помніць цяпер толькі адно, хто яна і для чаго тут — работніца, парабчанка.

Барабан, што выў і выў шалёна, ненасытна, як бы напамінаў Ганне пра яе абавязак, ён не даваў марнавацца. Не да думак лішніх было, не да разваг, трэба было выбіраць снапы, падчэпліваць так, каб не спадалі з віл, кідаць удала ўніз. Вось адзін сноп, ледзь узняла яго на вілах, стаў разлазіцца, аб'язджаць, пэўна, перавясла было нямоцнае ці адкруцілася. Яна хутчэй апусціла сноп, узялася перавязваць яго. Зірнуўшы ўніз, каб кінуць сноп, заўважыла, што стары ўжо чакае, нецярпліва, нездаволена...

Калі брала снапы блізка, пад рукамі, то можна было і не спяшацца асабліва, перадыхнуць хвіліну. Снапы ж, аднак, ляжалі не толькі блізка. Былі і далей, і, можна сказаць, далёка, дзенебудзь у дальнім кутку, тут ужо нельга было не хапацца, не гнацца. Пакуль данясеш, трымаючы на вілах, стараючыся не паслізнуцца, не спаткнуцца, не вывіхнуць нагі, хадзіць па снапах — гэта не па зямлі, ледзь управішся ў пару. Пахадзіла, пабегала так — дыхаць пачала часта, засаплася, рукі, ногі, спіна наліліся цяжарам утомы...

Але яна як бы і не заўважала ўтомы: не ў навіну гэта. Усе клопаты, усе думкі былі аб адным: не пазніцца, упраўляцца; яе ўзялі рабіць, а рабіць — гэта не цешыцца, не радавацца. Рабіць — гэта: пот плыве на вочы, шыю, спіна чыгунее, рукі ломіць ад натугі, а ты не зважай ні на што, падчэплівай сноп пад перавясла, кідай на масток. На тое Корч і пазваў, а Корч не любіць, каб рабілі абыяк, абы адбыць. Рабіць — гэта рабіць, пакутаваць. У гэтай пакуце адно жыве цярпліваe, тупое, салодкае, як мара, жаданне: некалі ж павінна гэта спыніцца, гэты ляскат, гул, гэты гон, і можна будзе разагнуцца добра і пастаяць, і аддацца радасці спачыну. Толькі калі будзе гэта — невядома, адно ведае — няскора, няскора...

Гудзе, грыміць гумно, пыл круціцца, устае да вільчыка. Сноп, яшчэ адзін... Яшчэ адзін... Яшчэ...

Калі стары махнуў ёй, што падаваць ужо не трэба, Ганна ледзь магла стаяць. Ногі падгіналіся, рукі зняможана дрыжалі,

хацелася паваліцца і нічога не бачыць, не чуць. Як праз сон, дайшло да яе, што барабан гудзе ўжо зноў звонка, пуста — не малоціць. Неўзабаве ён і зусім змоўк, гумно як бы амярцвела, адно чуліся галасы за сцяной...

— Пакармі коней! — сказаў стары Глушак сваім роўным, сіплаватым галаском Яўхіму, потым падняў вочы на Ганну. — А ты — злазь ды, пакуль тое, саломы адграбці памажы...

На дварэ было ўжо не так хмурна, як раніцай, праз хмары гатова было восьвось прарвацца сонца; пасля змроку і пылу ў гумне Ганна аж зажмурылася ад яркага, здалося, святла. Густы, але нямоцны вецер крануў спатнелы твар свежасцю, пагнаў па спіне, па руках халадок, і ёй стала лягчэй.

Амаль адразу ж услед выйшаў і стары Глушак. Запылены, з саломінкай у шырокай, коратка падстрыжанай рудой барадзе, паглядзеў на стог саломы, паморшчыўся:

— Рэпа, расселася... Утаптаць трэба! — Ён заўважыў, што Хадоська хацела штосьці сказаць, напэўна, апраўдацца, апярэдзіў: — Пакуль Іван вернецца!..

Іван павёў з Яўхімам карміць коней. Хадоська заспяшалася пакорліва, супакойваючы:

— Зараз, зараз, дзядзечко!..

Халімон не сказаў больш нічога, ціхай, дробнай хадой падаўся да прывада, нахіліўся над прывадным колам, штосьці стаў разглядаць...

Утоптваючы стог з Хадоськай, Ганна бачыла, як вярнуліся ад хаты старая Глушачыха, што несла чыгун, накрыты латкай, і Сцяпан з лазоваю каробкай за плячыма. Каля гумна ляжала тоўстае ўчарнелае шула, старая паставіла чыгун пры ім, узяла ад Сцяпана каробку, пачала выкладваць на шула хлеб, нож, лыжкі. Калі ўсё падрыхтавала, зірнула на чалавека, што важдаўся каля прывада, але не пазвала, села на шула, стала чакаць. Толькі як Халімон падышоў сам, узяўся рэзаць хлеб, замітусілася:

— Сцяпанко!.. Дзе ты падзеўся?.. Абедаць ідзі! Бацько сядзіць, чакае!.. Дзеўкі! І вы — злазьце бо!.. Пасёрбайце боршчыку!..

Калі ўсе сышліся, паселі, дзе каму ўдалося, — не толькі Ганна і Хадоська, чужыя, але і Сцяпан, старая, з асцярогай, чынна, — стары Глушак пачакаў, як бы даючы ўсім адчуць важнасць моманту, перахрысціўся.

— Дай Божа!..

Ён узяў лыжку, зачэрпнуў з чыгуна баршчу, тхарынымі вачыма павёў па ўсіх, хто сядзеў. Усе хрысціліся, браліся за

лыжкі, такія ж стрыманыя, паважныя, як стары Глушак, нібы стара-ліся быць падобнымі да яго. На Хадосьчыным твары Ганна заўважыла зачараванне і страх. «Усё адно як не Корч стары, а цар перад ёй!» — мімаволі ўсміхнулася Ганна, але ўсмешка адразу ж і згасла: стары так зірнуў, нібы пачуў яе. «Як, скажы ты, чытае ўсярэдзіне!» — мільганула ў яе галаве.

Абед здаўся ёй нясмачным і доўгім, і яна ўзрадавалася, калі Глушак падняўся: дзякуй Богу, кончылася! Адышоўшы крыху з Хадоськай, пачула, як Глушачыха, збіраючы лыжкі, пажалілася старому:

— Нацягалася я за канём!.. — У голасе яе пачулася пакорлівая просьба: — Хай мо б хто маладзейшы?..

— Ля малатарні ўвішнасць патрэбна! — прамовіў Халімон строга. Ён памаўчаў. — Ну, няхай... Будзеш салому адкідаць...

Глушак пазваў Хадоську, загадаў станавіцца к коням. Іх акурат прывялі з двара, і стары сам пайшоў да іх. Ганна чула, як ён запытаўся, ці добра накармілі, напаілі, бачыла, як ён узяў нагу ў гнядога, памацаў пад капытом. За гэтым ён павёў парабка к шулу, падсунуў яму чыгун, даў хлеб, моўчкі стаяў, калі той, хапаючыся, жаваў і сёрбаў.

Ганна не стала чакаць Глушаковай каманды, пайшла сама ў гумно, хацела паляжаць на снапах у зацішку. Але як толькі ўвайшла, заўважыла, што следам хтосьці ідзе. Гэта быў Яўхім.

— Утамілася?

— Можа буць...

— Я сам запарыўся... Бацько можа запарыць усякага... — Яўхім кіўнуў на снапы, зза якіх ужо выглядвалі верхнія два рады бярвенняў: — Палезеш? Хочаш — пасаблю?

— Абыдуся!..

Яна чакала, што ёй адыдзе, але Яўхім як бы не разумеў ці знарок хацеў збянтэжыць, падсмяяцца. Ганна пастаяла і раптам узлавалася: што ж, няхай стаіць, няхай глядзіць! Ухапілася адной рукой у шчыліну за бервяно, другой — за сноп, абаперлася наскамі аб бярвенні і снапы, стараючыся прытульваць спадніцу, падзерлася наверх. Ужо на снапах азірнулася, перахапіла яго гарачы, прагны позірк.

Але сказаць нічога не ўправілася: у гумно ўваходзіў стары...

5

Да вечара змалацілі ўсё: што значыць малатарня — столькі жыта за адзін дзень увабраць! На другі дзень да самага вечара круцілі веялку, ссыпалі чыстае збожжа ў мяхі, адграбалі мякіну. Стары Корч рабіў усё разам з іншымі, і сам хвіліны не пастаяў, і другім стаяць не даў.

Яўхім рабіў тут жа, каля веялкі. Быў ён, здавалася, такі ж, як заўсёды, і рабіў, як усе. Але калі б хто мог зазірнуць у яго душу, то пабачыў бы, што не жыта, не веялка, іншае зусім цікавіць і трывожыць яго. Дзе б ён ні быў, што б ні рабіў, ён адчуваў, бачыў адну Ганну.

Ён добра ведаў, што не закаханы. Яўхім нават з пагардай думаў пра яе. «Було б аб чым думаць, па чым сохнуць! Дзеўка б була якая асаблівая. А то ж грудзі як грудзі, ногі як ногі... Грудзі — нават дробныя, як яблукі. І ногі танкаватыя, кволыя...» І прыкра было думаць, што зза гэтых дурных ног заснуць не мог паўночы, бачыў усё іх, смуглую пругкую лытку, голае калена. Лепш бы не глядзеў, калі яна лезла на снапы.

«І так сабой не асабліва відная — драбната. Паглядзець няма на што. І твар — худы, косткі на шчаках выпіраюцца... Толькі і красы, што язык як брытва!..» Але колькі ні абгаворваў яе сам сабе, колькі ні хаяў, не памагала ўсё ж — нібы апоены зеллем, думаў і думаў пра яе, сачыў за ёй неспакойным позіркам.

«А чаго — дзело маладое! Наша дзело — не раджаць!» — засмяяўся ён, задаволены такім простым, ясным тлумачэннем. Яўхім быў грубы па натуры, схільны да цынізму, які ён лічыў абавязковай адзнакаю сапраўднага мужчынскага характару. Пры ўсім гэтым вывад яго быў блізкі да праўды: Яўхім тады і сам не верыў у сур'ёзнасць сваёй прыхільнасці да Ганны...

Стары Глушак хутка заўважыў яго позіркі, асцярожныя, нібы незнарок, заляцанні да Ганны, адвёў за рог гумна і стукнуў па галаве лапаткай.

— За што?

— Кеб не рабіў, чаго не трэба. Жарабец дурны!

— Ужэ і пасмяяцца з дзеўкамі няможно!..

— Не для таго пазваны! — адрэзаў бацька і дадаў з папрокам: — Знайшоў каго!

Глушак адаслаў сына з гумна, далей ад дзяўчат, і Яўхім тут за ўвесь дзень больш не паяўляўся. Але вечарам стары павёз у свіран апошні мех, калі на гумнішчы засталіся толькі Хадоська

і Ганна, якім Халімон загадаў падгрэбці, прыбраць усё, Яўхім паявіўся зноў.

— Ой! — убачыўшы ўпоцемку яго, узрадавалася Хадоська.

Ганна сустрэла едкаватай усмешкай:

— Дзе ето прападаў так доўго?

— Работку даў стары, — адказаў няпэўна Яўхім. І каб змяніць небяспечны кірунак размовы, непрыемныя роспыты, запытаў: — Ну, а вы як тут?

— Дзякуй Богу, — адказала Ганна, — не сумавалі адны!

Хадоська ціха, з дакорам шмарганула яе за рукаў. Яўхім жа як бы не пачуў, не зразумеў кпіны, пастаяў, павёў вачыма па гумнішчы, прамовіў спакойна:

— Цёмно ўжэ!.. Можно і канчаць!.. — Ён раптам папрасіў: — Знаеш што, Хадоська, ідзі ў свіран, мо там бацьку трэба што памагці. А ты, — кіўнуў Яўхім Ганне — даграбі да стога, ды і дадому...

Але як толькі Хадоська знікла, ён падышоў да Ганны, стаў перад ёю.

— Злая ж ты! — Яўхім памаўчаў, чакаў, што яна скажа. Ганна не сказала нічога. — Ты — век такая?

Ён гаварыў весела, хацеў добрай гаворкі.

— А табе не ўсё адно? — Ганна варухнула граблямі, як бы прасіла адысці, не замінаць грэбці.

— Каб усё адно, то не пытаўся б.

— Дак не скажу!

— Гарачая ты, мабуць? — Ён узяў Ганніну руку, як у той вечар, але яна спакойна, цвёрда забрала яе.

— Мабуць... Ды адышоў бы ты, грэбці не даеш...

— Управішся!.. Гарачая, значыцца!..

— Для каго як!

— Для каго — як печка, а для каго — лёд?

— Угадаў. Здагадлівы!..

— А для мяне — як?

— Для цябе? Папраўдзе, не думала ніколі... Пэўне, для цябе — ніяк!

— Як ето? Ні тое ні сёе? Сярэдне?

— А так. Ты для мяне — як кукаль на разоры. Што ты е, што цябе няма — адно.

— Бо не знаеш!.. Ты ўсё пра Дзятліка свайго думаеш. Таксамо — кавалера знайшла!

— Які е, абы да душы.

— Попусту сохнеш! Цяпер ён не хутка выберацца! За такія штучкі мало не даюць! Бандзіцізм! За ето так запраторраць, што і свету белага не ўбачыць!.. От птушка: такі з выгляду рахманы, цішэй вады, ніжэй травы, а глядзі — з бандзюкамі знюхаўся!

Ганна абарвала — дадзеў усё ж ёй:

— Не радуйся чужой бядзе!..

Яўхім зразумеў, што перахапіў, схібіў, паспрабаваў паправіцца:

— Я і не радуюся. Шкода проста цябе!..

— А ты не шкадуй! Няма чаго!

— Я чалавек не злы. Спагадлівы... Асабліва да дзевак!.. — Ён жартам стараўся як можна загладзіць памылку, растапіць яе непрыхільнасць, якая стала такой калючай. — Тут час такі — збыту матка не дае! Жаніся ды жаніся!.. От я і прыглядаюся!

— Калі так, то не туды глядзіш. Не выгледзіш нічога... У другі бок глядзеў бы. Хадоська вунь ночы не спіць!

— Хадоська...

— Любіць, дурная! За што толькі, даўмець не магу?

— Хадоська... Што — Хадоська? Вада — смаку ніякага!.. От ты, ты памойму, — са смакам!

— Дак яна ж у сто разоў лепей за цябе!

— Ты, памойму, — не слухаў яе Яўхім, — як самагонка! Пяршак! — Яўхім раптам схапіў яе за руку, Ганна паспрабавала вырвацца. — Не вырывайся!.. Уа, мабуць, такі гарачая!

— Пусці!

Ганна рэзка крутанула руку і вырвалася. Але ў той жа момант, адкінуўшы яе руку з граблямі, якія яна трымала між сабой і ім, Яўхім абхапіў Ганну аберуч, сціснуў так, што ёй зацяло дыханне. Ад валасоў яе, ад твару пахла Яўхіму ветрам, саломай, нечым такім завабным, жаночым, што ў галаве яго муцілася. Ён адчуваў тугія грудзі яе, жывот, цвёрдыя калені, усё цела яго поўнілася нецярплівай, гарачай прагай, якая ап’яняла, паліла, туманіла развагу.

— Пусці! Чуеш?! Ой, балюча!.. Не цісні, ой... — ірвалася яна, непрыхільная, гнеўная, усё яшчэ трымаючы граблі.

Яе вочы былі блізка, былі добра відны ўпоцемках — непакорныя, дзікаватыя, як у птушкі, што б’ецца з сілка. І плечы, і рукі, і ногі яе — уся яна была наліта непакорай, але ён не зважаў на гэта.

— Пусці, чуеш?.. Адыдзі!..

— От, нецярплівая!.. —паспрабаваў ён пажартаваць. — Патрывай бо... трохі...

— Пусці! Закрычу!.. Ейбогу, закрычу!..

Ён не адказаў. Не мог гаварыць, лавіў, лавіў яе рот, а яна не давалася, адварочвалася: перад ім была то скроня, то раскудлачаная галава з хусткай, ссунутай назад. Яўхім, аднак, не адступаўся, усё дужэй сціскаў дзяўчыну, і не было, здавалася, такой сілы, якая б разарвала гэты абдымак.

І раптам у Ганны вырвалася спалоханае, як маланка ўдарыла:

— Бацько!!!

Яўхім адразу выпусціў яе, адскочыў. Трывожна азірнуўся: спачатку на дарогу к свірну, туды, адкуль ён мог паявіцца, але там не было нікога, тады кінуў позірк убок, к суседскаму гумну, на загуменне. Не відаць нікога... Яўхім мімаволі глянуў на яе, як бы просячы яе памагчы, убачыў — яна ўжо стаіць наводдаль, папраўляе валасы і хустку.

— Не шукай! Няма яго!.. — кпліва прамовіла яна.

Ён са злосці аж вылаяўся:

— Тты, чорт! — Але тут жа адчуў, што паказваць злосць сваю — значыць, страціць зусім мужчынскую годнасць, стаць проста нікчэмным. Паспрабаваў засмяяцца: — А я — паверыў! Лоўко ты... выдумляеш!..

«Так абдурыла! Так у лужыну пляснула, подлая!.. Дурань!»

— Палахлівы ж ты, аказваецца!

Ад гэтага здзеку ён гатовы быў рынуцца да яе, як разгневаны звер, але яна наставіла граблі, пагрозна папярэдзіла:

— Падыдзі толькі!

Яўхім прыпыніўся, як бы развражаючы. А думаць было цяжка: сэрца шалёна калацілася, у скроні біла кроў, у галаве стаяў важкі туман. Яна ж, хітрая, не траціла часу марна, скарыстала замінку: заўважыла постаць, што праходзіла непадалёк па загуменні, крыкнула:

— Цётка Алена, то вы?

Постаць стала, прыгледзелася да іх.

— Ето я, Аўдоцця, — пазналі абое голас удавы Сарокі. — А то ты, Ганна?

— Аге...

— Пераказаць мо што Алене?

— Нее. Сама ўжэ скажу...

Яўхім, слухаючы гаворку, аж кіпеў: і гэта ўсё было здзекам з яго. Знарок спыніла жанчыну, смяецца кожным словам. Пачакай, няхай адыдзе толькі...

І трэба ж, знарок, каб чула жанчына, Ганна лагодна прамовіла:

— Дак я ўжэ зрабіла ўсё... Пайду ўжэ?

Ён прасіпеў:

— Ідзі...

Яўхім не глядзеў ёй услед, але чуў яе крокі, чуў, здаецца, смех, які яна несла ў сабе. «І трэба ж даць так абдурыць!» — не мог ніяк супакоіцца ён. Яму было так прыкра, што хацелася лаяцца. Але ён разам з тым адчуваў, што прыкрасць гэта не толькі на тое, што даў ашукаць сябе, але і ад таго, што яна так працівіцца яму, такая непадступная. «Як прынцэса! Каралева зрэбная! Галадранка!..»

Плынь яго думак пра куранёўскую прынцэсу, аднак, тут жа абарвалася, бо на сцежцы ад дому паявілася постаць. Ён пазнаў Хадоську, падумаў мімаволі: «А мо яна тут паблізу была, не захацела падыходзіць, калі я з Ганнай... Бачыла, як Ганна адшыла мяне... Ну і хай, калі на тое, — пляваць мне на ўсё!..» Хадоська, падышоўшы да Яўхіма, азірнулася:

— А дзе Ганна?

— Пайшла ўжэ...

«Не бачыла, значыцца. Кеб трохі, наляцела б, але — не бачыла...» Яўхім і Хадоська нейкі час стаялі моўчкі, яму проста не хацелася гаварыць, яго яшчэ хвалявала перажытая прыкрасць, а яна як бы чакала чагосьці, што ён павінен быў абавязкова сказаць. Можа, ёй тады было дастаткова аднаго добрага: «Ну, і ты ідзі ўжо, Канапляначка!» — і яна б пайшла, тоячы радасную надзею. Але ён не гаварыў нічога, і яна стаяла, адчуваючы, як цесна робіцца ў грудзях сэрцу, узрушана круцячы пальцам ражок хусткі.

Яўхім заўважыў, як яна круціць, мне ражок, і як бы прачнуўся. Акінуў вачыма ўсю яе — Хадоська стаяла, апусціўшы галаву, добрая, пакорлівая, — і раптам падумаў: чаго ён тлуміць попусту галаву сабе, чаго шукае, дабіваецца? Нашто яму здалася ганарыстая Чарнушкава каралева?

Яўхім абняў Хадоську, адчуў, як яна радасна, аддана прытулілася, аж затрапятала ад шчасця.

— Канапляначка...

Ён пацалаваў, і яна не адвярнулася, адказала доўгімдоўгім пацалункам, такім, што ён ледзь не задыхнуўся.

— Утаміўся я... — сказаў ёй, нібы адкрыўся другу ў бядзе. — Пасядзім давай.

Пяшчотна трымаючы яе за стан, Яўхім павёў Хадоську к стогу. Яна ішла спачатку лёгка, з той жа добрай пакорлівасцю, але раптам заўпарцілася.

— Не трэба!.. Я не хочу!..

— Ну, пасядзім трохі! Ногі баляць... Пасядзім, і толькі!..

Ён гаварыў ціха, ласкава, нібы прасіў пашкадаваць. Голас яго пераконваў: нічога баяцца не трэба, нічога кепскага не будзе.

— Глядзі ж, кеб... без глупства!..

Хадоська паслухалася, села каля яго. Ён абняў яе, прыцягнуў, стаў, задыхаючыся, цалаваць, шаптаць штосьці гарачае, бязладнае, разарванае. Яна спачатку, хоць і стрымана, адказвала на яго пацалункі, потым стала трывожна кідацца, стараючыся вырвацца з яго абдымкаў.

— Ой, не трэба! Не хочу!..

— Дурная!.. Ну, чаго ты? Ну, чаго?.. Няўжо я так не падабаюся табе?.. Такі паганы?

— Не...

— Ну, дак чаго ж ты?

— Баюся я! Устанем лепей!..

— Не любіш, значыцца?

— Устанем давай!..

— Не любіш?

— Люблю...

— А калі любіш... Дурная!.. Канапляначка!.. Канапляначка мая!..

Ён не чуў сваіх слоў, ён адчуваў толькі яе, маладую, жаданую, непадатную. Хто б мог падумаць, што і яна, такая добрая, мяккая, здаецца, закаханая без памяці, будзе так працівіцца! Ён злаваў ад гэтага непаслушэнства, ад упартасці яе, нецярпліва гарэў.

— Яўхімко, мілы!.. Не трэба!..

— Чаму? От выдумала! Баязліўка ты!

— Яўхімко! Не жаніўшыся!.. Грэх!..

— Граху цяпер няма! Грэх выдумалі... Усе грашаць...

— Пабойся Бога, Яўхімко!

— Бог не асудзіць!

— Татачко!.. Як дазнаюцца ўсе!..

— Ніхто не дазнаецца! — Яму нясцерпна надакучылі яе трывогі, надакучыла ўгаворваць і, каб скончыць гэта, ён сказаў: — Жанюся ж з табою...

— Жэнішся?

— Жанюся, сказаў!..

— Дак — пачакай!.. Пасля вяселля!..

Яўхім ашалеў. Яна гэта адчула і прысмірнела. Яна яшчэ з адчаем змагалася і з Яўхімам, і з сабою, са сваім каханнем, змагалася, чуючы пад сабой страшную бездань, але змагацца

станавілася ўсё цяжэй. Яна ўсё слабела, яна адчувала, што не ўтрымаецца...

— Яўхімко... мілы!.. Пасля... Адразу...

— Ну, заныла! Калі ты зараз!..

— Божачко ж!..

Гэта быў апошні вокліч, апошняя надзея, мальба аб літасці...

Калі Яўхім праводзіў яе па загуменні, спадылба, зладзейкавата сочачы, ці не падглядвае хтонебудзь за імі, Хадоська была ўжо ціхая, ласкавая, пакорлівая.

Развіталіся каля яе гумна. Яўхім, шкадуючы, вінавата абняў яе за плечы, Хадоська сама паднялася на пальчыках, дацягнулася да яго губ, пацалавала.

— Яўхімко! Што ж... — голас яе, кволы, пакутлівы, задрыжаў. — Што ж мы... нарабілі!

— От, дурная, нібы што такое!

— Грэх які!

Ён хацеў сказаць штонебудзь бесклапотнажартаўлівае, але Хадоська раптам прыпала да яго грудзей, горка, з глухім, поўным трывогі, адчаю стогнам зарыдала. Яўхім азірнуўся: «От, плакса! Як у дамавіну жывая кладзецца!.. Яшчэ пачуе хто, угледзіць... Бацькам напляце... Будзе гаворкі!..»

— Ну, ціхо ты! — прамовіў, як мог, лагодна і строга. — Людзі ходзяць!

Яна сціхла, адступілася, выцерла слёзы.

— Дак не... не падманіш?.. Яўхімко?..

— Не... Сказаў...

— Не кінеш?..

— От бо! Зноў!

Ён ужо амаль злосна павярнуўся і пайшоў назад. «Трэба було етае, звязаўся з дурною, — ад душы пашкадаваў ён цяпер. — Мало було клопату!» Але адышоўшы крыху, супакоіўшыся, разважліва падумаў: «А калі на тое, чым я вінаваты! На тое і лавец, кеб рыба не драмала. Хіба б лепей було, кеб упусціў такі кавалак!..» Ён са здзіўленнем і разам з тым ужо з прыемнасцю ўспомніў: «А трымалася ж як! Хто б падумаў!.. А ўсётакі не абераглася, дабіўся!..»

Падымаючы на гумнішчы кінутыя граблі, ён успомніў другую, успомніў, як непрыхільна рвалася, як пасмяялася, і радасць астыла. «От каго б абламаць!.. Толькі — цяжэй будзе!.. Нічога, усяму свая пара...»

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

У Алешніках Шабета ўзяў фурманку, і далей, да Юравіч, Васіля везлі. Конь быў не з порсткіх, возчык не спяшаўся, Шабета не падганяў таксама, і, пакуль дапляліся да мястэчка, на зямлю лёг добры вячэрні поцемак. З гары спускаліся і ехалі па прыцішэлых мястачковых вуліцах ужо ў цемры, якую там і тут адно прарэзвала жоўтае святло з вокан.

Усю гэтую дарогу Васіль перабыў у затоенай маўклівасці. Маўкліва сышоў ён і ў пакойчык унізе дома, які з гэтага вечара павінен быў стаць яму нямілым, вымушаным прыстанкам. У пакойчыку было яшчэ цямней, чым на вуліцы, толькі святло з адчыненых дзвярэй на час рассунула цемру, і Васіль убачыў нечыя ногі, абутыя ў лапці з прысохлай гразёю, убачыў край світы, умятую, збэрсаную салому.

— Адкуль сам? — запытаўся з цемры голас, калі дзверы зачыніліся,

— З Куранёў...

— Аа... А я са Слабады...

Хоць Васіль сваім маўчаннем ясна паказаў, што не хоча гаварыць, голас пацікавіўся:

— За што?

Васіль адмахнуўся:

— Ат...

Незнаёмы паварушыўся, пашамацеў саломаю і больш ужо не пытаўся.

Доўгая і думная была гэтая ноч Васілю. А думкі ўсе круціліся вакол таго, што было неадступнай, злыгоднай ноччу, згадвалі ўсё, перабіралі з'яву за з'яваю і ноч, і наступны дзень, і бачыў зноў Васіль перад сабой то Ганну, то маці, то Шабету, і камень цяжкі ціснуў на сэрца, крыўда і злосць апаноўвалі яго. Крыўда гэта расла, шырылася і была ўжо не на аднаго Шабету, а на ўвесь свет, у якім, як Васіль быў цяпер перакананы, няма ніякай справядлівасці, не было ніколі і не будзе.

Справядлівасць! Дзе і калі яна была беднаму, цёмнаму чалавеку! Дзе яе шукаць яму, адзінокаму, безабароннаму, які, можна сказаць, і свету не бачыў далей куранёўскіх балот, які і ў Алешніках нясмела азіраецца.

Поўны важкіх дум, ён задрамаў толькі пад досвітак, але і цяпер спаў нядоўга, бо разбудзіла гаворка: хтосьці прасіў вы-

пусціць «да ветру». За акном пачынала зелянець неба, на яго зеляніве ўжо добра акрэслівалася нязвычнае, жорсткае перакрыжаванне крат, і іх выгляд ураз адагнаў дрымотную супакоенасць, вярнуў да горкай рэальнасці. Але Васілю не хацелася ні бачыць гэту рэальнасць, ні думаць пра яе. Падаткнуўшы пад бок світу, схаваўшы пад ёй галаву, што ляжала на торбе з харчамі, ён зноў задрамаў.

Цераз дрымоту адчуваў ён, што ўжо настала раніца, чуў, як хтосьці з тых, што былі тут учора ўпоцемках, сказаў: «А любіць, мабуць, етае жарабя дрыхнуць!» — але не падымаўся. Устаў толькі, калі пачалі будзіць: прынеслі снедаць. Цяпер ён хмурным, заспаным позіркам дзікавата агледзеўся: іх тут з ім было трое: адзін, з закарэлымі ранкамі і сінякамі, такі худы, што невядома, у чым і трымалася душа, а другі плячысты, здаровы, з густой барадой, зарослы амаль да вачэй.

Заўважыўшы, як Васіль азірае катух, худы з сінякамі дробна хіхікнуў:

— Кубелца — жыць можна! Не глядзі, што нізенькае. Жыць можна, хіхі!..

Ён падміргнуў барадатаму, борзда падсунуўся да Васіля:

— Ты, здаецца, ядры цябе, паў нутром? Аге ж, паў, бачу! Я, ядры, адразу бачу, зірну — і ўсё відно мне! Не тапіся раней часу! І тут жыць можна. Жывём, дзякуй Богу!

— Жысць! — са злосцю плюнуў барадаты.

— А што ж! Не гняві Бога, Мітрыхван. Жывём, хлеб жуём — кормяць, пояць і на работу не вельмі... Хіхі, папанску жывём, ядры яго. Як хто, а я дак рады, што трапіў. То ж, каб не гэта, у зямлі даўно тух бы. Як пазвярэлі людзі, наляцелі, — бы з ланцуга сарваліся, жывога месца не пакінуць.

— Будзеш другі раз знаць, як на чужое квапіцца!

— Саграшыў. Каюся, ядры яго, Мітрыхван, нячысты ўбіўся. — Ён паясніў Васілю: — Каня, хлопча, я чужога ўзяў, на кірмаш думаў, цыганам... Саграшыў!

— Саграшыў! Жарабятнік паганы! Перадушыць вас, гадаў, мало!

— Ты маўчы. Душагуб знайшоўся! Звер!.. От, як упя́каюць на Салаўкі, будзеш ведаць — перадушыць бы! Уесца табе ў пячонкі міліцынерык гэты!

Мітрахван пачырванеў, раўнуў:

— Маўчы!

— Звер ты!.. Проста звер! — прымірэнча, лагодна прамовіў, саступаючы, злодзей.

— Мяне таксамо — міліцынер, Шабета, — уступіў у гаворку Васіль, як бы паказваючы гэтым, што прыстае да кампаніі. — Насеў смалою — і ўсё... Падпішы!.. І — у кутузку!

— У яго, ядры, не тое...

— Маўчы! Не лезь!

— Сам раскажы!

Барадаты важка зашамацеў саломаю, сеў.

— Ну, счапіўся ён са мною, міліцынер гэты, Радзівон. З нашых сам, тульгавіцкі. Без штаноў нядаўна па вуліцы гайсаў. А тут — улась, не крані яго. А сам — за змеявік ды — пад ногі, таптаць!

— Самагонку гнаў у восеці! Накрылі!

— Маўчы! Кеб змеявік бyў мой, то я, можа б, і сцярпеў, а то ж Піліпчыкаў. Кінь, крычу, Радзівон, а ён — хоць бы што! Ну, я і ашалеў, за грудзі яго! А ён — у крык: улась, крычыць, не слухаешся, пакажу!.. І паказаў, праўда!..

Дзверы, да якіх ішлі ўгару прыступкі, адчыніліся, і загарэлы, абветраны хлопец у зашмальцаванай паддзёўцы загадаў абодвум збірацца.

— Куды? — Не ўтрываў злодзей. — На лесапілку?

Хлопец строга адрэзаў:

— Даведаешся!

Васіль здагадаўся, што іх павядуць працаваць, і ў ім на момант паявілася спакуслівае жаданне папрасіцца з імі і самому, але ён прамаўчаў. Адчуў, што прасіцца дарэмна: не тое месца, каб выбіраць, што лепей, не воля.

Калі дзверы за імі зачыніліся, ён загарнуўся ў світу і паспрабаваў зноў заснуць, аднак сон ужо не ішоў. Нудзячыся без занятку, не ведаючы, як запоўніць час, стаў пераабувацца: перацёр закарэлыя анучы, перавязаў парваныя аборы на лапцях. Абуўшыся, падышоў да акна, прабег позіркам па асеннім згалелым і пажоўклым агародзе. Спахмурнеў, убачыўшы за рогам хлява наводдаль сіняваты ельнічак, бурштыновую рыску пяску, — угадаў там нявідную дасюль красу Прыпяці.

Увесь дзень то стаяў каля акенца, то сланяўся з кутка ў куток. Не мог звыкнуцца з думкаю, што цяпер не такі, які быў заўсёды, — арыштант, што няблізка цяпер за гэтымі сценамі і вартавым Курані, хата свая, маці, Ганна, усё тое, чым жыў дасюль.

За акенцам рос крывы, ужо амаль данізу ссохлы будыль сланечніку. Першы раз Васіль яго і не заўважыў, але з часам адзінокі, закінуты гэты будыль выклікаў ужо неадступны смутак, нібы жывая істота. «Адзін, як я», — падумаў раптам Васіль і адчуў, як у горле зашчымела.

## 2

Абвыкся, прыцярпеўся б Васіль у турме, калі б балела яму толькі тое, што арыштант, прызвычаіўся б і да таго, што з цяперашняга часу ён чалавек з плямай. Да думак аб чалавечай нячуласці і несправядлівасці ён звык з малых год, з чужых гаворак і з свайго вопыту, і хоць яны на час зрабіліся вастрэйшыя, хутка прыглухлі б і прыцьмелі б таксама.

Горш за ўсё, самай вялікай пакутай было тут проста сядзенне, сядзенне без звычайных клопатаў, без працы. І доўгімі днямі і яшчэ даўжэйшымі ў крыўднай бессані начамі думаў, балеў душою па дамоўцы, па недамалочаным жыце, па небараку Гузу, які, можа, стаіць не дагледжаны як след, па хаце, для якой ён не прывёз дроў і якая, можа, выстыла. Не дрэмлючы, трызніў гумном, цэпам з выслізганым далонямі цапільнам, бачыў пусты ток, убіраў ноздрамі пах даўняй трухі з застаронкаў, чуў, як шамаціць сена ў мяккіх маршчыністых губах каня. Рукі, душа яго прагнулі працы.

Але працы не давалі. Хоць звычайна не меў схільнасці прасіць, усё ж аднойчы не вытрываў, заікнуўся перад вартавым, што паклікаў барадатага і слабадскога канакрада, каб дазволілі і яму. Вартавы, русявы хлопец у доўгім кавалерыйскім шынялі, нядаўна дэмабілізаваны, адрэзаў павайсковаму, адным словам: не загадана. З таго разу Васіль ужо не прасіўся, паслухмяна і абыякава цягнуў нуду на прыгорбленых плячах.

Адзінае, што абнадзейліва свяцілася яму наперадзе, была думка пра сустрэчу з маці. Ён чакаў яе, як ніколі дагэтуль, з дня на дзень, і асабліва ў нядзелю, калі местачковая вуліца, нявідная, але добра чутная адсюль, стала поўніцца жвавым кірмашовым гулам, ляскатам колаў па бруку, гаманам.

Ён не памыліўся: маці прыйшла. Калі яго ўвялі ў пакой, дзе сустракаліся, маці, якая асцярожна сядзела ўскрай услончыка, не зводзячы добрых вачэй з яго, хапаючыся, узнялася, стала ў замяшанні. Так і стаяла маўклівая, і толькі вочы, насцярожаныя, чулыя, павільгатнелыя, поўныя вялікага шкадавання, казалі, што робіцца ў яе душы. У гэты час Васіль пашкадаваў, што не пагаліўся, што рэдкая, яшчэ маладая барада, якая выбілася тут, мусіць, робіць яго твар пастарэлым, горшым.

Ён заўважыў, як у маці жалліва смыкнуліся куточкі губ, і падумаў, што яна восьвось заплача. Але яна стрымалася, звыкла правяла ражком паркалёвай хусткі па роце, стала заклапочаная. Падаючы торбу, загаварыла:

— Я тут хлеба дзве кулідкі паклала. Учора спякла... Мядку дзед расстараўся. У конаўцы берасцянай, кеб не выліўся, глядзі... Уюнкоў насушыла з дзесятачак... Цыбулькі, гуркоў прынесла...

— Мёд лепей було б на продаж, — строга зазначыў Васіль.

— Яечак дзесятак прадам... Солі трэ і запалак...

Васіль не сказаў нічога на гэта. Пацікавіўся іншым:

— Як там Гуз? Не кульгае?

— Неа. Папраўляецца.

— Жыто — немалочанае?

— Дамалочуваем. Дзед і я...

— Стары — дужы, кеўляе, значыцца?..

— Кеўляе. Дужы.

За кожным пытаннем і адказам ішла важкая, поўная матчынага смутку, цішыня.

— Валодзька не дурэе?

— Неа. От надысь на балото хадзіў. Уюноў прынёс. Кажа: Васілю, браціку...

— Глядзі за ім, не балувай... А Гузу — паранку. Зіма падыходзіць — у лес трэба будзе...

— Ды ўжэ ж, буду рабіць...

Распытваў Васіль, раіў, наказваў, а сам не раз, не два думкаю падыходзіў да Ганны: як яна, ці помніць пра яго, ці не злуе за крыўду? Усё чакаў, што маці загаворыць пра яе. Маці нібы прачытала яго думкі.

— Ганну Чарнушкаву бачыла сягоння...

— Тутака?

— Неа. Дома, каля калодзезя. Кланяцца табе сказала.

— А... — Васілю стала добра, хораша. — І ты ёй перадай — што кланяюся...

— Перадам...

Ён перахапіў спасцярожлівы матчын позірк і здагадаўся, што яна штосьці тоіць, не наважваецца адкрыць.

— Як яна, вясёлая?

— Маркотная... Бы з крыўдай якою...

Васіль адвёў вочы ўбок, прамаўчаў. Але таіла яна не гэтае, большае. Разважыўшы, прызналася з непакоем:

— Яўхім Карчоў, кажуць, нешта стаў каля яе... круціцца...

— Яўхім?

— Гаворка такая була... Толькі Ганна, кажуць, не хіліцца да яго... —паспрабавала супакоіць маці.

Яна перавяла тут жа гаворку на іншае, але вестка, што неспадзеўкі дайшла да Васіля, ужо не адступалася ад яго. З усяго, што Васіль пачуў тут ад маці, яна найбольш хвалявала яго, ныла ў ім. Нельга сказаць, каб вестка гэтая вельмі занепакоіла адразу — Васіль быў такі, што паддаваўся настроям няхутка, новыя і радасць, і бяда авалодвалі ім спакваля, усё мацней, глыбей з часам. Усё ж пачутая нядобрая навіна пра Ганну ўжо тут, у гаворцы з маці, захмарыла яго.

— У Дамеціка карова ацялілася... — гаварыла маці. — Цялушка — такая добрая...

— Гадаваць сабе будзе?

— Неа. Абы, кажа, падрасла, прадам...

«Грошы трэ», — падумаў Васіль, але падумаў па звычцы, абыякава — думкі ўсё ішлі да Ганны, да Яўхіма. «Корч крывы, ужэ тут ваду муціць! Мало леснікоўны!..»

— Хваліўся Дамецік: сын яго са службы прыйсці павінен... Скора...

— А... адпускаюць...

— Міканор. Мабуць жа, помніш?..

— А чаго ж...

— Вучыцца хацелі там аставіць... А ён сказаў: дадому.

— У балото... пацягнуло.

— Ведамо — дамоўка!..

Маці зразумела, што дарэмна стараецца суцешыць, змоўкла зусім, адно не зводзіла вачэй з сына, добрых і сумных. Маўчаў і Васіль, так у маўчанні і сышоў канец іх спаткання. Толькі калі вартавы падняўся, маці, што раптам вельмі заспяшалася, не ўтрывала — выказала тое, што хацела чуць:

— Ці скора хоць, сыночак, выпусцяць?

Васіль адвёў вочы ўбок.

— Хіба скажуць...

### 3

На другі дзень Васіля ўпершыню выклікалі працаваць. Калі ён, накінуўшы на плечы світу, выйшаў з барадатым і канакрадам на звонкі, умерзлы дворык, грудзі яго зайшліся ад бадзёрай чысціні радаснага ранішняга марозцу. Халодны вецер, што абмыў твар, абхапіў шыю, залез пад велікаваты каўнер зрэбнай сарочкі, адразу пагнаў па спіне дробныя прыемныя дрыжыкі. Васіль павесялеў, гарэзна павёў плячамі, нібы стараючыся сагрэцца.

Ён тут жа заўважыў на сабе строгі позірк Мітрахвана і схамянуўся, нагнаў выраз сталасці. Іх павялі па вуліцы, потым загадалі звярнуць у вулачку, вузкую, крывую, што вяла ў той бок, дзе была Прыпяць, і Васіль, які сам сабе гадаў, куды іх вядуць, падумаў: мусіць, на рэчку, грузіць баржу ці параход...

Але да Прыпяці іх не давялі. Неўзабаве ўсіх трох спынілі каля паравога млына, перад гарой абыяк скінутых дроў, якая займала ледзь не палавіну шырокага двара. На вокліч вартавога з цёмных дзвярэй млына выйшаў зацярушаны мукой чалавек, прынёс пілу і сякеру.

— Вось, — сказаў ён і зірнуў на вартавога, як бы пытаўся, каму аддаць сякеру і пілу. Вусы яго, каротка падстрыжаныя, былі белыя ад мукі.

Канакрад, не пытаючыся дазволу, узяў пілу і сякеру ў яго з рук.

— Козлы вунь пад плотам, — прамовіў млынар і падаўся зноў да дзвярэй.

— Ну, за работу! — спакойна кінуў вартавы, адыходзячы ўбок, нібы не хацеў замінаць. Ціхі, курносы, у вялікай, не па свайму драбнаватаму росту, ватоўцы, прытуліўшыся да слупка, ён больш нічога не загадваў, ні ў чым не папраўляў, адно моўчкі назіраў.

Барадаты Мітрахван выцягнуў знад плота старыя козлы, узяўшыся за бервяно, гукнуў Васіля.

— Не цябе! — раўнуў ён на канакрада, які таксама памкнуўся да яго. — Толку з цябе! Лезе! — цыркнуў з пагардаю сліну барадаты, калі паклаў з Васілём бервяно.

Пацягнуўшы некалькі разоў пілу, Мітрахван загадаў спыніцца, вырваў у канакрада сякеру, стаў хутка, са злосцю папраўляць разварот. Так жа хутка, нездаволена вярнуўся да козлаў.

— Бяры! — строга загадаў Васілю.

З гэтай пары гадзінудругую гаварыла толькі піла. Мерна, роўна шархала яна, уядалася ў крамяную белую моц дрэва, сеяла на слізкую, схаладнелую траву чыстае, як мука, пілавінне. Неўзабаве Васіль пачуў, што робіцца горача, зняў світу, кінуў на дровы, потым расшпіліў і сарочку. Забыўшыся на становішча сваё, ён пілаваў з тою заўзятасцю і ахвотай, з якімі робіць чалавек, што ўзяўся за жаданы занятак. У гэты час на яго радасна было глядзець, ён нібы пахарашэў: стаў жвавейшы, паружавеў і падабрэў.

Стома ўсё больш абцяжарвала рукі, тулава, але ён не паддаваўся.

— Дуж ты! — пахваліў Мітрахван, затрымліваючы пілу, аддыхваючыся. — Як клешч!

Ён павярнуўся да канваіра:

— Пакурыць трэба!

— Курыце!..

Мітрахван сеў на цурбак, зморана расставіўшы ногі, выняў капшук. Узяў двума пальцамі тытуню, працягнуў капшук Васілю — падаў не так сабе, а як знак павагі. І Васіль узяў гэта як знак павагі, стала, з годнасцю.

Курылі павольна, з доўгімі зацяжкамі, астывалі на холадзе. Канакрад падсеў збоку, зморапы, згорблены.

— Калодкі, ядры іх! Адны сукі — ніяк не даюцца! Ты яе і так і сяк, а яна хоць што!

Мітрахван і Васіль прамаўчалі. Васіль заўважыў на сабе зайздросны позірк канакрада, які прасіў акурачак, але зрабіў выгляд, што не здагадваецца, дасмактаў цыгарку сам. Кінуўшы дакураную цыгарку, Мітрахван падняўся першы.

— Возьмемся.

Васіль ужо зноў угрэўся, калі хтосьці папрыяцельску ляпнуў яго па плячы. Васіль здзіўлена азірнуўся: побач стаяў прыцярушаны мукою Косцік Хвошч, якога калісьці дражнілі «КосцікХвошчык». Мабыць, цэлы год не бачыліся — Косцік жыў і рабіў у мястэчку — і раптам такая сустрэча!

— А я гляджу — ён ці не ён? — засмяяўся Косцік.

Васіль таксама ўсміхнуўся.

— Я...

— Як ты сюды трапіў?!

Васіль не зніякавеў, не паказаў крыўды, кпліва, памаладзецку варухнуў плячыма.

— Як? Рыштант.

— За што?!

— Доўгі расказ!..

Але Косцік быў не такі, каб пры такіх акалічнасцях мог лёгка адступіцца. І не цікаўнасць простая брала яго: справа датычылася прыяцеля, прычым прыяцеля, як ён лічыў, ва ўсім слабейшага. Косціку не трэба было вялікай здагадлівасці, каб зразумець, што прыяцель гэты да таго ж адчувае сябе не так весела, як хоча паказаць. І прыйшлося Васілю хочаш не хочаш адкрываць закрытае на моцны замок, недаверлівае сэрца. Пачаў спачатку так, абы адкаснуцца, суха, неахвотна, а потым неспадзеўкі разгарачыўся, стаў выкладваць усё з крыўдай, са злосцю.

— І ты павёў іх?

— А што мне було зрабіць? Аднаму? Я хацеў спярша — дак адзін наганам як трэсне...

— Усё адно... Людзей якнебудзь пазваў бы!..

— Пазваў бы! Калі спяць усе!..

— Эх, гады, не перадушаць іх ніяк! — пашкадаваў Косцік, і Васіль пачуў у яго словах як бы спачуванне сабе. Расчулены, Васіль паскардзіўся:

— Тут мяне самога ў бандзіты прыпісалі!..

— Ляпнуў!.. Які ж ты бандзіт?

— Такі... Рыштантам от зрабілі!

Косцік загарэўся памагчы.

— Я пагавару, каб праверылі, як усё было! І сам скажу, хто ты такі! Скажу, што ніякі ты не бандзіт! Што ты такі, для якіх рэвалюцыю зрабілі, от што!.. Хай за тое, што вінаваты, нагрэюць, а за што не вінаваты — адпусцяць!

— Не павераць...

— Мне? Я — у камсамольцах, — важна прамовіў Косцік. — Я з самім Апейкам знаёмы!

— Стане цябе Апейка слухаць!

— Будзе!

І, каб зусім пераканаць упартага, недаверлівага прыяцеля, дадаў:

— Знаеш, для чаго ето? — ён павёў позіркам па гары дроў і цурбакоў. — Для млына. А ў млыне муку мелем. Для каго? — Васіль маўчаў, не ведаў. — Для горада! Для Мазыра! Няхватка дзецям, чырвонаармейцам і іншым. Мяне прыслалі сюды, у млын! Як камсамольца, на выручку!

Косцікавы вочы пыталіся: «Ясна?» Васіль моўчкі кіўнуў галавою.

Канваір, які, мусіць, ведаў Косціка, што дазволіў такую доўгую гаворку з арыштаваным, урэшце ўсё ж, не так тонам загаду, як просьбы, сказаў, каб канчалі гаварыць.

Косцік падаў руку і хадою гаспадара пайшоў у млын, а Васіль узяўся за пілу.

## 4

Позна ўвечары, вяртаючыся дамоў, старшыня валвыканкома Апейка рашыў зайсці да начальніка міліцыі. У пакоі начальніка было цёмна, свяцілася толькі акно ў дзяжурцы, і Апейка падаўся

адразу на кватэру Харчава: начальнік міліцыі жыў тут жа, у гэтым доме, у двух пакойчыках з двара.

Харчаў сядзеў каля ўслона босы, у галіфэ з леямі і прапаленай на локці сарочцы. Мокрымі рукамі, аблепленымі лусгой, што серабрыста паблісквала ў святле лямпы, чысціў рыбу.

— Якраз у пару прыйшоў, — адказаў ён весела на прывітанне Апейкі. — Як чуў...

— Дзе налавіў? Ці мо — падарылі?

— Эге, падарылі! Так я і вазьму! Плёткі потым на цэлы павет!.. Знайшоў дурня!.. — Апейку яго словы не здзівілі, ён ведаў: Харчаў у гэтым непадступны, не возьме «падарунка».

Начальнік міліцыі дадаў ужо інакш, разважліва:

— У доранай яно, сказаць, і смаку ніякага. Як лаза. Еш, калі хочаш, але пра смак не думай... Другое, калі сам палазіш, памокнеш, падрыжыш на холадзе, тады рыба — о! Ясі яе, як прорва!.. У Ламачах быў. Ночку недаспаў — і вось бачыш!

І гэта было падобна на Харчава: пахадзіць, палазіць усюды, здабыць усё самому. Харчаў кінуў недачышчанага ляшча, устаў, гукнуў жонку.

— Пачакай, — сказаў яму Апейка. — Справа ў мяне. Адзеньcя. Пойдзем пагаворым.

Харчаў, па сваёй з ваенных часоў звычцы, не пытаючыся, пра што будзе гаворка, выцер ручніком рукі, хутка ўсцягнуў боты. Праз хвіліну ён выйшаў з суседняга пакойчыка ўжо ў гімнасцёрцы, моцна падпяразаны, усім выглядам паказваючы, што гатовы да любой справы. Ён быў шырокі ў плячах, шырокі тварам, з чырвона загарэлай, дублёнай скурай, прысадзісты, падобны на каржакаваты палескі дуб, што моцна ўрос у зямлю. Баявы кавалерыст, душа якога яшчэ жыла паходамі, атакамі, сніла ўкраінскі стэп, ён, хоць і моцна зацягваў папругу, быў ужо не такі стройны, як паўтара года назад, калі Апейка ўбачыў яго ўпершыню.

«Папаўнеў і неяк падабрэў тварам, — падумаў Апейка, ідучы поруч з ім па двары. — І на цябе, брат, мірнае жыццё адбітак кладзе, кавалерыст заўзяты!.. Гімнасцёрка малаватая робіцца...» Ён тут жа запярэчыў сабе, што Харчаў усё ж перамяніўся мала, што папаўнець і ад гэтага нібы падабрэць тварам ён мог бы і на фронце — старэе ж, якніяк; ды і якое яму мірнае жыццё, калі ў лесе маслакоўцы, калі таго і глядзі кулю ўцэляць дзенебудзь на дарозе.

Апейка з нейкай зайздрасцю падумаў, што хоць ён на пасадзе і вышэй за Харчава, той у людскім уяўленні мае больш увагі

і пашаны: «Ціхі я, непрыкметны, як быў настаўнікам, так і застаўся ім. Харчаў жа — адвага, надзея, герой...»

— Ёсць скарга, — сказаў Апейка, калі начальнік міліцыі запаліў лямпу.

Апейка знарок памаўчаў. Ён быў амаль таго ж росту, што і Харчаў, быў таксама ў вайсковай форме. Праўда, не ў гімнасцёрцы, а ў фрэнчы з грубага сукна, з вялікімі нашыўнымі кішэнямі на грудзях і па баках, са стаячым каўняром, які падпіраў і цёр падбародак. Але і ў сваёй форме ён выглядаў вельмі сціплым, дробным. Фрэнч быў яўна велікаваты яму, ад гэтага яго дробная, сутулая постаць выдавала драбнейшай, як была сапраўды.

— Якая скарга? — запытаўся Харчаў.

— Трымаеш чалавека без дастатковых падстаў. Можна сказаць, невіноўнага.

— Каго гэта?

— Дзятла Васіля. З Куранёў...

На гімнасцёрцы, напятай на шырокіх грудзях, зазырчэў ордэн Чырвонага Сцяга, акружаны выгаралай перкалёвай зборкай.

— Аа... Усе яны невіноўныя, — прамовіў Харчаў цвёрда, пераканана.

— Што значыць — «усе»?

— Усе... Каторыя трапляюцца!..

— Гэта — не доказ, — ціха, мякка запярэчыў Апейка тонам старэйшага, які абавязан паправіць, растлумачыць. — Трэба разбіраць канкрэтно. Кожны выпадак...

— Разбіралі.

— Ёсць факты? Канкрэтныя?

— Ёсць.

— І ён прызнае іх?

— Знайшоў дурня! Прызнаецца ён, чакай!

— Павінны быць канкрэтныя факты, — ціха, але ўпарта прамовіў Апейка.

Старшыня валвыканкома папрасіў пратаколы допытаў. Стоячы пры лямпе, якая асвятляла бугрысты, з залысінамі лоб, рэдкую павітуху чарнявых валасоў, моўчкі перагледзеў некалькі лісткоў.

— Усё? — падняў вочы на Харчава.

— Усё.

— Больш нічога? Другіх фактаў віны яго няма?

— Другіх мы проста не ведаем.

— Значыць, і спасылацца на іх не будзем...

— Чаму гэта? А калі я ўпэўнен! Калі сэрца маё падказвае!

— Сэрца, дружа, можа часам і ашукаць...

— І Шабета за тое, што — птушка падазроная...

— Даруй, але Шабета не даў ні аднаго доказу, што Дзяцел бандыт. Ёсць толькі факт, які паказвае, што яго прымусілі правесці.

— І аднаго гэтага факта, калі на тое, досыць.

— А я думаю — мала. — Апейка заўважыў, як Харчаў рэзка, з упартым выразам правёў рукой па папрузе, абцягваючы гімнасцёрку. Начальнік міліцыі быў нязгодны. Апейка мяккім голасам пастараўся растлумачыць: — Мала — не таму, што факт адзін, а таму, што ён... недастатковы для тваіх вывадаў...

— Як гэта — недастатковы!

— Ён, паўтараю, не гаворыць, што Дзяцел — бандыт. Або нават — іх пасобнік.

— Дык пасабляў жа! Сам прызнаўся!

— Правёў пад абрэзамі! Адзін раз!

— Дазнайся ідзі! — Харчаў неспакойна захадзіў. — Адзін ці не адзін раз. Пад абрэзамі ці не пад абрэзамі. Усе яны, калі пападуцца, пад абрэзамі памагалі! Усе чэсныя, ангелы! А маслакі арудуюць! Хто толькі іх корміць ды наводзіць! — Ён стаў перад Апейкам, пасвойску, але цвёрда ўзяў яго за руку. — Я лічу — калі хочам кончыць Маслака, няма чаго міндальнічаць. Памог маслакам? Памог. Значыць, таксама ўдзельнік! Ну, і пасядзі, папарся! Аднаго пасадзіш — другі баяцца будзе!

— Баяцца будуць, — згадзіўся Апейка.

Ён, зблізку гледзячы ў вочы Харчаву, уздыхнуў:

— Але што мы за такая савецкая ўлада, калі нас свае баяцца павінны?

— Нічога, шкоды вялікай не будзе. Затое парадак будзе, дысцыпліна!.. Знаць кожны будзе як след, што спуску нікому не дадзім! Што б ні зрабіў — па ўсёй строгасці! Як у рэвалюцыю!.. А то ж да чаго дайшло, — Харчаў загарачыўся, — усюды ціша, спакой, і дзяцей бандытамі забылі палохаць! А тут — у нашай воласці, пад бокам у нас — лазяць, абрэзы настаўляюць, грозяцца! А мы — сядзім, як цельпукі! Зрабіць нічога не ўмеем. Міндальнічаем!

— Міндальнічаць з поганню, канешне, нельга!.. Але, Змітро, зразумей, — не можам мы трымаць у турме чалавека без дастатковай віны!

— Без віны? Мы з табой— як у казцы пра белага бычка. Я адно кажу, а ты сваё гнеш! — Харчаў зноў кінуўся ў контр-

наступ: — Ты што, знаёмы, што так упэўнены ў ім? Ты вось упікаеш мяне, што фактаў мала, а ў цябе яны ёсць?

Апейка адказаў не адразу, нібы даваў Харчаву час супакоіцца.

— Многа не многа, а ёсць. Ёсць паручыцельства чалавека, які яго добра ведае і якому я веру. — Ён апярэдзіў пярэчанне начальніка міліцыі. — Калі хочаш, скажу, каб ён заўтра зайшоў да цябе. Пагавары — наш чалавек, надзейны... — Апейка раптам папрасіў: — Ведаеш, а цяпер загадай, каб прывялі твайго злачынца. Давай паглядзім, папытаемся разам.

Харчаў неахвотна паслухаўся, выйшаў у калідор, гукнуў дзяжурнага. Вярнуўшыся, ён сеў за стол, дзелавіта заклапочаны, строгі, нібы загадзя гатовы да размовы з арыштаваным. Моцныя, чырвоныя, з набухлымі венамі рукі яго, сплёўшыся пальцамі, ляжалі на стале перад ім. Апейка, які сядзеў з боку стала, падсунуў да сябе газету, дастаў аловак, што тырчаў з кішэні фрэнча, стаў выводзіць завітушкі подпісаў.

Увайшоўшы, Васіль прыжмурыў вочы ад святла, мелькам, без якойнебудзь цікавасці прабег позіркам на Апейку, спадылба ўтаропіўся ў Харчава. У яго быў такі выраз на твары, які, здавалася Апейку, гаварыў: «Ведаю, навошта паклікалі, пра што пытацца будзеце, — дабра не чакаю».

Харчаў расшчапіў рукі, зварухнуўся.

—Ты што ж гэта, друг, не прызнаешся? — выразна, аддзяляючы кожнае слова, прамовіў ён. — Не прызнаешся, што памагаў Маслаку?

Васіль адвёў позірк убок, пераступіў з нагі на нагу.

— Не памагаў я...

— Як жа не памагаў?

Васіль прамаўчаў. Апейка ўбачыў на яго твары, затоеным, насцярожаным: «Так і ведаў, гэтага і чакаў...» Скарыстаўшы момант цішыні, старшыня валвыканкома загаварыў сам, запытаўся пра такое, што, здавалася, не мела ніякага дачынення да гаворкі:

— Які надзел у цябе?

Васіль абыякава адказаў.

— Зямля добрая?

—Ат, якая зямля... У нас, у Куранях, зямля...

— Ёсць і добрая!

— Е. Ды не для нас...

— Для каго ж? — варухнуўся Харчаў.

Васіль не адказаў.

— Чаму ж ты супроць землеўпарадкавання?

— Я супроць? — яўна не згадзіўся Васіль.

— А як жа. Не ты навёў маслакоўцаў, каб сарвалі перадзел? — умяшаўся Харчаў.

Васіль не знайшоў, што сказаць. Апейка заўважыў, як хлопец зноў стуліўся безнадзейна: што тут скажаш людзям, якія ведаюць адно: «вадзіў, памагаў», разумець нічога не хочуць.

— Я ведаю, ты — не бандыт, — прамовіў раптам Апейка.

Васіль ажыў, але тут жа схамянуўся, стрымаўся, кінуў насцярожаны позірк.

— Ты — не бандыт! — паўтарыў Апейка больш цвёрда. — Ты проста — баязлівец! Трус!

Апейка сказаў гэта нядобра, з асуджэннем, але Васіля ні яго словы, ні тон гаворкі, было відаць, не пакрыўдзілі. Ён глядзеў ужо на Апейку не толькі з насцярожанасцю — з надзеяй, праўда, недаверлівай.

Апейка неспадзеўкі стаў злавацца.

— Чорт вас пабяры! — Нават злуючыся, ён гаварыў роўна, ціха. — Для вас, для вашага шчасця стараюцца, гінуць людзі. А вы, вы — за сябе пастаяць не ўмееце!.. Ты — не бандыт, ты — крот, які капаецца ў сваёй нары. І толькі адну сваю шкуру беражэ. А там — хоць трава не расці! Хай другія прынясуць табе шчасце на талерачцы!.. Ты, канешне, зямлі добрай узяць не адмовішся! — Васіль пры гэтых словах кіўнуў галавою: хто ад такога адмовіцца? — Канешне, ты не супроць землеўпарадкавання! І сам жа памог сарваць яго!

Апейка заўважыў, што хлопец хацеў штосьці запярэчыць яму, але стрымаўся, пабаяўся, відаць, угнявіць. «Эх, разгаварыўся, суддзя! — падумаў з одумам аб сабе старшыня. — А ён стаіць — хоць бы што, у галаве — адно: пусцяць ці не?..»

— Я — усё, я пагаварыў, — сказаў ён начальніку міліцыі.

Калі дзяжурны, што ўвайшоў на голас Харчава, паказаў хлопцу на выхад, Васіль нечакана пакланіўся.

5

Апейка не памыліўся, Васіль, слухаючы яго, і праўда думаў аб адным: пусцяць ці не пусцяць? У ім, як ніколі за апошнія дні, забруілася, затрапятала надзея: «Можа, пусцяць?» Усю ноч, слова за словам, думка за думкаю, успамінаў, перабіраў ён гаворку ў кабінеце Харчава, нібы нанава перажываў яе. Гадаючы

пра свой лёс, ён адчуваў, што трымаўся не так, як трэба, маўчаў, не апраўдваўся, і цяпер лаяў сябе за маўклівасць: такі зручны момант упусціў, недарэка! Адно толькі, што пакланіўся, добра: знак пашаны, канешне, даспадобы начальству...

Спраўдзіўтакі Хвошчык сваё абяцанне, пайшоў да валаснога начальніка. Значыцца, не брахаў, што з Апейкам знаёмы — як сваяк той. Глядзі, як сігануў! І што ў камсамольцы запісаўся, таксама, відаць, праўда чыстая... Дзякуючы ў думках таварышу, мімаволі пазайздросціў: «Выскачыў Хвошчык, хітры!.. Усе Хвашчы хітрыя!» Пазайздросціў не са злосцю, не з абурэннем, а добра: хітрасць — як тыя грошы, як удача, шчасце...

Думкі ад Косціка непрыкметна перабеглі да Апейкі. Згадаў дробную, ціхую постаць старшыні, здзівіўся: такі нявідны, а столькі ўлады ў руках трымае, начальнік усёй воласці! І што асабліва ўражвала: маючы такую ўладу, разам з тым — просты і абыходлівы!

Як толькі падумаў пра Апейку, ажыло зноў, затрывожыла неадступнае, жаданае: «Можа, пусцяць?.. Сказаў жа: «Ты — не бандыт!.. Не бандыт, знаю», — сказаў... Ён жа не хто сабе, а начальнік воласці, улада, слова яго штосьці значыць... Не бандыт! А калі не бандыт, то не павінны трымаць. Няма такога закону...» Але думкі гэтыя, добрыя спадзяваннні тут жа мяшаліся з халодным, звыклым сумненнем: «Наўрад... Так цябе і пусцяць, чакай!.. Харчаў маўчаў, не згодны, канешне... Ды і гэты ж таксамо — лаяў, злаваўся...»

Васіль успомніў, як сярдзіта, непрыязна кінуў яму Апейка папрок: «Крот, баязлівец», — і на змену трывозе аб тым, пусцяць ці не, прыйшла ўпартая злосць: «Прыставілі б табе абрэз да грудзей, паглядзеў бы я, што б ты запяяў! У мясцечку, у кабінетах, за спінамі міліцынераў усе вы смелыя!»

Вунь як яно ўсё павярнулася, як знарок, — усё супроць яго. Нават перадзел зямлі і той нібы ад яго залежаў, нібы ён не за перадзел, дабра сабе не хоча! Ад шчасця свайго, ад зямлі адмаўляецца! І вось жа паспрабуй, дакажы тут, што не вораг сабе. Учапіліся, ведаюць адно: вадзіў, памагаў — і ведаць, здаецца, іншага не жадаюць...

«Маслакі праклятыя, — узяла іншы кірунак думка Васіля. — Трэба ж було налезці ім якраз на мяне, увесці ў такую бяду!» Ён думаў пра маслакоўцаў апошнімі днямі не ўпершыню, думаў з непрыхільнасцю, з тайнай, неадступнай надзеяй адплаты, помсты. Сёння, аднак, да яго думак прымяшалася і іншая: «А чаго ім перадзел еты не даспадобы? Чаго яны свой нос сунуць?»

«А мо яны не самі?.. Мо — папрасілі іх?» — уразіла Васіля адкрыццё. І тут жа прыйшла загадка, якая потым жыла ў ім многа дзён: «А калі папрасілі, то — хто?»

На гэта ў яго не было адказу. Ён не ведаў, мог адно рабіць здагадкі. Але здагадкі для Васіля былі нішто, ён цаніў толькі тое, што ведаў, што бачыў...

Гэтыя Васілёвы развагі перамешваліся з гарачымі і трывожнымі згадкамі пра Ганну — ён нібы зноў стаяў каля плота, чуў шум груш на Чарнушкавым агародзе, брэх сабак, бачыў цьмяную шэрань туману над балотам. Калі ў марыўяве браў яе рукі ў свае, гарнуў да сябе, пытанне, якое так трывожыла, пачынала паліць неспакойна, нясцерпна.

«Пусцяць ці не?»

Пытанне гэтае жыло ў ім і ўвесь наступны дзень, у які ён зноў пілаваў дровы каля млына. Шоргаючы пілой, з самага ранку Васіль быў асабліва маўклівы, рабіў з нейкай рэдкай лютасцю, да знямогі. Нават Мітрахван не вытрываў, пад вечар паскардзіўся:

— Замучыў ты мяне, хлопец. Нашчэнт...

Дзень быў няроўны: то пасвятлее, то зноў насунуцца нізкія кужэльныя хмары, абложаць усё неба так, што стане цёмна, як вечарам. Адзін раз парывісты вецер, шалёна круцячы, кінуў на двор хмару снежных высевак, абсыпаў траву, дровы, дыхнуў халадэчай. Такі няроўны, як гэты дзень, быў і настрой у Васіля, у якім мяняліся добрыя спадзяванні і злыя сумненні.

«Не пусцяць», — рашыў ён вяртаючыся. З маленства прызвычаены да крыўды, да злога, ён знарок рыхтаваў сябе на горшае, трымаў у душы недавер’е да таго, што можа адбыцца жаданае. І калі пасля звароту хлопецвартавы загадаў яму збірацца, Васіль прымусіў сябе не паверыць, што гэта і ёсць тая чаканая хвіліна. Ён спакойна надзеў світу і, як звычайна, хмурна ссутуліўся, чакаючы загаду. Толькі калі вартавы сказаў, каб узяў і рэчы, сэрца Васіля дробна, соладка затрымцела.

— І торбу? — перапытаў ён, баючыся, што памыляецца.

— Усё, — адказаў вартавы.

Васіль, беручы торбу, заўважыў, што рукі дрыжаць.

— Ну, ядры яго, бувай! — залапатаў канакрад. — Адлежаў! Адбыў, мазалёў не нажыўшы! Лёгка!.. Бувай, ядры яго! Не памінай ліхам!

Барадаты Мітрахван прабурчаў толькі:

— На мароз бярэ!..

На ганку Васіль знянацку натрапіў не на каго іншага — на самога Харчава. Грозны начальнік міліцыі, не зважаючы на моцны, халодны вецер, стаяў у гімнасцёрцы, на якой, як заўсёды, быў ордэн. Убачыўшы яго, Васіль мімаволі насцярожыўся.

— Ну?Дадому?

— Ды... не кажуць куды...

— Дадому! Адпушчаем!.. Толькі глядзі, другі раз будзь разумнейшы! Зноў зробіш так — не спадзявайся на ласку! Так і ведай!

— Ведаю...

Харчаў памаўчаў, адхіліўшы галаву ад моцнага напору ветру.

— У вас там хтось шахермахер Маслаку робіць, пасабляе!

— Можа, пасабляе...

— Не можа, а точна. Скажы там у сяле, што Маслаку і ўсёй яго хэўры хутка труба будзе! Скажы, што я, Харчаў, паабяцаў! Так і перадай!

— Перадам!

Харчаў павярнуўся і, важка, моцна ступаючы, падаўся ў пакой.

Нават калі Васіль адзін пайшоў па вуліцы, галоўнай мястэчковай вуліцы, яму яшчэ добра не верылася, што ўся тая недарэчная, прыкрая гісторыя скончылася, што ён ужо не пад прыглядам варты, не арыштант, а вольны казак, што можа ісці туды, куды хоча, куды вядзе сэрца. Ён і не агледзеўся, як прайшоў вуліцу з радамі дробных крамак, з разнастайнымі шыльдамі і шыльдачкамі, як павярнуў к гары і паўз двухпавярховы дом «воласці» пачаў борзда ўздымацца па чырвонаглінянай каляіністай дарозе. І гару, увесь немалы, круты ўздым, адалеў ён ураз, не прыпыняючыся, не аддыхваючыся, поўны незвычайным адчуваннем нецярплівай, крылатай лёгкасці ў сабе.

Узляцеўшы на гару, убачыў перад сабой знаёмую дарогу з пабурэлым курганам справа, з голымі дубкамі, наводдаль, у цемнаватай хмурнай далечы — нізкую роўнядзь палёў, што ішлі пад самыя Глінішчы, пад хмызнякі і балоты, за якімі таіліся родныя, жаданыя Курані, — і стаў як бы больш верыць у рэальнасць таго радаснага, якое толькі што адбылося. Мітрахван казаў праўду: брала на мароз. Удзень гэта амаль не адчувалася, а цяпер, з надвячоркам, мароз вельмі прыкметна мацнеў. Па гары спераду наўкася кідаўся густы вецер, сек дробным снегавым крупіннем, абцінаў холадам, быў такі пранізлівы і дужы, што зрэбныя Васілёвы штаны і нават рудая світа, якая ліпла да ног,

амаль не бераглі. Але Васілёў настрой ад гэтага не ападаў. Васіль як бы і не заўважаў холаду, борзда тупаў прадранымі лапцямі па ўкамянелай камякаватай храпе, што біла ў падэшвы, у пяткі, грэўся добрымі, вясёлымі думкамі. Думаў пра Косціка, які так удала налучыўся і — хто б мог сказаць загадзя? — так памог! Думаў пра маці: як яна там адна, як спаткае? Згадваў Валодзьку: што робіць, гарэза? Вельмі хацелася хутчэй пабачыць Гуза — ці спраўны, ці добра даглядалі гэты час, без гаспадара? Ці навезлі з балота сена — трэба заўтра ж праверыць стагі, можа, не дай Бог, расцягваюць іх злодзеі... А над усім гэтым, над неспакойнаю, бязладнаю мітусянінай думак, была радасць спаткання з Ганнай. Калі думаў пра яе, ногі самі сабой паддавалі хады, брала моцная нецярплівасць: ах, каб хутчэй пабачыць, сустрэцца, памірыцца! Ён быў так акрылены радаснай пераменай, што насуперак сваёй звычайнай насцярожанасці, мог думаць толькі пра шчасце. Трывога да яго амаль не даходзіла, пра заляцанні Яўхіма думаў спакойна, нават бесклапотна. Што яму той Яўхім!

Пакуль падышоў да Вадавіч, насунуліся поцемкі. Мусіць, каб не снег, навокал была б густая чарната, але снег адганяў цемру, бяліў усё. Ён ужо, як соллю, поўніў ямкі ў храпе, каляіны, канаўкі, і дарога выглядала нібы пасвяточнаму падбеленай. Маляр, які фарбаваў дарогу беллю, зрабіў не ўсё, але і так, і ў белацёмным роспісе, радавала яна вочы.

Рэчка за Вадавічамі, што перарэзвала балота і падкову грэблі, з берагоў ужо была забрана лёдам, які лёг на яго, бялеў роўна, чыста. Між гэтай некранутай белі вада пасярэдзіне здавалася густой і чорнай, як дзёгаць. Калі Васіль паглядзеў на яе, зрабілася нібы яшчэ халадней.

Хоць ішоў хутка, ветраны холад абцінаў усё мацней, усё злей, асабліва ногі ў каленях. Хлопец стаў, пацёр калені далонямі, потым, каб сагрэцца, пабег, знарок пазаечы падкідваючы нагамі і прытупваючы. Перамяніўся на хаду толькі за балотам, можа, праз вярсту.

Неўзабаве, каля Глінішчаў, сышоў са шляху, узяўся проста на Курані. Хоць мог ісці і сялом, знарок абмінуў яго, каб не сустракацца з людзьмі, падаўся сцежкаю па полі, паўз могілкі. Абышоў падмерзлым узболаткам і Алешнікі, зрэзаў вялікі круг. Снег ужо начыста выбельваў сцежку і дарогу, на якую выбраўся за ўзболаткам, — хмызнякі па балотах цямнелі незвычайна рэзка. Тут ветру не было, стала цяплей. Вакол панавалі цішыня і чысціня, хараство першых зазімкаў, якія асабліва хвалююць і

радуюць, — і Васіль паддаваўся ўладзе гэтага хараства: недаверлівае, насцярожанае сэрца больш і больш поўнілася шчасцем. Ганна, маці, Гуз, стагі — усё было ў гэтым шчасці.

Калі наблізіўся да Ганнінага селішча, прыпыніў гон, пайшоў цішэй, гулка закалацілася сэрца: вунь плот той, тыя грушы! У хаце свяціліся вокны — праз шыбу ўбачыў мачыху каля печы і Хведзьку, які корпаўся на ўслоне. Ганны не было.

«Мабуць, к дзеўкам пайшла...»

Адарваўся ад шыбы, падаўся ў сяло. Яшчэ амаль усюды свяціліся жоўтыя, варухлівыя агні — водсветы лучыны. Сярод іх асабліва блізкі, родны вылучыў агеньчык сваёй хаты. Гарыць лучына — значыцца, маці дома, не спіць. Можа, думае пра яго, сумуе і не ведае, што ён каля парога... Васіль ужо быў блізка ад хаты, калі пачуў наперадзе Ганнін голас, мяккі шорхат крокаў.

Ён памкнуўся падацца да яе і адразу ж убачыў: яна не адна. Здалёк, праз прыцемак адчуў, хто гэты другі. Яшчэ не думаючы нічога, хутка ступіў да ясакара, што быў побач, стаяў за ім, разгублена сачыў за постацямі. Гэта была такая нечаканасць для яго нядаўняй радаснай бесклапотнасці.

Яны ішлі па другі бок вуліцы. Ішлі асобна, не вельмі блізка адно ад аднаго, Яўхім не хапаў яе нават за руку, ішлі проста як знаёмыя. І ўсё ж і гэта апаліла Васіля гарачай рэўнасцю, пякучай крыўдай: яна ідзе з яго супернікам, яго непрыяцелем, у такі дзень, калі ён так ірваўся да яе. Яна так сустракае!

Яўхім і Ганна набліжаліся. Ганна ішла, апусціўшы галаву, ці то хавала твар ад марозу, ці то глядзела на дарогу, на снег. Яўхім ступаў разваліста, засунуўшы рукі ў кішэні паддзёўкі, збіваючы калінікалі наском бота мёрзлыя камякі. Упоцемку чырвоным вочкам зырчэла цыгарка. Нават у тым, як ішла Ганна, абыякавая да ўсяго і, здавалася, таксама да яго, да Васіля, у тым, што на яго хваляванне яна нават брывом не варухнула, ішла, нібы нічога не было, вартага якойнебудзь яе ўвагі, бачылася Васілю вялікая крыўда. Тое ж, як спакойна, прывыкла трымаўся каля яе Яўхім, яго ўпэўненая, развалістая паходачка — нібы ўсё на зямлі належыць яму, — яго ганарлівая цыгарачка, ускінула ў хлопцы буру нянавісці.

«Корч, задавака... Думае, як багацце ў яго, дак і ўсё...» Яго нянавісць была тым большая, што ён лічыў, ведаў, што багацце — сапраўды ўсё, што ён — нішто перад Яўхімам. Ён адчуваў, што Яўхіму, калі захоча, — проста як чхнуць адбіць у яго Ганну. «Усе дзеўкі на багацце падкія...»

Калі праходзілі каля ясакара, Яўхім заўважыў Васіля. Ён вырваў з кішэні руку і ўхапіў цыгарку, так здзівіўся, пазнаўшы. Але гэтае здзіўленне было толькі момант, спрытны Корч тут жа знарок заступіў Васіля, схаваў ад Ганны. Адышоўшы некалькі крокаў, нахіліўся да яе, сказаў штосьці.

— Ідзі!.. Не брашы! — пачуў Васіль яе адказ. Ганна раптам засмяялася.

Смех гэты пранізаў сэрца. Васіль недарэчна, разгублена паправіў торбу і, не цямячы больш нічога, не бачачы, як сляпы, выступіў зза ясакара.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Калі Васіль прачнуўся, у хаце яшчэ ўсе спалі. Але як толькі ён стаў, сапучы, усцягваць адзежу, маці ўсхапілася, пачала завіхацца каля комінка. Лучынка ад вугольчыка, выкапанага ў печы, разгаралася неахвотна, і Васіль выправіўся на двор, не дачакаўшыся, калі агонь асветліць хату.

На ганку ён аж захлынуўся ад халоднага, нейкага прасторнага паветра. Было не цёмна, не так, як мінулымі начамі, а шаравата, і ў гэтай шэрані кідалася ў вочы, якое ўсё навокал белае, чыстае, як бы прыбранае на свята. Гэтая чысціня весяліла, як бы сама абяцала радасць: Васіль пачуў прыліў незвычайнай, бесклапотнай бадзёрасці. Ён гатоў быў ужо молада, як выпушчаны на волю жарэбчык, скочыць з ганка, калі ўсярэдзіне заныў такі жывы неспакой, замутніў чысціню, святочнасць напамінкам: Ганна ідзе з Глушаковым Яўхімам... Яўхім нахіліўся да яе, штосьці сказаў — засмяялася... Ён, Васіль, за ясакарам з торбай...

Васіль ціха сышоў на снег, паволі, важка патупаў к хляву. Гуз, пачуўшы яго крокі, з надзеяй заржаў, дзьмухнуў у твар цеплынёю. Васіль пачухаў яму за вухам, вобмацкам прабраўся ў закутак, прынёс у абярэмку сена. Калі Гуз пацягнуўся к сену, захрумстаў, Васіль, памякчэлы, лагодны, пастаяў побач, слухаючы мілае хрупасценне, цешачыся родным пахам хлява.

Гэтыя дарагія праявы глушылі сум па Ганне, вярталі, хоць і не бесклапотную ўжо, асцярожную, радасць. Хіба ж можна было ніяк не адгукнуцца на тое, што збылосятакі жаданне: зноў, бач, тут, у родным цяпле, сваім хляве, сваёй гаспадарцы, на волі. Учора, калі заходзіў сюды, усё гэта здавалася яшчэ

нібы непраўдзівым, цяпер жа радасць была яснейшай і як бы больш трывалая...

Пад павеццю снегу амаль не было, бо вецер дзьмуў з другога боку, і зямля тут цямнела, як на балоце. Ён перацягнуў калёсы к сценцы і высунуў з кутка сані, уставіў у завертні аглоблі. Калі закручваў аглоблі, завертні так трашчалі, што здавалася — вось-вось лопнуць. «Саўсім рассохліся за лета. Рыпяць, усё адно як не хочуць служыць...»

Ён успомніў учарашнюю матчыну скаргу, што няма чым паліць у печы, і зірнуў у куток, дзе складвалі дровы: там і праўда ляжала толькі некалькі галінак ды тоўсты, сукаваты смаляк, абшчапаны з бакоў. На смаляку было многа знакаў ад сякеры — відаць, маці або дзед спрабавалі пасекчы, але не маглі саўладаць.

«Трэба будзе па дровы з'ездзіць», — варухнулася клопатная думка.

Васіль намерыўся ўжо вярнуцца ў хату, узяць сякеру, як паявілася, перамагло іншае жаданне: паглядзець гумно. Адчыніў варотцы, лёгка, нецярпліва пайшоў белай сцежкай к прыгуменню. Калі ўбачыў цёмныя абрысы гумен, што цягнуліся ў ранішняй шэрані маўклівым, панурым радам, зноў ажыла трывожнасць, страшная ноч нібы зноў наблізілася. На момант аж затаіўся, ці не чутно крокаў ззаду, дотыку абрэза. Усё ж халаднаваты, нейкі асабліва свежы пах саломы з гумна, зычны рып паслухмяных гуменных варот не прайшлі міма ўвагі, устрывожаная душа адгукнулася на гэтыя родныя праявы ціхай, затоенай радасцю. Ён не зачыніў варот, і шэрань знадворку азначыла падмецены ток з горкай мякіны ў кутку, ладунак снапоў у адным застаронку і салому ў другім. Снапоў немалочаных было ўжо менш, як тады, калі ён малаціў апошні раз. Ён ведаў, што матка і дзед Дзяніс рабілі тут без яго. Васіль скінуў, разаслаў некалькі снапоў, намацаў павешаны на сук сахі цэп, размахнуўся, весела выцяў бічом па калоссі. Даўнодаўно не чуў ён у руках, ва ўсім целе такой радаснай сілы — канца, меры, здавалася, не было ёй, аж дзіва, колькі накапілася яе за тое дурное абібоцтва ў юравіцкай міліцэйскай баковачцы. Як згаладалы за акрайчык хлеба, учапіўся Васіль у выслізганае дубовае цапільна, дзівячыся з лёгкасці біча, ударыў яшчэ раз, другі, стаў махаць, махаць, біць і біць. Адно было нядобра: цемнавата ў гумне, біць даводзілася наўздагад. Як ні шкада, а хочаш не хочаш, трэба вешаць цэп зноў на саху. Да таго ж успомнілася, што пад павеццю — непасечаны смаляк: маці, мабыць, няма чаго запаліць у печы...

На астатак не ўтрываў, памахаў цэпам, як пастух пугаю, проста так, для забавы. Зноў выйшаў на белую сцежку, чуючы моц у целе, павесялелы. Пад павеццю люта накінуўся з сякераю на смаляны корч, лупіў па карчы і карчом аб калодку так, што аж у жар кідала самога. Кінуў світу на сані, у белай сарочцы біў, разламваў корч датуль, пакуль не засталіся ад яго крывулі ды трэскі.

Неўзабаве ён ужо ішоў з драўляным вядром да калодзежа, які быў на мяжы яго і дзядзькі Дамеціка сяліб. Трэба было напаіць каня. Вядро на кручок вочапу Васіль не павесіў, а кінуў, кручок не стаў зашчапляць — і так не сарвецца, не патоне. Ва ўсім тым, што ні рабіў цяпер, як бы хваліўся хвацкасцю сваёй, спрытам.

Выцягваючы вочап з калодзежа, з якога знаёма пахла мохам, старым мокрым дрэвам і вадою, ён пачуў, што з суседняга двара нехта падыходзіць, і азірнуўся. Гэта быў не Дамецік, ішоў плячысты, з воспаватым тварам малады мужчына ў вайсковай вопратцы і зімовай шапцы з вострым верхам.

— А, арыштант заявіўся! — павітаўся мужчына, здалося Васілю, з насмешачкай. Васіль мелькам заўважыў: у таго, што падыходзіў, ад чаравікаў да самых калень былі накручаны чорныя анучы, і ногі ў іх былі падобны на вялізныя граковыя.

«Надзеў чаравікі — і хварсіць!» — з асуджэннем падумаў Васіль. Ён не так пазнаў, як здагадаўся, што воспаваты вайсковы — Міканор, Дамецікаў сын, які вярнуўся са службы. Маці ўчора між іншых вясковых навін памянула і гэту.

«Арыштант! Ну, і — арыштант! А табе які сабачы клопат да етаго!» — адгукнуўся думкаю на суседава вітанне пакрыўджаны Васіль. Міканор жа, нібы нічога і не сказаў такога, здзівіўся:

— Ты чаго — ваўкаваты такі?

— А таго... Лепей буць ваўкаватым, як авечкаю... Кеб не кусало ўсякае...

Васіль узяўся за дужку вядра, не гледзячы, сунуў вочап у бок Міканора, намерыўся ісці.

— Пастой! — паспрабаваў затрымаць Васіля Міканор. — Нядобра так, не пасуседску. Шчэ і двума словамі не перакінуліся, а ўжо грызціся сабраўся...

— А я так да другіх, як яны да мяне...

І Васіль, паказваючы, што гаварыць больш не хоча, падаўся з вядром да хлява. «Не пасуседску, бач! А ты са мной — пасуседску?.. Думае — як чаравікі ды шапку ваенную надзеў, дак і абзываць усякім словам вольна яму! Думае — калі чалавек з арышту прыйшоў, то і пляваць на яго можна!...» Васіль пагразіўся: «Скажы шчэ раз такое, плюнь! Пабачыш!»

## 2

Так Васіль і затаіў бы злосць на суседа, адрэзаў бы сябе ад яго, калі б гэтай сустрэчаю цяперашняе знаёмства іх і закончылася. Але пад вечар, калі Васіль прыцягнуўся з лесу з возам дроў, маці пераказала яму, што прыходзіў Міканор і прасіў зайсці пагаманіць. Васіль на гэта запрашэнне не сказаў нічога, але па тым, як нездаволена матнуў ён галавою, маці здагадалася, што яно не спадабалася сыну.

Маці не стала дапытвацца, што ж такое ўчынілася між сынам і суседам, — ведала, што Васіль усё роўна не скажа, — але не ўтрывала, каб і раз, і другі не перадаць Міканорава запрашэнне, знарок дадаючы ад сябе розныя выдумкі, якія маглі б усцешыць сынава сэрца. Сказала, што вельмі хваліў Васіля за гаспадарлівасць і прасіў, каб ён за нешта не злаваў... Дзед Дзяніс падтрымаў яе: не адведаць суседа, не ўважыць ласкай такую радасць, як прыход са службы, нягожа...

Усё ж пайшоў Васіль к Міканору неахвотна: так, абы не пакрыўдзіць маткі і не паказаць непашаны да суседа. Рашыў — пасядзіць трохі для прыліку, пагаворыць пра тоесёе, споўніць матчын наказ і вернецца сабе...

Васіль спаткаў Міканора на двары — той нёс з сенцаў ражку.

— Заходзь. Зараз прыйду... — сказаў Міканор ідучы.

Ён вярнуўся ў хату, атрэсваючы чырвоныя, мусіць, толькі што памытыя, рукі.

— От, брат, за гаспадарку бяруся... — Міканор выцер рукі ручніком, засмяяўся. — Забуў усё, што ўмеў. Спачатку вучыцца трэба!

— Не кажы! — запярэчыла Дамеціха, што поралася каля печы. — Чалавек падумае, што і праўда! Не слухай яго, Васілько, смяецца ён...

— Аге, смяюся! Добрыя смешкі! Паранку рабіць ужэ не знаю як!..

— Не слухай яго, Васілько. Умее, усё ўмее...

Дамеціха стала збіраць вячэру. Перад тым як сесці за стол, Міканор запрасіў і Васіля, але той адмовіўся. Некалькі хвілін потым угаворвала далучыцца да ўсіх і Дамеціха, аднак Васіль і на гэты раз цвёрда ўстаяў, даводзячы, што толькі што вячэраў дома, наеўся, аж лішне. Дамецікавы селі адны. Тады надышла цішыня: дамашнія вячэралі, а Васіль, з выгляду важны, сталы, стараючыся трымацца ўпэўнена, з вельмі ж пільнаю ўвагаю разглядваў карткі на сцяне.

Акрамя той пажоўклай ад даўнасці карткі, на якой Дамецік, малады і хвацкі, у страшнай, калматай, як стог, шапцы цягнуўся побач з нейкім незнаёмым, — картку гэту, казалі, стары Дамецік прывёз яшчэ з японскай вайны, — было тут і некалькі Міканоравых здымкаў. З іх Васіль раней бачыў толькі адзін — Міканор, стрыжаны, у гінасцёрцы з шыракаватым каўняром, нечым як бы напалоханы. Васіль, калі пабачыў гэты здымак першы раз, аж здзівіўся: што гэта магло так напужаць хлопца? Цяпер побач з гэтымі здымкамі было некалькі новых — на кожным Міканор з невядомымі таварышамі, усе апяразаныя рамянямі, у бліскучых ботах, з шашкамі.

— Ето маё аддзяленне... — сказаў Міканор, сёрбаючы боршч.

Васіль усё ж чуў сябе ніякавата, чужым, і, разглядаючы карткі, чакаў адно той пары, калі можна будзе, не рызыкуючы прыстойнасцю, вырвацца сабе на волю. Агледзеўшы карткі і раз, і другі, ён ужо намерыўся сказаць Дамецікавым, што трэба падацца дадому, зрабіць яшчэ сёетое, калі на двары пачулася гамонка, крокі. Першы ўвайшоў, шумліва і весела, Хоня — «Бацько і матка». Ён быў у падранай світце і ў падранай шапцы, але і ў гэтым звычайным сваім убранстве ўдаваў проста такі фарсуном: так спрытна вісела напашкі світа, так смела ліпла да макаўкі шапка.

— Вечар добры ў хату! Кеб жылося і кеб вялося! — сказаў ён звонка і цвёрда. — І табе, Васіль, добры вечар! — дадаў ён такім тонам, нібы толькі ўчора бачыліся.

За Хонем паявіліся яго прыяцелі — чорны, пануры, як бацька, Пятро Пракопаў і куранёўскі гарманіст Алёша Губаты. Пятро толькі штосьці буркнуў пад нос і стаў у парозе — шырокай спіною амаль зусім затуліў Алёшу.

— От — у самы час! Бы, скажы ты, чулі — на вячэру акурат! — прамовіў усё з той жа вясёласцю Хоня і, не чакаючы запрашэння, як дома, падаўся да лаўкі, сеў шырока, вольна.

Дамецiха і Дамецік, як трэба было па звычаю, запрасілі хлопцаў к сталу, але Хоня за ўсіх адказаў:

— Дзякуем! Не спадзяваліся, што так добра прыбудзем, дак дома натапталіся картоплі!..

— Пад’елі, — пацвердзіў Алёша, прымошчваючыся каля Хоні.

— Пад’елі ці не пад’елі, а пасядзелі б от разам, паспрабувалі б, чаго Бог паслаў... — пачала было Дамецiха, але чалавек перабіў яе разважліва:

— Було б спробуваць чаго, дак, нябось, угаварылі якнебудзь! А то от расол адзін да картопля! Чарка хоць бы дзе завалялася!

— Апазніліся! — засмяяўся Міканор. — Што було — выпілі!..

— Багато там таго і було! — сказала Дамеціха. — Дзве пляшкі якіх!..

— Ды мы знаем, што ахвотнікаў на гарэлку знайшлося! Дак ад етаго мы не вельміто зразу і ляцелі! — Хоня хітра зірнуў на Міканора, павёў гутарку на іншае: — Хочам от Міканора з дзеўкамі нашымі пазнаёміць, бо ён жа, мабуць, забуўся! Дай дзеўкі, сказаць, збуту просто не даюць: прывядзі ды прывядзі!

— Аге, вазьміце яго, Хартонко! — ухапілася ахвотна Дамеціха. — Няхай пагуляе!

— Толькі, баімся, што ён, можа, цяпер да гарадскіх болей прывучаны! — сказаў Алёша Губаты, адольваючы нясмеласць, відаць, стараючыся патрапіць Хоню.

— Не було калі прывыкаць там! — заявіў Міканор.

— А ўсётакі, пэўне, завёў якуюнебудзь мармазелю? — учапіўся Хоня.

— Да не. Так, праўда, гуляў сколькі разоў па берагу ці ў парку. І то — з хлопцамі, з Марозам, з Кісялём...

— Аге, з Марозам! Кажы! Так табе і паверым!

— З Кісялём, кажа, гуляў!

— Пабачыць бы нам таго Кісяля!

Васіль з гэтай гамонкай і смешкамі стаў чуць сябе ў Дамецікаў ямчэй. Ужо не хацелася асабліва ісці дадому, можна было і тут пасядзець, паслухаць; ужо амаль супакоіўся, гатоў быў забыцца на ўсе страхі, калі дзверы адчыніліся і ў пройме іх — як злы напамінак, як пагроза — паявілася постаць Грыбка. Васіль ад неспадзеўкі аж пахаладзеў: больш за ўсё не хацеў, баяўся сустрэцца з Грыбком, і на табе — твар у твар!

Васіль увесь сціснуўся, насцярожыўся, чакаючы самага паганага. На момант з’явілася падазрэнне — ці не знарок, ці не для гэтай сустрэчы запрасіў Міканор? Няўжо знарок падстроіў? Але паглядзець на Міканора, хоць бы вачыма праверыць падазрэнне, не мог, нязводна сачыў за Грыбком.

Нічога страшнага як бы і не было: Грыбок толькі зірнуў на Васіля нядобра і сеў на другую лаўку. Ні слова не сказаў Васілю, але ў маўчанні яго хлопцу яшчэ больш чулася непрыхільнасці і дакору. Цяпер Васіль быў нібы прыкаваны да сцяны: каб і паспрабаваў, не змог бы, здаецца, адарвацца. Ён папракнуў сябе моўчкі: даў жа зарок не хадзіць ні да кога, не бачыцца ні з кім,

дзень цэлы перабыў без якіхнебудзь прыкрых сустрэч. І трэба ж было прыперціся сюды!

Ён зноў пачуў у сенцах крокі, павёў вачыма к дзвярам: каго там яшчэ нясе?

Увайшоў Чарнушка. Гэтага толькі і не хапала тут! Васіль, здавалася, уліп вачыма ў картку, але не бачыў яе, чакаў адно: што ж далей будзе?

Васіль заўважыў: павітаўшыся, Чарнушка адразу ўгледзеў, вылучыў з усіх яго.

— І Васіль тут! — прамовіў ён як бы давольны, але Васілю ад гэтага не стала вальней. Дамеціха адгукнулася:

— Зайшоў пасуседску к таварышу, дзякуй яму!

— Ты ці не ўчора ўвечары прыбыў? — не хацеў адступіцца ад Васіля Чарнушка.

— Учора...

— Увечары? Уцямнело ўжэ добра, як прыбыў?

— Уцямнело... Дак што?

— Да нічога. Бачыў я — нехта ўчора поцемкам падыходзіў за хаты, — сказаў Чарнушка. — Як бы падобны на цябе, я ля хлява акурат ішоў. А сягоння чую: і праўда, прыбыў... Дак я і падумаў, што ты...

Васіль прамаўчаў.

— Дак зайшоў бы няхай. Я ето не сказаў тады нічого, бо не пазнаў добра. Не паверыў, грэц яго. А то ж такі, мабуць, ты быў!

Васіль варухнуў плячом, як бы хацеў адчапіцца.

—Неа...

Гаворка, на шчасце, пайшла пра Міканора. Грыбок сказаў, што Міканор, няўрокам кажучы, спраўны вельмі з выгляду — непагана, мабыць, на службе было. Міканор засмяяўся:

— Да сказаць, што пагано, — грэх...

— Адкарміўся, як бугай. Выгуляўся, — пахваліў Міканора Хоня.

— Да кеб гуляў вельмі, не сказаць. Було так, не сакрэт, што пасля паходу іншы раз і сам, і конь пад табою — як у мыле.

— Калі ідзеш, ногі адна за адну чапляюцца? — зарагатаў Хоня, за ім — Алёша і Пятро.

— Ледзь дацягнешся, бывало. Зноў жа — на варце стоячы. У мароз, на ветры як папакалееш — дак аж, здаецца, душа заходзіцца. Кажух такі да пят — тулуп — давалі, як на варту ісці. Дак і тулуп еты не паможа — усё адно халадзеча дабярэцца!..

— Уга, да пячонкі дабярэцца!

Стары Дамецік толькі пачаў быў казаць: гэта што, от у Маньчжурыі мароз дык мароз, на ляту ўсё жывое нішчыць, — як у хату ўвалілася яшчэ некалькі дзядзькоў. Між іх быў і Руды Андрэй, акуратна паголены, з далікатнымі тоненькімі вусікамі-крылцамі агністага колеру, у фасоністай гарадской шапцы, — першы ў Куранях палітык і прамоўца.

Руды падышоў апошні, паздароўкаўся з Міканорам не так, як усе, нязграбна і сарамяжа, а, зняўшы фасоністую сваю шапку, адмыслова пакланіўся. Цiснучы руку, павіншаваў:

— Са шчаслівым вазвраншчэннем, Міканор Дамецевіч!.. Рады ўсе вас, таскаць, бачыць зноў на нашай куранёўскай почве...

Дзядзькі не першы раз дзівіліся з далікацтва яго абыходжання, але ніхто не спрабаваў рабіць, як ён: не кожнаму спрыт такі дадзен!

— Унцер у нас на батарэі быў, — успомніў Грыбок. — Ну і унцер: кулакі па пуду! Як дасць каму — той зразу з капытоў вобзем!.. А цяпер, праўда, не бувае, кеб каго білі?

— Няхай бы ўдарыў, хоць які камандзір. Дак яго так бы ўдарылі, што навек закаяўся б!

— А калі ж бувае, што каторы не слухаецца? — убіўся Хоня. — Камандзір яму адно, загадвае яму штонебудзь зрабіць, а ён — не буду і не буду! Не бувае хіба такіх?

— Бувае ўсякае. Толькі ўсё адно не б'юць нікога. Другім бяруць метадам. Тлумачаць найбольш, што да чаго. Што такое значыць служба ў Чырвонай Арміі, і каму мы служым...

— А калі ён не слухаецца ўсё адно? — не адступаў Хоня. — Не судзяць?

— Судзяць. А толькі болей — на свядомасць б'юць.

— Чуў я, што аж пад Мінскам на манеўрах быць даводзілася? —апярэдзіў нейкае новае пытанне надакучлівага Грыбка Андрэй Руды.

— Буў. На акружных вучэннях.

Андрэй Руды хацеў распытацца пра гэтыя вучэнні, але тут умяшаўся Чарнушка, пераблытаў усё.

— Як там зямля, пад Мінскам?

— Зямля як зямля, — паспрабаваў быў вярнуць Міканора к вучэнням Руды, аднак Міканор запярэчыў:

— Да і не сказаць, кеб такая, як наша. Сушэй багато... Балот дак рэдко, можно сказаць, болей — палі, палі ды лес. І лес, можно сказаць, інакшы — без канца чысты сасняк... Багато вельмі горак. Бувае так, што як глянеш з каторай, дак толькі і бачыш: горкі і горкі, з полем ды з лесам. Аж пакуль відно...

Хоня запытаў:

— Мо такія, як у Мозыры?

— Меншыя. Такіх, як у Мозыры, няма! — Міканор сказаў гэта як бы з гонарам: ён служыў у Мозыры.

Гаворка цяпер ужо зацікавіла Васіля. Ніколі за ўсё жыццё не быў далей Хвойнага, толькі раз дапаў аж да Мазыра, які здаўся такой далеччу, быццам там адразу канец свету. А людзей унь і далей заносіць, і аж дзіва — і там зямля, і там жывуць!..

— І як ето яно: зямля без балота! — нібы не паверыла Дамеціха. — Як ето яно можа буць, што б без балота!

— От, баба! У Маньжурыі, дак не то што балота, а і кусточка на сто вярстоў не пабачыш. Гола, як падлога...

— У нас, у Міхайлаўцы, таксама зямля була! Як масло, грэц яе! Вазьмі на хлеб ды маж, — пахваліўся Чарнушка паўзабытай Чарнігаўшчынай.

— А тут куды ні кінь — дак балото ды балото! — пашкадаваў Губаты Алёша. — Купіны ды жабы!

— Без жаб там, мабуць, сумно! — Хоня, а за ім Алёша і Пятро зарагаталі. — Без такіх песень!

— Чуў я, — прамовіў Міканор, — адзін вучоны ў Мозыры казаў, да нас прыязджаў з дакладам: на балоце зямля, казаў, — першы сорт. Без гною радзіць можа!..

— Толькі асушы — і сей, — падтрымаў Андрэй Руды. — Асабліва любяць ету зямлю авёс, каноплі, усякая цехнічаская культура.

— Асушы! Калі етай твані канцакраю няма.

— Генерал тут колісь буў — нібыто, — прыгадаў Ігнат, Хадосьчын бацька, якога за звычку да месца і не да месца ўстаўляць «нібыто» празвалі — НібытоІгнат.

Андрэй Руды пацвердзіў:

— Істарычаскі хвакт. Інхванцерыі генерал Жылінскі. Лічны друг цара...

— Друг ён ці не друг, не знаю А толькі — нібыто — вучоны дужа, інжынер. Ды і то сказаць: хоць цара і скінулі, і генералаў разам з ім, а ўсё ж такі генерал — не наш цёмны лапаць... Усе навукі прайшоў!..

— Навукі тыя яго булі не пралетарскія! — запярэчыў Руды.

— Якія яны там ні булі, а ўсётакі навукі, — сказаў Нібыто-Ігнат. — Дак ён — нібыто — дваццаць гадоў біўся з балотам, ссівеў, ссох, як трэска, а чаго дабіўся? Капае, капае, — не ён, канешне, а людзі прыведзеныя, — а яно, балото, пакуль у адным месцы выкапаюць, у другім ужэ раскай зарасло.

— Ето ж пад Загаллем пакапалі тады, — прамовіў Дамецік. — Там, мабуць, і знаку няма...

Дамеціха падтрымала:

— Што Бог даў, тое адзін Бог і перамяніць можа! А не чалавек, казяўка.

— Ето вы дарэмно, Халімонаўна. Перадавыя вучоныя яшчэ пры царскім рэжыме, таскаць, пра чалавека другое вучылі. Не кажучы пра цяперашняе, пра бальшавікоў, вучылі: чалавек — не казяўка!

— Не знаю, чаму там вучылі, а толькі казяўка буў, казяўка і е...

— Ето гледзячы — які чалавек! — запярэчыў Хоня. — Адзін, бувае, — казяўка, а другі — герой!

— Чалавек — сушчаство. Так сказаць, ён і мошка, і ён — валадар, цар прыроды! Ето шчэ вучыў паэт Някрасаў, а такжа Талстой, Леў Мікалаевіч!

— Чалавек — мошка і валадар, ето праўда, — падхапіў Алёша.

Міканор сказаў:

— Калі ён адзін, як той каласок, што забулі ў полі, ён, канешне, не сакрэт — усё адно што мошка ці казяўка. А калі етых мошак полк сабярэцца ці дзівізія, то етая мошка ці казяўка свет перавярнуць можа...

— Дак то дзівізія, а то — мужыкі, — падумаў уголас Хоня.

— Няхай сабе і мужыкі. Калі сарганізавацца ўсім, дружно ўзяцца, будзе ўсё адно што тая дзівізія. Што хочаш адалее.

— Дружно ўзяцца! Дак дзе ж ето було, штоб усё сяло ды дружно штонебудзь рабіло?

— Тут хто ў лес, а хто па дровы! — як бы пашкадаваў Хоня. Дзядзькі згодна падтрымалі яго, заківалі галовамі.

Калі ўсе змоўклі, адно смалячы цыгаркі, Чарнушка прамовіў раздумліва:

— Дый яно, сказаць, — тут і так, грэц яго, сілы няхватка. Кеб з тым, што ў гаспадарцы, управіцца.

— У другіх не меней, як у нас, клопату, — нібы не спрачаючыся, а таксама развважаючы, шануючы старэйшых, сказаў Міканор. — А от жа неяк робяць і іншае, сабе на дабро!.. — Міканор дастаў з кута газету, разгарнуў: — От пішуць: балота асушылі — луг зрабілі.

— Далёко ето?

— Ды не сказаць, каб вельмі. Вярстоў пятнаццаць мо за Нароўлю. Там блізко нашы лагеры стаялі, дык я, можно сказаць,

ведаю тыя мясціны. Усё такое, як і ў нас. А хіба б у нас паганую сенажаць можна було б за Церамоскім зрабіць?

— Можно б то можно, да от паспробуй! — сказаў Хоня.

— Усё адно як не знаеш нашых! — павучальна прамовіў Грыбок.

— Міканорко, не кажы чаго не трэба! — лагодна, але цвёрда сказала і маці. — Пустое ўсё!

— Чаму ето пустое? — загарачыўся Міканор. — Другія ж робяць, а мы што — горай за ўсіх?

Невядома, як пайшла б гаворка далей, калі б Чарнушка, які страх не любіў спрэчак, знарок не пажартаваў:

— Жаніць цябе, Міканор, мабуць, грэц яго, трэба!..

Хоня весела падхапіў:

— Ужэ і жаніць зразу! Дайце хоць хлопцу, пакуль тое — на дзевак паглядзецць, выгуляцца!

— Ахвоту хлапечую сагнаць! — падтрымаў Алёша.

Хоня тут жа спрытна, не трацячы зручнага моманту, пазваў Міканора на вуліцу — пабачыць, дзе што робіцца на вячорках. І, мусіць, Міканор у ахвоту падаўся б з ім, калі б Дамеціха не запярэчыла:

— Нягожа ето яму, Хартонко! Тут госці, а ён — шась з хаты, бы яны не даўпадобы!.. У другі раз няхай ужэ! — Яна, нібы чакаючы ўхвалы, зірнула на сына.

Міканор папрыяцельску кіўнуў хлопцам:

— Пэўнетакі, у другі раз паглядзім...

— У другі дак у другі! — Хоня ўстаў, прыляпіў да макаўкі шапку, падмігнуў таварышам сваім: — А мы — павалім! Бо кеб дзевак нашых не пахваталі якія!

— Дай штоб не пасохлі без нас з нуды! — сказаў Алёша.

Калі ўсе трое выйшлі, у хаце маўчалі, здавалася, слухалі жвавую гамонку спачатку са двара, потым з вуліцы. Калі гамонка прыціхла, Дамеціха чутна ўздыхнула, загаварыла з журботнасцю, з замілаваннем:

— От хлопец! — Хоць яна не сказала імя Хоні, усе зразумелі, кім захапляецца і па кім журыцца. — Ето ж трэба — бяда такая! Матка — як дзерава зрэзанае, з ложку не ўстае, дзяцей чарада на яго руках, накармі ўсіх, дагледзь!..

— І за бацьку і за матку адзін — ето праўда, грэц яго!

— А от — нібыто — і не бядуе! Нібыто — і гора мало!

— Не паказуе! Усярэдзіне, следавацельно, хавае!..

Зноў памаўчалі, потым гаворка пайшла пра тое, што цяпер асабліва турбавала кожнага, пра маслакоўцаў.

— Адкуль яны, грэц яго, прылезлі! То ж усюды, чутно, ціхо стало, а тут — сычаць і сычаць...

— Балото, ведамо, — адгукнуўся Дамецік. — Гаду ўсякаму ў балоце — рай!

Можа, і самі таго не заўважаючы, гаварылі цяпер цішэй, як бы асцерагаліся, каб не пачуў той, каму не трэба. Грыбок слова не выціснуў, сядзеў неспакойна, мімаволі прыслухоўваўся да гукаў на вуліцы, на якой недзе дурэла, гаманіла моладзь.

Васіль таксама маўчаў, ледзь толькі загаварылі пра Маслака, чакаў, што не абмінуць, упікнуць яго. Падрыхтаваўся, каб адрэзаць як належыць, калі хтонебудзь зачэпіць.

— Зза граніцы перакідаюць, з Польшчы. — Руды, як тайну, даверыў: — Так сказаць, агентура.

— Нібыто, балахоўшчыкі ўсялякія...

— Балахоўшчыкі ці не, а от жа, грэц яго, і цераз граніцу прашываюцца. І мало таго — шчэ і тут хэўру знаходзяць!

— І ў нас жа з некім зналіся...

— Зналіся...

Дымілі цыгаркамі, думалі аб нечым сваім, але гаворкі пра Маслака ўжо не вялі: не ў ахвоту гаворка гэта, рызыкоўная, лепш язык за зубамі патрымаць. Ажылі, загаманілі наперабой, калі пайшлі ўспаміны, меркаванні пра вайну, пра вайсковую службу...

Разыходзіліся познім вечарам. Ціхі, мяккі снег казытаў шчокі, ляпіўся на шапкі, на кажухі і світы, здавалася, спяшаўся хутчэй забяліць усё. Не толькі ўзболатак, агароды за хлявамі былі схаваны замеццю.

— Нібыто ўжэ і зіма, — зазначыў Хадосьчын бацька.

— Зіма! Толькі грязі лішняй, грэц яго, наробіць!

— Па прэдсказанію — таяць не павінно... —дайшло да Міканора і Васіля ўжо з вуліцы.

Міканор стаяў на ганку ў расхрыстанай гімнасцёрцы. Падаўшы Васілю руку, згадаў весела:

— Думаў я, што ты сказаў каля калодзежа. Лепей, маўляў, буць воўкам, як авечкай. А памойму — дак лепей буць чалавекам. Толькі, канешне, — Міканор засмяяўся, — чалавекам з зубамі!

Васіль прамаўчаў. Але лежачы ўжо, успомніў Міканоравы словы, падумаў: «Чалавекам ці не чалавекам — усё адно, а зубы, канешне, трэба мець! Без зуб не ўцалееш цяперашнім часам. З'ядзяць, і не агледзішся...» Ён згадаў Міканораву гаворку пра балота, падумаў, як старэйшы: дзівак — асушыць, кажа, сенажаць зрабіць! Такое і ў сне ў Куранях, каб і хацеў, не

сасніш! Думкі перабеглі да гаворак пра маслакоўцаў, і ўсярэдзіне закіпела: «Кеб знаў, хто ето іх навёў, задушыў бы гада!.. А дазнацца можно ж. Курані — не горад які, адна вуліца, хата кожная, можно сказаць, на віду. Толькі прыгледзься, дак заўважыш нешта, як бы той ні круціў. А там, толькі не пашкадуй часу ды не пабойся, і да большага, да ўсяго дойдзеш! Не ўхаваецца!.. Толькі б прасачыць добра!..»

3

Сінім снежным адвячоркам Грыбок хадзіў ад акна да акна па сяле, загадваў ісці ў Ігнатаву хату на сход.

Збіраліся доўга, нядружна: то ўваліцца некалькі чалавек амаль адразу адзін за адным, то за цэлыя паўгадзіны хоць бы хто пастукаў ботамі ў сенцах, бразнуў клямкаю. Праўда, тыя, хто быў ужо ў хаце, такім непарадкам не толькі не абураліся, але нібы і не лічылі яго вартым увагі: сышоўшыся ў купкі, дзядзькі і хлопцы смалілі цыгаркі, гаманілі. Гамонка, ды і рухі былі найбольш павольныя, мірныя, і прычынай гэтаму была зіма: калі і пасядзець, пагаманіць уволю, як не зімой, ды яшчэ перад сходам.

Дым плыў угару, хмаркаю віс вакол лямпы, якая ціха сіпела і хліпала.

У кожнай купцы бавілася свая гамонка. Іншы раз гамонка ў гэты вечар спадала да ледзь чутнага нават блізкім шэпту: пераказвалі няпэўную чутку пра тое, нібы Маслакова гайня, нарэшце, далазілася. Распетрылі ў пух, каго пабілі, каго арыштавалі, адзін Маслак, здаецца, і выкруціўся. Другія гаварылі, што Маслака таксама ці то схапілі, ці то застрэлілі, але больш веры давалі таму, што гаду і на гэты раз удалося выкаўзнуць. Няпэўнасць пра лёс Маслака як бы павялічвала няпэўнасць саміх чутак: дзедзе, а ў Куранях добра ведалі цану чуткам! Таму гаварылі пра банду ўсё ж з недавер’ем, з асцярогай і, як звычайна, хутка змаўкалі ці пераходзілі на розныя дамашнія навіны ці меркаванні.

Барадаты Пракоп у сваёй купцы, дзе сядзеў і гаспадар хаты, Хадосьчын бацька, і Глушак, важка, басавіта бухаў пра тое, што хтосьці абадраў стог сена ў гале.

— Болей за паўвоза нацягаў, вурад!..

Пракоп да гаворак ахвотнік не вялікі, гаворыць так, нібы воз сена падымае. Тым, каму даводзіцца слухаць яго, хочацца

аж памагчы чалавеку. Ён і цяпер бухнуў некалькі важкіх слоў і змоўк — толькі па тым, як панура выглядваюць вочы зпад зарослых броў, відаць, што злуе вельмі.

— Судзіць такіх трэ було б, — заявіў Ігнат. — У Сібір ссылаць, кеб ахвоты не було на чужое.

— Строгасці мала. Бога забылі. Разбалуваліся. Усё ад етаго, — павучальна адгукнуўся стары Глушак.

У кутку пад абразамі Андрэй Руды насядаў на лысага, ціхага настаўніка з Алешнікаў:

— А я чуў, што ў Кітаі — таскаць — рэвалюцыянеры бяруць верх і б'юць генералаў — аж пух ляціць.

— Можа буць. Чутак усялякіх... багато... — Настаўнік азіраецца, як у пастцы.

Яму, відаць, нялёгка з куранёўскім палітыкам. Сам ён, хоць яго часам і велічаюць па імю і па бацьку Сцяпан Уласавіч, амаль нічым не розніцца ад іншых дзядзькоў — ні гаспадаркай, ні адзеннем. У Алешніках у яго свая хата, карова, нават конь свой і плуг. Арэ і косіць сам. Рукі ў яго шурпатыя, чорныя, прывыклыя капацца ў зямлі. Ён тут свой сярод сваіх, хоць гэта камунікаму не даспадобы: хіба ж гэта настаўнік? От у Бярозаўцы — пан, а не дзядзька нейкі!..

— А ёсць, таскаць, ізвесція, — не адстае Руды, — што гоняць іх, генералаў етых, да мора, і як дагоняць, следавацельно — патопяць усіх да аднаго...

— Патопяць... — Сцяпан Уласавіч расшпільвае замурзаны кажух, зпад якога выглядае зрэбная пафарбаваная сарочка, — горача ад куранёўскага палітыка!

— І няхай топяць! — весела ўрываецца ў гаворку Міканор. — Табе хіба шкода? — смяецца ён Рудому, відаць, хоча памагчы настаўніку. Але Андрэй жартаваць не збіраецца, глядзіць у адказ холадна: не лезь, куды не просяць.

Аднак тут у гаворку ўступае Чарнушка:

— Дай ты чалавеку перадых! Прыстаў з етым сваім Кітаем! Кітай ды Кітай! Тут і са сваім, не то што з Кітаем, няма як разабрацца. От, дай рады, Сцяпан, — сажа ярыну аж губіць. Праўда, што кеб сінім каменем пратравіць, дак можно б выбавіцца?

— Можно — сінім каменем, — ажывае настаўнік, — а можно — фармалінам. Памагае добра...

У купцы жанчын, што ціснуліся каля ложка, гаворка ішла такая ціхая, што збоку амаль нічога не было чуваць. З гэтага неразборлівага гуду час ад часу вырываўся задзёрысты галасок гаварлівай удавы Сарокі, дужай, вяртлявай жанчыны, якая,

перамаўляючыся, кідала вострыя позіркі на мужчынскія купкі, на ўсё, што ні рабілася ў хаце. Вочы яе проста бегалі, лавілі, праглі — чагонебудзь цікавага! Такая ўвага да навакольнага зусім не замінала ўдаве сачыць за жаночым шапятаннем, разам удзельнічаць у гаворцы. І трэба сказаць, што ўдзел гэты не быў абыякі, фармальны. Часта цётка Сарока забівала сваёй гаворкай астатніх чатырох, якія нямелі ад патоку дасціпных прымавак і жартаў. Прымаўкі вязала яна лёгка, спрытна, без утомы, адкуль толькі і браліся!

Таму, хто пазіраў за імі збоку, гаворка ў жанок магла б здацца такой, як бы там рыхтавалі нейкую змову ці, па крайняй меры, давяралі адна адной сакрэты надзвычайнай важнасці. А сакрэты былі такія, што ў Грыбка цяліцу нехта ўракнуў і яна ні есці, ні піць не бярэ; што Міканорык Дамецікаў з пошты прынёс газету, а ў той газеце прапісана — цераз тыдзень будзе зноў вайна з палякамі; што Ганка Чарнушкава ўжо і глядзець на Дзятлікавага Васіля не хоча...

— Картоплю з гуркамі топча, а ўжэ не хоча якога хлопца! Давай караля з заморскага карабля!

— Завідкі на дабро глушакоўскае ўзялі! Мачыха, пэўна, падгаворвае!

— Не мачыха! Пасварыліся яны, Васіль і Ганна! — запярэчыла Хадосьчына маці.

— Аге, пасварыліся! А чаго?

Цётка Сарока толькі сабралася выказаць прычыну, як у купку ўбіўся гарэзны Зайчык, закруціўся, чапляючыся да кожнай, быццам лезучы цалавацца.

— Дзевачкі мае, кветачкі! Занудзіліся, мабуць, без кавалера!

— Аге ж! Трэба ты нам, стары пень, як учарашні дзень!

— А не, не трэба, Сарокабелабока’? А чаго ж ты, як на людзях, дак «стары пень», а як адны пабачымся, дак і «кветачка» і «ягадка»! — Зайчык перабіў Сароку. — Шчэ і ў восець a нанач звала!

Мужчыны, хлопцы, усе ў хаце глядзелі цяпер на Зайчыка, смяяліся, падначвалі яго і Сароку. Цётка ўпікнула:

— Дзяцей поўны хорам, а сам, як малы, — і не сорам!

У Зайчыка дзяцей і праўда — поўная хата, голыя, галодныя, і сам ён хваравіты, худы, аж шчокі ўваліліся, кажух такі, што і латаць няма чаго — дзірка на дзірцы, на спіне, на рукавах, усюды тырчыць поўсць. Але нішто як бы і не турбуе — скінуў з лысай галавы шапку, лезе, дабіваецца ад Сарокі: чаго ж запрашала ў восець?

Падурэўшы з Сарокай, уваліўся раптам у гурток дзяўчат — адну абняў, другую цмокнуў у шчаку, некага ўшчыкнуў. Сярод дзяўчат ускінуліся крыкі, па Зайчыкавым кажусе запляскалі кулакі. Пад крыкі гэтыя выбраўся на волю, крывячыся, паказваючы, як баліць: вельмі ж пабілі, піскухі!

Прыстаў да хлапечага гурту:

— Які ето дурань будзе браць сабе такую пагібель у хату?

— А мы і не возьмем! Не будзем жаніцца! — заявіў весела Хоня.

— Не жаніцеся, хлопчыкі!

— Не будзем! Цвёрдае слово сказалі!

— Бацько і матка! Ты глядзі, ці пойдзе шчэ каторая ў твой кагал! Такую чараду глядзець!

— Сам дагледжу!

Васіль сядзеў між хлопцаў каля дзвярэй, але амаль не слухаў ні таго, пра што яны гаварылі раней, ні таго, аб чым жартаваў цяпер з імі Зайчык. Нават дружны іх рогат не выводзіў яго з таго стану насцярожанасці, з якім ён увайшоў сюды. Васіль упершыню пасля турмы быў на такім вялікім зборышчы, лавіў на сабе цікаўныя позіркі, бачыў, як жанчыны нядобра перашэптваюцца аб ім. Да таго ж, да яго дайшло, што сёння будзе гаворка і пра перадзел зямлі. Гэта павінна было як бы напомніць людзям пра яго віну, і ён баяўся, — магло пры перадзеле пашкодзіць яму. Гэты неспакой яго мяшаўся з неадступным, насцярожаным чаканнем, што восьвось можа ўвайсці ў хату Ганна. Ён чакаў яе, трывожыўся. Даўно, ледзь не адразу ж тады, як пабачыў, што няма Ганны, заўважыў, што няма не толькі яе, але і Карча Яўхіма! Ці можна было яму не думаць, што яны недзе разам!

Ужо было ледзь не поўна ў хаце, калі ў купку каля дзвярэй уціснуўся з сянец першы Яўхімаў прыяцель, здаравенны і дурнаваты Ларывон, вялікі ахвотнік выпіць, а выпіўшы, пабіцца. За Ларывонам Васіль адразу ж убачыў Яўхіма. Ледзь толькі ўбачыў — пачуў, як раптам стала горача, аж млосна, хутчэй адвёў позірк убок. Не мог глядзець на ненавісны твар.

Але і не пазіраючы, бачыў, які ён вясёлы, задаволены, і ад гэтага ў грудзях ныла.

— Раздайся, машкара! — загадваў Ларывон, рассоўваючы ў бакі хлопцаў. Плячысты, з чырвонай шыяй, пабугаінаму выгнутай галавой, ён цяпер вельмі апраўдваў сваю мянушку, якой яго пацiху хрысцілі людзі: Бугай.

— Казаў я, без нас не пачнуць, — прамовіў весела Яўхім. — Можно було б шчэ пасядзець!..

— Аге, толькі вас і чакалі! — закрыўляўся Зайчык. Ён крыкнуў Грыбку: — Ужэ можно пачынаць!

— І праўда, — падхапіла Зайчыкавы словы Сарока, — няўжэ ж да пеўняў ждаць будзем, пакуль прыцягнуцца ўсе?!

Як бы абуджаныя крыкам Сарокі, усе заварушыліся, загаманілі: час пачынаць! Грыбок пашаптаўся з крываротым — ад чырвонага рубца, што прарэзаў шчаку і падбародак, — старшынёй сельсавета Дубадзелам, сказаў да ўсіх, просячы:

— Дак, можа, давайце памаўчым трохі? І паслухаем, што скажа нам начальство з сельсавета?

— Можно і памаўчаць... Няхай кажа!.. Ціхо ж бо вы!.. — пайшлі галасы па хаце. Гоман стаў ападаць.

Начальства — маладое, з хваравіта касцістым, бледным тварам, вострымі плячыма, з гарачым, адважным позіркам — устала, абцягнула вялікаватую гімнасцёрку і пачало з таго, што, папершае, ад Алешніцкага сельскага Савета Юравіцкай воласці перадало прывітанне ўсім працоўным сяла Курані. Дубадзел перачакаў, пакуль сціхлі шум і воплескі, пачатыя Андрэем Рудым, аб'явіў:

— Падругое, мы прыехалі, кеб пагаварыць з вамі пра дзело featured рознае. Пра школу нашу, — ён кіўнуў да настаўніка, — пра падатак, канешне. А таксамо — і пра грэблю. Пра грэблю тут павінен буў гаварыць з воласці, але па той прычыне, што ён не прыехаў, зноў буду гаварыць я...

— Прапаную спачатку выслухаць міжнароднае становішча, — падняў руку Андрэй Руды.

Дубадзел абвёў людзей вачыма, непахісна сказаў:

— Міжнароднае становішча я намалюю, калі буду гаварыць пра падатак і пра грэблю! Ясно?

Руды кіўнуў:

— Ясно.

Але тут гайнёю накінуліся, апанавалі Дубадзела іншыя галасы, прыдзірлівыя, злыя:

— А пра землю, пра дзяленне — нічого? Дзяліць калі?

— Перадзялілі ўжэ!

— Гаварылі, дурылі!.. Абяцанка — цацанка!..

— Дак якое ж цяпер дзяленне?! — крыкнуў Хоня. — Па такому снегу?

— Даждаліся!

Дарэмна Грыбок спалохана спрабаваў сцішыць людзей — гоман, крыкі, абурэнне, злосць, смех віравалі ў хаце. Уціхла на хвіліну толькі тады, калі Дубадзел цвёрдым тонам заявіў, што

землеўпарадкаванне будзе зроблена вясною. Але не ўправіўся ён сесці, як шум зноў закіпеў.

Настаўніку Жалудку давялося пачынаць у гэтым гомане. Гаварыў ён нясмела, ціха, і спачатку нават зблізу мала што чулі з яго гаворкі. На тых, якія шумелі, пачалі шыкаць.

— Ціхо ж бо вы! Дайце сказаць чалавеку! — бухнуў, нарэшце, Пракоп.

— Ужэ месяц, як у школе ідуць заняткі, — стала вальней гаварыць настаўніку, — а ходзяць у школу з Куранёў толькі двое — Дзяцел Соня і Глушак Сцяпан.

— Добра хадзіць яму, бацьку такога маючы! — перабіў Хоня Жалудка, і згодны гоман зноў прыцішыў настаўніка.

Васіля вельмі мала цікавіла тое, што казаў Жалудок, куды з большай увагай сачыў хлопец за тым, хто паяўляецца з сянец. Ганны не было і не было. Нечакана позірк яго наткнуўся на іншую постаць, якая ўраз захвалявала хлопца. Васіль не паверыў, прыгледзеўся: не, памылкі тут не было, у дзвярах стаяў *ён*! Васіль мімаволі насцярожыўся: вось хто, аказваецца, павінен быць з воласці! Але чаго ён стаіць за другімі, упоцемку, не ідзе за стол? Перарываць сходу не хоча ці ахвота паслухаць адсюль, неўпрыкметку?

— Няхай Сцяпан з багатай сям'і, — пярэчыў настаўнік. — Але ж у школу ходзяць і бяднейшыя. Ну, от Дзяцел Соня з вашых, —Жалудок кіўнуў на Андрэя Рудога, Сонінага бацьку. — Багато бедных дзяцей ходзіць з Багуслаўца, з Глінішчаў. Я ўжэ не кажу пра Алешнікі. У Куранях болей за ўсё такіх, якія не ходзяць у школу...

— А з Мокуці богато ходзіць?

— З Мокуці таксамо, — прызнаўся Жалудок.

— А з Хвойнаго?

— І з Хвойнаго. Ім няма як дабрацца...

— А нам е як? Адзін чорт, што з Куранёў, што з Мокуці!

— Як мокро, дак лягчэй на той свет, чым у Алешнікі вашы!

Людзей зноў як прарвала. Жалудку не давалі слова сказаць: гаварылі, крычалі, не слухаючы нічога і нікога.

— Хай бы сам настаўнік сюды хадзіў, калі ўжэ так трэба.

— А хто мне за дзіця маё рабіць будзе? Ёсель юравіцкі?

— Сказаў: алешніцкія ходзяць! Кеб у нас була школа!..

— А рабіць хто школу тую будзе? Плаціць за яе?

— У чым жа яно пойдзе ў макрэчу да ў холад — голым свецячы!

— Добра казаць яму — на казённай палучцы!

— Мой дак меншых глядзіць усю зіму!..

Жалудок слухаў гоман моўчкі, цярпліва: спрачайся не спрачайся, усё роўна не пераможаш. У Дубадзела на гэта было іншае меркаванне — ён ускочыў, замахаў рукамі:

— Грамадзяне куранёўцы!.. Прашу!.. Заклікаю ўсіх!

Але куранёўцы не хацелі слухацца ніякіх просьб і заклікаў ні яго, ні тым больш Грыбка, які памагаў вяла, абы для выгляду:

— Дзядзькі, цёткі!.. Ейбо, як малыя!..

Калі шум, нарэшце, апаў, Жалудок выняў з кішэні згорнутую паперку.

— Я от зараз пачытаю спісак дзяцей, каторым трэба хадзіць у школу, і яны не ходзяць. — У хаце зноў захадзіў гул, але ўжо не дружны, з перапынкамі. Настаўнік чытаў прозвішча за прозвішчам, выбіраючы цішэйшыя хвіліны. Калі ён скончыў чытаць, Дубадзел строга, тонам, у якім таілася нейкая рашучая пагроза, загадаў:

— Дай мне спісак еты!

Ён моўчкі перачытаў паперку, згарнуў і з той жа незразумелай, пагрозлівай затоенасцю паклаў у кішэню гімнасцёркі. Гэты загадкавы манеўр прыкаваў да яго ўвагу, прымусіў усіх прыціхнуць.

Тут папрасіў слова, незвычайна голасна, палымяна загаварыў Руды:

— Куранёўцы, усё, што тут, таскаць, ізлажыў настаўнік і інцілігент Сцяпан Уласавіч, трэба кожнаму запомніць і ўзяць на заметку. Ён уцэліў правільно. Дзядзькі, а таксамо і жанчыны, маткі, падумайце, што скажуць нам нашы дзеці, калі вырастуць цёмнымі, так сказаць, невукамі. Не скажуць яны нам свайго «дзякуй». Бо, як пісаў вялікі рускі паэт Мікалай Аляксеевіч Някрасаў, невукам у будушчым жыць будзе багато цяжэй, чым усім нам, таму што, таскаць, наступіць новая епоха. І невучоным не будзе дарогі ні туды ні сюды!..

Куранёўцы слухалі яго без цікавасці, дзенідзе пасмейваліся: ведалі — Рудога хлебам не кармі, а дай слова сказаць. У гэты час і пайшла па дзядзьках і цётках навіна пра ціхага госця — усё больш і больш аглядвалася іх на сенцы, шукалі позіркам чужой постаці ў прыцемку каля дзвярэй. Перасталі аглядвацца, прыціхлі, калі Руды сеў і азваўся сіплым, скрыпучым голасам стары Глушак:

— Канешне, дзяцей трымаць дома ў цяперашні час — не вялікая патрэба. Не так тае карысці з іх і памогі, як шкоды. А ў школе — праўду кажуць тут — маглі б набрацца розуму...

Глушак не тое што на сходах, а і дзенебудзь на прызбе гаварыць попусту не любіў; словы, як грошы, выпускаў неахвотна, і слухалі яго так уважліва, як бы ён даваў гэтыя лічаныя грошы. Васіль, ды, мабыць, і не адзін ён, падумаў — што ж гэта магло ўцягнуць старога ў такую трату? «Хоча, мабуць, кеб начальства пачула. Паддобрыцца хоча...»

— Дак так і пастановім, — сказаў Дубадзел, — штоб дзеці, каторыя тут вычытаныя былі, з заўтрага пайшлі ў школу. А каторых бацькі не выправяць дзяцей, то няхай дабра не чакаюць. І за ето прашу ўсіх падняць рукі.

Ён сачыў позіркам, які не даваў ніякай надзеі на літасць, — рукі куранёўцаў уздымаліся нялёгка, але ўсё ж уздымаліся. Толькі пасля гэтага галасавання дайшла да яго вестка, што Апейка ў хаце, і ён запрасіў госця з Юравіч к сталу.

— А цяпер, грамадзяне вёскі Курані, — мімаволі аглядваючыся на старшыню валаснога выканкома, прыкметна памякчэла загаварыў Дубадзел, — пяройдзем да другога пытання — аб тым, якое ў нас на сённяшні дзень міжнароднае становішча, і — пра падатак... Становішча наша на сённяшні дзень украпляецца. Рабочыя, усе гарадскія людзі сільней украпляюць змычку з сялом, а сяляне па ўсёй краіне ахвотна выконуюць падатак і ўсе іншыя абавязацельствы. Зноў жа нашы ворагі скрыгочуць зубамі, але баяцца паткнуцца да нас, бо помняць грамадзянскую вайну. Толькі адно пагано на сённяшні дзень, што наш народ — браты нашы і сёстры, каторых аддзялілі ад нас граніцаю паны, гібеюць пад прыгнётам і церпяць ад етых паноў пяты год усякія здзекі...

Васіль толькі падрыхтаваўся слухаць гаворку пра самае важнае, якое з усіх спраў на сходзе адно і турбавала, — пра падатак, —калі раптам не ўбачыў, а адчуў — увайшла Ганна. Увесь вечар, што б ні бачыў, аб чым бы ні думаў, чакаў яе, таму заўважыў адразу, як толькі паявілася яна ўслед за Хадоськаю.

Штосьці гарачае, як пара, заліло Васіля. З гэтага моманту ён амаль нічога не чуў, амаль нікога, акрамя яе, не бачыў. Ні Дубадзела, ні Апейкі, нікога іншага як і не было цяпер у хаце. Але калі ён, сам не хочучы таго, насуперак усяму, што казаў розум, як апантаны, лавіў кожны яе рух, яна хоць не магла не думаць, што ён тут, нават вокам не кінула. Так, не тое што без увагі, але без хоць бы якой звычайнай цікаўнасці да Васіля, ганарлівая, непадступная, праціснулася яна між людзей паўз самага хлопца, дабралася да ложка, села побач з Хадоськай.

Штосьці сказала Хадосьцы, кпліва ўсміхнулася, стала з тым жа ганарлівым выглядам пазіраць на Дубадзела, слухаць.

Да Васіля, як праз ваду, дайшло матчына прозвішча, імя, прачытаныя Дубадзелам, — сем рублёў трыццаць дзве капейкі нядоімкі...

Дубадзела ўвесь час перабівалі, перапытвалі, здзіўляліся, тлумачылі, а потым, калі ён, нарэшце, дацерабіўся да канца, акружылі, загаманілі, перабіваючы адзін аднаго. Цяпер часта гаварылі і да Апейкі, ён слухаў, глядзеў квіткі, пытаўся то ў Грыбка, то ў Дубадзела, нешта адказваў, запісваў. Да стала ціснуліся і жанкі, не толькі такія, як удава Сарока, гаспадыня, але і такія, мужчыны якіх былі каля Апейкі ці Дубадзела: ціснуліся, нібы чакалі, што іх паклічуць на помач. Хлопцы амаль усе стаялі каля дзвярэй ці ў сенцах, з якіх часам чуўся дзявочы піск і рогат. Васіль быў там, дзе і раней; паспрабаваў падысці да стала, але прабіцца не было як, і ён вярнуўся. Іншы раз ён, мусіць, не адступіўся б так проста, хоць бы таму, каб не пусціць цень на свой мужчынскі гонар, але цяпер не да нейкіх клопатаў аб гонары было яму. І не да нядоімкі.

З той жа неадольнай апантанасцю, у якой усе трывогі і надзеі былі з Ганнаю, ён стаў разпораз паглядваць туды, дзе аб нечым гаварыла з Хадоськаю гэтая ганарліўка. У нейкі момант іх позіркі сустрэліся, але яна адразу ж адвяла вочы...

Дым цыгарак вісеў так густа, што лямпа пачала хліпаць, калі Грыбок аб'явіў, што ад воласці пра грэблю скажа таварыш Апейка. Але Апейка і слова не ўправіўся прамовіць, як Хоня крыкнуў:

— Грэбля грэбляю, няхай бы сказаў хто — што з Маслаком?

— А то гавораць, гавораць, грэц яму, а толкам ніхто не ведае...

— А што гавораць? — ухапіўся Апейка.

— Ну, нібыто яго... пацерабілі нібыто... — няўпэўнена адказаў Ігнат.

— Пабілі, — знарок спакойна кіўнуў Апейка. — Добра пабілі. Трох палажылі, а пяцярых жывымі ўзялі, арыштавалі... Я таму і запазніўся сягоння — на допыце быў...

Васіль аж перастаў дыхаць: вось дык навіна! Вестачку гэтую чуў ён упершыню, чуткі неяк абышлі яго, і навіна ўразіла хлопца незвычайна. І як яна магла не ўразіць, калі столькі папакутаваў зза гэтай поскудзі з абрэзамі, калі яна, можна сказаць, свет яму закрыла! Даскакаліся, значыцца, гады! Атрымалі сваё! Тут жа

ўслед за радасцю паявілася клопатнае: а можа, яны і пра Курані, пра яго што гаварылі?

—Мы, праўда, насцігглі не ўсю зграю. Некалькім пашанцавала пакуль — у другім месцы былі...

— А з Маслаком што? — зноў крыкнуў Хоня.

— Маслака забілі, — адказаў Апейка.

У хаце загаманілі з палёгкай. Хоня перабіў гоман:

— А тых, што вылузнуліся, багато?

— Чалавек сем яшчэ. Але і іх чарга недалёка. І ім нядоўга бегаць па волі.

— Даўно трэба було! — голасна папракнуў Хоня.

— Трэба было. — Апейка памаўчаў момант. — З усімі скора кончым. Нам трэба жыць. І думаць пра тое, каб жыць лепей. Як вясна, ці восень, ці мокрае лета — да вашых Куранёў ні дайсці ні даехаць. І з Куранёў таксамо — нікуды. Свет канчаецца за ўзбалоткам. Свету не відаць. Праўду я кажу?

— Ісціную праўду, так сказаць! — пацвердзіў Руды Андрэй.

Большасць людзей маўчала, чакалі, што будзе далей. Апейка пайшоў у наступ:

— Праўду. Сам не адкульнебудзь, а з такога ж балота... Солі ці запалак трэба — дык лезь, грабіся па твані, пакуль да каапераціі дападзеш!.. Краму дастаць — таксама грабіся, калі не запасся зімой ці летам... Або от тут пра школу казалі. Канешне, якая ж тут школа дзецям, калі цэлымі месяцамі ні праехаць ні прайсці! Ды і хто, шкадуючы сваё дзіця, пусціць яго, можа быць, на пагібель... — Апейка пачуў гоман згоды: дайшло слова да людзей. Загаварыў гарачэй: — Гэта не наша віна, а наша бяда, што лёс занёс нас на балоты. Што твань адарвала нас ад другіх сёл, ад гарадоў, ад свету. Мы жывём, як звяры. Але і звяры ходзяць з лесу ў лес. А чалавек не звер, чалавек не можа жыць без людзей. Чалавеку патрэбен свет цэлы. І таму нам трэба змагацца з бядой нашаю! Трэба прарваць балотнае акружэнне, звязацца з другімі сёламіі Трэба, каб у любы час, днём і ноччу, вясной і ўвосень, можна было ісці і ехаць, куды хочаш: у краму, у школу, к сваякам!.. Адным словам, трэба, каб чалавек жыў, як чалавек, а не як звер!.. Вось чаму наш урад аб'явіў вайну бездарожжу і заклікае, каб вы таксама ўступілі ў яе. — Апейка акінуў позіркам некалькі твараў, як бы чакаючы ўхвалы, чакаючы добраахвотнікаў для гэтай вайны, але куранёўцы адно адводзілі вочы. Хоць і ведаў, што гэта значыла, дакончыў упэўнена, з надзеяй: — Я прапаную між Куранямі і Алешнікамі збудаваць грэблю!

Як і думаў, хвіліну было ціха. Потым Сарока пацікавілася:
— А хто яе будзе будаваць?
— Хто?! Самі!
— Аге! Лёгко сказаць, ды — далёка дыбаць!
Па хаце пайшоў гоман:
— Тут і без таго: куды ні кінь — клін!.. Етаго шчэ і толькі не хапало!..
— І без таго, як уюн, круцішся!
— Не мела, грэц яго, баба клопату!..
— Столькі сілы ўпяць! Перарвацца! Коней замучыць!
— Мароз сам зробіць грэблю!
— Як ток, нібыто замуруе! Хоць малаці!
— Няхай той робіць яе, каму трэба! Не мужыцкая ето справа!
— Уласці трэба, няхай і будуе!
— Жылі, тым часам, і так! І нічого!
— Бацькі і дзяды звекавалі! І мы — не горай!
— Не прападзем!
Недарэмна адклаў Апейка ўсе свае справы ў валвыканкоме, дабраўся ў гэтую глухамань: узросшы сярод такіх жа, як гэтыя, людзей, загадзя прадчуваў, як яны могуць прыняць, здавалася б, такую добрую і такую патрэбную ім прапанову.
Дубадзел махаў рукамі, уціхамірваў:
— Грамадзяне куранёўцы!.. Грамадзяне!.. Ето ж не базар!.. Грамадзяне, прашу!..
— Дзядзькі! І цёткі! Ейбо, перад чужым чалавекам! — памагаў яму Грыбок.
— Ціхо! Дайце сказаць! — уламіўся дужы, рашучы Хонеў голас.
— А чаго тут маўчаць! Чаго тут хавацца!
— Праўду трэба казаць!
— Не трэба яна, етая грэбля! І ўсё!
— Як пятае калясо!
— Абыдземся!
— Дайце сказаць чалавеку!
Не першы раз бачыў Апейка — на добрую, карысную для сябе справу людзі не хацелі даваць згоды. Не хацелі, ён ведаў, часткова таму, што яна парушала спакой, звыклы, надзейны, цягнула лішнія клопаты і невядомасць. Але гэтаму нехаценню была і іншая прычына: так ужо вялося — усякая новая справа выклікае тайнае ці яўнае недавер'е. Нібы загадзя вядома было, што нехта на гэтым добрым неяк выйграць мяркуе, нехта іншы, а не яны...

Апейка ведаў, адкуль гэтае недавер’е, заскарузлае, учэпістае, як балотнае карэнне. Ён не цешыў сябе надзеяміпадманкамі: не за дзень, не за год урасла ў людскія душы гэтая падазронасць — не за дзень і не за год выкараніш яе. Таму ён тут, на сходзе, не толькі не паддаваўся якомунебудзь расчараванню, але нават і не здзіўляўся. Не здзіўляла яго і тое, што ім так шкада было затхлага спакою: той, хто век жыве на балоце, не мог не прывыкнуць да ядавітазялёнага хараства раскі...

Апейка стаяў, моўчкі слухаў гамонку, чакаў: няхай пагавораць, адвядуць душу, астынуць. Астынуць — будуць слухаць разважна. Да таго ж Апейка пачуў і дватры галасы, якія ўхвалялі думку пра грэблю.

— Канешне, можна і так пакінуць, як было, — загаварыў ён, калі гоман аціх, — можна не рабіць грэблі. Можна абысціся, як тут хтосьці казаў. Бацькі і дзяды жылі без яе, праўда. Сядзелі ў балоце, у твані, не было запалак, карасіны — абыходзіліся без іх. Не было хлеба — абыходзіліся і без хлеба. Кары, жалудоў, дзякуй Богу, удосталь. Анігадкі жылі бацькі і дзяды, як паны жылі! Душыліся дымам, пухлі з голаду, мерлі без помачы. Калі ж вельмі прыпякала, прабіваліся і цераз гэту душагубку. Ламалі калёсы, коней тапілі, самі, мусіць, тапіліся?!

— Бывало... Хоня Матруньчын... Перад калядамі ўжэ...

— Хоня! А Васіль Кныш? З канём...

— Сахвея Петрыкава?..

— Яно, праўда, і ўвосень, і ўлето, як арыштанты якія. Ні адсюль, ні сюды...

— Да свата — нібыто — у госці, і то не выберашся!

— Што да свата, да дзеўкі чужой — і то! — заржаў Ларывон.

— Табе дзеўкі толькі і наўме!

— Што каму! Каму — удовы, а каму — дзеўкі!

Апейка перачакаў гоман, зноў рушыў у наступ:

— От я і кажу: трэба, каб чалавек жыў як чалавек, а не як звер. Каб не душыўся дымам і не пух з голаду. Каб не гібеў век у цемры і не баяўся нікога і нічога. От вам тут спакойна не давала дыхнуць бандыцкая шайка. Поўзала тут, гразілася, рабавала. Без трывогі ні ў лес не пойдзеш, ні дома не паспіш. Мабыць, не адзін з вас лаяў уладу за тое, што так доўга з шайкай гэтай справіцца не можа! А як жа справіцца з імі, памагчы вам, калі тут — паспрабуй, дабярыся да вас з міліцыяй ці чырвонаармейцамі!.. Цяпер от вы наракаеце, што землеўпарадкаванне дасюль не праведзена! Правільна наракаеце, але падумайце добра, чаму так здарылася?..

— Дак хіба мы супроць? Мы ж толькі пра тое, што нам ето не пад сілу!

— Перарвемся, а не зробім!.. Коней замучым, і толькі!

— І самі замучымся!

— Ды аб сабе — гаварыць няма чаго! Атойдзеш сам, а без каня як патом, па гаспадарцы?

— От кеб уласць узялася!

Тут раптам ускочыў Міканор, які дасюль за ўвесь вечар не сказаў слова:

— От не люблю ето наша плаканне! Ну, проста — слухаць неахвота! Шчэ і за сякеру не ўзяліся, а ўжэ стогнем — спіна баліць!

— А не баліць?

— Табе добра, выгуляўшыся.

— Выгуляўся я ці не выгуляўся — не аб тым гаворка. Як выгульваюцца на службе, усе мужчыны знаюць. А хто з хлопцаў ці жанок не знае, дак папытайцеся. Не аб тым гаворка. Плакацца і стагнаць, не цюкнуўшы сякерай, не паклаўшы галіну на грэблю — от што пагано! І сабака яго знае, дакуль жа мы будзем самі ад дабра свайго адварочвацца?! Нас, ейбогу, як цялят дурных, тыкаюць, штоб к карове, а мы — як бы нас зарэзаць сабіраюцца. Як бы дабра сабе не хочам... От тут таварыш Апейка казаў пра калёсы, пра зямлю, пра бандзітаў. Правільно ж казаў, ейбо! А от — як мучымся мы са сваімі жорнамі! Бо ветракі ж у Алешніках, не дабярэшся. Аж шкода глядзець на бедных вашых жанок ды малых, як яны мучаюцца! А то ж шчэ і старая матка — не сакрэт — часто, бувае, перарываецца, кеб змалоць чаго!

Тойсёй з мужчын мацней задыміў цыгаркай, жанчыны ж заўздыхалі, забедавалі: праўду кажа, пакута без ветракоў! А ў Алешніках іх аж два, і так хутка, добра мелюць!

— Дак не аб тым байка. Грэбля — канешне, непагано — хто супроць?

— А калі не супроць, дак не трэба, ейбо, плакаць ды стагнаць! І не надзеяцца на каго другога, а — брацца за яе!

— Дак ці ж табе, Міканорко, казаць, калі ўвесь год — як чорт лысы круцішся! То ж дня вольнага няма!..

— Можна знайсці! Калі захацець.

— Зімой жа не будзеш. Снег...

— Зімой — не сакрэт — можна нарыхтаваць, звезці ўсё. А летам, адсеяўшыся, можна ўхапіць які тыдзень!

— Ухопіш ты. Другі возьмецца, а іншыя — цыгарку ў губы ды паплёўваць!

— Адзін будзе надрывацца, а другі на мураве качацца!

— Ніхто не будзе качацца! Калі пастановім, штоб сялом усім, дак і загад такі будзе: усім ісці!

— А калі хто, грэц яго, не пойдзе? Возьме — да і не пойдзе!

— Дак няўжо ж мы не можам усім сялом аднаго такога прымусіць, кеб не збіваў строй!

— У сельсавет перадайце, — заявіў Дубадзел. — Мы знойдзем, што з такім зрабіць!

— Столькі страху, ейбо, з етай грэбляй! Як, скажы ты, не грэбля, а — сабака яго знае што! У другіх сёлах, не сакрэт — унь ужэ даўно за балоты ўзяліся, асушаць пачалі. Не чэшуць патыліцу, а капаюць канавы і робяць лугі. І каноплі і ўсякія іншыя культуры сеюць! А ў нас — як бы і няма балота? Як бы ў нас лішне зямлі?

— Вазьмі яе, калі такі смелы!

— Мало грэблі, дак шчэ і балото!

— Дзело ізлагае!

— Пустое!

Васіль таксама падумаў: «От жа ўлезла чалавеку ў галаву дурасць, не дае збыту. Як бы ето проста так — пайшоў і асушыў, немаведамо з чым і кім, такую прорву бесканечную навокал! Дай нашто асушыў — штоб на другі год усё зноў зацягнула тванню ды раскай! Ужэ ж, здаецца, чуў ад дзядзькоў адказ разумны, дак жа не, усё адно лезе на ражон!.. У другіх сёлах, кажа... У другіх — усюды рай, сам хлеб сеецца, сам мелецца, самі булкі ў рот ляцяць, а мы — без хлеба ад зімы! Балбоча, як бы рабіць няма чаго!» Васіль больш мірна думаў пра грэблю, але лічыў, як і многія другія, што гэта — справа «казённая». «Калі б казна ўзялася да плаціла якую капейчыну, то можна было б і ўзяцца вольным часам. Зарабіць можно було б штонішто...»

Міканор, зачапіўшы гаворкай асушку балот, і сам адразу ж пачуў, што схібіў, — усё роўна ніхто не падтрымае, але, разгарачаны, спыніцца ўжо не мог.

— Канешне, асушыць балота — не тое, што грэблю зрабіць. З ім адразу не справішся. Не сакрэт — сіла трэба вялікая. І часу багато! Дак от калі б узяць і сарганізаваць мілірацыўнае таварыства!..

— Сарганізавалі ўжэ адно!

— Патушылі ўсе пажары!

— Прывезлі пажарную!..

Андрэй Руды крыкнуў Дубадзелу, каб далі яму слова, сказаць «ноту» на гэты паклёп. Не чакаючы згоды, з абурэннем накінуўся на насмешнікаў: пажарную то ён абяцаў прывезці, але ж грошай сабралі мала, хапіла толькі купіць два багры, сякеру, тры вядры. Хтосьці перабіў яго пытаннем, куды гэта ўсё знікла, але Дубадзел не даў Рудому апраўдацца, заявіўшы, што пытання гэтага няма ў парадку дня.

Руды стаў спрачацца з ім. Іх гаворка танула ў гомане: гаварылі ўсе, не аддаючы, здаецца, ніякай увагі ні Міканору, які яшчэ хацеў гаварыць штосьці, ні прэзідыуму. Міканор пастаяў, пачакаў і, пакрыўджаны такой няўвагаю, сеў.

Васіль заўважыў, што Апейка, які зноў пачаў гаварыць, калі ў хаце прыціхла, ні слова не сказаў пра меліярацыйнае таварыства, а ўсё пра грэблю, толькі пра грэблю. Пасля яго — хто б ні адгукаўся, усе гаварылі супроць Міканаравай прапановы аб асушцы балота, аб меліярацыйным таварыстве. Апейка ўсё слухаў моўчкі і, здавалася, нібы падтрымліваў такія думкі.

Васіля амаль не здзіўляла тое, што большасць ужо згаджалася з Апейкавай прапановай — грэблю трэба рабіць. «Напужаліся, што шчэ і за балота загадаюць брацца. Усётакі з грэбляй — меней клопату...»

Ён і сам, баючыся, каб не пачалі ўгаворваць, калі не адразу лезці ў балота капаць канавы, то ўступіць у таварыства, плаціць пай, з лёгкай душой прагаласаваў — рабіць грэблю.

— Застаецца толькі выбраць старшага, — задаволена прамовіў Апейка, калі рукі апусціліся. — Я думаю, што на гэту пасаду не знайсці лепшага чалавека, як Міканор!

У многіх з тых, хто сядзеў на сходзе, была, відаць, іншая думка; адзін Андрэй Руды адразу сказаў, што згодны, нават запляскаў у далоні. Яго падтрымалі толькі некалькі чалавек. Другія ж параду Апейкі прынялі без радасці, у хаце стала нядобра ціха.

— Кеб не выбраць халеру — гарачы не ў меру! — крыкнула Сарока.

Яна, мусіць, сказала тое, што думалі многія. Але Апейка апярэдзіў гаворкі, што маглі б пашкодзіць Міканору:

— Гарачы — не бяда! Не быў бы халодны! Гарачы — значыць, дабра людзям хоча, неабыякавы! Значыць, справу павядзе добра.

Яго паслухаліся: Міканора дык Міканора. Адчувалася, што людзі ўжо стомлены і сходам і познім часам, і цяпер, калі галоўны клопат, рабіць грэблю, узялі на душу і нічога важнага не будзе больш, чакалі адно, каб хутчэй разысціся. Выбраўшы

Міканора, яны і павалілі шумліва з хаты. Адзін, можа, Васіль пайшоў у гурце хлопцаў на двор неахвотна, як бы пакідаючы ў хаце надзею.

Ён прайшоў трохі па белай вуліцы, адстаў ад хлопцаў. Ісці дамоў не хацелася. Як бы прывяззю цягнула назад да Хадосьчынай хаты, дзе была яшчэ Ганна. Вось прайшоў паўз яго чорны Пракоп, Сарока, якая ўраніла словы, мабыць, аб Міканору:

— Ад службы дурасць. Пажыве — розуму нажыве!.. Нажыве, буць не можа, калі на што гожы!..

Ціха, задуменна працёгся яе, Ганнін, бацька, не заўважыў нават Васіля. Зайчык падляцеў, сунуў бародку к Васілёваму твару:

— А ты чаго тут? Забуўся, дзе свая хата?

Хіхікаючы, подскакам пабег дахаты. Яшчэ прайшло некалькі постацей, гаманкіх, маўклівых. І вось спынілася, анямела сэрца: Ганна ідзе. З нейкім страхам і баязлівай надзеяй, перасільваючы нявер'е, ступіў насустрач:

— Добры вечар!..

— Ноч ужэ, — няласкава, калюча сказала яна.

Пайшлі моўчкі. Хацеў гаварыць, прымушаў сябе гаварыць, каб не было гэтай пякучай маўклівасці, і не мог расшчапіць губ. А потым было позна: пачуў ззаду крокі, азірнуўся — даганяў Яўхім. Дагнаў, пайшоў з другога боку. Засмяяўся папрыяцельску:

— Дасядзела да канца! Цярплівая!..

Васіль пачуў сябе лішнім...

Праз некалькі дзён Васіль ехаў з возам галля па лесе: куранёўцы вазілі галлё к грэблі, нарыхтоўвалі. Летам сюды дабрацца не было б як — лес быў на балоце. Выязджаючы з цаліку на дарогу, Васіль раптам сышоўся з Чарнушкам, які таксама ехаў па дарозе.

Чарнушка адстаў ад свайго воза, пачакаў Васіля, закурыў з ім. Пайшлі разам.

— Ты чаму ето саўсім паказвацца ка мне перастаў? — запытаў не абыяк Чарнушка. Васіль адвярнуў твар:

— А так...

Чарнушка не адступіўся:

— Ты мо пра Ганну што, грэц яго, думаеш? Дак не думай. Чакае яна цябе.

— Дак, — коса зірнуў Васіль, — Яўхім жа, Корч... капылы падбівае...

— Ліпне, грэц яго! Але — то ўсё пустое. Заходзь, не думай нічого.

— Ну, можа... Пабачу. Прыйду.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Зіма дужэла патроху. То ціснулі зямлю халады і чыстай бел-лю — аж адбірала вочы — шырыліся палі, то мокла адліга — снег цямнеў, і, нудны, беспрасветны, церусіў дождж. Толькі пад самы Новы год маразы скавалі зямлю як след і зіма стала ўладарыць адна: засцілала абшары новымі і новымі выбеленымі палотнамі, абложвала хаты і хлявы гурбамі, пераразала вуліцы белымі гарамі...

З дня на дзень Міканор усё больш абвыкаўся зноў з колішняю сваёй дамоўкай, з новымі клопатамі і абавязкамі. З дня ў дзень трэба было памагаць дома бацьку і матцы — напаіць, накарміць жывёлу, прывезці сена, дастаць, нарэзаць дроў. А больш турботы было паза домам, з грэбляю. Па цвёрдых санных дарогах вазілі к узболатку каля цагельні дручкі, галлё, бярвенні. Кожны дзень, калі хтонебудзь ехаў у лес дзеля грэблі, Міканор выбіраўся ці разам у лес, ці да цагельні — сустракаў возчыкаў, памагаў складваць прывезенае, запісваў у блакнот, хто што зрабіў. Ледзь не кожны вечар хадзіў Міканор па куранёўскіх хатах, дамаўляўся пра падводы «на грэблю».

І для дамоўкі, і для грэблі рабіў Міканор усё з ахвотаю — асабліва тады, калі ўсталяваліся звонкія маразы, калі так весела зіхцелі пад чырвоным сонцам палі, калі лес поўніўся такой вусцішнасцю, што хацелася, як малому, дурасліва паваліцца ў снег ці закрычаць на ўвесь свет! У такія дні ў лесе за вярсту было чуваць, як недзе падае, рассыпаючыся на ляту, белы камяк з патрывожанай галіны...

Ці ішоў па лясным цаліку, правальваючыся часам да пояса, ці абтоптваў снег вакол дрэўца, ці памагаў пілаваць і лажыць на воз — радасна было чуць, як хораша, молада поўніць цела дужая гарачыня. Дрэўцы, галлё танулі ў снезе; калі абсякаў галлё, цягнуў іх — мокрыя рукі пякло, як крапівою. Абціраў рукі аб палу світы, хукаў — грэў — і зноў з вясёлай ахвотаю пілаваў, абсякаў, валок да саней. А якое шчасце было потым — ехаць назад, чуць, як тонка пяюць палазы на выслізганых, жоўтых каляінах, як прыгожа, звонка рыпіць пад намерзлымі пасталамі: рыпрып. А якое шчасце было бачыць, што растуць і растуць аснежаныя горкі галля і дрэў каля цагельні, ехаць на лёгкіх санях дахаты, з лагодным, дружбацкі настроеным дзядзькам!..

Шчасце было і калоць дровы дома — пад павеццю, у адной гімнасцёрцы з расшпіленым каўняром; унесці па рыпучым ганку ў хату, звонка кінуць у кутку, чуць, як маці глядзіць з удзячнасцю і замілаваннем...

Сваё хараство было на лузе. Змерзлае сена адрывалася ад стажка, лажылася ў сані з сухім, ломкім шамаценнем, з сярэдзіны патыхала цеплынёй, густым, казытлівым настоем зляжалай травы, здавалася, было такое смачнае, што і сам быццам з'еў бы!.. Пасля марозу дзённых дарог добра было чуць цяпло хаты, бавіць вечары на вячорках з дзяўчатамі, у гаворках з таварышамі, з дзядзькамі, што часта сыходзіліся ў дымную ад лучыны бацькаву хату.

Вячоркі амаль заўсёды былі вясёлыя, з бесклапотным смехам, з сумнымі і гарэзнымі песнямі, з жартачкамі і дзявочым віскам. Круціліся, шархацелі коламі самапрадкі — здавалася, таксама то весела, то сумна, то задуменна. Пад спевы самапрадак, пад жартачкі і песні Міканор, які па прыкладу Хоні насіў шынель зухавата напашкі, прыглядаўся да падрослых куранёўскіх дзяўчат — прыглядаўся з цікавасцю, з тамлівым прадчуваннем нязнанага шчасця. Вочы яго вельмі хутка выбралі з усіх, хто рупіўся каля прасніц, бялявую «канапляначку» Хадоську і Чарнушкаву Ганну. Хоць адзеты былі не так, як мазырскія, якія гулялі па прыпяцкім беразе, — у зрэб'е ды вясковыя андаракі былі адзеты, — нават у гэтым адзенні з любой мазырскай хараством маглі б паспрачацца!

Асабліва ўпадабалася Міканору Хадоська. Але Міканор не кінуўся са сваімі заляцаннямі адразу, толькі глядзеў прыхільна здалёк ды ўздыхаў на адзіноце. Нават у сваім вайсковым адзенні, якое вельмі выгадна вылучала яго сярод хлопцаў, помніў Міканор пра свой васпаваты твар, пра белаватыя бровы і блеклыя, нібы выцвілыя, вочы, — але была тут і іншая прычына: Хадоська падабалася Хоню. І хоць Хоня сам прызнаўся з нейкім вясёлым, адчайным шкадаваннем, што душа Хадоські не ляжыць да яго і «нічога людскага» ў іх, відаць, не выйдзе, Міканор, пэўна, усё ж не стаў бы на дарозе таварышу.

Хоня быстрым і вострым позіркам сам улавіў, як глядзіць Міканор на Хадоську, прыгледзеўся, праверыў і, калі ішлі ўдвух з вячорак, бесклапотна павёў вачыма, зарагатаў, параіў:

— Ідзі, паспрабуй, мо да цябе весялейшая будзе! Не прападаць жа ёй адной цераз мяне!..

На другі вечар ён сам выйшаў з вячорак разам з Хадоськай і Міканорам, нёс самапрадку лёгка, зухавата пасвістваў, пасмей-

ваўся; правёў трохі, раптам сунуў самапрадку Міканору, сказаў, што трэба дахаты: табар дамашні, мабыць, чакае! На развітанне падбадзёрліва стукнуў Міканора па плячы: ідзі, брат, жадаю шчасця!..

Але і з Міканорам Канапляначка не павесялела: ішла ў кароценькім кажушку з чорным барановым каўнерыкам, у акуратных лапціках і белых анучках, амаль да кален аперазаных аборкамі; быццам бы і слухала Міканораву гаворку, а сама — чулася — была далёкая ад гаворкі гэтай, абыякавая была. Як дайшлі да яе хаты, Міканор вольнай рукой узяў за Хадосьчыну дробную ручку, хацеў затрымаць каля варот — такая лагодная цішыня ляжала над сялом, так мякка кружыўся снег, таяў на твары, бяліў яе каўнерык! — але Канапляначка ўзяла руку, пакруціла галавою: не, няма чаго стаяць!

Нічога не змянілася і ў другі вечар: ішла побач, а нібы не бачыла і не чула яго, была недзе далёка, з некім другім. Яшчэ да таго, як дайшлі да Хадосьчынай хаты, Міканор перастаў жартаваць, забаўляць: чаго гаварыць глухой! Яму стала нудна. У трэці раз ён сам не пайшоў з ёю...

Цікавей было ісці з Чарнушкавай Ганнай, якая хоць і кпіла то з яго армейскага хараства, то з яго заляцанняў да Хадоські, але ж чула, бачыла яго, была дасціпная, вясёлая. Было б з ёй зусім добра, калі б па абодва бакі Ганны не ішлі хмурны, насцярожаны сусед Васіль, што амаль увесь час цяжка маўчаў ды з падазронасцю прыслухоўваўся, і — гаварлівы, упэўнены, нахабны Яўхім Глушак. Яны тапталі снег побач, і Міканор чуў, увесь час чуў, што Ганну, хоць яна і гаворыць больш з ім, хвалююць папраўдзе толькі яны. Да Васіля Ганна ласкавейшая, не тоіць, нават нібы знарок паказвае, што горнецца да яго, аднак Глушака гэта ні трохі не бянтэжыць, не збівае яго то ліслівай, то нахабнай упэўненасці. Ён нібы цвёрда ведае загадзя, што, як бы там ні было, удача дастанецца яму...

«Ну і задавака, ну і нахаба! — падзівіўся, зазлаваў Міканор. — Дзержыцца, як бы роўнаго яму нікого няма, багацей паганы!.. — Ён пагразіўся думкаю: — Пахадзі, пахадзі шчэ — прыгнем пысу тваю к зямлі, род увесь ваш паганы к зямлі прыгнем, карчоўскае насенне!..»

Але хочаш не хочаш — трэба было прызнацца, што і тут, каля Ганны, хадзіць яму няма чаго. Ён тут ужо не тое што трэці, а — чацвёрты лішні!

«Не шанцуе мне — не сакрэт — па етай часці! — вывеў, нібы падсмейваючыся з сябе, Міканор. — Па ўсяму відаць,

перамяніць цэль трэба!..» Аднак, хоць і цяпер хадзіў на вячоркі, як і раней, амаль кожны вольны вечар, праводзіў ужо каго давядзецца...

У іншыя вечары і вольныя дні бавіўся ў гурце прыяцеляў — найчасцей з Хонем і Алёшам Губатым. Калі сыходзіліся ў цёмнай і такой нізенькай, што верх Міканоравай будзёнаўкі чапляў столь, хаце адзінага куранёўскага гарманіста, Алёша звычайна выцягваў са скрыні беражліва загорнуты ў матчыну хустку гармонік. Садзіўся ён заўсёды на адзін і той жа ўслончык, між сталом і скрыняю, заўсёды, пачынаючы іграць, прыкладваў галаву вухам да гармоніка. Пачынаў Алёша часцей за ўсё з песень і песні любіў найбольш сумныя, жаллівыя. Асабліва шчыра, журботна іграў і спяваў Алёша песню пра бедакасалдата. Вялікай тугою бралі не вельмі чулае Міканорава сэрца словыскаргі:

Ізмучаны, скалечаны
Крывавай той вайной,
З адной нагой аторваной
Гранатай праклятой...

Да ціхага хрыплаватага спеву далучыўся звонкі і чысты Хонеў галасок, і скаргаболь як бы стала шырыцца, мацнець, ірвацца з хаты, у свет:

Ідзёт бядняк дай думае,
Кружыцца ў галаве.
Зачым, зачым я ўбіт не буў
У крывавай той вайне...
Зачым прыйду калекаю
У радзіцельскі свой дом,
А там сям'я галодная,
А я — лішон трудом.

Міканор бачыў, як — мабыць, не ў першы раз — каля печы Алёшава маці выцірае слёзы, як сумная ціснецца да падаконніка немаладая Алёшава сястра, як дыміць люлькаю, спусціўшы ногі з печы, яго бацька. Ды і сам Міканор чуў сябе растрывожана, спачуваў бедакукалеку, якіх столькі перабачыў і ў Куранях, і ў Мазыры...

— Давай што весялейшае! — не вытрываў смутку першы, крыкнуў Алёшу Хоня.

Міканор і рота не паспеў адкрыць, каб падтрымаць таварыша, як Алёша спрытна пабег пальцамі па гузіках на гармоніку,

даў «барыню». Хоня гэтага толькі і чакаў — ускочыў з услона, ссунуў шапку яшчэ далей на макаўку, тупнуў лапцем, —эх, шкада, падлога была земляная, — крыкнуў гарэзна, зазыўна і дробнай чачоткай пакіраваў на сярэдзіну хаты. Тупаў лапцямі, ківаўся ўпрысядку, ускокваў, круціўся, падганяў:

— Давай, давай! Не шкадуй гармоніка!

Ён вярнуўся к услону, к Міканору, змораны нашчэнт, — соп важка, выціраў шапкаю змакрэлы, учырванелы, шчаслівы твар. І Алёшава маці ад прыпека, і бацька з печы хвалілі яго, ён і сам ведаў, што хваліць ёсць за што, але сядзеў сціпла. Сціпла ж, пасміхваючыся з сябе, сказаў:

— Було б на што добрае такая ахвота!.. От кеб рабіў так!

— І на работу ж — не зломак! — запярэчыла Алёшава сястра.

— Зломак не зломак, а пагуляць люблю. Болей як трэба!..

Згадваючы потым, на адзіноце, песню пра калекусалдата, Міканор раптам пачуў, што яна ўжо як бы і не падабаецца. Не такая яна і добрая: вельмі ж багата ў ёй плачу, слёз. «Усё ные і ные, бы выстарцаваць скарынку хлеба хоча. Не савецкая песня, царскага рэжыму шчэ, відно. Не перадавая песня, не сакрэт...» Пачуўшы песню ў другі раз, Міканор, хоць і ведаў, што Алёша можа пакрыўдзіцца, не прамаўчаў, бязлітасна ўрэзаў праўдуматку пра песню. Алёша, як і чакаў Міканор, пачырванеў, пакрыўдзіўся, было відаць, моцна; адразу ж з выглядам чалавека, якога вельмі абразілі, сабраў, зняў гармонік з пляча, стаў загортваць у хустку.

Хоня першы кінуўся ратаваць надламаную дружбу.

— Нядобрая, ну няхай табе — нядобрая! А мне — дак падабаецца, за душу бярэ! Алёша шчэ так грае, так спявае — лепшай, здаецца, век не чуў! — Хоня пайшоў у наступ на Міканора: — А мо ў цябе лепшая е? Давай сваю лепшую, як не падабаецца етая! Пабачым!

— А магу і даць! — не саступаў Міканор.

— Давай, давай! Пабачым!

— Дак знаеш жа, як я спяваю...

— А мы ўсё адно разбяромся! Давай!

Міканор тым голасам, якім ён спяваў з аддзяленнем ці ўзводам, калі ішоў у страі мазырскімі вуліцамі, пачаў «Марш Будзёнага». Узяў трохі высакавата і вельмі звонка, сарваўся і, абараняючы песню, сказаў:

— Аднаму яе трудно! Яна вельмі добра выходзіць, калі строй спявае!..

— Дай спяваць умее! — Хоня стрымаў усмешку. — А песня, дак і праўда, нічога, а, Алёша? — Алёша прамаўчаў. — Толькі, канешне, не таму спеваку дасталася! От кеб хто з людскім голасам узяўся за яе!

Хоня не адразу ўгаварыў Алёшу, але ўсё ж угаварыў: не быў бы то Хоня! Калі Алёша падабраў лады, калі заіграў як трэба, калі ўтрох за Міканорам сталі падпяваць, дык і Алёша крыўдаваць перастаў: песня і праўда была добрая. Разам з Хонем і Міканорам разоў дзесяць падрад ахвотна вялі, паўтаралі:

З неба палудзённага жара не падступі,
Конніца Будзённаго раскінулась ў сцепі...

Нібы самі імчаліся на быстрых конях цераз вецер нязнаных казачных стэпаў, дружна, нецярпліва звалі:

Кар’ерам, кар’ерам — давай, давай, давай!
Рота кулямётная, ў баю не адставай!

— Харошая песня! — пахваліў і Алёшаў бацька, які сам «некалі на вайне састаяў пры конях».

Алёшавы бацькі былі на ўсе Курані беднякі з беднякоў: Алёша, памагаючы ім, ахвотна хадзіў з гармонікам на ігрышчы і ў Алешнікі, і ў Мокуць, і разам з ім цяпер хадзіў усюды «Марш Будзёнага». Міканорава песня скора разышлася па цэлай балотнай акрузе...

Калі збіраліся ў Міканоравай хаце дзядзькі, гаворкі ішлі найбольш разважныя, сур’ёзныя: аб важных падзеях у дамашнім быцці, аб падзеях у жыцці суседзяў, аб навінах — ці чутках — цэлага куранёўскага маштабу. Перамешваючыся з успамінамі і рознымі павучальнымі гісторыямі, да якіх пажылыя куранёўцы былі заўсёды ахвочыя і якія пераканаўча паказвалі, што і таму, хто іх казаў, давялося нямала пабачыць і зазнаць на вяку, — чуткі і навіны смела пераходзілі межы Куранёўскай рэспублікі, звязвалі дзядзькоў з Мокуццю, з Алешнікамі, з валасной сталіцаю. Гаворкі, падобныя на тыя, што карова ела нешта пагана і нейкая млявая, што Міцляснік прывалокся зноў у дым п’яны, змяняліся паведамленнем аб тым, якую новую паперу з воласці атрымаў сельсавецкі Дубадзел, усебаковым, грунтоўным абмеркаваннем яе. Чуткі пра тое, што дзеецца ў сельсавеце, няўхільна вялі дзядзькоў у воласць, уводзілі ў гаворкімеркаванні Юравічы, Апейку, Харчава...

Няхай не так часта і не ўсе, найбольш Андрэй Руды і Міканораў бацька, зазіралі разважныя куранёўскія палітыкі і ў Мінск, і

ў Маскву, к самому Калініну, выбраліся ў шырокі, неспакойны свет. Было гэта амаль заўсёды, калі Міканор, падсеўшы бліжэй да комінка, на якім трашчала ў агні лучына, павольна і цяжка чытаў газету «Беларуская вёска», што прыходзіла з Мінска.

З усіх навін, якія вычытваў Міканор, асабліва хвалявала тое, што робіцца за мяжой. Сваё было добрае, прыемнае — слухаючы яго, цешыліся, ад яго спакайнелі, — адтуль жа, зза мяжы, часта ішло трывожнае, пагрознае, страшнае — вайна.

— Дакуль жа ето яно, грэц яго, будзе! — не ўтрываў, наслухаўшыся такіх вестак, Чарнушка. — Сычаць усе ды сычаць!

— Капітал, буржуазея! Без вайны, следавацельно, жыць не можа! — паясніў Руды. — З вайны, тасказаць, сіла ўся ў іх, як у каня з аўса!

— Сілато сіла, ды адзін аднаго не вельмі ядзяць! — апярэдзіў Міканора Хоня. Чарнушка і яшчэ некалькі дзядзькоў згодна заківалі, падтрымалі Хоню гоманам.

— Гад, тасказаць, гада не любіць есці! — Руды пусціў з ноздры далікатны, тоненькі струменьчык дыму. — Класавая барба, як вучыў Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс.

— Няўжэ ж так, браткі, і будзе ўвесь век? Ето ж і да вайны недалеко! — не таіў трывогі Грыбок.

— Недалеко!

Тут ужо ўмяшаўся Міканор: яснасць поўную ў праблеме вайны і міру можна было зрабіць, толькі нагадаўшы моц савецкіх ваенных і марскіх сіл, якія ён цяпер нібы прадстаўляў у Куранях.

## 2

Не адзін раз уступаў ці ўрываўся Міканор у гаворкі, якія ўсё ж часцей высвятлялі не праблемы свету, а, калі можна сказаць, праблемы Куранёў. Праблемы гэтыя хвалявалі і здаваліся нікольві не менш важныя, чым праблемы свету, — яны проста лезлі ў душу. Багата, багата што ў Куранях тачыла сумам і клопатам Міканора, непакоіла, трывожыла, абурала. Багата, багата што бачылася не такім, як трэба, як павінна быць.

Пачалося ўсё яшчэ тады, калі з Грыбком і яго калёсамі, якіх знайшоў у Юравічах, вяртаючыся са службы, прабіваўся дадому. Калі лез, тануў у халоднай твані перад недалёкімі ўжо Куранямі, радасць вяртання, блізкай сустрэчы з роднай дамоўкай перамяшалася з няўчасным сумам. Сум гэты гнёў, калі ўгледзеў куцыя, слепаватыя хаткі пад чорнымі саламянымі і чаратовымі стрэхамі, калі зноў улез у амаль забытую гразь куранёўскай

вуліцы. Пасля мазырскага бруку, жывой люднасці на вуліцах, прыпяцкага вясёлага прастору — як бы сплюшчаным, затопленым гразёю, дрымотным і балюча бедным убачылася дарагое сяло. Сум зашчымеў яшчэ горш, калі ступіў на свой ганак, у сенцы — якая ж яна крывая і гнілая, бацькава хата! І цесная, і цёмная якая!..

Так было ледзь не ўвесь час: амаль усюды побач з радасцю ішлі смутак, клопат, нязгода. Ішлі дома, ішлі ў лесе, прабіваліся на вячорках, дзе таксама ж, як і ва ўсіх хатах, сляпіліся пры чаднай лучыне, ледзь не ўсе прыбраныя ў зрэб'е. Асабліва ж вярэдзілі душу незадавальненне і турботы доўгімі начамі, калі лажыўся на палаці ля замаляванага марозам, з пабялелымі рамамі акна, з якога лоб, шыю, плечы студзіла холадам.

Трэба было нешта рабіць з хатай. Бацька казаў, што добра было б падвесці падваліны, перабраць сцены — замяніць некаторыя бярвенні здаровымі, — і жыві яшчэ хоць пяцьдзесят гадоў! Але мяняць падваліны, перабіраць сцены было справай такой няпростай, што Міканору думалася, ці не лепей ужо новую пастарацца агораць хату. Ды і, па праўдзе кажучы, вельмі ж не да душы чорная і цёмная цяперашняя дамоўка, каб старацца, пяцца для яе, каб яшчэ век векаваць у ёй! Але ж і з тым не лічыцца нельга: як ты агораеш новыя харомы з дашчанай падлогай, з добрай печчу, хоць бы з аднаго пакоя, калі дастатку ніякага, калі лес узяць невядома за што, невядома за што зруб скласці. Няхай — зруб і самому налаўчыцца, скласці можна, і кроквы прыляпіць, і накрыць чаротам, — але ж столяра — хочаш не хочаш — наняць трэба! Дзверы ды рамы сам не зробіш! І печ не злепіш! І без шкла не абыдзешся! Шыбы якнібудзь трэба зрабіць большыя!.. Багата чаго трэба! І на ўсё трэба дастатак! А тут — і конь такі, што гадай, ці адужае прывалакчы столькі лесу. І каровы няма; без каровы, без малака — жыццё не жыццё; перш чым за хату брацца, хоць бы цялушку якую прыдбаць! І збожжа ў застаронку — на дне: да канца зімы ці ўдасца перабіцца! І картоплі наўрад ці хопіць да новай! А трэба ж будзе яшчэ ўзяць з яе, каб пасадзіць!..

І хлеў — дзіва як стаіць яшчэ; страха на ім, чорная, замшэлая, уся ў дзірках, у латках з саломы, цячэ! І зруб у калодзежы — зялёны, збуцвелы, зямля ўжо дзенідзе сыплецца ў ваду! Усё, усё — куды, здаецца, ні зірні, просіць рук, забівае галаву клопатам!

Але хіба гэта адно вярэдзіць душу? Перайначваць, мяняць багата што трэба ў заведзеным ад веку парадку — от што аса-

бліва точыць. Нядобра думаць што паганае пра родны кут, але ж у сенцы зайсці брыдка, такім смуродам б'е там, дзе чвякаюць, вішчаць парасяты. Нібы нельга трымаць парасят у закутку ў хляве! Цвілы, кіслы нейкі пах не выходзіць з хаты: можа, ад тых жа парасят, якіх іншы раз — от парадак жа — кармілі ў хаце! Спрабаваў — як калісьці казарму — праветрываць хату, але толку мала — пах не выходзіць. І невядома, як выжыць яго! Ды і як тут выжывеш, калі бацька і матка прывыклі, як бы і не чуюць яго. Заікнуўся раз Міканор пра гэты пах, дык матка зірнула так, нібы ён гаворыць абышто.

— Ето табе здаецца, Міканорко, — сказала спакойна, упэўнена. — Здаецца, што нядобра пахне. Як помню, так пахло. І ў другіх так жа ж...

От жа адказ — у другіх так! А калі ў другіх нядобра робяць, дык і ўсім так трэба? Гэта ж праўда: нядаўна заходзіў да Зайчыка — дык парасяты ў хаце, можна сказаць, побач з дзецьмі. Дзеці лазяць, гуляюць каля іх, між іх, у разлітай парасячай паліўцы, а Зайчыкам — хоць бы што, як бы так і трэба. Калі сказаў ім, дык Зайчык пажартаваў, што невядома каго яшчэ даглядаць лепей трэба! Дзяцей, маўляў, вунь сколькі, а парасят — двое! Зайчыха на яго, Міканора, як на дзівака пазірала!

Проста бяда — ніякай санітарыі! Гэта ж калі б у казарме ў палку хоць бы адна дзесятая, ды што дзесятая — сотая частка такога непарадку была, дык камандзіра палка мятлой вымелі б з арміі, судом судзілі б, як злачынца! А тут жывуць так — і нічога! Як бы так і трэба!

«Мала культуры! Можно сказаць, што багато ў каго дак культуры саўсім няма! А некаторых відаў культуры дак — не сакрэт — не хапае ўсяму сялу...»

Прывык у палку кожныя дзесяць дзён са скруткам бялізны, з ручніком, з кавалкам добрага мыла крочыць у мазырскую лазню. Папарыцца, пасцябаць сябе венікам прывык, а тут — ліха яго ведае — як за ўсю зіму памыцца! Летам — то любая сажалка, копанка кожная прыняць можа, а зімой — як? Калі меншы быў — маці ў начоўкі, у цэбар саджала, а цяпер — вельмі ты вымыешся ў начоўках! І сесці толкам няма дзе ў іх, не тое што ў цэбары!

«Лазню, лазню будаваць трэба! — не адступае, дужэе думка. — Не такую няхай, як у Мозыры ці ў Юравічах; стопку якуюнебудзь злажыць. А толькі каб была лазня як лазня — з печкаю, з полкамі, з параю! І каб усё сяло карысталася — і старыя і малыя! Можно — як у Мозыры — адзін дзень для

мужчын назначаць, другі — для жанчын. А можно і так: да абеду мужчыны, пасля абеду — жанкі. А толькі — каб была лазня! На ўсё сяло, на ўсіх!..»

І лазні няма, і школы няма. І чытальні. І ўсё трэба, трэба, а як зрабіць усё, калі тут з грэбляй столькі клопату? Чым больш думаеш, тым больш бачыш, што з іншым трэба чакаць: і з малочным таварыствам, і з меліярацыяй. Усяго не зробіш адразу, з сілаю трэба лічыцца людской — грэблі і адной пакуль хопіць. І на грэблю адну сілы колькі трэба!

І вінаваціць вельмі людзей нельга — беднасць, нішчымніца. І без таго кожны часта ні дня, ні ночы не бачыць з турботы: б'юцца, як рыба аб лёд, каб скарынку хлеба, расол мець, каб прабавіцца неяк ад лета да лета...

Але і сядзець склаўшы рукі, ды слухаць скаргі, ды бедаваць — таксама не метад. Варушыць трэба соннае, гіблае гэта балота, самому варушыць: ніхто другі — не сакрэт — рабіць за цябе не будзе. Камісар палка Курбацкі што казаў, калі сабраліся ў палкавым клубе перад раз'ездам па хатах, калі кожнаму як прэмію за службу і для кіраўніцтва на будучае далі падпіску на «Беларускую вёску»? Вы прайшлі добрую армейскую школу, казаў камісар, навучыліся грамаце, палітычна выраслі, набылі культуры; вы будзеце — самая культурная, перадавая сіла на сяле. Нясіце ж туды ўсё перадавое, будзьце і там байцамі, байцамі за новы лад, за новае жыццё, за камуну!..

Камукаму, а яму, Міканору, дык, калі толкам разабрацца, удвайне рабіць трэба: не радавы ж чырвонаармеец, і не толькі малодшы чырвоны камандзір, а і камсамолец жа, адзін на ўсе Курані. Адзін; у тым — не сакрэт — і бяда, што адзін. Не вельмі разгорнешся адзін, без супольнікаў, калі столькі работы і так цяжка ўгаворваць людзей. Камсамольскую ячэйку сарганізаваць — не сакрэт — трэба б. Ёсць з каго, тут і сляпому відна, толькі б падрыхтаваць, свядомымі для камсамола зрабіць, каб ведалі, што такое камуна, і нашто яна мужыку, і што такое Бог. І што такое сусветны Інтэрнацыянал і гідраімперыялізм. Хоня, можна загадзя сказаць, падыходзіць. І Алёша, ды і, калі пагаварыць добра, растлумачыць усё пэўна, і — Хадоська. Ёсць з каго арганізаваць, калі прасвятліць, пачысціць папярэдне...

Успаміналася нядаўняя спрэчка з Хонем аб грэблі. «Як ты, а я, брат, дак думаю — не вельміто багато толку з етай тваёй грэблі будзе!» — «Чаму ето?» — «А таму, што, начальнік, мала чаго яна пераменіць! Каму добра було і так, таму і патом добра будзе, а хто як сядзеў без хлеба, так і сядзець будзе!..» Міканор

тады спрачаўся, даказваў карысць грэблі, але Хоня ўсё гнуў сваё. Горш было, што ён, Міканор, і сам чуў у Хоневых словах праўду. «І ўсётакі — недарэмно, — думаў Міканор у цішыні ночы, пад няўціхны гул завірухі ў коміне. — Меней дзікасці будзе, святла болей. І няхай людзі вучацца разам рабіць. У камуну няхай гатовяцца... А што да багацеяў, то — не сакрэт — і за іх возьмемся! Дай толькі час — падраўняем!..»

3

Чым далей жыў Міканор у Куранях, тым больш чуў, што чакаць ціха, трываць — няхай сабе і да часу — нельга. З дня на дзень усё больш нецярплівай станавілася нязгода з цемраю, з неразумнасцю, з прывыкласцю людской да дурных звычаяў.

Звычаі, даўнія, адвечныя, бачыліся Міканору нібы тая горкая, ні на што добрае няздатная балотная расліннасць, што зелянела, буяла летам усюды на куп'істых куранёўскіх узболатках і балотах. Як тая непатрэбная расліннасць, што ўчэплівалася глыбока ў торф, жылі моцна ў людзях, пусціўшы ўсюды сваё нявіднае карэнне, даўнія, дурныя звычаі. Як і балотнай непатрэбшчыне, ім ніхто і не дзівіўся, нібы няможна было і ўявіць, што магло расці на балоце тым нешта іншае, карыснае! Нібы без звычаяў тых, без забабонаў жыць і няможна было б!

Трэба было, чуў Міканор, ірваць гэтае шкоднае пустазелле, ірваць, не чакаючы, не спадзяваючыся на грэблю: грэбля пакуль яшчэ будзе, — не сядзець жа да таго часу склаўшы рукі! Ды і сама па сабе грэбля мала што тут перамяніць, і пры грэблі работы рукам будзе не на год — пакуль выпалеш шкоду гэту ды пасееш культурныя расліны! Адным словам, сядзець няма чаго, трэба брацца за праполку зараз жа!

Але ж задача якая — палоць, перайначваць звычаі трэба — не сакрэт — не толькі дзенебудзь у другіх хатах, а і ў сваёй. І нават, калі падумаць, толкам, то — перш за ўсё ў сваёй хаце, у сваёй сям'і; бо кожны ж, толькі заікнешся са сваёй крытыкай, адразу ж на тваю хату пакажа — а які ў самога парадак?

Ясна і дзіцяці: калі хочаш хоць чагонебудзь дабіцца, трэба паказваць перш за ўсё прыклад самому. А тут, як назло, у сваёй хаце парадку такога, каб прыклад іншым паказваць, ані знаку. І не таму, што не хацеў, не спрабаваў парадак гэты ўстанавіць. Спрабаваў, і нават не раз, але што ж ты зробіш, калі матка ды, можна сказаць, і бацька і разумець толкам нічога не хочуць.

Матка, дык ледзь возьмешся рабіць што не пазаведзенаму, адразу ад страху бялее, хрысціцца, божкае.

Ледзь толькі ўзяўся калоць дровы ў нядзелю, дык прыбегла, слёзна прасіць, маліць пачала, каб не гнявіў Бога. Тады ён заявіў ясна, што Бога няма, але яна слухаць не стала, кінулася да яго, як да нейкага злачынца ці вар'ята.

— Міканорко! Ты сам не знаеш, што кажаш! Не знаеш!.. Божачко! Не думай нічого!..

— Не бойся, мамо! Не думае ён нічога, бо — няма яго, не сакрэт!

— Святы Божа! Святы бяссмертны!.. Не слухай яго!..

— Не слухае ён, мамо! Няма каму слухаць! Выдумка ўсё ето!..

— Міканорко! Міканорко! Богам прашу!

Яна тулілася да яго грудзей, заходзілася плачам, проста стагнала ад страху, і Міканор, як ні ваяўніча быў настроены, прыціх, пашкадаваў старую. Маці ж, калі супакоілася трохі, выціраючы ражком хусткі твар, паглядзела на яго пільна, сказала неспакойна:

— Нагаворвае ето нехто табе на Бога, анціхрыстаў нейкі голас!

— Ніхто не нагаворвае, мамо! Сам знаю! От толькі на вас дзіўлюся!..

— Нагаворвае! Чую, Міканорко!.. — Яна запытала з трывогай: — Ці не занядужаў ты?

Здаровы. У тым і аснова, што здаровы і бачыць такое, што іншыя — не сакрэт — не бачаць; і сярод іх свая матка, якую і шкода за яе страхі і за якую не тое што сорамна, але балюча. Бо баіцца яна ўсяго, што супраць рэлігіі, ад свае цемнаты, ад несвядомасці, — так што, калі меркаваць па ўсіх правілах, сама па сабе яна не вінавата і саромецца за яе — ясна — няма чаго. Але ж, хоць і шкода яе і нялёгка бачыць, як яна перажывае, сядзець, як на прывале, склаўшы рукі, таксама — не метад. Трэба ісці ўперад і ўперад, па ленінскаму маршруту.

Канешне, тут няможна не ўлічваць, што матка ёсць матка, не вораг які, а свой чалавек, толькі што несвядомы; трэба неяк лічыцца з ёю, тлумачыць і тлумачыць, наступаць разумна, можна сказаць, з тактыкай, з манеўрам, з усякім подступам, абходам і таму падобным. Але наступаць, канешне, трэба — бо інакш ніколі нічога не даб'ешся. Няхай прывыкае і яна, і бацька таксама, што не такія цвёрдыя іх старыя парадкі і што багі — не

такія паны, пра якіх і падумаць, не тое што сказаць, няможна нічога непачцівага...

Багі і ўсялякія святыя — от з чым ваяваць трэба. У кожнай куранёўскай хаце ў кутку, пад ручнікамі — як прусакі якія ў золаце! Усюды, куды ні зірні ў хаце, зрэб'е, цвіль, беднасць, а тут — бляск, раскоша. Як у царскіх палацах, мабыць! Цара скінулі, косці даўно згнілі яго, а гэтыя жывуць, людской цёмнасцю карыстаючыся! Жывуць, і анігадкі!

З самага пачатку, як вярнуўся са службы, знелюбіў Міканор гэту плойму, што, як нейкія вартавыя, строга сцерагла чалавечую бяду, — ні разу не ўзнялася рука, каб перахрысціцца да іх. З часам нелюбоў яго яшчэ памацнела, спакойна зірнуць не мог на ашуканства гэта, так і хацелася сказаць пра іх штонебудзь насмешлівае, едкае. Доўга стрымліваўся, шануючы матку, але ж трэба было, нарэшце, пайсці наперад. Не век жа цярпець, мірыцца з матчынаю цемнатою.

Устаў пасля абеду зза стала, тады, як трэба было б перахрысціцца, падступіўся бліжэй да абразоў, прыгледзеўся, запытаў з самым сур'ёзным тварам:

— Хто ето — верхні Бог, — бы на старого Глушака падобны?

Маці ледзь не выпусціла міску, якую ўзяла са стала.

— Міканорко! — Ён заўважыў: у матчыных вачах былі трывога, роспач. — Нашто табе ето? Нашто чапаць табе яго? Ці ж ён паганае табе што зрабіў?

— Не, не зрабіў, бо і не мог зрабіць! Чаго не было, таго не было! Толькі ж — чысты Глушак! Як, скажы ты, з Карча малявалі!

— Пакарае ён цябе за такія твае словы, Міканорко! Ой, не сцерпіць ён, баліць мая душа!

— Дошка маляваная, мамо, усё сцерпіць! Глушак, ну праўда ж, чысты Глушак!..

— Не чапай матку! — перахрысціўшыся, пазяхнуўшы санліва, заступіўся за старую бацька. — Не падабаецца, дак не глядзі, а не чапай. — Ён яшчэ пазяхнуў, са смачным крэктам пачухаў за спіною, мірна прамовіў да жонкі: — І ты не трасіся вельмі! Мо яно, як той казаў, і праўда... Не даказаў ніхто, не бачыў на свае вочы... Дак можна думаць і так і так...

— Як ето — так і так? — сумелася матка. — Як у цябе язык паварочваецца! Няхай ён — малады, а ты ж — жыццё ўжэ пражыў, пабачыў усяго!..

Бацька пакрактаў, пачухаўся.

— У тым і соль, што пабачыў. Парознаму — пабачыў — распісуюць усе — святых і Бога... Як буў у Маньжурыі, дак там — саўсім іначы Бог. Жоўты, касавокі, хітры такі паглядам... Усё адно як іх некалькі, багоў...

— Саўсім здурнеў на старасці! — з адчаем сказала матка.

Бацька зноў пачухаўся.

— І святыя ва ўсіх розныя... — Белы ўвесь, у сваіх зрэбных споднiках і доўгай, ледзь не да кален сарочцы, ён пасунуўся к палацям, калі сеў на край, сказаў Міканору: — І ты не вельмі — на абразы!.. Не намі заведзено...

— Дак што, як не намі! Вочы заплюшчыць?

— Не канешне заплюшчуваць... — Бацька салодка пазяхнуў.

— А што ж? Калі душа проста не трывае етаго глупства?!

— Усякаго глупства багато...

— Дак што ж, цярпець век?

— А што... — Наступнае бацькава слова разадраў позех.

Бацька, як бы паказваючы, што гаворка гэта нецікавая яму, адвярнуўся, лёг на рыззё, пацягнуў на плечы коўдру, — амаль адразу ж захроп. Міканор пастаяў хвіліну з прыкрасцю: нібы чакаў, што бацька заварушыцца, зноў загаворыць — нельга ж так недарэчна перарываць іх спрэчку! Але з ложка чулася адно мірнае, з тонкім, як аб павуціну, подсвістам храпенне; тады Міканор павёў вачыма на маці — тая стаяла перад абразамі з паніклай галавой, сумная, строгая, ціха мармытала нейкую малітву...

Міканор сарваў з цвіка будзёнаўку, накінуў на плечы шынель і хуткім, парывістым крокам выйшаў на скрыпучы ганак.

От дзе ён — цяжкі рубеж, у сваёй жа хаце. І каб жа на гэтым рубяжы быў хто чужы, праціўнік які, то тут задача была б простая, абучаны — не сакрэт — таму, як браць такія рубяжы, дзе праціўнік сядзіць; дык жа — свае людзі там, свая матка, свой бацька!

Ад таго і тактыка цяжкая. Самому маркотна ад такой тактыкі, ад матчыных страхаў, ад пякучых яе слёз. Але нічога — няхай паперажывае, нічога не зробіш інакш; калінебудзь дзякаваць, можа, будзе, а не будзе — і не трэба! Не за тое, не за падзяку змагаемся!...

## 4

За гэтым рубяжом бачыўся Міканору другі, багата большы, — можна сказаць, цэлая лінія.

Адна пазіцыя гэтай лініі прайшла ўбаку, у Мокуці, з якой бацьку прывезлі такога п'янага, што давялося несці яго ў хату, нібы мех. Таксама сп'янелая матка і Міканор ужо на палацях знялі з яго халодную світу, узяліся церці снегам белыя рукі і вуха. Доўга, доўга давялося церці, пакуль старэчыя крывыя пальцы не наліліся жывой ружовасцю. Ён жа то стагнаў, нібы ў сне, то скрыпеў зубамі і нешта мармытаў без складу, без ладу.

Балюча і прыкра было бачыць сівую, к святу падстрыжаную бараду з камякамі нейкай яды, з падмерзлай слінай. Разуўшы цвёрдыя лапці, маці накрыла бацьку коўдрай, потым світай, аб'ехала на падлогу і, прытуліўшы раскудлачаную галаву са ссунутай хусткай да краю палацяў, нядобра, неяк не палюдску завыла. І яе было шкода, і прыкра было за яе — у шчырым, поўным тугі плачы чулася п'яная, брыдкая атупеласць...

На другі дзень бацька ўстаў позна, пазелянелы, пастарэлы, нібы вымачаны, доўга чухаўся на палацях, глядзеў спадылба хмурна, пакутліва. Босы пацёгся да вядра каля парога, доўга піў ледзяную ваду, не мог здаволіцца. Маці не ўтрывала, папракнула ад печы:

— Добры буў, Дамецько! Налізаўся як... Чуць давезла!.. Усё з саней каціўся!

Бацька прамаўчаў на яе дакор, зірнуў спадылба на Міканора і хутчэй адвярнуўся. Усё ж не ўтрываў, прахрыпеў да старой, ці не знайшла б чаго апахмяліцца.

Матка пашкадавала — прынесла з каморкі ў корчыку самагонкі. Ставячы перад ім на стол, зноў упікнула:

— Кеб не Чарнушка, не знаю, як давезла б! Скоціцца з саней і ляжыць, як палено!..

Выпіўшы, бацька павесялеў. Сказаў раптам здаволены, нібы хвалячыся:

— Пагуляў добра! Не пашкадаваў зяць гарэлкі!..

— І вас не пашкадаваў, мабуць! — адгукнуўся Міканор.

— Я — што? Чаго мяне шкадаваць?.. От што ты сястру не ўважыў, Вольга шкадавала!.. І чалавек яе пакрыўдзіўся...

— Нічога, уважу! Не канешне — на вашага п'янаго Мікалая! — сказаў Міканор.

І от зноў ішло. Як нейкая рэлігійная эстафета: ці даўно мінуўся той святы Мікалай, а ўжо блізка былі Каляды; з кожным днём

набліжаліся, усё больш поўнілі Курані сваім клопатам. Чым бліжэй падступалі, тым больш брала Курані як бы ліхаманка. Як ні злаваў Міканор, а бачыў — ліхаманку гэтую не толькі не гналі, як хваробу паганую, а простатакі рады былі ёй; к дурной папоўскай выдумцы — Калядам — не ішлі ціха сабе, з пакоры перад папом, царквою, а — спяшаліся, з ахвотай, з нейкай вясёлай нецярплівасцю! Як бы там і праўда — свята сапраўднае было! Нібы навыперадкі адзін перад адным, хапаліся дарабіць усё па гаспадарцы — запасаліся на святы: везлі, складвалі ў хлявы сена, калолі дровы. Запасаліся не на дзень, на два — на ўсе Каляды, на два тыдні: у Каляды, па папоўскаму закону, нічога рабіць няможна, грэх!..

Зіма нібы прыяла Калядам. Халады дала ядраныя, дужыя. Раніцы ўставалі ружовыя, з ружовым снегам і ружовым інеем, якога багата пушылася на сценах, у падстрэшшах, на галлі дрэваў. Куранёўскія двары, уся вуліца поўніліся звонкасцю: звонкімі галасамі, звонкім іржаннем і рыкам, звонкім крэктам варот. Дымы над куранёўскімі хатамі стаялі ў ружовым небе, як лес...

Сонца амаль не меншыла холаду: твар шчыпала, калола тысячамі дробных іголак. У полі грудзі аж захлыналіся ад чысціні, ад холаду не тое што цераз світу, але і цераз добрую чуйку мароз неўзабаве сцінаў усё цела. Толькі і ратунку было саслізнуць з саней ды патрухаць услед, прытоптваючы, бы ў скоках. І ў лесе, і каля стагоў рабілі, але пакуль вярталіся, устывалі так, што потым, як казаў Чарнушка, студзіла і на гарачым чаране.

Ночы былі светлыя, такія ціхія, што, калі Міканор прыходзіў з вячорак, душу таміла самота. Самота чулася мацней, калі пракідваўся сярод ночы і — спачатку ў дрымотнай няцямнасці — слухаў, як цераз цьмяны, марозны роспіс шыб прасочваецца галоднае выццё ваўкоў, што кружылі ў халодным полі і ў голых зарасніках вакол Куранёў. Неспакойны сон ноччу не раз перабівалі гулкія ўдары абухом — мароз калоў бярвенні...

Мусіць, не было ў Куранях такой хаты, дзе б не думалі, не дбалі пра Каляды. Хочаш не хочаш, давялося думаць пра іх, дбаць і Міканору; але дбаў Міканор аб Калядах так, як, напэўна, ні адзін другі куранёвец за ўсе гады, як стаяць тут гэтыя старыя хаты. Не было, мабыць, такой гаворкі, такой сустрэчы, дзе б пры зручнай нагодзе, а то і без такой нагоды —павайсковаму, без далікацтва — не біў Міканор па Калядах. Дзе толькі мог, вучыў людзей, рэзаў праўду: Каляды гэтыя — забабоны з цемнаты, опіум папоўскі, рэлігійная выдумка.

Васільсусед, з якім Міканор такую гаворку зачапіў каля калодзежа, толькі коса, спадылба паглядзеў ды з вядром хутчэй парыпаў лапцямі да хлява. Хоня ж, калі ўрэзаў такое Міканор у Алёшавай хаце, не толькі не набычыўся, але нібы ўзрадаваўся: вядома — выдумка, глупства, выгаднае папам. У хаце, акрамя іх траіх, не было нікога, і за Хонем лёгка згадзіўся з Міканорам Алёша...

Іншыя хлопцы і дзядзькі хто спрачаўся, хто, хоць і не вельмі пэўна, ківаў галавою, хто — такіх было найбольш — перамоўчваў. Вельмі, вельмі часта Міканор у гэтых гаворках спатыкаў абыякавасць: чаго тут гаварыць, чаго мудрагеліць, як бы чуў ён! Таму гаворкі такія хутка ж вельмі гаслі, танулі між іншых жыццёвых меркаванняў і разваг. Гарачэй на размову пра Каляды адгукаліся дзяўчаты і жанкі, але тыя ледзь не ўсе люта кідаліся на Міканора, строга судзілі. Думаць не хацелі, як бы баяліся, што думаць — ужо грэх! Толькі Ганна Чарнушкава — запомнілася Міканору — не божкала, не пужалася; не пужалася, слухала, але з якім недавер'ем, з усмешачкай якой!

Усё ж і тое добра, што слухала: паслухала, можа, калі і падумае! Неспакойнае, разумнае ў вачах яе заўсёды бачыў, от што цешыла і радавала Міканора, асабліва ў гэтыя дні, калі так расчаравала яго Хадоська. Хадоська, пра якую ён нядаўна думаў, што ёй скора і ў камсамол дарогу можна будзе даць, аказалася ні трохі не лепшай за Васіля Дзятла. Гаварыць не дала не толькі пра Бога, а і пра папоў, пра папоўскія хітрасці. Ясна стала Міканору, што такому чалавеку не тое што ўперадзе, у першых радах, а ў і тыле невядома як плесціся давядзецца!..

Мала калі выпадала Міканору столькі расчаравання, як у гэтыя дні. Колькі ні стараўся, а перадсвяточная вясёлая ліхаманка ў Куранях не толькі не ападала, а — было чутна — усё мацнела. У гэтую ліхаманку ўсё часцей уплятаі свае роспачныя, перадсмяротныя галасы парасяты, свінні, авечкі, якіх калолі і рэзалі каму можна было і каму няможна. Не было такога дня, каб не чулася ці з аднаго, ці з другога хлява спалоханага бэлькання ці пранізлівага віску, каб не чырванеў ці на адным, ці на другім агародзе за хлявом вясёлы агеньчык, не плыў угару дым. Цэлымі днямі яшчэ нядаўна марозначыстае паветра поўнілася пахамі дымнага смуроду, паленай шчаціны, падсмажанай свінячай скуры.

«От жа дзікасць! — злаваў Міканор. — Зубы заўтра не адзін на паліцу пакладзе, а — не думае, не беражэцца! Усё пад нож пусціць гатоў для дурного свята!..»

Учора дакараў суседа Васіля, які свежаваў авечку, а сёння, як ні стараўся аберагчыся, пошасць улезла ў хату к самому. Вярнуўшыся ад Грыбка, з якім хацеў пагаварыць, каб падвезці яшчэ галля на грэблю, убачыў раптам, што бацька каля прыпека точыць аб цэглу шыла. Нават каб не бачыў, як нахмурыўся бацька, як адвёў вочы ўбок, здагадаўся б адразу, нашто рыхтуе ён шыла. Але з гэтай бацькавай хмурнасці і ніякаватасці зразумеў Міканор яшчэ і тое, што без яго ў бацькі была з маткай нядобрая гаворка і што бацька саступіў...

— Усётакі рашылі пакланіцца Богу? — не ўтрываў Міканор пасля нярэдкага ўжо ў хаце няёмкага маўчання.

— Не кажы, Міканорко! — адразу адгукнулася маці, нібы толькі і чакала гэтай гаворкі. — Трэба! Ты як хочаш думай, а — Коляды ето Коляды! Палюдску трэба з імі!

— Дак штоб палюдску — свіней канешне рэзаць?

— Трэба, Міканорко! Добрыя будуць Коляды, дак і ўраджай добры будзе, і худобе прыплод добры! Сабярэш патом нешто!

— Само расці ўсё будзе! Чакайце толькі!..

Тут ужо, выціраючы нізам сарочкі шыла, нібы апраўдваючыся, загаварыў бацька:

— Насця з Сямёнам і Вольга са сваім буць павінны! Частаваць нечым трэба будзе!..

— Ды дзяцей прывязуць сколькі к дзеду і бабе! — падхапіла маці. — У Вольгі ўжэ пятае нешто агукае!

— Дак канешне ўсё ето ў святы дзень рабіць!

— А калі ж!

Міканор толькі рукой махнуў: пусты занятак — спрэчкі гэтыя весці! Мала толку з гэтых спрэчак! Падумаў сумна — як усё пераблыталася, сплялося: тут каб каторы і не хацеў святкаваць, дак нібы ўжо абавязаны — госці ж, дзеці, зяці, сваты прыедуць! Трэба старацца для іх, не зняславіцца! Хітра аблытала людзей папоўская гайня!..

Дома не сядзелася, і Міканор выйшаў на вуліцу, пакрочыў да Хоні: хацелася пагаманіць па шчырасці з тым, хто цябе разумее, да каго дойдзе твая трывогажурба. Адвесці душу ў добрага таварыша хацелася!

Задуменны, паглыблены ў сябе, не бачыў, калі увайшоў на Хонеў двор, узяўся за халодную сянечную клямку. Схамянуўся толькі тады, калі, забыўшыся нагнуць галаву, стукнуўся аб верхні вушак дзвярэй. Трымаючы ў руцэ будзёнаўку, мацаючы ніякавата гузак, што ўраз пачаў шчымець пад валасамі, агледзеўся ў змроку: у хаце толькі была, нерухома глядзела на яго

з палацяў Хонева маці. Страшэнна худая, нібы ўся высахлая, у хатняй цемры яна здавалася Міканору нежывой. І хата —маўклівая, няўтульная без звычайнай дзіцячай валтузні і гоману — здалася, як склеп...

Міканору няёмка было чуць на сабе нерухомы, нібы мёртвы позірк, але ён стаіў гэта, спакойна прывітаўся, спытаў, дзе Хоня.

— На агародзе Хоня, — не так пачуў, як здагадаўся Міканор.

Толькі калі выйшаў на двор, заўважыў, што зза хлява паўзе ўгару дымок, чорны дымок ад згарэлай саломы. Адразу ж за гэтым улавіў зза хлява вясёлыя дзіцячыя галасы: от дзе ўсе былі цяпер! — мімаволі закрочыў хутчэй. Ледзь высунуўся на агарод, убачыў чародку малых, якія гаманілі, штурхалі адзін аднаго, завіхаліся, адзетыя, як жабракі, але шчаслівыя. У сярэдзіне гэтага акружэння стаяў на кукішках такі ж, як і ўсе, вясёлы Хоня, кульком падпаленай саломы вадзіў па спіне ўжо амаль абсмаленага худога падсвінка...

Заўважыўшы Міканора, ён кінуў недагарэлы кулёк саломы, выпраміўся, расчырванелы пры агні, з плямай сажы на шчацэ, весела крыкнуў дзятве, каб прымоўклі, падружбацку падаў руку.

— Усётакі паддаўся агульнай пошасці?

— Не пошасці, а — жывату! — засмяяўся Хоня. — Куды ні павярніся носам, адусюль так смашно пахне, што кішкі стогнуць! Хіба ўдзержышся?

— Усётакі — не сакрэт — як бы Богу кланяешся!

— Не Богу, Міканор, а жывату свайму! Ці мо і жывот — Бог таксамо?.. — Ён перастаў смяяцца. — Матка занудзілася вельмі, папрасіла, штоб закалоў на Каляды... Ды і дзятва — бачыш сам!..

Пастаялі, пакурылі, пагаманілі абы пра што — пра зіму, што, нарэшце, узялася як трэба, пра дзяўчат, што нібы пашалелі перад Калядамі, памеркавалі, куды на вячоркі падацца. Непрыкметна зноў вярнулася шчырая таварыскасць, і Міканор, сумна пасміхваючыся, расказаў пра спрэчку сваю з бацькамі. Хоня нібы толькі і чакаў гэтага, вельмі ж весела ўхапіўся: от бачыш, Міканор; але ты не бядуй, не лёгка і дрэвы гнуцца! Не тое што людзі, ды яшчэ старыя!..

Пасля гаворкі з Хонем заўсёды весялей на душы робіцца. Але бесклапотнасць гэта была нядоўгая: ідучы ад Хоні, убачыў каля Алёшавай хаты купку дзяўчат, што вельмі ж ласкава гаманілі з гарманістам.

— Дак глядзі ж, штоб помніў угавор! — крыкнула яму, ужо трохі адышоўшы з іншымі, Чарнушкава Ганна.

Алёша з годнасцю прамаўчаў. Ён сабраўся ўжо вяртацца ў хату, але заўважыў Міканора і стаў.

— Пайграць, мабуць, прасілі? — падаў руку Міканор.

— А то чаго ж! — Алёша шмаргануў чырвоным носам, для пэўнасці правёў пад носам яшчэ рукавом сарочкі.

Нос у яго, як помніў Міканор, у сцюжу заўсёды быў чырвоны, аж сіняваты, і заўсёды Алёша верашчаў ім; але стаяў цяпер, на такім марозе, хлопец у адным белым зрэб'і.

— На каляды — не сакрэт — дагаварваліся?

— Аге... — У Алёшы яшчэ чуўся гонар сабою, адзіным на ўсё сяло гарманістам.

— Пойдзеш, сказаў?

— А чаго ж.

— У папоўскае свята?

— Дак жа за плату.

— А як за плату — дак усё можно?

Алёша зноў заверашчаў чырвоным носам.

— Зарабіць трэба.

Не пазіраючы на яго, Міканор разгладзіў складкі шыняля пад папругай.

— Усякі заработак бувае!

Як і ў гаворцы з Хонем, а яшчэ часцей з бацькамі, хоць і паказваў сябе за чалавека непахіснага, зноў пачуў Міканор з тугою, што не можа судзіць «паўсяму закону». Няпрошанае, непатрэбнае, простатакі — шкоднае ўзяло спачуванне: праўду Алёша кажа, зарабіць трэба яму!..

Ад гэтай кволасці, ад таго, што бачыў — кволасць — не сакрэт, была на шкоду справе; ад таго, што ўсё навокал было такое пераблытанае, ішло насуперак, Міканора зноў апанавала маркота. Маркотны, з нейкай тужлівай няпэўнасцю, цвёрдым камандзірскім крокам вяртаўся ён вясёлай, марознай вуліцай дахаты.

## 5

Увесь дзень перад «святым вечарам» маці шкрабла нажом стол, лавы, мыла ўсё. Ад ранку ледзь не да самага вечара не тух у печы агонь, варыла, варыла, пякла. Вячэра мусіла быць посная, але ж трэба было згатаваць нямаланямнога: дванаццаць страў!

Маці не ела ўвесь дзень і другім не давала. Міканор адрэзаў скібу хлеба, сам дастаў гуркоў і тым перабіў голад. Яна бачыла

гэта, але не сказала нічога, толькі перахрысцілася на абразы: і маці, і сын нібы загадзя бачылі марнасць спрэчак і не вельмі стараліся ўсчынаць іх.

Толькі як добра сцямнела ў хаце, унесла рэшата з сенам, паклала на покуце; паставіла наверх гаршчок з куццёю.

— Выперлася еты год цераз край! — сказала пра куццю, што распарылася ў печы. — Добры ўраджай на збожжа павінен буць!

— Дай Бог! — сказаў бацька.

З пашанай і нейкай урачыстасцю сачыў бацька, як матка слала на вымытым стале сена, як накрывала яго чыстым настольнікам, як клала бохан хлеба, нож, лыжкі, ставіла конаўку з соллю. Памыўшы ў кутку над цэбрам рукі, ён, белы, у лапцях, у зрэбных штанах, у доўгай да кален сарочцы, падпяразанай святочным паяском, пачакаў, калі падыдзе маці, і, не глянуўшы на Міканора, першы момант няёмка, стаў голасна маліцца. Міканор слухаў яго малітву спачатку, як усякую малітву, толькі болей шкадаваў тых, хто верыў у цуд і моц малення, бо цёмнымі людзьмі гэтымі былі яго матка і бацька; але калі бацька раптам з журбою памянуў дзеда Амяляна, калі ў голасе яго нешта нібы напялася, задрыжала, Міканор неспадзеўкі пачуў, што і ў ім затлела туга. Дзед Амялян, які памёр перад самай Міканоравай службай, ідучы з гумна! Дзед, які столькі ведаў казак, з якім столькі вечароў грэліся, калі Міканор малы быў, на чаране. Дзед, які зрабіў яму калісьці санкі, пра якога столькі добрага помнілася!.. А бацька называў ужо імёны нябожчыкаўдзяцей сваіх, Міканоравых братоў і сясцёр — памінаў Ілюшу, Маню, Матруну, Петрыка, Мотрыка. Ілюшу і Маню Міканор не бачыў ніколі, а Матруна ж і Петрык на вачах яго задушыліся ад гарлавой; ледзь не ў адзін дзень памерлі. Ён помніць, Петрык задыхнуўся, калі Матрунку яшчэ не занеслі на могілкі, калі яшчэ ляжала ў труне. Іх павезлі разам, палажылі ў адну яму... А Мотрык утапіўся, калі пасціў каня на ўзболатку. Хацеў пакупацца, ды як нырнуў у балотнае азярцо, дык там і астаўся. Выцяглі зпад карча толькі на другі дзень, усё не маглі знайсці. Сіні быў ён, страшны. Бедная матка, як яна білася, гаравала тады над Мотрыкам, над неспадзяванай бядою, што ўзяла дарослага ўжо сына. І колькі ж ёй, калі падумаць, давялося перажыць за ўсё жыццё, пабедаваць над дарагімі магіламі!..

У гэты момант Міканор пачуў сябе нібы вінаватым перад маткаю, не зазлаваў за тое, што ўткнула ў гаршчок з куццёю, запаліла свечачку. Як было, калі разабрацца, злаваць на яе, цёмную, сагнутую такімі бядотамі, поўную такой любові да

тых, каго адабралі ад яе хваробы ды неспадзяваныя няшчасці!.. Але ж як хітра прыплялася да чалавечага гора рэлігія, і тут не мінула пакарыстацца!

За сталом матка і бацька сядзелі, вячэралі як ніколі маўкліва, нібы чулі за сабою цені тых, хто даўно ўжо не прасіў яды. Абое, было відаць, думалі, успаміналі; бацька, перш чым браць якой стравы самому, адліваў лыжку яе ў місу, пастаўленую на акне, дзядам, нябожчыкам. Маці сядзела за сталом, толькі перастаўляла міскі, нічога не прыбірала. Вячэра здалася Міканору вельмі доўгаю і сумнаю; ён ледзь дачакаўся, калі бацька, нарэшце, паставіць на стол гаршчок з куццёю, налье салодкай вадзіцы-сыты з маку і мёду, паспытаўшы якія, можна, не крыўдзячы старых, устаць...

Калі адзяваўся, каб пахадзіць па марозным вячэрнім двары, заўважыў: непустыя міскі пасля вячэры так і асталіся на стале — каб дзядам было чаго пад’есці!

Стаяў на ганку, думаў вечную думку сваю пра цемнату людскую, пра тое, як цяпер, мабыць, хораша на замерзлай Прыпяці — лёгка, весела бягуць лыжы! Нехта, не сакрэт, як і ён, ляціць з гары, аж дух зацінае! Згадаў вясёлага таварыша свайго Івана Мароза, што паехаў аж у Мінск на курсы, — раптам зашчымела скруха: пабачыцца б, паштурхацца, пакпіць адзін з аднаго!.. Абяцаў лісты пісаць, а няма ўсё чамусьці!..

Як і не чуў гамонкі, смеху на вуліцы, нікуды ў гэты вечар не хацелася ісці. Стаяў, нібы на нявіднай варце. Прайшло некалькі постацей, дзветры вясёлыя купкі. Дзве постаці, ужо ледзь не абмінуўшы, раптам спыніліся, прыгледзеліся.

— Ці не Міканор ето? — сказала, тоячы смех, Ганна. Міканор пазнаў Чарнушкаву Ганну і ахвотна падаўся да яе. З Ганнай была Хадоська.

Ён прывітаўся.

— А я думала, ці не акалеў часам! — пакпіла Ганна. — Стаіць, як слуп пры шляху!

— Замерз! Не шкодзіло б і пагрэць, штоб було каму! — прыкметна павесялеў Міканор.

— Дак жа чарэн, мабуць, е? Ці заняты, мажа, бацькам?

— Ды не. Але мне болей даўпадобы — жывы!

— Унё! Дак пашукаў бы! Мажа, і знайшоў бы, калі не вельмі пераборлівы!

— Пераборлівы! Адны мне не падабаюцца, а другім я не даўпадобы. А трэція — дак занятыя! Адразу па два кавалеры, як стража па баках! Падступіцца няма як!

— От найшлі пра што гаварыць! — умяшалася Хадоська, тупаючы акуратнымі лапцікамі. — Лепей скажы, што табе суджано? Гадаў жа, пэўне?

— Неа. Бо і так знаю: у халасцяках хадзіць буду, пакуль не надаесць вельмі.

— І мне нічога добраго не выйшло! — сказала Ганна, знарок журачыся. — Гадалі мы з Хадоськай, цягнулі саломіны. Дак ёй выцягнулася доўгая саломіна і — з коласам! Скора замуж пойдзе і — за багатого хлопца.

— От скажаш! — засаромелася Хадоська.

— А можа ж, я выдумляю?

— Не выдумляеш, але... —Хадоська, чутна было, уся поўнілася радасцю. — Але — не трэба казаць!..

— А мне, — пакпіла над сваёй няўдачай Ганна, — нічога добраго не выйшло! Кароценечкая саломінка і пустая! І возьмуць не скоро і — удавец стары будзе! От шчасце якое!

— Удавец! — раптам засмяяўся Міканор. — Дак, ето ж добра! Ето ж ты, мабуць, выцягнула мяне! Я ж, можна сказаць, удавец. Бо ў мяне ж була... жонка!

— Була ў старца торба!

— Не, праўда, була! У Мозыры, на службе! Чорненькая, стройненькая, красівая! Вінтовачка трохлінейная!..

— Я ж і кажу: була торба!..

Хадоська, якая ўвесь час паглядвала на вуліцу, заўважыла непадалёк дзве постаці, нецярпліва пацягнула Ганну за рукаў:

— Хадзем!

Ганна таксама ўбачыла тых, што рыпелі снегам, падыходзілі, але адразу адвярнулася, папрасіла Міканора:

— Правядзі нас... Паварожым у Сарокі...

Штосьці было ў яе голасе такое шчырае, давернае, што прымусіла Міканора на момант завагацца. Міканор вытрымаў характар.

— Варажыце ўжэ адны...

Яна, было відаць, пакрыўдзілася трохі, але не сказала нічога: падышлі Яўхім з Ларывонам. Яўхім паздароўкаўся, зухавата пацікавіўся:

— Дак аб чым жа тут сакрэты?

— А аб тым, — сказала, знарок пазяхаючы, Ганна. — Час ці не час ісці спаць?.. Міканор кажа, што — час...

— Дак няхай і ідзе...

— І мяне нешто на дрымоту хіліць...

— У такі вечар! — зарагатаў, хацеў перавесці гаворку ў жарт Яўхім. Але яна жартаваць не захацела — невядома, чым

і закончылася б гэта гаворка, калі б Хадоська не пацягнула Ганну за рукаў.

— Што ты ето выдумала! Хадзем!

Хадоська ледзь не сілком павяла з сабой яе. Міканор астаўся адзін. Ужо на сваім двары пачуў ён здалёк Яўхімаў рогат, падумаў: а не вельмі ж яна да цябе хіліцца, Глушачок! Не цябе, не сакрэт, пабачыць хацела б; не цябе і — не мяне, канешне. Толькі ж — учэплівы ты, усё — думаеш — тваім быць павінна!..

## 6

Вёску нібы апанавала дрымота. Цэлымі днямі цяпер ніхто нікуды не спяшаўся, усе хадзілі павольныя, паважныя, бесклапотныя; маладзейшыя бавілі час у гаворках, старэйшыя цэлымі днямі грэліся, спалі на чаранах. Драмалі ў хлявах коні, стаялі, умярзалі ў снег сані, нават вароты і жураўлі над калодзежамі рыпелі неяк санліва, нудна...

Мабыць, ніколі не паўзлі так марудна, нецікава дні ў Міканоравым жыцці, як у гэты калядны тыдзень. Маці тоесёе рабіла па гаспадарцы, а бацька ледзь не цэлымі суткамі пасвістваў носам на печы. Злезе, крэкчучы, чухаючыся, пашаргае пасталамі па падлозе, пад’есць ды зноў на чарэн, і хоць бы што. Міканор жа чым толькі не спрабаваў запоўніць нудную калядную пустэчу — і па гаспадарцы рабіў усё за сябе і за бацьку, і газеты чытаў, перачытваў, аж цямнела ў вачах, і ўсё чуў: нуда, пустэча не адступаецца.

Мала цешылі яго і вечары, калі моладзь доўга снавала па вуліцы, галёкала, будзіла марозную цішыню смехам. Маці раіла пайсці, не нудзіцца, Хоня і Алёша прыходзілі некалькі разоў, звалі — не згадзіўся: не яго гэта свята, не яму радасць!..

К канцу тыдня Курані зноў заварушыліся. З самага ранку перад шчодрым вечарам пацягнуліся ў неба дружныя дымы, пацягнуліся і не ападалі ўжо ўвесь дзень. Не ўціхаў агонь і ў печы ў Міканоравай хаце: кіпела варыва ў чыгунах і чыгунках, цяпер ужо не поснае! — скварчэлі сала і каўбасы на скавародзе. Недарэмна мёрз у каморцы разрэзаны, разабраны, дачасна загублены кабанчык!

Недарэмна загублена было і жыта на брагу: чуў Міканор, бацька толькі і чакае, каб ён сышоў кудынебудзь, — каб разліць гарэлку з барыла, што ў склепе, па пляшках. Пляшкі, вымытыя маткаю, стаялі напагатове пад услонам.

Яшчэ добра і не ўцямнела за акном, як непадалёк пачулася песняшчадроўка. Неўзабаве танклявыя дзіцячыя галасы пішчалі ўжо каля яго вокан:

На новае лета
Нехай родзіцца жыто!..
Святы вечар!

Пажадаўшы Міканораваму бацьку — гаспадару, каб радзіла не толькі жыта, але і пшаніца, і «ўсякая пашніца», галасы пад вокнамі, на момант перапыніўшы спеў, аб нечым паспрачаўшыся, нядружна запішчалізазычылі:

Піво варыць,
Міканора жаніць!..
Святы вечар!

Бацька на гэтае пажаданне ахвотна засмяяўся, весела зірнуў на Міканора, маці, усцешаная, прытулілася тварам да незамерзлага ражочка акна, угледзелася:

— Зайчыкавы! От малайцы! Як дарослыя — разумныя!

— Сам Зайчык, не сакрэт, навучыў розуму, пасылаючы!

— А хоць і Зайчык, дак што! Усё адно — малайцы!

Дзеці зза акна ўжо раілі Міканоравым бацьку ці матцы:

Залезь на баляску,
Дастань каўбаску!
Святы вечар!
Стань на драбінку,
Дастань саланінку!
Святы вечар!

— Інструктаж палучылі — па ўсіх правілах! — пахваліў пасвойму Міканор, але не засмяяўся, ведаў: не з выгоды выпер дацямна сваіх Зайчык! Як старцаваць прыслаў, Калядамі карыстаючыся!..

Расчуленая маці, не апранаючыся, вынесла раннім спевакам добры кавалак каўбасы, акраец свежага хлеба. Але не ўправілася яна вярнуцца, не паспелі Зайчыкавы, мабыць, выйсці на вуліцу, як пад вокнамі зноў запішчалі: на гэты раз ужо суседскі малы — Валодзька з Чарнушкавым Хведзькам, — запішчалі няцвёрда, баязліва, з няпэўнай надзеяй, мусіць, першы раз у жыцці! Яны хутка збіліся, збянтэжыліся зусім і змоўклі дачасна. За імі, таксама амаль без перапынку, нібы толькі і чакалі, калі гэтыя скончаць, аказалася пад вокнамі новая чародка.

— Ето ж — Хоневы! — аб'явіла радасна матка, вярнуўшыся з двара.

Песні пад вокнамі цяпер амаль не змаўкалі, за дзецьмі неўзабаве пацягнуліся купка за купкай падлеткі, нават дарослыя, гэтыя ўжо часта не з пустымі рукамі, а са звяздою, што чырвона, варухліва адбівалася на марозных узорах, выглядвала ў ражок чыстай шыбы. Потым некалькі хлопцаў гаманліва ўваліліся ў хату разам з клубамі халоднай пары і «казою». «Каза» — нехта ў перавернутым кажусе — сагнулася, закруцілася, затупала, так смешна падкідвала нагамі, так пацешна мэкнула, тоненька, жаласна, што бацька зачухаўся ад уцехі:

— Чысто — юравіцкія козы! Што па гарэ лазяць!..

З уцехай глядзела і маці, якая адно пахвальнаківала галавой — от жа майстар! Міканор, які таксама не мог не прызнаць таленту «казы», падумаў пра бацькоў: уліплі вачыма, як бы ім спектакль, кіно прывезлі! Тут жа сам з сабою разважыў: а ці ж не спектакль для іх гэта, не кіно, калі пра тое кіно да яго, Міканора, гаворак яны і чуць не чулі нічога! І спектаклі — от куранёўскія спектаклі! Толькі ж і тут — рэлігія цемнатою людской пакарысталася!..

Якая ні ўдалая была «каза», але без прыхільнасці слухаў Міканор святую песню, што заспявалі хлопцы над ёю. Не ўтрываў, каб не пакпіць:

— Нічого ваш баран! Толькі штоб на базар завезці, дак падкарміць трэба було б!..

— Міканорко! — перапыніла яго маці.

Яна больш як каго шчодра надзяліла хлопцаў, укінула ў торбу і большы кавалак каўбас, і падсмажанага мяса, і хлеба; як ні з кім была ласкавая, як магла, старалася, каб хлопцы, не дай Бог, не панеслі з хаты ад Міканоравай кпіны якой крыўды...

На другі дзень ледзь не з самага ранку хата гаманіла гасцямі. Першыя прыбылі на санях —Вольга са сваім чалавекам, з цэлай чарадою адзетых у світкі, абкручаных, перавязаных хусткамі, змерзлых, дзікаватых дзяцей. Прывезла і самае дробнае, паклала на палаці. Не ўціхлі аханне, радасныя крыкі сустрэчы, папрокі Міканору, што не прыехаў быў у Мокуць, як Вольга з чалавекам, з бацькам і маткаю сталі выпраўляцца зноў на вуліцу, ехаць у Алешнікі на абедню. Вольга пазвала нават Міканора, але бацька сказаў коратка, значна:

— Не прызнае! Кансамолец!..

Маці кіўнула дачцэ, уздыхнула. Малыя госці, без світ, без хустак, адны — бялявыя, кірпатыя, у матку, другія — з чорнымі

неслухмянымі хібамі, як дзікія кабаняты, абліччам на бацьку — спачатку ў чужой хаце, перад чужым дзядзькам ніякавелі, ціснуліся адзін да аднаго ды азіраліся. Нібы ў палоне былі. Міканор пасарамаціў іх за нясмеласць, сказаў, што хлопцам гэта ды асабліва пагана, але ад жартаў яго ўсе надзьмуліся яшчэ больш. Заўважыўшы, што адзін са старэйшых вельмі ж глядзіць на яго будзёнаўку, зняў шапку з цвіка, надзеў яму на галаву, дадаў:

— Ты самы смелы!

Малы ад уцехі аж вылупіў чарніцы воч, так надзьмуўся. Не мінула і хвіліны, як надзець шапку захацелася другому хлопцу, а ледзь той схаваў паўгалавы ў будзёнаўцы, і абедзве дзяўчынкі таксама загарэліся — і нам дай, дзядзько, і мы смелыя. Першы ж — наравісты «кабанчык» з хібам — мірыцца з гэтым не захацеў, нецярпліва тузануў шапку да сябе. Але бялявая малая толькі мацней учапілася за яе, — быць бы бою, каб не ўмяшаўся Міканор. Дастаў дзяўчатам з чамадана кніжку з малюнкамі...

Неўзабаве Вольчына чарада — асабліва «кабанчыкі» — расхадзілася так, што скакалі і на печы, і на палацях, і пад палацямі лазілі. Міканору ўжо стрымліваць іх давялося, адабраць шынель, які сталі валачыць па падлозе. Давялося, за старэйшую бялянку, на якую больш спадзявалася Вольга, гушкаць, карміць малаком з пляшкі тую, каторая была на палацях...

Вясёлы гэта быў час, поўны гоману, добрых уражанняў, дзейнасці. І нажартаваўся Міканор, і насмяяўся, гледзячы на малых, і нарабіўся, пакуль вярнулася з царквы Вольга з бацькамі і чалавекам.

Хутка пасля таго як яны вярнуліся, гасцей у хаце стала большаць. Прыехала з Алешнікаў двое дзядзькоў з маладзіцамі, прыбіўся нейкі матчын сваяк з Хвоенкі, барадаты, шапялявы; нарэшце, прыдыбаў з другога канца Куранёў кульгавы Сямён з Насцяй, Міканоравай сястрой. Пакуль дзядзькі гаварылі з Міканорам, а жанкі растарэквалі каля прыпека, матка з Вольгай і Насцяй, а потым і з бацькам узяліся клапаціцца каля стала.

— Дак, можа, ужэ сядзем, — сказала ласкава маці. — Папробуем, чым Бог надзяліў... — Пасадзіўшы жанок, дзядзькоў, тады, як бацька стаў наліваць гарэлку, адазвала Міканора ў дальні кут, занепакоена зашаптала: — Памаўчы бо пра Бога і пра святых... Гасцей хоць не трывож...

— Пастараюся, калі сцерплю... — ні то жартам, ні то зусім сур'ёзна паабяцаў ёй Міканор.

Ён не трывожыў ні гасцей, ні маці: тут трэба было лічыцца з законамі гасціннасці, законамі, якія ён не меў ніякага права

не шанаваць; нельга ж было наганяць нядобры цень на бацькоў. Еў і піў, асабліва спачатку, усё ж без ахвоты: чуў, што нібы робіць саступку бацькам у спрэчцы зза кабанчыка і брагі; але чым больш п'янеў пад пільным прыглядам гасцей, што насядалі кожны раз, калі спрабаваў паставіць шклянку недапітай, тым слабей чуў свой папрок сабе. Потым і зусім забыў ніякавасць: і піў, і жартаваў, і галёкаў, як усе.

Сп'янелы, не адразу ўстаў і тады, калі маці, якая ўнесла з сенцаў халадзец, сказала, што на вуліцы нейкія крыкі. Толькі калі Насця і бацька выйшлі на ганак, паслухалі ды, вярнуўшыся, сказалі, што крычаць не на жарт, б'юцца, здаецца, каламі, калі прыціхлі ўсе за сталом, устаў ён, не апранаючыся, пацягнуўся з хаты. Маці выбегла ўслед, вынесла шынель, хацела накінуць на плечы, але ён не ўзяў. Надзеў толькі шапку. Трохі стаяў каля варот з гасцямі, слухаў, паволі нібы прытомнеў.

Ад сярэдзіны сяла наляталі злыя воклічы, крыкі болю, мацюкі, якія часам счапляліся ў дзікі, люты роў...

— Паламаюць камусьці рэбра!.. — сказаў доўгі алешнікавец.

Кульгавы Насцін Сямён жвава адгукнуўся:

— Тут і на той свет — нядоўга!

— От дурасць, — Вольгу, здаецца, аж закалаціла ад абурэння, — абы выпілі трохі — дак кроў пушчаць адзін аднаму!..

Міканор толькі варухнуўся, нібы скідаючы рэшткі п'янай няцямнасці, толькі ступіў крок рашуча к галасам, як маці кінулася наперад:

— Не ідзі! Міканорко, прашу!

Ён узяў яе за плечы, мякка, але цвёрда адарваў ад сябе:

— Мамо! Не мяшайце! І не бойцеся!.. Біцца не буду! Разбараню толькі!.. Чуеце, мамо?

— Адыдзі! Нічого яму не будзе! — памог Міканору бацька. Затрымаў старую.

Ужо набліжаючыся да тых, што біліся, Міканор, нібы аглядваючы сваё войска, убачыў, што з ім ідуць даўгі алешнікавец, Вольчын Пятро і борзда падскоквае са сваім кастылём Сямён. За мужчынамі як верная падмога смела рушыла Вольга і маладзіца алешнікаўца... Галава ў Міканора была цяпер зусім ясная: мароз, што сцінаў рэбры пад гімнасцёркаю, добра цверазіў, даваў дужасці. Ішоў Міканор цвёрда і рашуча.

Яшчэ не дайшлі, як шум бойкі пачаў хутка ападаць; постаці, якія толькі што бегалі, круціліся, крычалі, чамусьці дзіўна прыціхлі, сталі расступацца. Усе адыходзілі к платам, к хатам. Міканор, не разумеючы яшчэ нічога, мімаволі насцеражыўся.

Тады халодную вуліцу з цёмнымі постацямі і цёмнымі стрэхамі абапал пранізаў тонкі, жахлівы жаночы крык:

— Забілі!!!

Міканор угледзеў — на шэрым ад цемры снезе, пасярод вуліцы, чарнее нерухомая постаць, подбегам кінуўся да яе. Нахіліўся над чалавекам — бядак быў як нежывы, вочы заплюшчаны, губы сціснуты, выбіты лапцямі і ботамі снег чарнеў крывёю. Недзе глыбока і далёка ў галаве прайшла думка: хлопец — не куранёўскі, незнаёмы, — у той жа час, помнячы вайсковую навуку, ухапіўшы кісць хлапечай рукі, мацаў пальцамі, шукаў пульс — знак надзеі, нязгаслага жыцця. Знайшоў не адразу: ад хвалявання ці з непрывычкі; аж горача стала, пакуль пачуў, што пульс б'ецца. Жывы!..

— Патры снегам твар, шыю! — сказаў сястры, а сам стаў мацаць галаву хлопца. Хтосьці падышоў — некалькі чалавек, хтосьці нахіліўся каля Вольгі над хлопцам. Першы момант усе маўчалі, не маглі вымавіць слова.

Вакол усё больш мацнеў шум, цяпер ужо трывожны, шум, у якім часта можна было б чуць страшнае: «забілі». Хтосьці з жанок залямантаваў... Народу ўсё прыбывала...

— А можа, не саўсім яго?.. — пачуў Міканор нясмелае Хадосьчына пытанне; гэта яна, значыцца, была каля Вольгі.

— Галава, здаецца, цэлая... — Натоўп абступаў з усіх бакоў усё цясней, усё гаманлівей. Але і ў гэтым гомане Міканор пачуў хрыпаты стогн — хлопец на снезе цяжка варухнуўся.

— Косцічак! Дзякуй Богу!.. — вырваўся ў Хадоські ўзрадаваны шэпт. Вольга сказала, параіла Міканору:

— Трэба ў хату занесці яго...

— К нам яго! У нас у гасцях ён буў! — папрасіла Хадоська і зноў забедавала: — Божачко ж, Божа! Ето ж трэба!..

Утрох — Міканор, Хоня і НібытоІгнат — узялі хлопца пад пахі, за ногі, паднялі. Калі неслі, Хоня пакрыкваў на людзей, каб расступіліся, людзі прапускалі іх, але не адставалі, гаманліва цягнуліся ўслед да самай Ігнатавай хаты. У гомане, Міканор чуў, адны вінавацілі Ларывона — ён, казалі, пачаў усё, другія вінавацілі ўсіх: усе былі добрыя, трэція — нехта з жанок — клялі гарэлку. Дзіўна, сярод гэтай гамонкі разы два згадвалі Ганну...

Багата хто з натоўпу пацягнуўся і ў Ігнатаву хату. Набілася столькі, што цяжка было павярнуцца, глядзелі, гаманілі, чакалі. Ігнаціха ціха, стрымана галасіла, Хадоська, дастаючы па Міканараваму загаду чыстую латку, бэжкала.

Міканор агледзеў яшчэ раз галаву хлопца, папрасіў чыстай гарэлкі — узяўся прамываць рану. Але толькі пачаў, як хлопец скрывіўся ад болю, расплюшчыў вочы. Момант ён глядзеў, нібы не цямячы нічога, нібы стараючыся зразумець, павёў позіркам па Міканору, па тых, хто стаяў побач. Ігнаціха, Хадоська радасна загаманілі, весялейшы гоман пайшоў і па ўсёй хаце...

Калі Міканор перавязаў рану Хадосьчынай латкай, Хоня параіў даць хлопцу гарэлкі. Ён сам наліў, падаў Міканору; але толькі Міканор паднёс шклянку да рота хлопца, той моцна сціснуў губы. Міканор здзіўлена глянуў у вочы хлопца і сумеўся — такая крыўда і такая нянавісць была на твары ў таго.

— Ссволачы!.. — пачулі раптам усе, хто быў блізка. — Гады вы!..

Ужо вяртаючыся дамоў, Міканор даведаўся ад Хоні, што хлопец — з Глінішчаў, што яму вельмі даспадобы Ганна, зза яе яго, мабыць, і пабілі — Яўхім тут пастараўся, не інакш.

— Іх тут трое, з Глінішчаў. Дак дурань еты, Ларывон, адзін не палез, а падгаварыў шчэ на помач. Ну, а — п’яныя ўсе, рады старацца!.. Папробуваць сілу на чужом чалавеку!.. А як пачалі, дак як падурнелі — раз’ятрыло шчэ болей! Я хацеў памагці проціў Ларывона, сунуўся таксамо!.. Ну, далейболей!.. — Хоня сказаў раптам весела: — Усётакі я пераламаў дручок на яго галаве! Мацае, мабуць, Бугай, добры гузак!..

Доўга не спаў Міканор у гэту ноч. Круціўся, шамацеў саломаю, пасланай на падлозе, побач з Вольчыным чалавекам, з хвоенцам, з адным алешнікаўцам. Чуў, як Алёша з гармонікам прайшоў: абарваўшы полечку, ударыў «Марш Будзённага», некалькі маладых галасоў хвацка падхапілі:

Кар’ерам, кар’ерам — давай, давай, давай!
Рота кулямётная, ў баю не адставай!..

Радасць прайшла ў душы, калі пачуў дарагі марш, — спадабалася, палюбілася Кураням песня! Але радасць сышла скора: думкі апаноўвалі клопатныя, неспакойныя. Зноў і зноў згадвалася, як хлопец у Ігнатавай хаце сказаў: «Сволачы! Гады!..», не цярпелася пагаварыць пра ўсё з Шабетам і Дубадзелам — перадаць у суд, каб прыпаялі камунікаму! Каб другія каламі махаць закаяліся, каб кончыць дзікасць гэту — бойкі!

«От дзе яно, балото другое, шчэ, мабуць, горшае за тое, — паплыла невясёлая развага. — Тут міліцыю сваю рабіць, можа, шчэ цяжэй!..» Пад п’янае храпенне і мармытанне дзядзькоў побач — не першы раз за гэтыя дні — падумаўпамарыў: «Асветы, газет паболей бы! Кіно б сюды!.. Іншы звон буў бы!..» Тачылі

думкі пра сваю вінаватасць: няма ў яго цвёрдасці, жаллівы аж вельмі — увесь у матку! Але гэтым думкам запярэчылі іншыя: жаллівы не жаллівы, а і напралом лезці — не метад, калі ўсё так пераблыталася, сплялося, урасло!.. Строгі суддзя ўсярэдзіне, што ніяк не хацеў спаць, не мог утрываць, каб не ўпікнуць: сплялосято сплялося, а характар усёткі — мяккаваты! Не сакрэт, піць на рэлігійныя святы ў другі раз не трэба!.. Пабачыў бы камісар Курбацкі, як ты за сталом сядзеў, які быў! Як ты надзею яго на цябе спраўдзіў!..

Ад гэтага, напэўна, найбольш і пякла вінаватасць. Як бы камісар, хлопцы — Мароз, Кісель, усе таварышы па службе — былі поруч, чулі, — кляўся: усётакі вы не думайце нічога паганага! Хоць і саступаю я дзенідзе — зза тактыкі і па другіх прычынах — з жаласці, не сакрэт — сораму не зраблю вам! Не скрыўлю камсамольскую нашу лінію, можаце не сумнявацца!..

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Глядзелі, як асядае, чарнее, вадзяніцца снег, як цурчаць, пераліваюцца сонечнымі зайчыкамі ручаіны, як паруе, сохне пахучая красавіцкая зямля. Хадзілі да знямогі за плугам, чуючы пад босымі нагамі сыраватую мяккасць растрывожанай зямлі. Аралі, баранавалі, сеялі...

Як і ўсе, з ранку да вечара быў у полі Міканор. Араў, сеяў, як усе, але думка пра грэблю не давала спакою яму нават у гэтыя дні. Чакаў Міканор, калі падступіць тая часінка, у якую можна будзе адарваць куранёўцаў ад поля, прывесці на грэблю, часінка зацішку пасля таго, як пасеюць і да таго, як пачнецца сенакос.

Чакаў нецярпліва. Не раз, не два хадзіў на ўзболатак, ад якога павінна была пачынацца грэбля, стаяў, узіраўся ў халоднае шырокае разводдзе, з якога адно вылазілі чорныя дзеркачы кустоў, чэзлых бярозак і алешынак. Вада, што разлівалася аж да самай выспы, на якой віднеліся зза хмызняку некалькі крайніх алешніцкіх хат, хавала не толькі балота, але і амаль усю дарогу разам з мастком. Першымі днямі здавалася, што разводдзе не спадае зусім і, можа быць, утрымаецца не толькі ўвесну, але, як бывала іншы год, дастаіць да сярэдзіны лета. Многа дзён сышло, пакуль не ўбачыў, як пачалі выглядваць на пацяплелай, поўнай сонца, люстранасці першыя купіны, вясёлыя, сакавітазялёныя грыўкі травіцы на іх.

Дзень за днём на сонечнай вадзе купін вылазіла больш. То тут, то там выбіраліся грэцца на паверхню ўжо цэлыя астраўкі. І ўсюды, на кожнай купінцы, на кожным астраўку, проста на вадзе — зялёная радасць. Зелянела асака, зелянела лаза, усё гусцей зелянелі алешнікі.

Сыходзіла вада і з дарогі, але адступала неахвотна — пакідала ўсюды равы і ямы з лужынамі, чорную ліпучую гразь, што ніяк не хацела падсыхаць. Нельга было і думаць, каб пераехаць ці нават перабрацца пешкі. Са смуткам і нецярплівасцю пазіраў Міканор на такую нібы недалёкую, але недасяжную выспу, на якой былі Алешнікі. Ужо трэці месяц ні адтуль не прыходзіў ніхто, ні туды ніхто не дабіраўся. Трэці месяц не чутно было нічога з сельсавета, з валасці, не было газет...

Пасля паўдня цёплым майскім днём Міканор наважыўся дабрацца да жаданай выспы. Выпраўляючыся з хаты, узяў даўно ўжо не ношаныя салдацкія чаравікі з абмоткамі: нядобра ж было паказвацца ў чужым сяле, як дома, у лапцях. Чаравікаў, аднак, не надзеў, — звязаўшы шнуркі, перакінуў цераз плячо, праз свае Курані, па даволі падсохлай дарозе пайшоў басанож.

Ішоў весела і лёгка, толькі перад балотам спыніўся, выбраў з кучы галля, складзенага зімой, добры, моцны дручок, зламаў верх і абламаў сучкі. Удваіх з гэтым спадарожнікам, які павінен быў памагаць мацаць глыбіню гразі і лужын, а дзе трэба, і стаць апірышчам, Міканор смела рушыў на балота.

Гразь, дзе было яе неглыбока, ужо ўгрэлася, але, калі ногі ўязджалі па калені ці глыбей, костачкі нылі ад холаду. Міканор як бы і не заўважаў гэтага холаду — душа была поўная клопату: дарога ўвесь час запыняла, ашуквала. Што ні крок, то загадка — сачы, мерай, выбірай, не хіб. У некалькіх месцах дарога была ўпоравень з дрыгвою, твань і рудая вада падступалі так высока пад грудзі, што ўсярэдзіне халадзела.

Вымак і ўтаміўся, пакуль дабраўся да мастка. Калі стаў на мастку аддыхацца, здзіўлена азірнуўся — столькі фарбаў было ў гэтым бліскучым дні: у бляску азёрцаў на балоце, у зяляніне травы і асакі, у россыпе красак. Колькі ж іх, красак, жаўцела ўсюды, аж вочы сляпіла, як ад сонца.

Бярвенні на мастку былі цёплыя, гразь на іх падсохла, і зямля сыпалася ў шчыліны. Ужо напалову струхлелыя дрэвы ляжалі нетрывала, ездзілі пад нагамі. Адно бервяно было праламана, і край яго вісеў над вадою. Міканор бачыў: вада не цурчала, стаяла — цячы не было куды. Разводдзе даўно ўсталявалася роўна...

Ён агледзеў сваю вопратку: штаны і нават ніз гімнасцёркі былі аблеплены тванню. «Мыць трэба будзе і сушыцца», — заклапочана падумаў ён і зноў палез у балота.

Перабраўшыся на другі бок, Міканор падступіўся к лужыне, змыў гразь, выціснуў ваду, сеў абсушыцца. Але сядзеў нядоўга, карцела хутчэй пайсці ў сяло. Не абсохшы як след, стаў абуваць чаравікі, накручваць абмоткі. «Пакуль дайду, якраз высахну!..»

2

Спачатку зайшоў у хату, дзе жыў Гайліс, сакратар ячэйкі. Не застаў — на двары адно грэлася слепаватая старая, якая злосна буркнула: «У полі». Міканор і без слоў ведаў, чаму яна злуе: нядзеля, Божы дзень, грэх рабіць. Міканор пайшоў к сельсавету.

Сельсавет размяшчаўся ў былым папоўскім доме, што стаяў сярод ладнага садку. Побач з сельсаветам была крама, а за садам, акружаная бярозкамі і клёнамі, — алешніцкая цэркаўка. Прысады да цэркаўкі ішлі паўз самы цяперашні сельсавецкі дом, які стаяў як бы на дарозе веруючых, што густа цяклі ў царкву святочнымі днямі.

Па другі бок вуліцы, таксама сярод саду, стаяў яшчэ будынак, накрыты гонтай, з пабеленымі аканіцамі — школа. Калі дадаць, што ў сельсавецкім доме, акрамя самога сельсавета, які займаў два пакоі, у бакоўцы мясцілася такая важная ўстанова, як пошта, то можна сказаць, што тут быў самы цэнтр і сяла і ўсіх сёл, якія падпарадкоўваліся сельсавету.

Дружны лад новых устаноў, што сабраліся тут на невялікім пляцы зямлі, вядома, псавала старая цэркаўка, але з яе суседствам даводзілася мірыцца як з нежаданай, але неадхільнай спадчынай...

У гэтым цэнтры неўзабаве і ішоў Міканор. Крама, на якой яшчэ чырванеў першамайскі лозунг, была адчынена. Каля крамы, як звычайна ў нядзелю, тоўпілася нямала святочнага народу.

Людзі стаялі, гаманілі і каля сельсавета. Пазнаўшы куранёўца, спынілі, сталі распытваць, якая дарога ў Курані, што ў іх чуваць, як жывуць сваякі, знаёмыя. У будынку сакратар сельсавета і стары паштар ігралі ў шашкі. Абодва так былі гэтым захоплены, што, адказаўшы на прывітанне, і не зірнулі на Міканора.

Толькі дагуляўшы партыю і пасадзіўшы сакратара ў «адхожае месца», без меры шчаслівы, урачысты стары дастаў

Міканоравы газеты — цэлы стус «Беларускай вёскі». Многія лісты газеты аж пажоўклі ад даўнасці. Стары намерыўся быў пайсці да сакратара, што зноў расставіў шашкі, але ўспомніў, пакорпаўся ў століку, падаў Міканору пісьмо.

— Два месяцы з гакам чакалас, — сказаў ён, з асалодай кіруючы да шашак.

Міканор паклаў газеты на канапу, разгарнуў трохкутнік. «Пісьмо ад былога твайго суседа па ложку і аддзялённага, а цяпер курсанта Івана Мароза», — не прачытаў, а пачуў, здаецца, ён вясёлы голас свайго таварыша. І нібы зноў вярнуўся ў казарму, дзе побач галава к галаве спалі на нарах іх аддзяленні, дзе столькі разоў разам ускоквалі, завіхаліся на знак начной «трывогі». Зноў нібы пачуў павеў вольнага ветру на мазырскіх кручах, рып дошак на мосце пад нястройным крокам аддзялення, цурчанне пяску, што асыпаўся ў мелкія акопчыкі між лазняку ля Прыпяці...

«У першых радках майго пісьма, —гаварыў Іван, — спяшаюся паведаміць табе, што я, не сакрэт, канчаю курсы і скора паеду на новую сваю работу, а куды — гэта ўжо сакрэт...» Міканор нібы пабачыў гарэзную Іванаву ўсмешачку — і тут, прычэпа, не ўтрываў, каб не пакпіць з любімага Міканоравага слоўца! І не забыў пра гэта слоўца, помніць!

З радасцю сустрэчы з таварышам няпрошаная, кволая заныла зайздрасць: цікавая праца будзе ў Івана. Некалькімі радкамі ніжэй таварыш, як бы незнарок, намякнуў, што будзе служыць на граніцы. І ён, Міканор, мог бы з ім быць, і яму ж казалі ісці на тыя курсы. Ды ён не згадзіўся — снілася, звала дамоўка...

Яшчэ раз сум і зайздрасць варухнуліся, калі ў канцы кароценькага пісьма прачытаў: «Ледзь не забыў! Прывітанне табе ад Кісяля! Нядаўна прыслаў вестку — таксама дома заварочвае. Камуну арганізаваў!.. От табе і Кісель!»

«Камуну... А тут — і з грэбляй ніяк не дасі рады!» — папракнула Міканора думка.

Вуліца пачала стракацець белымі, чырвонымі, блакітнымі кофтамі і хусткамі, хлапечымі сарочкамі і світкамі. Людзі ўсё выходзілі і выходзілі зза хаты. Нізалася мірная гамонка старых, гаспадароў, вясёлы гаварок моладзі. Ва ўсім чуўся спакой святочнага дня і радасць волі: мабыць, кончылася царкоўная служба.

Міканор успомніў бацькаў наказ — паглядзець, ці не прадаюць кос, — і ўжо намерыўся падацца ў краму, калі к дому ціха падкаціла тачанка з Апейкам. Апейка кіраваў сам, вітаўся

з людзьмі, што здароўкаліся з ім і кланяліся. Каля плота, калі ён стаў прывязваць каня, некалькі чалавек акружылі яго, пачалі аб нечым раіцца, распытваць. Міканор пастаяў поблізу, але Апейку было не да яго, і ён сеў на парозе пачакаць, калі старшыню адпусцяць.

— А! Якраз дарэчы! — узрадаваўся Апейка, убачыўшы Міканора. — Успамінаў ужо, думаў, як бы дабрацца1 Толькі як дабярэшся? Аэрапланам хіба, дык не далі! — Ён загаварыў клопатна: — Болей за паўволасці адарвана.. Кіраванне, называецца!.. Ну, што ў вас? Сяўбу скончылі?

— Пасеялі.

— Настрой які ў людзей? Чутак ніякіх не ходзіць, страшных? Пра вайну, пра чарцей балотных?

— Ды не, ціхо. Іншы раз хіба Маслака прыпомняць, матка якая сына пастрашыць. А так — ціхо.

— Спакойна. Гэта добра. Пара і вашым к спакою прывыкнуць. За грэблю калі возьмешся?

— Дак от думаю цяпер.

— Самы час. Бярыся, не валаводзься попусту. Упусціш момант — не сабярэш нікога.

— Дак от, кеб Алешнікі не запазніліся.. Кеб у адзін дзень. Зразу з абодвух бакоў.

— Абяцалі, што не падвядуць. Ну, але калі такі неспакой у цябе, сам пасачу, каб не спазніліся... Жалезнякі і сякеры атрымаў?

— Дак дзе там! Першы раз чую, што яны е. Нікога ж шчэ не бачыў... — Было, відаць, што Міканора вельмі ўзрадавала гэта навіна.

— Рабочыя з Рэчыцы прыслалі... Трэба будзе падмога якая ад мяне — прыязджай у любы час! Чым магу — памагу!

— Хіба калі папужаць каго трэба будзе, налегці.

— А ты не сілаю, а свядомасцю старайся браць. Актывістаў арганізуй, каб памаглі. Падбяры групу талковых, сумленных, пагавары шчыра. Паднімі іх над балотнай тванню, выведзі з царства затхласці, пакажы — што навокал робіцца, што наперадзе будзе! Ты ж бачыў многа сам, ведаеш нямала! Зацікаў жа другіх, запалі іх!

— Спробуваў.

— І што? Не паддаюцца? — вочы Апейкі кальнулі.

— Туго. Нецікаўны нейкі народ у нас. Цёмны, ведамо...

— Усе цёмныя, пакуль не станучь светлымі. Працаваць нам трэба з імі, паленінску — цярпліва, з верай у іх, з любоўю!

З ленінскай любоўю! Не адчайвацца адразу, працы тут не на дзень і не на год!

Падбег зачырванелы Дубадзел. Апейка загаварыў да яго:

— От тут Міканор збіраецца брацца за грэблю і непакоіцца, каб не падвялі Алешнікі.

— Выйдуць усе. Як адзін, — пакляўся Дубадзел, зірнуўшы на Міканора так, нібы той абразіў яго.

Неўзабаве Апейка з Дубадзелам падаліся ў сельсавет, а Міканор, развітаўшыся з абодвума, пайшоў у краму. Яшчэ перад крамай яго зноў спынілі, падступілі з роспытамі пра дарогу, пра куранёўскія навіны. У краму ледзь уціснуўся. У духаце, перамешанай з пахамі дзёгцю, газы, поту, калыхалася святочная гаворка, вісеў тытунёвы дым. Пакуль Міканор праціснуўся к прылаўку, і сам узмакрэў, хоць выкруці сарочку.

Кос не было. Дзядзькі, падхапіўшы Міканорава пытанне, сталі лаяць кааперацыю — што за крама, калі ў ёй касы перад касавіцай не дастаць, — здзіўляцца Нохіму, у якога заўсёды ўсё ёсць, няхай сабе даражэй, але затое без паю. Крамнік, дробны, касавокі дзядзька, відаць, даўно прывыклы да такіх размоў, толькі галавой весела пакручваў: от ахвота часаць языкі без толку...

Купіўшы запалак, кніжачку «Што трэба зрабіць, каб добра расло жыта», Міканор зноў выбраўся на волю, на сонца. Зноў пакіраваў к дому, дзе жыў Гайліс; нельга ж было пайсці з сяла, не пабачыўшыся з ім. Калі ён і цяпер у полі, то прыйдзецца папытацца ў старой злюкі дарогу і падацца туды...

Але Гайліс быў ужо дома, толькі што выпраг каня з калёс, на якіх ляжаў плуг. Хударлявы, доўгі, з сухім, вуглаватым тварам і чубком жоўтых валасоў, ён адразу пайшоў насустрач, трохі пакульгваючы, але разам з тым павайсковаму зграбна. Сінія вочы глядзелі мякка і нават нібы сарамяжа, а поціск рукі быў дужы, рашучы.

— Даўно ўжэ не было! — засмяяўся ён вачыма.

Гаварыў Гайліс з акцэнтам. Словы, якія ён толькі што сказаў Міканору, выйшлі ў яго так: «Тафно фжэ не было». Куранёвец ведаў, што з Гайлісавай гаворкі нямала хто падсмейваўся, але Міканор нібы і не заўважыў акцэнту, такую павагу ў яго выклікаў дзіўны латыш, які браў мяцежны Кранштат і бачыў блізка Леніна...

— Сядай, — запрасіў Гайліс. Яны селі на бервяно каля хлява. Гайліс зноў пяшчотна засмяяўся: — Даўно ўжэ не былё! Тры месяцы?

— Тры...

— Даўно. Бірук у лесе! А мы тут, брат, такія справы заварочваем! Папершае, у Алешніках і Глінішчах — машынныя таварыствы. У Алешніках — яшчэ і малочнае! — Дзіцячай радасцю сінелі добрыя вочы.

Міканора гэта таксама радавала. Але, як і тады, калі ў Марозавым пісьме чытаў пра Кісялёву ўдачу, да радасці прымяшалася зайздрасць, смутак: зноў нібы пачуў дакор сабе.

— Клуб стаў клубам. Кожны вечар адчынены. Бібліятэка. Гурткі: агранамічны, антырэлігійны, драматычны. Падрыхтавалі смешны спектакль. Называецца «Прымакі». Напісаў Янка Купала. Вельмі смешная штука — людзі жываты папарвалі! Мы этот спектакль вазілі паказваць у Глінішчы і Княжыцу. Таксама — смеху было!

— К нам бы прыехалі!..

— Прыехалі б. Дык, д’ябал яго знает, як дабрацца! Артысты могуць патапіцца! Наогул, брат, твае Курані мне — як зуб баліць. Вельмі баліць. Як скула. У кааперацыю палавіна не ўступіла!

Калі гаворка пайшла пра грэблю, з хаты выйшла дужая, лагодная маладзіца з поўнымі голымі рукамі, паклікала абедаць. Міканор, хоць бачыў яе не ўпершыню, чуў сябе трохі няёмка: не ведаў добра дасюль, кім яна была Гайлісу, гэтая прынадная ўдавіцасалдатка, што прытуліла бяздомнага, добрага латыша. Жонка не жонка, усе навокал гаварылі, што вяселле не гулялі, а вось жа — цяжарная, праз месяцдругі народзіць...

Дзіўнае было іх жыццё, дзіўнае і знаёмства. Толькі адзін вечар пабыў у ЛюбыХарытоніхі ўзводны Гайліс, калі гналі за Прыпяць банду Балаховіча, але і праз год сярод усіх сваіх ваенных дарог не забыў сцежкі да яе хаты. Вярнуўся, асеў каля ўдавіцы...

Хаця — куды ж падацца было яму, маладому, адзінокаму, калі родны кут застаўся недзе там, па другі бок мяжы...

Гайліс запрасіў і Міканора паабедаць. Але Міканор сказаў, што няма калі, — трэба дабірацца назад, пакуль светла. Дамовіўшыся аб усім, што датычыла пачатку работы пры грэблі, ён ускінуў на плечы дзве важкія нізкі сякер і жалезнякоў, якія Гайліс вынес з сенцаў.

— Ето груз! Як пакаўзнешся ў ваду — зразу на дно! — засмяяўся Міканор. Праз хвіліну, згорблены, ён тупаў ужо к балоту.

3

Заходзіў на двары, у хаты, у хлявы, на прыгуменні — дзе каго мог пабачыць, — загадваў заўтра ісці рабіць грэблю. Побач пакорліва цягнуўся Грыбок, то падтрымліваў нясмелым «аге», то зусім маўчаў.

Прыйшлося зноў Міканору не аднаго ўгаворваць, не з адным нават лаяцца. Нібы і не было ніякага сходу, ніякай пастановы — хоць ты пачынай усё спачатку. Праўда, Чарнушка, да якога Міканор з Грыбком збочылі найперш, сам слова не сказаў супроць, але затое жонка яго так накінулася, кленучы і балота, і грэблю, і сход дурны, што Міканор выйшаў з хаты, не даслухаўшы ўсяго.

Васіль Дзяцел на Міканораў загад нездаволена засоп, адвёў вочы ўбок:

— Тут са сваім няўпраўка... І без таго, як шкурат, круцішся...

— Пазней горай будзе адарвацца на грэблю.

— Горайто горай... Да і цяпер...

Іван Зайчык сустрэў весела, ахвотна сказаў, што прыйдзе, — калі толькі Міканор з Грыбком пачастуюць гарэлкай.

— Пастаў, Міканорко, бочку гарэлкі, дак не тое што я — усе прыпусцяць навыперадкі! Ейбогу, Міканорко, прыляцяць, от пабачыш! Толькі скажы, і прыляцяць!.. Можно, канешне, тую гарэлку і не везці, а толькі паабяцаць — будзе, маўляў! А потым, як сабяруцца, скажаш — няма!.. Вот смеху будзе!

Ларывон, якому трэба было прыехаць з канём, заявіў нарадрэз:

— Што я — гарбаты? Другія — без коней, а мне дак каня губіць!..

— Прыходзь без каня! — ускіпеў Міканор. — У балота палезеш, канаву капаць!

Здавалася, пасля ўсіх гэтых спрэчак, усёй прыкрасці такім прыемным павінна было б прыйсціся ветлівае абыходжанне Глушака, які не толькі сказаў адразу, што абавязкова прышле Яўхіма з канём, але нават пахваліў, што добрую справу ўзяліся рабіць. Хоць таксама ж ветліва, без лішняй гаворкі, правёў Глушак іх за вароты, у Міканора было такое адчуванне, як бы даткнуўся да чагосьці слізкага, халоднага.

Усё сяло абышоў Міканор, ні аднаго двара не мінуў. Вяртаўся дахаты ўжо ў добрых поцемках, стомлена, узрушана думаў: зноў столькі прыйшлося ўгаворваць, упрошваць, дакараць — нібы гэта грэбля не ўсім, а яму аднаму трэба.

«Вот жа людзі! Што б ні сказаў зрабіць — усё насуперак. Як бы бяду якую ім рыхтуеш...»

Раніцай, ледзь у расхрыстанай зрэбнай сарочцы, басаногі, выйшаў на ганак, — кінуў вачыма навокал, прыслухаўся: збіраюцца на грэблю ці не збіраюцца? Убачыў за плотам Васіля, які паіў з жолаба каня, па халаднаватай, роснай траве падышоў да хлопца, паздароўкаўся.

— На грэблю сабіраешся?

Васіль адвёў вочы ўбок, буркнуў, як адмахнуўся:

— Пойдзе нехто...

— Чаго ето — нехто?

— Ну, мабуць, дзед пойдзе.

— Чаму — дзед? А ты?

— А мне тут работы — па горло.

— Усім дома работы багато. Не сакрэт. Дак калі кожны будзе дзядоў ды баб пасылаць, а сам дома сядзець — вот грэблю зробім!

— А тут ты за мяне рабіць будзеш?

— І тут, і там ніхто за цябе рабіць не будзе! — Міканор загаварыў грозна, загадна: — Тут — як сабе хочаш рабі: хоць дзеду, хоць Валодзьку паручай, а на грэблі — кеб буў сам!

Міканор павярнуўся і злосна, цвёрда пакрочыў дахаты. «От жа — натура: так і глядзіць, кеб збоку пераседзець! — ледзь не лаяўся ён думаючы. — Аж калоціцца, кеб не перарабіць за другога! Малако шчэ матчынае не абсохло на губах, а ўжэ за ўсіх хітрэй буць хоча! — Не першы раз успомніў вайсковую службу: — Папаўся б ты мне там такі! Я цябе б — не сакрэт — умэнт чалавекам зрабіў бы!»

Нічога, нічога, дайце час — ён, Міканор, і тут кагонікаго палюдску рабіць навучыць!

На грэблю выехаў удвух з бацькам не вельмі рана, каб адразу ўслед пацягнуліся і іншыя. Але праз тыя паўсяла, што ехаў вуліцаю, давялося ехаць адным, ніхто не далучыўся ні на калёсах, ні пешкі. Так адны і выехалі ў поле. Усё ж не трывожыўся — бачыў, што людзі збіраюцца, раней ці пазней падыдуць. Душу поўніла святочная радасць: вось ён, той даўно чаканы дзень!

Дзень выдаўся як на заказ. На лагодным, агромністым прасторы неба не было ні адной хмурынкі, толькі зіхацела вясёлае, іскрыстае сонца. Агароды, куп’істы выган, на якім Чарнушкавых Хведзька сцярог аблавухую свінню, ціхія зараснікі за сажалкаю, поле, што выходзіла зза зараснікаў, — усё радасна, святочна праменілася, нібы таксама ведала, які сёння ранак.

Усёткі, чым бліжэй пад’язджаў да грэблі, чым далей, азіраючыся на хаты, не бачыў нікога следам, настрой хмурнеў. Калі ж праехаў цагельню і спыніў каня на ўзболатку, пачуў сябе зусім ніякавата. Камандзір без войска!

Праўда, на другім баку, дзе віднеліся на выспе алешніцкія стрэхі, таксама не было ні душы. Нават Гайліс яшчэ недзе збіраўся. Міканор заўважыў, што над тванню, над іржавай балотнай вадзіцай яшчэ дыміцца пара. Паспрабаваў супакоіць сябе: рана выкаціўся...

Каб не траціць попусту час, ён паслаў бацьку вазіць пясок, а сам стаў размячаць пачатак грэблі. Паставіў некалькі вешак, пралажыў канаўкі, згадаўшы, што такія канаўкі рабіў летась, калі паказваў, як капаць акопы. За гэтым заняткам ён і ўбачыў дзве постаці, што ішлі к грэблі, аб нечым гамонячы. Зводдалек пазнаў Сароку і Зайчыка.

Каля Міканора Сарока як бы схамянулася, агледзелася.

— Бегла, баялася — кеб не спазніцца, а прыбегла — адна мая спадніца!

— Спадніца — адна, а штаноў — трое! — паспрабаваў падтрымаць яе жарт Зайчык.

— І спадніца адна, і штаноў мала — нешта Кураніі заспалі!

Слухаючы яе вясёлую гамонку з прымаўкамі, Міканор заўважыў: каля цагельні паявіліся яшчэ калёсы. Ужо калі яны былі блізка і Міканор добра бачыў, што едзе Чарнушка з дачкою, зза цагельні выплішчылася яшчэ постаць з жалезняком. Міканор яшчэ здалёк разгледзеў: Хоня ідзе.

— Пакуль парадак у табары сваім навёў, — загаварыў Хоня, як заўсёды жвава, бадзёра, — думаў, спазнюся саўсім! Вочы пазычаць, баяўся, прыйдзецца! Аж не — хоць ты задавацца пачні, — ледзь не першы!

— Калі б так у арміі цягнуліся, дак камандзір так на цыгундар узяў бы, што не рады былі б! — сказаў Міканор.

— А ты б і тут узяў бы, а! — параіў Зайчык. — Даў аднаму штрап, другога — у кутузку! Забегалі б, нябойся!

— Хто забегаў бы, а каго не вельміто і падагнаў бы! — разважліва прамовіў Хоня. — Вучоныя ўсе! Воля, знаюць!

— Дзісцыпліны трохі — не пагано б, не сакрэт, — сказаў Міканор.

Курылі, гаманілі, то пазіралі ў бок цагельні, ад якой паўзлі яшчэ калёсы ды ішлі, хісталіся ў хадзе некалькі постацей дзядзькоў, то аглядваліся на той бераг, дзе збіраліся алешнікаўцы: там таксама людзей было нягуста.

— А сонца, бач ты, прыпякае! Высоко ж узлезло!

— Хто мяне выпер са двара ні свет ні зара! — пашкадавала Сарока. — Шчэ б магла і свінням зварыць, і тоесёе другое зрабіць!

— Усяго не пераробіце, цётка Аўдоцця!

— Тоесёе шчэ б ухапіла, чым тут тырчаць няміла!

— А вы б падрамалі, як каторыя, — адазвалася са смехам Ганна, зірнуўшы на некалькіх дзядзькоў, што разлегліся ў траве.

Хоць сабралася людзей пакуль небагата, Міканор адчуў: нельга болей марнавацца. Хто прыйшоў, з тым і пачынаць трэба. Няхай прывыкаюць да парадку: і тыя, хто тут ужо, і тыя, якія прыйдуць. Будуць ведаць, як пазніцца.

— Ну што ж, валаводзіцца няма калі! — як бы ажыў Міканор. Нуда чакання адразу адступіла. — Пачнём! — Ён зірнуў на Чарнушку і на бацьку, які прывёз і ссыпаў воз зямлі: — Вы, дзядзько, і вы, тато, будзеце вазіць землю... Цётка Аўдоцця, вам — капаць зямлю і накідаць на вазы. — Міканор не даў ёй слова сказаць, павярнуўся к Андрэю Рудому. — Вы, дзядзько Андрэй, — Міканор глянуў на барадатага Пракопа, — будзеце з дзядзькам Пракопам, дзядзькам Іванам і Васілём масціць грэблю. — Міканор спаткаўся вачыма з Ганнай, улавіў кпінку: бач, як раскамандаваўся! Выгляду не падаў, што зніякавеў трохі, прамовіў цвёрда: — Ганна і Хадоська будуць вам памагаць!

Міканор мелькам заўважыў, што бацька не едзе, раўніва сочыць за ім, як бы баіцца, што ён, Міканор, у чымнебудзь памыліцца, ці не ўпэўнен, што паслухаюцца яго. І разам з тым — збоку відаць — ззяе шчасцем: бачыць сына на чале столькіх людзей — усіх, лічы, Куранёў!

Міканор паказаў на дзве вялікія вехі, пастаўленыя яшчэ зімой, на радкі дробных вешак, якія ўткнуў толькі што.

— От так, ушыркі. Тут — пасярэдзіне — грэбля. Тут — па баках — канавы, штоб вада сцякала... — Ён угледзеўся ў другі бераг. — Там, на тым баку, відно вешкі. Відно? Там — канец грэблі. Туды трэба весці грэблю. Роўна, як штык! Ясно?

Міканор і сам адчуў, што на долю яго выпала не абыякая роля. Гэтае адчуванне было ў ім не ўпершыню, было яно і на сходзе, калі яго назначылі, і потым, калі думаў пра грэблю; але цяпер справа, якую раней толькі ўяўляў, станавілася ўжо дзеяннем не аднаго яго, а многіх людзей, і важнасць гэтай ролі як бы вырастала. Не на каго іншага, а на яго, Міканора, глядзелі людзі, чакалі загаду, куды ісці, што рабіць; ад яго залежала размеркаваць, паставіць усіх так, каб работа пайшла добра,

суладна. І няхай тут небагата сабралася, але ж не адзін тут такі, што ў бацькі яму годны гадамі, і камандаваць усімі, што ні кажы, цяжэй, чым аддзяленнем, якое б яно ні было...

За службу пабачыў Міканор, што свет навокал вялікі, але ў гэтым свеце не было для яго нічога большага, як гэтая купка людзей, як грэбля, якую яму належала пракласці цераз балота.

— Ну от, — сказаў ён строга, як бы паказваючы, што загады, якія ён толькі што даў, ёсць не што іншае, як загады. — Астатнім — капаць канавы!

Ён адмераў кожнаму дзялянку, не вагаючыся, не закасваючы штаноў, як бы кідаючыся ў атаку, рынуўся ў рудую з прозеленню твань — уехаў аж па грудзі. Чуючы, як мякка і цёпла ахінула цела балотная гушча, Міканор амаль без націску ўсадзіў у твань рыдлёўку, узняў на ёй бліскучую аладку, з якой весела цурчала вада, шмякнуў наводмаш. У ямцы, толькі што зробленай рыдлёўкай, было ўжо ледзь не даверху вады. Міканор зноў уваткнуў рыдлёўку, побач ямкі, зноў узняў аладку твані, кінуў цераз плячо.

Хутка ўжо не адна, а дзесятак рыдлёвак ускідваліся, пляскалі мокрым цестам твані. Міканор чуў гэты пляскат, лавіў позіркам узмахі рыдлёвак, і яго брала весялосць. Быў неяк асабліва дужы. Хацелася спрачацца з другімі сілаю, спрытам — гнацца навыперадкі. Браў і браў балотнае цеста, кідаў і кідаў наводмаш.

Успаміналася: вось так жа капаў акопы, толькі што яны былі ці ў сухіх хвойніках надпрыпяцкай грады, ці ў пяску між вербалозу. Там, на градзе, ладная вайсковая рыдлёўка часта скрыгатала аб каменне. А тут — багнаватая мяккасць, і не чуеш, як улазіць жалеза... Багна аплывае з беражка. Пясок таксама аб'язджаў...

Як ні заўзята кідаў рыдлёўкай, на дарогу ад цагельні ўсё ж паглядваў — цягнулася яшчэ купка куранёўцаў. У ёй Ларывон і Яўхім Глушак. Як звычайна ўжо, убачыўшы іх, пачуў прыкрасць: не дабіўся суда над Ларывонам і Яўхімам за калядную бойку! Выкруціліся неяк — Хадоська, казалі, памагла: кінулася выручаць свайго Яўхімку, падгаварыла глінішчанскага бедака — той сам стаў за іх старацца!.. Ну, нічога, цяпер і без таго думаць будуць, перш чым у бойку лезці! А ўлезуць — другі раз не выкруцяцца!..

— Пазнавато, героі! — сустрэў іх Хоня.

— Нічога, паспеем! — Ларывон магутнай рукой лёгка пакруціў рыдлёўку. — Не вельміто нарабіў ты без нас, што разяўляешся!

— Зрабіў трохі!

Яўхім кінуў позіркам на Ганну, буркнуў строга Ларывону:

— І ты — языком не пляскай! — Ён папрасіў Міканора ветліва, паслухмяна: — Дак які загад будзе?

Міканор уткнуў у твань рыдлёўку, у мокрым, зарудзелым адзенні вылез на дарогу, пайшоў мераць дзялянку. Ларывону страх як не хацелася перціся ў твань: гэта было добра відно па яго гладкім, панурым твары. Яўхім жа, пабачыўшы сваю дзялянку, зарагатаў:

— Ето работка! І наробішся, і накупаешся!

З тым жа вясёлым, бесклапотным рагатком ён шухнуў у твань, гарэзна пазваў Ларывона:

— Лезь, не мніся! Каяцца не будзеш!.. Ну лезь жа хутчэй! А то бач, колькі другія ўрабілі! Не дагоніш!..

З Ларывона пачалі пасмейвацца. Ён злосна мацюкнуўся, схіліўся закасваць штаны...

Марудна, нядружна, хто сам сабою, хто з канём і калёсамі, куранёўцы ўсё ж сыходзіліся. Міканору не раз і не два даводзілася вылазіць з балота ад пракапанай канаўкі, мераць дзялянкі, паказваць, дзе што рабіць.

— Э, начальнік, адстаеш! — сказаў яму Хоня, які капаў побач. Другія падтрымалі:

— Няма з каго прыклад браць!

— Няма!

— Ето шчэ пабачым! — задзірыста крыкнуў Міканор, беручыся за рыдлёўку.

Але толькі пракапаў з паўтара метра, як зноў давялося вылазіць: прыцягнулася яшчэ трое.

Акурат уз'ехаў на грэблю з возам зямлі Чарнушка. Воз падрыгваў на бярвеннях і на галлі, што трашчала пад коламі. Чарнушка абмінуў некалькі горак, якія свежа жаўцелі на грэблі, спыніў каня і выцягнуў зза ручак воза дошкі. Трохі зямлі абвалілася. Ён узяў з воза рыдлёўку і стаў скідаць астатняе — пачала расці яшчэ адна горка.

Міканор назначыў тых, што падышлі цяпер, раскідаць горкі, раўняць, утоптваць. Ён ужо хацеў быў узяць зноў рыдлёўку, калі Хоня, які вылез з канавы, запыніў яго:

— Пастой! Знаеш, што я падумаў. Ні да чого ето, брат, што ты за жалязняк бярэшся! Табе б — увесь час людзей бачыць, знаць, хто што робіць. Кеб кожны чуў, што пад кіраўніцтвам, пад наглядам, значыць. А не сам па сабе, як авечка якая. А то

ты рыешся там, як крот, а — не крыўдуй — таго не бачыш, як другія капаюць — ці глыбоко, ці па лініі.

— Ето — не сакрэт — я і сам думаў, — прызнаўся Міканор. — Дак гаварыць будуць: гуляю, маўляў.

— Няхай пляскаюць, каму хочацца. А калі ўжэ ўзяўся кіраваць, дак кіруй!

Яшчэ раней такую параду даваў яму Руды Андрэй, але Міканор і слухаць яго не стаў. Хацелася ўзяцца за самае цяжкае, каб бачылі, як рабіць трэба. Думаў, што ўсюды ўправіцца. Цяпер слова не сказаў супроць парады, бачыў — яны мелі рацыю. Не сачыў амаль за другімі, не кіраваў.

— Дакапай тут, дзядзько, — сказаў лесніку Міцю, — бо я толькі і раблю, што лезу ў канаву да вылажу...

— А — здаўся! — падчапіў дзядзька Ігнат.

— Здаўся...

І хто б мог падумаць: калі тое пачалі, а ўжо столькі рабілася не так як трэба. Адзін, аказалася, звужае канаву, другі ўзяў мелка, трэці бераг павёў няроўна. Не вельмі прыемна папраўляць дзядзькоў, але нічога не зробіш, трэба: парадак павінен быць. Дзядзькі, мабыць такі, бачылі ў ім начальства, амаль не спрачаліся, паслухмяна рабілі тое, што ён казаў. Толькі іншы раз апраўдваліся вінавата, але слухаліся, папраўлялі.

— Мелко! — сказаў Міканор Ларывону.

Той нібы не бачыў, не чуў, ляніва шмякнуў пад ногі Міканору тванню.

— Глыбей трэба! Не меней як паўтара аршыны...

— І так добра!.. — Ларывон зноў кінуў гразі.

— Паўтара аршына, не меней.

— Правільно! Капай, капай, Ларывон! Не лянуйся! — зарагатаў Яўхім.

Ларывон адрэзаў:

— І етаго хопіць!

— А я кажу — мелко! — не саступаў Міканор.

Ларывон уткнуў рыдлёўку ў твань, нязграбна, рашуча палез з канавы.

— Сам капай, калі мелко!

— Я за цябе капаць не буду! А ты — прыйшоў, дак рабі! Як трэба!

— А не хочаш, дак кацісл адсюль! — падтрымаў Хоня. Ён падчапіў весела: — Ды матку за сябе прышлі!.

Міканор бачыў, як злосна пачырванеў Ларывон: дапякло ўсётакі! Толькі знайшоў Бугай у адказ, што мацюкнуўся, але

Міканор ужо кончыў спрэчку, ішоў далей. Пачуў яшчэ ўслед за сабой вясёлы рагаток Яўхіма.

Спыніўся між тых, якія масцілі грэблю. Іх цяпер было багата больш, як спачатку. Міканор знарок не назначыў тут старшага, бо ведаў, што і без прызначэння кіраваць ухопіцца Андрэй Руды. І праўда, яшчэ з канавы ўбачыў Міканор, як Руды завіхаўся, бегаў, камандаваў... Вось і цяпер пануры Пракоп абсякаў сякерай з алешынкі галлё, а Руды мітусліва, горача штосьці даводзіў яму. Але Пракоп, здалося, слухаць не хацеў, адвярнуўся. Андрэй забег на другі бок, наперад.

— Аб чым спрэчка?

— Да от, таскаць, галіны не ўсе адсякае, — кінуўся з надзеяй к Міканору Руды. — Тыя, каторыя тырчаць уніз ці ўверх, —сячэ. Яны, таскаць, мяшаюць пакласці дзерава на зямлю, тырчаць. Ён, следавацельно, ссякае, і — правільно, што ссякае.

Пракоп ужо стаяў, панура сціскаў валасатай рукой сякеру, маўчаў. Міканор перабіў Рудога:

— Дак аб чым жа спрэчка?

— А аб тым, што счышчае галлё ён не ўсё. Тыя, каторыя зверху і знізу, ссякае, а тыя, каторыя па баках, таскаць, — абсякаць не хоча! Думае, следавацельно, — можно масціць на іх другія друкі і паплецінь. Што, таскаць, саўсім няправільно.

— Чаму няправільно?

— Дак па іх патом будзеш ехаць, як на спружынах! Падкідваць будзе!

Пракоп з пагардай плюнуў. Было відаць: тое, што казаў Руды, ён лічыў такім глупствам, што і гаварыць не хацеў. Міканор стаяў між іх і адчуваў, што абодва чакаюць яго слова, абодва ўпэўнены ў сваёй перамозе. Яму ніколі не даводзілася масціць грэблю, але тое, што казаў Руды, здалося яму выдумкай. Чаму нельга пакідаць галля, калі з ім дрэвы толькі будуць лепш чапляць адно за адно? «Жыць не можа, кеб не вымудрыць чагонебудзь!» — падумаў пра Рудога.

— Я думаю, што вы, дзядзько Андрэй, дарэмно баіцеся! — цвёрда заявіў Міканор.

Руды загарэўся:

— Я — дарэмно? Уся новая навука, таскаць, етай думкі трымаецца! А тое, што робіць Пракоп, ето — шкоднае заблуждзеніе!

Міканор нейкі час рабіў з імі. Тое, што ён быў побач, стрымлівала абодвух, але Міканор адчуваў, што, як толькі ён адыдзе, спрэчкі і нелады пачнуцца зноў. Трэба было паставіць некага тут за старшага.

Да Андрэя як да чалавека ў Міканора было больш веры: робіць шчыра, ад усёй душы, Пракоп жа ў вочы ніколі проста не зірне, тоіць нешта, здаецца. І ўсё ж Міканор выбраў за старшага Пракопа: гэтага будуць слухацца! У гэтага будзе лад.

Яшчэ раней заўважыў Міканор, што зямля з бакоў грэблі асыпаецца ў канаву, і падумаў, што трэба сплесці пляценьчык.

— Работа е ў мяне для вас, дзядзько Андрэй, — сказаў Рудому. — Важнецкая, акуратная!..

4

Васіль быў між тых, якія масцілі грэблю. Ён трымаўся Пракопа і, было відаць, стараўся дагадзіць яму. Люба было бачыць Міканору, як хлопец стараўся. Нібы і не ён хацеў быў адкруціцца, паслаць дзеда. Але хутка Міканору кінулася, што Пракоп злосна зіркнуў на свайго памочніка — Дзятлік нібы не бачыў таго, што рабіў. Тады Міканор і заўважыў, што хоць Васіль увіхаўся каля старога са ўсёй нібы душой, ён не так памагаў, як замінаў. Куды больш, чым за Пракопам, Васілёвы вочы сачылі за Ганнай Чарнушкавай. Іншы раз, мусіць, адну яе і бачыў.

Хітраваў, таіўся і тут: глядзеў спадылба, зладзейкавата, як бы асцерагаўся, што хтонебудзь паквапіцца, абкрадзе яго. Няпроста было хаваць гэта: увесь аж гарэў то нястрымнай цікаўнасцю, то нецярплівым чаканнем. Чакаў недарэмна, нярэдка яна сустракалася з ім вачыма, вясёлымі, прыхільнымі, — і Васіль хораша, радасна яснеў. Толькі міг відно было гэтае шчасце, бо тут жа галава асцярожліва схілялася...

Міканор бачыў, як насцярожыўся, спахмурнеў Васілёў твар, калі да Ганны, фарсіста водзячы плячыма, з папяроскай на губе, падышоў Яўхім Глушак, стаў смешкам штосьці гаварыць, памагаць цягнуць алешыну. Ганна хацела была адабраць алешыну, але ён не аддаў, з гуллівай усмешачкай ішоў разам, пакуль не данеслі да Пракопа, да Васіля, які нават вачэй не падняў. Са смехам пайшоў Яўхім з Ганнай назад, а Васіль, разгублены, ваўчкаваты, стаў памагаць так няўдала, што Пракопа прарвала:

— Аслеп ты, ці што?

Васіль словам не павінаваціўся, не захапаўся, толькі яшчэ больш затаіўся. «Раўнівы! Ну ж, раўнівы!» — падумаў Міканор. Ён з увагай зірнуў на Ганну, як бы шукаючы адгадкі, чаму да яе так ліпнуць: і Яўхім чапляецца, і Васіль сохне. Зайчык і

той не пройдзе блізка, каб не падурэць. Хадоська ж чамусьці надзьмулася... Столькі неспакою ад адной Чарнушкі!

«Перавесці трэба, кудынебудзь далей. К Сароцы, капаць зямлю, ці што...» — падумаў Міканор.

Ён больш не тлуміў сабе галавы гэтым. Жыў іншым — вялікай, шырокай уцехай. Работа ішла ўсё раўней і дружней. Ужо ледзь не ўсе Курані завіхаліся на грэблі і каля яе. Ускідваліся і ўскідваліся рыдлёўкі, чвякала і чвякала, падаючы, мокрая твань; з шорхатам, метучы торф, цягнуліся за людзьмі дрэвы і галлё; парыпвалі калёсы са свежай зямлёю, хораша жаўцелі ўсё новыя горкі, якія неўзабаве прападалі, рассыпаліся ў роўнядзі чыстай паласы, што ўсё даўжэла і даўжэла.

Тут пад нагамі была ўжо не падатная багна, не клятая-пераклятая чорная гразь, а цвёрды, надзейны грунт, пад якім чулася прыемная моц дрэваў. Перамяшаная з пяском зямля напаверх жаўцела весела, святочна...

Маладыя і пажылыя, мужчыны і жанкі, белыя і фарбаваныя зрэбныя сарочкі, кофты, паркалёвыя хусткі — калі яшчэ было, каб столькі людзей у Куранях сышліся разам, адзін к аднаму, на адзін клопат, на адно дабро. Міканор бачыў — на другім баку такія ж постаці, такія ж сарочкі і хусткі.

От, каб сабраць усіх так — і на балота. Ды каб не толькі з Куранёў і Алешнікаў, каб яшчэ з Глінішчаў, з Мокуці, з Хвойнага. От бы лугоў нарабілі, от бы зямлі прыдбалі — ураз бы лягчэй стала дыхаць. Толькі ж цемната якая: ты іх, як той казаў, тварам у малако тыкай, усё роўна не дадуць веры. Як бы не хочуць бачыць дабра свайго!..

Сонца ўгравала ўсё мацней, было душна і парна. Твары заплывалі потам, сарочкі не высыхалі. Усе праглі піць — Міканору прыйшлося паслаць падводу прывесці бочку вады. Яшчэ да таго, як падвода вярнулася, ляснік Міця вылез з канавы, аб'явіў не як просьбу, а як патрабаванне:

— Трэба перадыхнуць!

Некалькі галасоў дружна падтрымалі яго. За Міцем пачалі выбірацца з канаў, абціраць твань з рук, з твараў другія, і Міканор даў каманду зрабіць перадышку.

Усе сыходзіліся на грэблі: большасць мокрыя вышэй пояса, з абляпанымі тванню сарочкамі, з тварамі, бруднымі, чорнарудымі, хто стаяў, курыў, хто садзіўся на мяккую, яшчэ не раскіданую горку, хто разлягаўся проста на зямлі. Гаманілі, жартавалі. Зайчык нібы незнарок прытуліўся да Ганны, раптам ушчыкнуў яе за бок.

Дзяўчына няласкава штурханула Зайчыка, але старога жартаўніка гэта толькі павесяліла.

— Вы б, дзядзько, етыя штучкі з якой равесніцай сваёй! З цёткай Сарокай бы!

— Ахвота мне — з Сарокай! З етым старым дзеркачом!

— Дак і вы ж, здаецца, не кавалер малады!

— Малады ці не малады, а на маладое — цягне!

— Вас ужэ на печ цягнуць павінно!

— Цягне і на печ. І да дзевак! Страх! — Падахвочаны агульнай увагай і смешкамі, ён зноў памерыўся ўшчыкнуць Ганну, але яна пагразіла:

— Дзядзько? Таўхану — дык у балото палеціце!

— Аге? — Зайчык ухмыльнуўся, а ўсё ж адступіў. — Злая ж, ліхо на яе! Таўхане — і праўда, у балоце выкупаешся!

Ледзь толькі ён, крыўляючыся, адышоў ад Ганны, да яе рушылі Яўхім з Ларывонам. Але тут, насцярожаны і строгі, падступіў і Васіль.

— От, кумедзія! — паківаў галавой Андрэй Руды. — Як каршакі, тасказаць, — удваіх каля адной!

— Хто — удваіх? — не зразумеў Міканор.

— Дзятлік і Глушак еты? Удваіх, як каршакі, следавацельно. Каля адной!

— Дарэмна ён круціцца, Глушак... Не выйдзе ў яго нічого!

— Ето шчэ, таскаць, віламі на вадзе пісано!..

Міканор толькі мелькам зірнуў на Васіля і Ганну, яму не здалося гэта такім цікавым, як Рудому. Уся ўвага Міканора была з Пракопам, які, уткнуўшы бараду ў шырокія расхрыстаныя грудзі, важка сунуўся ўсцяж канавы, панура аглядаў, штосьці думаў. Дзіўны, звераваты чалавек — заўсёды, здаецца, штосьці тоіць нядобрае. А сам жа нібы і не злы, і не паганы...

— Чаго глядзіце? — не вытрываў Міканор.

Лясун схаваў вочкі пад густой чарнатой броў.

— Так... Нічого...

— Глядзіць, ці не лепей на канаву перабрацца! — падчапіў Зайчык. — Работа там — зайздрасць бярэ!

— Каб яе рукі не чапалі, работу такую! — вылаяўся Нібыто-Ігнат, што сядзеў на капцы зямлі. — Рыешся ў гразі, нібыто чорт лазаты!

— Лето, тасказаць, не зіма. І ў балоце, следавацельно, не так, як зімой. Цёпло, мякко, — хацеў пажартаваць Руды.

— А от пакапайся ў етым мяккім!

— А нашто яму! Яму і тут непагана.

— Я там раблю, куды, следавацельно, пастаўлены! — не здаўся Андрэй.

— Заўтра і ідзі! А я — нібыто — на сваё месца!

— Правільно! Па чарзе!..

— Але ж і вы перарабіліся, — загарэўся Міканор. — Толькі, можно сказаць, улезлі ў балото, намачылі пасталы...

— А ты ж і таго не пабуў!..

— Чаго ён не астаўся там — і дурань знае! — заступіўся за Міканора Хоня.

Хоню ніхто не запярэчыў, і Міканор пачуў, што чалавек сказаў крыўднае яму ад таго, што самога пакрыўдзілі.

«Не трэба было так кідацца, мякчэй трэба было», — папракнуў сам сябе Міканор. Ён загаварыў, нібы апраўдваючыся:

— Канешне, не сакрэт — у твані не соладко! Ніхто не скажа, што рай! Дак хіба ж мы не ў твані етай з дня ў дзень!

— Тота і яно! І без етаго ачарцело! — Ігнат дадаў: — Грэбля ета нам — нібыто белая булка, калі і чорнага хлеба не бачыш!

— Як хто, а я дак і ад етай бяды — ад белай булкі не адмовіўся б, калі ўжэ няма хлеба! — сказаў весела Хоня, якога падтрымалі дружныя смешкі. Калі смешкі заціхлі, ён прамовіў задуменна, сур'ёзна: — Кален не памачыўшы, мабуць, нічога не дабудзеш! Ні булкі, ні хлеба чорнаго!

— Ето праўда! Ніхто ў рот не пакладзе! — падтрымаў Алёша Губаты.

— Усётакі, грэц яго, нешта ўрабілі ўжэ, — Чарнушка глядзеў на жаўтлявую паласу грэблі. — Небагато пабулі, а ўжэ — сказаць — відно трохі!

— Не вельмі — нібыто — і відно. Ето — як жменька скошанаго на вялікім лузе...

— Работы — не сакрэт — багато, — згадзіўся Міканор. — А толькі ж — не попусту яна, на карысць — і людзям, і сабе! От што, памойму, галоўнае...

— Патом, канешне, нічого не скажаш — анігадкі будзем! Абы — от агораць усё! — Алёша Губаты заклапочана задыміў цыгаркаю.

— У тымто і соль уся — штоб агораць! А патом — патом, канешне, маючы сваю грэблю, — анігадкі!..

— Агораем! — Хоня разлёгся на горцы пяску, пацягнуўся дужа. Жмурачыся ад сонца, сказаў весела: — Ето толькі пачынаць страшно! —На мурзатым ад твані твары зубы бліснулі бела, ярка.

— Усё выканаем, калі людзей сарганізуем! Трэба, Міканор Дамецевіч, перапісаць усіх, каторыя не явіліся, і, тасказаць, заставіць у абавязковым парадку!

— Ето правільно! — прабубнеў Пракоп Лясун. — Штоб усе рабілі!

Міканор паабяцаў, што сёння ж з Грыбком як членам сельсавета абыдзе людзей, якія не прыйшлі на грэблю, і даведаецца, чаму каго не было, і калі трэба будзе — перадасць прозвішчы іх у сельсавет.

— Як ето ў другіх сёлах у камуны паўступалі! — падумаў уголас Хоня, што жмурыўся на сонца. — І робяць, і жывуць разам, дружно, не ядзяць адзін аднаго!

— Усяляк, мабуць, і там, Хартонко, бывае, — сказаў Зайчык. — Не людзі хіба там?

— Людзі то людзі. Да ў нечым, можа, і не такія...

— Там — тасказаць — як сям'я, каторая дружно жыве! — кінуўся тлумачыць Андрэй Руды. —Усе, следавацельно, — як браты дружныя!..

Міканор перабіў яго:

— Там галоўнае— не сакрэт — сумленно робяць і сумленно жывуць адзін з адным! На свядомасці ўсё!

— Я ж і кажу — як дружная сям'я! — Андрэй, што трымаў цыгарку далікатна, кончыкамі пальцаў, адмыслова ж, тоненькім струменьчыкам выпусціў дымок цераз ноздры, прамовіў філасофскі, павучальна: — У балоце, між лесу гібеем. Тасказаць, як звяры. От і дзікасць ад таго, следавацельно!..

— Ето праўда, грэц яго, як ваўкі якія. Толькі і розніцы — што ў ваўка бярлога...

— А ў цябе дак палац?

— Гора ўсё людское, нястача, — уздыхнуў Грыбок. — З бяды людзі крывуюць адзін на аднаго, з'есці адзін аднаго гатовы...

— А памойму — ад цеснаты ўсё! — Чулася, што Хоня перакананы ў гэтым да канца. — Куды ні кінься — лес, пясок, балота. Разгарнуцца, дыхнуць няма як!

— Жытка, маць яе...

— Жытка то жытка, ды і самі вінаватыя!

Курылі, моўчкі думалі кожны пра сваё, тойсёй з дзядзькоў драмаў. Зайчык першы разбіў думную маўчанку:

— То ж, мабуць, шчэ ніколі не було, штоб столькі сыходзілася на якую работу разам! Як у Юравічы на добры базар, дзетачкі!

— Праўду казалі — галава еты Апейко! І алешніцкіх — на помач!

— У етым, грэц яго, уся рацыя, штоб народ падняць! А як народ паднімецца, дак усё зробіць!

— От жа, кеб можно було тое, што Міканор на сходзе казаў, — з юначым захапленнем загаварыў Алёша. — Кеб асушыць балото. Ды жыто і авёс, і ўсё другое пасеяць! Ето ж зямлі було б!

— Сказаў! Вазьмі яе!

За Алёшу адгукнуўся Хоня:

— Бяруць жа некаторыя!

Людзі не вельмі спрачаліся — чулася гарачыня і — стомленасць. Міканора і самога хіліла на дрымоту, і ён падумаў, ці не на дождж санлівасць гэта паказвае; але неба было пакуль чыстае, з рэдкімі белымі хмаркамі, што, здавалася, таксама драмалі ў нерухомай, гарачай высі.

Не вельмі думалася ў спякотнай дрымотнасці, але і цераз яе Міканор чуў: настрой у людзей змяніўся, як бы і самі людзі змяніліся. Адарваліся ад стаянкі, крануліся і вось — ідуць і ідуць; і хоць чорныя ад твані, хоць млеюць ад спёкі, дарога ўжо не такая непрыемная нібы, не палохае ўжо. Цікавая нават дарога, — вабіць, бадзёрыць, весяліць людзей, кліча зазірнуць, што там далей на ёй...

«І нашы куранёўцы не горай за другіх, — плылі паволі думкі ў Міканора. — І з нашымі можно рабіць... Абы толькі падняць ды павесці... А так яны пойдуць... Людзі як людзі... Нічого, мы шчэ пакажам з етымі людзьмі!..».

Ён весела адагнаў млоснасць, устаў першы.

— Дак можа — перадыхнулі ўжэ?

— Перадыхнулі, — устаў і Чарнушка. — Можно ехаць.

За імі пачалі ўставаць і другія...

Амаль два тыдні дзень у дзень збіраліся куранёўцы на грэблі, капалі канавы, цягалі галлё, вазілі, раскідалі зямлю. Пад канец другога тыдня грэбля вымяралася ўжо не дзесяткамдругім крокаў: без малога на вярсту між балотных алешнікаў, беразняку, шызых купчастых лазнякоў напрасткі ішла жаўтлявая цвёрдая паласа, па якой так лёгка, так радасна было і ісці і ехаць возам.

Дні гэтыя былі ці не самыя турботныя і, мусіць, самыя шчаслівыя ў Міканоравым жыцці. Яшчэ б які тыдзеньдругі — і абодва канцы грэблі маглі б сысціся, яны былі ўжо, як дзве рукі, што восьвось павінны былі злучыцца. Але акурат у гэты час жыццё на грэблі стала хутка уціхаць. Што ні дзень людская ўвішнасць тут спадала і спадала, усё менш і менш прыходзіла на грэблю. Людзі жылі іншым клопатам.

І як ні шкада было Міканору, гэтага ніяк няможна было змяніць: падступіла касавіца. А за касавіцай блізілася жніво: значыцца, сціхала на грэблі не на дзень, не на два — надоўга.

Сціхала, і нічога няможна было зрабіць, трэба было і самому ісці касіць. Касіць і чакаць, калі зноў прыйдзе час для грэблі, чакаць доўга. Да позняй восені, да зімы.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Ішоў жнівень. Дні плылі спякотныя, неба глыбілася нязмерна высокае, неабсяжнае, сонца зіхацела нясцерпна іскрыстым кругам. Трава на вільготных узлессях, купы і купкі хмызняку на падсохлых узболатках, асіны каля цагельні буялі, былі ў пары самага росквіту. Узлессі, палянкі поўніў неўтаймоўны, руплівы гул, звон незлічоных дробных насельнікаў добра ўвагрэтай зямлі. Звон гэты і шматгалосы птушыны спеў у шчодрых, пранізаных сонцам зарасніках сплеценага галля і лісця чуліся тут цудоўнай песняй жніўня.

Поле жыло ўжо іншым настроем, ціхай, шчымлівай журбою. Журба гэтая ішла не толькі ад таго, што поле галела, што ў ім адчуваўся нядобры, пагібельны подых недалёкай восені. Знакі звядання там і тут прыкметна прабіваліся ўжо і ў лесе. Чэзлыя, рэдкія бабкі, што нядружна ўставалі пад сумныя, падобныя на ціхае галошанне песні жанокжней, былі як страшныя знакі марнасці, няспраўджанасці чалавечых надзей. Сіратлівыя бабкі гэтыя выглядам сваім як бы казалі: вось усё, на большае не спадзявайся, большага не будзе, гэта ўсё, чым магла адплаціць за працу няшчодрая на аддарункі тутэйшая зямля...

Спявала, дажынаючы паласу, і Ганна, якой час ад часу памагала, падгалошвала мачыха.

— Да перастаньце вы ўжэ, — не вытрываў, нарэшце, Чарнушка. — Усё роўна як на могілкі сабраліся везці!..

— А не падабаецца, дак не слухаў бы, — адказала, аціраючы з гарачага твару пот, мачыха. — Грошай не просім жа!..

— Грошай... Да кеб булі грошы, дык не пашкадаваў бы, заплаціў, штоб не гулі, намаўчалі... І так маркота, а тут — як на хаўтуры!..

Бачачы, што мачыха не жне, Ганна паклала зжатую жменю белаватых чэзлых сцяблоў на разгорнутае на пожні перавясла і

таксама разагнулася. Хвіліну стаяла так, выпрастаная, нерухомая, у выцвілым зрэб'і, з падаткнутым фартухом, з хустачкай, казырочкам насунутай на бровы, — чакала, калі перастане ныць, памякчэе здранцвелая спіна. Стаяла, нічога не бачыла, нічога не думала, жыла ціхай радасцю: можна трохі перадыхнуць. Потым, калі села на сноп, пачула, як шчыміць уколатая аб пожню нага каля костачкі, выставіла яе, смугла, да чарнаты загарэлую, распісаную да кален белаватымі пісягамі і закарэлымі плямкамі крыві, паслініла палец і прыклала да паколіны. Паглядзела на рукі — яны таксама былі чорныя, з белаватымі пісягамі і знакамі сляпнёвых укусаў.

У галаве яшчэ стаяў шорхат жытнёвых сцяблоў, мернае жыканне сярпа. Стомлена жмурачыся ад зіхотнага сонца, яна перавяла позірк на поле: нібы ўпершыню заўважыла, як сумна спусцела навокал апошнімі днямі. Рэдкія бабкі тырчаць, дзенідзе віднеюцца вазы. На адны з іх складваюць снапы, другія, перавальваючыся з боку на бок, як жоўтыя жукі, цягнуцца к Кураням.

Нямала палос ужо зжата зусім, на другіх жыта яшчэ млее маленькімі і большымі купамі. На кожнай паласе, дзе толькі стаяць бабкі ці расце жыта, варушацца людзі: хлопцы, жанкі, дзяўчаты, мужчыны, дзеці; шарэюць, бялеюць сарочкі, хусткі — усе Курані, здаецца, перабраліся ў поле. У каторых дзеці малыя, тыя прыехалі з калыскамі. Унь Хадора падышла да калыскі, што вісіць на састаўленых дручках, узяла малое, расшпіліла кофту, не садзячыся, прытуліла дзіця да грудзей...

Карчы ладуюць воз. Яўхім чапляе перадок рубля за вяроўку... Хадоська жне ўтраіх, з бацькам і маткаю. Хутка ўжо кончаць — стараюцца, з самага рання ідуць не разгінаючыся, руплівыя. Ім сёлета пашанцавала: жыта ў іх не такое паганае, як у іншых, будзе хоць што змалаціць.

А ў Дзятлікаў, у Васіля яе, жыта таксама нікчэмнае, мэндлікаў столькі і такія, што і глядзець горка. Як і ў іх, у Чарнушкаў...

Васіль ужо таксама блізка да канца паласы. Жнуць удваіх, маці з сынам. Жне і не азірнецца, сагнуўся, утаропіўся ў зямлю, бачыць толькі жытнёвыя сцяблы ды перавясла — хоць бы раз кінуў вокам на яе, на Ганну. Дык не ж...

Няўжо ж такі і не павернецца да яе, не гляне? — ужо раўніва думае Ганна, не сярдзіта, а больш лагодна, цікаўна, і не зводзіць вачэй з Васіля. Ну, калі не азірнецца, не адкажа позіркам, няхай дабра не чакае!.. Ганна думае ўжо, чым адпомсціць яму

на такую няўвагу, але ў гэты момант Васіль, што звязаў сноп, як бы пачуў яе думкі, пагрозы — зірнуў на яе.

Ага, спужаўся! Не хоча, значыцца, каб злавала!.. Ганна сочыць цікаўна: Васіль не толькі азірнуўся, а стаіць ужо, думае штосьці, як на раздарожжы. Паклаў серп, шоргаючы нагамі па пожні, з усмешкай і радаснай і, як заўсёды перад яе бацькам, вінаватасарамяжай ідзе да іх. Васілёва маці таксама перастала жаць, глядзіць услед сыну...

Такі як бы сарамяжы, рахманы, а колькі гонару, строгасці колькі ў ім! Ганне ўспомнілася, як хмурна глядзеў Васіль на яе зімою, вярнуўшыся з Юравіч, калі спаткаліся першы раз адны. Як раўнаваў, дзівак, да Карча! І хоць бы слова сказаў — стаяў, апусціў непадступна жорсткія вочы, капаў лапцем снег... Толькі губы ад крыўды крывяцца, дрыжаць... Аб чым яна тады гаварыла?.. Помніцца толькі, што спачатку было няёмка, як бы грэшная перад ім была, а потым неспадзеўкі стала смешна. Ледзь стрымалася, каб не засмяяцца: баялася, што зазлуе, пойдзе ад яе!

Недарэмна хацелася смяяцца: з той раніцы колькі вечароў, начэй былі разам, грэліся ў маразы, у завірухі, тулячыся да вугла яе хаты. А вясна — голадна было, кару ў муку падмешвалі. Другім свет нямілы, здавалася, — ці да кахання, а ні аднаго вечара, мусіць, не ўседзелі асобна!..

Толькі Корч часам прыб’ецца, прыстане, нагоніць хмурнасць на Васіля, але Ганна ўмее ўжо разганяць гэту хмурнасць. Не ўгаворамі, а смешкамі — кплівая ўсмешка ўраз нішчыць Васілёву падазронасць.

Вось і цяпер Ганна ловіць Яўхімаў позірк — на хвіліну перастаў увязваць воз, глядзіць, як Васіль падыходзіць да яе, як сустрэнуцца. І да чаго ж упарты гэты Корч! Усё роўна як прыліп! Чым больш гоніш яго, тым, здаецца, больш ліпне. Ды яшчэ злуе — праўда, не паказвае, усмешачкай хавае злосць. Але Ганна ўсё чуе: думаў, кожная, абы толькі зірнуў, растане адразу, а тут раптам — дуля. Ну, цяпер ужо, мусіць, адчэпіцца, паспрабаваў, апёкся... Недарма ж да новай леснікоўны зазіраць стаў.

— Што ето вы, дзядзько, паселі ўсе? — сказаў Васіль, абы сказаць. — Сама пара рабіць, а вы — як свято...

— Дак і ты ж, здаецца, не робіш?

— А я, гледзячы на вас!..

— І што ты, грэц яго, знайшоў ва мне, што ўсё глядзіш да глядзіш, — як бы пажартаваў бацька, але прамовіў сур’ёзна: — Упадабаўся я табе, ці што?

— А то — не, думаеце? — Васіль падміргнуў Ганне і разам з ёй засмяяўся.

— Пажаніць бы іх! — падышла Васілёва маці. — А то ж, сказаць, не днюе, не начуе дома. Схуднеў — адны шчэлепы тырчаць!

— Мамо, што ето вы нас усё жэніце? Толькі падыдзеце — пажаніць ды пажаніць!..

— Пажаніць, можно і пажаніць, — сказаў Чарнушка. — Дык ты ж, мабуць, не аддасі Васіля ў прымы? — Ён зірнуў на маці хітра, але ўсё з той жа панурасцю.

— А нашто ў прымы? Ці ў мяне хата поўна дзяцей?

— Поўна не поўна, а і мне без Ганны не выходзіць. Без Ганны я — як без рук...

— Дак то ж хіба далёко пойдзе? — спрачаецца не на жарт маці. — Як трэба будзе, дак яна ж тут як тут. Зробіць вам усё, што трэба!..

— Ето, як той казаў, пакуль: косю, косю — да ў аглоблі. — Чарнушка не даў сказаць Васілёвай маці, прамовіў панура: — Есці от што яны будуць? Што мы будзем? Ёй не тое што замуж ісці, а, можа, кеб з торбай па хатах не прыйшлося!

— Што ты кажаш, суседко! Пражывем неяк. Перагораем, буць не можа. Прывыклыя...

— Ето такая прывычка, што здохнуць нядоўга... І калі яно ўсё кончыцца! Усё думаеш: отот узаб'ешся на хлеб, жылы рвеш, і — на табе! — Чарнушка плюнуў.

— Кеб усім зямлі пораўну, адзінакавай, то маглі б і перабіцца. А то ж аднаму густо, а другому — пусто, — адгукнулася мачыха. — Савецкая ўласць, называецца...

— Упарадкаванне абяцалі, а нешто і носу не паказуваюць...

— А хто табе яго будзе рабіць? — адказвае Васілю Чарнушка. — Улада што? Яна дае закон, а закон той — як дышло... Закон той людзі прымерваюць. Як людзі людзьмі, то і закон — закон. А як маўчаць кожны будзе ды сядзець склаўшы рукі, дак і ўлада не паможа!

— Дак а чаго ж крычаць без толку?

— Чаго без толку? Трэба з толкам!

— Дак дзе ж той толк?

— Жалувацца трэба ў воласць! У другіх ці парабілі ўпарадкаванне зямлі, ці робяць, а ў нас — ні слыху ні дыху! Жалувацца! Няхай прыязджаюць! У тым годзе бандзіты папужалі, а цяпер жа, дзякуй Богу, ціхо!

— Кажуць, у Мокуці булі ўжэ зноў.

— Кажуць, кажуць! Брахні ўсякай ходзіць!.. — Чарнушка раптам сказаў непрыхільна: — І што за зямля тут: то балота, гразюка такая, што канцакраю не відно, то пясок, што ў самого чорта нічога не вырасло б! Праклятае якоесь месца!

— Не падабаецца, дак паехаў бы на Украіну сваю хвалёную! — не вытрывала, раўніва прамовіла мачыха. — Не дзержыць ніхто.

— Не дзержыць... Кеб не дзяржало!.. — Ён сказаў задуменна, загадкаю: — Балото як возьме ногу, зассе, зацягне ўсяго. Душу зацягне...

— Хто ж цябе дзержыць? Хто?

— Мо — хто, а мо і — што! Тут нутром разумець трэба, а не расказуваць... Не малая сама...

— Не малая, а не знаю. «Кеб не дзяржало»! Ну, хто цябе дзержыць?

— Ты! — прамовіў Чарнушка такім голасам, у якім амаль не было чутна жарту. — Як жа я з табой выпраўлюся ў такую далёкую дарогу? А пакінуць — адвагі не хапае. Там жа другой такой, мабуць, не знойдзеш!..

— Ну дак і маўчаў бы, не вякаў попусту, — як старэйшая, разумнейшая, сказала мачыха.

Васіль, перахапіўшы змоўніцкі Ганнін позірк — вось бачыш, якія ў нас гаворкі бываюць, — паспрабаваў разагнаць нядобрую маўклівасць.

— Усюды, кажуць, добра, дзе нас няма... Нічого! Пераб'ёмся пакуль якнебудзь. А там — зімой — у лес, на нарыхтоўкі. Глядзі, і завядзецца капейка. А як трэба будзе яшчэ, то вясной і на сплаў можно!..

— Сплаўшчыкам, гавораць, плацяць добра...

— Гавораць... — Лагодны Чарнушка сёння яўна быў не ў настроі, і, каб не ўлазіць у непатрэбныя спрэчкі, ніхто не стаў яму пярэчыць.

Памаўчалі трохі для прыліку і сталі разыходзіцца.

Толькі Чарнушка сядзеў яшчэ нейкі час, унурыўшыся, думаў пра штосьці сваё — пра жыта, можа, ці пра амаль забытую Чарнігаўшчыну, ці пра жонку, якая не разумее, што яго тут трымае. А можа, пра дзіўную, пакрыўджаную Богам зямлю гэту, якая выратавала некалі ў галодны год, назаўсёды забрала сабе душу яго.

Зямля, зямля — бяскрайнія разлівы гнілой твані ў нізінах, зыбучыя пясчаныя хвалі на ўзгорках! Яркая, шчодрая і залатая

з выгляду, зманлівая, няласкавая да дзяцей сваіх красуня, — колькі жніўняў такіх бачыш ты гэтыя рэдкія, бедныя бабкі на сваіх палосах, слухаеш страшныя думкі куранёўскіх жанцоў і жней!

Колькі жніўняў яшчэ слухаць будзеш?..

2

Ідучы побач з возам, які важка ўціскаў колішнюю раллю і пожню, крахтаў, небяспечна калыхаўся, Яўхім увесь час сачыў за ім: то падтрымліваў рукой, то падпіраў плячом. Толькі выбраўшыся на дарогу, на выезджаныя каляіны, адступіў ад воза, пайшоў спакайней, лягчэй.

Калі воз пад'ехаў да Чарнушкавай паласы, Яўхім скоса зірнуў туды, дзе сядзелі купай, гаманілі аб нечым Чарнушкі і Дзятлы, падумаў: «Іч, злятаюцца!.. Усё адно як сваякі!..»

Воз жаваў коламі пясок і пыл каляін, шастаў добра змазанай воссю, конь рыпеў гужамі, а Яўхім як бы не бачыў нічога, не чуў, разварушана думаў — ужо каторы раз — пра сваю прыкрасцьхваробу.

Хто б мог падумаць, што так завяжацца. Лічыў спачатку: глупства, драбяза, падурэю з ёй, саб'ю ахвоту і кіну. І спачатку ж ішло быццам бы так, як хацеў: хіліцца быццам бы да яго пачала. Калі вярнуўся з турмы Дзятлік, думаў: паглядзіць хай, недарэка, пазайздросціць яму, Яўхіму, што адбіў каханую. Яўхім быў упэўнен, што Ганна — не дурная ж, бачыць жа, хто такі ён і хто Дзятлік, — прытуліцца да яго, Яўхіма, самага віднага, самага разумнага, першага на ўсе Курані хлопца. Ён тады нават часам думаў з асцярогай: каб хоць не прыліпла вельмі, не звязала...

І вось жа — на́ табе, Яўхім дасюль не можа спакойна ўспомніць: як толькі ўбачыла Дзятліка — зноў хітнулася да гэтага няўклюды, галяка гэтага! Ад яго, ад Яўхіма! Гэта здалося такім недарэчным, дурным, што Яўхім спачатку проста не паверыў, што яно — моцна, надоўга: мала якая дурасць можа ўляцець раптам у дзявочую галаву, міне дзеньдругі — адумаецца. Але Ганна не адумвалася. Тады Яўхім не вытрываў, яўна паступаючыся мужчынскай годнасцю, сам пайшоў да яе, паспрабаваў перахапіць зноў, вярнуць. І так падступаўся, і так, чаго толькі не нагаварыў, праводзячы дахаты, трымаючы сілком каля ганка, — хоць бы трошкі змянілася. Каля ганка — ледзь дойдзеш — у

яе толькі і клопату: хутчэй нырнуць у сенцы, спаць заўсёды спяшаецца... Абняць за плечы нават не далася!..

Самае крыўднае — бачыць усё, разумее ды яшчэ пасміхаецца, гуляе з Яўхімам, як кот з мышшу! Нібы і не гоніць зусім, нібы надзеі трохі пакідае: хадзі, дурань Яўхім, валачыся за ёй, зайздросць, як яна да Дзятліка туліцца.

Не, Яўхім не зусім страціў гонар — хадзіў, хадзіў за ёй, злаваў, ды, урэшце, рашыў: усё, канец гэтаму глупству, гэтаму здзеку, адзін раз і назаўсёды. Як рашыў, так і зрабіў — выкінуў з душы, з памяці, нібы і не ведаў ніколі такой...

Як на шчасце, паявілася леснікоўна. Вясёлая, гаваркая, прынадная дзяўчына як з неба звалілася разам з бацькам сваім, новапрызначаным леснікам. Праўда, звалілася трохі далекавата — вёрст пяць з гакам у адзін бок, але што Яўхіму былі гэтыя пяць вёрст! Была б ахвота мераць іх, а ахвота гэтая тады поўніла яго: як ашалелы, ляцеў лесам, балотнай сцежкай да Верачкі.

Верачка была зусім іншая. Праўда, не кідалася радасна да Яўхіма, удавала сябе нават абыякавай, але Яўхім бачыў: рада яму, падабаецца ёй. За лесніковай пасадай так пахнуў смалою, млеў бор; у бары, без бацькі і маткі, што вельмі ж прыглядваліся да Яўхіма, Верачка неяк асабліва ружавела і чамусьці ўздыхала, уздыхала. Калі Яўхім прытуліў яе да сасны і абняў, яна не адштурхнула — сінія вочы Верачкі былі цёмныя, як вада перад навальніцай, губы прагныя...

Здавалася, усё перамянілася. Няма больш хваробы гэтай, Ганны, ёсць толькі Верачка, адна — лагодная, пяшчотная, радая яму. І вось жа аказалася раптам, што ўсё гэта мана — нішто, аказалася, не перамянілася. Хвароба як была, так і асталася. І ўсё гэта адкрылася неспадзявана, умомант, у добрую ясную раніцу.

Колькі разоў успаміналася Яўхіму гэтая раніца, гэта сустрэча... Выпусціўшы зпад шапкі з блішчастым казырком, ссунутай набок, хвацкі чуб, ішоў Яўхім па вуліцы. Ішоў к Верачцы. Не глядзеў ні на кога, рукі ў кішэнях сініх фарсістых галіфэ, папяроска ў ганарліва прыкрыўленым роце, нёс на казырку, на глянцы ссунутых гармонікам шыкоўных хромавых ботаў, адзіных у Куранях, сляпучы зырк сонца — быццам сам зырчэў. Ішоў — першы жаніх на ўсё сяло. Ззяла залітая святочным сонцам вуліца, ззяла і душа, поўная адчування маладосці, харства свайго, сілы. Добра было ведаць, што блізка сустрэча на ганку лесніковай хаты, гарачы бор, Верачка, якая ружавее і ўздыхае...

І раптам усё знікла. Уміг. Як і не было. І бесклапотнасалодкае прадчуванне ўцехі, і леснікоўна, і ганарлівая сіла. І было б ад чаго: убачыў — проста яму на дарозе стаіць Ганна, таксама пасвяточнаму вясёлая, у святочнай паркалёвай кофце з кветачкамі. Стаіць, жмурачы вочы ад сонца, лузкае семкі. Кагосьці, мусіць, чакае.

— Добры дзень! — павіталася з усмешачкай, гуллівай і хітрай, якая заўсёды дзіўна яго калола.

Яўхім, нібы незнаёмай, абыякава адказаў, намерыўся прайсці.

— Куды ето такі... наваксаваны?

Яўхім хацеў зрэзаць:

— Мабуць, не к табе!

— Уга! Я так і думала! — Яна засмяялася задзірыста. — Глядзі ты, усё адно як згаварыліся! І я не цябе чакаю!.. Да леснікоўны? — прытворна лагодна пацікавілася яна.

— Можа, да яе. А табе што? Зайздрасць бярэ?

— Канешне!.. Такі кавалер!.. Толькі — вочы ў яе, кажуць, у розныя бакі глядзяць. Праўда?

Яўхім зірнуў на яе як мог пагардліва і ўбачыў — яна задаволена смяялася: дадзела, раззлавала! Не ўправіўся Яўхім сказаць штонебудзь, каб яна прыкусіла язык, адвыкла назаўсёды кпіць з яго, як Ганна, азірнуўшыся, весела войкнула, спрытна і лёгка подбегам падалася прэч. На вуліцы паявіўся Дзятлік.

Яўхім плюнуў і, як бы нічога не здарылася, пайшоў сваёй дарогай. Ішоў, здавалася, як і дасюль, весела і бесклапотна, усё так жа пасмоктваў куплёную папяроску, думаў, што гэтая яе балбатня — пустое і сама яна нішто яму цяпер. І ўсё ж, падыходзячы да могілак, не вытрываў, азірнуўся: яна стаяла з Дзятлікам і чагосьці смяялася. З чаго, з каго?

Зайшоўшы за могілкі, за якімі яго нікому ў сяле не было відаць, Яўхім спыніўся, сеў на траву. Ісці да леснікоўны раптам расхацелася...

«Круцёлка языкатая! — не першы раз падумаў цяпер Яўхім, ступаючы побач з возам, што важка пакалыхваўся і рыпеў гужамі. — Ходзіць у зрэб'і падраным, а дзержыцца — як пані якая!»

Адсюль думкі Яўхіма пайшлі іншым кірункам. Думаў — як гэта недарэчна, бязглузда бывае часам у жыцці: адзін чалавек усёй душой табе прыяе, любіць бы яго ды любіць, а — не любіш, ён, дабрадзей, хіліцца да цябе, а ты абыходзіш, уцякаеш ад яго. А на другога і глядзець бы не трэба, не тое што блізка быць з

ім, а ты і глядзіш, і сам ліпнеш душой да яго. І дзіўна, і прыкра было ўспамінаць: калі Ганна была ў полі, хоць і стараўся не глядзець у той бок, вочы як бы самі сабою сачылі за ёй. Бачыў, як жне, хутка, спрытна, як, разагнуўшыся, зморана ўзняўшы рукі, перавязвае хустку, як ідзе — памалу, але ганарліва — да біклажкі, п’е. Не мог глядзець абыяк — быццам абдымаў яе ўсю: увішныя голыя рукі, гнуткі, як у вужакі, стан, усё яе спрытнае, жаданае цела. Хоць не блізка было — чуў, як асабліва, горача пачынае біцца кроў, як сохне ў роце.

Трэба ж было дайсці да такога — зза гэтай задзірлівай ганарліўкі вечарамі не сядзіцца ў хаце, начамі не спіцца. Выходзіш вечарам з адной думкай — як бы штосьці асобае — пабачыць, пачуць яе, і шкадуеш, злуешся, што яна рэдка ў гуртах дзяўчат і хлопцаў паяўляецца. Без яе як бы і вечар не вечар, і ноч не ноч. Калі ляжыш адзін у душнай хаце, сэрца аж гарыць, як падумаеш, што яна гэтым часам, можа, дзенебудзь з Дзятлікам грэецца...

І трэба ж было, каб так усё павярнулася. Калі так далей пойдзе, то на Яўхіма, чаго добрага, пальцамі паказваць стануць, смяяцца... І сама яна, можа, найпершая, разам з гэтым недарэкам Дзятлікам... Не, хай толькі паспрабуюць ці яна, ці хтонебудзь — пабачаць!.. Ён і так даволі цацкаўся з ёй, хопіць далікацтва — трэба, нарэшце, узяцца рашуча, каб пачула, з кім жартуе. Узяцца так, каб дух ёй заняло. Моцна, як мужчына!

«Прыціхне адразу. Памякчэе... Буць не можа, што не памякчэе!..» — падумаў Яўхім, раптам заўважыўшы, што пад’ехаў ужо к свайму гумну.

Сцяпан адчыніў вароты, і грузны воз пачаў асцярожна ўцісквацца ў зяпу гумна. Яўхім ішоў цяпер наперадзе воза, збоч каня, паглядваў, як уціскваецца воз, — і на момант на вочы яго насунулася цемра: воз закрыў святло, што біла з двара. Калі воз стаў сярод гумна, цемра ўжо як бы апала — святло зноў ішло ў вароты.

Пасля гарачага пяску і пылу дарогі нагам прыемна было чуць гладкі і цвёрды, як лёд, халадок току, свежую, прапахлую зямлёю і збажынею, прахалоду гумна, што хутка сушыла пот на целе і адзенні.

Яўхім адматаў вяроўкі, што завязвалі рубель ззаду, кінуў іх на ток, зняў рубель і стаў падаваць віламі снапы Сцяпану, які стаяў цяпер ускрай сціртьі, што стромка падымалася ў застаронку. Снапы ляжалі роўнымі радамі ўжо да палавіны страхі, а яшчэ не ўсё было звезена. Яўхім з радасцю падумаў, што поле

каля цагельні і ў гэты год не падманула, урадзіла ўсім Кураням на зайздрасць.

«Палавіну на продаж пусціць можно... У еты год, мабуць, у цане будзе — нават у Алешніках не вельмі ўрадзіло... Як спрытно прадаць, то разжыцца можно непагано! Каня купіць у Юравічах дабрэннага можно, цяліцу і шчэ й на лес адлажыць грошай... Бо як ні кажы, а будавацца прыйдзецца... Калі жаніцца, то і будавацца, не інакш... На сваю волю, на сваю гаспадарку, што б там не было!..

А жаніцца б — пара! Даволі пагайсаў, пагуляў — не да сівых жа валасоў жарабцом бегаць... Мо тады і зараза етая — Ганна — з галавы выйдзе... Выйдзе, канешне — у пустом полі ўсякая трасца расце!..»

Калі ехалі са Сцяпанам назад, пад порсткі ляскат драбінак Яўхім уявіў, як прыедзе з жонкай, маладой, багатай, якую ён прывязе аднекуль — можа, з саміх Юравіч, бо ў Куранях пад пару яму, вядома, нікога няма, — як павядзе яе на свой ганак пад зайздрослівыя позіркі куранёўскіх нявест... «І кеб яна, канешне, была пры етым, бачыла маю радасць, маю перамогу!» — зноў згадаў Яўхім Ганну.

Але радасці ён і тут не пачуў — нешта не было ахвоты ўводзіць у хату гэту невядомую жонку. Не радасць, а сум нейкі лажыўся на душу, шкадаванне — нібы з гэтым вяселлем не набываў, а траціў. Як ні хацеў, не мог уявіць гэтую сваю будучую жонку, чуў, бачыў адну Ганну...

Плынь думак ураз абарвалася, калі конь выкаціў калёсы к павароту дарогі, за якім можна было ўбачыць Чарнушкаву паласу. Яўхім з нецярплівасцю, з хваляваннем зірнуў — як там Ганна, яшчэ з Дзятлікам?

Дзятліка ўжо не было на Чарнушкавай паласе, а Чарнушкі ўсе жалі. Яўхім убачыў Ганну, што вязала сноп, і паспакайнеў.

## 3

Кладучы снапы на воз, Яўхім заўважыў, што Ганна адышла ад сваіх, узмежкам падалася да лесу.

«Адна!.. Куды яна? — мільганула ў ім цікаўнасць. — Па маліны, ці што?..»

Яўхім хвіліну сачыў за ёй, як бы чакаў адгадкі. Ён пачаў хвалявацца.

— Ты што? Аслеп? Не бачыш? — крыкнуў Яўхіму стары Корч, трымаючы на вілах сноп.

Яўхім схамянуўся, але думка пра тое, куды пайшла Ганна, ужо не адыходзіла. Стараючыся класці снапы ў час, ловячы тыя моманты, калі стары адварочваўся, каб узяць сноп, Яўхім падсачыў, куды пайшла Ганна, — думаў, як бы хутчэй далажыць воз, як адчапіцца ад бацькі, вырвацца туды, услед за ёю.

— Ну, хопіць! — нарэшце сказаў Глушакстары, і Яўхім, зачапіўшы рубель, які яму падаў Сцяпан, з радасцю саскочыў на пожню, стаў борзда ўцiскаць воз.

— Яшчэ разок! Яшчэ!.. Ггах!.. — камандаваў Яўхім Сцяпану, цягнучы вяроўку так, што аж гарэлі рукі. Тузануўшы вяроўку апошні раз, Яўхім, каб не развязалася, некалькі разоў спрытна зашмаргнуў канец яе на выцертым да бляску рублі, пляснуў брата па плячы.

— Да самага Мозыра можна везці!..

Ён тут жа нагнаў на сябе выгляд паслухмянасці і пакоры, насцярожана зірнуў на старога.

— Арэшынкі нагледзеў надысь... На абручы акурат... — Яўхім чуў, як маці ўранку прасіла старога набіць новыя абручы на бочку.

— Арэшынкі! Знайшоў час... — нязгодна прабурчаў стары.

— Час не час — да, ненарокам, ссякуць!.. Удалыя вельмі!..

Стары памаўчаў, і Яўхім зразумеў: хітрасць удалася! Можна пайсці!

— Бяры лейцы! — сказаў ён Сцяпану ўсё з той жа паслухмянасцю, нібы перадаваў бацькаў загад. — Не адвыкай ад навукі мужыцкай! — на ўсякі выпадак нагадаў ён брату звыклую бацькаву параду.

Стары не адгукнуўся на гэты сынаў хітрык.

— Кеб не бадзяўся там вельмі! Вернешся, абгледзь тут — мо калоссе дзенебудзь засталося, падбяры!

— Добра...

Яўхім пачакаў, калі бацька загадае ехаць, — упёршыся ззаду ў снапы, памог каню крануць воз, пасля таго як воз кракстануў, хітнуўся, рушыў, яшчэ некалькі крокаў прайшоў услед, усё памагаючы плячом.

Калі ж адстаў, Яўхім кінуў на бацьку зладзейкаваты позірк і, ледзь стрымліваючы вялікі прыліў нецярплівасці, хутка пайшоў к лесу. Ішоў ён не проста туды, дзе схавалася Ганна, а бліжэй к сваёй паласе — асцерагаючыся лішне цікаўных людскіх вачэй, думаў падабрацца к Ганне нявідна, лесам.

Чым бліжэй падыходзіў да лесу, тым мацнелі ў яго гарачае хваляванне, неспакой і нецярплівасць, якія гналі яго — хутчэй, хутчэй! У яго ледзь хапіла развагі, каб не пабегчы. Хутчэй, пакуль не адышла далёка, не прапала ў зарасніку: зойдзе, залезе ў гушчар — век не знойдзеш!..

Ледзь дапаў да лесу, парывіста нырнуў у жаданую засень: нарэшце можна пабегчы, не асцерагацца людскіх вачэй. Хацеў быў адразу ж кінуцца ў заснікі і раптам хіснуўся назад, як бы наткнуўся на дрэва: насустрач — трэба ж, каб так не ў час! — выскачыла Хадося.

— Яўхімко! — кінулася Хадоська к яму.

Гэта было так неспадзявана і недарэчна, што Яўхім момант як бы нічога не цяміў.

— Аа!.. Ты... чаго тут?..

— Так, зайшла от! Захацелася от, сама не знаю чаму! Я і зайшла! Нібы чуло сэрца!.. — Яна гаварыла з радасцю, але Яўхіму чуўся ў яе голасе нейкі затоены сум. І праўда, яна паскардзілася ўслед: — Я ўжэ так нудзіцца пачала!

Губы Хадоські вінавата скрывіліся. З гэтай журботнай, дзіўна застылай усмешкай яна ступіла да Яўхіма, хацела, відаць, прытуліцца да яго, але Яўхім адхіснуўся, павёў вачыма ўбок:

— Тты чаго?!. Людзей не сорам?

— А што мне — людзі!.. — адказала яна раптам з адчаем і нейкай рашучасцю, якая насцярожыла яго.

— Калі табе ўсё адно, то мне — не ўсё адно!..

Яўхім заўважыў, што твар яе блеклы, нездаровы, вочы запалі, шчокі адвіслі — нібы не дзяўчына, яблыка наліўное, а чэзлая падалка. І ўся яна — як ён дасюль не бачыў? — была нейкая зморшчаная, як бы хворая без надзеі, як бы без крыві — непрывабная, непрыемная. Нават агідная.

Нашто ён звязаўся з ёю, даў ёй хадзіць з ім, ліпнуць? Ну, што было тады ў саломе, тое было, бедаваць няма чаго. Але чаму ён пасля яшчэ важдаўся з ёю, плаціў за рэдкія ўцехі з ёю такой вялікай цярплівасцю, слухаў яе бясконцыя страхі, папрокі, напамінкі, суцішаў слёзы. Замест таго каб адразу адрэзаць, адшыць. Бачыў жа, як ліпне!.. Дык не ж, вясной трэба было яшчэ і ў свіран ноччу прывесці! Добра, што не падгледзеў ніхто!.. Дурань, дурань!..

— Не хадзі за мной! — сказаў Яўхім строга. — Хопіць!

— А ці я хаджу!..

— І так жанкі языкі чэшуць!..

— І ніхто не чэша!.. Выдумляеш ты!.. Здаецца табе! Ніхто нічога не кажа!

— Не хадзі!

Даўно б, здаецца, час зразумець, што не пара яму, што кончана ўсё, дык не ж — бегае, як сабака! І глядзіць, як сабака!

— Забудзь!

Ён хацеў пайсці далей. Але яна ўхапілася за руку, спалохана крыкнула:

— Яўхімкоо!

— Адыдзі, сказаў!

Яўхім хацеў узяць ад яе руку, яна не пусціла. Ухапілася другой за пінжак.

— Яўхімко, я... я... — Хадоська захліпвалася ад слёз.

— Пусці!

— Яўхімко! Я... Я — грубая!

Як ні быў рашуча настроен Яўхім, ён на момант абмяк.

— Што?

Яўхім паглядзеў на яе, зразумеў: кажа праўду. Вочы пачырванелыя ад слёз, скрыўлены болем рот, мокрыя, дрыготкія, як студзіна, шчокі — ва ўсім было відаць вялікае гора. Яна ўся курчылася, дрыжала ад бяды, ад пакуты. Вось, значыцца, чаму яна такая хваравітая!

Дабегаўся, дагуляўся! Дакруціўся так, што далей ужо няма куды! Як і выкруціцца, невядома! «Добра, што ніхто не бачыў, як у свіран хадзілі!» Убачаць, усе ўбачаць!.. Не адышоў у свой час, дурань!

Як жа цяпер быць? Што рабіць?..

— Нагуляла, значыцца?.. Цяпер шукаеш, хто вінаваты?..

— Яўхімко! — застагнала Хадоська. — Бойся Бога! Ці ж я шчэ з кім, акрамя цябе?

— А хто знае! Толькі — ад мяне не магло!

— Яўхімко!

Але Яўхім не хацеў ужо слухаць. Кінуўшы яе ззаду, ён, аднак, неўзабаве прыпыніўся, вярнуўся да яе, што ляжала, уткнуўшы галаву ў траву, захліпаючыся ад адчаю, прамовіў мякчэй:

— От што! Вазьміся за розум, калі не хочаш, кеб людзі смяяліся! — Ён пачакаў, калі Хадоська сціхне, але зразумеў, што не дачакаецца, азірнуўся, сказаў нецярпліва: — У Глінішчах е знахарыха...

Хадоська як бы і слухаць не хацела яго шчырай парады. От і жадай ты дабра ёй, спрабуй памагчы гэтай слязліўцы! Усё ж са злосцю дагаварыў:

— Яна ето ўмэнт!.. Выкіне!.. Чуеш?

Хадоська ў адказ толькі прастагнала. Яўхім пастаяў трохі, потым, як бы пабачыўшы, што важдацца больш няма ніякай карысці, пайшоў сваёй дарогай. «От чорт! — думаў ён, прадзіраючыся праз хмызняк. — Трэба ж, кеб так выйшло! Було ж кеб што асаблівае, кеб любоў там якая, ці што. Кеб хоць сох так, як па етай, па Ганне! Дак не ж, балаўство адно... А цяпер от думай! Чакай, чым кончыцца!..»

Настрой быў цяпер зусім не такі, як да сустрэчы з Хадоськай, сапсаваны быў настрой. Яўхім ад гэтага неўзабаве нават стаў у зарасніку, задумаўся: ісці ці не ісці цяпер шукаць Ганну? Ужо як і не было нядаўняй нецярплівасці і лёгкасці — да ўсяго прыйшла неспакойная думка: «Кеб хоць не расплакалася етая слязліўка перад Ганнай... Яны ж якніяк прыяцелькі...»

Але думаў, трывожыўся Яўхім нядоўга. Хадоська — то адно, а Ганна — зусім іншае. Што ж яму цяпер — і глядзець ні на кога няможна? Манахам стаць у маладыя свае гады? Ад таго, што нейкая дурніца прыліпла?

І наогул, хіба гэта мужчынская справа — за дзеўку думаць? Сама прыдбала, сама няхай і думае, як збыць!..

Яўхім палез далей праз зараснік — азірнуўся, прыслухаўся, дзе яна, неадчэпная Чарнушка?

## 4

Ганна, убачыўшы яго, не здзівілася, не занепакоілася — зірнула абыякава і зноў стала выглядваць, выбіраць маліны. Кусты былі цёмныя, густыя — яна разводзіла лісце, даставала ягаду за ягадай, клала ў жменю. Яўхім пастаяў, чуючы ў сабе недарэчную нясмеласць, падышоў да Ганны, сказаў лагодна:

— Памагці, можа?

— А мне і самой не трудно! — адказала яна, разумеючы яго няхітры падступ. Яна нават не зірнула на яго — як і раней, выглядвала, выбірала маліны.

Яўхім побач з ёй таксама пацягнуўся за ягадай.

— Усётакі з памочнікам спарней!

— Гледзячы які памочнік!..

— А хіба — паганы? — паспрабаваў ён пажартаваць.

— Добры, значыцца?.. Любіць аржаная каша сама сябе хваліць!

— А чаго і не пахваліць сябе, калі другія не хваляць. Можа ж, е за што!

— Уга, — толькі і сказала яна з насмешкай.

Яўхіму кінулася ў вочы, пад парванай ніжэй пляча зрэбнай кофтай, паска смуглай скуры, і горла перахапіла гарачая рэўнасць:

— Дзятлік твой, можа, лепей?

Ганна адказала спакойна:

— Як для каго...

На загарэлай, аж чорнай шыі яе пад зборам павязаных паркалёвай хустачкай чорных, з бляскам валасоў віўся лёгкі, дзіўна светлы пушок.

— Ні да чаго ўсё ето! — прамовіў ён як мог весела, бесклапотна.

— Што — ні да чаго?

— Выдумляеш, сама не знаеш што! Усё адно не выкруцішся!

— Ад цябе?

— Ад мяне.

— Уга! Спужаў! — Ганна засмяялася, і смех гэты распаліў упартасць у ім.

— А што ты такое асобае? Не дзеўка хіба?

— Дзеўкато дзеўка. Ды і куры, кажуць, не ўсе рабыя. Не адзінакія... Не адзінакія, можа, і дзеўкі?.. Не ўсе ж, мабуць, як... Хадоська?!

Яўхім ад нечаканасці аж анямеў. «Знае? Знае ўжэ! Чаму яна ўспомніла? Выказала ета слязліўка?»

Трэба было ўсё ж нешта рабіць, выбірацца з пасткі. Можа, яна гэта проста так, незнарок сказала? Можа, яна і не ведае ўсяго?

— Хадоська — што? — прамовіў ён насцярожана. — Хадоська, канешне... дзеўка... непаганая... Не супроць... Толькі — не да душы...

— Ужэ не да душы?

— А калі яна была да душы?.. Так толькі, што хілілася ка мне, а крыўдзіць шкода було... Не гнаў... Няхай хіліцца, мне што?..

Ганна зірнула на яго, як бы хацела пабачыць — праўду ці няпраўду кажа, — але не прамовіла ні слова, і Яўхім паспакайнеў: не знае.

Колькі часу рвалі маліны моўчкі. Як і Ганна, ён набіраў поўную жменю, ссыпаў у гладышку, што стаяла каля яе ў траве. Яна не хваліла яго, не пярэчыла, як бы і не заўважала. Калінікалі

было так, што рукі іх сутыкаліся, і, хоць яна адразу ж адхіляла свае, як бы дакрануўшыся да чагосьці непрыемнага, Яўхім чуў, як у ім горача, нецярпліва дрыжыць усярэдзіне, сохне ў горле. Яна была так блізка, такая завабная, такая жаданая нават у сваім абшматаным зрэб'і.

Чым больш Яўхім крадком глядзеў на яе, тым больш сохла ў горле, цяжэй было зноў завязаць гаворку.

— Ты от — не такая... Другая!.. — выціснуў ён, стараючыся гаварыць як бы жартам. — І што ў цябе, кеб знаць? Чым ты мяне прысушыла?

— Відаць, што высах! Адны шчэлепы!

— А хіба — не?.. Ты, мабуць, у глінішчанскай знахаркі зелле такое ўзяла!

— Пляцеш немаведама што!

— Я пляту? Сказала!..

Яўхім раптам абхапіў яе, адной рукой за плечы, другой — за шыю, неспадзеўкі горача зашаптаў:

— Ганна!.. Гануля!..

Ён хацеў прытуліць да сябе, але Ганна ўперлася яму локцем у грудзі.

— Ты — чаго ето?!. Пастой!

— Не, цяпер ужэ не абдурыш! — Ён паспрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка выйшла невяселая, крывая.

— А нашто мне абдурваць? — Яна паморшчылася, як ад болю. — Не цісні!.. Дыхнуць няма як!.. Чуеш?!.

— Усё адно — не пушчу...

— Дурны ты, гляджу я... — прамовіла яна, цяжка дыхаючы. — Ейбогу... Так з выгляду — галава, не качан... а розуму — як у дзіцяці...

— Пазычаць не стану... Хопіць на мяне...

Яна адразу ўхапілася за яго словы:

— Малавато... Не шкодзіла б і пазычыць... Вырас да неба, а як да каторай дзеўкі падысці — не знаеш... Думаеш, сілаю ўсё можно...

— А чаго ж — калі сіла е...

Яўхім пацягнуўся пацалаваць яе, але яна адкінула галаву — не дастаць.

— «Чаго, чаго»! — з насмешкай, як старэйшая, прамовіла яна. — Тота і відно, што розуму аж лішне...

Як ні цяжка было думаць Яўхіму, ён заўважыў, што гаворыць яна не таму, што ёй хочацца гаварыць гэта, што за насмешліва-

павучальнай гаворкай яе тоіцца незразумелая хітрасць. З панталыку збіць хоча, ці што?

— Ну, ну, хопіць! Позно вучыць!..

— А не шкодзіло б! — зноў падхапіла яна. Укалола: — Бо, мабуць, другія не навучылі?.. Хочаш, навучу?..

— Дарэмно стараешся! — сказаў ён тонам пераможцы, які добра бачыць чужыя хітрыкі.

— Хочаш, скажу, як... да мяне падступіцца?..

— Да цябе?

Хоць Яўхіму здалося, што і тут тоіцца нейкі разлік, словы гэтыя ўсё ж зацікавілі яго.

— Сказаць? — Ганна паварухнулася, папрасіла: — Ты пусці, а то так няёмка...

— І не думай!.. Ну, дак што трэба, кеб ты палюбіла?

— Што? Скажу!.. — Яна цвёрда зірнула яму ў вочы. — Адно — дабрата! Падобраму кеб!

— Аа... А я думаў, чорт знае што! — засмяяўся Яўхім.

Ён моцнай сваёй далоняй прыціснуў да сябе яе галаву, хацеў пацалаваць.

— Людзі!.. — жахнулася яна, як бы кагосьці заўважыўшы.

Але Яўхім і не азірнуўся:

— Вучаны! Не абдурыш!

Ён сілком пацалаваў яе ў шчаку. У той жа момант Ганна так ірванулася, што Яўхім ледзь утрымаў яе — але ўсё ж утрымаў. Бачачы, як пацямнеў ад натугі і злосці смуглы твар яе, ён з гордасцю ўхмыльнуўся: што, паспрабавала падужацца?

— Пусці!.. — глянула яна на Яўхіма гарачымі, поўнымі нянавісці вачыма.

Калі ён убачыў гэты яе позірк, у яго раптам як бы паслабелі рукі: можа, і праўда пусціць? Можа — лепей падобраму з ёй? Але хто гэта ў Куранях з добрых, сапраўдных хлопцаў саступаў дзяўчатам, рабіў, як яны хочуць? Мужчына ёсць мужчына... Яўхім бачыў, як б'ецца частачаста жылка ў яе на шыі, адчуваў плечы, грудзі, усё яе пругкае, дужае, жаданае цела, што столькі часу неадольна трывожыла, не давала ні ўдзень, ні ўночы спакою. Ён столькі трызніў аб гэтай хвіліне, і вось, нарэшце, Ганна — не ў сне, а ў яве — у яго руках!..

Не, хай хоць што, ён не пусціць яе! Хай знае, што такое Яўхім, яго абдымкі, другі раз можа будзе мякчэйшая, шанаваць больш стане. Ап'янелы ад яе блізкасці, Яўхім жыў цяпер нейкім дзікім шалам, дзікай радасцю сваёй сілы, улады над здабычай сваёй...

— Пусці!.. Плюну!..

Што яна магла яшчэ зрабіць, чым заступіцца за сябе, бяссільную перад ім? Бачачы, што ён, як і раней, не паслабляе рук, поўная крыўды, злосці на сваю бездапаможнасць, на яго перавагу, Ганна з роспаччу і нянавісцю плюнула яму ў твар, проста ў тхарыныя вочы!

Яўхім, як бы яго ўдарылі, тузануўся, гнеўна прахрыпеў: — А, дак ты!.. — са ўсёй сілы, з ярасцю сагнуў яе ў стане, кінуў на траву. Яны ўпалі разам — Ганна, горача дыхаючы, задыхаючыся, спрабавала вырваць з яго абдымкаў рукі, упіралася, як магла, у грудзі яму, збіраючы ўсю сваю сілу, білася адкінуць. Хто б мог падумаць, што яна такая дужая, гэтая ганарлівая Чарнушка, — распалены злосцю, яе гарачай блізкасцю, Яўхім ледзьледзь мог утрымаць яе.

І ён усё больш шалеў ад яе блізкасці, ад барацьбы з ёю. Ужо ні аб чым не думаў, у галаве быў нейкі гарачы, важкі туман. Было толькі адно тупое жаданне — не даць ёй вырвацца, не выпусціць, адужаць...

У шале барацьбы — сам не ведаў, як гэта здарылася — на момант узняў руку, каб выцерці вочы: чаму тады захацелася зрабіць гэта, ён і потым зразумець не мог. Можа быць, што вочы туманіў пот. А можа, нават пасма чуба ўпала на іх, не мог прыпомніць. Усё было як у трызненні. Ды і як тут успомніць, калі ў наступны момант здарылася такое, што ўраз забылася ўсё на свеце.

Ён управіўся яшчэ заўважыць, як яна спрытна выхапіла руку зпад яго, але апярэдзіць яе не змог. Не мог уцяміць нічога, як нос хруснуў. Ад болю аж зацяло дыханне. Яўхім мімаволі адхіснуўся — боль сляпіў, ламаў пераносіцу, лоб. Хапіўся рукамі, спалохана памацаў нос — думаў, пераламала. Не, нос быў цэлы, але ж боль, боль які ішоў!.. Трывожна , мацаючы твар, як бы шукаючы, Яўхім знайшоў над губамі штосьці ліпкае — ішла кроў.

«Кеб трохі, твар пакалечыла б, гадаўка!» — падумаў Яўхім, кідаючы на Ганну люты позірк. Яна была ўжо наводдаль, сядзела наўколенцах, трымала напагатове сук. Глядзела насцярожана, непадступна, гатовая ўскочыць, адбівацца, гатовая на ўсё.

Кофта ад пляча да грудзей была разадрана, і яна, перахапіўшы Яўхімаў позірк, прыклала да смуглай голай паскі руку.

Ледзь толькі Яўхім варухнуўся, Ганна прыпаднялася, ускінула сук.

— Падыдзі толькі!

Яўхім абыякава сеў.

— Трэба ты мне!..

Ён не маніў: яму і праўда не хацелася ўжо зноў пачынаць валтузню з ёю. Раптам прапала ўсякая цікавасць да Ганны.

— Як сабаку пятая нага, так ты мне трэба!..

— Рукі ледзь не папераломваў, кныр паганы!.. Засляпіў вочы і лезе, жарабец дурны!.. Думае, усё яму можно!.. Захацелася, дак пашукай кабылу, а ка мне не лезь!.. — Яўхім, і не гледзячы на яе, адчуў на сабе пагрозлівы позірк. Прамаўчаў. — Кохту парваў усю!.. У сяло хоць не паказувайся!..

— Кеб трохі, вока магла б выбіць!

— Магла б! Не лезь!..

«Чым яна ўдарыла? — прайшло ў Яўхімавай галаве. — Сука ў яе не было, сук яна потым узяла. Локцем, мабуць... Ніколі не думаў, што так можна ўдарыць локцем. Як шворнем усё адно!..» Яўхім падняўся, стаў абтрэсваць зямлю, травінкі са штаноў, з рукавоў. Ганна таксама ўжо стаяла, як і раней, наводдаль, усё з тым жа сукам.

— «Не лезь»! — пагардліва скрывіўся Яўхім. — За вярсту не падыходзь!.. Падумаеш — каралева!

— Каралева не каралева, а не лезь!

— Не етакіх бачыў...

— Дак і ідзі да етых, да лепшых! Чаго ж лезеш?

— І пайду! Па табе, думаеш, сохнуць буду! Аге, чакай! Дачакаешся, можа — на том свеце!

— От і добра! Хоць раз штось разумнае сказаў!

Яўхіма, здаецца, мала ўзрадавала гэтая пахвала. Ён кінуў абтрэсвацца, выцершы кроў зпад носа, сказаў, злуючыся:

— Ну, от што вы такое, Чарнушкі, што нос дзярэце? Ну, от што вы перад намі? Нішто, ноль, можна сказаць! Галота дзіравая...

— От і ідзі да багатых! Можа, і знойдзеш каралеву!

— І пайду! Дазволу не папытаюся! У Глінішчы, у Юравічы пайду, куды захочу! Такога цвету па ўсяму свету, і не такіх, як ты! Любая на багацце — як муха на агонь! Ідзі, выбірай, абы толькі ахвота была!

Ганна не ўтрывала, падчапіла кпліва:

— Ахвота ж, здаецца, е!

Яўхім прамаўчаў, як бы паказваючы, што на ўсякае глупства не хоча звяртаць увагі. І ўсё ж кончыць гаворку тым, што ён толькі што сказаў, здалося яму мала — няхай не пасміхваецца,

не думае, што ўзяла верх, што ён паддаўся ёй, адступаецца зусім.

— Захочу — будзеш маёй! Усё адно не выкруцішся!

— Уга! Спужалася! — засмяялася Ганна, але адразу ж змоўкла, заўважыўшы, як грозна зірнуў Яўхім.

— Глядзі! — папярэдзіў ён і пайшоў ад яе, важка топчучы траву.

5

Пад вечар мачыха ўбегла ў гумно, задыханая, раскудлачаная, яшчэ з варот кінула ўзрушана:

— Чуў?

Чарнушка, што падмятаў ток, азірнуўся, спакойна запытаўся:

— Што?

— Што?! Пытаешся!.. Усё сяло гудзе! Адзін ты не знаеш нічога! Сядзіш тут, як сляпая сава!..

— Дык што такое? Скажы толкам!

— Што? А табе б самому знаць трэба! Ды мне расказаць — не мая дачка, твая!.. Бацько!.. Глядзеў бы лепей, дак не пытаўся б!

— Ды можаш ты сказаць палюдску?

— Палюдску? Ой, Божа ж! Язык просто не паварочваецца!.. — Мачыха ледзь не залямантавала: — Яўхім Карчоў — Ганну...

— Чаго пляцеш?

— Пляцеш? Кінь мятлу ды выйдзі на вуліцу, паслухай!.. Хто дзе стаіць — каля плота, каля калодзезя — ва ўсіх толькі і гаворкі!.. Адзін ты — як цецярук!

Чарнушка адразу спахмурнеў, згорбіўся.

— Калі ў лес па маліны хадзіла... — паясніла мачыха. — Бачыў, якая прыйшла?.. Кохта якая была?..

Чарнушка слухаў, як нямы. Як у тумане, згадалася яму, які дзіўны выгляд быў у Ганны, калі вярнулася з лесу. Твар узрушаны, вочы неспакойныя, чамусьці адводзіла іх убок, старалася трымацца асобна. Калі вязала сноп, рукі як бы не слухаліся, і звязала пагана: ён сказаў ёй, каб перавязала... І кофта, кофта была падраная, ён сам бачыў. Праўда, яна сказала, што за сук знянацку зачапілася, але — хіба яна не магла зманіць?..

— Горачко ж, гора, — залямантавала ціха, каб не чулі злыя людзі, Чарнушчыха. Яна, аднак, тут жа перайшла на іншы, ра-

шучы лад. — Але хай ён не радуецца, Корч руды! Хай не думае, што як ён багацей, то яму і ўсё можна! Мора яму па калено! Закаецца! Закаецца ён — жыць я не буду! У суд, у суд на яго! У цюрму яго, кныра рудога! У цюрму! У Сібер!

Цімох, нарэшце, нібы ачнуўся, запытаў:

— Дзе Ганна?..

— Ганна?.. Пайшла па картоплю... накапаць...

Чарнушка кінуў у куток мятлу, выйшаў з гумна; хутка, з не ўласцівай яму паспешлівасцю рушыў на загуменне — так што мачыха ледзь упраўлялася за ім. Выйшаўшы за гумно, за пустую загуменную дарогу, ён на другім баку агарода каля самага жардзянога плота ў першым цёплым поцемку ўбачыў дзве постаці, што корпаліся на бульбянішчы.

Ганна была не адна, побач стаяла Хадоська, але Чарнушка быццам і не заўважыў яе. «Усё адно, нашто хаваць, калі ўсе Курані гавораць...» Ды калі б было і так, што ў сяле ніхто не ведаў бы, Чарнушка, відаць, усё роўна не спыніўся б ад таго, што побач хтосьці чужы, — ён не мог чакаць ні хвіліны.

— Праўда ето? — грозна стаў ён перад дачкой, якая здзіўлена трымала корч бульбы.

— Пра што вы, тато?..

— Пра што? — Чарнушка неспадзявана абмяк, жаласна скрывіўся. Губы яго пакрыўджана і бездапаможна задрыжалі — пра што? Хацеў сказаць і не мог, замест слоў адно пачулася ў горле пакутнае булькание.

На падмогу прыйшла мачыха.

— Сяло ўсё кажа, што Яўхім Карчоў цябе... ссільнічаў...

Бульбяны корч выпаў з Ганніных рук. Яна збянтэжана зірнула на Хадоську, якая раптам стала белая, як нежывая. «Усе знаюць! Усё сяло кажа... — праплыло ў галаве ў Ганны. — Ссільнічаў!.. Але як яна пабялела, Хадоська!.. Ссільнічаў, кажуць!..»

— Няпраўда. Плёткі ўсё, — нарэшце ціха прамовіла Ганна.

Бацька нібы не паверыў.

— Плёткі?

— Плёткі. Брэшуць.

Бацькавы губы перасталі дрыжаць. Ён паспакайнеў.

— Ну, калі так...

— А кохту хто парваў? — не паверыла мачыха.

— Хто ні парваў — толькі не було таго. Брэшуць.

— Не було, значыцца?

— Брахня, кажу.

— А можа, ты баішся? — не здалася, як бы пашкадавала, што ўсё аказалася толькі плёткай, мачыха. — Мо ён пастрашыў?.. То ты не бойся! Цяпер не тое, што колісь, цяпер — парушыў дзеўку, дак жаніся, не адкручвайся! А не — дак перададзім у суд. Так прыпаяюць, што на том свеце каяцца будзе!

— Не було, кажу!

— Не було?..

— От бо! Што ж мне, бажыцца трэба!

— Калі не було, то не було! — адказаў прымірэнча, з палёгкай бацька. Гэтыя словы больш адносіліся ўжо не да Ганны, а да мачыхі: бацька канчаў прыкрую гаворку. — От табе і «ўсё сяло гаворыць»! Мало што выдумаюць, калі язык засвярбіць!.. Хадзем!

Ён пайшоў па сцежцы к гумну ўжо ціха, спакойна. Мачыха ж брыла без ахвоты, як бы не высветліўшы ўсяго...

Пасля таго як яны адышлі, Ганна і Хадоська трохі стаялі моўчкі. Ганна ўспамінала размову з бацькам, з мачыхай, не магла супакоіцца — трэба ж, каб нагаварылі на яе такога! Ссільнічаў! — ахвота ж людзям языкамі плясці!.. Хацеў, спрабаваў, ды, мусіць, і цяпер нос свой мацае... І ўсё ж хоць і не вінавата была, думаць, што ідзе, паўзе па сяле такая слава пра яе, было крыўдна: нібы гразёю ні за што ні пра што абпэцкалі!

Яна раптам заўважыла, што твар у Хадоські вельмі ўзрушаны, няшчасны, і ёй стала шкада «канаплянкі».

— Не було нічога. Праўду сказала.

— А я думала — мо... бацькі баішся?.. — вінавата сказала Хадоська. Яна выціснула: — А хто ж... кохту парваў?..

— Ён — Корч еты...

— Такі... чапляўся?..

— Чапляўся. Толькі — не дабіўся нічога.

— Чапляўся!..

Хадоська неспадзеўкі адвярнулася, закрыла твар далонямі, затрэслася.

— Ну, чаго, чаго ты! Не було ж нічога... Ейбогу, не було... Раўнуеш? От, дзівачка!.. Не трэба ён мне! Падумаеш, дабро якое!.. Бяры яго сабе!..

Яна ўжо не ведала, што сказаць: Хадоська не слухала, аж заходзілася ад плачу. Са слязьмі яна раптам і пайшла ад Ганны, не выбіраючы сцежкі, спатыкаючыся на бульбоўніку, пералезла цераз плот і ценем пасунулася па полі. «І трэба було мне вякнуць, што чапляўся ён!» — пашкадавала Ганна, з трывогай сочачы за яе постаццю...

Абтрэсваючы зямлю, ababіраючы бульбіны з нітаккарэнняў, яна думала то аб тым, якое недарэчнае гэта Хадосьчына каханне, то — найбольш — пра непрыемную плётку. Было ці не было, а гразь гэтай плёткі, чула яна, надоўга прыліпне, не хутка і не ўсе паверацць, што нічога не было, што Яўхім ды не дабіўся. Паспрабуй дакажы, што няпраўда, — будуць гадка пасміхвацца, абзываць будуць, глядзець, як на абпэцканую. Не сама запэцкалася, дык другія запэцкалі, а гразь усё ж на табе. І будзеш з ёю. І не змыеш. Хто паверыць, той паверыць, а хто не, той — не!..

І няхай не верыць, хто не хоча! Што яна — жыць не будзе, калі хто будзе думаць пагана! Што ёй — жыць не жыць ад дурной плёткі? Як людзі да яе, так і яна да іх! Добра — дык добра, а не — дык не! У яе свой гонар ёсць!..

Ганна ўзяла лазовую каробку, закінула за плечы і цвёрда пайшла сцежкай к загуменнай дарозе, к гумну, к хаце. Так, бедаваць попусту яна не будзе! Не будзе гараваць без віны, не дурная! А людзі — як хто да яе, так і яна да іх! Сумная яна не будзе. Не з такіх!

Усё ж, як яна ні хацела, трывога не пакідала яе, прымушала глядзець наперад з непакоем і абераджлівай насцярожанасцю. Ужо не так проста, як дагэтуль, не лёгка і не бесклапотна думалася пра тое, што вось раптам хтонебудзь сустрэнецца, — як паглядзіць на яе, як яна — на яго? Раней пра гэта яна наогул не думала, а цяпер, падыходзячы к дарозе за гумнамі, нават прыцішыла хаду — пачула, хтосьці едзе на кані.

Зводдалек пазнала — трэба ж так здарыцца — ехаў на Гузе Васіль. Хвалюючыся, выйшла на дарогу, пачакала, пакуль не пад'едзе. Сустрэчы з Васілём і чакала і баялася: ведала, які раўнівы, асабліва да Яўхіма. І вось, звесіўшы босыя ногі, бялеючы адзеннем, Васіль акурат ехаў.

Чуў ці не чуў ён? А калі чуў — ці паверыў? Няўжо мог паверыць?.. «Мог — раўнівы, недаверлівы!..» — прайшла ў галаве ў Ганны неспакойная думка. Але другая адразу ж запярэчыла: «Не, не мог, не павінен верыць другім». Ёй — адной — верыць павінен! Калі не паверыць, не супакоіць яе ён, хто ж тады?

Бачыла, што і ён ужо заўважыў яе, занепакоіўся, першы момант знянацку нават каня прыпыніў. Потым строга штурхнуў каню ў бок нагою, панура, не гледзячы на яе, стаў набліжацца. Ганна насцярожылася.

Калі Васіль пад'ехаў, Ганна раптам убачыла, што ён не збіраецца спыняць каня — гаварыць нават не хоча! Яна ступіла наперад каню, спыніла.

Васіль, як і раней, не глядзеў на яе. Маўчаў. Маўчала трохі і яна, пакрыўджаная, абражаная.

— Чуў? — сказала, нарэшце, з выклікам.

— Чуў...

— Знаеш ўсё, значыцца?.. Паверыў?

— Гавораць — дак штось е... Дыму без агню не бувае...

— Аге, значыць, було ўсё?

— А можа, не? — ён не пытаўся, ён быў упэўнен.

— Дак ты лепей знаеш!

— Лепей не лепей. Другія бачылі, сказалі...

— Хто — другія? Хто — бачыў?!

— А не ўсё адно? Хто бачыў, той бачыў.

Ганна не знайшла, што і сказаць. Ад крыўды, ад злосці на яго ў грудзях паліла, думкі блыталіся.

— Дак, можа, ужэ і не прыйдзеш? — сказала як бы з насмешкай.

Ён трохі памаўчаў.

— А чаго хадзіць?.. Няхай другія цяпер ходзяць!.. — Ён скрывіўся з крыўдай і, заўважыла яна, з гідлівасцю. — Багацейка! Карчыха!..

— Дурань!!!

— Канешне. Дурны. Усе бедныя дурныя. Корч — разумны!..

— Разумнейшы! У сто, у тысячу разоў!

— Тота і круцілася ля яго! І дакруцілася!

— Не твой клопат! Не твая бяда! А мне, можа — анігадкі! Я, можа, і рада?!

Яна ўзрадавалася, калі ўбачыла: такі ўкалола. Аж засоп важка ад крыўды. Так яму і трэба!

— А то гавораць, — прамовіў ён, нібы спрачаючыся з некім, — можа, не па сваёй ахвоце? Можа, ён сілаю?.. — Васіль хмыкнуў. — Сілаю!..

— Падобраму, па згодзе ўсё було! — пацвердзіла яна. І раптам не вытрывала, сказала шчыра, з болем, з пагрозай: — Я етаго табе не забуду! Прыпомню калінебудзь!

Яна адразу адвярнулася і пайшла з дарогі на гумнішча. Васіль і не зірнуў, ткнуўшы босай нагой у бок Гуза, падумаў са злосцю: «Бач, шчэ грозіцца: «Не забуду!» Пакрыўдзілася шчэ!.. Сама такое вытварыла, а шчэ крыўдзіцца!..»

Ён не заўважыў, як конь прайшоў загуменную дарогу, як завярнуў на ўзболатак. Успамінаў слова за словам яе гаворку, тое, што казаў Зайчык Іван, зазірнуўшы к яму ў гумно: «Не

першы раз ето! Даўно ўжэ склешчыліся, толькі што не бачыў ніхто... Шчэ як у Юравічах сядзеў, пачалося!..»

«От, хітрая! — успаміналіся Зайчыкавы развагі. — І з ім круцілася, і табе галаву дурыла. Думала, пэўне, як не той, дак еты!..» Калі згадваў гэта, сэрца пякло крыўднае, брыдкае: а ён верыў ёй, верыў усяму, што гаварыла! Казала — паганы Корч, насміхалася нават, а сама тым часам мецiла на Карча, круціла з ім. Замуж, не інакш, сабіралася...

«Падобраму, па згодзе ўсё було!» — прыйшлі яму на згадку Ганніны словы, і ён аж плюнуў: і з ім, з Васілём, абдымалася ды цалавалася, і з другім таксама — «падобраму, па згодзе»! — І шчэ крыўдзіцца! Шчэ грозіцца!.. Сучка ты, сапраўдная сучка — не што іншае!..»

Спутаўшы Гуза на куп'істым узболатку, Васіль махнуў аброццю на каня, адагнаў яго трохі і ўжо звыклай хуткай хадою накіраваўся ў сяло, калі прыкры, цвярозы одум запыніў яго: спяшацца сёння не было куды. Спяшаўся ён другія вечары да яе.

Ён пастаяў, падумаў, што лепш было б, каб у Курані можна было і не ісці зусім. Застацца тут, на ўзболатку, накрыцца світай і заснуць, забыць пра ўсё на свеце. Ён панура павёў вачыма па знаёмых цёмных стрэхах, неспадзеўкі спыніў позірк на вострых абрысах дрэваў ускрай сяла — то былі Чарнушкавы грушы, — і ўжо не гнеў, не злосць, а шкадаванне, цёплы боль ляглі знянацку на душу. Боль страты. Яна ўжо не яго, яна — чужая. Ён страціў яе. Ён адзін, зусім адзін.

«Ну і няхай! — як бы запярэчыў ён сабе, свайму шкадаванню. — Е аб чым бедаваць! Хто яна мне такая? Пагуляў, пастаяў каля плота — і ўсё. Мало з кім пастаяць можно — дзевак у сяле вунь колькі!»

«Усё адно ніякага толку не було б ад етага стаяння... Не пара яна мне, усё адно. Толькі і дабра таго, што краса, — а хіба з той красы жыць будзеш, пабагацееш!.. Е аб чым гараваць — захачу, заўтра хоць з Верай Пракопавай загуляю. Не ёй, не Ганне раўня: нешто прывязе ў хату. Зямля каля цагельні, мо перападзе трохі...»

Так, шкадаваць не было чаго, гэта Васіль ведаў. І ўсё ж гора страты — як ні дзіўна — не прападала. І хоць дзяўчат многа было, і нават лепшыя, не знікала адзінота. І было прыкра глядзець на цёмныя знаёмыя стрэхі, і не хацелася ісці ў сяло. І не пайшоў бы. Але помніў: там выглядае, чакае маці, дзед Дзяніс

прыслухваецца, ці не чутны яго крокі. І Васіль нявесела пацягнуўся к сялу.

Стары Глушак, затоены, надзьмуты, маўчаў праз усю вячэру; толькі скончыўшы есці, памаліўшыся на абразы, кінуў на Яўхіма грозны позірк:

— Доўго шчэ будзе ето?

— Што?

— Па дзеўках доўго гайсаць будзеш?

— Хіба ўжэ і падысці няможно?

— Падысці! Блізко вельмі падыходзіш, жарабец гуляшчы!

Яўхім прамаўчаў на гэту абразу, каб не гнявіць старога, які больш за ўсё не цярпеў пярэчанняў, але Глушака маўчанне сына ўзлавала, здаецца, не менш. Стары аж прасіпеў ад злосці:

— Гайсаеш, пакуль не прынясе ў пялёнках байструка! На пацеху бацьку і матцы!

У Яўхіма ўсярэдзіне пахаладзела: «Дазнаўся пра Хадоську! Не інакш!.. Выказаў хтонебудзь ці сама, можа, расплакалася!..»

Тоячы пільны позірк, чакаючы, што будзе далей, Яўхім прамовіў стрымана:

— А вы не слухайце ўсяго — мало хто чаго напляце...

— Праўду кажуць! — абрэзаў яго стары Глушак. — Сам знаю!

Яго грубы тон: «Як з парабкам гаворыць!» — запаліў Яўхіма.

— Дак, можа, вы болей за мяне самога знаеце?

Глушак дзіўна, з сутаргай каўтнуў, як бы хацеў і не мог пракаўтнуць штосьці — аж маршчыністы сухі кадык напружыўся. Грозна крыкнуў:

— Жаню!!!

Яўхім пачуў, як у ім расце злая ўпартасць.

— Можаце жаніць. Толькі не крычыце, як на парабка!

— Зараз жа!

— Можно і зараз. Мне ўсё адно... Я і сам думаў ужэ...

Маці, якая, прыбіраючы пасля вячэры посуд, сачыла за іх гаворкай з трывогай, адразу ўзрадавана адгукнулася:

— Пара! Дзякуй Богу, узяўся за розум! — Было відаць, што ёй вельмі хочацца патушыць спрэчку — пахваліўшы сына, яна тут жа лагодна падтрымала старога: — А то і праўда, дакуль слухаць бацьку гаворкі етыя, што Яўхім тое, ды Яўхім другое? Думаць ды перажываць за цябе на старасці!.. — Яна тут жа параіла: — Матруну Хвелькаву з Алешнікаў! Прыданні скрыня поўная! Карову даюць! Хвельчыха сама казала!..

— Пастой! Раскудахталася! — спыніў яе Глушак. Ён наставіў пранізлівыя тхарыныя вочы на Яўхіма. — Значыць, надумаў?

— Надумаў...

Глушак быў ужо гатоў памірыцца з сынам, але Яўхім, як бы стараючыся ўхіліцца дачаснага прымірэння, папярэдзіў:

— Жанюся. Толькі — адно...

— Што?

— Толькі — кеб з тым, з кім хочу!

Глушак насцярожыўся:

— Дак, можа, і выбраў ужэ?

— Выбраў...

— Аге. — У хаце стала вельмі ціха, Глушачыха каля прыпечка, Сцяпан за сталом глядзелі то на аднаго, то на другога. — Цяпер такія парадкі, што слухаць бацькоў не трэба! Лішняе — слухаць бацькоў!.. Каго ж выбраў?

Бацькаў позірк чакаў, патрабаваў і разам з тым — загадзя — асуджаў, і Яўхім, хоць у думках гатоў быў да гэтай размовы, нечакана адчуў, што баіцца. Ён, аднак, адагнаў боязь —як рабіў звычайна, цяжкі вузел рассек адразу:

— Ганну!..

— Якую?

— Чарнушкаву...

Глушак не паверыў:

— Чарнушкаву?!

— Яе.

Глушак глянуў на сына, як на звар'яцелага. Рука сама сабой перахрысцілася на абразы.

— Ету?.. — Глушак каўтнуў кадыком, хацеў знайсці слова, каб назваць яе, як трэба, і не знайшоў — быццам не было такіх слоў. — У цябе... усе капылы? — запытаўся ў сына.

— Не згубіў.

Па тым, як сказаў Яўхім, было відаць, што ён будзе цвёрда трымацца свайго.

— Ты доўго думаў?

— Доўго. Адну яе хачу.

— Адну яе! — Глушак загарэўся, закіпеў: —Разарыць захацеў! Пусціць па свету! З торбай!..

— Тато! — хацеў супакоіць яго Яўхім, але старога Глушака гэта толькі ўзлавала:

— Па свету! З торбай дранай! «Дайце, людзі!.. Скарыначку!» На старасці!..

— Не кажыце, чаго не трэба!

— Маўчы! Указ знайшоўся! Рано ўказваць стаў! Шчаня!.. — Глушак так зірнуў, што Яўхім мімаволі прамаўчаў. — Дажыў! Выгадаваў! Гадаваў, ждаў падмогі! І выгадаваў! Дачакаўся!

Злосць яго на Яўхіма змянілася здзіўленнем і крыўдай:

— Абкруціла! Узяла! Галадранка, а абкруціла як!.. І рукі, і ногі звязала! Бейбусу такому!

— Я сам выбраў. Яна шчэ і не знае.

— Не знае. Абкруціла, прыбрала! Дый не знае!

— Не знае. Шчэ, можа, і не пойдзе.

— Не пойдзе! Даўно, пэўне, не спіць, глядзіць! Калі на чужое дабро ўссесці!.. Толькі ж — не дажджэцца!

— Аддзяліце, калі хочаце. Але — адну яе.

— Ету круцёлку!.. — зноў прарвала Глушака. — Ету пакідуху! К сабе ў хату! На сваё дабро!.. Блудніцу ету!

— Яна — не блудніца! — заступіўся за Ганну Яўхім.

Сцяпан сказаў горача, непахісна:

— Яна — бедная, праўда. Але лепей за яе ў сяле — няма!

— Няма! Маўчы ты, смаркач! — уз’еўся Глушак ужо на Сцяпана. — Не ўтыкай нос, куды не просяць!

— Бо вы, тато, ні за што нагаворваеце!

— Ні за што! Я — ні за што? Чулі? — Глушак папраўіўся, кінуў позірк на старую. — Чула?!

— Ціхо ты, Халімонко! — паспрабавала адно супакоіць жонка. — Людзі пачуюць!..

— І няхай чуюць! Няхай усе знаюць, якія дзеці ў Глушака Халімона!.. Каго выгадаваў на сваім хлебе! На радасць сабе!

Ніхто нічога не адказаў. І ад таго, што ўсе ўжо маўчалі і спрачацца не было з кім, стары таксама прыціх. Але спакой, з якім сказаў ён апошнія словы, толькі лепш выдаваў цвёрдасць яго адказу Яўхіму:

— Аб етай кеб і не думаў! На ету дазволу майго, бацькаваго, не будзе!

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

Маўклівая вайна ў Глушаковай хаце, якая пачалася з таго вечара, калі Яўхім аб'явіў, што хоча жаніцца з Ганнаю, ішла без перамір'я некалькі тыдняў. Ні стары Глушак, ні Яўхім, ні хто іншы не заводзілі больш спрэчак, але маўклівасць, якая цяпер заўсёды была ў хаце, нядобрая маўклівасць і ўпартыя цвёрдыя позіркі, якімі часам перакідваліся бацька і сыны, лепш за ўсё гаварылі аб непрымірымым размежаванні ў сям'і.

Вайна, якую вялі Глушакі, была вайной нерваў, вайной цярплівасці. І трэба сказаць, што абодва бакі — і Яўхім, якога горача падтрымліваў брат, і бацька — вялі яе са ўсёй упартасцю, з усіх сіл, верачы, што другі бок адумаецца, нарэшце, здасца. Гэтая маўклівая ўпартасць усё ж найбольш адбівалася на маці, якая то схілялася да старога, то да дзяцей, хацела і не магла прымірыць іх і часта плакала ўпотай.

Здавалася, што міру ў хаце ніколі ўжо не будзе, але неспадзявана ўпарты стары не вытрываў, скарыўся.

— Хай будзе патвойму, — памаліўшыся, адышоўшы ад абразоў, сказаў ён Яўхіму. — Не мне, а табе жыць з ёю!..

Жонка, пачуўшы гэта, узрадавана павяла вачыма на сына, як бы хацела парадавацца разам з ім. Але Яўхім нават не варухнуўся — як стаяў каля люстэрка, прычэсваючы чуб, так і застаўся стаяць.

Маці перахрысцілася на абразы:

— Дзякуй Богу!..

Яна не наважылася сказаць больш ні слова і нават пайшла з посудам к печы нясмела, асцярожна, баялася лішнім словам, няўдалым рухам узлаваць затоенасць старога.

— Чаго маўчыш? — кінуў Глушак сыну.

— А чаго гаварыць. Я ж казаў ужэ.

— Казаў! — Глушак не ўтрываў, каб не папракнуць: — Няма таго, кеб як у людзей — у хату дабро!.. Дак — з хаты!..

— Нічога з хаты не пойдзе.

— Не пойдзе! Пусці толькі адну галячку, дак адразу наляціць цэлая гайня! І не агледзішся, як расшматаюць усё! Распетраць умэнт!

— Не распетраць!..

— Не мог узяць, як людзі, — не хацеў ніяк супакоіцца бацька, — кеб з дабром якую!

Слухаючы бацькавы скаргі і папрокі, Яўхім адчуваў, што бацька саступіў яму, здаўся зусім, што сіла і права цяпер на яго, Яўхімавым, баку. Нараканні старога толькі больш выяўлялі яго слабасць. Разумеючы гэту сваю сілу, Яўхім тонам загаду перарваў старога:

— Хопіць ужэ! Лепей падумайце — каго за сватоў узяць!

— Аге, праўда! — нясмела, але ахвотна падтрымала Яўхіма маці.

— Сватоў — етаго дабра — знойдзецца!..

—А ўсё ж абыкаго ўзяць — не гонар!

— Возьмем не абыкаго!.. За сватоў будуць Пракоп і Аўдоцця, — сказаў бацька, як гавораць пра тое, што ўжо вырашана, і Яўхім адзначыў сам сабе: стары загадзя аб усім падумаў.

— А калі — у сваты? — запытаў Яўхім усё тым жа патрабавальным тонам.

— Не церпіцца дужа! Перахопяць, можа?

— Перахопяць не перахопяць. Адкладуваць — не рацыя!

— А, усё адно! Хоць — у ету суботу!

Стары надзеў шапку, злосна патупаў у кутку каля лаўкі, чагосьці шукаючы, — не знайшоў, памкнуўся пайсці на двор. Каля дзвярэй затрымаўся:

—Мо так і трэба. Цяпер усё — не палюдску!..

Выходзячы, ён моцна стукнуў дзвярыма.

## 2

Ганна ўбачыла Глушакоў з агарода, на якім брала буракі, — як выпрасталася, трымаючы бурак у руцэ, так і засталася стаяць, не зводзячы здзіўленых вачэй з двара. Хоць не пыталася, з аднаго позірку здагадалася, зразумела, чаго прыйшлі неспадзяваныя госці. Ды і як жа было не зразумець: Глушакі ішлі ўдвух, бацька і сын, — Яўхім красаваўся святочнай паддзёўкай, блішчаў прылізаным чубам, стары трымаўся так важна, што здалёк было відаць — чалавек ідзе не па абыякой справе. І пры іх — пануры, барадаты маўчун Пракоп і Сарока Аўдоцця — сваты, не інакш!

Ганна бачыла, як на ганку Сарока штосьці сказала старому Глушаку, але той толькі кіўнуў, каб не затрымлівалася, заходзіла хутчэй, і яна, нагнаўшы на сябе выгляд чалавека бывалага і сур'ёзнага, — можаце, маўляў, не сумнявацца, справу сваю ведаю, — упэўнена падалася ў хату. За ёй увайшлі і іншыя.

Здзіўленне прыходу Глушакоў у сваты было для Ганны першы момант такое вялікае, што яна як бы забылася на ўсё, не было нават заклапочанасці ці неспакою. Але за гэтым яна заўважыла на вуліцы некалькі маладзіц, што мігам зляцеліся к яе хаце, паглядвалі на вокны, перагаворваліся ўражана, — убачыла сябе як бы збоку, пад чужымі позіркамі, і ёй стала неспакойна. Прыцягнуліся — нешта трэба рабіць з гэтым, нешта сказаць... Трэба будзе ў хату ісці, паказвацца, стаяць перад імі... Перад сватамі, перад старым Карчом, перад Яўхімам!.. Стаяць, чакаць, што надумаюць бацька, мачыха, якую долю вызначаць ёй!..

Чым лепш даходзіў да Ганны сэнс таго, што звалілася на яе, тым трывожней станавілася на яе душы — клопат здаваўся ўсё больш важкім, усё больш грозным. Яна не толькі не хацела гэтага неспадзяванага сватаўства, ёй цяпер было страшна падумаць пра замужжа з Яўхімам, якога яна пасля здарэння ў лесе — хоць нізашто не паказала б яму — дзіўна баялася! Яе асабліва трывожыла тое, што Глушакі сваты былі не абыякія, ім не так проста даць гарбуз, паказаць, як ісці туды, адкуль прыйшлі, ні з чым, — з Карчамі ў Куранях усе лічыліся, і бацька і мачыха таксама...

Як жа адступіцца ад гэтых сватоў, ад бяды гэтай, — каб бацька зразумеў, ухваліў яе, каб мачыха не асудзіла? Захопленая думкамітрывогамі, узрушаная невядомасцю, якая прыйшла к ёй разам з Карчамі, Ганна ўсё стаяла на агародзе, апусціўшы рукі з закасанымі рукавамі, не выпускаючы бурака.

Яна ўбачыла, што з хаты выйшаў, ідзе да яе бацька, мімаволі азірнулася ў той бок, дзе жыў Васіль. На той час, здалося, забыла абразлівую спрэчку, гатова была даравáць усё, такім любым пабачыла раптам бераг, ад якога адрывала, несла яе кудысьці злая плынь. Вечары з туманам на балоце, вільготны плот, нецярплівае цяпло яго абдымку!..

Але на Васілёвым селішчы нікога не было.

Бацька падышоў ціхі, разгублены, хвіліну маўчаў, не ведаў, як пачаць.

— Кінь буракі ды прыбярыся... Сваты там... — Ён не адразу дадаў: — Корч і яго Яўхім...

Ганна не адказала. Бацька паглядзеў на яе з любоўю, са шкадаваннем, уздыхнуў:

— Сядзяць за сталом... Цябе ждуць...

Ён гаварыў так, што было чуваць — шкадуе яе і спачувае, але не ведае, што параіць, як памагчы. Ліха ж яго ведае, што прынясе дачцэ гэтае багацейскае сваяцтва, пра якое і не думала-

ся і не гадалася, — як яно там будзе ў іх з карчоўскім хлопцам? На дабро, на шчасце ці на паганае?

— Не хачу я... — шчыра сказала Ганна.

— Баішся?

— Не хачу... Не хачу ісці...

— От прыперлася яно!.. — як бы сам сабе, раздумліва прамовіў бацька. — І кеб хто другі, а то ж — Карчы!..

Ганна, якая заўсёды так добра чула бацькаў настрой, заўважыла: за клопатным роздумам пра яе таілася ў бацьку ганарліва-задаволеная думка — завіталі, кланяюцца, просяць, багацеі! Ёсць, значыцца, і ў яго скарбы, не горшыя за кублы Карчовы!

— Дак што ж рабіць? — нібы папрасіў парады ён. — Што сказаць!

— Тое і скажыце, што думаю.

— Не згодна, значыць?

Але ён нават не крануўся ісці пераказваць яе словы сватам, вялікі клопатны роздум паранейшаму панаваў у ім.

— А можа, яно... і нічога! А?.. Можа, мы дарэмно ето?.. Яўхім хлопец такі... любая б за яго...

Ён не так раіў ці казаў пра свае думкі, як пытаўся. Чарнушка ўбачыў — Ганна нязгодна, нецярпліва кінула позіркам на яго, зразумеў, што яна слухаць не хоча, і ўраз абарваў развагі. Няёмка, як бы вінавацячыся, уздыхнуў:

— Эх, кеб знаць, як яно потым бувае!..

Ганна нічога не сказала, яна заўважыла: з хаты выбегла мачыха, подбегам, рашуча рушыла да іх. Яшчэ зводдалі было відаць: мачыха ўгневана.

— Ты што ж ето! Кінуў гасцей — і ні слыху ні дыху! Зваць пайшоў, называецца! — Яна перавяла дыханне, напала на Ганну: — І ты добрая! Такіх сватоў чакаць застаўляеш!

— Можа, бегці трэ было насустрач?

— Бегці не бегці, а і строіць з сябе няма чаго! Радавацца б трэба! Такое шчасце!

— Уга, шчасце!

— Шчасце! Першыя гаспадары на сяле!.. Няхай цяпер і пішуць, што галадранцы — улада! Няхай пішуць! А багацеі булі і будуць першыя!

— А мне што з таго? Першыя ці апошнія?.. Булі б да сэрца...

— Да сэрца! Старцам жыць, з перцам есці! Захацела!.. Ды ці Яўхім — не да сэрца? Да ці е ў Куранях хоць адна, кеб не сохла па ім! Штоб не хацела, кеб да яе прыйшоў!

— Мабуць такі, е.

— А калі е, то — дурная! Бо ніхто другі не раўня яму! І ў Алешніках няма такога! І ў Глінішчах! Нідзе!.. Пражывеш век, гора не паспытаеш! У малацэ ды ў масле купацца будзеш!

Ганна адчувала, як гарачы шэпт мачыхі гоніць бацькавы нерашучасці, сумненні, — старая добра ведала, што трэба рабіць цяпер, ведала нават, што і як будзе заўтра.

— Ты от не любіш, калі я пра Дзятліка кажу. Дак я і не буду! Толькі от скажу — калі на тое выйдзе, калі ён і прывядзе сватоў і ты пойдзеш за яго, усё адно шчасця не бачыць табе! Не будзе яго!

— Вы ўсё наперад знаеце!

— Не будзе! От памянеш маё слова! І сама б знаць павінна! — наступала мачыха, не перадыхаючы і не даючы запярэчыць Ганне. — Што яму, беднаце горкай, трэба найперш? Красы, можа, тваёй? Кеб глядзець, як на ікону, не раўнуючы? Аге! Вельмі рады будзеш красе, калі згаладаешся!.. Скрыню добрую — от і ўся краса, якая трэба яму!

— І ўсё вы знаеце! — сказала Ганна з пагардай, стараючыся не паддавацца ўгавору мачыхі: ведала, як многа ў яе словах праўды.

— А то, можа, не?! — адразу рынулася зноў у наступ мачыха. — Можа — не?!. Мо па красе тваёй сохне!.. Чаго ж ён тады круціць пачаў? То ад двара нашага не адыходзіў, воч не спушчаў, а то — і глядзець не глядзіць! За вярсту аббягае!..

Мачыха заўважыла, як пры гэтых словах нядобра пацямнеў Ганнін твар (дайшлотакі, у самае сэрца трапіла!), — спалохана, баючыся лішне раззлаваць, перамяніла гаворку, прамовіла супакойліва:

— Ну, добра, добра! Не буду, калі не даспадобы!.. Пра нас, пра бацьку падумала б!.. Як яму дажываць век, у нішчымніцы?.. Не малады ўжэ, не тыя часы, калі рабіць мог, ні дня, ні ночы не чуючы. Пакосіць сена да паўдня, дак спіна — крукам, тыдзень потым стогне. Сноп на вілы падыме — рукі, як галінкі сухія, дрыжаць. Скора ўжэ і саўсім на печ ляжа — хто скарынку падасць, старому?..

Бацька адгукнуўся з папрокам:

— Ну, от бо, завяла!

— Завяла! Праўду кажу!.. І пра брацiка, пра Хведзьку, не грэх падумаць! Усё ж такі не чужы табе — бацькава кроў, родная!.. Дзяліць — калі што якое, прымак там ці хто прыстане — няма чаго!.. Зямелькі — далонька... Ды і тая... Не табе... казаць!..

Мачыха не дакончыла, губы яе горка скрывіліся: ах, што гаварыць гэтай каменнай дзяўчыне, у якой ні шкадавання ні к каму, ні нават клопату аб сабе! Яна адвярнулася, закрыла вочы ражком хусткі, худыя плечы яе задрыжалі...

— Ну, от, етаго шчэ не було! — паморшчыўся бацька, які трываць не мог слёз. Ён хмурна і лагодна крануў Ганну за локаць: — Хадзем ужэ! Пакажыся!

Ганна кінула бурак, выцерла рукі аб спадніцу.

3

Яна потым багата разоў успамінала гэты момант, успамінала з болем і шчымлівым шкадаваннем. Думала, балела душой: як багата бяды выпадае чалавеку за іншы адзін крок. І як чалавек робіць гэты крок пакорліва, нібы сляпы — не бачачы ўсяго, што будзе яму з гэтым крокам. Ступае на купіну і не чакае не гадае, што яна не ўтрымае, дрыгва разарвецца і чалавека праглыне багна...

Цвёрдасць — ці ж у Ганны звычайна не было яе? Але якая тут цвёрдасць магла быць, калі не ведаеш, нашто яна? Цвёрдасць тады гаворыць у чалавеку, калі ён ведае, што, хоць нягода прымушае, нечага не трэба рабіць. Тады цвёрдасць дужэе, ірве путы нягоды. А якая цвёрдасць магла быць, калі здавалася, што хоць усё і нядобра, але — лепш не будзе, — такое ўжо шчасце выпала!

Ці ж не так было ў яе, у Ганны, тады? Ці ж была ў яе пэўная надзеяспадзяванне, якую трэба было б глядзець, за якую трэба было б трымацца, да якой ісці трэба было б наперакор усяму? Васіль... Дык ці ж не бачылася тады ёй, што ўсё з ім — нямоцнае і ненадзейнае, не толькі таму, што адвярнуўся, а і таму, што чула ж сама, сэрца само добра чула — не такую трэба яму, як яна, — са скрыняй, з набыткам трэба! І сам ён — хіба ж не ведала лепш за мачыху — іншую хацеў бы, не беспасажніцу! Праўду мачыха чула — у самае важнае, самае трывожнае ўцэліла!..

А хіба ж усё іншае — не за тое было, што так і трэба, што лёсам, Богам так, пэўна, прызначана? Хіба ж — праўда — не час было ад бацькавага хлеба адыходзіць, хіба ж — праўда — лішне было пра бацьку падумаць? Мо ж — праўда — лягчэй будзе яму і Хведзьку, калі яна да багатых пяройдзе?..

Не вельмі да душы ёй Яўхім, але хіба ж — праўда — не першы жаніх на сяле? Хіба ж якая другая — праўда — адмовілася

б? Чаму было не паверыць векавечнай мудрасці: сцерпіцца — злюбіцца, мілым будзе? Усе ж — бачыла — не любоўю ў сем'і сходзяцца, любоў — то ўцеха не бедняцкая і не жаноцкая! Кветка дзявочая, пустая, — любоў! Не да кветак, каму хлеба трэба!..

Смеласць, цвёрдасць свая, — якія могуць быць смеласць, цвёрдасць, калі свет завязаны, калі, хочаш не хочаш, мусіш ісці, куды лёс вядзе, калі не ведаеш, куды падацца? Тады смеласці, цвёрдасці хапіла, каб спыніць пустое думанне, жалкаванне, з годнасцю, нібы з ганарлівасцю заўсёднай, пайсці насустрач долі...

Можа, багата што з гэтага думалася потым так для сваёй суцехі, для таго, каб не так балела душа; але ва ўсіх гэтых думках было і багата праўды.

Можа, нават усё тое было праўдай, горкай, супярэчлівай...

Думання многа было потым. Тады ж, калі нападала мачыха, калі бацька прытоена спадзяваўся на яе ўдачу, думалася Ганне цяжка, цьмяна. Больш за ўсё, вастрэй, важчэй чулася непазбежнасць лёсу, няўхільнасць таго, што надышло. Век ведала, што краса дзявочая — не бровы, не вочы, а рукі, умельства ў працы, што не дзеўка чалавека сабе выбірае, а чалавек — яе, што доля дзеўкі — маўчаць, чакаць, слухацца бацькоў. Як няўхільны закон жыцця, ведала — спрадвеку так заведзена ў людзей: воля бацькоў для дзеўкі — Божая воля. Так было са ўсімі, так будзе і з ёй. І няма чаго рвацца, трэба слухацца іх, бацькоў і Бога...

І яна слухалася. Не бедавала, не пярэчыла, ішла побач іх паслухмяна. Так было заведзена, так рабілі ўсе. Была турбота пра тое, каб не спаткнуцца ў чымнебудзь на агледзінах, усё зрабіць так, як трэба, не паказаць сябе недарэкаю.

Праходзячы паўз хату к ганку, Ганна заўважыла, як за шыбаю мільганулі цікаўныя, вострыя вочкі Сарокі, і турбота гэта ўзяла яе мацней. Яна ўзышла на ганак пругка, ганарліва трымаючы галаву, — так, як ішла заўсёды, калі ведала, што за ёй сочаць падсцярожлівыя вочы.

У сенцах мачыха заікнулася ёй, каб памыла рукі, прыбралася, але адразу ж змоўкла, сустрэўшы позірк, які нібы гаварыў: сама ведаю, што трэба.

— Прынясіце спадніцу, каторая ў клетку, кохту хвабрычную, чаравікі і хвартух белы!

Ганна прамовіла гэта так стрымана і так строга, што мачыха пачула сябе быццам не мачыхаю, а малодшаю сястрой.

— Добра, добра. Зараз... А ты хіба — у каморку?

Ганна не сказала нічога — узяла конаўку, лінула з яе на рукі, і мачыха заспяшалася ў хату.

Бацька стаяў увесь час моўчкі, назіраў за Ганнай так, як бы траціў яе назаўсёды. Глядзеў і не мог наглядзецца. Калі яна, пераадзеўшыся ў каморцы, выйшла ў чырвонай сацінавай кофце, што пераліваласся агнём на яе плячах, на грудзях, у белым фартуху, у высока зашнураваных хромавых чаравіках, у якіх хадзіла нябожчыцамаці, — калі Чарнушка ўбачыў яе, прыбраную, стройную, дужую, чарнабровую красуню, сумны твар яго мімаволі асвятліўся захапленнем. Рыхтуючыся развітвацца, страціць, ён нібы ўпершыню ўбачыў яе ва ўсім характве, і захапленне і гордасць за яе на момант запоўнілі яго душу, выгналі ўсе іншыя пачуцці.

«Як мак! Як макаў цвет! Чыстая матка!» — падумаў ён радасна. Губы яго раптам тарганулiся болем, вочы заморгалі — ён успомніў нябожчыцу, маладую іх сустрэчу, незабыўны да скону вішаннік.

Чарнушка абняў дачку і, квола хліпнуўшы, сказаў:

— Дай Божа табе!..

Услед за ім расчулена хліпнула мачыха, шмарганула носам.

— Ідзі, чакаюць!..

Ледзь яны ўвайшлі ў хату, Сарока ўскочыла, закруцілася, засакатала:

— А, прыйшла гуска! Дачакаўся гусачок малады — час залаты! Круціў галоўкай, гусачку выглядаў, баяцца пачаў — няма і няма! А яна от, паявілася — хата засвяцілася!

— Не ждалі, — сказала мачыха. — Ганначка акурат буракі брала...

Сарока абышла, абгледзела, абмацала вочкамі Ганну з усіх бакоў, падалася к сталу, за якім сядзелі Яўхім, стары Глушак і чорны, зарослы, як лясун, Пракоп.

— Не ждалі, значыць? Не зналі, не гадалі, з якога боку гусачок прыйдзе па гускудружку! З якога боку прыплыве шчасцебагацце! А яно от — не зза поля далёкага, не зза лесу высокага, са свайго сяла. Прыйшоў малады хлапец — добры купец!..

Сарока, сыплючы словамі, страляла вочкамі то на аднаго, то на другога, а найчасцей на старога Глушака, як бы чакала ўхвалы свайму красамоўству, свайму спрыту. Але Глушак, здавалася, не чуў і не бачыў — маўклівы, затоены, стары Корч праз акуляры з вяровачкай, зачэпленай за вуха замест дужкі, важка разглядваў Ганну.

Ганне ад яго ўпартага, незразумелага позірку было няёмка.

— Ваш тавар, наш купец! — прабурчаў Пракоп, абводзячы панурымі вачыма зпад чорна навіслых броў пірог і пляшку, якія ўжо былі на стале.

— Купец — усім купцам купец! Сам малады, чуб залаты, дабра поўныя клеці — лепшы на ўсім свеце.

— Купца не ганім, — сказаў бацька. — Толькі — дзеўка гадамі шчэ не ў пары!.. Пагуляць бы шчэ трэба!..

— Э, што з той гульбы!.. Ад гульбы конь псуецца, так і дзеўка!..

— Семнаццаць гадкоў усяго!..

— Самы час, самы лепшы квас! А то — пераспее, закісне, стане ўсім ненавісна! Стане, як тая макуха, — будзе векавуха! Шкадаваць будзе — бацьку, матку клясці, што не далі замуж пайсці! Жаніх бо які: што ўродай, што славай, што красой, што справай!..

— Наша таксама — дзякуй Богу! — уступіўся за Ганну бацька.

— І старанная, і разумная, і слухмяная, — адразу падтрымала яго мачыха. — І з твару — другую такую пашукаць! Хай хоць хто скажа: нічым не абдзяліў Божа!

— А Яўхім — хіба, сказаць, не першы хлопец на ўсе Курані? І да ўсяго — дастатак! Пойдзе каторая — не нахваліцца на долю, і паесць, і пап'е ўволю!

— Наша, канешне, не багатая... — адгукнууўся быў бацька, але мачыха не дала яму дагаварыць, кінулася сама ў наступ:

— Небагатая, затое —з рукамі! Лішнім ротам не будзе! Як каторая з поўнай скрыняй! І зварыць, і спячэ, і сарочку чалавеку пашые! І свінча, і дзіця дагледзіць! Вішчаць ад голаду не будуць!..

— Дай Бог, бо ў нашага купца — дабра без канца! І свінні, і парасяты, і авечкі, і ягняты, і гумно, і клець — абы паспец!..

— Чаго тут мянціць попусту! — уступіў стары Глушак, нецярплівa, скрыпуча. — Знаем усё, і мы, і яны, — не далёкія... Адным словам — пірог бярэце?

Стары павёў акулярамі на мачыху, на бацьку, Ганны не запытаўся.

Мачыха памаўчала для прыліку трохі, як бы разважаючы.

— Ды мы што ж?.. Мы не супроціў, калі яно ўжэ на тое... Ганначко, пакланіся ўжэ сватам, вазьмі пірага...

4

Назаўтра, у нядзелю, былі змовіны. Глушакі, дзядзькі, цёткі Глушакоў пілі ў цеснай Чарнушкавай хаце самагонку, елі так упраўна, што наганялі на мачыху страх, бязладна і голасна гаманілі. За шыбамі вокан, плюшчачы насы, ціснуліся дзеці, туліліся цікаўныя дарослыя. Ганна разпораз азіралася на іх. Ёй было не ў ахвоту гэтае, здавалася, доўгае гулянне, яна мімаволі чакала, калі ўсё гэта скончыцца, увесь гэты невясёлы, цягучы тлум.

Калі ў хаце, нарэшце, стала цішэй і шырэй і засталіся толькі сваты і бацькі, пачалі дамаўляцца, цераз які час гуляць вяселле. Ганнін бацька казаў не спяшацца, прасіў адкласці тыдні на два-тры, а сваты Глушакоў даводзілі, што «адклад не ідзе ў лад», дабіваліся, каб зрабіць вяселле адразу, у наступную нядзелю. Стары Глушак пры гэтым амаль увесь час маўчаў — ён таксама быў за тое, каб не спяшацца асабліва, але нічым не паказваў Чарнушкам сваю волю: гуляць вяселле, не адкладваючы, настойваў Яўхім.

Слухаючы спрэчкі, назіраючы за ўсім збоку, Ганна бачыла, што стары Глушак з затоенай злараднасцю здагадваецца, чаму яе бацька просіць адкласці: добра, добра давядзецца папяцца бедняку, каб назбіраць, наладаваць усяго, што трэба да вяселля!..

Дамовіліся гуляць праз два тыдні. У той момант, калі ўсе згодна замоўклі, мачыха дала знак Ганне, і тая дастала са скрыні ручнік, падала сватам, Глушаку старому і Яўхіму.

Выпіўшы на развітанне, сваты і Глушакі з галосным гоманам сталі выбірацца з хаты. Расчырванелая, з п’янай усмешкай Сарока, якую вадзіла з боку ў бок, у варотах зачапілася плячом за слуп, прарэзліва заверашчала:

Ой, п’яна я дай хілюсяа,
Іду дадому дай баюсяа!..

Калі сваты падаліся па вуліцы, а бацька пашаргаў у хату, мачыха сказала Ганне, якая стаяла на ганку:

— І табе б спаць пара. Уставаць скора...

— Устану...

Амаль адразу пасля таго, як дзверы за мачыхай зачыніліся, святло ў акенцы згасла. У хаце стала зусім ціха. Ціха было б і на вуліцы, але ў цемры віхляўся п’яны Сарочын голас:

Іду дадому дай баюсяа...
Паганаго мужа маюу...
Будзе біці... добра знаю...

Спеў неўзабаве сціх. Цяпер ляжала ў Куранях вялікая, халодная цішыня.

Усё навокал было знаёмае і звычайнае: даверліва шапацелі грушы, дрымотна чарнелі на могілках купы вербаў і акацый, шарэў ледзь відна ў цемры туман на балоце. Ад туману, ад балота павявала зябкай тарфянай сырасцю...

Але Ганна раптам убачыла ўсё гэта нанова, такім дарагім, якім не было дасюль ніколі. Грудзі напоўніў жаль, неспадзяваны і палючы — шкада было і груш, і сырога павеву з балота, усяго, з чым жыла ўвесь час, як бы і не заўважаючы!

«Васіль... Васіль...» — уварвалася, пранізала ўсю яе, неяк асабліва, да болю дарагое — у горле аж зашчымела ад горнасці. «Кончылася. Не суджано, значыцца... Бувай!..» Бывайце, грушы шапаткія, вербы ціхія, маладыя, вольныя вечары! Не прыйсці ўжо больш да вас, як было, не стаяць да ранку! Кончылася воля дзявочая — спатканні, мілаванні, развітанні! Ганна, расчуленая наплывам жалю аб страчаным, ледзь не заплакала. З вялікім намаганнем стрымала сябе, паспрабавала супакоіць: «Нашто шкадаваць попусту!.. Што з воза ўпала, тое прапала... У яго цяпер свая дарога, у мяне — свая... У мяне — Яўхім...»

Яшчэ два тыдні, а там яна ўвойдзе ў Яўхімаву хату. Любіць яго, слухацца, служыць яму. Што ж, доля жаночая такая, — як у людзей, так і ў яе, — не вечна ж гуляць, выгульвацца!.. Адно страшыць: як са старым, са свякрухай жыць давядзецца — шкадаваць будуць ці есці? Калі б можна было знаць загадзя, каб не гадаць, не трывожыцца дарэмна!..

А Яўхім — што ж? Не сама выбірала, яе выбралі!.. Ды і сам ён, бачыла ж, не думаў аб гэтым. Шукаў якуюсьці другую, а яго прыцягнула, прыбіла да яе хаты... Што ж, можа, лёсам гэта прызначана, Богам?.. І няхай не даспадобы ён, мусіць, неяк зжывуцца. Любіць жа ён, што ні кажы... І яна — сцерпіцца, злюбіцца!..

Ганна неспадзеўкі здрыганулася: паўз плот хтосьці ішоў! Тоячыся, стрымліваючы хваляванне, яна пачакала, пасачыла: стаў там, дзе яны калісьці стаялі з Васілём. Хвіліну чарнеў нерухома. Ёй здалося: глядзіць у яе бок, бачыць яе... Яна чула, як часта, шалёна б’ецца сэрца.

Васіль!.. Што рабіць? Выйсці, пагаварыць, памірыцца? Сказаць, што даруе яму?.. Ён згарача нагаварыў тады. Сам шкадуе... Выйсці! Апошні раз!.. Выйсці?! Замоўленай! Чужой, другому аддадзенай!.. Не, не! Што з воза ўпала, тое прапала! Не яго цяпер! Не вольная — каб сустракацца! Грэх...

І што ім з таго прымірэння? Пасля змовін! І развітанне — што ім? Развіталіся ўжо, можна лічыць. Чужыя!..

Ён пастаяў моўчкі... — мусіць, усё ж не пабачыў. Як прывід, паплёўся назад...

У той вечар, калі ў Чарнушкаў былі змовіны, у хаце Дзятлаў было ціха і журботна, нібы пасля пахавання нябожчыка.

— Сынку, сынку, як жа цяпер? — не вытрывала, сказала маці з другога канца стала, за якім Васіль вячэраў.

— Як було, тым часам, так і будзе, — разважліва адгукнуўся дзед Дзяніс.

У хаце гусцеў змрок. Дзеда, які сядзеў на палацях каля печы, ужо амаль не было відаць, матчын твар таксама ледзь шарэў — каб і хацеў, Васіль не змог бы ўбачыць на ім нічога — і ўсё ж, па тым, як перагаворваліся яны, як разпораз маці ўздыхала, чуў, што і іх вельмі гняце яго бяда.

Але ад іх спачування не толькі не было палёгкі, а яшчэ горш паліла жальба. Хоць нарабіўся, згаладаўся, — не чуў ні стомы, ні смаку ў вячэры. Хацелася адно хутчэй перабыць абавязак і выйсці...

— Багацей, тым часам, ведамо... — прамовіў дзед Дзяніс у цішыні.

— Нагаварылі на яе ўсё тое, што дамогся Яўхім!.. — як бы падумала маці. — Казала я: не такая яна, штоб дапусціць!.. Не було нічога! Бо кеб дамогся, не пайшоў бы кланяцца, у сваты. Да бяднячкі...

Васіль стараўся не слухаць: не хацеў нічога чуць пра Ганну. Кожнае слова пра яе кранала, вярэдзіла штосьці вельмі чулае ў ім, вельмі балючае. Ледзь стрымліваўся: і ахвота ж гаварыць пра яе, — калі ўсё ні да чаго! Не дапусціла, не дамогся! Як бы і сам ён не знае!..

— Такая нявестка була б! — уздыхнула маці. — Лепшай, здаецца, кеб цэлы свет абгледзеў, не знайшоў бы!..

— Ну, хопіць! Ну, чаго тут!.. — Васіль кінуў лыжку, ускочыў. — От бо, не хапало шчэ!..

— І праўда, Алена! Хлопцу і так маркота!..

Васіль не даслухаў дзедавых слоў, выбег на ганак. Але стаяць на ганку, на дворы, дзе сама цішыня вечара, змрок напаміналі

Ганну, цяпло спатканняў, было яшчэ горш. Каб не сумаваць, адагнаць палючую жальбу, ён стаў тупаць па двары, выдумляць справы. Зайшоў у хлеў, у якім без каня, што яшчэ пасвіўся на ўзболатку, было нудна і пуста, кінуў у куток сена, падаўся ў павець, перавесіў з кручка на кручок дугу, стаў корпацца з калёсамі. Рабіў, аднак, усё як у сне, усё было нецікавае. У галаву неадчэпна лезлі, пяклі душу згадкі, думкі, развагі — усё пра адно, пра Ганну, пра змовіны.

«Багацей, ведамо!.. — успаміналіся яму словы дзеда пра Яўхіма. І думкі крыўдна згаджаліся, дадавалі: — Дзеўкі кажная на багацце хіліцца! Думае, што, дзе багацце, там лёгко будзе жыць!.. Думае, як Корч багаты, дак і ўсё, прыпяваючы, думае, жыць будзе! Аге! — спрачаўся Васіль у думках так, нібы Ганна была перад ім. — Вельмі надзейся! Дужа ты ў Карчоў разжывешся!.. Пажывеш з імі, пабачыш, што за Карчы такія! Якое шчасце сабе выбрала! Смяяцца весела ўмела, плакаць навучышся! Паплачаш горко, як нагаруешся! А што нагаруешся, дак нагаруешся, ето загадзя сказаць можно! Дабра не чакай! Усе Карчы такія!..»

Але як ні чарніў Карчоў, не першы раз ужо расла, гарэла ў ім пераплеценая са злосцю важкая зайздрасць: усюды першыя, усё лепшае ім!.. Багацеі!..

«Ну, і няхай з Карчом яна!.. Няхай карчоўская будзе!.. — стараўся супакоіцца Васіль. — Усё адно яна мне не пара!.. Толькі і дабра таго, што як прытулішся, бувало, сэрца соладко ные і гатоў на ўсё забыцца!.. А хіба ж, будучы самнасам, цвярозы, не думаў я, што не пара яна, што толку з яе мало? Хіба ж не думаў, што лепей бы да багацейшай якой! Толькі сілы, кеб адарвацца, не було. Як прываражыла, як бы зеллем апаіла якім!.. А цяпер от — само павярнулася як трэба. Нібы Бог памагці захацеў... Само зрабілася як трэба, дзякуваць Богу!..»

Усё, чым ён жыў у гэты вечар, было поўна супярэчнасці. Думкі перабівалі адна адну, спрачаліся, жаданні таксама змяняліся непаслядоўна, супярэчліва, учынкі не хацелі слухацца развагі. У той самы час, калі ён ужо амаль пераканаў сябе, што шкадаваць аб Ганне няма чаго, што трэба толькі дзякаваць Богу за тое, што так разумна зрабілася, Васіль, сам не ведаючы чаму і як, забрыў к Чарнушкаваму селішчу, к таму плоту, дзе столькі вечароў і начэй стаяў, мілаваўся з Ганнай. Як ні гнаў, не адыходзіла неадольная зваблівая надзея: а можа, яна там, чакае?..

Але яе не было. Ля знаёмага плота, здалося, было так пуста і так сумна, што крыўда і гора ўмомант затапілі ўсе развагі. Ён аж разгубіўся ад наплыву гэтых бязлітасных, пякучых, бясконцых і бязмерных крыўды і гора.

Іх ён і панёс з сабою ад плота, той сцежкаю, якой столькі разоў насіў радасць. Ніколі яшчэ не чуў ён сябе такім няшчасным — ні тады, калі раўнаваў Ганну да Яўхіма, ні тады, калі паверыў у плётку пра яе. Тады ён мог ненавідзець яе, пагарджаць ёю, — цяпер было яму толькі шкадаваць!

Цяпер яго пякла не плётка. У яго не было нават надзеі, што ўсё гэта няпраўда. Змовіны былі. Яна — чужая. Усё кончана!..

Калі наплыў гора апаў, прыціх, ён, як бы шукаючы прасветліны, стараючыся стаць мацней на зямлі, пачаў думаць аб дарагім, запаветным. Не, не ўсё яшчэ скончана! Усё яшчэ будзе!.. Пачакайце, прыйдзе час — пабачыце, хто такі ён, Дзяцел Васіль! Пабачыце, усе пабачыце! Будзе гэта! Будзе яго пара!.. Ён узнімецца, пабачыце!.. Гумно снапамі наб'е! Кароў завядзе! Не адну — тры, пяць! Стаенніка завядзе! Такога, што Корч пазелянее ад злосці!.. Толькі б перадзел зрабілі! Каб зямлі, каторая ля цагельні!.. Тады — усе пабачаць Васіля! І яна, Ганна, пабачыць!

Але добры строй гэтых думак зноў і зноў ірваўся, раўнівая памяць калола, пякла: «Карчова нявеста!.. Змовіны адгулялі!.. Вяселле скора!..»

Ці хадзіў, ці стаяў каля ганка, ці ляжаў у хаце, злыя думкі, не зважаючы ні на што, лезлі ў душу, тачылі: «Жонка будзе!.. Карчова жонка!..»

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Калі паснедалі, мачыха не загадала Ганне, як звычайна, прыбраць са стала, не ўсхапілася і сама. Сядзела заклапочаная, нават нібы больш, як заўсёды, важная, чагосьці чакала. Але бацька маўчаў, глядзеў на край стала, не бачачы ні стала, ні мачыхі, нікога. Бацька заклапочана думаў.

Заклапочанасць і нейкая асаблівая сур’ёзнасць, важнасць была на тварах усіх дарослых Чарнушкаў. Яна кінулася ў вочы нават Хведзьку, які вылез зза стала надзіва ціха, знік з хаты так, што яго ніхто і не заўважыў.

— Уюноў сушаных нізак дзесяць будзе... — падумаў, нарэшце, уголас бацька.

— Хунты тры ці набярэцца... — сказала мачыха.

— Усётакі грошы... — Чарнушка пашкадаваў: — Грыбы сушаныя еты год, кажуць, не ў цане...

— Чарніц можно. Прося гаварыла, той раз іх вельмі куплялі. Два нейкія купцы з самога Мозыра прыязджалі...

— Картоплю на бровары бяруць. Толькі што, грэц яго, дзешаво...

— Трасцу ім! Лепей у Нароўлю з’ездзі!

— А ў Нароўлі не тое — там дак грошай насыплюць?..

— Насыпаць не насыплюць, а болей дадуць.

— Аге! Дадуць, спадзявайся!.. — Бацька пашкадаваў: — Кабанчык малаваты шчэ. Месяцы б шчэ тры пакарміць... і цяліца...

— На адзін дзень не хопіць... Умэнт змелюць усё, як да стала дападуць!.. — У голасе мачыхі чуўся страх...

— Карова добрая була б...

Па тым, як гаварылі яны пра кабанчыка і цялушку, Ганна здагадалася, што рэзаць іх дамовіліся ўжо раней, можа, учора ўночы, калі яна была на двары, цяпер бацька проста адгукнуўся на ранейшую гаворку.

— Як у прорву, ядзяць! — не магла стрымацца мачыха. — То ж на змовінах адных — сколькі расходу далі! Куды толькі, здаецца, падзелася! Ведамо, чужое!

— Усе ласы на чужыя каўбасы...

— Разорыць нас вяселле етае! Толькі ж і паддавацца вельмі — сарамата! Зяць такі!..

Бацька не адгукнуўся на гэта, думаў аб нечым затоена, заклапочана. Ужо сабраўшыся выходзіць, сказаў мачысе:

— Ты масла збі к нядзелі, колькі можно. Мо з яго толк будзе...

— Саб'ю.

Гаворка аб тым, як узбіцца на капейку, што трэба зрабіць к вяселлю, зноў пайшла, калі сышліся абедаць. Цяпер у Чарнушкаў, здавалася, усе толькі і думалі і меркавалі, што аб недалёкім вяселлі, якое ўнесла ў хату столькі рознага клопату. Прыбіраючы са стала посуд, Ганна чула, як мачыха бедавала: колькі трэба ўсяго — смажанага, прэжанага, мяса, сала, яечні, каржоў, коржыкаў, аладак.

— Гарэлкі кеб нагнаць — завод цэлы трэба!

— Гарэлкі будзе. Етаго дабра нараблю...

— Наробіш! Глядзі, кеб міліцынер не нарабіў табе! Як наскочыць Шабета, будзе табе гарэлка!

— Не наскочыць!..

— Не дурны ён — будзе цяпер каля тваёй восеці аціраццa.

— Ён не дурны, і я таксамо. У такую глушыну апарат запратору, што сам Міцяляснік, грэц яго, не знойдзе.

Міцяляснік — горкі куранёўскі п'яніца — ведаў усе патаемныя схованкі самагоншчыкаў: дзе б хто ні гнаў, Міця знаходзіў, заяўляўся глынуць першаку. «На сто вёрст чую, дзе самагонкаю пахне», — выхваляўся ляснік.

— Не кажы «гоп» не пераскочыўшы! — сказала мачыха бацьку. Потым параіла: — Трэ пляшкі дзве гарадской. Калі хто чужы, бувае, прыткнецца.

— Вып'е і нашай! Цяпер паноў няма! А што самагонка — хто яе не гоніць! — Бацька не даў мачысе пярэчыць. — Трэ от падумаць, як маладую нашу прыбраць!

Ён паглядзеў на Ганну, якая пры гэтых словах перастала выціраць стол.

— Чаго тут думаць? Адзенем... Перад жаніхом сорам не будзе!

— Жаніх жаніхом, а і кеб перад самімі сорам не було. І перад людзьмі... Кеб і адзета, і абута была як трэба. Што купіць, пашыць, трэба падумаць.

— Спадніцу новую справіць трэба, паддзёўку пашыць... Паддзёўку можно з таго, што я летась наткала. Са свайго можно... І на спадніцу е што ўзяць. Не купляючы...

— Спадніцу няхай са свайго, а на кохту купіць трэба! — горача абазвалася Ганна.

— Е ж кохта — чырвоная, аж заглядзецца!

— Дак працерлася на локці! Латаная! Самі ж знаеце!

— Кохту трэба новую. Крамную.

— Ну, няхай! Трэба дак трэба! Я што, я — хіба супроць? Хіба я не хочу, кеб як найлепей! Яна ж таксамо, сказаць, маё дзіця. Я толькі кеб расходу меней...

— Расход расходам, а кохту трэба новую...

— Трэба дак трэба! Можно і чаравікі новыя справіць, і хустку! Хустку дак канешне купіць трэба! І не абыякую, а кашаміравую, з кветкамі!

— Хустку трэба. А чаравікі добрыя і тыя, што ад маткі засталіся. Шчэ і дзецям будзе, якіх народзіць!

— Чаравікі добрыя, лепшых і не трэба. — Ганна кінула позірк на бацьку. — У Нохіма надысь перкаль бачыла белы... Дзяшовы...

— Ну, дак і купім яго. І к Годлі занясем пашыць!.. От толькі картоплі б прадаць ды на кірмаш з’ездзіць. Кеб капейка была.

Гэтым спрэчка пра кофту і скончылася.

## 2

Праз дзень Чарнушка завёз воз бульбы аж за Прыпяць, у Нароўлю, а ў нядзелю стаў выпраўляцца ўжо ў Юравічы, на кірмаш.

Ён устаў яшчэ да ўсходу позняга ў гэту пару сонца, запрог каля павеці каня, вынес адну за адною дзве звязаныя авечкі, прывязаў у задку воза да ручак. Калі пад’ехаў да хаты, жонка пачала з Ганнай зносіць і ладаваць у возе тое, што было падрыхтавана на кірмаш. Нізкі сушаных грыбоў, уюны, густа начапляныя на дубцы, лутавая каробачка з сухімі чарніцамі, гаршчок з маслам — усё клалі ў сена, загортвалі, рыхтавалі к дарозе.

Чарнушка ўнёс з прыгрэбніка мех бульбы, уладаваў у задку.

— Ну, от можно і выпраўляцца, — сказаў бацька і стаў адвязваць лейцы.

Мачыха павярнулася к Хведзьку, які хмурна сачыў з ганка за ладункам к дарозе, — яго не хацелі браць, пакідалі дома аднаго, за вартаўніка і гаспадара:

— Дак глядзі ж, кеб з хаты нікуды! І ў хату нікога чужога — зачыніся і не пускай! І — барані Бог з вугольчыкамі балувацца!

— Не ббуду!.. — Хведзька ледзь стрымліваўся, каб не заплакаць.

— Дазнаюся, дабра не чакай! Шкуру спушчу!.. — Мачыха загадала напаследак: — Ідзі ў хату і зачыніся!

Хведзька неахвотна, расчаравана падаўся ў сенцы...

Ехалі ўтраіх: ззаду на коўдры бацька і мачыха, спераду, звесіўшы ногі цераз драбінку, Ганна. Конь цераз сяло бег трушком, парыпваў гужамі, калёсы часта і дробна сакаталі на мёрзлай зямлі. На вуліцы было цёмна, толькі дзенідзе цьмяна, варухліва выглядвалі вокны. Гэта былі водсветы ад агню ў печах. За сялом абхапіў іх з усіх бакоў адзін змрок; цёмная дарога, цёмнае поле, чорныя паскі лесу, якія каля балота падышлі ўсутыч, сціснулі з двух бакоў і не выпускалі да самых Алешнікаў.

Дажджоў яшчэ не было, і цераз падсохлую за лета дарогу за няскончанай грэбляй перабраліся без асаблівага страху. На алешніцкім полі змрок стаў паволі радзець, адыходзіць, а калі выбраліся на шлях, пакацілі між радоў згалелых рослых бяроз, няяркае і негарачае сонца зачырванела ўжо ў дымным, як бы туманным небе.

— Базар, мабуць, будзе непаганы... — прамовіў бацька, бачачы, што калёсы на Юравічы цягнуцца і наперадзе і ззаду.

— Паганы ці непаганы — будзе відно, калі паедзем дадому, — асцярожна зазначыла жонка.

Неўзабаве ўехалі ў лес, невялічкі і голы, але цудоўна прыгожы нават у гэтую пару: нібы спрачаючыся адзін з адным, уздымалі высока ў неба, магутна раскідвалі ў бакі крывое голле асілкідубы і вязы.

— Унь там наша поле було. За Перавельскімі кругамі, — сказала мачыха. Ад лесу пачыналася ўжо глінішчанскае поле.

— Зямля тут, мабуць, не тое што ў нас...

— Параўняў! Такой у Куранях і каля цагельні няма!

Ганна бачыла, што ў лесе там і тут тырчалі шырокія жылістыя пні, круглыя вярхі якіх былі чорныя, шэрыя, белаватыя і зусім белыя, свежыя, — і ёй стала шкада: столькі тут высечана

ўжо гэтых дубоў і вязаў. Лес быў рэдкі — між дрэваў за недалёкім узлескам добра віднелася куп’істае балота.

За ляском зноў ціха, задуменна шумелі бясконцыя рады бяроз, тужліва, загадкава гаманілі правады. Яны гулі ўвесь час — і калі збоку адыходзіла дарога на Глінішчы, і калі мяняліся вузенькія, шэрыя, дзенідзе весела падзелянёныя рунню палоскі. Мусіць, ад гэтай загадкавасці і тужлівасці гулу правадоў Ганне рабілася таксама тужліва, станавілася шкада чагосьці вельмі добрага, дарагога, што, здавалася, назаўжды адыходзіла з дарогай.

Калі праехалі рудую грэбельку над вадавіцкім балотам, шлях пачаў паволі ўздымацца, і неўзабаве не так ужо і далёка забялела юравіцкая цэркаўка. Цэркаўка гэта, як звычайна, абудзіла ў Ганне чулую, бесклапотную згадку пра маленства. Даўнодаўно, дробненькай дзяўчынкаю ўбачыла яе ўпершыню — убачыла быццам незвычайнае, недасяжнае, дзівоснае. І з той пары, хоць ужо вырасла, пасталела, кожны раз, як убачыць зноў, той дзіўна чулы ўспамін нібы зноў вяртае чароўнасць маленства. Тады, першы раз, таксама ехалі на кірмаш. Які цудоўны быў ён ёй, той кірмаш! Царква, спуск з юравіцкай гары, якая здавалася высачэзнай, страхотнай, радасць, што, нарэшце, спусціліся, што конь не панёс, вір стольскіх людзей на плошчы, салодкая боязь застацца адной без бацькоў, згубіцца. А вакол цуды цудныя: хусткі адна за другую прыгажэйшыя, каснікі, белыяпрабелыя булкі, пернікі, абаранкі. Адзін абаранак прынёс ёй бацька — яна толькі трошкі паспытала і схавала за пазуху: шкада было адразу застацца без такога дзіва!..

Царква ўсё набліжалася. Вось падышла ўжо горкагарбок, курган з бурай някошанай травой і маладымі дубкамі. Бацька, праязджаючы паўз курган, як і раней кожны раз, казаў:

— Разбойнік ляжыць... Асілак. Першы на ўвесь свет буў, казалі... Людзей паравёў — мільён!..

Мачыха трывожна перахрысцілася. У дарозе, далёка ад дому, яна заўсёды прыкметна гублялася, мякчэла і ціха, лёгка прызнавала бацькаву сілу і ўладу.

За курганам, за полем, перарэзаным крывымі маршчынамі яроў, абчэпленым там і тут кучарамі кустоў, купкамі дрэваў, узвышша, адчувалася, спадала ў нявідную шырозную лагчыну. Сіняя града з чорнай істужкай лесу ўздымалася за лагчынай у далёкай, прытуманенай смугою далечы. Ганна стала ўзірацца ў сіняватую смугу перад градою, выглядваць жаданую ясную паску, якая іншы раз на момант выблісквала зза ўзвышша. Яна ўбачыла гэты цуд у той далёкі дзень, калі першы раз ехала тут.

«Што ето?» — здзіўлена шмарганула яна бацьку за рукаў. Бацька абыякава павёў позіркам: «А, рэчка... Прыпяць...» Ганна аж ускочыла: «Прыпяць?» Прыпяць — ракаказка, легенда! Яна той раз і засталася легендаю, загадкавая Прыпяць, — бліснула на міг прамяністаю паскай і знікла, колькі ні ўглядалася Ганна, не паказалася зноў... Як тады, Ганне цяпер захацелася зноў убачыць знаёмую вясёлую паску, але ракі не было відаць: затуманеная далеч хавала яе.

Каля царквы бацька суняў каня, і ўсе злезлі з воза. Пачынаўся той самы, калісьці такі страшны, спуск у мястэчка.

Як заўсёды, бацька адчапіў вяроўку з задка калёс, прывязаў кола за спіцу да галавашкі, каб яно не круцілася. Беручы каня за аброць, загадаў жанчынам:

— Паддзержувайце калёсы!

Ён пайшоў наперадзе, трымаючы закілзанага каня за аброць так, што конь як мог задзіраў галаву, шчэрыўся жоўтымі зубамі і аж прысядаў на заднія ногі, прыпыняючы калёсы, што наязджалі на яго. Дарога была мёрзлая, гліняная са жвірам, і нерухомы жалезны вобад кола, які цёрся аб яе, аж вішчаў. Ён пакідаў за сабой роўную бліскучую стужку з белымі меткамі на каменьчыках.

— Чш! Тпру! Тпруу... — супакойваў бацька каня.

Што гэта была за дарога — незвычайная, дзіўная, не падобная на ўсе іншыя дарогі ў балотнай старане! Паволі паварочваючы, яна ішла ўніз і ўніз, абрэзаная з бакоў двума глыбокімі раўчукамі, па якіх дажджлівымі днямі раўлі патокі вады. Разам з тым як дарога спадала глыбей і глыбей, абапал яе раслі і раслі горы з размытымі дажджом берагамі, з дрэвамі, што віслі, выстаўляючы карэнне. Уздымаючыся, горы ўсё больш і больш затулялі неба, здавалася, падпіралі яго — і кусты, і дрэвы, што раскідвалі галіны свае, як крылы, як бы збіраючыся паляцець, былі ўжо не на зямлі, а на небе.

Над самай высокай стромай гары тырчаў з пяску вялікі аблізаны камень, гатовы кожны момант рынуцца ўніз, і Ганне стала жудасна: а што, калі ён цяпер?

Але камень і на гэты раз не зваліўся. Як толькі праехалі пад ім, выглянула ў росступе гор крывая чарада местачковых хат, што сыходзілі з прыгорка, абступалі вуліцу. Дапаўшы да раўнейшага месца, непадалёк ад драўлянага дома на два паверхі, у якім была «воласць», бацька зноў спыніў каня, адвязаў кола, і далей паехалі ўжо на возе, з выгляду строгія, важныя, а ў душы — нясмелыя, занепакоеныя: не сваё сяло, горад вялікі,

чужына. Як і належыць, каня бацька сцебануў, пагнаў трушком, — уз’ехаўшы на брук галоўнай вуліцы, калёсы пакаціліся са страшэнным грукатам і ляскатам, пакуль не ўткнуліся ў чаргу вазоў, што цягнуліся к рыначнай плошчы.

На плошчы, акружанай драўлянымі і каменнымі будынкамі — крамамі і крамкамі юравіцкіх гандляроў і кааперацыі, было ўжо даволі густа вазоў і людзей. Людзі варушыліся, хадзілі, і вазы ў гэтым людскім возеры, здавалася, танулі, паказваючы адно дзенідзе задраныя аглоблі ды конскія галовы. Чарнушкі ўехалі ў гэтую мітусню, як у неспакойнае, шырокае разводдзе.

Справа, злева, наперадзе іх былі цяпер людзі, людзі — маладыя, пажылыя, зусім старыя, жанчыны і мужчыны — адусюль абкружалі іх світы, кажухі, каптаны, шапкі, апаноўваў шматгалосы гоман, бэльканне авечак, парасячы віск. Чарнушка, узняўшыся на коленцы, выглядзеўшы вольнае, зручнае месца, пакрыкваючы на тых, хто лез пад каня, стаў паволі праціскацца з Ганнай, з мачыхай, з авечкамі, з усім сваім скарбам на возе да прыпынку.

## 3

Калі воз спыніўся, мачыха сказала, што стаяць тут нядобра: не на віду, сюды мала хто і падыдзе, але Чарнушка заявіў на гэта:

— Каму трэба, той і ў чорта за пазухай знойдзе, — і, не раздумваючы, пачаў распрагаць каня.

— От, скажы ты, саранчалюдзі! — не стала спрачацца, мірна паскардзілася мачыха. —Усюды захопяць, дзе лепей! Ніколі не ўправішся за імі!

Яна зірнула на авечак — тыя ціха ляжалі сабе ў задку воза, ужо даўно звыкшыся з прывязкаю, страціўшы якуюнебудзь надзею вырвацца на волю, — толькі вушамі ўздрыгвалі пры блізкіх воклічах.

— Вукапай усё, што ў сене, да раскладзі на коўдры!.. — сказала мачыха Ганне, абтрэсваючы з андарака травінкі. — А я пайду, колькі што каштуе, дазнаюся...

Пакуль Ганна ладавала на коўдры гаршчок з маслам, нізкі грыбоў, сушаныя ўюны, мачыха вярнулася расчараваная:

— Дзешаво ўсё, дзешаво!.. Дарам, можна сказаць, хочуць!..

Нейкі час усе ўтраіх стаялі моўчкі, сачылі за тымі, хто падыходзіў блізка, глядзеў на іх дабро. Сачылі па-рознаму: Ганна амаль абыякава, сумна затоена; бацька спакойна, час ад часу

папраўляючы сена, якое цягнуў мяккімі губамі конь; мачыха ж проста лавіла позіркі, нецярпліва маліла — вось гэты, вось гэты. Але, як на злосць, падышоўшы, амаль ніхто нават не пытаўся пра цану — прабяжыць вачыма па коўдры і адыдзе, як бы багацей які, як бы яму нічога не трэба. А калі запытаецца, то толькі так, для прыліку, бо сам нават не прыгледзіцца добра, а кідае позіркам ужо далей.

— От табе і добры базар! — не ўтрывала мачыха.

Яна, каб не тырчаць попусту, стала прыбіраць каля авечак.

— Ето шчэ не базар, — пераканана прамовіў Чарнушка. — Базар шчэ будзе!.. Купцы самыя шчэ чай дома п’юць...

Народу, і праўда, прыбывала: плошча запаўнялася вазамі, людзьмі ўсё гусцей і гусцей, станавілася ўсё цясней, рос шум, гоман, крыкі. Зусім блізка, каля суседняга воза, сталі таргаваць карову — жанчына, завязаная зрэбным шмаццём замест хусткі, і мужчына ў абношанай, абадранай світе, напэўна, муж і жонка. Нясмела, неяк падазрона аглядвалі, абгладжвалі, мацалі рудую «рагулю», недаверліва слухалі другіх жанчыну і мужчыну, якія расхвальвалі свой скарб. Хваленне гэтае, было відаць, не толькі не ўлагоджвала «купцоў», але нават павялічвала іх недавер’е — яны слухалі і прыглядваліся да каровы ўсё з большай падазронасцю, а неўзабаве адступілі і зусім, пабраліся між людзей, пра нешта шэпчучыся...

Неўзабаве яны, з той жа недаверлівасцю, прыдзірлівасцю, разглядвалі, мацалі другую карову. «Купцоў» снавала ўсё больш і больш — шукалі, пыталіся, таргаваліся, ішлі далей — руху, гоману было хоць адбаўляй, але гандаль ішоў вельмі скупа, ва ўсякім разе тут, дзе стаялі Чарнушкі са сваім возам. Усе прыглядаліся, пыталіся, і амаль ніхто не купляў. Ні Ганну, ні бацьку яе такое становішча ніколькі не здзіўляла — яны былі самі такія ж, як людзі, што снавалі перад імі, — някідкія, разважлівыя палешукі, ледзь не кожны з якіх сто разоў прыцэніцца, перш чым купіць. І чаго тут было здзіўляцца, калі прадаўцоў так многа, а грошай у «купцоў» лічаныя капейкі...

Не здзіўлялася і мачыха, толькі ж вельмі сумна было стаяць ёй ды чакаць попусту. І, нудзячыся, пакутуючы, злуючыся, яна як бы не магла ўжо бачыць, што чакае попусту, марнее не адна, што так жа марнеюць амаль усе. Бачыла добра яна толькі воз, які, нібы знарок, тырчаў перад вачыма і на якім завабліва чырванелі гаршкі, макатры, міскі — ёй так трэба добры гаршчок і хоць бы дзве міскі! Трэба, а купіць не купіш! Не бяруць нічога!

— Пакуль тут прадасі штонебудзь, ніводнага не застанецца!

Трэба ж такое: там, як на ліха, ціснуцца жанкі, круцяць перад ёй недаступную чырвань гаршкоў — быццам дражняць.

— Застануцца! — абыякава сказаў Чарнушка. — Не етыя, дак другія!

Мачыха не магла ўтрымацца:

— Швэндаюцца, швэндаюцца — разявы! Толькі з панталыку збіваюць другіх! Тут хіба дабрацца зза іх купцу!..

— Дабярэцца, калі паявіцца...

— Дабярэцца! Аге!..

Мачыха не верыла. Не верыла яна і тады, калі «купец» гэты, нарэшце, падышоў, хоць чула, што ён не разявака, што пытаецца, пачым уюны, не так сабе, купіць хоча. Яна ведала: уюноў блізка не прадаюць, заламала — паўрубля за нізку.

«Купец» здзівіўся:

— Паўрубля?

— А што ж? Дораго, можа?! — Яна прамовіла так, нібы гаварыла, — ды ці павернецца язык у кагонебудзь сказаць такое, — а сама са страхам сачыла, ці хоць не напалохаўся, не збіраецца адступіцца. Стараючыся не выпусціць, заспяшалася мякка і лагодна: — Вы ж паглядзіце, колькі іх тут, у адной нізцы! Бачыце, колькі! Я і палічыць не палічу! Столькі за цэлы дзень не набярэш! Яны ж, як забярэцца ў твань каторы, капай, капай, пакуль вукапаеш!.. Тут жа мяса таго — толькі што яны сушаныя! А мяса якое — ето не якая там смярдзючая рыба! Уюн!

— Уюнто ўюн... — «Купец» яўна збіраўся адыходзіць.

Мачыха бачыла гэта: надзея гатова была восьвось прапасці. Чарнушчыха з адчаем падалася да «купца»:

— Ну, добра! Дораго! А вы скажыце сваю цану!

— Па дзевятнаццаць...

— Па дзевятнаццаць?! Дык ето ж!.. Я ж вам і так, можно сказаць, за нішто аддавала! — Мачысе зноў трапіўся на вочы воз з гаршкамі: — Ну, няхай! Бярыце!.. Колькі штук?

Ён браў усе дзесяць нізак: хопіць, мабыць, і на гаршчок, і на дзве міскі! Павінна хапіць!

— Ешце на здароўе!

Ледзь чалавек адышоў, затульваючы нізкі рукавом паліто, мачыха, сціснуўшы грошы ў кулаку, хутчэй заспяшалася да воза з гаршкамі і міскамі. Яшчэ, здаецца, не позна, не ўсё прададзена. Толькі хутчэй трэба, ужо зусім мала астаецца! А жанчыны ідуць і ідуць!..

Яна вярнулася назад паспакайнелая, шчаслівая.

— От, прыдбала! — Мачыха пазваніла па гаршку сухімі костачкамі пальцаў, паслухала: — Гамоняць, як званы! Посуд дабрэнны, толькі што —дарагавізна!..

Абгарнуўшы міскі і гаршчок сенам, укладвала іх у возе так, каб, барані Бог, не разбіліся ці каб не ўкраў якінебудзь лайдакзлодзей, якіх тут бадзяецца процьма. Калі зноў пачала выглядваць «купцоў», заўважыла неспадзявана — у натоўпе па-явіўся Яўхім. Ён ішоў з Ларывонам, павольна, штурхаючыся, з папяроскай на губе, паглядваў на ўсіх з задаволенай і задзірлівай усмешачкай — эх вы, людзі, мурашкі мітуслівыя, драбяза!

«П’яны? Ці так проста схмялеў? Малады, багаты... Удалы... Усё ўдаецца, абы захацеў... Зачапіць, мабуць, хочацца кагонебудзь, кеб паказаць... які ён?» Мачыха замахала яму рукой.

— Яўхімкоо!

Ён заўважыў Чарнушкаў, пайшоў да іх.

— Ну, як торг? — голасна, зухавата запытаўся Яўхім, акідваючы позіркам тое, што ляжала на возе. — Э, ды вы тут з авечкамі, няўрокам, баіцеся разлучыцца? — Ён зарагатаў.

— Не бяруць авечак, грэц яго, — спакойна сказаў Чарнушка.

— І не глядзяць, Яўхімко!..

— А мы думалі, што разлучыцца баіцеся! — падтрымаў Яўхіма Ларывон. Ён як бы чакаў, што і Ганна засмяецца на жарт, але ў той нават кончыкі губ не варухнуліся.

Яўхім стрымаў рогат. Глядзеў усё ж весела.

— Дак, кажаце, авечкі прадаяце? Дак чаго ж іх не купляюць? Купцоў — унь колькі!

— Ат! Купцы — сказаў!.. Разявакі ето, Яўхімко, а не купцы!

— Е разявакі. А е — і купцы! Трэба толькі ўмець знайсці іх! Ды зачапіць на кручок!

— Зачэпіш іх!

Яўхім раптам адарваў прыклееную цыгарку, кінуў пад ногі, рашуча сказаў прыяцелю:

— Ларывон, трэба купцоў знайсці на авечак!

— Ну, калі трэба, дак...

— Хадзем!

Зірнуўшы на Ганну, Яўхім спрытна павярнуўся і ўрэзаўся ў натоўп. Каршуковым позіркам азірнуўся, пашукаў, — штурхаючыся, адціскаючы ўбок тых, хто трапляўся на дарозе, рушыў з Ларывонам, які верна дыбаў услед, у мітусню між вазоў. На іх адварочваліся, лаялі іх, а яны і не азіраліся — вось прысталі да адной групкі людзей, паслухалі, да другой прыблізіліся...

Вярнуліся з гарадскім чалавекам у кароткай паддзёвачцы з заечым каўняром і ў пальчатках — спачатку ўдвух: «купец» і Ларывон. Яўхім падышоў толькі пасля таго, як чалавек паглядзеў авечак і стаў прыцэньвацца. Падышоў, нібы незнаёмы, падміргнуўшы Чарнушкам, каб маўчалі, сур'ёзна, голасна запытаўся:

— Чые авечкі?

Ларывон адказаў:

— Ды тут ужэ е купец...

Яўхім грубавата штурхнуў чалавека, як бы адціскаючы яго:

— Мало што е! Мы паглядзім шчэ, хто лепшы купец!.. — Ён зірнуў на Чарнушку: — Вашы авечкі?

— Мае.

— Не лезь! — як бы зазлаваў Ларывон. — Тут ужэ е купец! Ён першы прыйшоў! Яго чарга — першая! Не суньса, чуеш! Не замінай!

— Першы — ды горшы! Ён год таргавацца будзе! — Яўхім, здавалася, хацеў што б ні было перахапіць авечак.

Ён нават палез рукой пад паддзёўку, як бы хочучы дастаць грошы. Але калі скоса зірнуў на «купца», убачыў расчаравана — той і не думаў хапацца браць авечак! Аддаваў сваё права Яўхіма не спрачаючыся, нават ахвотна! «Не зачапілі!» — падумаў Яўхім.

Не ўдалася гэта выдумка і з другім «купцом», якога прывёў Ларывон, і толькі трэці — задзірысты, кірпаносы вясковы хлопец у расшпіленым шынялі, — калі Яўхім нахабна ўлез у яго гаворку з Чарнушкам, абурана загарэўся:

— Авечак я напытаў!

— Мало што напытаў! Напытаў — не купіў... — Яўхім палез к Чарнушку: — Пачым прадаяце?

Хлопец, раззлаваны, адрэзаў:

— Я бяру авечак!

Ён ашалела выхапіў з кішэні гімнасцёркі кашалёк, стаў адлічваць акуратна згорнутыя рублі, важкія медзякі. Рукі яго, з крывымі, неспакойнымі пальцамі, непаслухмяна дрыжалі...

— Эх, дзешаво прадалі! — «пашкадаваў» Яўхім уголас. — Я болей даў бы!

Ён падміргнуў Ганне, якая сачыла за ўсім дзіўна сумна, і адышоў, быццам бы незадаволены. Аднак, як толькі хлопец у шынялі, ведучы ўжо сваіх авечак, адышоў ад Чарнушкі, ён вярнуўся да воза, гарэзна, голасна зарагатаў:

— Усётакі адзін папаўся!

Мачыха, павесялелая, амаль шчаслівая, глянула на яго з захапленнем: вось жа малайчына, зух!

— От дзякуй табе, Яўхімко! Выручыў ты нас, вyратаваў проста! Бо мы б тут да вечара пратырчалі б! І то ці збылі б!

— Глядзець ніхто не хацеў! — згодна адгукнуўся Ганнін бацька.

Яўхім адказаў сціпла:

— Ат, чаго тут дзякуваць! Як чужому ўсё адно!.. Свае ж цяпер, сказаць, адна сям'я!..

— Свае. Праўда, Яўхімко!

Яўхім закаханымі вачыма зірнуў на Ганну.

— Дак мо пойдзем, паглядзім, дзе што робіцца?

— Аге! Ідзіце, ідзіце, — ахвотна падтрымала яго мачыха.

Ганна не пярэчыла: не толькі таму, што нявесце нядобра было б пярэчыць жаніху, свайму будучаму гаспадару, але і таму, што даўно хацелася ёй у людскую мітусню, якая, здавалася, таіла ў сабе столькі цікавага. Стоячы каля воза, яна бачыла так мала, ды і стаянне гэта надакучыла да ліха!

— Ануля!.. — Бацька адазваў яе ўбок, цішком, як вялікі дарунак, даў скамечаны, потны рубель. — Можа, захочаш купіць штонебудзь.

Ганна падзякавала, загарнула паперку ў насоўку, пад аховай двух дужых хлопцаў рушыла к другім вазам, у мітусню і гоман людскіх натоўпаў.

4

Першы час побач з Яўхімам чула яна сябе няёмка: як бы не дзяўчына ўжо, не вольная, жонка яго. Але няёмкасць гэта неўзабаве прыціхла, адышла, увагу, думкі яе захапілі відовішчы кірмашу. Вось дзед стаіць, абапёршыся на воз, — мабыць, чужы, — стаіць, нібы дрэмле. На плячах дзеда вісне нізка звычайных лазовых лапцяў — здаецца, не прадаў ні аднаго, а колькі корпаўся з імі, як, пэўна, натаміўся, цягнучыся сюды старымі нагамі? Жанчына, таксама немаладая, хваравітая, трымае на руках ношаную, пафарбаваную лушпайкамі цыбулі, зрэбную сарочку, яшчэ адна — за возам — са скруткам палатна... Хлапчанё, бялявае, з насцярожанымі дзікаватымі вачыма, прадае шапкукубанку — скураны верх яе вышмараваны да белага...

— Украў? — падскочыў да яго Яўхім.

— Сам ты ўкраў!

— А от зараз праверым! От зараз — у міліцыю!

— Заві!.. — Хлапчук глядзеў адважна.

Потым — неспадзеўкі, яны і варухнуцца не ўправіліся: мільг — і знік між вазоў і людзей!

— От шпана! — пакруціў галавою Яўхім, рагочучы з адабрэннем. — Як верабей!.. З дзетдома, мабуць...

Яўхім і цяпер ішоў, штурхаючыся, весела, задзірыста пакрыкваючы, каб расчысціць дарогу, там і тут спыняўся каля вазоў, каля людзей, якія прадавалі, разглядаў жывёлу і тавар, быццам прыцэньваўся.

— Цётка, пачом шкілета етаго прадаеш? — запытаўся ён, паказваючы на карову, што задуменна жавала сена. Карова была як карова, не вельмі і худая, і цётка пакрыўдзілася:

— Сам ты шкілет! Байструк салдацкі!

— Я не байструк, цётка! У мяне і тато і матка е! От яны знаюць!.. — Яўхім кіўнуў на Ганну і Ларывона.

Ларывон пацвердзіў: — Е.

— От, чуеце! А пра шкілет — я так, смешкамі! А вы ўжэ і ругацца! Хіба ж я не бачу, што карова ў вас — хоць на выстаўку! Малака, мабуць, дае — заліцца!.. — Жанчына глянула недаверліва, прамаўчала. Але Яўхім не адступіўся, вельмі сур'ёзна, дзелавіта запытаў: — Дак пачым жа прадаяце?

Жанчына завагалася.

— Трыццаць — як аддаць!

— Дораго! — Яўхім аж губы падціснуў: столькі заламала!

— А ты — сколькі б даў?

— І бясплатно не ўзяў бы! Такую здыхляціну!

Ён зарагатаў проста ў вочы ашалелай жанчыне і пайшоў сабе далей. Ларывон падаўся ўслед, таксама душачыся рогатам:

— От упёк! Упёк дак упёк!..

Толькі Ганна не смяялася — ёй было нават шкада жанчыны.

— Нашто табе ето? — сказала яна Яўхіму з дакорам.

— А чаго ж не пасмяяцца? Дзе і пасмяяцца, як не тут!..

Дурэючы, ён ціха заспяваў:

Мы на гора ўсім буржуям
Міравы пажар раздуем!..
Міравы пажар ў крыві...
Госпадзі, благаславі!..

Яму, відаць, гэтая песенька здавалася пацешнаю, як і Ларывону, які гудзеў за ім. Ганна ж быццам і не чула іх гарэзнага спеву, поўнячыся ўся адчуваннем вялікага чалавечага віру.

— Цабры, цабры каму?! Цабры новыя, асінавыя, сасновыя! Дзежкі, бочкі! Дзежкі, дзежкі!..

— Абады, абады каму? На сто гадоў ездзіць! Дзецям і ўнукам хопіць!..

— Падсвінка прадаю! Нядораго! Падсвінка!.. Можна карміць, можна забіць!..

— Рыба свежая! Сягоння з рэчкі! Толькі што вылавілі!..

— Дзёгаць! Дзёгаць! Дзёгаць!

— Рыба! Рыба! Рыба!

Усё было дзіўна перамешана: вазы, каля якіх драмалі пакорліва і сумна «падласыя» і «рагулі», ціснуліся з вазамі, на якіх бялелі цабры, бочкі; наравістыя бараны і неспакойныя свінні варушыліся між вазоў з лазовымі каробкамі, кашамі і кошыкамі, коламі, абадамі. Мяшаліся галасы — беднае жывёльнае зборышча ўплятала ў людскі гоман рыканне, іржанне, бэльканне, рохканне, прарэзлівы віск.

— Казу! Казу прадаю! Каму казу трэба? — крычаў нехта.

— А дзеўкі няма? — зарагатаў Ларывон.— Мне б — дзеўку!

— Венікі! Венікі! Бярозавыя венікі! Хоць хату падмесці, хоць памыцца!..

Чаго тут толькі няма — і граблі, і зубы ў граблі, і нават лаза, верчыкі лазы на лапці! Усё, што можна і няможна, сцягнулі людзі сюды, каб прадаць, агараць капейку, памяняць на нешта. І колькі ж іх, гэтых людзей, колькі клопатаў, жаданняў, надзей ходзіць, гамоніць, кліча — і з гэтага боку Прыпяці, і з другога, зарэчнага! Тым, якія за ракой, цераз вялікую ваду перабірацца прыйшлося, перад паромам выстойваць, лодкі шукаць, а ўсё ж прабіліся, сышліся з гэтым берагам, зліліся ў адным гаманлівым разліве на юравіцкай плошчы!..

— Ёмкі, качэргі не трэба? — таямніча запытаўся дзядзька з абсмаленым вусам, мусіць, каваль.

— Не трэба! Не жаніўся шчэ! — адмахнуўся Яўхім.

За кавалёвым возам ціснуліся цікаўныя: чародка гарачых цыганоў абкружыла дзядзьку, які трымаў порсткага жарэбчыка. Цыганы наперабой аглядвалі і абмацвалі каня, так жа наперабой лаялі яго, пагардліва паказвалі на яго калені, тыцкалі пальцамі ў капыты. Яны крычалі так дружна, што цяжка было зразумець словы. Гаспадар, вялізны, нязграбны, слухаў іх моўчкі, як бы і не чуў, і цыганоў гэта злавала, насядалі яшчэ гарачэй. Дробны, цагляначырвоны, старэйшы, відаць, між іх, і раз, і другі хвацка працягваў руку, чакаў, што той падасць сваю на згоду, але селянін усё стаяў, як глухі. З натоўпу вакол сыпаліся падчэпістыя

воклічы, чуўся рогат, цыганы ж не заўважалі нікога, толькі старэйшы азірнуўся, тыцнуў пагардліва пальцам на селяніна, просячы ў людзей падтрымкі сабе, потым плюнуў і рушыў прэч, ведучы і ўсю хэўру...

— Вазьмі мяне! — крыкнуў Ларывон, і цыган, не разумеючы, спыніўся. — За жарабца вазьмі! Да сваёй! Да цыганкі!..

Цыган штосьці сказаў пасвойму і пайшоў далей пад крыкі, рогат натоўпу.

Мінуўшы натоўп, падышлі да вазоў, над адным з якіх тырчала фанерная шыльда — «Камуна «Росквіт жыцця». Хоць прадавалі тут бульбу, капусту і яблыкі, пабадзяліся між вазоў, паглядзелі ўсё з асаблівай цікавасцю — пра камуну хадзіла столькі гаворак!

— Капуста ўрадзіла! — сказала здзіўлена Ганна, любуючыся вялізным лабастым качаном.

— Зямля ў іх — не наша! Панскую забралі! Як масла — зямля!.. — растлумачыў Яўхім.

Чалавек у ватоўцы, абветраны, з аблупленым носам ухмыльнуўся зза воза:

— Зямля панская, ды капусты такой у пана — не було!

— Такой, можа, і не було, — згадзіўся, здавалася, Яўхім. — Дак була не такая, лепшая!

— Не було ні лепшай, ні такой! — зноў ухмыльнуўся чалавек у ватоўцы.

Яўхіма ўсмешка гэта чамусьці ўзлавала.

— Канешне! Не було! Пан ваш буў дурны, як лапаць! А вы — разумныя! І вам Бог камунаўскі памагаў! Кажуць, у камунаўцаў таксама Бог е і яму кожны дзень моляцца?

Ларывон зарагатаў. Ганна таксама засмяялася, гледзячы мімаволі на капусту: ну і качаны ж!

— Е, канешне, Бог! А як жа! Не без Бога! Усё, кажуць, ад Бога!

— А! — узрадаваўся Ларывон. — А як яго завуць, вашаго Бога? Папарцейнаму! Карло Маркс?

— Навука завуць яго. Агратэхніка.

— Хаха! Абрацехніка! Як жанчыну, ці што?.. — Ларывон хацеў яшчэ штосьці сказаць гарэзнае, але, зірнуўшы на Яўхіма, які не думаў смяяцца, перамаўчаў.

— Ерунда! Агратэхніка ваша ета! Зямля — от што Бог! Е зямля добрая, дак і ўсё будзе!..

— А качаны етыя выраслі ў нас, між іншым сказаць, і не на зямлі. — Чалавек ухмыльнуўся яшчэ хітрэй. — На балоце!

Ганна не паверыла:

— На яком балоце?

— На звычайным. На дрыгве, у якой коні тапіліся... Асушылі — і от, калі ласка, качаны!..

Ганна зірнула на чалавека — смяецца, напэўна, байкі гаворыць. Але той не смяяўся, трымаўся так, бы ўсё праўда. Як бы хочучы дазнацца, праўду ці няпраўду сказаў чалавек у ватоўцы, узяла на рукі качан, узважыла — важкі ж які! — памацала. Не качан, а дзіва! І на балоце, падумаць!

Яўхім узяў яе за локаць, пазваў. Адыходзячы, кінуў чалавеку:

— Прыязджайце к нам капусту садзіць! У нас балото вялікае!

Ларывон засмяяўся. За камунаўскімі вазамі яны наткнуліся на будачку, збітую з дошчак, над якой на чырвоным палатне былі намаляваны дзве рукі ў поціску і надпіс: «Горад і вёска — злучымся!» Ніжэй палатна была прыбіта шыльдачка: «Саўгас «Шлях да камунізма». У ларку прадавалі мяса. Сек і важыў мяса малады хударлявы хлопец у белым халаце. Усе трое, убачыўшы гэты халат, сталі.

— Як дохтар! — не ўтрываў Ларывон. — Як усё адно ў бальніцы якой!

Яўхім коса зірнуў на Ганну, працадзіў:

— Ккультура!.. Шлях да камунізма!..

Яны былі ўжо з краю плошчы, каля будынкаў, у якіх мясціліся крамы. Яўхім успомніў, як бацька даваў Ганне грошы, запытаў:

— Табе, здаецца, купіць нешта трэба?

— Ат, дробязь розную... Я потым, з мачыхаю... — Ёй не хацелася, каб Яўхім стаяў, бачыў, як яна будзе выбіраць гузікі, аплічкі, інтымныя дзявочыя драбніцы.

— Ну, дак можа сюды зайдзем? — Яўхім кіўнуў ёй і Ларывону на дзверы, па баках якіх на высокіх і вузкіх шыльдах былі намаляваны міскі, лыжкі, бутэлькі і чаркі. Шыльды былі вельмі падобны на тыя, што віселі на дзвярах у шаўцоў і краўцоў, толькі што тут замест ботаў ды шапак красаваліся міскі і бутэлькі. Над аблезласінімі міскамі клубіліся шэрыя воблакі, чаркі таксама былі поўныя нечым шэрым.

— А што там рабіць нам?! — запярэчыла Ганна.

— Ну, што!.. Тое, што і другія! — Яўхім падміргнуў Ларывону. — Ну, морсу вып’ем!... Сушыць нешта ў горле!..

Яўхім амаль сілком увёў Ганну ў памяшканне, у якім за столікамі сядзела нямала людзей, што пілі, елі, гаманілі. Яўхім знайшоў каля століка ў кутку два вольныя зашмальцаваныя та-

бурэты, прынёс сабе яшчэ адзін і пайшоў к буфету. Пралезшы цераз чародку людзей, якія таўкліся там, ён пагаварыў аб нечым з тоўстым, паголеным чалавечкам, гаспадаром «сталоўкі» Ёселем і вярнуўся да стала з трыма налітымі шклянкамі.

— Ето нам, — паставіў ён шклянкі з гарэлкаю сабе і Ларывону, потым урачыста паднёс шклянку з вiном Ганне. — А ето — табе!

Ганна сказала, што піць ёй не хочацца...

— Хочацца не хочацца, а трэба выпіць, калі ўгашчаюць! Ад угашчэння адказувацца няможно! — Ён засмяяўся: — Прывыкай! Прыйдзецца шчэ папіць!

Хлапчук, Ёселеў сын, прынёс хлеба, закускі: гуркоў, катлеты з патоўчанаю бульбай. Сам Ёсель, рухавы, увішны, з чорнымі вясёлымі вачыма, падбег з талерачкай, на якой быў ружовы брусок нейкага печыва, міргнуў Яўхіму, як знаёмаму.

— Калі ласка! Для дамы!.. Вам, па заяўцы вашаго кавалера! — Ёсель паставіў талерачку. — Яўхім, можа, яшчэ чаго трэба?

Яўхім пасяброўску ляпнуў Ёселя па плячы.

— Пакуль хопіць етаго! — Калі Ёсель адбег к буфету, Яўхім, задаволены, што можа ўразіць Ганну такою навінкай, прамовіў: — Піrожнае! Для жанчын шляхетных робіцца спіцыяльна!

Ганна паглядзела на нявіданы брусочак, зацікаўленая: які ён на смак? З чаго яго зрабілі, чаму толькі для жанчын? Але запытацца стрымалася: гэта яе магло б прынізіць перад ім!..

Яўхім узняў шклянку, паднёс да Ганнінай.

— Вып’ем, кеб усё добра було!

Ганна паспытала: віно было прыемнае, салодкае, не тое што куранёўская самагонка.

— Усё, да дна! — напаў на яе Яўхім, калі яна намерылася паставіць шклянку. — Не пакідаць зла!

Каб не спрачацца дарэмна, не выклікаць лішне ўвагі да сябе тых, хто сядзеў побач, паслухалася, выпіла ўсё.

— А цяпер от вазьмі каклету ці гурка! — Яўхім выдаваў сябе за гасціннага, клапатлівага гаспадара.

Ад віна хутка стала цёпла і лёгка, хмарныя думкі зніклі: не было ўжо ні шкадавання аб дарагім, што назаўсёды траціла, ні трывогі пра тое, як будзе далей. Узяла піrожнае, паспытала — аказваецца, салодкае, само нібы ў роце растае! Мабыць, з белай, марымонскай мукі, з яйкамі і цукрам!

— Мо шчэ вып’ем? — нахіліўся Яўхім.

Яна рашуча захітала галавой: не, — засляшалася ўстаць. Калі выйшлі разам з ветлівым Ёселем, які правёў на ганак, прасіў не забываць дарогі к яму, кірмаш здаўся вясёлым святам, і ўсё навокал выглядала бесклапотным, бясхмарным, святочным, і верылася: ёй будзе добра, будзе добра!

Зноў патаўкліся трохі ў людской мітусні каля вазоў, гледзячы на дабро, раскладзенае на сене, зайшлі ў адну, другую краму, у якіх таксама ціснулася багата народу, больш за ўсё, відаць, разявак.

— Скажы, што табе хочацца купіць — такое, кеб даўно хацелася! — сказаў Яўхім, акідваючы вачыма палічкі, на якіх было раскладзена і развешана мноства ўсякіх прынад.

Вядома, Яўхім не быў бы Яўхімам, каб у яго словах не пачула яна пахвальбы — магу што хочаш купіць, — але Ганна больш заўважыла цяпер тое, што яму хочацца зрабіць ёй добры дарунак. Яна бачыла, што яму вельмі хацелася, каб яна папрасіла. Ганна на міг завагалася. І ўсё ж штосьці стрымала яе:

— Нічога.

Ганна адразу ж сабралася ісці з крамы, але ён не пусціў.

— Пастой! Няма чаго выдумляць! Не чужыя ж!.. Ты не нагледзела, дак я нагледзеў!.. — Яўхім крыкнуў прадаўцу: — Падайце хустку тую!

Ён сам накінуў ёй хустку на плечы, падвёў к люстру, прыбітаму да сцяны. Якой ні спакойнай здавалася Ганна хвіліну назад, але, калі зірнула ў люстра, твар яе, смуглявыя, крыху выпнутыя шчокі заяснелі зачаравана: ах, якая квяцістая, якая вогненнаяркая, цудоўная, век такой хусткі не насіла!

— Акурат да твару! —узрадаваны, таксама зачараваны, сказаў Яўхім. Ён задаволены пайшоў к прадаўцу.

Жанчыны, якія стаялі за ёй, глядзелі з зайздрасцю, гаманілі, хвалілі: добрая хустка, да твару, нічога не скажаш. Ганна ж не магла вішнёвых воч сваіх адарваць ад люстра, ашчасліўленая, замілаваная: ці яна гэта, такая незнаёмая, такая паглядная, такая... Штосьці раптам занепакоіла, штосьці нібы дакранулася да чулай шыі, дзіўна халоднае і гарачае. Яна, не разумеючы, мімаволі павяла няцямным позіркам — і гарачая чырвань умомант заліла яе твар. Васіль! Калі ён увайшоў, ці, можа, быў ужо між людзей тады, калі яны з Яўхімам паявіліся, Ганна не ведала і не думала пра гэта — яе ўсё поўніла неспадзяванае відовішча — Васіль! Яны глядзелі адзін на аднаго, позіркі іх у люстры скрыжоўваліся.

Толькі момант было гэта — Васіль знік з люстра гэтак раптоўна, як і паявіўся. Але хоць яго не было відно, яна не магла варухнуцца. Ён нібы скаваў яе. І, не бачачы яго, яна чула дзікаваты, важкі і разам з тым разгублены позірк спадылба, крыўду і роспач на яго самалюбных губах. Гарачынь, чырвань сораму ўсё не сыходзілі з яе твару. І якое недарэчнае было тое, што сказаў, вярнуўшыся, Яўхім:

— Ну, от і канцы з канцамі! Відно, што нявеста! — Яе абразіў яго смех: — Падарыў, а ўсё адно як сабе! Не з хаты, а ў хату!..

Ад гэтага смеху Ганне захацелася плакаць. Выходзячы з Яўхімам, яна падумала пра Васіля — тут ён яшчэ ці пайшоў, але, поўная неперажытага хвалявання, азірнуцца не пасмела. Быў Васіль ці не быў у краме, а ёй здавалася, што ён каля яе, сочыць за ёй.

На ганку, стараючыся не сустракацца позіркам з Яўхімам, яна сказала, што трэба ісці назад: бацька і мачыха даўно зачакаліся.

— Хай прывыкаюць! Не столькі шчэ чакаць прыйдзецца!

Ён заўважыў, што яна спахмурнела, незразумела перайначылася, але распытваць не стаў. У яго быў паранейшаму бесклапотны настрой, непадатны для падазрэнняў ці якіхнебудзь непрыемных думак...

— Я дайду ўжэ адна, — сказала Ганна, калі ён трохі правёў яе.

Яўхім не запярэчыў, не здзівіўся ці зрабіў выгляд, што не здзіўляецца, моўчкі адышоў. Яна была рада, што ён лёгка адстаў.

Увесь час, пакуль стаяла з бацькамі каля воза, не сціхаў у ёй успамін пра Васіля, пра яго паяўленне, пра яго позірк — трэба ж, каб так здарылася! Думала, усё з ім кончана, застаецца толькі забыць, і вось жа — сустрэча гэтая! Як зачырванелася, не згарэла ледзь! Нібы з крадзеным злавілі!.. Застаўшыся адна, без Яўхіма і Васіля, яна старалася абдумаць усё, вярнуць сабе разважлівую яснасць: нене, ёй няма чаго саромецца! Усё, што было з Васілём, кончана. Проста не прывыкла яшчэ. Але — прывыкне!

Зза думак сваіх яна амаль не чула ні зайздрослівага мачышынага войкання — вой, якая хустка! — ні бацькавага неспакою аб тым, што людзі ўжо раз'язджаюцца, а мех бульбы так і ляжыць.

Бацька запрог каня, каб ехаць дамоў, калі к ім падышла чарнявенькая, кволая дзяўчына ў кароценькім гарадскім паліто і шапачцы, запыталася, ці не маюць яны бульбы. Бацька так узрадаваўся гэтаму, што не стаў і таргавацца.

— Ужэ і не думаў, што купец знойдзецца! Як Бог паслаў, на шчасце! Дак хай і вам карысць будзе!..

«Богам пасланы купец» папрасіў, каб бульбу завезлі на кватэру. Калі ехалі, мачыха з вясковай ганарлівасцю паведаміла:

— Грошы вельмі трэба. Дачку от замуж аддаём...

Белы, нездаровы тварык дзяўчыны павярнуўся да Ганны.

— Віншую!.. Добры хлопец, мусіць?..

— Да як сказаць. Не гарбаты, не кульгавы. Не горшы за другіх, здаецца.

— Добры. Красівы, багаты, — умяшалася мачыха. — Яўхім Глушакоў!

— А! — прамовіла дзяўчына далікатна. Зірнула на Ганну пільнымі, дзіўна строгімі вачыма: — Вы любіце яго?

Ганна не адразу адказала, падумала: «Худзенькая якая, нібы нядужая. Вецер, здаецца, падніме і панясе, як пушынку... А вочы — такія строгія!.. Люблю ці не люблю?!»

— Ці ўсім, канешне, любіць, выходзячы?.. Кеб усе ішлі толькі тыя, што любяць, дак болей за палавіну ў дзеўках век сядзела б!

— І ўсётакі — як жа жыць без кахання?

— А так і жывуць... Сцерпіцца — злюбіцца, кажуць...

Дзяўчына прамовіла, любуючыся і дзіўна спачуваючы:

— Вы такая прыгожая!

— За Яўхімам пражыве прыпяваючы! — зноў умяшалася мачыха. — Само шчасце, сказаць, у рукі ёй прыйшло!..

Дзяўчына не адказала на гэта, запытала з той жа строгасцю:

— Харошае сяло ў вас?

— Нічога. Грыбоў процьма. Маліна, ягады ўсякай. Канешне, не тое што Глінішчы, а ўсётакі — нічога... —Мачыха пацікавілася: — А вы — хто самі будзеце? Нешта не бачылі мы вас ніколі!..

— Я ў Мозыры жыву. Вучуся. А тут у дзядзькі ў гасцях. — Строгія вочы памякчэлі. — Настаўнічаць к вам от прыеду. На той год канчаю. — У яе, аказалася, такая мілая ўсмешка, пяшчотная, з ямачкамі. І рот прыгожы, маленькі, добры.

— Прыязджайце... Толькі — школы ў нас няма...

— Аа... — пашкадаваў добры раток.

Дзяўчына — мачыха дазналася ўжо, што яе завуць Параска, — прывяла воз на двор «воласці», сказала, што яна жыве тут, на першым паверсе, з боку двара. Ледзь толькі ўехалі, як на ганак выйшаў Апейка, і дзяўчына радасна крыкнула яму:

— Ну, от я купіла! — Яна гарэзліва пахвалілася: — І нядорага!..

Пакуль Чарнушка наматваў лейцы на ручку, Апейка паставіў мех і, прысеўшы, пачаў прыладжвацца плячыма, каб лаўчэй узяць на сябе. Чарнушка не чакаў такога: якніяк валаснoе начальства, няхай сабе і з простых людзей, паспрабаваў быў паправіць productivity становішча:

— Дайце ўжэ я!.. Кеб не падарваліся з непрывычкі!..

— Не падарвуся! — адказаў Апейка, з натугай падымаючы мех.

Чарнушка памог яму, ніякава пайшоў услед, падтрымліваючы мех ззаду. Калі яны вярнуліся на ганак, Апейка гаварыў:

— Дык вы з Куранёў! Тота — твар знаёмы... картопля добра ўрадзіла?

— Картопля — непагано. А жыта, можна сказаць, няма...

— З жытам, з пшаніцай пагана ў нас у многіх сёлах. Цяжкая зімка будзе. І вясна... Ага, — успомніў Апейка, — тут у нас быў пад арыштам з Куранёў... Дрозд, здаецца... Не, Дзяцел яго прозвішча. — Ганна замерла, стала ўслухоўвацца: — Як ён жыве?

— А што? Нічого. Жыве сабе...

— Добра, сумленна жыве?

— Нічого. Як усе...

Ганна яшчэ не сцішыла хвалявання, якое выклікаў раптоўны напамінак пра Васіля, як з дому выбегла Параска, строга і сур’ёзна падала штосьці загорнутае ў газету:

— Гэта вам ад мяне. К вяселлю... Нічога другога няма. Студэнтка!.. Кніжка добрая!.. — Яна схамянулася: — Чытаць вы ўмееце?

— Можно сказаць — не...

Параска задумалася: што ж рабіць? Памог Чарнушка, сказаў Ганне:

— Бяры да дзякуй!

Едучы назад, Ганна трымала ў руцэ кнігу, везла ў памяці апошні строгі і жаллівы дзявочы позірк. «Вы любіце яго? Як жа можна жыць не любячы!..» — «А так і жывуць! Многія жывуць!..» — быццам спрачалася яна са строгай, наіўнай дзяўчынай. Яна ведала гэта, была пераканана, што так было і будзе, але калі згадвала, як хадзіла з Яўхімам, Васілёва паяўленне — на душу важка лажылася трывога...

5

Клопаты, клопаты. На другую раніцу Чарнушка зноў выправіўся ў дарогу — цяпер ужо купляць Ганне на кофту. Дарога была недалёкая, хоць і даводзілася яшчэ ехаць у аб’езд, —напрасткі пакуль толькі хадзілі, — і гадзіны праз паўтары Чарнушкавы калёсы круціліся ўжо ў глінішчанскую вуліцу.

Дом Нохіма стаяў каля краю сяла, на самым людным месцы, якое чамусьці называлася «коварат» і ў якім сыходзіліся канец вуліцы, дарога з Алешнікаў і дарога на юравіцкі шлях.

Крама была ўжо ў прыбудоўцы да вялікага старога дома, і Чарнушка, прывязваючы каня к штакеціне, мімаволі адзначыў: «Перабраўся ўжэ!.. Багацее Нохім!..» Едучы нядаўна ў Юравічы, Чарнушка бачыў, як клалі зруб прыбудоўкі, а вось ужо на табе — крама. Ды і сам дом ці даўно з часоў польскай навалы стаяў пусты, без вокан, і сад за ім — недагледжаны, абшарпаны, ці даўно туліўся. А вось на табе — як ні глянь, дык навіна: то крама ў доме, то паравік, то прыбудоўка... Яблыні новыя, маладыя ў садзе...

«Багацее, хітры сабака...»

У краме, што пахла ўсярэдзіне свежым дрэвам, селядцамі і газаю, стаяў за прылаўкам старэйшы Нохімаў сын Іцка. Акрамя яго было толькі двое глінішчанцаў, якія прыйшлі, мабыць, пагаманіць, бо купляць нічога не збіраліся. І Іцка адразу навастрыўся позіркам на Ганну і Чарнушку.

Чарнушка па даўняй сваёй звычцы спярша пачаў браць розную драбязу, што дзешавей: тры карабкі запалак, пяць фунтаў солі, два фунты мокрых, з едкім пахам селядцоў. Ён ужо намерыўся падступіцца да самага важнага і цяжкага, да самай вялікай траты, калі паявіўся і сам Нохім.

— А, Чарнушка! Здароў быў! — радасна, як добрага знаёмага, прывітаў ён. Нохім ведаў амаль кожнага не толькі ў Глінішчах, але і ў бліжэйшых вёсках.

— Здароў буў і ты.

— Багаты будзеш, чуў я! Дачку аддаеш замуж?

— Аддаю...

Нохім умомант абмацаў Ганну такім пільным позіркам, што яна пачырванела.

— Красуня! Яўхім толк у бабах знае! Сам бы жаніўся на такой, каб маладзейшы быў. І не жыд. Бо ты б не аддаў за жыда, а?

— Стары ты, Нохім. Грэх такое гаварыць.

— Стары? Я — стары? — Нохім зірнуў на Іцку, які весела засмяяўся, потым на сялян. Адзін з іх падтрымаў:

— Самы сок! Акурат жаніцца!

— От, чуеш, Чарнушка! А ты кажаш: Нохім стары!.. — Ён адразу ж, амаль тым жа тонам прамовіў: — Але ты, мабыць, прыехаў ка мне не толькі для таго, каб паказаць дачку? Купіць што хочаш?

— Перкаль, кажуць, у цябе на кохту е... — наважыўся бацька. — Дзеўка надысь бачыла...

— Е. Трохі яшчэ засталося. О, твая дзеўка, Цімох, бачу, ведае, што добра, а што дрэнна...

Нохім падаў невялікі скрутак. Калі Чарнушка мяў паркаль кручкаватымі, як сухое алехавае карэнне, чорнымі пальцамі, чамусьці разглядваў на святло, Нохім параіў:

— Ведаеш, Цімох, што я табе скажу. Калі ў цябе ўжо такое свята, то я дам, чаго нікому не даваў. Саціна ў мяне е атласная. З Кіева самога. Блішчыць, пераліваецца, як шоўк. Прыбраўшыся ў яе, дзеўка твая будзе чыстая каралева!

— На каралеўскае, Нохім, у мяне, грэц яго, кішэня малая...

— Эге! У яго на саціну кішэня малая! Саромеўся б, Цімох, казаць такое! Ну, добра, як хочаш: бяры не бяры — я не набіваюся. Паглядзі хоць, што яно такое!

— Да што глядзець, калі ўсё адно не вазьму...

— А ты паглядзі Я за разгляд грошай не бяру!

— А што глядзець, калі яно дораго.

— Дорага? Вы чуеце, ён кажа — дорага! Ён яшчэ не бачыў крам, не знае, колькі каштуе, а ўжо кажа — дорага! Яго яшчэ ніхто не рэжа, а ён крычыць — ратуйце!

Нохім спрытна падкаціўся да Ганны, далікатна схіліўся перад ёй:

— Прашу прабачыць, грамадзяначка, але трэба прыраўняць крам да вашага твару, каб ваш бацька пабачыў усё натуральна! Бо мужык такі, што не паверыць, пакуль не пабачыць сам! — Нохім прыклаў разгорнуты край белага саціну да Ганніных плеч і шыі. — Глядзі, Цімох, калі е вочы! І калі ты дабра хочаш дачцэ! Калі ты хочаш, каб яна была першая красуня на вяселлі! А не, даруй, задрыпанка якая!

Бацька пачухаў патыліцу: і праўда ж, крам, ліха яго матары, цудоўны, так і пераліваецца, як вада на сонцы, Ганна ў ім нібы ўжо і не Ганна — красуня з казкі! І ёй, відаць, крам даспадобы вельмі: бач, як вочы зіхцяць, хочуць, просяць. Але ж — капейкі ўсе лічаны.

— Не дораго, кажаш? Колькі ж яно?..

— Не бойся. У цябе застанецца яшчэ капа грошай!

— Смяешся ты ўсё, Нохім. Кеб хоць хапіло!

— Хопіць, кажу. — Нохім перастаў смяяцца. — Я знаю, Цімох, што ў цябе зараз няўпраўка. Сам жаніўся і знаю, што такое вяселле! І хоць ты не пазавеш мяне, я табе дам палёгку! Вялікую палёгку! Можаш цяпер, Цімох, не плаціць усяго. Заплоціш толькі рублёў якіх тры, а астатняе можаш і зусім не плаціць. Адробіш якойнебудзь дробяззю. З'ездзіш зімою ў Мозыр па крам і адзін раз у Юравічы...

Чарнушка пачухаў патыліцу: тры рублі, грошы такія пакласці, ды яшчэ потым у Мозыр і Юравічы халадэчаю перціся! І ўсё ж, пэўна, трэба ўзяць — вельмі ж Ганне да твару!

— Але ж — дараго, страх. Столькі і грошай і язды — жартачкі сказаць!

— Ой, які ты скупы, Цімох! Ну, добра, яшчэ капеек дваццаць скіну! Калі ўжо ў цябе расход такі — вяселле!

Што ні кажы, не ўсё плаціць адразу, якая ні ёсць, а палёгка. А там — Бог бацька. Пакуль, дай Бог, вяселле агараць. Чарнушка выняў зза пазухі латку, раскруціў яе, стаў лічыць грошы.

— Ну, мерай ужэ.

Нохім спрытна крутнуў пак, разгарнуў, адмераў драўляным аршынам, адрэзаў. Перш чым злажыць адрэзанае, ён правёў яго на сваёй далоні, каб усе бачылі, як зырчыцьпераліваецца тканіна, акуратна загарнуў у паперу.

— Насіце на здароўе, мадамазельдзяўчына! І будзьце шчаслівая ў гэтай кофце!

З Нохімам ужо загаварыў другі пакупнік, але калі Чарнушка пайшоў да дзвярэй, гандляр перапыніў гаворку, пацікавіўся:

— А дзе ты, Цімох, шыць будзеш? Такі крам сапсаваць — не штука!

— Да от, думаю, к Годлі...

— Ідзі к Годлі. Штоб ёй на тым свеце сто трыццаць тры разы перавярнуцца кожны дзень! За яе паганы язык, якім яна менціць усякую несусвеціцу на Нохіма. Але Нохім не злы, не помсціць. Ён прадае крам і сам пасылае людзей, каб падтрымаць гэтую дурную бабу, якая гатова нізашто ўтапіць свайго чалавека... Так і скажы, што паслаў сам Нохім!

Годля жыла блізка, у чорнай, паточанай шашалем хатцы з чорнай саламянай страхой і дробнымі акенцамі. Чарнушка ведаў, што хата гэта дасталася ёй ад глінішчанскага бедняка, які падаўся ў прымы. Купіла хату яна гады праз два пасля вайны, сама, казалі, напытала, сама старгавалася, сама прывезла з Нароўлі галодных дзяцей разам з ціхім, нявідным чалавекам

сваім Элем. Але найбольш выклікала людской цікавасці, чуў Чарнушка, дзіва, якое ўнесла ў хату: дзіўны столік на жалезных ножках, з бліскучым колцам і мудрымі шпянькамі. Дзіва гэтае, якое называлася нажной швейнай машынай і падобнага якому не было нічога не тое што ў Глінішчах, але і ў другіх сёлах, куды дасягалі глінішчанцы, ужо само па сабе паставіла Годлю на паважанае месца між людзей. Яшчэ больш павага гэта вырасла, калі пабачылі, як хітра Годля ўпраўляецца з мудрай сваёй машынай, якія ўдалыя аддае дзяўчатам і хлопцам спадніцы і сарочкі.

Чарнушку шыць у Годлі не даводзілася: абыходзіліся, дзякуй Богу, самі — самі і пралі, і ткалі, і шылі, — але Годлю ён добра ведаў. Вельмі ж асаблівая яна сярод вясковых жанок: хуткая, мітуслівая, ніколі не пройдзе ціха, а ўсё бегам, бегам. Адзінае вока яе таксама хуткае, жвавае, усё заўважае, усё разумее. І да ўсяго яшчэ такая дзіўнасць, пра якую было гаворкі па ўсёй акрузе: усю зіму — і ў мароз, і ў мяцеліцу — без хусткі, толькі «гуга» тырчыць на патыліцы, і хоць бы калі прастудзілася!

Уваходзячы ў сенцы, у цемры якіх залапаталі куры, Чарнушка ўвагнуў галаву: дзверы нізкаватыя, нядоўга і гузак на лоб паставіць.

Годля, цэлячыся ў печ, з якой варушыліся водсветы агню, падграбала пад чыгун жар. Паставіўшы качаргу ў кут, яна адказала на Чарнушкава прывітанне, хутка акінула адзіным вокам бацьку і Ганну, скамандавала:

— Соня, дай госцю табурэтку! А вы... — яна кінула позірк на Ганну і раптам крыкнула: — Фаня, вазьмі свае латкі з услона!

Чарнушка зняў шапку, але сесці не захацеў: не расседжвацца прыйшоў.

— Нічога, пастаім... Я тут з дачкой па справе...

— К Годлі ўсе прыходзяць не гуляць. Кохту пашыць ці спадніцу?

Чарнушка падаў ёй свой пакунак, успомніў пра наказ Нохіма.

— Нохім сам паслаў.

— Ой, які ён добры, — прамовіла кпліва Годля. — Сам паслаў к Годлі! Вы чулі? — бліснула яна вокам на печ, дзе сядзелі дзеці. — Сам паслаў ка мне! А да .каго ж яшчэ ён пашле, калі тут адна Годля і шые?

Яна звыкла і спрытна паглядзела на сацін, запытала, колькі заплацілі Нохіму.

— Абдзірала, ой, абдзірала! — пакруціла яна галавой з «гугаю». — Абдзярэ чалавека, голым, без сарочкі, даруйце, адпусціць, ды яшчэ — дзякуй яму скажыце! І такім круцялям

савецкая ўлада волю дала, такім паганым нэпманам! Трэба было рэвалюцыю рабіць, кроў праліваць, каб Нохім абдзіраў людзей! — Яна кінула позірк да печы, крыкнула: — Эля, там малако выходзіць!

Эля падбег к печы, стаў завіхацца з вілкамі каля агню. Годля дастала са скрыначкі ў машыне мерку, але толькі запыталася, які Ганне фасон хочацца, як Чарнушка, перахапіўшы Ганнін адказ, прадбачліва завёў гаворку пра плату. Можа, яшчэ і не старгуемся, чаго ж тады агарод гарадзіць! Баяўся, што Годля заломіць і многа і грашыма.

Ён прыкметна памякчэў, калі Годля сказала, што можа ўзяць мукою ці бульбаю. Але хоць Годля брала і нядорага, як яму і казалі тыя, у каго ён выведваў загадзя, Чарнушка ўсё ж патаргаваўся. Не таму, што чуў у гэтым неабходнасць, а таму, што так было заведзена ва ўсіх. Усе так рабілі. Годлю таксама не злавала спрэчкаторг, не першы раз такія гаворкі вяла. Як толькі згода была ўстаноўлена, яна, быццам і не спрачалася зусім, спакойна і дзелавіта пачала хадзіць вакол дзяўчыны з меркай.

Хоць меранне яе выглядала збоку вельмі проста, у тым, як яна рабіла яго, маўкліва і сур'ёзна, як, памераўшы, прыплюшчваючы вока, углядалася ў лічбы меркі, было штосьці таямнічае, недаступнае. Гэта мімаволі прымушала сачыць за ёй з увагай і пашанай. Уражанне незвычайнасці дапаўнялася самой абстаноўкаю ў хаце, якая рабіла хату ўсярэдзіне непадобнай на вясковыя. Праўда, і ў Годлі стол і ўслоны былі такія, як ва ўсіх, самаробныя, не фарбаваныя нават, але затое ля сцяны стаяла, няхай абадраная, абабітая, а ўсё ж гарадская чырвоная камода. І ложкі былі, і на ложках не рыззё, не коўдры дамашнія, а пярыны з чырвоным сподам. Пярыны — таксама старыя, абшмараваныя. І нават карціны на сценах віселі старыя, заседжаныя мухамі...

— Небагата ж, грэц яго, і ты жывеш, Годля!

Годля якраз мерала, адказала не адразу.

— А з чаго мне быць багатай?

— Машына свая. Шыць умееш...

— Многа толку з той машыны! — адгукнулася Соня, старэйшая дачка. — Калі ў месяц прыедзе з паўволасці тры чалавекі, то яна і рада!

— Соня, памаўчы! Не пухнем, як у Нароўлі, з голаду!

— Не пухнем, бо агарод свой, куры, карова!

— Соня, ты стала вельмі разумная!

Кончыўшы мераць, Годля агледзела Ганну заклапочаным вокам, нібы праверыла, ці не памылілася, абмяраючы, у чым-небудзь, нечакана сказала:

— У горадзе жанчыны ліфчыкі на грудзях носяць. А ў вас, не для мужчын кажучы, лепей, як у каторай з ліфчыкам...

Ганна пачырванела, але не ўтрывала, няўпэўнена запыталася:

— Якія... ліхчыкі?

— Якія?!. Канешне, адкуль вам знаць! Ліфчык — ета от тут такія, як лепей сказаць... такія кошыкі з краму, на пасках...

— Аа... — не зразумела Ганна.

— Яны, каб грудзі былі прыгожыя, як у дзяўчат, каб не віселі. А то, бывае, у каторай грудзей і саўсім няма, дык яна напхае ў ліфчык ваты. І ходзіць, як з сапраўднымі грудзямі!..

— Ето чуў я ў салдатах, — грэбліва прамовіў Чарнушка. Ён плюнуў з агідай: — Распуста!..

Ён коса зірнуў на Ганну: няёмка было слухаць такую гаворку з дачкою, але Годля заўважаць нічога не хацела.

— Канешне, у нас не дзіва, што жанчына, прабачце, дзяўчына пытаецца, што такое ліфчык. У нас у Глінішчах ці Куранях можа мала хто знае і што такое райтузы. Дак райтузы — жаночыя штаны. А іх не знаюць, бо ніхто іх, не для мужчын кажучы, не носіць!

— Чаго не хапала, каб жанкі ў штанах хадзілі.

— Канешне, нашым глінішчанскім ці куранёўскім жанкам і так добра! Нібы ім саўсім не холадна, як гарадскім!

— З распусты прыдумалі ето гарадскія! — пярэчыў Чарнушка.

— Ой, не кажыце, дзядзька Чарнушка! Бо я тады забуду, што тут ваша дачка, і скажу вам такое!.. — Эля, які моўчкі сачыў за гаворкай, весела засмяяўся. Годля дзелавіта запыталася ў Ганны: — Вам, канешне, трэба скора пашыць?

— Да суботы кеб...

— Усе просяць, каб я спяшалася як на пажар. Усім трэба хутчэй! Ну, добра, няхай будзе, як вы хочаце! Да суботы, дак да суботы! У пятніцу можаце забраць!

Калі выйшлі на вуліцу і сталі ладавацца на возе, Чарнушка сказаў задаволена:

— Ну от, будзе ў цябе кохта! Не сорам будзе перад людзьмі паказацца! Хоць Глушак, хоць Бог сам!

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Перад самым вяселлем прыйшла ў дом Глушака яшчэ непрыемнасць: чутка, што будуць рабіць перадзел зямлі. Хоць даўно ведаў, што землеўпарадкаванне павінна быць, усё ж спадзяваўся: можа, неяк абыдзе, мінецца. І цяпер, калі спадзяванню гэтаму прыходзіў канец, вельмі затрывожыўся.

Праз гэта думкі пра вяселле прыціхлі, не балела ўжо так душа ад баламутнага ўчынку сына — бяда іншая, куды большая, насоўвалася, як хмара з градам, гразілася яго дабрабыту. Ад таго, што бяда гэтая была такая вялікая, ён, чалавек цвярозага погляду, хоць і чуў небяспечную блізкасць яе, усё ж неяк не хацеў паверыць. Не хацеў траціць надзею на добрае.

Ціхі, лагодны, востры позіркам і слыхам, снаваў ён у дзіравым кажушку па сяле, прылiпаў да людскіх купак, прыслухоўваўся: амаль усюды толькі і было гаворкі, што пра ўпарадкаванне зямлі.

— Усётакі зробяць, дзетачкі? — казаў у купцы куранёўцаў, што курылі на прызбе, Зайчык. — Думалі — дуля, а на табе — праўда!

— Каморніка ўжэ назначылі, — прамовіў Грыбок. — Толькі што ён другім пакуль робіць. А як толькі закончыць там, дак зразу да нас.

— Дак, можа, пакуль ён там убярэцца, тым часам снег ляжа?..

— Міканор тое ж казаў, але Апейка, таскаць, аўтарыцетно заявіў: скора, — умяшаўся Андрэй Руды. — Вы, наказаў, куранёўскія грамадзяны, толькі ўпраўцеся падрыхтавацца! А яго, следавацельно, не зачакаецеся.

— Апейка — так? — перапытаў Дзятлікаў Васіль.

— Апейка.

— Апейка — цана капейка! — дурасліва ўставіў Зайчык, але ніхто не засмяяўся.

Хоня з павагай сказаў:

— Тут не тое што капейкі, а і рубля мала.

— А якая тут падрыхтоўка трэба? — не так запытаўся, як запярэчыў Васіль. — Чаго тут рыхтавацца!

— А таго, — ахвотна і павучальна адгукнуўся Руды Андрэй.

Стары Глушак, бачачы, з якой важнасцю сабраўся Руды тлумачыць, падумаў са злосцю: хлебам не кармі пустабрэха,

дай яму слова ўтыркнуць! Стары насцярожыўся, здагадка падказвала — пачуе нешта непрыемнае:

— А таго! Тут такое дзело, абыяк, наўскасяк не зробіш! Народ увесь закранае яно — следавацельно, з навучным падыходам зрабіць трэба. Штоб камар носу не падтачыў. Найперш, перапісаць трэ ўсіх, колькі ў каго зямлі і колькі душ, і рабочых, і дзяцей. Потым — узяць на ўлік усю агулам зямлю і ўсіх людзей. І, таскаць, паглядзець — колькі ў каго на рот прыпадае!..

— Са ўсіх бакоў праверыць! — памог Рудому Грыбок.

— Са ўсіхто са ўсіх бакоў! Да толькі ж зямля не ва ўсіх адзінакая! — накінуўся на іх Васіль.

— Ето правільно, — згадзіўся Ігнат. — У каго зямля нібыто зямля, а ў каго такі пясок, што ніякі чорт расці не хоча!

— Трэба, штоб яны разабраліся, якая дзе зямля!

— Аге, без падману!

— Разбяруцца! — запэўніў Хоня.

— Разбяруцца! Як прыедзе каморнік, дак яму і заслепіць вочы гарэлкай! — сказаў Васіль.

Алёша Губаты паспрабаваў супакоіць:

— Міканор сам правяраць будзе.

— Трэба, кеб — Міканор!..

— Таго Міканора каморнік сорак разоў абкруціць вакол пальца! Такога грамацея, як Міканор!..

— Не абкруціць!

Ляснік Міця, які прыблукаўся сюды са сваёй заўсёднай стрэльбай, засмяяўся:

— Яшчэ і дзяльба не пачалася, а ўжэ гатовы загрудкі ўчапіцца!

— Добра табе — адзін у лесе, як цар, — пазайздросціў Грыбок.

— Жыву. Не плачу.

— Пачакай, мо і паплачаш, — адгукнуўся Зайчык.

Алёша ўпэўнена напрарочыў:

— Дабяруцца і да цябе!

— Няхай дабіраюцца! Дабраліся ўжэ. Толькі ў мяне ўсё чысто, як у царкве.

— Дакуль ето ты будзеш гайсаць, таскаць, як бяздомны! Жонка ўся звялася з гаспадаркаю, з дзецьмі, шкілет, таскаць, адзін застаўся, а ён хоць бы што! Яшчэ хваліцца!

— Аб маёй бабе — не твой клопат!.. Ты от пастарайся другі раз у лесе не пападацца, бо як запарву на шкодзе, упяку штрапу! Паенчыш...

— А ён — з паўлітрам! — падчапіў Хоня.
— Плюю я на таго паўлітра!
— Даўно это?
Мужчыны зарагаталі. Пад рогат гэты Глушак устаў і ціха патупаў да сваёй хаты. З выгляду нібы спакойны, ён увесь поўніўся трывогаю, адчуваннем бяды, што сунулася ўсё больш блізка, неадхільна. «Паразяўляліся! — аж дрыжала штосьці ўсярэдзіне ад бездапаможнасці і лютасці. — Не ва ўсіх пароўну на рот прыпадае! Не пароўну!.. Толькі і знаюць, што разяўляць рот на чужое! Прымелі б — з'елі ўраз усяго. З'елі б — дай крычалі шчэ: не пароўну! Не пароўну! Галадранцы вашывыя! Трасцы вам, а не зямлі, саранча ненажэрная!..»
Ён успомніў, што сказаў малады Дзятлік: «Зямля не ва ўсіх адзінакая!» «Не адзінакая, бо і людзі не адзінакія. Адзін гнецца дзень пры дні, абрабляе кожную лапінку, а другі — вылежваецца, да і хоча, кеб дабро було! А потым — разяўляецца, што зямля не адзінакая!..»
Злосць была на ўсіх: усе, чуў, гатовы накінуцца, расцягаць яго зямлю. Але асабліва кіпела ўсярэдзіне, калі ўспамінаў Дзятліка, які ўсё пачаў. «Ты купіў яе, урабіў ету зямлю, што ўчапіцца хочаш, удод ты смярдзючы?»
Такое малое, а такое зяўластае! Шчэ мох і той на барадзе расці, мабуць, не хоча, а яно вунь куды сягае! Ці даўно ж, здаецца, як рыба нямы туліўся пад Маслаковым абрэзам. Нябойся, і рота разявіць тады баяўся, дыхаць і то, можа, не асмельваўся, не тое каб падумаць штонебудзь насуперак...
Забыў! Пасмялеў, як пабілі Маслака! І ўсе пасмялелі! Хіба ж, бывала, наважыўся б хто разявіць так рот на чужое, на яго, Глушаковае? Жылі ціха, паБожаму жылі, баяліся.
Цяпер жа Грыбок і той галаву падымаць стаў. А гэты Руды, пустабрэх, дык балбоча смела, бы які юравіцкі камісар. Стары Глушак пашкадаваў: «Эх, кеб буў цяпер Маслак жывы, кеб чулі яго дух з лесу!..»
Увесь дзень стары нездаволена бурчаў сам сабе, крычаў на спалоханую жонку, на дзяцей.

## 2

Бяды давялося чакаць нядоўга. Ужо на другі дзень склікалі сход і выбралі камісію, якая павінна была праверыць нанава, ці правільна запісаны ў спісах сем'і, колькасць працаздольных, дзяцей, а таксама — колькі ў кожнай гаспадарцы запісана зямлі.

Гэтай камісіі даручылі ўсю зямлю абмераць — дзе б яна ні была заарана: на агародзе, у полі ці на якойнебудзь паляне. Аб усім наказалі далажыць на наступным сходзе.

Апоўдні камісія ўвалілася ў хату Глушакоў. Дзядзькі на лапцях уцяглі з вуліцы ў хату ліпучай чорнай гразі, але толькі Глушачыха заікнулася буркнуць, як Глушак грозна абарваў яе. Лагодна запрасіў няпрошаных гасцей сесці на канапу, падсунуў табурэт.

Ніхто не сеў — нават, лічы ўжо сваяк, Чарнушка, які няёмка туліўся ззаду ўсіх, каля дзвярэй. Нельга сказаць, каб вельмі смела трымаліся і некаторыя іншыя. Затое Міканор, які ўвайшоў першы і стаяў наперадзе, паводзіў сябе так, быццам быў у сваёй хаце.

— У вас усё правільно запісано? — сказаў ён строга, бязлітаснымі блакітнымі вачыма гледзячы на Глушака.

— А што там запісано?

— Глушак... — Міканор павёў парэпаным пальцам па паперы: нібы не помніў: — Едакоў — семера... Якія ето ў вас семера едакоў?

— Семера? Семера і е. Калі запісано, то, значыць, е... Я, Куліна, жонка, значыць, сын Яўхім, Сцяпан, дачка Антося...

— Якая Антося?

— Якая? Дачка. Адна ў мяне дачка, Антося.

— Дак яна ж ужэ замужам. Замужам — не лічыцца.

— Чаму ето не лічыцца? Як усё адно ўжэ не мая. Была ж дасюль мая. — Глушак, не тоячы крыўды, нават знарок паказваючы яе, прасіпеў: — Адну аддаў, а другая отот прыйдзе ў хату.

Глушак кіўнуў на Чарнушку, які ціха адгукнуўся:

— Змовіны былі...

— А спіскі, дзядзько, — улавіў Глушак у Хоневым голасе кпінку, — складалі шчэ ўвесну. Як ето вы загадзя вымеркавалі?..

Міканор зірнуў строга:

— Ну, няхай — пяць ужэ е, а дзе шчэ два?

— Шостая, казаў ужэ, Антося. — Глушак ледзь стрымліваў лютасць. — Як бы яна ўсё адно і не дзіця маё. Як бы не я выгадаваў яе... — Ён жаласна заморгаў вачыма, ледзь не заплакаў. Уздыхнуў. — А астатні — Іван...

— Іван — не ваш. Іван — парабак.

— Мне бацько яго, — зноў цвёрда загаварыў Глушак, — прыпаручыў як сына! Значыць, ён мне ўсё адно як сын!

— Што Сцяпан, што ён — адзінакія дзеці, — памагла Глушачыха.

— Вы, цётко, не кажыце! — Міканор заявіў, як канчатковае: — Івана, не сакрэт, мы запішам за парабка!

— Які ж ён, от бо, парабак?

— А мо ён не робіць на вас?! Каго вы абдурыць хочаце?

— Я не абдурваю. А як ён корміцца пры мне, то і рабіць нейкую драбніцу мусіць! Як і ўсе дзеці!

— Робіць на вас, на чужога чалавека. Значыцца, парабак. — Міканор не даў сказаць Глушаку. — А вы знаеце, які закон аб парабках?

Глушака прарвала:

— Дак калі вы гаворыце, што ён — парабак, то мне яго не трэба! Няхай хоць сягоння бяжыць дадому. Сам абыдуся!

— Дык тады павінны разлічыцца за ўсе дні, што ён рабіў на вас. Па закону.

— Я ўжэ разлічыўся.

— А можа, не саўсім? — зноў кальнуў Хоня.

— Саўсім. Шчэ і лішне. — Глушак забедаваў: — Колькі я скарміў на яго, да колькі паперавёз яго бацьку ў Мокуць, то ён і палавіны не зарабіў!..

— Нічога, дзядзько. Мы, не сакрэт, усё праверым і зробім па закону! — Міканор строга запытаў: — А зямля правільно ў вас запісана?

— Зямля?

— Зямля.

— Уласць надзяляла, уласць і запісвала. — Сказаў абыякава, а сам падумаў са злосцю, з трывогай: «От яна, бяда!..»

— Вы на ўладу неківайце. Вы кажыце прамо.

— Я і кажу. Налогу налічылі — процьму. Дыхнуць няма як. Капейку ніколі не агораеш на корт які...

— Ужо ж збяднелі!.. — не ўтрываў Хоня.

— Я не збяднеў! Кеб от байчэйшы буў, дак да начальства падаўся б, дабіўся б — няхай бы знялі хоць частку. Па справядлівасці далі...

— Значыцца, уся зямля запісана?

— Што ты, ейбо, прыліп, як ліст: уся, уся? Була б шчэ там зямля як зямля, што столькі крыўды цераз яе.

— Вам, дзядзько, грэх жалувацца. Кеб ва ўсіх була такая!

— У другіх була б лепей, штоб другія гнуліся на ёй столькі, ні дня, ні ночы не бачачы. Ето з людской крывоты здаецца, што мне лепшая папалася. З зайздрасці. Людское вока — крывотлівае!..

— А ўсётакі вы, дзядзько Глушак, так і не сказалі прамо: усё ці не ўсё запісано?

— Сказаў ужэ...

— Значыць — усё?

— Усё.

— Мы праверым!

— Правярайце!

Глушак пачырванеў ад злосці. Але ўсё ж утрымаўся, перамог сябе, нават нагнаў на твар лагоднасць.

— От бо недаверлівыя сталі ўсе. Хоць яно, сказаць, так і трэба — верыць цяперашнім часам асабліва нельга. Усякага цяпер напладзілася... Ну, да і сказаць — выбраныя людзі, камісія!.. — Стары вінавата пакруціў галавою, папракнуў сябе: — А я, гнілы пень, так рассіпеўся. Дай шчэ перад сваім сватам. І Міканор, сказаць, першы раз у хату глянуў!

Глушак затупаў каля стала.

— Пасядзім от трохі! Дзе каму спадобней, той там няхай і садзіцца! Уважце сватоў ды маладых перад вяселлем! Не пагрэбуйце, сказаць!..

Ён хацеў ужо бегчы па пачастунак, але Міканор непахісна заявіў:

— Не трэба! Не час!

— Час, Міканорко. Самы час. Вяселле скоро, змовіны згулялі.

— Пакаштуй, што мы тут гасцям рыхтуем, — замітусілася Глушачыха. — І ўсе няхай пакаштуюць!

— Будзеш патом, мяркуючы, знаць, ісці ці не ісці к нам у госці. — Глушак заўважыў: некаторыя дзядзькі былі не супроць таго, каб пасядзець. Пажвавеў: — А часу заўсягды будзе мала. Управіцеся шчэ. Клопат — не воўк...

— Воўк не воўк. Няма калі, дзядзько!

— Дак жа — дзеля вяселля, дзеля маладых. Шануючы свата майго, выбранаго ў камісію...

— Усё адно! — Не сказаўшы і слова Глушаку на развітанне, Міканор скамандаваў усім: — Пайшлі! — і сам першы рашуча затупаў чаравікамі ў сенцы.

Чарнушка, які ад самага прыходу ліп да дзвярэй, прапусціў усіх, памуляўся хвіліну ніякава, мнучы ў руках шапку. Вінавата падаў руку:

— І мне, тым часам, трэба...

Калі ён выйшаў услед за Міканорам, Глушак стаў тупаць у кутку, корпацца ў прыпеку, але рабіў усё без ладу, без мэты: перастаўляў з месца на месца, кідаў. Сам не ведаў, што робіць,

у грудзях кіпелі крыўда і лютая злосць — на Дамецікавага смаркача, што ўзяў сабе сілу, на ўсіх, якія памагалі яму, на тое, што гнуўся перад імі, як парабак, на бездапаможнасць сваю перад імі. «Праверым!.. Праверым!..» — гняла душу страшная пагроза...

Жонка, што збірала са стала неўшанаваны пачастунак, ні то пашкадавала, ні то папракнула:

— Трэ було зразу пасадзіць, як увайшлі...

Глушак кінуў з раздражненнем:

— Зразу ці не зразу — адзін чорт!

— Як узялі б гарэлкі чарку ды сальца, дак памякчэлі б, буць не можа!..

— «Памякчэлі б!» Ета зараза памякчэе!

— Усётакі ж — людзі! І Дамецікаў еты — чалавек...

— Знайшла чалавека! — Глушак не мог больш трываць, крыкнуў люта: — Не ўтыкай носа, куды не трэба!

Тут здарылася такое, чаго Глушак ніяк не чакаў. Далікатны, няхай сабе няўдалы, няздатны да гаспадаркі, але ж ціхі, паслухмяны сын Сцяпан, які, пакуль не пайшлі нязваныя госці, не абазваўся і адным словам, неспадзявана ўскочыў ад акна, стаў каля маткі, загадаў старому:

— Не крычыце!

Глушак заморгаў вачыма.

— Шшто?

— Не крычыце, кажу! На матку! — паўтарыў ціха і строга Сцяпан.

— Тты ето — мне? Тты мне — указ?!

— Самі вінаватыя! Дак... не спаганяйце на другіх!..

— Я — вінаваты!!! Я!!! Ты ето — бацьку?

— А калі — праўда!

— Праўда?!! — Глушак наліўся крывёю. — Маўчы! Шчаня!!!

— Няхай — шчаня!.. А толькі трэба вам тая зямля, што пад лесам? Усё мало! Усё мало!

— Ты знаеш — колькі мне трэба зямлі!.. Ды калі б не тая зямля, калі б бацько не паперарываў на ёй жылы, ты б даўно з голаду апух!

— Хваціло б і без яе... А калі ўжэ прыбралі сабе, дак няхай бы прызналіся, што не ўся запісана. — Сцяпан зачапіў балючае: — Усё адно знойдуць!

Глушак затросся ад гневу:

— Замаўчы ты! Вош! Гніда!

— Можаце як ахвота зваць. А толькі...

Глушак не ўтрываў — не помнячы сябе ад шаленства, што напоўніла ўсяго гарачай лютасцю, даў сыну па твары. Той не зварухнуўся, слова не сказаў, толькі штосьці нядобрае, непрымірымае ўспыхнула ў незнаёмым — дарослым і самастойным — позірку. Але Глушак не хацеў бачыць гэтага: шалёная злосць, лютасць на сына, што асмеліўся пярэчыць, папракаць, вучыць яго нясцерпна праглі патолі.

— Гніда! Смаркач! Вывучыўся!.. Вывучыўся на бацькаў хлеб! Вывучыўся дый падзякуваў!.. Чорта! Хваціць! Гной будзеш вазіць! Скаціну даглядаць! Мо трохі паменшае розуму!

Ніякія пагрозы нібы і не даходзілі да Сцяпана. Ён не толькі не паў ніц, але і выгляду не падаў, што шкадуе аб тым, што адразу страціў. Глушаку не давялося спазнаць палёгкі. Гневу не было патолі.

— За парабка будзеш рабіць! Ён паедзе дадому, а ты — за яго. Гной вазіць! Карміць свіней!..

Глушак стары яшчэ доўга сіпаў, гразіўся, злосна снуючы з кутка ў куток, аж пакуль не ахрып, не знямогся зусім. Тады зваліўся на калені, узняў дробны, бледны твар з пакутнымі вачыма насустрач Богу, што глядзеў з залочанага абраза. З надзеяй замыляў сухімі губамі, зашаптаў...

Але і пасля малення спакою на душы не было. Дзе б ні хадзіў, што б ні рабіў — помніў, ні на міг не забываў: там, на яго полі, ходзяць, мераюць. Як гаспадары, топчуць яго поле, яго дабро. Распараджаюцца, не пытаючыся. Злосць пякла асабліва, калі ўспамінаў сутычку з сынам, маўклівую постаць жонкі, якая слова не сказала гэтаму смаркачу!..

## 3

Калі вячэралі, Яўхім сказаў:

— Перамералі ўсё наша...

— Хай ім на тым свеце!.. — засіпеў стары Глушак, але не дакончыў, пільна зірнуў на Яўхіма: — Гаварыў з кім?

— З цесцем. З Чарнушкам. Тры дзесяціны найшлі, кажа, няўпісаныя...

— Найшлі! Як ляжала зямля век вечны без карысці, дак ахвоты не було нікому да яе! А як узяў, абрабіў, абсеяў — дак... Выражуць цяпер?

— Выражуць. Дай, мабуць, не тры дзесяціны, а ўсе пяць.

— Пяць?! Ето — чаму? Калі там усяго тры було?!

— І без таго, найшлі, лішак у нас буў.

— Лішак! Лішак! Усё — лішак! Мо і сам я ўжэ — лішак!.. Штоб ім на тым свеце! На гарачым вуголлі!..

Злосць змянялася крыўдаю, лютасць — кволасцю. Тады чуў сябе няшчасным, адзінокім, бездапаможным, ледзь утрымліваўся, каб не паскардзіцца. Ды і перад кім было кволіцца: перад дурною старою, перад гэтым смаркачом, які стаў супроць бацькі? Пасля вячэры, калі Сцяпан падаўся гуляць, а старая выйшла ў хлеў, сказаў Яўхіму:

— Паразяўляліся... Кеб прымелі, з’елі б...

— З’есці не з’ядзяць, — спакойна, з разважнасцю прамовіў Яўхім, — а кавалак сцягна, мабуць, уварвуць...

— Жывое рвуць клыкамі... Бога ім няма.

Яўхім зноў сказаў разважна, як бы старэйшы:

— Нічога не зробіце ім, тато...

— Волі багато далі ім!

— Уласць ім прыяе...

— Пасмялелі. — Зноў брала старога лютасць, раздзімала грудзі. — Пасмялелі, як Маслак прапаў! Жыў бы буў — нябось, сядзелі б, як жабы ў карчах!.. — Шчыра, горка ўздыхнуў: — Эх, прапаў чалавек да пары!.. Як і не було!..

Маўчалі. Потым Яўхім дзіўна сказаў:

— А мо ён і не прапаў?

— Хто?

— Ён, Маслак...

Глушак аж тузануўся насустрач, дыхнуў горача ў Яўхімаў твар:

— Чутно што?

— Будзе чутно...

— Як ето — будзе чутно?

— А так — возьме ды зноў паявіцца!

— Дак ето — няпраўда? — Глушак быў так расчараваны, што гатоў быў зазлаваць.

— А як няпраўда — дак што? Не було праўды, дак няпраўда паможа. Абы — памагла...

Разумна гаворыць! Прыкрасць адразу прапала, Глушака занепакоіў клопат:

— А як не паверать?

— Паверать... Адзін не паверыць, другі, а багато хто і паверыць...

— Дай Бог, кеб паверылі. Прыціхлі б трохі!.. — Глушак падумаў уголас. — Ето праўда: е ён, Маслак, ці няма, абы пра яго чулі, знали. Як будуць знаць, ён і будзе ўсё адно што жывы...

Яўхім сказаў:

— Яго і цень пужаць будзе. Абы ён варушыўся!..

— Аге. Ето ўсё праўда.

Ноччу Глушак доўга не мог заснуць. Апаноўвалі ўспаміны — як год за годам, можна сказаць, усё жыццё гнуўся, выжыльваўся дзеля сваёй зямлі, якую прагавітая галота за нішто хоча парэзаць. Колькі ўведаў гора, увабраў пакуты, каб адно прыдбаць тую лапіну, што каля цагельні. Усё дабро сваё, пасаг увесь жончын перавёз на кірмаш, збіраючы грошы... Долю сваю, можна сказаць, знявечыў праз гэта: зза пасагу ж пабраўся з няўдаліцай Лантуховай Кулінай. Гнілога Лантуха, бацьку яе, усцёг сабе на шыю, каб прылічыць да сваіх блішчастыя лантухоўскія залатоўкі. Яго ашукалі — залатовак аказалася многа менш, чым думалася. Толькі ўдала прадаўшы лантухоўскую палоску, змог, нарэшце, купіць тую прываблівую лапіну, што каля цагельні. Усё рабіў, жыў, можна сказаць, дзеля тае зямелькі, што каля цагельні, потам, крывёю ўрабіў усю!..

А тая, што каля сажалкі, ці лёгка дасталася! Адзін Бог ведае, колькі пaперадаў дабра таму Свістуну аднаногаму, пакуль не стаў гаспадаром на яго палосцы. Колькі потым яшчэ плётак перанёс, колькі людской крывоты перанёс за нішто!..

Усётакі, што ні было тады, на Бога грэх скардзіцца: непагана ішло ўсё тады, у пачатку вайны з германцамі. І ад службы Бог паспрыяў уратавацца. Правая рука не служыла як мае быць, але, пэўна, не паглядзелі б на яе, каб не ўдалы кадоўбчык масла доктару.

Не, як каму, а яму ў тую вайну Бог прыяў, самы час быў жыць! У другіх няўпраўка, а яму ўдача сама ў рукі ішла! Неўзабаве пасля таго, як прылучыў зямельку ад аднаногага, прыдбаў яшчэ трохі ў Дзятлікавай удавы. Дзятліха не вельмі таргавалася: ёй усё адно нінашто была тая зямля, без чалавека, без працаўніка... Тады зяўласты яе смаркач, Васіль, толькі знаў, што цягнуць за падол ды ныць: дай есці! Ён даў смаркатаму, ледзь падрасло трохі, хлеба, заробак даў — узяў нібы за пастушка, хоць які там з яго пастух быў!.. Выратаваў, можна сказаць, а яно, убраўшыся ў сілу, як аддзячыла?..

Усё потым пайшло на глум, усё, што датуль быццам бы зычыла шчасце. За што, за якія грахі ўсемагутны Божа пусціў на зямлю гэту страшную кару, навалу, пошасць — рэвалю-

цыю, якая ўсё перакруціла, пераблытала, дала волю рознай галадранай ненажэры! Як і не было, прапаў цвёрды грунт зпад ног, знікла трываласць у жыцці! То бойся, як бы пасля пана, ашалелыя, і на цябе не накінуліся, як бы не ўчапіліся клыкамі, то бойся немцапрыблуды, то дурняпаляка асцерагайся. Немецто яшчэ сюдытуды, з немцам ужыцца можна было б, а вось балахоўшчыкі — тыя, як прыпяклі іх бальшавікі, самі ж ледзь не ўкоцалі яго, калі хацеў уберагчы ад абозу каня. Не паглядзелі, што не галадранец, а гаспадар...

Зямля пад нагамі была — як дрыгва, вагалася, гатова была кожны момант прарвацца, праглынуць яго разам з усім дабром. Набачыўшыся ўсягоўсякага, натросшыся, ужо не вельмі давяраўся, калі стала патрохі аціхаць, наладжвацца. Але год ад году ішло раўней, і дыхнуць ужо лягчэй можна было, стаў зноў, здаецца, папраўляцца, убірацца ў сілу, весялей глядзець навокал, як на́ табе — на якое зло, Божа! — гэтая бяда, новы перадзел зямлі!

Зноў успомніўся прыход камісіі — як трымаўся і што гаварыў Міканор, — і злосць закіпела гарачэй. Зямлю набываць не смей, нават да той, якая ляжыць без ужытку, пад хмызняком і травою, не датыкайся! Бо лішак будзе! Бо ў другіх меней! Бо другім, галечы гуляшчай, вочы коле!.. Мала таго, што да зямлі, дак шчэ й да парабка прычапіцца трэба! Парабка ім шкода! Парабку плаці, як пану! А мо шчэ і рабіць за яго, за парабка, загадаюць!.. Усё вочы коле, ва ўсё ўлезці гатовы з капытамі! Нібы не ты, а яны — на тваім двары, на тваёй зямлі — гаспадарыvaladары, галадранцы вашывыя!.. Асабліва ж — гэта зараза воспаватая, Дамецікаў прыблуда! Без яго мо і ціха было б, дык — не ж, прынесла заразу, прыперла гада падкалоднага! Каб яму на тым і на гэтым свеце, як гадзюцы на ражне, круціцца!..

Думкі аб зямлі, аб Міканору мяшаліся з думкамі пра сыноў, пра жонку, і тады зноў ажывалі крыўда і гнеў на Сцяпана. Даўно прыкмеціў, што надзеі вялікай на малодшага мець не трэба, нязграбны, няўдалы да гаспадаркі, але думаў, цешыў сябе, што, можа, навукай карысны будзе. Аж вось табе, дачакаўся карысці! Вывучыўся сынок, няма чаго сказаць! Выадукаваўся — на бацьку гырчаць!.. І то падумаць: вельмі трэба было верыць цяперашнім настаўнікам, якія адно на бальшавікоў стараюцца і з Богам не лічацца. Трэба было спадзявацца, што яны чаму добраму вывучаць!.. Але не толькі іх тут віна. Нямала, мусіць, і жонка вінавата — шкадавала, песціла, няньчыла. І даняньчылася — выгадавала яблычка!

А Яўхім, дзякуй Богу, здаецца, за розум узяўся. Каб не звязаўся з гэтай галадранкай, дык можна было б адно радавацца, гледзячы на такое дзіця. Але, можа, і так яшчэ выправіцца — можа, гэта хвароба, любоў, не высушыць усе мазгі... Глушак падумаў, што хваробалюбоў перадалася сыну не інакш ад маткі — у той змоладу і пазней у галаве многа глупства ўсякага вадзілася. Думаў пра глупствы гэтыя не так горача, як раней, новыя бядоты глушылі даўнейшую крыўду, да таго ж ад гаворкі з Яўхімам у гэты вечар была ў душы нейкая прасветліна. Яўхім адзін разумеў яго, адзін быў надзейны супольнік...

«З Маслаком ето не пагано прыдумано. Як прыстрашыць добра, дак мо ўся круцельня васпаватого і сыдзе на нішто...»

Злосць на Міканора ўсё ж не спадала, паліла няўціхна: «Гад, ну і гад!.. І ўсе гады — галеча ненажэрная!..»

4

Яўхім так спрытна пусціў чутку, што пад поўдзень у Куранях не было такога чалавека, які б не ведаў, што Маслак —жывы і дужы — аб'явіўся зноў і што ў любы зручны момант можа апынуцца тварам у твар. Ведалі ў Куранях, што Маслак зноў не адзін, а з бандаю, аб сіле якой хадзілі самыя розныя чуткі. Адны казалі, што ў ёй паўтара дзесятка, другія — што больш за сотню бандытаў. У тым, што Маслак і праўда аб'явіўся, амаль ніхто не сумняваўся, вельмі ж добра помніўся ён усім з нядаўняга, калі яго таксама не ўсе бачылі, але ўсе адчувалі. Да таго ж цяпер называлі сёлы, каля якіх ён быў, і людзей, якія натыкаліся на яго, прычым расказвалі да драбніц аб акалічнасцях гэтых сустрэч.

Задоўга да паўдня чутка з Сарокаю вярнулася назад у Глушакову хату.

— Жывы! — сказала са здзіўленнем, загадкава Сарока. — Не бярэ ні хвароба, ні згуба! Не зламала яму хоць бы зуба!

Глушак прасіпеў абыякава:

— Пра што ето ты?

— Век не ўгадаць, не знаючы!

— Цьфу! — Глушак нават пакрыўдзіўся: — Знайшла з кім дурэць! Я табе смаркач які, штоб у загадкі гуляць?

— Век не ўгадаў бы! Кеб і хацеў!

— Угадаў бы не ўгадаў, а не для мяне етае глупства!

— Глупства! Ето ён — глупства! — Сарока таямніча, важна памаўчала. — Маслак?!

— Што?!

У Глушака вочы палезлі на лоб, так уразіўся чалавек. Перахрысціўся ад страху. Не паверыў.

— Тты што пляцеш?

— От, як перад Богам! — паклялася Сарока.

— Брэшаш?

— Праўда чыстая!

Глушак аж аб'ехаў на канапу, так разгубіўся. Пашкадаваў ад душы:

— Выкруціўся, ваўкарэзіна! — Кінуўшы вострым вокам на Сароку, падумаў, што скора паўсяла будзе ведаць, як ён уразіўся і напалохаўся. Злосна папракнуў: — Чаго ж звоніш так, галава! Шчэ смешкі строіць!..

— А табе чаго баяцца? — ліслiва супакоіла Сарока. — Ты ў чымнебудзь перад ім вінаваты?

— А то не? Не кляў яго, гада?.. Дык кеб не вінаваты буў, хіба ён пытацца стане — вінаваты ці не?

— Пытацца не будзе. Сам знае, які Ігнат вінават! Чуў, кажуць, пра Міканорчыка і пра другіх, наказуваў, кеб ждалі! От, мабуць, Грыбок трасецца! Ён, Маслак еты, калі сказаў, што прыйдзе, то няхай хоць зямля праваліцца, а ён — аб'явіцца!

— Зноў гайсаць стане поцемку пад вокнамі, ваўкарэзіна! — Глушак схамянуўся, трывожна агледзеўся. — Трэба, ж такую хваробу на нашу галаву!

— І не кажы! — падтрымала Сарока.

Сапсаваўся настрой у Глушака. Так сапсаваўся, што не мог з сабой саўладаць, нездаволена папракнуў Сароку:

— От жа, прыперла навіну! Як нябожчыка прыцягла!..

Хмурны, нездаволены і развітаўся, нават і не памкнуўся пачаставаць чымнебудзь. Па ўсім было відаць: збіла з тропу, устрывожыла чалавека!

Толькі калі Сарока сышла з вачэй, Глушак даў волю радасці, цешыўся Яўхімам: «Маладзец, адно слова — маладзец! Бацькаво насенне!..» У радасці зацяплела надзея: «Цяпер, можа, астынуць тыя — упарадкаваццелі!»

З такім настроем весялей было порацца ў гумне, на прыгуменні. Трывога, праўда, не прападала: не мог не бачыць, што ўсё ўперадзе тоне яшчэ ў няпэўнасці, якая невядома як павернецца. Усярэдзіне нядобра ныла. Але хоць спакою і не было, не было і ранейшай бездапаможнасці. Жыла, падбадзёрвала душу прасветлінканадзея: чуючы пра Маслака, можа, не асмеляцца, пабаяцца на ражон перціся. Можа, і васпаваты гэты абвяне,

адумаецца: якніяк, нікому няма ахвоты лішне рызыкаваць галавою. А не адумаецца ён, дык другія асцерагуцца — усё роўна яму аднаму разгарнуцца не будзе як...

Усё ж трывожнасць тачыла душу. Хацелася штосьці рабіць, чыніць штосьці такое, каб пагроза бяды адышла, прапала зусім.

Пачуў, як цупае за двума гумнамі цэп у Зайчыкавым гумне, пацягнуўся на гэтае цупанне. Малаціў сам Зайчык: пад латанай сарочкай хадзілі худыя рухавыя лапаткі, біч цэпа то, паблісківаючы, лёгка ўскідваўся, то лажыўся на снапы.

Глушак тхарынымі вострымі вочкамі акінуў амаль пустыя застаронкі, адзначыў на ўсякі выпадак: канчае малаціць. Мігам успомніў, колькі Зайчык звёз вазоў, падумаў: больш, як да каляд, на сваім яму не пратрымацца!..

— Памагай Бог! — прасіпеў, улучыўшы момант.

Зайчык апусціў цэп, азірнуўся.

— І вам — таго ж! — Ён павесіў цэп на сучок сахі, пачухаў за спінаю, сеў на сценку застаронка. — Памагае ён, ліхо яму, неўпапад. Няма таго, штоб жытам памагці, дак ён адно — дзяцей падбаўляе...

Глушак перахрысціўся, папракнуў строга:

— Грэх казаць такое!

— А калі ж праўда?

У Зайчыка была, як казалі, поўная хата дзяцей, сам Зайчык, калі пыталіся, колькі ў яго іх, жартаваў, што ніяк падлічыць не можа. Лічыўлічыў, ды і збіўся — адны на свет паяўляюцца, другіх Бог забірае. Глушак жа, і праўда, добра не ведаў, колькі ў Зайчыка дзяцей: ні то восем, ні то дзевяць, ды чацвёра ці пяцёра на могілках...

— Чутно, жонка зноў скора рассыплецца? — сказаў Глушак, які даўно прыкмеціў, што Зайчыха цяжарная.

— Скора. Да кеб, чорта лысаго, зразу двума не стрэліла! Нешто ж тоўстая, як Дзянісава калода!

— Двума дак двума. Не з хаты, а ў хату. Прыбутак! — паспрабаваў пажартаваць Глушак.

— Прыбутак! Ето такі прыбутак, што ўсё — дай ды дай! З етым прыбуткам — бяры торбу ды ў старцы ідзі! — Пачухаўся зноў, папракнуў: — Няма таго, кеб хлебам урадзіць, дак падкінуў шчэ аднаго!.. Слепаваты ён на старасці, мабуць, — не бачыць, што трэба рабіць!..

Глушак строга пакруціў галавою:

— От ён і карае, пэўна, цябе за такія твае гаворкі! Ён, Бог, таксамо не любіць, калі не шануюць!

— Сам сатварыў такога мяне, сам і не любіць? — Зайчыку, відаць, хацелася падражніцца з Глушаком. — Я хіба вінаваты, што ён такі язык мне ўдзяліў?

— Язык языком, а нашто галаву ён на плечы даў? Кеб думаць, што да чаго! А не мянціць етым языком усякае глупства! — Глушак добра помніў, што прыйшоў сюды не лаяцца, сказаў мірна: — На хрысціны пазавеш?

— Як ахвота е, дак хоць хросным! —Зайчык засмяяўся.

Думаў — падкалоў старога, але той прасіпеў проста, як роўны:

— Можно і хросным...

Зайчык жвава зірнуў: Глушак не жартаваў. Гарэза ўлавіў, што ў гэтай нечаканай згодзе нешта тоіцца, але і выгляду не падаў. Схаваў здагадку за жартам:

— А хросную пад пару папрашу — маладую, ядраную!

— Стары я для маладой.

— Э, ето шчэ паглядзець трэба!..

Глушак перавёў гаворку на іншы лад:

— Забуў ты нешто дарогу ў маю хату.

— Забуў. — Зайчык падумаў: не памыліўся — штосьці плясці намерыўся стары павук. Сказаў весела: — У сваю хату — і то іншы раз дарогу забуваю, як вып’ю...

Зайчык, як і многія куранёўцы, выпіць, пагуляць любіў. Глушак весела, у лад Зайчыку, папрасіў:

— Заходзь, пасядзім, сказаць. Пагамонім...

— Ды можно і пагаманіць, калі будзе на што паглядзець!

— Можа, выкапаю якую слязіну!

Увечары Зайчык сядзеў упоцемку ў Глушаковай хаце падвыпілы, чвякаў салёнымі гуркамі, усё ніяк не мог даўмецца, нашто спатрэбіўся хітраму старому.

Глушак, таксама не вельмі цвярозы, скардзіўся:

— І ў мяне еты год, сказаць, няўрода. Пустое вырасло. Так, толькі салома на выгляд, а калоссе — пустое.

— Не кажыце, дзядзько Халімон. Кеб у мяне такое вырасло, як у вас, дак я і ў вус бы не дуў! Буў бы самому каралю кум!

— Няўрода, пустое. Як перад Богам кажу... — Глушак падсунуўся бліжэй да Зайчыка, паклаў руку на плячо яму: — Але, калі на тое, і ты, Іван, сказаць, не вельмі бядуй. Калі што якое, чымнебудзь паддзержу!..

— Не знаю, як вам і дзякуваць за вашу ласку...

— А няма чаго дзякуваць. Я ад добрай душы паддзержую. Калі ты мяне паддзержуеш, дак і я цябе паддзержую! Хто мне прыяе, таму і я — усёй душой!..

Змушаны беднасцю хітраваць, кемлівы ад прыроды, Зайчык адразу пачуў, што размова восьвось падыдзе да той мясцінкі, дзе схавана тайна. Ён насцярожыўся, падрыхтаваўся, каб не схібіць, не пралічыцца.

— Я к вам, дзядзько, і сам заўсёды, можно сказаць, з дарагою душой!..

— От жа і я, Іванко! От, калі на тое, хоць цяпер вазьмі кавалкі два сала! Кеб боршч ці булён які закрасіць. А то ж, мабуць, няма ўжэ свайго?

— Дзе там! Закалоў вясной парася — з кацяня ростам, — дак і агледзецца не ўправіўся. Зпад рук маіх пахапалі. Як гайня якая, ірвалі!

— Ведамо, сказаць, — галодная дзятва.

Глушак патупаў у каморку, вынес сала, паклаў перад Зайчыкам на стол.

— Вазьмі от пакуль што. А там — будзем бачыць...

— Як вам і дзякуваць, не знаю. Кеб я багаты буў, кароль які, то аддаў бы за вашу дабрату — усё царства!..

— Не трэба мне нічого. — Ужо не таіўся, паскардзіўся: — І тое, што е, некаторым вочы коле. Прымелі б, сказаць, з’елі б...

— Е такія. Штоб далі волю, горло паперагрызалі б адзін аднаму. — Зайчык ужо ведаў, што трывожыла старога. — То ж етае, ліхо яму, земляное ўпарадкаванне выдумалі! — Ён з пагардай плюнуў. — Трэба яно тут, як сабаку рогі ці карове чобаты! От няма чаго рабіць некаму! Выгуляецца на гарадской волі з якой вымаляванай пытляванай маладзіцай пад руку, пад’есць булак колькі хоча, дык ён і выдумляе. А цёмнае наша балото і рада! Нашым абы злосць спагнаць на кімнебудзь!

Ён гаварыў амаль шчыра: сала ж было проста перад вачыма, паддавала ахвоты. А што гаварыў не тое, што нядаўна думаў, не сваё, то гэта не толькі не турбавала, але нібы і не заўважалася самому. Хіба ж першы раз рабіў ён другому наспадобу!

Глушак ухапіўся за зачэпку:

— Ето ж, кажуць, ужэ абмералі ўсіх і сход сабіраюцца сазваць.

— Ат, толку, дзядзько, з етаго сходу!

— Не кажы, Іванко! Начальство нібыто будзе нейкае. І як усе выступяць да скажуць рабіць перадзел, дак і зробяць. Перарэжуць усю зямлю зноў...

— Ето шчэ, дзядзько, віламі па вадзе пісано! Чуў, можа, што кажуць, — Маслак аб’явіўся! Не вельміто кожны і асмеліцца вылазіць! Бо як Маслак возьме ды заявіцца!..

— Баяцца цяпер таго Маслака! Як я, сказаць, вужа якога! Цяперашнім часам е такія, што ні Бог, ні чорт яму ніпачом...

Зайчык скеміў, да чаго хіліць стары.

— А калі на тое, дзядзько, дак я самы першы выйду к сталу, к самому начальству, і заяўлю — проста ў вочы: не муціце ваду, не трывожце людзей! І едзьце сабе назад, падобраму пакуль!..

— Смелыя мы ўсе, Іванко, па завуголлю! А як прыйдзецца да дзела, дак і язык нібыто прысыхае!

— У каго прысыхае, а ў каго і не! У мяне, дзядзько, такога шчэ не було! Я не тое што Крываротаму — каму хочаш не пабаюся праўду ўрэзаць!

Па тым, як ахмялелы, гарачы Зайчык гаварыў, было відно: не попусту хваліцца, не пабаіцца ні перад кім, але Глушак не паверыў. Наліваючы чарку, сказаў, як хвальку:

— Дай Бог чутае бачыць!..

Зайчык загарэўся яшчэ больш:

— А і ўбачыце, калі на тое пайшло!

Ён рашуча перакуліў чарку.

Калі Зайчык, трымаючы пад пахай загорнутае ў латку сала, зачапіўшыся плячом за слуп, выбраўся са двара, Глушак яшчэ доўга не лажыўся спаць. Чуючы, як і яго трохі водзіць ад гарэлкі, стаяў перад абразамі, глядзеў у цёмны кут, шаптаў малітвы. Шэпт яго не ў час перабіла сабачае выццё. Ён пазнаў, што вые сляпы, падумаў, што, мусіць, пачуў ваўкоў на балоце. Сабака выў амаль безупынку, і Глушак збіваўся — выццё спляталася з малітвай, наганяла сум. Гэты сум застаўся і пасля малітвы, калі, накінуўшы кажушок, выцягнуўся на холад к свірну. Сабака перастаў выць, пачаў, скуголячы, бразгаючы ланцугом, церціся аб ногі. Ні тут, каля свірна, ні з ганка Глушак не ўбачыў, не ўчуў у цемры нічога падазронага. Ціха, пуста было і ў баку балота, і стары падумаў пра сабаку: «З нуды, мабуць, выў...»

Глушак вярнуўся ў хату, лёг побач з жонкай, але пачуў, што засне не хутка. Сон не браў. Было клопатна. А тут яшчэ ў цемры на двары зноў цягуча, як па нябожчыку, завыў сабака. Як ашалеў, ваўкарэзіна! Пад гэтае выццё і ішлі, круціліся ў неспакойнай Глушаковай галаве думкі. Хоць і верыў, што Зайчык можа спраўдзіць абяцанне, трывога ўсё ж не адыходзіла: небагата толку ад той Зайчыкавай падмогі. «Пралентарыят то пралентарыят еты Зайчык. А от кеб начальство паддзержало, то саўсім іначай павярнулася б усё...»

Думка пра тое, каб дабіцца заступніцтва начальства, упарта зырчала ўсярэдзіне, вярэдзіла душу. Даўно думаў пра гэта, але

стрымлівала звыклая асцярожлівасць. З начальствам не тое, што з Зайчыкам, там, паспяшаўшыся, не толькі насмяшыць людзей, але і загубіць усё нядоўга. Ды і прыкрасці якой набыць...

Таму і кружыў, як коршак, што выбраў небяспечную здабычу, і так, і гэтак выглядваў, вылічваў, вымяркоўваў. Даўно падвучыў Яўхіма, каб пазнаёміўся бліжэй, убіўся ў прыяцелі Крываротаму з сельсавета, сам, можна сказаць, амаль што ўлез у кампанію. Ужо тры разы, як Крывароты заходзіў, спрабаваў моц яго, глушакоўскай, гарэлкі, падвесялелы, ляпаў, як таварыша, Яўхіма па плячы, ды і з ім, са старым Глушаком, трымаўся, нібы са сваім чалавекам. Нават сп'яну абняў адзін раз. Змалацілі яму заніштo жыта — цягалі малатарню чорт ведае куды, цераз такую пагібель, па багне, можна сказаць. І сала тарбіну жонцы ўручылі. Ён сам, праўда, зрабіў выгляд, нібы ведаць не ведае, але ж быць не можа, каб жанчына ўцярпела, не пераказала...

І ўсётакі пэўнасці цвёрдай на яго падтрымку няма. І не толькі пэўнасці такой няма, але і чорт яго ведае — што ён потым яшчэ можа выкінуць! Нават як падступіцца да яго, каб намякнуць, закінуць слова, і то думацьгадаць трэба. Старому ўспаміналася, як Крывароты, п'яны ў дым, хваліўся Яўхіму: «Ты, Глушак, не думай, што калі я п'ю, то і розум прапіваю. У жызні такога не було, штоб я прапіваў галаву зза етай паскуды! Не було! Я, Глушак, п'ю, п'ю, а сам увесь час кумекаю — што да чаго! Увесь час! Не страчваю розуму! На маёй рабоце розуму страчваць няможно! Мне не тое, што другому: выпіў, ну, і выпіў, можаш хоць пад плотам валяцца! Я — выбраны чалавек, уласць, голаву павінен дзяржаць прамо і чуць увесь час, што да чаго! — Крывароты ўзяў Яўхіма за сарочку, падсунуў да яго чырвоны твар: —Я от сяджу з табою тут, Глушак, п'ю, і ты мне — таварыш, першы таварыш! А калі я на рабоце, ты мне — усё адно што незнаёмы! Я цябе — знаць не знаю, ты мне такі самы, як кожны другі! Што ты, Глушак, што другі — мне ўсё адно! Бо я — выбраны, уласць, а ўласць савецкая да ўсіх роўная! Ето не тое, што пры цары було: цяпер — што багаты, што бедны, што брат, што сват — усе аднакія! І я да ўсіх аднакі, да ўсіх — па закону!..»

І праўда, чуў ад людзей стары Глушак: ні свату, ні брату палёгкі ніякай Крывароты не даваў. Гэта і непакоіла старога, стрымлівала дабівацца якойнебудзь падтрымкі ад непадступнага знаёмага. Але выбару не было, ісці больш не было да каго. А тут надзея, хоць і няпэўная, а ўсё ж жыла, звала паспрабаваць. Чуў душою, што самому і патыкацца да Крываротага няма чаго. Калі

і можна хоць драбніцы якой дабіцца, то толькі аднаму Яўхіму, папросту, папрыяцельску.

Таму і не лажыўся, чакаў сына. Калі Яўхім, згаладалы, прагавіты, накінуўся на хлеб, на халодны боршч, прасіпеў:

— Ты ўжэ прасіў Крываротага на вяселле?

Яўхім, жуючы, выціснуў: — Не.

— Дак, можа б, заўтра схадзіў ды сказаў...

— Упраўлюся. Ці заўтра, ці паслязаўтра — усё адно.

— Лепей — заўтра. — Стары памаўчаў, перш чым прыступіць да галоўнага. — Як будзеш гаварыць, то можа б, закінуў слова пра зямлю...

Яўхім не адказаў, жаваў паранейшаму, але стары чуў, што словы яго не прапусціў міма ўвагі, думае.

— Скажы яму, як і што: пра абмер і што, чутно, абрэзаць хочуць. І выведай, ці не памог бы ён...

— Чорта лысаго даб’ешся ў яго.

— Усё адно папробуваць трэба. А то ж ад етай васпаватай заразы ратунку ніякаго. З’есць, як маўчаць будзем!

— Усяго не з’есць. Укусіць, можа, укусіць, а там — падавіцца.

— Можа і з’есці! У етаго зубы здаровыя і зяпа шырокая.

— Абламаць можно, калі вельмі ашчэрыцца.

— Не вельміто абломіш. Не на тое ідзе.

— Абломім! — запэўніў Яўхім, і старому трохі палягчэла на душы: хоць ведаў цану сынавым словам, як бы паверыў, ухапіўся за падмогу.

— А ты ўсётакі схадзі да етаго, — сказаў напаследак, залазячы пад коўдру.

— Схаджу.

Як і абяцаў, Глушакмалодшы на другі дзень выправіўся ў сельсавет. Стары ледзь дачакаўся, калі ён вернецца: што б ні рабіў, думкі кружылі каля Яўхіма — то няпэўна, недаверліва спадзяваўся, то ўвесь аддаваўся неспакою.

— Ну, што? — кінуў Яўхіму, ледзь той ступіў на двор.

— Прыйдзе, сказаў...

Па тым, як прамовіў сын, як нядобра павёў позіркам, стараючыся не сустракацца з яго вачыма, стары Глушак усё зразумеў. Але такая вялікая, неадольная была трывога за зямлю, што не вытрываў:

— Што пра абрэзку?

— Нічого.

— Усётакі — сказаў штонебудзь?
— Сказаў.
— Што?
— Што трэба, тое і зробім.
— І пасля — на вяселле прысунецца?!
— Прыйдзе. Папрасілі ж!..
— Папрасілі!..
Стары Корч мацюкнуўся.

5

Даўно Глушак не чуў сябе так пагана, як у той вечар, калі выпраўляўся на сход аб перадзеле зямлі.

Мусіць, лепш, спакойней для душы было б не ісці на сход, каб не мецъ лішняй прыкрасці, але як ты не пойдзеш, калі не каго іншага, а цябе самога рэзаць павінны. А можа, трэба будзе сказаць штонебудзь, заступіцца за сябе, абараніцца?

Хоць радасці якой чакаць на сходзе не прыходзіцца, а ўсётакі калі ты будзеш перад вачыма ўсіх, то, пэўна, не такія смелыя будуць, не так будуць плясці языкамі. Калі туліцца ў хаце сваёй будзеш, дрыжаць — чаго добрага, і зусім утапіць могуць.

Хочаш не хочаш, а ісці трэба. Глушак перахрысціўся, усцёг лаплены кажушок, насунуў пабітую моллю старую шапку. На крысе кажуха заўважыў закарэлыя белыя языкі картаплянай мешаніны для свіней, але сціраць не стаў: не ў царкву, не ў госці збіраецца. Ды і то падумаць: цяпер такія знакі ў пашане, як дакумент, што свой чалавек, не гуляшчы...

З картаплянымі языкамі на кажусе, з трухой на каўняры і на шапцы і патупаў пастарэчы з хаты. Так вымеркаваў выйсці, каб не быць на сходзе ні першым, ні апошнім. Прыпрэшся першы — кінецца ўсім, што баішся, пасмялеюць; апошні прыпаўзеш — каб позна не было. Абнюхаюцца са сваімі, згаворацца.

Народу, яшчэ з двара адзначыў, сабралася ўжо нямала. Трывога і непрыхільнасць варухнуліся ў душы, прымусілі сціснуцца, нарыхтавацца да небяспекі. «Збегліся! Навастрыліся клыкамі на чужое дабро! Толькі каманды чакаюць!..» Многа тоўпілася куранёўцаў і ў сенцах — праўда, больш не гаспадароў, нават не хлопцаў і дзяўчат дарослых, якім сваё кубло віць недалёка, а драбязы рознай, смаркатай дзятвы.

«Шпіктакль знайшлі! Дручком бы, поскудзь! Кеб не смярдзела!»

У хату нашылася таксама нямала маладых, але багата было і гаспадароў. Каля прыпечка Пракоп барадаты разважліва гаманіў з Чарнушкам, Сарока ўселася на палаці, таўхала ў грудзі Зайчыка, які весела рагатаў. Прыпёрся, вядома, Андрэй Руды, прыляпіўся к самаму сталу, к начальству.

Глушак падумаў быў прабіцца да Пракопа і Чарнушкі, але яны былі лішне на віду, а яму, можа, і ні да чаго было выпірацца на людскія вочы. Хто яго ведае, як там яно пойдзе, як там будзе сядзець на віду. А калі на тое, то і так усе прыкмецілі ўжо, што ён не дзенебудзь, а тут жа, чуе ўсё і бачыць. Так што можна і тут, у куточку, сагнуцца ды выглядваць.

От толькі блізка аказаліся Хоня і Дзятлікаў Васіль. Дзятлік, як заўважыў яго, Яўхімавага бацьку, позірк адвёў убок, ад злосці, вядома, за тое, што Яўхім адбіў Ганну. Бровы насунуў на вочы, затаіў штосьці нядобрае. «Бач ты, такое маладое, а таксама — з хванабэрыяй! Таксамо — гаспадар, дзюба смаркатая!»

Але каб і не зважаў на Дзятліка, гнуцца ў куце было не ў ахвоту: хоць бы хто асеў поблізу людскі, каб сказаць слова, адвясці душу. Хаваў трывогу, пацеў у кажушку, таміўся, здавалася, бясконцым чаканнем і адзінотай. Калі ўсунуўся Ларывон і стаў, як дуб, узвышаючыся над усімі, Глушак узрадавана памкнуўся аклікнуць яго.

Не пазваў: зза Ларывонавай спіны раптам паказаўся з сянец Міканор, за Міканорам паявіўся Дубадзел. Яны абышлі Ларывона, праціснуліся паўз Глушака, сталі прабірацца к сталу. Глушак пачуў, што трывога яго пацяжэла.

За Дубадзелам праціснуліся к сталу яшчэ двое, незнаёмых. «Каморнікі, мабуць, — падумаў стары, разглядаючы то аднаго, то другога, як бы хацеў уведаць пра свой лёс. Адзін быў ужо немалады, лысаваты, у зацяганай паддзёўцы, з выгляду нібы і незласлівы. Але Глушак, які ўсягоўсякага пабачыў і падрыхтаваўся да ўсяго, падумаў пераканана: «Ціхі то ён ціхі. А толькі калі скамандуюць, то нож усадзіць, пэўне, і не паморшчыцца...» Другі, зусім не падобны да гэтага, маладжавы, далікатны тварам, трымаўся смела, важна: перад тым як сесці за стол, стройны, павайсковаму прамы, дзіўна пасміхваючыся, скінуў паважна фуражку, зняў вайсковы шынель, разгладзіў моцнаю рукой вайсковы ж мундзір з вялікімі кішэнямі на грудзях. Седзячы за сталом, аднаго за адным пачаў аглядваць куранёўцаў, спакойна, павольна падступіў позіркам да Глушака. Старому захацелася ўшыцца ў каўнер, калі вочы вайсковага пайшлі

мацаць яго. Позірк быў востры, пранізлівы, нібы прабіваўся ўсярэдзіну, і такі ўпэўнены, што рабілася нядобра.

«У етаго рука не здрыганецца. Еты і бацьку роднага ўтопіць, калі трэба за савецкую ўласць! К етаму і не падыходзь блізко, не прасіся на літасць! Парцейны ўвесь, да нітачкі! Зразу відно!» — падумаў Глушак, калі вайсковы пайшоў позіркам па другіх. За думкамі закарцела Глушаку дзіўнае адчуванне, нібы сустракаў ужо недзе гэтага чалавека, і ён колькі часу намагаўся прыпомніць, дзе гэта было. Але як ні стараўся, успомніць не мог: мабыць, бачыў выпадкам, мелькам. На вуліцы ці на дарозе — інакш хіба б забыў такога?

Глушак зноў паглядзеў на лысаватага: а гэты, можа, і праўда ціхманы і добры. Пэўна, можна было б асцярожна паспрабаваць падступіцца. Відаць здалёк, што не надта салодка жывецца: і паддзёвачка унь якая, і яды не лішне — шчокі аж уваліліся. Каб зрабіць акуратна, мусіць, не адмовіўся б ад сцягенца свінячага...

Але цяпер і думаць не думай такога — лысы і блізка не падпусціць, калі побач гэты партыйны «да нітачкі». У Глушака раптам з’явілася падазрэнне: а можа, партыйны гэты і не каморнік зусім, а якінебудзь начальнік. «З ГПУ, можа, прысунуўся, вынюхаць, што і як. Харчава прыяцель...»

Разважаючы, мяркуючы, стары ўважліва слухаў, што казаў Дубадзел. Але хоць Глушак і не прапускаў ні слова, багата чаго, як і многія другія на сходзе, ён не разумеў ці лічыў нявартым увагі. Крывароты доўга і нудна нешта гаварыў не пра справу, а пра палітыку. Толькі калі Дубадзел перайшоў да землеўпарадкавання, стары насцярожыўся. Дубадзел, аднак, зноў доўга плёў пра тое, для чаго трэба перадзельваць зямлю і якая гэта важная задума — землеўпарадкаванне; таміў, палохаў Глушака туманам няпэўнасці. Чым больш плёў ён, тым больш прападала ў Глушака кволая надзея на тое, што, можа, абміне, абыдзе яго гэтай бядою. Стала прыкра млосна ўсярэдзіне, калі Дубадзел абвясціў:

— У нас таксамо камісія, якая была выбрана па ўсім законам на агульным сходзе вёскі Курані, знайшла розныя факты. А іменна — няправільную запісь зямлі сельсавету, што прывяло ў сваю чаргу да няправільнай аплаты налогу з боку етых укрываццеляў...

— А хто такія етыя ўкрываццелі? — не ўтрываў Андрэй Руды.

— Можна і назваць, хоць выбраны старшыня етай камісіі вашай вёскі Дзяцел Міканор у сваім рапарце пасля мяне ўсё даложыць сам. Ето такія асобы, як Чарняк Пракоп, Дзяцел Змітро...

Ён, мусіць, выказаў бы ўсіх, але ляснік Міця, пачуўшы сваё прозвішча, абарваў яго, заявіў на ўвесь голас:

— Ето ўсё — еррунда!

Дубадзел абурыўся:

— Што — ерунда?!

— Усё! — з п’янай непахіснасцю растлумачыў Міця.

У хаце засмяяліся, зарагаталі.

— Няправільно запісано! — адгукнуўся не вельмі ўпэўнена, больш, відаць, для прыліку, Пракоп.

— Вы, дзядзько, памаўчалі б! — не ўтрываў, ускочыў Міканор, гатовы рынуцца абараняць свой гонар.

Дубадзел даў яму знак сесці.

— От тут грамадзянін вашай вёскі Курані Дзяцел Змітро, — загаварыў ён зноў паважна, тым жа тонам кіраўніка і прамоўцы, — заяўляе...

— Заяўляў і заяўляць буду — ерунда!

У хаце зноў засмяяліся. Дубадзел пачырванеў:

— Грамадзянін Дзяцел Змітро, вам слова не давалі. Прашу не перабіваць! Тым больш, што сваімі выкрыкамі вы некультурно замахваецеся не толькі на сельсавет, але і на выбраны ўсім народам вашага сяла орган — камісію!..

— Пляваў я на тваю камісію! — Міця рваўся к сталу, але яго стрымлівалі. Ён кіпеў: — Камісія! Таксамо мне — указ! Начальство!.. Я ў лесе — сам начальство! Над усімі елкамі і палкамі! І сею — дзе хачу! І не суйся!

— Ддобра! — злавесна сказаў Дубадзел. — Мы табе пакажам, куды можно і куды няможно сунуцца выбранай камісіі і сельсавету, які ёсць поўная ўлада на месцы!..

— Пакажы! — Міця не слухаў угавораў бліжніх. Душыла крыўда: — Усякае лезе ў начальство! А таго і не дапетрыць, што ў мяне свой закон, свая ўласць!

— Усё сваё ў цябе! Правільно! — падчапіў з рогатам Хоня.

Смех і вясёлы гоман, што ўсё мацнелі ў хаце, падагравалі Міцю. Невядома, як закончылася б гэтая перапалка, калі б за сталом не падняўся незнаёмы ў вайсковым кіцелі. Спакойна, цвёрда загадаў:

— Прашу вывесці п’янага!

Міцю акружылі, узялі пад рукі, пад вясёлыя смешкі Хоні сілком вывелі з хаты. Пачакаўшы, пакуль не ўціх гоман, чалавек абцягнуў кіцель, ужо дзіўна лагодным голасам абвясціў:

— Калі ёсць якіянебудзь прэтэнзіі да камісіі па землеўпарадкаванню і калі такія прэтэнзіі могуць з’явіцца заўтра, — як

бы выдзеліў апошнія словы незнаёмы, — прашу заявіць іх або камісіі, або мне асабіста.

— А хто ты такі? — крыкнула яму Сарока.

Чалавек з усмешачкай глянуў на Дубадзела: ваша віна, што не здагадаліся пазнаёміць у час.

Дубадзел не так назваў, як папракнуў Сароку за невуцтва:

— Таварыш Зубрычето! Спіцыяльны ўпаўнаважаны з воласці!..

Зубрыч кіўком галавы пацвердзіў гэта, зноў загаварыў да ўсіх:

— Такім чынам, таварышы, са ўсімі скаргамі, якія ўзнікнуць, прашу звяртацца да мяне. Мы іх, не адкладваючы, тут жа на месцы разам з вамі праверым і вырашым, як быць далей.

Зубрыч лагодна ўсміхнуўся. Гэтая ўсмешка Зубрыча старога Глушака не толькі не супакойвала, але насцярожвала: нават калі смяяўся ўпаўнаважаны з воласці, чуў стары, што гэты чалавек заўсёды сабе наўме.

«Смяецца, а ўсмешка як бы не яго, — падумаў Глушак. — Чужая нібы».

Другім жа Зубрыч, было відаць, прыйшоўся даспадобы. У хаце пасля яго слоў стаяў гул ухвалы: правільна, паспраўядліваму трэба разабрацца, разам з людзьмі.

Упэўненая строгасць Зубрыча да Міці і абыходлівасць з людзьмі выклікалі пашану да яго і давер'е. Зубрыч раптам стаў жывой надзеяй куранёўцаў.

Ён адчуў гэта, лёгка, непрыкметна ўзяў кіраўніцтва сходам у свае рукі, аб'явіў, што слова мае старшыня камісіі па землеўпарадкаванні Дзяцел Міканор. Міканор выйшаў зза стала, і Дубадзелу, так і не дагаварыўшы, хочаш не хочаш, давялося сесці.

— Дак от, тут дзядзько Пракоп, — адразу рынуўся ў наступ Міканор, — сказаў, што камісія няправільно памерала...

— Не я адзін. Міця унь болей гаварыў... — прагуў, апраўдваючыся, Пракоп.

— Міця — той п'яны і выйшаў з хаты.

— Ну дак што, калі выйшаў?

— А тое, што пра п'янаго, ды якого шчэ няма тут, — няма чаго і казаць!

— Дак калі ён, Пракоп, выйдзе — і пра яго не будзе гаворкі? — уварвалася ў спрэчку Сарока.

— Аге, праўда! — ухапіўся за падтрымку Пракоп. Ён, было відаць, хацеў толькі адступіць з годнасцю, ухіліцца ад удару. Але Міканора гэта распаліла яшчэ больш.

— Вы не круціце, дзядзько!

— Чаго ты ўссеў на мяне! — раптам загарэўся Пракоп. Шыя яго налілася крывёю.

— І праўда, прычапіўся! — зноў падтрымала Пракопа Сарока.

Глушак думкаю быў на баку Пракопа, але стрываў, не заступіўся за яго: кінеш слова насуперак гэтай васпаватай заразе, толькі бяды лішне наклічаш! А тут і без таго невядома, што будзе і як самому адбівацца прыйдзецца.

«Але ж — зараза! От жа зараза, скажы ты! — падумаў пра Міканора. — І такое нахабнае! Пра Маслака нават і не думае, бы той яму нішто! Няўжэ і апаскі не ўзяло, што ён можа паявіцца?» — Глушак пры гэтай думцы пачуў сябе кволым, бездапаможным...

— Я на вас не ўссеў! — не адпускаў Пракопа Міканор. — А толькі я не люблю няпраўды! Не люблю, калі абмануюць, ды шчэ другіх патом вінавацяць!

— А ён і не вінаваціць нікога — ні чорта, ні Бога! — заступілася Сарока.

— Не вінавачу...

— Дак не кажыце, што няправільно памералі. Вы паўтары дзесяціны не ўпісалі!

— А што яму — самому ўпісаць трэба було? — абазваўся Ларывон, і Глушак кіўнуў у знак згоды.

Тут у спрэчку ўлез Хоня, падкалоў:

— Папрасіць трэ було каго — хто граматны!

Міканор пабег позіркам па хаце, некага шукаючы.

— От тут шчэ адзін забуўся памераць сваю зямлю. — Ад адных гэтых слоў Глушак уведаў: пра яго зараз гаварыць будзе. — Не дамераў без чатырох сажняў тры дзесяціны!

— Хто ето? — вылез Андрэй Руды.

— Ето — Глушак Халімон.

Твар, плечы, рукі Глушака наліліся нечым важкім, як гарачая гліна, але ён перамог злосць, сказаў спакойна:

— Ну, дак дзякуй за ето. Што перамераў.

— Няма за што, — укалоў Міканор.

— Ну, пастараўся ж, пахадзіў усюды. Бо я сам, можа, век бы не сабраўся памераць!

— Вы і сям'ю палічыць не сабраліся, лішняга ўпісалі.

— І за ето дзякуй, што памог.

Глушак захінуў полы кажуха і зноў нагнаў на твар санлівасць: не зразумець было, ці то слухае чалавек, ці дрэмле. Але

ўсярэдзіне ў яго ўсё кіпела: «Перамераў! Падлічыў! Няма каго, штоб перамераў цябе па спіне дубінаю! Ды падлічыў твае рабрыны, трасца шалудзівая!»

Ён ад злосці аж не мог слухаць голасу Міканора, але і не слухаць нельга было. Самае важнае, цвяроза мяркуючы, было яшчэ наперадзе: на колькі ж пастановяць абрэзаць яго? Тое, што гэтываспаваты выскачка тыцнуў яго ў гразь, яшчэ паўбяды: сорам не дым, гразь можна і выцерці з твару. Прыйдзе, нарэшце, такі момант, што і самога прыблуду гэтага тыцнуць у гразь можна будзе, ды так, што ён не абатрэцца, не абмыецца! А зямля — гэта зямля, не дым, не сорам — рэжучы яе, усё роўна што рэжуць сэрца...

— Дак от, кеб не було такого, — вярэдзілі Глушака Міканоравы словы, — такого, што у аднаго поле на вярсту, а ў другога — як баба сядзе, дак спадніцай усё і закрые, — трэба камунікаму падбавіць зямлі. А ад кагонікаго, не сакрэт, канешне, адрэзаць. Кеб не було ў аднаго густо, а ў другога — пусто.

Гэтыя словы Міканора адгукнуліся ў хаце задаволеным гоманам.

«Рады чужога дабра ўварваць, плойма гуляшчая!» Дзе толькі навучыўся хітрасці Дамецікаў прыблуда: пачаў гаворку пра перадзел не з таго, у каго трэба абрэзаць зямлі, а з таго, каму і колькі падбавіць трэба. Усё роўна як бы прывабліваў, зваў да сябе. І гэта яму, было відаць, удалося: хоць і з асцярогай, не выскокваючы вельмі, людзі слухалі яго з ухвалай. Глушак мімаволі адзначыў, што больш за паўдзесяціны «адрэзалі» Зайчыку, амаль столькі ж Дзятлікаваму Васілю. У гэтага смаркача, калі пачуў, колькі прыбавяць, аж вочы загарэліся. Як бы ўжо браў зямлю, глядзеў, ці добрая, ці не замала! «От жа, прагавітая дзюба!»

«І Зайчык — хоць бы слова! Падманілі абяцанкай, ён і гатоў, перабег!»

Але думкі гэтыя прайшлі амаль без знаку перад тым вялікім і панурым, што грозна, страшна наблізілася: колькі ж абрэжуць?!

— Ету зямлю нам ніхто з неба не скіне! — гаварыў Міканор. — Ні Бог, ні цар і ні гірой, як гаворыцца ў нашай песні «Інтэрнацыянал». Цара, не сакрэт, даўно ўжэ няма, і косткі пагнілі. Як ужэ даказано, Бога і не було ніколі. А гірой цяпер — ето народ. Народ і ўстанаўлюе цяпер парадак. Народ і дзеліць зямлю так, кеб було справядліво... Дак от і мы павінны абрэзаць зямлю ў тых, у каго лішне!

Глушак аж зубы сцяў ад гэтых слоў. «У каго лішне!» Ледзь утрываў, каб не закрычаць: чуў, ведаў, што ўсё адно ніхто не

падтрымае. «Лішне! Кеб табе за ето лішняе ўвесь век на тым свеце гарэць!»

— Дак от, ад такіх людзей мы павінны адрэзаць. — Голас Міканора як бы пацвярдзеў. Рашуча, непахісна абвясціў: — Ад Глушака Халімона — пяць дзесяцін!..

— Ого, распарадзіўся! — першы адгукнуўся Яўхім, які стаяў недзе ў сенцах.

Старога Глушака душыў гнеў. Ледзь адолеў задуху, раз'ятрана выціснуў:

— Ты ддаваў мне іх, еттыя пяць дзесяцін?! Што распараджаешся!

— Ето — рашэнне камісіі.

— Камісія твая дала нам ету зямлю? — крыкнуў Яўхім.

— Савецкая ўлада дала! — заявіў Зубрыч.

Глушак, ашалелы, хацеў мацюкнуцца, але ў час стрымаўся. Яўхім выбраўся з сенцаў, праціснуўся на сярэдзіну хаты — гатоў быў, здавалася, рынуцца к сталу ў бой.

— Савецкая ўласць дала, — загаварыў, закрычаў ён, — дак яна дала яе, ету зямлю, не на тое, штоб вы яе адбіралі!

— А мы і не адбіраем! Мы абразаем лішняе!

— А ты пытаўся ў мяне, лішняя яна ці не? — трасучыся, прасіпеў Міканору стары.

— Мы і так знаем.

— Як жа ето ты дазнаўся?

— З савецкага закону.

— Вельмі ты знаеш етыя законы, грамацей! — стаяў, пырскаў слінаю стары.

— Нічого! — прамовіў упэўнена і разам з гразьбою Яўхім. — На вас таксама ўправа е!

Дужы, шыракаплечы, у кепцы, хвацка ссунутай на вуха, ён павярнуўся спінаю да стала і цвёрда, рашуча, тоячы нейкую пагрозную ўпэўненасць, рушыў зноў к сенцам. Стары Глушак захінуў кажух і, чуючы, што ўсярэдзіне ўсё яшчэ дрыжыць ад гневу і лютасці, сеў. Заўважыў, як ціха стала ў хаце. Калі і трэба было ціснуцца, прэць тут у гэтай духаце, то хоць бы для гэтага моманту. Усе няхай бачаць, што ён так сабе не папусціцца, не дасць занішто абабраць сябе!

«Яўхім — маладзец: так удало выйшаў! І пра ўправу ў час сказаў! Унь як астылі многія — усётакі баяцца! — У Глушака зноў ажыла надзея: — Можа буць, не асмеляцца браць, адмовяцца... Сарвецца ўсё, можа?..»

Міканор сабраўся гаварыць зноў, але яго апярэдзіў Зайчык.

— Е тут няяснасць адна!

— Якая няяснасць?

— А такая. Ты, Міканорко, мабуць, прасветліш яе. Як старшыня. З зямлёю етай, заадно, Міканорко, коней не прырэжуць?

Дураслівае пытанне гэта абазвалася смешкамі, асабліва сярод моладзі, дзе Зайчыкштукар быў у не абыякой пашане. Смяяліся не толькі таму, што ён ужо сказаў, але загадзя і таму, што яшчэ выкіне: ведалі, што Зайчык вымудрыў нешта!

Міканор, захоплены спрэчкай з Глушакамі, не адразу зразумеў дзіўнае пытанне і смяшок.

— Пра што ето вы, дзядзько?

— А от пытаюся: коней тым, каторым прыразаюць зямлю, не прырэжуць заадно?

Пад смешкі Зайчык растлумачыў:

— Каму, маўляў, каня. Каму — паўканя. Каму — чвэртку. Каму — хвост, а каму — грыву...

— Дзяцел, тут табе не вячоркі! — строга аб'явіў яму Дубадзел.

— Дак я і сам бачу, што не вячоркі.

— Бачыш, дык няма чаго крыўляцца. Сур'ёзнае дзело разбіраем. Ето табе не камедзія!

— А хто кажа, што кумедзія! Кумедзія — ето от уся гаворка пра землю, пра перадзел. — Зайчык не даў Дубадзелу перапыніць сябе: — Што мне тая зямля, як я, каня не маючы, усё адно абрабіць яе не магу!..

Глушак асцярожна, але задаволена кіўнуў. «Стрымаў сваё слова Зайчык, заступіўся! І таксамо — у пару!»

Ён падумаў, што трэба будзе неяк аддзячыць за гэта, каб падахвоціць на другі раз. Тут жа, праўда, адзначыў сабе: у тым, як казаў Зайчык, чулася не так жаданне памагчы яму, як боль за сваю няўдачу. Але Глушак гатоў быў дараваць гэта. Усётакі памог...

— Чым я засяваць яе буду, ету вашу землю, калі дзеці ад вясны з дубовай кары пухнуць? — светлыя Зайчыкавы вочы па чарзе прабеглі па Міканору, Дубадзелу, Зубрычу.

— Дак кеб не пухлі яны, зямлі трэба, следавацельно, — павучальна адгукнуўся Андрэй Руды.

— Ето мне напамінае байку пра таго дурня, што купіў залатую — як у пана — міску. Сеў каля яе і думаў, што яна сама карміць будзе! Яна, зямля, як карова — дасі ёй, накорміш, дак і яна табе дасць! А што мне зямля етая, калі з яе — нічога!

У хаце згодна загаманілі. Глушак падумаў: «Рады булі б, кеб да зямелькі ды шчэ й коней дадалі і насення! — Пажадаў зларадна: — Трасцы вам, а не коней! Падавіцеся вы етай зямлёю, палыном ды лебядою абсяваючы!»

Радасці, аднак, не было: увайшоў у душу неспакой — каб, барані Бог, хэўру гэтую ненажэрную на коней і на насенне яго не напусцілі! У трывозе зірнуў на Зайчыка інакш, з падазрэннем: памочнік, называецца — адной рукой, здаецца, выцягвае, а другой — як бы ўтапіць гатоў!

— Дзядзько правільно кажа, — згадзіўся з Зайчыкам Міканор. — Набыўшы зямлі, не сакрэт, з бяды не выкруцішся. Дак от жа я і казаў, што, кеб адолець ліхо етае, згуртоўвацца трэба, разам, усёй грамадою ваяваць. Таварыство арганізаваць на ўсё сяло, насенне, якое ў каго е, разам сабраць! Сабраць грошы са ўсіх і разам коней купіць!..

Міканор гаварыў горача, пераканана, але слухалі яго большасць людзей ці недаверліва, ці нават непрыхільна. Чым больш ён гаварыў, тым больш рос нездаволены гоман. Пачуліся воклікі:

— Зноў — етыя таварыствы!.. Як не надакучыць, ейбогу!

— Грэблю не кончылі, а шчэ — таварыство!

— От скажы ты, прычапілася да чалавека!

— Прыйдзе Маслак — ён «арганізуе» табе таварыство! — крыкнуў нехта.

— На тым свеце закаешся!

Думка пра Маслака, мабыць, увесь час на сходзе жыла між людзей, бо пры напамінку пра бандыта ўсе заварушыліся, загаманілі толькі аб ім.

Міканор паспрабаваў перасіліць гамонку.

— Усё ето з таварыствам страшно толькі таму, што яшчэ не спробувалі. А як паспробуем, пажывём, дак, кеб хто хацеў, патом ад таварыства не адарваў бы! — Ён апярэдзіў шум пярэчання: — А што да Маслака — то тут, не сакрэт, нечая выдумка!

— Сумно некаму без Маслака! — звонкім голасам падтрымаў Міканора Хоня.

— Ажывіць захацелася! — дадаў Алёша Губаты.

— Брахня! — заявіў і Дубадзел.

— От як заявіцца сюды — пакажа брахню!

— Чыкацца не будзе!

Чарнушка папрасіў:

— Няхай прадстаўнік з воласці растумачыць пра Маслака!

Зубрыч устаў, усміхнуўся:

— Я проста здзіўлены тым, якую ўвагу вы аддаяце нейкаму пігмею! Нейкаму адшчапенцу, які туляецца ў балоце!

— Няма нікога тут! — заявіў зноў Дубадзел. — Плёткі ўсё ето, што Маслак жывы!

— Я таксама лічу, што плёткі. Ды калі б і праўда была, калі б сапраўды ён дзейнічаў тут, ніякіх падстаў для панікі, для страху ўсё роўна няма. Ён — адзін, іх — нікчэмныя адзінкі, а вас — легіён. За вас уся краіна, армія, народ. Ёсць каму за вас заступіцца!..

— Заступіццато заступяцца...

— Ды пакуль тая заступка прыйдзе!..

— І раней заступнікі булі!

— От бо перапужаліся ўсе! — пакпіў Хоня.

— Аднаго духу Маслаковаго!

— Значыць, у воласці, таскаць, нічого неізвесно пра ету асобу, пра Маслака, і яго атрад? — хацеў дабіцца яснасці Руды.

— Я, шчыра кажучы, не цікавіўся гэтымі весткамі... Але думаю, што калі б яны былі, то мяне папярэдзілі б. Аднак, вярнуўшыся, я праверу іх і, калі будзе патрэба, абяцаю прыняць адпаведныя меры...

— Пакуль вы етыя меры прымеце, дак ён спраўдзіць сваю гразьбу!

— Сказаў, накорміць зямлей — і накорміць!

— Няўжо вы, — лагодна здзівіўся Зубрыч, — настолькі напалохаліся здані нейкага Маслака, што ад землеўпарадкавання, ад таго, каб навесці парадак у карыстанні зямлёй, гатовы адмовіцца!

— Калі зза етай лапіны зямлі губіць сябе, то хай яе чорт бярэ!..

— Дружыну сарганізаваць трэба! — крыкнуў хтосьці з хлопцаў. — Не паткнуўся б!

— А паткнуўся б, дак далі б па зубах!

Зубрыч пахваліў хлопцаў, потым мякка, з дакорлівай усмешкай загаварыў пра тое, што абыяк адносіцца да землеўпарадкавання, як некаторыя тут, на сходзе, — гэта паказваць поўную сваю несвядомасць, непавагу да дзяржаўных інтарэсаў. Дзяржава даўно хоча навесці парадак у землекарыстанні, знішчыць анархію і самавольства, і абавязак кожнага сумленнага грамадзяніна — усямерна памагаць ажыццяўленню гэтай вялікай мэты.

Глушака аж злосць узяла: так стараўся за дзяржаву валасны ўпаўнаважаны.

«Усё толькі і знае, што дзяржава ды дзяржаўныя інтарэсы!.. Як знаў, угадаў: бацьку роднаго для дзяржавы сваёй не пашкадуе!..»

Гаварыў упаўнаважаны лёгка, прыгожа: відаць было, разумны, вучаны чалавек. Слухалі яго ўважліва, даверліва, але чым больш слухалі, тым больш станавіліся маўклівыя, асцярожныя да гэтай не так мужыцкай, як дзяржаўнай справы — землеўпарадкавання. І як ні хваліў упаўнаважаны яе і дзяржаву, асцярожлівасць не толькі не прападала, а мацнела. Вядома, тут былі нямала вінаваты чуткі пра Маслака, але і прыезджы, заўважыў Глушак, таксама даў хібу: перастараўся, заступаючыся за дзяржаўныя інтарэсы. Як ні высільваўся, не так паправіў становішча, як астудзіў, затуманіў людзей.

«Старацельны ты вельмі, — падумаў Глушак. — Распінаешся за сваю савецкую ўласць, а таго не знаеш, як да мужыка падступіцца, чым спакусіць...»

— Усётакі, мабуць, з етым перадзелам пачакаць лепей, — прамовіў разважліва Чарнушка, і ў Глушака зноў ажыла надзея.

— Не чакаць, а канчаць трэба! — крыкнуў Хоня.

Яму не давялося сказаць больш ні слова, бо раптам ускочыў нецярплівы, ашалелы Васіль.

— Чакаць, чакаць! Усё — чакаць! — Крыўда, роспач і лютасць кіпелі ў яго лямантце. — Дакуль жа ўсё ето будзе! Чакаць ды чакаць!.. Усе ўсюды даўно ўжэ парабілі ето! А мы ўсё — чакаць! Дак дакуль жа мы будзем мучыцца?!

— Камукаму, а табе можно було б і памаўчаць, — заявіў Ларывон. — Забуў, як вадзіў?

— Забуў не забуў, а толькі... Дакуль жа ето ўсё будзе? Добра каторым — зямля як зямля! А ў мяне — пясок адзін! Зелле і тое расці не хоча! Нічого!

— А ў мяне — дак лепей? — падтрымаў яго адзін голас.

— А ў мяне?

— Праўду кажа!

— Ну от! — як бы ўзрадаваўся Васіль. Ён увесь аж гарэў, гатоў быў, здавалася, люта кінуцца на кожнага, хто стане насуперак. Падтрымка людзей паддала яму смеласці, і ўжо не роспач, не крыўда, а абурэнне пачуліся ў яго голасе: — Дакуль жа ето мы будзем гнуцца на адным пяску! А другія будуць сабе, як паны, раскошувацца! Ето хіба так трэба? Ето — па савецкіх законах?

У хаце заківалі галовамі, загаманілі згодна. Многія слухалі са здзіўленнем: першы раз бачылі Васіля такім, чулі такога на людзях. Глушака поўніла злосць: адчуваў — надзея зноў гіне...

— Няхай хто што там думае, а толькі, памойму, трэба, кеб пароўну ўсім було! Кеб і ў нас була зямля як зямля, а не пясок! — Людзі зноў зашумелі, і ён збіўся. Хацеў быў сесці, але выпрастаўся, ціха, рашуча аб'явіў: — Як хто, а я ад зямлі не адмаўляюся!

Глушак бачыў, як гарэлі вочы ў хлопца і пасля таго, як ён змоўк, сеў. Старога аж душыла ад гневу, ад бяссілля: мала каго за сваё жыццё ён ненавідзеў так, як гэтае хлапчанё, шчанё гэтае прагавітае! «От гадзяня, няма на цябе кала!» — думаў пра Дзятліка.

Ніякай надзеі на ўдачу цяпер не было, і лютасць, нянавісць яго мяшаліся з болем...

Пасля таго як Міканор дачытаў, колькі ў каго знойдзена лішняй зямлі, спрэчак аб тым, калі пачынаць перадзел, ужо не вялі. Амаль усе адразу згадзіліся: заўтра.

Упаўнаважаны з воласці аб'явіў, што слова мае каморнік.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Васілю гэтыя дні далі таксама багата трывогі. Было яе многа да сходу, жыла яна, білася ў ім на сходзе, з ёю ж падаўся ён і дадому, несучы ў сабе цэлую буру сумненняў, неспакою, недавер'я.

Трывога, спачатку няпэўная, няясная, перамешаная з радасцю, з добрымі марамі, з'явілася ў ім, калі ён пабачыў, што камісія пайшла па хатах. Цешачыся тым, што жаданы перадзел усё ж збудзецца, гадаючы, колькі пяройдзе яму зямлі, ён разам з тым непакоіўся, каб якнебудзь не абышлі яго, не схітравалі і не абдзялілі. І на людзей, абраных у камісію, ён глядзеў з надзеяй і асцярогай, як бы гадаў, што яны прысудзяць яму. Сярод гэтых людзей найбольш турботных думак даваў яму Ганнін бацька, які, здавалася Васілю, цяпер не можа быць, каб не стаў заступацца за Карчоў, сваякоў сваіх, падрываць Васілёвы шанцы на ўдачу...

Камісія не абмінула Васілёвай хаты, перамерала і яго поле. Васіль сам гаварыў, калі яны запісвалі, колькі ў яго зямлі і якая сям'я, хадзіў побач, калі перамервалі паласу. У тыя дні, як ніколі, была ў яго ахвота пасябраваць з Міканорам, і не праходзіла дня, каб Васіль раз, а то і два не зазірнуў да свайго суседа. Але

Міканор дома сядзеў цяпер рэдка, не раз даводзілася гаманіць адно са старым Дамецікам, ад якога не было ніякай карысці. Праўда, і ад сустрэч з Міканорам добрага было не многа больш: Міканор неяк заважнеў, нешта таіў у сабе, не выказваў вельмі зычлівасці. Толькі і дазнаўся Васіль, што ў кагонікаго знайшлі лішкі, што яму павінны прырэзаць з паўдзесяціны, але якія будуць гэтыя паўдзесяціны — зямля ці пустэча, — так і не ўведаў. У Міканора на ўсе выпыты быў адзін адказ: сход збярэцца, камісія памяркуе — і Васілю было відаць, што на якуюнебудзь асаблівую прыхільнасць спадзявацца не трэба. Гадаючы, якім бокам павернецца да яго доля, прызвычаены чакаць горшага, ён у думках не раз, не два нядобрым словам памінаў Міканора.

Са злой радасцю цешыўся Васіль гаворкам, што асабліва багата павінны абрэзаць зямлі ў Глушакоў. Некаторыя гаварылі, што павінны пакараціць глушакоўскія палі не менш як напалавіну, другія — што нават больш. Былі і такія гаворкі, што калі ўжо абразаць, то лепш было б, каб абрэзалі не абыякую зямлю, а тую, каля цагельні. Праўда, потым за гэтымі гаворкамі папаўзлі чуткі, што зноў аб'явіўся Маслак, гразіўся карміць зямлёй усіх тых, хто яе велымі прагне, і гаворкі пра перадзел прыціхлі.

Канешне, і малому кожнаму было вядома, што калі людзі цяпер і менш гаварылі пра перадзел, то думалі, мусіць, яшчэ больш. Думаў і Васіль. Чуткі пра Маслака, якія нагадвалі яму не такую далёкую страшную ноч, гразіліся хлопцу, напэўна, вастрэй, як каму другому. Яму і цяпер, здавалася, чуўся на спіне дотык бандыцкага абрэза, і цяпер, пры адным напамінку, халадзела сэрца ад страху. І ўсё ж надзея на зямлю, што стала была такой блізкаю, не хацела гінуць, тачыла і тачыла яго. Страх і надзея мяшаліся ў душы, змагаліся адно з адным, то прымушалі маўчаць, таіцца, то поўнілі хлопца адчайнай смеласцю, адвагай, гатовай на ўсё.

Гэтыя пакорлівасць і бунтарства, страх і адвага біліся ў ім асабліва горача тады, калі ён сядзеў на сходзе, сачыў, як то набліжаецца, то адступае яго шчасце. Ён праз увесь сход і не думаў гаварыць. Спадзяваўся, што і без яго абыдзецца, але раптам дрыгва, здалося, разарвалася і пад ім. Ён пачуў, што гіне. Надзеі ні на каго не было. Трэба было ратавацца, ваяваць за сваё жыццё самому. І ён ускочыў, рынуўся ў бой. Закрычаў, не помнячы, не баючыся нічога...

Цяпер ён ішоў па цёмнай вуліцы, мясіў куранёўскую гразь і патроху астываў пад сырым, халаднаватым ветрам з балота.

Непадалёк брылі людзі, была чутна гамонка, але ён не далучаўся ні да каго і нічога не чуў, жыў сваім хваляваннем, сваімі клопатамі. Было трывожна ад таго, што от не ўтрываў, выскачыў супраць Маслака, і невядома, што цяпер будзе. Але ні страх, ні каянне не бралі, цвярдзелі ў душы ўпартая непахіснасць і рашучасць. «Ну і няхай, няхай грозяцца! Што ж мне — ад зямлі самому адракацца! Так можна і без нічога астацца, калі баяцца ўсяго!.. Няхай шчэ самі падумаюць, як бы іх хтоніхто зямлёй не накарміў!..» У гэтую мінуту не толькі Міканор і другія куранёўцы, але і Харчаў з Шабетам прыгадваліся без крыўды, не як няпрыяцелі, а як супольнікі. «І вельмі можа быць, што «накормяць» маслачкоў. Харчаў, мабуць, толькі і чакае, цікуе дзенебудзь. Няхай толькі паткнуцца!»

Побач апынуўся Ігнат, Хадосьчын бацька, пайшоў нараўне.

— Багато шчэ малаціць?

— Да ўжэ хутко. Мо з капу якую...

— І мне небагато. Лёгко ў етым годзе...

— Аге. Не важко...

Далей тупалі моўчкі, але Васіль чуў, што чалавек не так сабе падышоў, трымаецца побач не так сабе — шануе, паважае. Напэўна, за смеласць сённяшнюю, за тое, што не пабаяўся, выказаў праўду перад усімі!

Калі Ігнат збочыў на свой двор, у Васіля засталася аб гэтым згодным сяброўскім маўчанні добрая, лагодная радасць.

Дома дымела, трашчала лучына і каля прыпека варушыўся ў камізэльцы дзед Дзяніс. Васіль бачыў яго на сходзе і не ведаў, як стары ўправіўся вярнуцца раней: мабыць, не дабыў да канца.

— От і гірой наш! — задаволена сказаў дзед. Ён весела загадаў маці: — Дай бо чаго пад'есці!

Паставіўшы міску з расолам і чыгун з картопляй, маці прысела на лаўку і доўга глядзела на Васіля вачыма, поўнымі трывожнасці і шкадавання.

— Ну, чаго вы! — не вытрываў, няласкава буркнуў Васіль. — Усё адно як не бачылі век!

— Боязно мне, сыночак. Нашто табе було выстаўляцца?..

— А што було, тым часам, рабіць, калі ўсе маўчалі, як вады ў рот набраўшы? — адобрыў Васіля дзед.

— Усё адно. Кеб, барані Бог, паганаго чаго не выйшло.

— Ну, от бо! — Васіль, узлаваны, гатоў быў кінуць лыжку. — Вечно вы!

— А ты не кіпі! — строга зірнуў на яго дзед. — На тое яна матка, штоб за дзіця баяцца!.. І ты, — ён папракнуў ужо маці, — лезеш са сваім стогнам не ў пару, пад'есці не дасі!

Ужо калі леглі, дзед Дзяніс прамовіў упоцемку з печы:

— Етаго старога Карча аж трасучка ўзяла, як ты гаварыў. Разарваў бы, кеб прымеў! Не пападайся яму цяпер ці Яўхіму! Але ты, тым часам, не бойся! Не вельміто і папускацца трэба! І нікому папускацца не трэба! Ніхто за цябе не заступіцца, як сам не заступішся. Дак няхай, тым часам, знаюць, што і ў цябе зубы е!

Памаўчаў трохі, пакруціўся на печы, уладжваючыся: мабыць, пёк чарэн. Як бы чытаў Васілёвы думкі, калі параіў:

— І заўтра, тым часам, не драмлі. Як будуць дзяліць, скажы — абыякой зямлі не трэба! Штоб людскую ўдзялілі, патрэбуй! Не папускайся, адным словам! Не папускайся!

2

Васіль прачнуўся рана, да першых пеўняў. У хаце ўсе яшчэ спалі, адно Вадодзька на печы штосьці гаманіў у сне. Гэтая гаворка, мусіць, і разбудзіла Васіля. Ён ужо гатоў быў зноў задрамаць, але ў санлівую бесклапотнасць яго раптам пранізалася згадкатурбота: сёння! Сёння павінна пачацца!..

Толькі дайшоў сэнс згадкі, як спакою нібы і не было. Успомніліся спрэчкі на сходзе, страх, што адкладуць перадзел, успомніліся, закружыліся, запяклі зноў гарачыя свае словы, якія вырваліся былі на сходзе. Зноў нібы гаварыў, крычаў, нападаў на тых, хто асцярогай, баязлівасцю ледзь не сарваў перадзелу, заступаўся за сябе, за свае паўдзесяціны. «Добра вам казаць, калі е з чаго пракарміцца: удосталь зямлі, і такой, што як кінеш, дак вырасце нешто! А як мне, на адным пяску, на пустэчы етай? Як?!» З гэтымі думкамікрыўдамі перапляталіся зноў напамінкі пра Маслаковы пагрозы, але і цяпер страху не паддаваўся: «Самі няхай не вельмі вылазяць, калі хочуць цэлыя буць, вужакі балотныя!»

Што б ні ўспамінаў, разам з усім, ні на момант не прападаючы, жыла ў ім, цешыла і вярэдзіла душу турбота пра зямлю. Да ўчарашняга дня ён толькі марыў пра яе, а цяпер яна была ўжо ледзь не ў яго руках. І не жменька, не дробязь якая — больш за паўдзесяціны! Калі б пашанцавала пры дзяльбе ды людскі кавалак прырэзалі, урадлівы, то гэта было б усё роўна што ўраз пабагацець!

Не першы раз прасіў, маліў у думках: той бы, што каля цагельні, якую ў Карча абрэжуць!

Марыў, а сам паліў сябе, прадракаў упэўнена, як ведаў загадзя: «Аге, чакай, так табе і дадуць яе! Пабачыш, як свае вушы! Многа там дурных такіх у камісіі ці з тых, што каля яе аціраюцца, кеб такі ласы кавалак аддаць некаму другому!» Ён амаль на свае вочы бачыў, як гэты — такі жаданы, даўнодаўно аблюбаваны — кавалак пераходзіць у нечыя іншыя, спрытныя, хітрыя рукі. «На ласы кавалак лаўцоў тут аж занадто. І не агледзішся, як выхапяць зпад носа! З кішэні і то, кеб ухаваць можно було, выцягнуць лаўцам етым — як плюнуць!»

Трывожачыся, поўны лютасці да лаўцоў, праз якіх ніколі не абярэшся ад крыўды, Васіль як бы чуў дзедава павучанне, якое яшчэ больш гарачыла, падбівала на смеласць: «Не папускайся! Няхай знаюць, што і ў цябе зубы е!»

Добра сказаць: не папускайся! Васіль гатоў быў узлавацца на дзеда Дзяніса: няхай сам паспрабаваў бы не папусціцца, з такімі людзьмі жывучы!

І ўсё ж Васіль не хацеў і не мог папусціцца: вельмі ж вабіў яго гэты ласунак, што каля цагельні! Вельмі ж шкода было б выпусціць дабро такое, даць, каб спажыў яго нехта чужы!

Яно ж так блізка, дабро гэта. Амаль у руках. Толькі б не прамаргаць, не даць выхапіць яго другім. Самому хапіць раней! Не чакаючы, пакуль хто з камісіі прыбярэ! Ён раптам пахаладзеў: а можа, пакуль ён думае попусту, той кавалак хтонебудзь ужо і прыбраў! Не аднаму ж яму пастанавілі даць зямлі! «Устаў от поначы і — захапіў! І чакае толькі, калі падыдуць другія — кеб паказаць!»

«А чаго ж — прыедзе з плугам, заарэ — і гаспадар ужэ! І ніхто нічога не зробіць яму!»

Васіля так устрывожыла гэта думка, што ён не мог ужо ляжаць. Ускочыў і стаў хутка адзявацца. Не падумаў нават, што можа разбудзіць матку ці дзеда — не да таго было. Але ніхто і не прачнуўся. Ім і клопату мала, што ў гэты момант нехта, можа быць, зпад рук выхапіў іх багацце!

На двары, чорным і ціхім, толькі шапацеў па саламянай страсе, булькаў па нявідных лужынах дождж. Ціха было і ва ўсім сяле, ніводзін агеньчык не жаўціў цемры. Але Васіля не супакоіла гэта цішыня: хітрыя лаўцы робяць свае справы цішком. Не такі ён дурань, каб паверыць, што калі ў сяле нібы ціха, то ўсе і спяць.

Асклізваючыся на мокрай дарожцы, Васіль выбраўся агародамі к прыгуменню, не вагаючыся рушыў у шапаткую дажджавую чарнату. Ён то ішоў, то трусіў уподбег, думкі, як авадні,

апаноўвалі, пераконвалі: запазніўся, праваронiў, занялі ўжо. Захапіў нехта. Захапіў — і нічога яму ніхто не зробіць. Будзе панаваць сабе на такім дабры...

У Васіля шчымела зайздрасць да гэтага невядомага, які так абхітраваў яго. Не проста зайздрасць, а зайздрасць з непрыхільнасцю, якая ўсё мацнела, станавілася ўсё больш злая. І як жа інакш: амаль што зпад рук выхапіў хапун гэты! Каму ж, як не Васілю, павінен належаць гэты кавалак, даўнодаўно нагледжаны, аблюбаваны, абмілаваны? Яшчэ ніхто і думаць не думаў нічога, як Васіль выбраў яго. І вось — выхапілі, лічы, проста з рук, і ніхто не ўстановіць справядлівасць, ніхто не згоніць хапуна, заразы гэтай: па закону, скажуць, забраў —на сходзе ж, маўляў, усе чулі, што прырэзаць належыць! От бо людзі! Чаго толькі не нацярпішся, пажыўшы з такімі!

Хоць было цёмна, яшчэ зводдалек улавіў: на Глушаковым полі пуста, спакойна. Нікога быццам няма. Ён, аднак, не паверыў: прыцішыўшы хаду, асцярожліва, пільна прыгледзеўся, павёў позіркам па суседніх загонах, прайшоў па мокрай пожні да краю паласы, вярнуўся. На душы палягчэла: нікога не было! Ён нейкі час стаяў тут, поўнячыся радасцю, — зямля не была захоплена, вольная была. Ён мог забраць яе, стаць яе гаспадаром, уладаром яе. Тут, адзін сярод поля, сярод цемры, адзін са сваімі марамі, не абмежаваны нічым і нікім, ён у шчаслівы міг пабачыў, што не толькі можа, а што ўжо стаў гаспадаром і ўладаром жаданай гэтай зямлі, усяго, што яна таіла пад мокрай пожняю, пад цемрай.

Усё ж Васіль быў чалавекам, які звычайна добра чуў навакольную рэальнасць, ён вельмі хутка вярнуўся да яе і ў гэты шчаслівы міг. Стала няўтульна, цёмна і клопатна, і радасць умомант выпарылася з яго душы, як і не было. І ўжо як і не было і зямлі гэтай дзівоснай, і ўсяго дабра, што яна абяцала. Ён пацягнуўся назад з такім настроем, нібы яму паабяцалі, нават далі скарбы, але толькі для таго, каб пасмяяцца, — раптам ухапілі назад, ашукалі, абрабавалі. Але ён не хацеў быць абрабаваным, не хацеў і не мог: нават драбніцы не любіў выпускаць Васіль, калі яна трапіла ў рукі.

І цяпер думкі яго ўпарта не адступаліся ад зямлі, якой ён, няхай у марах, міг валодаў. Чаму ж ёй быць чыёйнебудзь, а не яго, калі ніхто столькі не прагнуў яе, калі нікому ў свеце яна так не патрэбна? Ды і па закону хіба не належыць яму? Хіба ж не аб’явілі на сходзе перад усімі, што больш за паўдзесяціны павінны прырэзаць?

Чаму ж яна мусіць дастацца некаму другому, а не яму?

Але і так можна падумаць: чаму абавязкова сядзець склаўшы рукі ды чакаць, што вымудруюць тыя, каторыя ў камісіі, якім самім не церпіцца лепшы кавалак адхапіць? І чаму гэта нехта павінен выбіраць яму, нібы ён сам сляпы, дурны, выбраць не можа?

На момант прыгадалася, як ляжаў на саломе ў юравіцкай каморачцы, дробнае акенца ўгары, грозны Шабета, непадступны Харчаў, узяла боязнасць: каб зноў не прычапіліся? Але зямля каля цагельні так вабіла, так вярэдзіла душу неспакоем — як бы не выкаўзнула з рук, — што страх адступаў, глух: не прычэпяцца. Васіль нагадваў сабе: «Помніш, што казаў Апейка, выпускаючы зпад варты: «Хочаце, штоб за вас усё рабілі, а самі і за сябе пастаяць не хочаце!» І хоць Апейка гаварыў гэта пра іншае, аб чым Васіль добра ведаў, згадка пра Апейкавы словы зусім супакойвала...

«Дзед праўду сказаў: не трэба папускацца! Будзеш папускацца — век будзеш у дурнях! Век зубамі з голаду ляскаць будзеш ды голым целам свяціць!..»

У цемры, на мокрай шэрасці неба, абазначыліся чорныя хібы стрэх — прыслухоўваючыся, прыглядаючыся, Васіль пайшоў між гумнаў. У сяле, як і раней, не блішчала ні аднаго агеньчыка, не чутно было ні аднаго голасу, а хлопцу ўсё ж стала трывожна. З'явілася адчуванне небяспекі.

Але ён не паддаўся страху, не спыніўся. У яго душы была цвёрдасць, рашучасць: ён зойме, заарэ зямлю каля цагельні, акурат столькі, колькі вызначылі. Заарэ, пакуль не агледзеўся ніхто з камісіі. А як заарэ — няхай паспрабуюць скруціць! Хочаш не хочаш, а дадуць! Быць не можа, каб не далі!..

## 3

Дабраўшыся да свайго двара, у хату, як усе іншыя ў сяле, чорную, маўклівую, не пайшоў, а адразу падаўся ў павець, выцягнуў плуг. Ціха зарыпелі вароты ў хлеў: лагодна гладзячы па шыі, вывеў паслухмянага Гуза, стаў запрагаць. Адчыніў ужо вароты, за якімі была дарога на прыгуменне, калі паблізу заўважыў постаць. Маці.

«Вечно яна прыйдзе, калі не трэба!»

— Дзе ты буў? — хрыпата ад сну прамовіла яна. Васіль прамаўчаў. — Ты куды ето?

— Да от... Гуза правяду. Застаяўся...

— А плуг нашто?

«От прычапілася! Як Шабета. Усё ёй знаць канешне!..»

— Там трохі... з далонь засталося...

— Дак уночы нашто? — Яна, здаецца, не паверыла яму. Пачула штосьці дзіўнае.

— Не даараў надысь...

— Дак удзень хіба няможна б?

— Удзень, удзень! Скора ўжэ і дзень!..

— Світаць шчэ не пачынае.

— Пакуль даеду ды пабуду трохі...

— Не едзь! — папрасіла яна. Васіль пачуў у яе голасе трывогу. На міг у душу яго ўвайшло сумненне: а можа, і праўда не ехаць? — Удзень паедзеш, — дадала яна.

Васіль раптам ускіпеў:

— Удзень, удзень! — Ён узяў лейцы.— Прыліпла!

— Не ўдумай, барані Бог, чаго паганаго! Са свету зжывуць!

— Сам знаю.

— Глядзі ж, Васілько! Ужэ і так паплакала!

— Ат!

Васіль вывеў каня за вароты. І к прыгуменню, і асабліва ў поле, Гуз плёўся неахвотна, яму яўна не падабалася, што выцягнулі з цяпла такой ранню, гоняць у цемры, пад дажджом. Яго, як п’янага, час ад часу вадзіла ў бакі. «Спіць, падла, ніяк не прачнецца! — злаваў Васіль. — Жэрці дак падавай яму самае добрае, а рабіць дак не разбудзіш яго!» Са злараднасцю думаў хлопец, што, як толькі ўзаб’ецца на капейку, прадасць гэту падлу якому дурню, набудзе хоць бы жарабя!..

Злосць на каня брала тым больш, што і сам ішоў без ранейшага імпэту. Трэба было спагнаць злосць на некім: кудысьці прапала нядаўняя нецярплівасць, выпарылася невядома як і куды смеласць. У душу лезла кволая асцярога, упаўзала ліпкая, як балотны туман, боязнасць: ужо не ценямі нежывымі, а грознымі непрыяцелямі раслі ў памяці Яўхім, Маслак, Глушак стары.

Ён глушыў маладушнасць, гнаў страх. Але яму было самотна. Ён быў перад невядомасцю адзін. Ніхто не памагаў, не падтрымліваў нават. Таму і брала злосць на каня, які толькі і ведае, што есці ды спаць. І пра матку са злосцю думаў: таксама не знайшла зрабіць чаго іншага, як развярэдзіць душу! Прыцяглася не ў час, і няма таго, каб, як каторая іншая матка, падахвоціць, падбадзёрыць, дык яна — са стогнамі сваімі: «Глядзі ж! Ужэ і так паплакала!»

І без таго на душы брыдка, а тут — хоць бы слова добрае. Як жа тут не возьме злосць. На матку, на нездалякуканя, што нават ісці як трэба не ідзе!

Але ні адзінота, ні страх, як ні цяжка лажыліся яны ў душу, усё ж не змагалі яго. Хоць часам і з'яўлялася жаданне спыніцца і, не зважаючы на нядаўнія, прыціхлыя мары, павярнуць назад, ён ішоў і ішоў. Цяжар важкіх думак і пачуццяў разам з тым узмацняў у ім упартасць. З горкага свайго вопыту ён не тое што ведаў, але даўно лічыў як бы законам жыцця, што, каб чаго-небудзь дасягнуць, трэба адольваць кволасць, неахвоту, страх. Усё жыццё, прывык ён лічыць, — гэта неспакой, непрыемнасці, цяжар працы і змаганне з бясконцымі перашкодамі.

Злуючыся на маці, Васіль як бы браў на падмогу дзеда Дзяніса. Праўду казаў дзед, падбадзёрваў сябе хлопец: не трэба папускацца! І ён, Васіль, не папусціцца! Не аддасць так проста дабра свайго! Толькі не трэба лішніх страхаў выдумляць! Смялей ісці трэба, і ўсё будзе добра!

Як мог, Васіль гнаў трывогу, падахвочваў сябе, падбадзёрваў. Але трывога не адыходзіла. Неадчэпна ішла яна з ім да Глушаковай паласы, была ў ім, калі ён, чуючы нядобры халадок усярэдзіне, паставіў нарог на Глушаковай мяжы, калі павёў разору.

Ідучы за плугам, кіруючы ручкамі, ён у звыклым клопаце працы на час амаль супакоіўся. Але калі пачало развідняць, трывога зноў заныла. Чым больш святлела, чым шырэй разыходзіўся далягляд, тым больш мацнела і трывога. Яна шчымела нават ад саміх разор, праведзеных на чужым полі, ад хады Гуза, які павольна, але цягнуў і цягнуў плуг, уперад і ўперад.

Цяпер Васіль ужо не так сачыў за разораю, як за дарогаю, за полем у баку сяла. Хат амаль не было відаць за алешнікам каля сажалкі, адно выглядвалі стрэхі, над якімі варушыліся, паўзлі к нізкім, сіняватым хмарам дымкі. Дымкі гэтыя таксама дадавалі трывогі. Яны нібы глядзелі на яго, паказвалі яго людзям.

Да Васіля даходзіў з сяла віск свіней, рык кароў. Можа, таму нават выгляд пустой дарогі, пустога поля каля алешніку не супакойваў — паглядваў туды з непакоем, чакаў: восьвось паявяцца людзі. Калі яны зачарнелі — купка павольных постацей — халадок трывогі яшчэ памацнеў.

Ён зрабіў выгляд, што не цікавіцца імі. Але амаль кожную хвіліну кідаў у іх бок касыя позіркі. З меркай ідуць — значыць, мераць выправіліся. Адкуль пачнуць, куды адразу пакіруюць? Да цагельні, дзе ён робіць круг, ці — пад лес, на другі бок поля? Заўважылі ці не заўважылі яго?

Купка яшчэ далекавата збочыла к лесу. На другое поле падаліся, не спыніліся, не звярнулі ўвагі. Але позірк цікаваў — то гэтую купку, то выток дарогі каля алешніку. Недарэмна зіркаў: вось яшчэ вылезлі зза алешніку тры постаці. Ціха плятуцца, мабыць, не спяшаюцца. Адзін з іх вельмі рослы, здалёк відаць, другія два ледзь па плячо яму. Рослы, пэўна, Ларывон, здагадаўся Васіль і з непакоем навастрыўся позіркам: а хто ж другія два? Можа — Яўхім там ці стары? Постаці ўсе сунуліся па дарозе, тым жа кірункам, што і папярэднія. Можа, збочаць, не заўважаць? Не, заўважылі, спыніліся, прыглядваюцца.

Хвіліну пастаялі, гледзячы на яго. Потым адзін падаўся за першай купкай, а два — Васіль насцярожыўся — рушылі проста да яго. Ларывон і Зайчык. Сталі наперадзе, чакалі, калі ён падыдзе...

Не абмінуць. Хочаш не хочаш, а трэба ісці, бліжэй і бліжэй. Ну і няхай, ён падыдзе, знаку не падасць, што пабойваецца! Толькі вось на ўсякі выпадак — калі гэты дурань Ларывон кінецца за свайго дружка біцца — падрыхтавацца трэба. Каб не заспеў знянацку.Васіль з усёй сілы сціснуў пугаўё — няхай паспрабуе толькі!

— Здароў, Васіль! — весела крыкнуў Зайчык. Васіль паздароўкаўся ў адказ, але не спыніўся.

— Добры кавалак табе ўдзялілі! — пахваліў, падчапіў Зайчык.

Васіль не адказаў. Праз хвіліну ён пачуў, што яго даганяюць: па тупанні ботаў пазнаў, што гэта — Ларывон, сціснуў пугаўё.

Ларывон падыбаў побач. Вось-вось замахнецца, дасць пудовым кулаком.

— Табе ето — выдзелілі? — сказаў, трохі задыханы.

Васіль спасцярожліва зіркнуў на яго, прамаўчаў. Упарта таптаў свежую зямлю ў разоры.

—Гэ! — зразумеў, нарэшце, Бугай. — Разумны! — Ён мацюкнуўся і адстаў.

Дайшоўшы да павароту, Васіль убачыў — Зайчык падаўся да тых, што мералі, а Ларывон дыбае да сяла. «К Яўхіму!» — здагадаўся Васіль, і яго зноў узялі одум, страх. Захацелася кінуць загон, зямлю, якая не так прыцягвала, як палохала, гразілася бядою. Але ён не кідаў, ішоў і ішоў баразною.

Зямля як бы трымала яго. Ногі прыліпалі да яе, маглі ісці толькі роўнай канаўкай разоры. Не мог кінуць, бо пачатак быў ужо зроблены. Бо яго ўжо бачылі тут, бачылі, што ён зрабіў. Адступаць не было куды, дарога была толькі ўперад.

«Усё адно: пачаў — дак рабіць да канца!.. Не папускацца! — Васіль паспрабаваў прыдушыць страх, супакоіць сябе: — Шчэ пабачым, чыя возьме! Мала што ён прыбяжыць! Няхай паспрабуе сагнаць, калі пастанавілі абрэзаць! Няхай паспрабуе сунуцца! Пабачыць!»

## 4

Васіль заўважыў — людзі з сяла ўсё цягнуцца і цягнуцца. Некаторыя, як і Зайчык з Ларывонам, спыняюцца, глядзяць у яго бок, але потым ідуць к тым, што мераюць. Там народу ўсё большае. Васілёў позірк сочыць не так за імі, як за дарогаю, за тымі, якія паяўляюцца з-за арэшніку...

Адна постаць збочыла, хутка прастуе да яго. Гэта не ён, не Яўхім. Гэта — як Васілю не пазнаць здалёк! — маці. Не пяшчоту, не радасць выклікае яна, а прыкрасць: век не ў час прыйдзе! Век паявіцца тады, калі не трэба!

Клуначак у руках — есці нясе. Успомніла! Самая пара зараз — рассесціся, узяць у рукі скібу хлеба ды гурок! Акурат зручны момант — калі вось-вось чубаты ці стары Корч прыпруцца!

Як прыблізілася, пабегла. Нібы на пажар бяжыць. Спатыкнулася, ледзь не ўпала. Стала, здзіўлена, разгублена азіраецца. Як усё роўна не бачыць, не разумее ўсяго!

— Чаго прыйшла! — хмурна сказаў ён, прыпыняючы каня.

— Есці от вазьмі! Прагаладаўся ж, мабуць!..— лагодна ступіла маці да яго.

Васіль нядобра таўхануў працягнуты клунак назад ёй. Як малога, ашукаць хоча! Паддобрыцца, а там пачне сваё...

— Ідзі! — загадаў ёй строга. Яна не кранулася. Цень трывогі прабег па яе твары. Не таілася ўжо:

— Сыночак! Што ж ето ты? — Васіль адвярнуўся, каб не бачыць яе. Як агнём, пякло кожнае слова: — Удумаў!.. Чужое! Дазнаюцца ж — бяда!.. Не абярэшся!

У гэты момант здалёк прыкмеціў: збочыла з дарогі, рушыць напрасткі яшчэ постаць. Яухім! У сярэдзіне ў Васіля пахаладзела, пачуў сябе, як ніколі, кволым, адзінокім. Злосна абарваў матчын стогн:

— Ціха бо! Прыперлася! Ідзі дадому!

Не чуў ужо, плача ці не плача яна. Сачыў толькі за Яўхімам. Спрабаваў падбадзёрыць сябе, вярнуць смеласць. Няхай

бяжыць, няхай! Пабачыць! Сам не ведаў, чым гразіўся, — што Яўхім можа пабачыць. Да болю сціскаў ручкі плуга, пугаўё. Пугаўё было яго адзінай зброяй.

Чубаты ўсё бліжэй, бліжэй. Ужо добра відаць: твар чырвоны, люты. Злы, зямлі пад сабою не чуе... Васілёвы ногі прыкра паслабелі, як не падагнуцца...

— Васілько! — заўважыла Карча, жахнулася маці. — Не пярэч! Саступі!..

Васіль не зварухнуўся. Нібы не чуў. Не зводзіў вачэй з чубатага, падахвочваў сябе: «Няхай бяжыць, няхай! Пабачыць!..» Здзіўляўся: трэба ж, каб так паслабелі ногі!

Маці раптам кінулася насустрач чубатаму, крыкнула, молячы:

— Яўхімко!.. Яўхімко!.. Родненькі!.. Не сярдуй, даражэнькі!..

Ён, як бег, таўхануў яе так, што яна і не войкнула — тузанулася, упала на бок. Клуначак адляцеў далёка. Чубаты наскочыў на Васіля. З ходу дужа рвануў за плячо. Васіль упусціў плуг.

— Т-ты... ш-што ето? — Яўхім, задыханы, цяжка соп. Рот злосна крывіўся, шчэрыўся. Зараз, здавалася, пена на губах забялее. — Т-ты ш-што?!. — Ён грозна мацюкнуўся.

— А ты — што?.. — адважыўся Васіль. Натапырыўся, як малады каршачок, гатовы біцца.

— Ш-што?! — Глушакоў твар яшчэ больш наліўся крывёю. — Прэч! — раптам шалёна, з віскам, закрычаў ён. — Зараз жа!!! Штоб духу твайго смярдзючага не було!

— Васілько! Саступі! — кінулася да Васіля маці. Ухапіла за руку, хацела адвесці. Ён вырваў руку. Заявіў Глушаку:

— Ето яшчэ пабачыць трэба — у каго дух смярдзючы!

— Васілько!

— Ты — удод жаўтароты, шчэ спрачаешся. Вымятайся ўмэнт! Пакуль не позно!

— Васілько! Ідзі! Сыночак!..

Васілю было не тое што боязна, а страшна. Разумеў, што лепш было б паслухацца, адступіць, але не мог перамагчы сябе. Ганарлівасць, злосць на Глушака за зямлю, за Ганну, за ўсё заўпарціліся, запоўнілі яго. Не далі і выгляду паказаць, што баіцца.

— Унё! Напужаў!..

— Васілько, сыдзі! Не чапайся!

— Ат! — адпіхнуў Васіль матку.

— Не пойдзеш?! Н-ну, глядзі ж!

Васіль пільна сачыў: вось-вось чубаты рынецца, ударыць. Ён мімаволі сціснуў пугаўё. Адпіхваючы маці, глушачы страх, хітруючы, сказаў:

— Хто ты такі? Штоб загадваць!..

— Хто? Не пазнаеш? Паказаць, можа?

— Яўхімко! — Маці кінулася к Глушаку, загарадзіла Васіля. — Даражэнькі! Ты — разумнейшы!..

Чубаты таўхануў яе, зноў закрычаў шалёна Васілю:

— Паказаць?! На чыю зямлю ўспёрся?! Чыё поле паганіш?!! Не бачыш?!! — Яўхім хапіў Васіля за́грудкі так, што стала цяжка дыхаць. Але Васіль каўтнуў, прахрыпеў:

— Було... вашае...

— Було?! — Чубаты матнуў плячом, адштурхнуў Дзятліху, якая ўчапілася, як кіпцюрамі, намагалася адарваць ад сына.

— Було... Цяпер — наш-шае...

— Вашае?.. Брэшаш, гад!! — Яўхім колькі змогі сціснуў Васілёў каўнер, кінуў хлопца з такой сілай, што таму здалося, нібы тулава ў яго адарвалася ад ног. Васіль так грымнуўся патыліцай аб зямлю, што ў галаве загуло.

— Тваё? Шчэ лезці будзеш?

— Буду... Не тваё!..

— Звер ты, звер! Корч пракляты!.. — учапілася зноў у чубатага Дзятліха.

Васіль выдыхнуў зларадна, помсліва:

— Напанаваліся ўжэ!.. Скончылася вашае!..

Яўхім адкінуў Дзятліху, загадаў люта:

—Маўчы!.. Прэч, шчаня! Пакуль цэлы!

— Плявваць мне!.. — Васіль стаў на карачкі, намерыўся падняцца.

Яўхім рынуўся на яго.

— Пляваць? — Шалёны ўдар зноў кінуў Васіля на пожню. Аж нібы трэснула шыя. — Не пойдзеш?

— Гад ты, гад! — наляцела каршуніхай маці, учапілася ў руды чуб, стала ашалела рваць, матаць яго. Гэта ўратавала Васіля. Выкарыстаўшы момант, ён ускочыў, з пугаўём, пра якое толькі цяпер успомніў, важка пайшоў на Глушака. У гэты час чубаты злаўчыўся, ударыў маці каленам у жывот. Яна енкнула, скурчылася ад болю, асела. Васіль і Яўхім сустрэліся тварам у твар. Яўхім апярэдзіў, моцна ўдарыў пад сківіцу.

Боль у сківіцы, у роце, ва ўсёй затуманенай галаве, няўдача дадалі Васілю лютасці. Крыўда, усе крыўды, што даўно палілі, чакалі адплаты, цяпер ураз ажылі, запяклі зноў разам, усяго

напоўнілі адным жаданнем: дастаць, размалаціць гэту ненавісную пысу з чубам.

Адкуль толькі ўзяўся, неспадзеўкі наляцеў стары Глушак, ірвануў руку з пугаўём.

— Ты што ето, смурод!.. Кінь!!!

Ледзь не выкруціў руку. Адкуль і сіла ў нездалякі старога знайшлася, каб трохі, сагнуў бы Васіля. Дзякуй маці, выратавала — кінулася да старога, учапілася ў каршэнь, затузала, закляла — і стары пусціў хлопца.

Каля Яўхіма апынуўся брат яго, Сцяпан. Але замест таго, каб памагчы Яўхіму, чамусьці пацягнуў яго назад, чубаты адразу зазлаваў, даў Сцяпану па твары. Выйшла так, што Яўхіму давялося біцца не толькі з Васілём, але і з братам!

Васіль ухапіў момант — трэснуў Яўхіма пугаўём па галаве так, што той зароў. Ашалелы ад болю, чубаты ўраз адарваўся ад Сцяпана, не асцерагаючыся, як раз'ятраны дзік, ірвануўся да Васіля. Васіль мелькам заўважыў пачырванелыя, бязлітасныя вочы, адчуў, што Яўхім прагне ўжо не толькі помсты —смерці яго. Заб'е, не пабаіцца нічога. Такая дзікая лютасць кіпіць, па вачах відаць. Васіль адскочыў і даў яму яшчэ пугаўём. Даў так, што ад тоўстага, дубовага пугаўя застаўся ў руцэ толькі кончык.

— Ах тты!.. — Яўхім хапіўся за галаву, зноў, з яшчэ большай лютасцю, рынуўся на Васіля. Васіль замалаціў па ненавіснай пысе канчуком пугаўя, кулаком. Але адбіцца не змог: Яўхім дапаў, схапіў за каўнер, наваліўся. Васіль тузануўся, спрабуючы вызваліцца, — Яўхім не ўстаяў, і яны ўпалі. У наступны момант абодва качаліся па пожні, па свежай раллі, крывянілі адзін аднаму твары, шматавалі сарочкі.

Глушак вырваўся, нарэшце, з рук Дзятліхі, кінуўся на падмогу Яўхіму, учапіўся ў Васілёву галаву, сілячыся прыгнуць к зямлі. У той жа час Сцяпан схапіў брата за плячо, за руку, стаў з усёй сілы цягнуць ад Васіля.

Дзятліха напала зноў на старога, але ўбачыла скрываўлены твар сына, пачула, як ён хрыпіць, з жаху, з роспачы ўскінулася, забегала позіркам па полі, залямантавала:

— А бо!.. Людцы-ы!!! Ратуйце-е!!! Забіва-аюць!!!

Яна пабегла насустрач куранёўцам, што каля лесу ўчулі яе кліч. Бегла і ўсё лямантавала, падганяла:

— Забіваюць!!! Забіваюць!!! Ратуйце!!!

Недалёка адбегла, схамянулася, зноў кінулася да сына. Адбіваючыся ад яе, Глушак заўважыў мужчын, што падбягалі з Міканорам наперадзе, сагнуўся цярпліва, пакорліва. Тры-

ваў удары асатанелай Дзятліхі, аж пакуль яна не здаволілася, учапілася ў Яўхіма.

— От бо, як пакруціліся! — паскардзіўся па-старэчы Глушак, калі людзі прытупацелі. — Расчапіце бо, дурняў етых!.. Сцяпанко, адыдзі! Без цябе ўжэ абыдуцца!..

Мужчыны, між якіх быў і Ларывон, кінуліся разнімаць тых, хто біўся. Сцяпан сам адступіўся, Дзятліху таксама лёгка адцягнулі, а Васіль і Яўхім не даваліся, хапаліся адзін за аднаго, малацілі кулакамі, хрыпелі, гразіліся.

— Эх, ваякі! — гнуў назад Яўхіму руку Міканор. — Не выпускай! — загадаў ён Хоню, што трымаў Яўхіма ззаду.

— Як чэрці! Нядоўго й да смерці! — бегала навокал спалоханая Сарока. Яна крычала, склікала: — Сюды! Забіваюць!

У гарачцы Васіль Андрэю Рудому, які адрываў яго ад чубатага, так стукнуў у сківіцу, што той заенчыў і адскочыў, са страхам мацаючы сківіцу далонямі...

Сямёра мужчын ледзь адарвалі іх адзін ад аднаго. Але і адцягнуўшы, з цяжкасцю маглі ўтрымаць: Яўхім і Васіль праглі зноў счапіцца; ірваліся адзін да аднаго, крычалі:

— Глядзі ж... Пападзіся цяпер, удод! Запарву дзе-небудзь!..

— Сам глядзі, кныр! Штоб... сам не папаўся!..

— Эх, бранзбойта няма з халоднай вадой! — сказаў Хоня. — Штоб астудзіць!

Маці ламала рукі, лямантавала каля Васіля, як каля нябожчыка:

— А сыночак мой!.. А Божачко ж!.. А што ж яны з табой зрабілі ж!.. А дзіцятко ж ты маё!..

— Яўхімко, будзь хоць ты разумны! — параіў сыну Глушак стары: усе па яго выгляду маглі бачыць, як іх пакрыўдзілі. І як яму непатрэбна бяда гэтая — толькі ж хіба яго віна тут!

Дзятліха аж сумелася:

— Ах ты, гнілая зараза! «Разумны!» Біць памагаў, а цяпер — разумны! — Яна загаласіла: — Сыночак ты мой!..

— Не чапай, Яўхімко! Бяды не абярэшся! Бачыш!.. — трываў няпраўду ад Дзятліхі Глушак. — Самі ж пачалі і самі ж вінавацяць.

Але Яўхім не слухаў нічога, гразіўся:

— Памочыш шчэ крывёй землю, удод!..

— Корч пранцаваты! Сам глядзі!..

Народу вакол збіралася ўсё больш. Падышлі Дубадзел і Зубрыч, праціснуліся наперад. Дубадзел — рашуча, важна, Зубрыч — лагодна, далікатна.

— Што тут такое? — строга акінуў вачыма Васіля, Яўхіма, іншых Дубадзел.

— Кеб трохі — дак пазабівалі б адзін аднаго! — выскачыла першая Сарока. У тым, як яна сказала, як паматала галавой, чутно, відно было: такі жах, такі жах!

— Ад чаго выйшло ето? — Дубадзелаў позірк загадваў Васілю адказваць.

Кроў цякла Васілю на вочы. Ён адпіхнуў маці, якая лезла памагчы, выцер лоб чорнай далонню, пачуў, як шчыміць парваная скура. Боль мяшаўся з крыўдай, са злосцю, якія палілі цяпер, здаецца, яшчэ больш, як да бойкі.

Адказаў за яго Глушак стары:

— Чужое поле хацеў захапіць гвалтам! Супроць савецкага закону! Супроць сельсавету!..

— Адразу ўжэ і супроць савецкай улады! — падчапіў ехідна Міканор.

— Не супроць! — адгукнуўся Васіль.

— А кеб і супроць! Кеб і паараў сам! — накінулася на Глушака Дзятліха. — Дак за ето біць трэба? Забіваць да смерці?!

— Ніхто яго не забіваў! Сам ён Яўхіма чуць на той свет не адправіў!

— Сам? — Дзятліха забожкала, загаласіла, як толькі магла. Усе разумелі, што галашэннем сваім яна спрабуе абараніць, выратаваць сына.

— Сціхніце, цётко! Шчэ не знаеце, што будзе! — паспрабаваў супакоіць яе Хоня, але яна загаласіла мацней.

Зайчык улучыў момант, весела ўплёў:

— От і пачаўся, дзетачкі, перадзел!

Засмяяўся толькі Ларывон. Але і ён тут жа зірнуў на Яўхіма і змоўк. Нікому больш Зайчыкаў жарт, мусіць, не здаўся смешным.

## 5

— Мо няхай етыя пойдуць па хатах, — сказаў Дубадзелу і ўпаўнаважанаму Міканор. — Патом разбяромся. А то ж — пачалі абрэзваць, сабралі столькі народу. Давесці б да ладу абрэзку.

— Правільна! Час — дарагі! — падтрымаў яго ўпаўнаважаны, і Дубадзел са ўсёй строгасцю загадаў Васілю і Яўхіму:

— Заўтра штоб былі ў сельсавеце! Рано! На расследуванне!

— Я толькі павінен на некалькі хвілін затрымаць іх, — умяшаўся раптам зноў — лагодна і разам з тым цвёрда — упаўнаважаны. — Для папярэдняга высвятлення акалічнасцей і прычын. — Ён кіўнуў Міканору і Дубадзелу: — Прадаўжайце пакуль без мяне.

Як толькі людзі пачалі разыходзіцца, Дзятліха, якая была прыціхла, прыслухоўваючыся, што кажуць пра лёс Васіля, адразу загаласіла зноў. Зубрыч, як мог, дапытаў яе хутка, перабіваючы, ківаючы згодна: так, так, зразумела, мякка сказаў, што яна можа ісці. Дзятліха, аднак, не паслухалася, пачала лямантаваць зноў, і ўпаўнаважаны прыгразіўся, што плачам сваім яна толькі пашкодзіць справядліва разабрацца ва ўчынку сына. Пашкодзіць сыну...

Услед за гэтым упаўнаважаны таксама ж, здагадліва ківаючы, хутка дапытаў Сцяпана і старога Глушака, таксама дазволіў ісці. Але ніхто з іх, як і Васілёва маці, у сяло не пайшоў, адступіліся толькі на якую сотню крокаў і сталі, назіраючы за тым, што будзе далей...

Ім не было чуваць, пра што гаварыў упаўнаважаны Васілю і Яўхіму. Але, здавалася ім, трымаўся ён з абодвума інакш, не ківаў галавою: засунуўшы рукі ў кішэні, выпрастаўся важна, строга, і ўсё нібы нечым гразіўся, непадступны, нелітасцівы. І Дзятліха, і Глушак не на жарт трывожыліся.

Упаўнаважаны, застаўшыся адзін з Васілём і Яўхімам, загаварыў не адразу. Засунуўшы рукі ў кішэні, пільна, аж неяк пранізліва разглядваў спачатку аднаго, потым другога і не спяшаўся выкладваць тое, што таілася ў яго галаве. Доўга-доўга, здавалася абодвум, маўчаў — аж трываць цяжка стала маўчанку.

— Ну-с, значыць, так, — расшчапіў, нарэшце, губы ўпаўнаважаны, — самі пачалі землеўпарадкаванне! Т-так!..

Яўхім запярэчыў:

— Я не пачынаў... Ён ка мне ўлез! Я толькі за сваё дабро ўступіўся!..

— Було тваё!.. Паўдзесяціны цяпер мае!.. Паўдзесяціны мне выдзелілі!..

— А якія? Мо такія, якія ты сам выбераш?

Зубрыч адрэзаў строга, жорстка:

— Спыніць спрэчку! Тут не дыскусія! Я дапытваю вас! І будзьце ласкавы слухаць мяне! І адказваць тады, калі я запытаюся! — Ён зірнуў на Васіля, раптам ударыў пытаннем: —Сядзеў ужо?

У Васіля ў грудзях пахаладзела.

— Ну, чаго маўчыш?

— М-мяне адпусцілі...

— Можам вярнуць назад! — Васіль глядзеў, не пазнаваў упаўнаважанага: калі тут была ўсмешка! Не твар, а камень. — Зноў захацеў туды?

Васіль быў разбіты.

— Усё адно, — абураўся упаўнаважаны. — Што хачу, тое бяру! Законы яму — нішто! Нуль!.. Савецкія законы яму не пісаны!.. Анархізм поўны! Не анархізм, а разбой! Разбой сярод белага дня! Адкрыты бандытызм!..

— Я не... бандзіт...

— Не бандыт, дык бандыцкі паслугач!

— І не... паслугач...

— Мы ўсё помнім! Мы не забылі, як вы Маслака вадзілі пад вокны савецкіх дэпутатаў!

— Дык яны ж заставілі! Абрэз уткнулі ў жывот!.. — Васіль гатоў быў зараўці ад крыўды.

— Абрэз! Хто вам паверыць! Дурняў знайшлі! Вы ж і цяпер — толькі Маслак, апякун ваш, аб'явіўся — зноў распеперазаліся! На законы савецкія плюяце! Думаеце, пры Маслаку ўсё дазволена! — Упаўнаважаны гнеўна паківаў пальцам перад Васілёвым тварам: — Не, рукі кароткія! Савецкая ўлада не такіх уціхамірвала! Не такіх абсякала!..

Зубрыч з тымі ж пагрозай і гневам загадаў:

— Ідзіце! Ды чакайце, як мы вырашым!.. — Ён заўважыў, што хлопец і не глядзіць на Гуза, які мірна дрэмле. Крыкнуў услед: — Каня забярыце!

Васіль схамянуўся, паплёўся да Гуза. Маці, радая, што допыт скончыўся так хутка, што Васіля адпусцілі, хоць і бачыла, што сын вельмі ж паныла горбіцца, выцерла слёзы, сказала весела:

— А я баялася, што, барані Бог, заарыштуе! Аж не, пусціў!! І не мучыў доўга! — Яна, відаць, хацела супакоіць сына. — Добры, кажуць, справядлівы ён! Кеб Крывароты, не дай Бог, той пападзержаў бы!..

«Добры! — аж запякло Васілю ад матчыных слоў. — Штоб яму на тым свеце, такому добраму, — не знаю што!.. Усе яны добрыя, справядлівыя такія, няхай іх сарочка не чапае... Маслака прыплёў! У паслугачы Маслаковы запісаў, справядлівы такі!.. Помнім, кажа. Не забылі. Не дакапаліся толькі... Але — дакапаюцца. Выкапаюць усё, чаго і не було ніколі. Абы толькі захацелі — выкапаюць. Набрэшуць, а ты паспрабуй дакажы, што няпраўда! Такім дакажаш!..»

Не бачыў, як дабраўся да загуменнай дарогі, пацёгся між восецяў, гумнаў, платоў. Зза Чарнушкавых варот да яго кінуўся радасны Валодзька з Хведзькам, але Васіль нават не зірнуў на брата. Хведзька адразу ж адстаў, паскакаў назад, а Валодзька доўга ішоў моўчкі, таіў у сабе турботу.

— Ты даў яму? — не вытрываў, запытаў ён ужо каля павеці. — Праўда, даў?

— Што? — не зразумеў Васіль.

— Етаму Карчу — даў?

Васіль зазлаваў:

— Ідзі ты, спрос... — Адумаўся: — Даў, канешне...

— Я так і знаў, — узрадаваўся Валодзька. Ён сказаў з захапленнем, з зайздрасцю: — Ты — дужы!..

6

Прасачыўшы, як хлопец пляцецца да каня, упаўнаважаны доўгім позіркам зноў паглядзеў на другога віноўніка бойкі. Паглядзеў ужо не так пільна, але з нейкай патайнай, вострай усмешачкай, за якой хавалася, як пачуў Яўхім, штосьці пагрознае. Упаўнаважаны, здавалася, гатоў быў нечым ударыць у любы момант. Але, як і спачатку, ён не спяшаўся: яму нібы прыемна было бачыць ахвяру, якой усё роўна няма куды дзецца.

«Няхай паспрабуе... Я яму не Дзятлік!..» — абнадзеіў сябе Яўхім, рыхтуючыся адбівацца ад усяго. Але рыхтаваўся ён дарма: неўзабаве і ён, як перад тым Дзятлік, быў у дужых руках таварыша ўпаўнаважанага...

Зубрыч усміхнуўся ўжо адкрыта, сказаў з нейкім гуллівым папрокам:

— Што ж гэта, таварыш Глушак? Кулачкамі права сваё абараняеце?.. Я разумею вас — і нават, можна сказаць, хвалю... За тое, што заступаецеся за сваё дабро. Не аддаяце паслухмяна, як пакорлівае цялё!.. Гэта з пункту гледжання барацьбы за існаванне — правільна! Трэба трымацца, ваяваць за сваё права жыць пад сонцам!.. Але ваяваць — не кулачкамі! Нават калі яны такія, як у вас!.. Кулачкамі ў наш час многа не даб'яцеся! Гэта — атавізм, аджыло!.. Тым больш, што слова «кулак» цяпер і не вельмі добра гучыць!

Чым больш Яўхім слухаў яго, тым больш не разумеў: «Нашто ён вярзе, разводзіць ету анцімонію?.. У нерат завесці дурнем хоча, ці што?..»

— Ці не на гэтыя кулачкі, — з той жа гуллівай усмешачкай сказаў упаўнаважаны, — вы разлічвалі, калі гразіліся на сходзе: «І на вас управа ёсць!» Гэта значыць — на камісію па землеўпарадкаванню, на прадстаўнікоў сельсавета і валасці?..

Яўхім насцярожыўся: «От, от яно, тое, да чаго вёў ён!.. Кажа такое — і смяецца, хоць бы што! А прызнайся — дак упячэ, што і не выберашся!.. Э, на тое мы табе адкажам як трэба!..»

Але адказаць не давялося. Зубрыч апярэдзіў, адказаў сам:

— Не на кулачкі? А, ведаю! Ведаю — спадзяваліся на савецкія законы?.. Савецкая ўлада не дасць у крыўду працоўнага чалавека!..

— Па савецкаму закону не паложано етаго. Штоб браць ад чалавека, што ён зарабіў сваім мазалём...

— Не паложана! Па савецкаму закону!.. — Упаўнаважаны хітра, недаверліва хмыкнуў. Гулліва засмяяўся: — Брэшаце! Па вачах відаць, што брэшаце! Не ўмееце лгаць!..

— Вы мяне не разыгрувайце! — з годнасцю, рэзка сказаў Яўхім. — Я етых смешак не люблю.

— Не любіце! Што ж, пахвальна! — Упаўнаважаны перастаў смяяцца. — Хоць мне і даводзіцца жартаваць, я таксама люблю сур'ёзныя размовы! Сур'ёзных людзей... Будзем гаварыць як сур'ёзныя, сталыя людзі!.. — Спакойны, нібы задуменны, ён разам з тым уважліва глядзеў на Яўхіма, як бы хацеў дазнацца, што той думае на яго словы. Гэты нязводны позірк трымаў Яўхіма ў насцярожанасці. — Калі вы згодны, я вам магу адразу і ясна заявіць: мне добра вядома, што значыла ваша пагроза! У мяне няма ніякіх сумненняў у тым, на каго вы спадзеяцеся! — Упаўнаважаны скоса павёў позіркам па полі, прыцішыў голас: — Атаман Маслак!

Яўхім зніякавеў, але не падаў выгляду. Бач, падступае, на кручок бярэ! «З ГПУ! Па ўсім відаць, з ГПУ падасланы!..»

— Вы мяне не блытайце! — сказаў Яўхім. — Калі вам так хочацца, то — вазьміце сабе етаго гада!..

Ён убачыў: упаўнаважаны выслухаў з ironіяй, ні аднаму слову не паверыў. На спіне Яўхіма лёг холад. «Знае штось...»

— Гад! Мда! Вось як — гад! — У голасе ўпаўнаважанага пачуўся здзек. — Быў друг, надзея, збавіцель, стаў — гад!.. Якія зігзагі лёсу!..

Яўхім зноў пахаладзеў, спакойная, здзеклівая ўпэўненасць упаўнаважанага пераконвала: «Знае! Штось знае!..»

Упаўнаважаны памаўчаў, сказаў з роздумам:

— А ўвогуле, калі гаварыць па шчырасці, мне ваша асцярожнасць зусім зразумелая: ад гэтага небяспечнага тыпа цяпер трэба ўсяляк адхрышчвацца! Гэта, бясспрэчна, разумна! Асцярожнасць такога роду можа быць толькі на карысць!.. А між тым, гад гэты цікавіўся вамі... Чуб!

Яўхіма пранізала страхам: «Прапаў! Канец!» Маслак часта зваў яго Чубам... Дык Маслака, праўда, не забілі? Жыве ён?! Але ж як жа тыя чуткі, што забіты быў?

— Не знаю я яго. У вочы не бачыў нават...

— Не бачыў! Цёмна было! Дзе вы сустрэліся апошні раз? Калі вы ўгаварылі яго прыйсці, прыгразіць таму-сяму з ахвотнікаў да землеўпарадкавання?.. Не каля могілак?

Рэшткі надзеі прапалі ў Яўхіма. «Знае ўсё! Думаў — ні адной душы невядома. Як дрыгвой зацягнула, думаў. Аж — на́ табе, знаюць! І хто — упаўнаважаны, ГПУ, лічы!..»

— Хто ето... наплёў такого?

— Усё вядома. Гэты Дзяцел, з якім я толькі што дзякуючы вам пазнаёміўся, калі не памыляюся, быў у тую ноч нечаканым памочнікам? Гэта ж на яго вы так хітра навялі? Ведае ці не ведае ён, каму павінен удзячны быць за тую ноч, за юравіцкую каталажку?..

— Усё ето выдумка... — абы не маўчаць, сказаў разбіты ўшчэнт Яўхім.

«І адкуль ён узяўся, Маслак, — як уваскрос, скажы ты!.. Уваскрос — ды не дзе-небудзь, а можа, у камеры турэмнай! Высачылі ды знянацку наскочылі, скруцілі рукі? Дапыталі?.. Выказаў усё, што було?.. Пагібелі няма на чорта!»

Упаўнаважаны раптам зазлаваў:

— Кінь! Не мялі лухту! Брыдка слухаць! Дарослы чалавек! — Ён глядзеў на Яўхіма з пагардай. — Бачыш жа — усё ведаю! У гэтай тайне для мяне няма нічога тайнага! Усё — яўнае, усё вядомае! Кінь лухту!

— Адкуль жа вы... дазналіся пра ето? — пайшоў на рызыку Яўхім. — Хто ж ето выказаў?

— Гэта ўжо дзелавая мужчынская размова! — пахваліў упаўнаважаны. — Паведаміў той, хто падарыў табе польскі карабін.

— Костка? — Так бандыты часам велічалі Альховага, Маслаковага супольніка.

— Ён.

— Дзе ён?

— Жыве. Удваіх з атаманам. А дзе — лічы: не ведаеш...

Яўхім пачуў, што выплыў на паверхню з халоднага, цёмнага дна, дзе бачыў сябе ўжо тапельцам. Страх, трывога, праўда, яшчэ жылі ў ім, гнялі, але ўжо не так, як некалькі хвілін перад гэтым.

— Хто вы такі?.. Я ж век бы не падумаў!.. — як бы павінаваціўся ён упаўнаважанаму. — І цяпер не верыцца неяк...

— Я — супрацоўнік валвыканкома. Прашу запомніць. Савецкі служачы, — строга сказаў Зубрыч. — На людзях — мы незнаёмыя. Мы не толькі нічога не ведаем пра нейкага адшчапенца па прозвішчу Маслак, але і адзін аднаго. Я не ведаю вас, вы — мяне. За выключэннем таго, што я меў непрыемную для вас сутычку як супрацоўнік валвыканкома. Ясна?

— Ясно. Не малы...

— Не забывай. — Зубрыч загаварыў мякчэй, з давер'ем: — Ведай таксама: цябе помняць, калі будзе неабходна, к табе прыйдуць. І ты павінен зрабіць, што належыць!.. Ну, што яшчэ? Яшчэ — карысна вось што мець на ўвазе: ты, кажучы кудравым штылем, не адзін! Нас — многа!.. У сёлах, у мястэчку, у горадзе, за мяжой!.. Так, так — многа! Мы маўчым да пары! Да каманды, якая пачне ўсё!.. Яна можа быць не скора, але яна будзе! Калі прыйдзе гэта пара, для нас пачнецца іншае, сапраўднае жыццё. Не жменька — уся зямля навокал будзе наша! Поле, лес, лугі — усё!

Зубрыч захапіўся, і Яўхіму слухаць яго гаворку было — як добрую казку. У гэтай казцы Яўхіма надзялялі не палоскай нейкай — цэлымі абшарамі зямлі, лясамі, рабілі яго гаспадаром вялікага дома, кароўнікаў, стайняў. У гэтых кароўніках і стайнях такая драбяза, як Дзятлік, рабіць лічылі за шчасце. Яны трапяталі пад адным позіркам Яўхіма, лавілі на ляту кожнае яго жаданне. Ён быў валадар і Бог...

Яўхіму было прыкра, што Зубрыч хутка перарваў гэту казку і суха, аддзяліўшы ўраз сябе ад яго, Яўхіма, загадаў:

— А пакуль — канспірацыя і канспірацыя!.. І калі выдасі каго-небудзь з нашага легіёна, — ведай: галавы — не знасіць! Нідзе не ўхаваешся!

— Вы ето мне не гаварыце! — пакрыўдзіўся Яўхім. — Мне ето — лішняе!

Зубрыч нібы не пачуў яго крыўды. Заклапочана, дзелавіта сказаў:

— Чалавек, які прыйдзе ад нас, спытаецца ў цябе: «Ці не бачылі вы чорнага каня, што кульгае на заднюю нагу?» Гэта будзе з нашых. Ясна?

— Ясно...

— Ну, от і ўсё. — Ён напомніў: — Мы па-ранейшаму незнаёмыя. Я толькі гразіўся табе на полі. — Зубрыч холадна, кіўком галавы развітаўся, павёў вачыма ў бок сяла, коратка, па-вайсковаму, загадаў:

— Ідзі!

Яўхім, ідучы побач са старым Глушаком і Сцяпанам, сказаў, што ўпаўнаважаны вельмі сварыўся за бойку, пагражаў нават судом, і стары слоў не знаходзіў, кленучы ўпаўнаважанага. З кляцьбою ён і адстаў ад Яўхіма і Сцяпана, пацягнуўся да натоўпу, што брыў па полі з меркаю...

Ад радасці ісці Яўхіму было лёгка, жартаваць хацелася. Але калі, перавейваючы за Сцяпанам жыта, стаў перабіраць зноў усё ў памяці, раптам ажыў неспакой: а што, калі ён — падасланы, гэты ўпаўнаважаны, і выведаў толькі для ГПУ? Вельмі ж дзіўна, нечакана ўсё прыйшло.

Ён перабіраў у памяці, што бачыў, калі гэты чалавек сядзеў у прэзідыуме, калі праціснуўся праз натоўп у полі, калі крышыў Дзятліка, гразіўся яму, Яўхіму. Перабіраў у думках усё, што чуў ад яго. Спакой, упэўненасць не прыходзілі: вельмі ж многа было нязвычнага, незразумелага. Розныя, зусім розныя словы, розныя ўчынкі. Нібы розныя людзі. Зусім не падобныя адзін на аднаго, нават непрыяцелі. Канешне, у жыцці не раз даводзіцца гаварыць адно, а рабіць другое — Яўхіму самому ці мала прыходзілася душой крывіць. Але ў самім сабе добра відно, дзе праўда, а дзе мана. Ды і ў другіх куранёўцаў гэта не так ужо і цяжка было аддзяліць. А тут, як тут спакойна чуць гэтых розных людзей у адным чалавеку, ведаць, што адзін з іх дакапаўся да такой тайны!

Хацелася верыць, што ашуканства няма, баяцца не трэба. І верыў часам, супакойваўся. Але спакой быў нядоўга, выпаўзала іншая трывога: каб не стала ўсё гэта вядома каму не след. Калі гаворка з Маслаком і Альховым, якой ніхто, акрамя іх трох, не чуў, дайшла аж да Юравіч, то чаму не могуць уведаць пра гэта другія? Калі ён, гэты юравіцкі, і не з ГПУ, то хто можа паручыцца, што ён не наткнецца дзе-небудзь на іх? А там, як прыціснуць, хіба не вылажыць усё? Вылажыць, як міленькі, усё выверне, абы за саломінку ўхапіцца! Няўжо ж пашкадуе яго, Яўхіма?

Добрыя казкі баяў ён. А толькі казкі — не для дарослых. Казка ёсць казка, а жыццё — жыццё. Як бы, паверыўшы ў байкі тыя, пагнаўшыся за тым жураўлём у небе, не страціць і тое, што яшчэ засталося. Пагана ці не пагана, а ўсё ж такі жывеш! Якая

там ні ёсць, а гаспадарка не горшая, як у людзей, — не ходзіш па свеце з торбай. А можаш пайсці — скарынцы чэрствай будзеш рады дзе-небудзь у Салаўках!..

І радасці няпэўнай было, і трывогі. І лішняга клопату, нязвыклай, неадчэпнай турботы думкам — перад самым вяселлем! Але калі думаў пра бойку з Дзятлікам, цешыўся: «Прыйдзе пара — паенчыш, удод жаўтароты!» Не раз, не два ўспамінаў сустрэчу на могілках, жалкаваў: трэба было тады так даць маху! Чаго тады было не коцнуць смаркача! Не падказаў ім, дурань!..

Многа неспакою было чалавеку перад самым вяселлем!

## 7

На наступную раніцу Васілёва маці, увайшоўшы з двара, паставіла пустую ражку, сказала занепакоена:

— Божа! Етаго шчэ не хапало!

— Чаго ты там? — адгукнуўся дзед, што вырэзваў з кляновага бруска лыжку.

— Ідзіце на ганак, паглядзіце.

Васіль выйшаў першы, не апранаючыся, у белых партках і сарочцы. Хоць яшчэ развіднела не зусім, было ўжо добра відаць на дзвярах вялікі чорны крыж. Дзёгаць дзе-нідзе падцёк, папоўз ніткамі да масніц.

— Маслакі? Няўжо — маслакі? — падумала ўголас маці, калі ўсе зноў сышліся ў хаце.

Яна верыла і не верыла: стрыманая, разважная, яна была зусім іншая, як учора ў полі. Была такая, як звычайна.

Дзед узяў кляновы абрэзак, таксама падумаў:

— Маслак-то можа Маслак. Толькі, тым часам, можа буць, што жыве ён не ў балоце і не за балотам...

— Карчоў ето работа! — заявіў Васіль.

— Етыя цяпер не дадуць спуску!..

— А няхай не даюць! — абарваў матчыну гаворку Васіль. — Пляваць мне.

— Пляваць, тым часам, не вельмі наплюешся!.. Ето такая зараза... А тут, калі ў яго шчэ хэўра...

— У сельсавет бы на іх! Штоб упяклі ў Юравічы!

— Аге! Упяклі! Не даказаўшы!.. Не злавіла — не кажы, што злодзей!

— А можна було б і падлавіць!

— Падлаві, тады і кажы! — Дзед падумаў: — Чуе і мая душа, тым часам, што той Маслак, і праўда, блізко. І тое можа буць...

Маці апала духам:

— Можа буць. От жа вужака, ніяк не прыцiснуць, штоб не выкруціўся!

— Памагаюць, гаду, якіясь...

— Асцерагацца трэба, — дзелавіта разважыла маці. Як малому, сказала Васілю: — У лес адзін штоб не ездзіў! З дзедам, са мною ці з кім з добрых таварышаў! І са стрэльбай дзедавай!

— Ну, от — вучыце!

— А і вучу! Вучыць трэба! Рано ад матчынай навукі адбіцца захацеў — от і выходзіць такое!.. Увечары штоб не хадзіў позно. І ўночы — штоб не выпіраўся на ганак!

— Дак, можа, мне і... Як малому ўсё адно.

— А і ў хаце. Ці ў сенцах, калі ўжэ так сорамно. Пан, унь, кажуць, Аскерко, дак ніколі поначы не выходзіў. Не то што ў холад, а і ў лето...

— Пан! От бо сказала! Куры падохнуць ад смеху!

— Глядзі, штоб сам жывы буў! — строга сказала маці. Дадала мягчэй: — А што такое: што дома — знаць ніхто не будзе. Не думай.

— Усё адно!

— Не ўсё адно! Пад кулю няма чаго лезці!

— Праўду кажа, — кіўнуў дзед.

Васіль плюнуў са злосцю, выйшаў з хаты.

У той жа дзень, трохі пазней, Яўхіму выпала яшчэ раз спаткацца з Хадоськай. Падсачыла за агародамі, выткнулася тварам у твар. Яўхім ускіпеў:

— Чаго чапляешся! Знаеш жа, што ўжо кончылася ўсё! Вяселле ўжэ гуляць сабіраюся!..

— Знаю. А толькі скажу, — горка пракаўтнула яна, — скажу: няхай табе на тым свеце будзе так, як мне — на етым...

Не ўтрывала, губы задрыжалі, на вачах замутнелі слёзы. Але апярэдзіла яго, кінула неспадзявана цвёрда:

— От і ўсё маё слово! Астатняе! — У яе голасе пачулася столькі нянавісці, што ён зніякавеў. — Болей — не прычаплюся! Можаш не баяцца!.. І не пабачыш болей!

Яна адразу ж адвярнулася, пайшла першая, незнаёмая, страшная. «Астатняе? Не пабачу!..» — Яухім правёў яе позіркам. Яна ішла цвёрда, мусіць, не маніла. Ад нядобрай здагадкі

на сэрца лёг неспакой: ведае ці не ведае хто пра ўсё? А што, як дойдзе да Ганны?

Трэба ж столькі прыкрасці перад вяселлем!

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Хадоська была ў роспачы. Што рабіць? Думала, думала — і не магла прыдумаць нічога, не прыходзіла да чаго-небудзь добрага.

Дзіця... Радавацца, здаецца, трэба б. Мілае, дарагое стварэнне нарадзіцца павінна. Яе дзіця, не чыё-небудзь. Яна так любіць дзяцей, нават чужых, як жа любіла б яна сваё! І як хацела б яго — пабачыць, палашчыць, пагушкаць! З якім зачараваннем часам думала пра яго, якое, яна ведала — хоць і не заўсёды верылася неяк, — ужо дзіўна завязалася ў ёй. Завязалася невядомае нікому, толькі ёй ды Яўхіму...

Павінна была б радавацца! Але тое, што было ў ёй, не толькі не радавала, але і спакою не давала, жыццё ўсё захмарыла, заблытала ўсё. Тое, што жыло ў ёй, не было такое, як усе іншыя, з Божай ласкі, тое было ад грэху, могуць сказаць нават —страшна падумаць пра гэта — ад блуду! Як ні балюча, а выходзіць — грэх быў, як ні мяркуй, а цяпер, калі Яўхім адмовіўся, дык і думаць не думай другога — дзіця грэшнае!..

Адмовіўся. Нагуляла з нейкім, кажа. Як бы яна, і праўда, блудніца якая! Як бы не прасіла, не маліла яго, як бы не прыпамінала яму Бога, як бы не з ім адным, Яўхімам, Бога не паслухалася — а ён угаварыў, дабіўся, пацешыўся ды яшчэ кажа такое! А цяпер от — змовіны згуляў, зусім забыў, што абяцаў ёй, адрокся зусім. Раней хоць надзея нейкая была, што сумленне возьме яго, адумаецца, дзіця сваё пашкадуе, а цяпер — дык нічога, ніякай надзеі! Кінуў, і грэх ужо толькі яе грэх, яе бяда...

Цяпер усякі скажа: грэх, блуд — і не абаронішся, не апраўдаешся. Усякі можа, як Яўхім, сказаць: «Нагуляла з нейкім», любы можа блудніцай назваць, хоць і не блудніца ніякая, паверыла проста, спадзявалася, думала — праўда, возьме!

Крыўдна. Ой, як крыўдна. Ад крыўды слёзы ўсе выплакала. А боль пякучы ў грудзях не ўціхае, не ападае. Чула часам — нельга болей такой пакуты трываць; цярплівасць, роспач змяніліся злосцю, прагай помсты: а што, калі пайсці да Ганны ды

выказаць усё? Няхай ведае, што было ў яго, з чым пасватаўся, які ён!

Былі хвіліны, калі думкі прабіваліся далей: да старога Карча пайсці, расказаць. Ён слухаецца Бога, па-Божаму жыць стараецца, няхай і рассудзіць па-Божаму! Тады, калі думала пра гэта, пануры Корч, якога баялася раней, здаваўся ўжо добрым, чулым другам, родным бацькам, збавіцелем. Гэты збавіцель нібы паклікаў да сябе, хуценька сабралася, амаль уподбег, задыхаючыся, з радаснай палёгкай падалася па вуліцы да Карчовай хаты. Сэрца так калацілася, што гатова было вось-вось выскачыць, надзея, што раптам успыхнула, білася ў ім, гнала, гнала хутчэй да старога. Але як толькі дапала да хаты Карчоў, прыпынілася разгублена — надзея кудысьці знікла, падступіў страх! Корч зноў зрабіўся суровы, непадступны — слухаць не стане, раззлуецца, выганіць. Не асмелілася зайсці, заміраючы, прайшла міма...

Схуднела, затаілася панура, перастала смяяцца. Не спала начамі — думкі і апоўначы не давалі спакою. Днём хадзіла па хаце, па двары, як хворая, увесь час забывалася пра тое, што трэба было рабіць. Вочы як бы не заўважалі нікога, не цямілі.

Бацька, маці трывожна пыталіся, што з ёй. Яна хмурыла брыво, казала, каб адчапіцца:

— Нічого... Нездаровіцца трохі...

А што яшчэ магла яна сказаць!

Ёй было так цяжка. Так трэба было ёй расказаць каму-небудзь пра бяду, хоць трохі суцішыць збалелую душу — проста паплакаць перад кім-небудзь. Ёй памагло б адно слова суцяшэння, не тое што парада! Але ёй даводзілася маўчаць, таіцца ад бацькоў, ад дзяўчат, ад усіх. Ад адной думкі, што гэта можа адкрыцца, яна гатова была памерці.

Яна несла ў сабе сваю бяду, сваю горкую тайну адна, адна кідалася, шукала з роспаччу: што рабіць? Білася, шукала — і не знаходзіла, збавення не было. Яе чакала ганьба. Людская пагарда і ганьба. Калі яна бачыла ў думках гэты час, у яе так балела душа, што смерць здавалася ёй радасцю. Скінуць адразу гэту пакуту, гэту безнадзейнасць! Усё адразу знікне, як і не было. Не будзе бяды, сораму, лёгка, добра будзе!..

Яна ахвотна, нецярпліва абдумвала, дзе і як зрабіць гэта. Утапіцца ў рэчцы за Міхалевым. Не, у возеры ля Глінішчаў... У рэчцы вада хуткая, вір адразу зацягне... Бераг высокі. Можна скочыць... Скочыш — і ўміг закруціць, зацягне... Уміг... Падумаць не ўправішся... Ураз...

Але за хвілінамі гарачага, хваравітага трызнення ўпаўзаў разважлівы одум: губіць сябе — Божы грэх, няможна гэтага! А больш за ўсё хвалявала згадка: татачка, мамка — як ім будзе, калі дазнаюцца, што дачка рукі на сябе налажыла! Як яна сама прывядзе ім такую бяду!

Толькі ж і так, калі жыць застанецца, дабра ім ад яе ўсё роўна не бачыць! Сорам, ганьба на ўсё сяло, на векі вечныя!..

А можа, яшчэ што-небудзь можна прыдумаць? Прыдумаць! Што прыдумаеш?! Адна надзея хіба што на Захарыху, глінішчанскую знахарку. «Яна ўмэнт зробіць», — казаў Яўхім. Чула, бывала, і ад іншых, што Захарыха тайна рабіла жанкам такое. Мабыць, рабіла, нездарма ж гаворка ідзе між людзей, канешне, рабіла — Захарыха і не такое ўмее! Толькі ж — як пайсці да яе, як сказаць, адкрыцца, чужой зусім, вядзьмарцы! Дазволіць учыніць ёй такое, зноў узяць сабе грэх, такі грэх!..

Што ж зрабіць? Што зрабіць!

У яе яшчэ не было яснасці, яшчэ не ведала добра, што зробіць, калі стала збірацца ў дарогу. Быў толькі страх перад тым, што, адчувала яна, скора, неадменна ўчыніць над сабою: канец яе бядзе, яе пакутам блізка! Сёння яна ўсё зробіць, што б ні было. Страшачыся таго, да чаго збіраецца, тоячыся, яна знарок спакойна сказала маці:

— Мамачко, я хачу к цётцы наведацца...

Маці нават узрадавалася:

— Ідзі, ідзі! Пагуляй! Развейся!..

Хадоська заўважыла, як яна глянула — з пяшчотай, з жалем, — пашкадавала! Ёй, мусіць, захацелася суцешыць дачку:

— Можа, каня запрэгці?

— Не-е. Дайду... Недалёко...

— Ну, ідзі!

«Ой, мамачко, кеб ты ведала, куды ты мяне, дачку сваю няўдалую, з такой ахвотай выпраўляеш!» Маці кудысьці заклапочана выйшла — Хадоська надзела хустку лепшую сваю, забрала са скрыні прыхаваныя грошы — усё, што зберагла, збірала не адзін месяц, — з брацікамі, з сёстрамі развіталася; цалавала быццам бы спакойна, а сама думала: можа, ужо і не пабачымся ніколі! Агледзелася навокал — нізкія, цёмныя лаўкі, прагнілая падлога ў кутку, з якога лазілі мышы, шыбкі на чорных акенцах — запацелыя, як бы заплаканыя, — усё здалося такім мілым, такім дарагім!

Маці ўнесла нізку сушаных грыбоў, загарнула ў латку.

— На́ от гасцінец цётцы занясі... Нядобра без гасцінца...

Хадоська ўзяла. Калі сабралася выходзіць, маці перахрысціла яе. Хадосьцы здалося, быццам яна чуе, што дачка штосьці нядобрае затаіла, — так глянула, адпускаючы ад сябе. Але гэта, мусіць, толькі здалося, бо маці ні словам не перасцерагла.

Усё ж вочы яе — жаласць, трывога і любоў — запалі ў сэрца, і пакуль ішла вуліцаю і дарогаю к грэблі, матчын позірк паліў душу. А ісці старалася знарок спакойна, каб і падумаць ніхто не падумаў нічога. Ведала, глядзець могуць на яе, сачыць...

Дзень быў халодны, пануры, брудная, памерзлая трава на ўзбочынах дарогі была ўжо быццам пасыпана соллю. «Зіма скора, — прайшло ў яе галаве. Чамусьці падумала сумна, як бы з зайздрасцю: — Вячоркі скора добрыя...» Больш ужо не заўважала нічога: ні дарогі, ні грэблі, якая потым пачалася, ні чэзлага алешніку і лазняку, што падступіў усутыч, глядзела тупа, спакутавана, невідушчымі вачыма, а ў галаве было такое ж тупое, цьмянае: што рабіць?

Перабраўшыся цераз падмерзлую грэблю, за якой блізка чарнелі алешніцкія хаты, пайшла не сялом, а па ўзбалотку, сцежкаю. Нікога не хацелася бачыць, хацелася быць адной са сваім клопатам, са сваёй тайнай. У галаве так і не яснела, так і не ведала пэўна, што зрабіць. Было вядома толькі адно: трэба зайсці да цёткі, матка прасіла...

Вось ужо глінішчанскія могілкі, глінішчанскія хаты. Агароды з аднаго боку лезуць у балота. Позірк мімаволі пашукаў лясок за другім канцом сяла, пачула, як тужліва стала ў грудзях: там Захарыха. Хата асобна, у хмызняку. Адна, як лясун... А трохі далей — возера, страшнае «вока»...

Хадоська пайшла да цёткі, стараючыся зноў жа аб адным — каб не заўважылі нічога, не падумалі нядобрага.

Цёткі дома не было. Паехала з дзядзькам на луг. У хаце толькі дзеці гулялі. Хадоська выняла з хусткі гасцінчык, дала кожнаму па сушанай грушцы, спраўдзіла матчыну волю — паклала на стол нізку грыбоў. Пагаварыўшы, сама не помніла аб чым, пагладзіла галоўку меншаму і стала збірацца зноў у дарогу.

Яна спачатку пайшла не ў той бок, дзе было возера і дзе жыла знахарка, а нібы ў Курані. За глінішчанскім выганам збочвала ў балотны хмызняк сцежка, па якой прабіраліся ў Курані, калі падсыхала на балоце, — па ёй да Куранёў было многа бліжэй. Хадоська і пайшла па гэтай сцежцы. Але вярсты праз паўтары яна з гэтай сцежкі перабралася на другую, што вяла ўжо да рэчкі. Паўз рэчку, хмызняком, яна і надумалася ісці к возеру, к Захарысе.

«Пайду лепей да Захарыхі, — рашыла яна. — Зробіць, і знаць ніхто не будзе... Як і не було...» Супакоіўшы сябе, яна ішла ўжо лёгка і хутка, з той яснасцю і пэўнасцю, якая бывае, калі вядома, што трэба рабіць. Але чым бліжэй падыходзіла яна да месца, дзе жыла знахарка, тым больш лёгкасць гэта і пэўнасць знікалі. Мацнеў страх: Захарыха з нячыстай сілай, казалі, знаецца. З ведзьмакамі бачыцца...

Яна пайшла цішэй. Які непрыветны дзень, які нядобры гэты голы, чорны балотны хмызняк! Густая, халодная вада ў рэчцы, трава, памерзлая, мокне ў вадзе. Аж самой холадна робіцца. Холадна і непрытульна. Думаць не хочацца, нічога не хочацца... «Не пайду к вядзьмарцы... Грэх — у вядзьмаркі...»

З-за чэзлага алешніку выглянула вольная, з рэдкімі купамі кустоў прагаліна, чубы чароту. На прагаліне там і тут лужыны, цёмная паска вады між чароту. Мімаволі прыпынілася. Возера.

Адразу, як ступіла на прагаліну, пачула, як апала, зазыбалася пад нагамі дрыгва — вось-вось прарвецца. Тут ужо звычайна стаіць вада, проста за лета сышла крыху, сухмень быў такі! Халады прыхапілі лужыны лядком, купіны пацвярдзелі — асядаючы, патрэскваюць, лядок крэкча, лопаецца. Чуючы, як угінаецца дрыгва, пайшла мімаволі асцеражней: каб не праваліцца. Схамянулася адразу ж, падумала цьмяна: цяпер усё роўна, прарвецца не прарвецца — баяцца няма чаго. І ўсё ж ступала асцярожна...

Ну, от і ўсё. Зараз... Там, за чаротам... А чарот — перад тварам... Крок, яшчэ крок... Цішыня якая. Нідзе ні душы... Ніхто ведаць не будзе... «Не памінайце ліхам, мамачко, татко!.. Не карай, Божачко, ты бачыш, іначай няможно!..» Ішла, як у сне, правалілася адной нагой па калена, ледзь утрымалася на купіне, пасунулася далей. От ужо чарот, ён амаль усюды ў вадзе. Трэба пашукаць сухога купіння, падабрацца да глыбіні...

Там, дзе «вока», правалілася, кажуць, царква. Было роўнае, сухое месца, а правалілася царква, і стала «вока» — возера. Не такое, як усюды, без дна...

От тут, каля лазовага куста, сушэй. Можна падабрацца, за беражком — чыстая вада. Глыбіня... Пачула, як калее, гарыць нага: зірнула, на лапцях, на лытцы чорная твань стыне. Выцерла краем світы — скура чырвоная, аж заходзіцца ад холаду! І вада, пэўна, сцюдзёная!.. Не стаяць, не думаць, хутчэй — туды!..

Дрыгва ўгнулася глыбей. Вось-вось прарвецца. Якая ж яна чорная, жахлівая, глыбінь «вока»! Дзіва — без дна! Усе рэчкі і азёры маюць дно, а тут — без дна! Таму яно такое чорнае,

страшнае! Недарма чэрці любяць яго!.. Толькі два-тры крокі... І ўсё. І бездань!.. Здалося раптам — штосьці цягне туды, у бездань. Галаву кружыць!..Жах напоўніў грудзі, скаваў холадам. Хадоська ўхапілася рукой за дубцы куста, толькі б утрымацца!

Здалося, пачула: адплывае, паўзе ўніз мярэжка... А тое, невядомае, страшнае, усё вядзе, цягне к глыбіні, усё кружыць галаву...

Хацела сысці, адбегчы — і скрануцца не магла. Тое, страшнае, нібы трымала за рукі, за ногі!.. «Мамачко, татко!» — застагнала, закрычала, але і голасу не пачула. Голасу не было. Нібы анямела!..

Яна кранулася, яшчэ не цямячы нічога. Чула, што хтосьці глядзіць услед, баялася азірнуцца. Страх поўніў усю яе, але яна ішла. Дрыгва апаўзала, гнулася, трашчала, Хадоська ніяк не думала пра тое, што можа праваліцца. Чула за сабой толькі страшнае, што цягнула ў глыбінь...

Яна ўжо была блізка ад алешніку, што ішоў вакол прагаліны, калі пачула раптоўны трэск. Трэснула сухая галіна, але яна не зразумела, што гэта. Неспадзяванасць як бы вярнула ёй прытомнасць, яна страпянулася і дзіка рынулася к лясочку...

## 2

Калі возера засталося ззаду, Хадоська не адразу супакоілася. Доўга бегла па алешніку, баючыся азірнуцца, пакуль стала разбірацца, дзе апынулася і куды трэба ісці.

Ні сняжку, ні інею тут не было, і густы нават цяпер хмызняк здаваўся надзіва цёмным. Месца было глухое, хоць бы след дзе трапіўся. Яна ішла наўздагад, заблудзілася зусім, непрыкметна падышла аж пад самыя Глінішчы — за дрэўцамі, зусім блізка, на грудку былі агароды, хаты. Толькі тады зразумела яна, дзе сама, як знайсці хату Захарыхі.

Цёмны, затоены курэнь, які шукала. Вокны чорныя, страха навісла, зялёная, струпаватая. Над хаткай дымок уецца, Хадоська зірнула з падазронасцю, ці не ўбачыць чаго ў тым дыме. Не, дым як дым.

Хадоська стаяла, аддыхвалася, чула, як мерзнуць ногі, але стукаць не спяшалася. Паволі збіраўся прыцемак, дрэвы гусцелі, зблІжаліся адно з адным, насоўваліся, абступалі шчыльней.

Калі наважылася пастукаць, з кураня за дзвярыма пачулася асцярожнае:

— Хто тут? — Голас быў нізкі, як бы прастуджаны.

— Ето я... — выціснула Хадоська.

— Хто? Не пазнаю... Аўдоля?

— Я... Хадоська...

— Якая Хадоська?

— З Куранёў...

— З Куранёў?

У хаце шарганула засаўка, дзверы крыху адчыніліся, і ў вузкую пройму высунулася галава. Толькі зірнуўшы, жанчына адчыніла дзверы смялей і ўпусціла Хадоську.

Адразу ж, як Хадоська ўвайшла, засаўка шарганула зноў. У хаце было ўжо зусім цёмна, і Хадоська стала, як сляпая.

— О тут — лаўка, — пацягнула, пасадзіла яе знахарка. Хвіліну яна маўчала, і гэтае маўчанне здалося Хадосьцы доўгім і нядобрым. Хадоська нібы пачула на сабе позірк, дзіўны ў такой цемры. Як знахарка магла што ўгледзець?

— Што ў цябе? — прасіпела, нарэшце, знахарка. — Баліць што?

Хадоська пачула, што твару стала горача. Не магла сказаць ні слова.

— А ты — калі што якое... не думай нічога!.. Не саромейся.

Хадосьцы зноў здалося, што знахарка ў цемры прыглядаецца да яе. Чагосьці чакае. Але Хадоська, як і раней, маўчала, няёмка, насцярожана.

Знахарыха раптам ударыла:

— Нагуляла?

Хадоська аж сціснулася, згорбілася. Ледзь не згарэла — здаецца, знахарка смяецца з яе! Захацела ускочыць, кінуцца. Абыкуды, толькі б з хаты! Куды вочы глядзяць! Дурная, прыйшла! Панадзеялася!.. Але Захарыха сказала чула, спачувальна:

— Што ж — дзело маладое...

Яна падышла да печы, сунула к агню лучынку. Запаліла агонь на камінку. Хадоська недаверліва ўгледзелася ў Захарыху і паспакайнела — нічога страшнага, жанчына як жанчына. Не старая, не худая, твар, як у другіх жанок, нос шырокі, зусім не вядзьмарскі. І валасы падабраны пад хустку. На шчацэ чорная плямка сажы...

— Не адна ты... Не першая, не апошняя... — Захарыха таксама акінула позіркам Хадоську. — Даўно ето ў цябе? Месяц, два?

Хадоська, чырванеючы, адказала. Знахарка супакоіла:

— Нічого, не позно.

Калі Захарыха стала занавешваць посцілкамі акенцы, пасмялелая Хадоська агледзелася: агонь з камінка добра асвятляў палаці, накрытыя посцілкаю, стол, на якім пад абрусам горбікам значыўся хлеб. У кутку над сталом, абвешаныя ручнікамі, цьмяна паблісквалі абразы, такія, як і ва ўсіх. І ўсё было такое ж, як і ў другіх, і палічка з міскамі каля дзвярэй, і драўлянае вядро на лаўцы, і невялікая старая скрыня, толькі на цёмных, з мохам і крывымі шчылінамі, сценах многа касмылёў сушанай травы. Ды на палічках каля печы — нейкія пляшачкі...

— Глядзіш, як жыву? — перахапіла яе позірк Захарыха. — Пагано жыву! Зайздросціць няма чаму...

Хадоська ціха паківала галавою.

— Була пара — жыла! Ды кончылася ўсё! Дурноты ў людзей развялося!.. Не знаюць дабра свайго. Сляпыя, як дзеці... На анціхрыстаў, на душагубаў етых, дахтароў, надзеюцца!... Надзеюцца — і прападаюць цераз тое, бо дахтары тыя толькі рэжуць ды труцяць!.. — Яна загаварыла даверна, шэптам: — Загад такі выйшаў, кеб усіх, каторыя нутром нядужыя, пераводзіць. Кеб, значыць, папсаваных не було. Усё адно як каторы нядужы саўсім, той і не чалавек! Я унь колькі такіх хворых вылечыла, жывуць ды Бога і мяне хваляць. Дак начальнікі дактароў тых злосць вялікую на мяне займелі, што я лячу людзей... Не па закону кажуць, лечыш. Не маеш права, маўляў, хворых лячыць, хворых па закону трэба пераводзіць!..

Хадоська слухала, вельмі спачуваючы няшчасным: хворых нішчыць загадваюць, падумаць толькі!

— І ад таго гразіцца сталі мне начальнікі. У цюрму нават абяцаў адзін шалапут, з сельсавета... — Захарыха ўздыхнула: — Цяжко, ой цяжко! Хоць у пельку... — Яна кінула вокам на Хадоську, дзелавіта запыталася: — Прынесла чаго?

Хадоська, задуменная, расчуленая, не зразумела:

— Што?

— Ну, етае, кеб заплаціць за работу...

— А-а... Прынесла.

Хадоська дастала з-за пазухі насоўку з грашыма, выбрала ўсё да капеечкі, аддала. Зняла світу, скінула скарб свой — каптанчык вышываны: скажа матцы, што згубіўся. Захарыха, якая хацела была лічыць грошы, ухапіла каптанчык, нецярпліва пакруціла ў руках, агледзела. Каптанчык, відаць, прыйшоўся даспадобы — дзіва, каб такі каптанчык не спадабаўся! Захарыха нават надзела яго, але тут жа схамянулася, зняла, згарнула.

Палічыўшы грошы, знахарка глянула на Хадоську.

— Ето — усё?

— Усё... — прашаптала Хадоська. Багата ж як ёй трэба! Яшчэ, чаго добрага, і не захоча рабіць!

— Мало етаго...

Хадоська маўчала. От, канечне ж, не захоча. Верне грошы, скажа: ідзі як прыйшла! Але ж дзе ёй, Хадосьцы, узяць тых грошай яшчэ!

— Няма болей!..

— Ну, няхай ужэ... — прамовіла мякчэй Захарыха. — Адно — што шкода мне цябе... Добрая я...

Яна схавала грошы кудысьці пад паху, паклала каптанчык у скрыню, якую тут жа замкнула на замочак, падалася к печцы. Упраўляючыся пры печцы, загадала Хадосьцы разуцца, дала рваныя сухія анучы, прынесла карэц гарачай вады з чабаровай заваркай. Хадоська пераабулася, напілася. Пачула, як па целе пайшла лагодная, млосная цеплыня.

— Угрэлася? — заўважыла Захарыха. — А ты распраніся. Скінь світу... Няма чаго...

Хадоська зноў зняла світу. Цяпер ужо сядзела, як дома , у шэрай зрэбнай кофце, сіняй спадніцы, на якой фарба ляжала плямамі. Сядзела, сачыла за знахаркай, якая поркалася каля печы, і чула, што ўжо амаль не баіцца яе. Была толькі тужліва ў грудзях трывога перад адным, нязнаным ніколі, але нядобрым, страшным, што было цяпер так блізка.

Вярнуўшыся ад печы, Захарыха глянула зноў так строга, што Хадосьцы стала боязна.

— Пакляніся — кеб ні слова пра ўсё! Ніколі, нікому!

Хадоська хуценька, спяшаючыся, сказала:

— Ніколі, нікому ні слова! Як перад Богам! — Яна перахрысцілася.

— Як скажаш — дабра не чакай! — пагразілася Захарыха.

Хадоська так зірнула ў адказ, што было відаць: хай рэжуць, хай паляць — не дазнаюцца нічога! Тады Захарыха загадала:

— Лажыся!

Хадоська не варухнулася, як бы не чула. Знахарка хацела пакласці яе сама. Але як толькі кранула рукой, Хадоська дзіка адкаснулася:

— Не!

— Дурная, чаго ты?!.

Хадоська прамаўчала. Сорам, страх, агіда, роспач — усё было на яе твары разам. Ён гарэў агнём...

— Як бы — што якое!.. Як бы — адна такая!.. Було тут, перабуло такіх...

Вочы Хадоські таксама гарэлі, дзікія, поўныя адчаю. Не верылася нічаму...

— Дзело — простае, дзявочае... Няма чаго тут!..

Захарыха пайшла да палічкі, вярнулася са шклянкай нейкага настою.

— На от — выпі... Супакойся...

Хадоська паслухмяна ўзяла. Зубы яе дробна, трывожна калаціліся аб край шклянкі...

3

Усё аказалася такім страшным, такім балючым, што дзіва, як выцерпела. Балела, як ніколі, нішто. Але горш за ўсё — было страшэнна брыдка, агідна, сорамна. Так агідна, сорамна, што, калі скончылася, не магла вачэй падняць на Захарыху, — хацела хутчэй выбегчы адсюль абы-куды. Толькі б не бачыць, не чуць яе побач! А Захарыха гаварыла, супакойваючы:

— От і ўсё. Лічы ўжэ — нічога і няма... Як і не було... Кроў шчэ будзе ісці, але ты не думай нічога... Так і трэба... А так, лічы, усё ўжэ... Нічога няма...

Яна сама правяла Хадоську за лес. Хадоська ішла, стомленая без меры, дзіўна аслабелая, чуючы ў сабе нязнаную, страшную спусцеласць, з тупым здзіўленнем думала, што вакол — яшчэ той жа самы вечар, які пачынаўся, калі яна прабіралася сюды! Той жа вечар — толькі сцямнела так, што дрэваў не разабраць. Так мала мінула часу, а колькі перадумана, пераажыта. Як усё, здаецца, перамянілася. Яна ўжо нібы не яна, нібы зусім другая. Зусім перамянілася. Зусім нібы незнаёмая... А вечар — яшчэ той самы, толькі што пацямнела. Тады толькі пачынала цямнець, а цяпер — змрок, дрэвы здаюцца плямаю, сцежка — плямаю, святлейшай трохі. Неба ледзь шарэе. Усё так хутка абышлося, а здаецца — няхутка. Многа, здаецца, часу прайшло... І так важка на душы. Так пуста і брыдка... Нядобра — перад Богам... Ён зжаліцца. Даруе. Даруй, Божачка! Ты ўсё знаеш... Даруй...

— Дак кроў будзе шчэ... Ты не бойся, калі што якое... А так — як і не було... — Захарыха напомніла з пагрозай: — Дак — кеб нікому ні слова!

Хадоська пачула палёгку, калі знахарка прапала ў змроку. Цяпер Хадоськы хацелася быць адной, ні з кім не сустракац-

ца, ні з кім не бачыцца. Адной з тым нядобрым, брыдкім, што гняло, прымушала стараніцца ўсіх. К цётцы яна не пайшла. Абышла полем і сяло, каб ненарокам не сустрэцца з кім-небудзь са сваякоў, абмінула, як і ўдзень, Алешнікі. На балоце абхапіла яе грознай цемрай. Хадоська падалася крадком, пільна прыслухоўваючыся. Падступіў, сціснуў грудзі страх: «Божа, не карай мяне! Даруй, Божачко!..»

Абышлося. Прабілася цераз грэблю ціха. Бог пашкадаваў. Але як толькі зажаўцелі рэдкія агеньчыкі з сяла, нядобрае, брыдкае ажыло зноў. Каля чорных хат стала зусім — нібы не сваё сяло, чужое. Ісці наважылася не скора, падалася, тулячыся да платоў, баючыся сустрэцца.

Ніхто не спаткаўся. Дома таксама спалі. Маці прачнулася, прамармытала праз сон, што вячэра ў печы, Хадоська сказала — есці не хочацца. І хата свая здалася не такой, як раней. Усё іншае. Хадоська хутчэй раздзелася, легла, накрылася з галавою посцілкай. Нічога не чуць, нічога не думаць! Заснуць адразу, прачнуцца, забыўшыся пра ўсё. Але не спалася, усё, што бачыла, наплывала і наплывала ў памяць. Было чагосьці вельмі шкода, і было горка, і хацелася страшэнна плакаць. І яна плакала, душачыся слязьмі, баючыся, каб хто-небудзь не пачуў. Са слязьмі і заснула.

Абудзіў яе трэск агню ў печы, рып дзвярэй. Маці гатавала снеданне. Бацька скінуў абярэмак дроў. Хадоська хацела, як заўсёды, ускочыць, адзецца, але як толькі варухнулася, пачула — унізе жывата апякло, як агнём. Сарочка была мокрая, яна паднесла руку к вачам: кроў!

«Нічога... — супакоіла сябе Хадоська. — Захарыха казала, што кроў будзе. Кеб не пужалася... Так, мабуць, трэба...» Яна больш занепакоілася аб тым, каб маці і бацька не ўбачылі, не сталі дазнавацца.

Увесь дзень Хадоська хадзіла, завіхалася, як магла, старалася адагнаць, заглушыць сорам і прыкрасць, што ніяк не хацелі ні адступацца, ні ціхнуць. Не магла глядзець у вочы бацькам — здавалася, вось-вось даведаюцца пра яе ганьбу. Ёй было так нядобра! І калі б толькі адна тая пакута, што на душы! Боль у жываце часта рэзаў так, што губы кусала, каб не застагнаць.

Яна са страхам заўважала, што ўсё больш слабее, ногі самі падгінаюцца. Толькі б не ўпасці, датрываць бы да вечара! Абнадзейвала, суцяшала сябе: «Нічога, нічога... Пройдзе...»

Пад вечар маці паслала яе ў склеп прынесці бульбы. Ледзь Хадоська ўзняла каробку з бульбай, як пранізаў такі востры

і моцны боль, што аж заціяло дыханне. Адразу ж няспынна пайшла, палілася кроў...

Яе ахапіў жах. Ад жаху яна не помніла, як выбралася ўгару. Калі выйшла з прыгрэбніка, галава закружылася так, што яна ледзь не ўпала. Усё ж неяк дацягнулася да ганка і тут без сілы аб'ехала на ступенькі. «Людзі пабачаць...» — падумала з трывогай. Але ўстаць адразу ўжо не хапіла сілы.

Яна наўколенцах дабралася да парога, чапляючыся пальцамі за дрэва, паднялася, увайшла ў сенцы, адчыніла дзверы ў хату. Маці, як толькі ўбачыла збялелы твар яе, жахнулася:

— Дочачко! Што з табою?!.

Хадоська важка дапала да ложка, павалілася. Маці спалохана залямантавала:

— Ой, горачко ж ты маё!.. Што ж ето?!. З'ела што паганае, ці што?!. Горачко ж, гора!..

Хадоська маўчала. Яна чула, як кружыцца галава, дзіўна пустая, вялікая, як нейкія хвалі гайдаюць туды-сюды. Было чамусьці вельмі холадна нагам, плячам, спіне, усяму целу, яна стала ўся дробна, нястрымна дрыжаць. Маці накрыла яе спачатку коўдрай, потым світай, а холад гэты ўсё не адыходзіў, дрыжыкі не ўціхалі. Калі прыехаў з лесу, увайшоў у хату бацька, яна ўбачыла яго як бы праз ваду і пачула як бы праз ваду: «Табе мо што трэба?..» Яна адно моўчкі павяла галавой.

А кроў ішла і ішла і, здавалася, не сунімецца ўжо ніколі. І здавалася, што з крывёй ідзе з яе і цяпло, і жыццё. Заплюшчыўшы павекі, на якія падала з камінка чырвонае святло, яна скрозь дрымоту падумала раптам: «От і канец мой падыходзіць... Смерць мая...» Падумала — і не адчула ні страху, ні жалю, усё было абыякавым, пустым.

Толькі адно дайшло, узварушыла: даючы нейкага зелля, маці сказала, што, можа б, Захарыху-знахарку пазваць. Хадоська як бы ажыла, падняла галаву, ціха, але рашуча прамовіла:

— Не!

Усю доўгую ноч маці не адыходзіла ад яе, укрывала, уздыхала, шаптала малітвы, давала піць зелле. Хадоська то драмала, то абуджалася, то ляжала так, што сон і ява спляталіся, трацілі межы.

«Памру. Ну, і няхай памру...» — думала яна, вяртаючыся да явы.

Пад раніцу бацька запрог каня, паехаў па доктара ў Загалле. Яны прыехалі, калі ў вокнах было ўжо бела — мітусіліся пер-

шыя дачасныя сняжынкі. Доктар, распрануўшыся, пагрэўшы каля печы рукі, выгнаў усіх з хаты. Калі ён падступіўся, Хадоська спачатку запрацівілася, але варушыцца., гаварыць было так цяжка. І не было ўжо ахвоты. Было ўсё абыякава.

— У Юравічы! У бальніцу — зараз жа! — сказаў доктар, пазваўшы бацьку з сянец...

Калі заплаканы Ігнат, Хадосьчын бацька, вёз дачку цераз грэблю, яму спаткаўся Чарнушка, які ехаў з Глінішчаў ад Годлі. Чарнушка, задаволены тым, што клопат з кофтай збыты і збыты ўдала, ахвотна спыніў каня.

— Куды ето, Ігнат?

— Дачка... — Ігнатавы губы горка таргануліся. — П-памірае!..

Ганна саскочыла з калёс, спалохана падбегла да Хадоські. Яе ўразіла: Хадоська ляжала, нібы ў дамавіне. Незнаёма схуднелая, без крывінкі, як нежывая.

— Хадосечко!.. Што з табой?!

Хадоська зірнула на яе як бы здалёк. Яна быццам не адразу пазнала, але, калі пазнала, ажыла, павекі варухнуліся трывожна, непрыхільна. Адразу ж непрыязна заплюшчыліся.

«Глядзець не хоча!..» — сумелася Ганна.

Хадосьчын бацька правёў рукавом па твары, тузануў каня.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

Апошнія перад вяселлем дні ішлі ў хапатлівай гонцы. Абдзіралі, рэзалі, секлі цяліцу, смалілі, разбіралі кабанчыка, пяклі хлеб, каржы, коржыкі — смалілі, пражылі столькі, што з непрывычкі ад пахаў станавілася млосна. Усё, над чым дрыжалі не адзін месяц і што трэба было расцягнуць да лета, хутка, на вачах, рабілася смажаным і печаным, ненадоўга зносілася ў сыры і цвілы Чарнушкаў «пограб». Ганнін бацька ўдзень і ўвечар прападаў недзе на ўзболатку ў зарасніках, поцемкам вазіў туды бочкі з брагаю, адтуль крадком валок барыльцы і біклагі самагонкі.

Дабра, што мелі самі, хоць падмяталі дачыста, было мала — кідаліся па хатах, дзе толькі можна, — пазычалі. Не думалі, душылі страх — як потым жыць, як з пазычаным разлічыцца: думай не думай, усё адно не выкруцішся інакш. Пакуль абы

адзін клопат адолець, вяселле збыць. А там — Бог бацька, там будзе відаць...

Рупіліся — абы пабольш было, абы хапіла. Хата поўнілася мітуснёй, гоманам, чадам. Вечарамі ў Ганны балелі рукі і спіна, у роце было горка, сон браў дурнотны, нездаровы. Ад утомы, недасыпання, чаду галава стала нейкая няцямная, важкая. І сама ўся як бы ацяжэла, хадзіла, рабіла ўсё без ранейшага спрыту, павольна, абыякава. Бацька і мачыха варушыліся таксама нібы заведзеныя, стараліся больш таму, што трэба было спяшацца: падганяў усё неспакой — не спазніцца б, управіцца б у пару...

Увечары ў суботу сабралі дружак маладой, бліжэйшых сваякоў, пасядзелі трохі за сталамі. Пасядзелі так, каб не выдаткавацца загадзя, проста — абы паказаць, што помняць «закон» і шануюць, і каб не сарамаціцца перад людзьмі, бо ў жаніха ж — гулялі. У нядзелю з самага ранку Чарнушка стаў ладаваць вясельны воз. Калёсы былі не свае, пазычаныя — ладнейшыя, на лягчэйшым ходу, моцныя, акурат для таго, каб ехаць у такую дарогу. Папрасіць прыйшлося і аднаго каня. Чарнушка накарміў яго добра разам са сваім канём, даў нават аўса, каб прутчэй кацілі калёсы, не ганьбілі маладую. Тады, як дружкі прыбіралі стужкамі вуздзечку, нарытнікі, дугу, ён палажыў на воз лепшага мурожнага сена, якое выбраў загадзя, старанна заслаў яго коўдраю.

Ужо збіраўся запрагаць коней, калі з хаты прыйшоў Хведзька:

— Вас мамо заве...

Чарнушка памацаў хамут, неахвотна падаўся к ганку. У хаце было трохі жанок, дзяўчат, Ганніных дружак і сябровак. Жанкі хадзілі разам з мачыхай пры печы, каля сталоў з гарэлкай і ядою, дзяўчаты ў кутку каля дзвярэй шапталіся аб нечым. Ганна была між іх.

Мачыха, як толькі ўбачыла Чарнушку, з заклапочаным выглядам адвяла яго ў куток да акна, сказала ціха, разважліва:

— Маладую адзяваць час ужэ...

— Час дак час... — Чарнушка ледзь не ўздыхнуў.

— Час... — Мачыха яшчэ наблізілася, яшчэ прыцішыла голас. — А сам — што надзенеш?

— Што е, тое і надзену. Буў жа ўчора ў нечым...

— Буў!.. У дзіравых штанах! Латка на латцы!..

— З латкамі дак з латкамі. Вялікая бяда. Не жаніх, грэц яго...

— Не жаніхто не жаніх! — Дак нявеста — дзіця твае! Нявесцін бацько! Не чужы, кеб абыяк можно, кеб так — старцам — к

жаніху выйсці!.. Учора — то шчэ нічога, свае булі! Галякі такія ж, сказаць! А тут — сойдуцца са ўсяго свету! Дай жаніх які! Багацей першы!

— Багацей, багацей! А што ён — чужы, не знае, сколькі ў мяне капіталу! І то яшчэ — дзякуе няхай, што ўгашчэнне сабраў!

Мачыха нецярпліва, коса павяла позіркам — ніхто чужы, здаецца, не слухае іх гаворкі, а ўсёткі зашаптала цішэй. Асцярога ніколі не лішняя...

— Угашчэнне ўгашчэннем, а толькі вочы не зальеш! Усё разгледзяць дай абгавораць!.. Адзецца трэба — кеб не сорам перад Глушакамі стаць! І сядзець жа разам з імі прыйдзецца!.. Я дак у Хімы пазычу. У яе кохта е сіняя, з палярынай... — Мачыха сабралася выходзіць. — А ты б — к Грыбку збегаў, пакуль суд ды права. Штаны ў яго дабрэнныя. Са службы каторыя прынёс.

— Мне і ў сваіх не пагано. А каму не падабаюцца, няхай не глядзіць!

— Табето, можа, не пагано, дак дачцэ — як? — Мачыха кінула позірк на Ганну, якая падышла паслухаць бацькоў. Думала, Ганна падтрымае, але тая — хоць бы слова. — Мне — як? Перад людскімі вачыма! Глядзець будуць, усё разгледзяць, што було і чаго не було. Абы даў прычэпку, абсмяюць! Голае цела, маўляў, латкамі прыкрыў! А таксамо — к багатым лезе, маўляў!

— Няхай смяецца, каму хочацца! А мне — усё адно!

— От бо — розум! Як дзіця! — страціла рэштку цярплівасці, ускіпела мачыха. — Дзіця — і тое даўмела б!

— Знаеш што, — ускіпеў і бацька. Ён загаварыў ужо так, што жанкі і дзяўчаты прыціхлі, сталі здзіўлена слухаць. — Хочаш да Хімы ісці, дак ідзі, а мяне — не чапай! І так — чорт душу скрабе! Не да штаноў паганых, кеб яны згарэлі! Тут на душы такое, а яна, грэц ёй, — штаны, латкі!.. Ідзі, калі хочаш!

Мачыха азірнулася, перахапіла позіркі жанок, сказала Цімоху як можна мірна:

— Мне — што? Я ж — аб табе. Кеб табе лепей!.. А не хочаш, не трэба!

Яна стукнула дзвярыма. Бацька ад душы плюнуў, зрабіў выгляд, што шукае штосьці на чорным, чыста вышкрабаным, вымытым падаконніку ля палацяў, сказаў Ганне, як бы апраўдваючыся:

— У Грыбка вазьмі! Бы на чужыне, бы ніхто не знае, якія штаны ў мяне, якія ў Грыбка! Тыя штаны ўжэ хто не насіў: мо паўсотні вяселляў справілі! Ледзь не ўсякі жаніх у Грыбковых

штанах! — Ён пакруціў у руках свае святочныя штаны. — Якія е, такія е, затое не чужыя...

Ганна, задуменная, сур'ёзная, адгукнулася:

— Дзірка ў іх на латцы, на каленях. Дайце зашыю.

— Ты б сказала, кеб самую сабіралі. Отот прыехаць могуць!

— Упраўлюся.

Яна ўзяла штаны, прысела на высокіх палацях, засланых новаю коўдрай, пад якой было ўсякага рыззя, пачала звыкла завіхацца з іголкай.

Штаны былі не то шэрыя, не то жоўтыя: іх хацелі неяк паднавіць, пафарбавалі, але фарба аказалася з фокусамі, узялася няроўна, а лапіны вымалявала зусім інакш, пад спелую цыбулю. Але Чарнушка як бы і не бачыў гэтага знаку сваёй беднасці — з сумам, з замілаваннем глядзеў на дачку, на яе рукі, на чорныя валасы, смуглявы лоб. Калі Ганна падала яму штаны, ён пачуў, як збіраюцца недарэчныя слёзы, ледзь стрымаўся.

— Ну от, перахаджу неяк! У сваіх!..

Мачыха вярнулася ад суседкі радая, з кофтай, але як толькі ўбачыла Чарнушку, пакрыўджана нахмурылася, адвярнулася, мабыць, не збіралася дараваць спрэчкі. Бацька таксама, было відаць, не збіраўся вінавацішча...

— Матко, маладую час убіраць, — сказала старая Аўдоля, што корпалася пры печы.

— Знаю сама, што пара! — Мачыха, не гледзячы на чалавека, паклала кофту на палаці, загадала Ганне садзіцца на ўслон. Усе, хто быў у хаце, жанкі, дзяўчаты абкружылі Ганну: адны — каб памагчы мачысе, другія — дружкі — каб зрабіць тое, што належыць ім, выбраным за дружак, трэція — каб проста паглядзець. Такая падзея ж!..

Чарнушка квола хіснуўся, падаўся к дзвярам. Заўважыў на печы Хведзьку, які таксама прыціх, навастрыўся вочкамі, — хмурна кіўнуў галавою: злазь! Узяўшы малога за руку, бацька рвануў клямку і знік у сенцах...

Ён выйшаў на ганак — коні былі ўжо запрэжаны, мокры вецер варушыў каснікі на вуздзечках, на дузе. Чарнушка пастаяў разгублена, трымаючы ў руцэ забытыя штаны, патупаў назад у сенцы. У сенцах ён памыўся, перайшоў у каморку, памазаў лоем валасы, каб ляжалі, пераадзеўся ў картовыя, з цыбулькавымі лапінамі штаны, раптам без сіл апусціўся на кубел. Невядома, колькі сядзеў бы так ён, калі б Хведзьку не надакучыла гэта і малы не шмаргануў яго за рукаў. Чарнушка зварухнуўся. Калі ён зноў ступіў у хату, Ганна ўжо стаяла заплеценая, у новай ат-

ласнай кофтачцы, у чырвоным, з зялёнымі клетачкамі андараку, у чырвоных матчыных чаравікахпаўбоціках.

Чарнушка глянуў — вянок на Ганне, вэлюм спадае да долу, лёгкі, нібы і не важыць нічога. Над белай атласнай кофтачкай, у вэлюме так добра, прыгожа віднеецца смуглявасць яе твару, дужкі броваў, вільготныя, як спелыя вішні ранкам, вочы. «І ўся яна — як вішня! Як кветка з вішні!..» — падумаў Чарнушка, чуючы, што душу сціснула вялікая журба.

Вянок, вэлюм. Убачыўшы іх, ён, як ніколі яшчэ, пачуў бяду. Не, ён не толькі пачуў, ён, здалося, убачыў гэтую бяду — у вянку, у вэлюме, грозную, страшную. У яго зноў аслабелі ногі, рукі так, што ледзь хапіла сілы, каб падняць руку, сцерці з вачэй штосьці мокрае, туманлівае. Ён адразу адарваў позірк ад Ганны, стаў тупаць па хаце, абы тупаць, абы не думаць, не глядзець на дачку ў вянку, у вэлюме...

Усё, што ён бачыў, што чуў, дзіўна адгукалася ў ім журбою. Некалькі разоў убягалі ў хату дзяўчаты, аб'яўлялі: «Едуць!» Пачыналася мітусня, трывога, і журба ў ім пякла мацней, потым аказвалася, што трывога дачасная, усе прыціхалі, але сум яго не прападаў. Дзяўчаты, жанкі спакойна гаманілі, спявалі, нудзіліся, а яго журба ўсё тачыла і тачыла.

Нават тое, як спакойна сядзела, чакала свайго дачка, таксама вярэдзіла яго душу. Яна была такая ціхая, якой бацька і не помніў ніколі, слова, здаецца, не прамовіла. Вакол яе перакідваліся смешкамі, прыслухоўваліся нецярпліва, толькі яна адна была маўклівая, ціхая. Гарэзніца, нецярплiўка заўсёды!..

Нішто не змянілася ў ёй і калі пачулася музыка: спачатку толькі буханне барабана — бух, бух, бух, потым урачыстыя, з жаласным хліпаннем, пералівы гармоніка, пісклявы, прарэзлівы віск дудкі. Музыкі хутка набліжаліся, дудка і гармонік чуліся ўсё лепш і лепш...

Адна з Ганніных дружак, гарэзная, вяртлявая Маруся, ускочыла, прыслухалася са страхам, абвяла вачыма дзяўчат, крыкнула:

— Дружыно! Ето ж — чужыя якіясьці пад'язджаюць!.. Маладую нашу Ганулечку, мабыць, адабраць хочуць?!. — Яна грозна нахмурылася, кінулася к дзвярам: — Не аддадзім яе!..

— Не аддадзім!.. Выручым!.. Прагонім, калі што якое!.. Ці — няхай падобраму! Выкупяць няхай!.. — Усе, хто быў у хаце, акрамя Ганны, з вясёлым шумам, крыкамі высыпалі на ганак, на двор.

Чарнушка зірнуў на Ганну: толькі яна не ажыла. Уздыхнуў, ціха выйшаў за ўсімі...

2

Музыка на вуліцы — перад самай хатай — сціхла, і Ганне стаў чуваць гоман многіх галасоў, воклічы, нейкія каманды. Спрэчкі, рогат барацьбы... «Не пушчаюць. Выкупу дабіваюцца...» — прайшло ў яе галаве.

«Багато народу, пэўна...» — падумала яна, як думаюць аб нечым далёкім, чужым. Увесь гэты гоман, спрэчкі, смешкі гэтыя, што прабіваліся з вуліцы, з двара, даходзілі да яе як у сне, як бы зусім і не датычыліся яе.

Яна сама была як у сне. Жыла неперажытым. Гэта пачалося ўчора, калі сышліся госці... Пілі, елі, гаманілі... Яна таксама піла. Піла не таму, што хацела, а таму, што не піць гарэлку маладой нядобра. Есці яна зусім не магла. Пасля таго, здавалася, бясконцага гатавання, ад якога цяпер балелі рукі і было моташна, на яду і глядзець не хацелася.

— Чаго ты, Гануля, не ясі нічого? — падыходзіў бацька, які паглядваў на яе пільна, журботна. — З'ела б чаго, а, дочачко?

— Пад'ела ўжэ... Не хочацца...

— Пірага б узяла. Ці — халадцу?

— Я хіба коржыка вазьму...

— Еш. Бо так скора сп'янішся...

Яна, і праўда, хутка сп'янела. У галаве шумела, перад вачыма ўсё гайдалася, плыло — міскі, пляшкі, мачыха, людзі. І ад гэтага мацнела дзіўнае адчуванне, што ўвесь гэты тлум, гэтая п'яная вячэра — усё гэта не для яе, далёкае і чужое ёй — чужое свята, чужое вяселле!..

Калі госці разышліся, ёй, сп'янелай, ледзь хапіла сілы, каб раздзецца, залезці пад коўдру, але сон доўга не ішоў. У галаве кружылася, блыталася — гамонка, песні, твары. Зыбаўся, плыў кудысьці ложак, было вельмі млосна ў грудзях, і здавалася, гэта ніколі не скончыцца... Заснуць, заснуць бы якнебудзь, не чуць, не бачыць, забыць усё!..

Сон быў такі, што і ў ім штосьці доўга блыталася, перамешвалася, плыло. Раптам яна закрычала са стогнам, прачнулася зусім, мокрая ад поту, поўная гідоты і страху. Рукі яе, усё цела было нацята, дрыжала.

— Што ты? Што з табой? — трывожна запытала мачыха.

— Ннічога. Сон ппрысніўся...

— Аа. Перахрысціся. Спі...

За акном церусіў дождж, было чорна і ціха, як у магіле. Лежачы, спакваля спакайнеючы, яна паспрабавала было ўспом-

ніць, што снілася, але не змагла: згадваліся толькі абрыўкі. Луг, заліты сонцам. Васіль косіць. Капа сена. І неспадзеўкі — абруч гадзюкі на назе!..

Дурман ад гэтага сну не выходзіў увесь ранак. Жыў і цяпер. Што ён значыць, гэты сон? Аб чым кажа, што прадвяшчае?

Яна чула ўтому ва ўсім целе, як пасля цяжкой працы. Балела галава, і, як шчасця, хацелася цішыні, спакою, адзіноты. Але на ганак, у хату ішоў гоман, людзі, многа людзей. Нібы ў сне, нібы чужога, убачыла яна Яўхіма, які пад віск і грукат музык, што зайгралі марш на двары, уварваўся ў хату з Ларывонам, з Сарокай, з цэлай хэўрай прыяцеляў сваіх, такі ж, як яны, шумлівы, рухавы, вясёлы. Ён быў у новым касцюме, у скураных блішчастых галіфэ, у блішчастых ботах, сам увесь блішчасты: твар ільсніўся чырвона, як памазаны салам. Нават вочы былі быццам памазаныя, блішчалі масляніста, радасна. Шапачка з шырокім блішчастым казырком зухавата з'ехала на самае вуха. І ўвесь ён кідаўся ў вочы незвычайнай зухаватасцю. Не было відаць і знаку таго, што ён не спаў ноч, гуляў, піў.

«Набраліся ўжэ і сягоння, апахмяліліся...» — прайшло ў Ганнінай галаве.

— Памагай Бог у хату! — голасна сказаў Яўхім, зірнуў вясёлымі масляністымі вочкамі на Ганну.

— Дзякуем... Дзякуем на добрым слове! — выбегла наперад яму мачыха. Ганна ўбачыла — яна, як дзіця, прыціскала да грудзей новыя боты — напэўна, Яўхімаў падарунак. — Азалаціў ты мяне! — аж заспявала яна. — Век — пакуль буду — Бога маліцьму... за тваю ласку!..

Усе навокал шумелі, зайздросцілі мачысе: гэта дык падарунак — багацце цэлае! Вось жа шчасце ўвалілася ў рукі Цімашысе!

— Ето — кеб не гразко і не холадно хадзіць було к свайму зяцю! — Яўхім так гаварыў, так глядзеў на ўсіх, што Ганне падумалася: лічыць — ён тут самы жаданы, самы важны, гаспадар і Бог!

— От, няхай табе, Яўхімко... — не магла супакоіцца мачыха, — што ты хочаш — няхай усё будзе. За тваю такую дабрату... — Яна паглядзела на боты, жаласна скрывілася, засмаркалася і раптам палезла к Яўхіму цалавацца. — Кеб табе ўсяго було добрага — вазамі. Кеб удача вялася, не пераводзілася...

Калі Яўхіма павялі да покуту, яна бегла побач.

— От тут... От тут, Яўхімко, зяцёк ты мой залаты!.. Тут тваё мясцечко!.. А тут — буяры твае!..

Яўхім сеў за стол, скамандаваў:

— Буярыгусары! Наша пазіцыя, кажуць, тут! Садзіся!

Ганну з дружкаю пасадзілі за другі стол. Як толькі паселі, барадаты Пракоп наліў чарку гарэлкі, і за сталамі, і не толькі за сталамі — у парозе, каля печы, дзе тоўпіліся цікаўныя, нават за шыбамі, да якіх плюшчыліся твары, ураз прыціхлі: усе ведалі — зараз будзе не абыякое відовішча!

— На талерку, на талерку пастаў!.. — пачулі ўсе ў хаце Сарочын шэпт. Сарока шмарганула свата за рукаў.

— Не трашчы! Сам знаю! — вырваў ад яе рукаў, аб'явіў уголас Пракоп.

Сарока закапыліла губы, пакрыўджаная, злосная. Пракоп жа паставіў чарку на талерку і няўклюдна, з важным выглядам паднёс да Ганны. Чуючы на сабе позіркі многіх людзей, Ганна, як у даўно завучанай ролі, паклала на чарку хустачку. Усе, хто сядзеў за сталамі, стаяў у парозе і за вокнамі, добра ведалі, што і як павінна быць далей, але сачылі з пільнай увагай. Жыццё ў людзей было не надта багатае на падзеі, на ўцехі — усе нязводна глядзелі, як Яўхім узяў хустачку, як выняў з пінжака, паклаў на талерку грошы. «Цэлыя тры рублі!» — заварушыліся, зашапталіся многія.

Ледзь не ўсіх здзівіла, што Ганна ўзяла такія грошы абыякава, быццам гэта былі не тры рублі, а нішто. «Бач ты, ганарыстая качка, шчэ й не пажаніліся, а ўжэ — як багачка!» —асудзіла маладую Сарока.

Сарока сачыла за ўсім не так, як іншыя, яна цікавала, нецярпліва прагнула: восьвось прыйдзе момант, калі яна пакажа сябе! Але і недарэка Пракоп і Ганна, быццам назло ёй, рабілі ўсё як трэба: узяўшы грошы, маладая ўзяла потым і чарку і выпіла.

Як толькі выпіла чарку гарэлкі Ганніна дружка Маруся, мачыха выштурхнула наперад к сталам разгубленага, напалоханага Хведзьку, які, апынуўшыся перад людскімі позіркамі, стаў дзікавата азірацца — яўна хацеў шмыгануць у сенцы. Столькі казала, вучыла маці, што трэба рабіць, як прыйдзе яго пара, а выйшаў — ураз забыў усё.

— Хадзі ка мне! — пазвала яго Ганна. — Вазьмі за руку.

— Ідзі, ідзі! Не бойся, браток! — падскочыла да Хведзькі Сарока. — Вядзі к сталу маладога, кеб — даў залатога!

Хведзька азірнуўся на сенцы, падумаў трохі, неахвотна паслухаўся, узяў руку, якую падала Ганна. Глянуў, куды ж весці?

— Туды, да сватоў! — шапнула брацiку Ганна, пайшла к Пракопу і Сароцы, якая ўжо важна сядзела за сталом.

— Скажы, кеб заплацілі за маладую! — не ўтрывала, памагла маці. Хведзька выціснуў:

— Заплаціце... за маладую...

Страшны, як лясун, Пракоп паклаў яму ў далоньку вялікі важкі кружок: гэта быў пятак. Хведзька зацікавіўся, паднёс далоньку з кружком да твару, не адразу і заўважыў, што на яго забыліся. А калі заўважыў — як птушка, перад якой адчынілі дзверы, нырнуў у сенцы...

Пасля таго як бацька і мачыха благаславілі маладых на вянчанне, пад віск дудкі, плач гармоніка і буханне бубна Ганна і Яўхім выйшлі на двор. Ганне кінуліся ў вочы музыкі ў лапцях, аблепленыя гразёю да кален...

Было, як і раней, ветрана, хмарна, нібы збіраўся дождж.

— Трэба ж — столькі гразі нарабіло! — сказаў бацька і заспяшаўся к коням. — Бліжэй падгані! К самаму ганку! — крыкнуў ён хлопцу, які трымаў лейцы.

Ладаваліся ў царкву трыма вазамі: на першым Ганна з дружкамі, на другім Яўхім з братам Сцяпанам і дружынай, на апошнім — Пракоп і Сарока. Трэба было выпраўляцца ўжо, а працэсія не краналася: музыкі, якім трэба было ісці за сяло пешкі і перад вазамі, азіраліся на вазы, тапталіся. Цераз некалькі крокаў холадна паблісквала лужына — па калена, не менш...

— Чаго сталі?! — весела крыкнуў Яўхім. — Не бойцеся! Не патонеце!..

Ён зарагатаў. Пад гэты рогат музыкі асмялелі, зайгралі марш і, хоць без ахвоты, але і без скаргі, пацягнуліся к лужыне. Абавязак ёсць абавязак...

Добра, што хата была край сяла: вуліца, дзякуй Богу, нарэшце скончылася. За сялом неўзабаве дарога пайшла не такая гразкая, цвярдзейшая, і да таго ж тут музыкам — па закону — можна было ўжо сесці на воз. Яны з радасцю і палезлі да сватоў.

Цяпер, як і трэба, паехалі наўскач, з галёканнем, са звонам, аж гразь ляцела знад капытоў, знад калёс.

Імчалі нядоўга. За цагельняй прыцішылі коней, з’ехалі на грэблю. Хоць было гразка, вазы спачатку ішлі цвёрда, лёгка, адно падрыгвалі дробна. Што б там ні казалі, добрую грэблю намасцілі. Шкода толькі, не дарабілі...

— Ну, памагай Бог! — крыкнуў Яўхім, калі першы, Ганнін воз, хістаючыся на нявідным ламаччы, уехаў у балотную гушчу.

Але Бог не хацеў памагаць. Неўзабаве штосьці пад возам хруснула, і ён асеў так, што дружкі з крыкам паўскоквалі —гразь была пад самымі драбінкамі. Восьвось на сена, на сядзенне

ўспаўзе. І да ўсяго — коні сталі. Як ні гразіўся, ні сцябаў іх скураной пугай паганяты, як ні пяліся яны, ашалела водзячы вачыма, воз не кранаўся.

— Эй, чаго там?! Расселіся!.. — крыкнуў дружкам Яўхім рагочучы. — Скакайце на зямлю! Памагайце!

— Сам саскочыў бы, такі добры! — адгукнулася за дружак Ганна.

— Мне! — няможна! Я — малады!..

— От і пасабіў бы — маладой сваёй!

Яўхім раптам весела ўстаў, выпрастаўся:

— Ето — праўда! Маладой пасабіць трэба!.. Праўду сказала!..

Ён, як быў, у паддзёўцы, у наваксаваных хромавых ботах, скочыў у гразь. Грузнучы ледзь не да пояса, пераваньваючыся, з гарэзнай усмешкай рушыў да Ганны.

— Маладую трэба выручыць з бяды!

Ускочыў у гразь ён, адчувала Ганна, таксама з форсу: няхай, маўляў, глядзяць, бачаць усе, які ён, — і ўсё ж учынак гэты, смеласць яго, адданасць узварухнулі, усцешылі.

За Яўхімам улезлі ў гразь Сцяпан і яшчэ двое.

— Ану — узялі! — загадаў Яўхім паганятаму, таварышам сваім. Ён паспрабаваў падняць воз ззаду, штурхнуць наперад. — Узялі! Раз, два!

Ганна ўбачыла блізка закаханы, гарачы позірк яго, зірнула мякка, удзячна. Ён рабіў гэта для яе, ён і не такое гатоў быў зрабіць для яе, абы толькі было трэба, як бы пабачыла Ганна. Форс яго — толькі для віду, для другіх, дробязь.

Воз нехаця вылез з ямы, асеў у другую, нахіліўшыся так, што, здавалася, траха не перакуліўся, вылез і з гэтай, і з трэцяй; і ўвесь час, пакуль не кончыліся гэтыя ямы, Яўхім ішоў услед, памагаў.

Цягнуліся па грэблі доўга, хоць алешніцкія хаты на нізкім чорным пагорку за хмызняком былі, здаецца, рукой падаць. Халодная, ліпкая твань абапал грэблі, голая, панурая шчэць хмызняку быццам трымалі пры сабе, не хацелі пускаць, адступалі марудна, неахвотна.

Калі выпаўзлі на сухое, спыніліся, пасаскоквалі з вазоў. Жмутамі сена, што выцягвалі зза драбінак, сціралі гразь з конскіх жыватоў і ног, з калёс, чысціліся, прыбіраліся самі. Яўхімавы хлопцы, хто сам не вельмі вырабіўся ў твані, з рогатам завіхаліся каля Яўхіма: здымалі боты, выкручвалі анучы, абціралі штаны.

— От дак жаніх! — чулася адтуль іржанне. — Самой Захарысе ў пару! І тая спужалася б!..

Ганне таксама было клопату: хоць пераседзела грэблю на возе, фарбаваную світку і андарак гразь пабіла, нібы шротам...

— Ето ж трэба, штоб так разліло! — здзіўлялася Сарока. — То мароз, снег, то гразі — па вушы! Траха не патапіліся душы!

У сяло ўехалі, як і трэба ўязджаць у сяло маладым, важна, урачыста. Яўхім наказаў — каціць так, каб зналі нашых! Музыкі, якія зноў мясілі наперадзе ў лапцях, як толькі падышлі да першых хат, далі такога зыку, грукату, што алешнікаўцы, хто ў чым быў, умомант высыпалі на вуліцу, як на пажар. Старыя, малыя, тулячыся каля платоў і варот, разглядвалі працэсію, гаварылі штосьці адзін аднаму. Найбольш гаварылі, мусіць, аб ёй, і Ганна чула сябе няёмка, як у Куранях, калі гулялі змовіны. Зноў былі ў душы сорам, вінаватасць, нядобрая, няясная трывога...

Недалёка за паваротам завіднеўся пад бляшаным дахам папоўскі дом, за якім, трохі ўбаку за хатамі, ускрай поля, забялела сценамі, зазелянела купаламі і паддашкамі акружаная частаколам і голымі бярозамі царква. Чым бліжэй пад'язджала Ганна вуліцай, прысадамі да гэтай царквы, тым трывожней, цяжэй станавілася ў яе на душы.

Перад царкоўнай агароджай коней спынілі, і маладыя і ўсё іх акружэнне пайшлі к царкве па ўтаптанай дарожцы пешкі. Калі Ганна ступіла за агароджу, трывогу яе раптам, як у вечар пасля змовін, пранізала пякучае джала шкадавання аб тым добрым, дарагім, якое яшчэ нядаўна не толькі не берагла, але і не заўважала. І якое заўважыла, пачула так позна. Перад тым, як страціць. Ступіўшы на ганак, яна мімаволі прыпынілася: так захацелася стаць, пачакаць, адцягнуць тое, што павінна было зараз адбыцца, павінна было палажыць мяжу між ёй і ўсім мінулым, не пражытым яшчэ, дарагім. Так хутка і — назаўсёды!

Але ні стаяць, ні чакаць нельга было. Ззаду, збоку тоўпіліся людзі — дружкі яе, Яўхім, дружына яго, Сарока, Пракоп, алешнікаўцы. Яе, нібы вада дрэва, несла гэта людская плынь у пройму дзвярэй. Проста перад ёю, паблісквaючы пазалотай, чырвона свяціліся алтар, абразы, лампады. Ганна ўбачыла бляск рызы і перавяла позірк на бацюшкаў твар: стары глядзеў насустрач, здалося, пранізліва, строга, быццам бачыў, ведаў усё.

«Што ж я? Грэх жа! Грэх! Божа мой!..» — апомнілася, схамянулася Ганна і вінавата, хутчэй пайшла к бляску рызы, к строгаму позірку.

Цяпер яна ўся поўнілася паслухмянасцю і пакорай, той пакорай, якая брала яе ў сваю ўладу тут заўсёды з тых даўніх часоў,

калі ўпершыню прывяла яе сюды, маленькую, палахлівую, нябожчыца маці. Паслухмянасць, страх, пакора, што перад гэтым бляскам і таямнічасцю ўвайшлі ў яе ў той дзень, так і засталіся ў Ганне на ўсе гады: няхай не такія моцныя, як у маленстве, але ўсё ж жывыя, неадступныя.

Са звыклай тут паслухмянасцю рабіла яна ўсё, што трэба было, чула, ловячы кожнае слова рудога алешніцкага старасты і бацюшкі, — сачыла без думак, як увішная Сарока з Пракопам рассцілаюць скрутак палатна на падлозе, кладуць на яго два пятакі. Па знаку рудога алешнікаўца пакорліва стала побач з Яўхімам правай нагой на манету, зняла свой персцень. Бацюшка, на твары якога ад варушэння святла маршчыны то амаль знікалі, то вырэзваліся крывымі глыбокімі раўчачкамі, даў ёй запаленую свечку, якая мігала і чадзела, і Ганна стаяла, як скамянелая, пакуль ён перад Богам і святымі, што блішчалі, сачылі адусюль, надзяваў Яўхімаў персцень ёй на палец, а яе персцень — Яўхіму. З усяго, што было тут, гэты момант здаўся ёй як самы важны. Яўхімаў персцень, які яна добра чула на пальцы, быў як знак, што паказваў яе новае становішча.

«От і ўсё. Ужэ — чалавек мой, а я — жонка яго...» — ясна прайшло ў яе галаве. Гэтая думка цяпер не выклікала ўжо ні трывогі, ні шкадавання, Ганна пачула нават дзіўную палёгку. Столькі думала, трывожылася, а яно — вось прыйшло, адбылося, і ўсё стала на сваё месца. Адбылося, як у людзей, паБожаму, і думаць няма чаго...

З гэтай палёгкай, бяздумная, спусцелая, ехала яна, прабівалася цераз грэблю назад, аж пакуль пад віск і буханне марша не сышла каля сваёй хаты, перад якой ужо стаяў на двары стол. Калі яна ішла побач з Яўхімам між натоўпу, які ціснуўся, варушыўся абапал, позірк яе неспадзеўкі наткнуўся на Валодзьку, Васілёвага брата, які глядзеў на яе, здалося, нядобра, бязлітасна. Яна на міг зірнула на яго з увагай, убачыла, што ён проста зніякавеў, аказаўшыся перад людзьмі, таму і глядзіць спадылба, — і ў той жа момант пачула, як няпрошаныя, кінутыя ў царкве шкадаванне, трывога зноў упаўзлі ў душу.

Дружкі быццам зразумелі гэта, быццам заглушыць трывогу яе хацелі — заспявалі ахвотна, голасна:

Выходзь, матко, з свячамі,
Пазнай дзіцятко між намі...
Мы тваё дзіцятко звянчалі...
А цяпер выходзь, матухно, проціў нас
Да вітай кубачкам усіх нас.

Да пытай донечку, дзе була...
У Божым доме — не твая,
Госпаду Богу прысягла,
Яўхіму ручаньку аддала...

Ганна спачатку амаль не чула, што спявалі дружкі. Дайшло толькі апошняе: «...госпаду Богу прысягла, Яўхіму ручаньку аддала», — дайшло, адазвалася такой скрухай, што ў горле зашчымела.

«Яўхіму ручаньку аддала!..»

3

Калі маладыя з дружкамі, са сватамі, са сваякамі ўціснуліся ў хатнія дзверы, мачыха забегала, залямантавала:

— Маладыя нашы! Жанішок наш дарагі! Сваточкі, госцечкі!.. Сядайце, паспытайце, чаго Бог прыслаў, чаго з яго міласцю прыдбалі!.. Кеб пасядзець разам, пачаставаць з такой радасці!..

— Сядайце! — ціха сказаў і Ганнін бацька.

— А чаго ж — і сядзем! — весела абвясціў Яўхім. — Мы — не ганарлівыя, можно сказаць, для етаго і прыехалі!

Іх пасадзілі разам, Яўхіма і Ганну, на покуце. Госці яшчэ доўга тоўпіліся ля лавак, залазілі за сталы адзін за адным, рассаджваліся. Плёўся жвавы, радасны гоман са смехам, чулася, быў у хаце той настрой, які звычайна прыходзіць перад гульбою, гарэлкай, добрай ядою. Мачыха, гаманлівая, памаладзелая, прыгорблены, задуменны бацька пайшлі з бутэлькамі паўз сталы, пачалі наліваць карцы, шклянкі, пазычаныя аж у Міхалеве далікатныя чаркі.

— Штоб шчасце маладым було! — сказаў Пракоп і грозна ўзняў карэц к чорнай барадзе.

— Кеб пілася і елася, кеб було ўсяго, чаго хацелася!..

Яўхім выпіў зразу, перакуліў карэц, няхай бачаць — да дна. Ганна ж, як бы штосьці перахапіла горла, ледзь прыгубіла.

— Усё трэба! Да канца! — першы заўважыў, крыкнуў Яўхім. Усе ўраз зашумелі, падтрымалі яго:

— Да канца! Усё!

І прыйшлося паслухацца, перасіліць сябе. Потым ускочыла Сарока, паспытала нібы гарэлку, скрывілася, як ад палыну, стараючыся перакрычаць усіх, заявіла, што піць не можа, бо гарэлка горкая, і людзі, душачыся ядою, заверашчалі, загулі:

— Горкая! Горкоо!

Яўхім зухавата ўскочыў, пацягнуў Ганну. Яна ўбачыла перад сабой зноў пачырванелы, задаволены твар, зноў нібы падмазаныя маслам гарэзныя вочы. На плячах яе быў моцны, упэўнены поціск далоні...

Калі апусцілася на лаўку, пачула, што ў галаве пачынае шумець. Але закусваць не стала, не хацелася. Стомленымі вішнёвымі вачыма паглядвала на гасцей, не магла адагнаць зноў адчування, быццам бачыць усё ў сне. Людзі за сталамі пілі, елі, як згаладалыя ў полі, чамусьці амаль не гаманілі, а крычалі, аж дрыжалі шыбы.

— Яўхімко, зяцёк мой даражэнькі, — завіхалася каля маладога мачыха. — Пі і закусвай, чым Бог паслаў! Не грэбуй, Яўхімко, калі што якое ненарокам... Чым багаты, тым і рады, са ўсёй душы стараліся... Кеб усё добра було, кеб не горай, як у другіх людзей... І вы, госцечкі, дружына, кумпанія ўся, піце і закусвайце, чаго каму хочацца!

— А мы і п’ём, і закусваем! — акідваў вачыма дружыну Яўхім. — Мы ету работу любім! Нам абы паболей — такой работы! — Яго прыяцелі дружна ржалі. — Толькі от — маладая чагосьці не есь, не п’е!.. — схіліўся Яўхім да Ганны.

— І так ужэ ў галаве шуміць, як у дождж, — сказала, апраўдваючыся, Ганна.

Бацька ўчуў, заступіўся:

— Няволіць не трэба! Кожны сам знае, сколькі каму выпіць! Сколькі хто можа, няхай столькі і п’е. — Ён паспрабаваў адвесці гаворку ад Ганны, сказаў да Яўхімавых хлопцаў: — Каторыя могуць, няхай п’юць, не баяцца. Гарэлка, сказаць, не куплёная. Грошай не пераводзіў. Сам у кустах нацадзіў!..

— А едкая, ядры яе! Пячэ — горай за агонь! Ето не тое, што хвабрычная! — пахваліў Ганнінага бацьку Ларывон.

— А закуска — шчэ лепей! — падтрымала гаспадароў, помнячы пра свой абавязак, дружка Маруся. — Такое ўсё смашнае, і смажэнне, і пячэнне!

Дзяўчаты, жанкі дружна заківалі галовамі, сталі хваліць яду, мачыху, Ганну, бацьку — хваліць усё, што падабалася і што не падабалася. Ганна слухала гэта без уцехі, ведала — хваляць больш таму, што так трэба ў гасцях. Ды і чаго дзівіцца: многім перабіраць вельмі не было ад чаго — дома картопля з расолам за шчасце...

Людзі п’янелі, і крык за сталом усё мацнеў. Мачыха ўжо не паглядвала з непакоем на сталы, на гасцей, не гадала — хопіць ці не хопіць, — хадзіла няроўна, піла і ела з усімі, падавала,

што толькі было. Ганна бачыла, як яна падыходзіла то да адной, то да другой, прыўзнімала доўгі андарак, паказвала Яўхімавы боты, якія былі ўжо на яе нагах.

— Самы раз! Як на мяне шыты! — хвалілася яна Марусі. — А шкура — памацай, — прасіла яна і, калі Маруся мацала халяву бота, гаварыла радая: — Шкура — цупкая, вырабленая! А падошвы — як зялезныя!.. На ўвесь век хопіць! Хоць кожны дзень насі, не зносіш!..

Але гэтага было мала, шчасце яе павінны былі бачыць усе — выйшла на сярэдзіну хаты.

— Глядзіце! Глядзіце — які падарак зрабіў мне Яўхімко!.. — Яна павяла вачыма, поўнымі шчасця і слёз, у бок Яўхіма: — Зяць мой, залатая душа!

Бацька ўзяў яе за руку, хацеў адвесці ў куток, далей ад бяды, але яна не паслухалася, адхінулася ад яго, павярнулася кругом, каб бачылі з усіх бакоў — якія боты!

— От прыдбала зяцька! — У шуме і гомане гасцей мачыха, размазваючы па твары слёзы шчасця, пайшла да Яўхіма, абняла: — Азалаціў ты цешчу сваю, Яўхімко!.. Век не забуду!.. Такія чобаты!

— Насіце на здароўе, мамо! — голасна і таксама задаволена сказаў Яўхім. — А парвяце — новыя падару! Насіце, не шкадуйце!..

Ён быў сп’янелы, але трымаўся яшчэ моцна. Між усіх, хто сядзеў поблізу, ён, здаецца, і піў, і галёкаў найбольш. Ён і тут чуў сябе самым важным, самым дужым — як бы хваліўся тым, што піць і крычаць можа без канца...

Калі сталі сварыцца прыпеўкамі сваты і дружкі, Ганна неспадзеўкі зноў убачыла Васілёвага брацiка. Ён, аказваецца, быў ужо ў хаце — сядзеў з Хведзькам на прыпечку і глядзеў і слухаў — зноў, здалося Ганне, хмурна, не падзіцячы сур’ёзна. Ён, мусіць, адзін не рагатаў, чуючы, як дружкі на чале з задзірыстай, звонкай Марусяй кпілі, здзекаваліся са сватоў:

Наш сваток не ўмее ля стала стаяці
Дай з дружкамі размаўляці.
Ідзі ў места ды купі сабе мыла,
Штоб жонка любіла!
Штоб дзеці пазналі
Дай бацькам назвалі!

Ганна сачыла за малым з вінаватасцю і пяшчотай, глушыла ў сабе жаданне падысці да яго — пачаставаць, пагладзіць

галоўку, сказаць штонебудзь добрае, ласкавае. Як ні туманіла галаву сп'янеласць, помніла — усе ведаюць, што было ў яе з Васілём, і пяшчоты з яго брацікам асудзяць...

І ўсё ж жаданне падысці да малога не адступала, не хацела слухацца развагі. Сп'янелай, ёй так цяжка, проста немагчыма было адагнаць раптоўную спакусу. «Пайду — бы да Хведзькі... Скажу штонебудзь Хведзьку, а тады — яму... Бы ненарокам...».

Яна ўзнялася, пастаяла трохі каля печы, прытуліўшыся спінай к пабеленай сценцы. Стаяць было нялёгка: падлога хадзіла, як плыт на вадзе. Цяпер спявалі, кпілі з дружак сваты — на яе, Ганну, не глядзеў ніхто. Як яе і не было тут, як і не яе вяселле. І праўда, можа — не яе, сон толькі... Глупства якое — чаго толькі не прычаўпецца сп'яну!.. Не сон, не сон — прапіваюць яе! Не каго другога!.. Прапілі ўжо!.. Але, думаючы гэта, яна цяпер не трывожылася, не шкадавала ні аб чым, усё было абыякавае. Хацелася толькі аднаго — падысці да Валодзькі, дзіўнага сур'ёзнага малога, якога раней нібы і не заўважала.

Яна знайшла ў печцы некалькі коржыкаў, усхвалявана падала маломy:

— На, вазьмі, паспытай! — Ён не адразу ўзяў, хвіліну як бы думаў, браць ці не браць. — Белыя, марымоньскія! — Ганна не ўтрывала, пяшчотна правяла далонню па яго галаве. — У ты, беленькі мой!.. — Наказала абодвум: — Глядзіце ж, жывіце добра, дружненько!..

Ледзь толькі сваты і дружкі перасталі спяваць, за сталамі зрабілася вельмі сумна. Усё было з'едзена, гарэлкі не налівалі. «Як ні пяліся, не хапіло!..» — прайшло ў Ганнінай галаве. Мабыць, каб не даваць у ганьбу гаспадароў і не марнаваць людзей за сталамі, здагадлівыя сваты абвясцілі, што пара дзяліць каравай, але раптам заўважылі: прапаў дзесьці Ганнін бацька.

Мачыха неўзабаве вярнулася, хмурная, злосная, засіпела ціха Ганне:

— Сорам які! На ўсё сяло!.. П'яны — як Міця! — Яна чамусьці скрывілася ад плачу: — За ўсю маю ласку! За ўсё!.. Аддзячыў!..

— Дзе ён? — абарвала яе хліпанне Ганна.

— За прыгрэбнікам... На калодзе...

На дварэ было сыра, холадна і так цёмна, што, каб не цьмяны водбліск ад святла з вокан, не пабачыла б і ганка. Ганна пастаяла трохі, чуючы, як ад свежага ветру яснее галава, дужэе цела. Стараючыся не паслізнуцца, падалася цераз жоўтыя палосы ў

цемру. Бацька, ледзь відны, нават не варухнуўся, калі падышла. Быццам драмаў.

— Тато, вам пагано? — схілілася яна над Чарнушкам.

— А, Гануля! — Бацька пашукаў яе руку, лагодна ўзяў у сваю. Ён азірнуўся: — А етай, гадзюкі, няма?

Ганна здагадалася, пра каго ён пытае, сказала супакойваючы:

— Няма нікого... Пайшлі б вы, тато, дадому... Шукаюць там вас. Каравай дзяліць трэба...

— Падзелюць. Паспеюць... — Ён раптам нядобра, з болем гмыкнуў, прамовіў квола: — Ты помніш, дочачко, маці-нябожчыцу?

— Аге ж. Чаму ж не помню?.. Хадземце, тато. Холадно — прастудзіцеся шчэ, не дай Бог.

— Не даждалася. — Ганна пачула ў бацькавым голасе пякучыя слёзы. — Не пабачыць, не паплача...

— Не трэба, тато.

— Ці ж я вораг дзіцяці свайму, дочачко?

— Не вораг, тато. Але не трэба вярэдзіць сябе. Усё добра будзе...

— Добра? — Ганне здалося, што ён паслухаўся, паспакайнеў. Але праз момант ён забедаваў зноў: — Ой, дочачко ты мая! Ганулечка!.. Пабачыла б усё нябожчыца!..

— Не трэба, тато. Усё добра будзе. Ето вам толькі здаецца так. Выпілі вы трошкі лішне...

— Шкода мне цябе вельмі!..

— І я вас шкадую, тато. А толькі не думайце нічога паганаго. Усё добра будзе... Ці ж вы не знаеце сваю Ганну?

— Знаю, знаю, а — толькі...

— А знаеце, дак не бойцеся... І не журыцеся, бо мне маркотно будзе. Чуеце?

— Чую. Не буду! — Бацька пусціў яе руку, выпрастаў плечы.

— Будзьце вясёлы, штоб і мне было весела. І ўстаньце. Людзі ждуць, нядобра. Дайце я прыбяру вас трохі... Хадзем.

— Хадзем, дочачко.

Гаворка з бацькам зноў нагнала на Ганну сум, але яна і знаку не падала нікому на тое, што затаілася ў душы, увайшла ў хату спакойная, нават вясёлая, лагодна трымаючы за руку бацьку.

— Нядобра штосьці стала яму, — сказала гасцям. — Гарэлка, мабуць, не ідзе...

Бацька стрымаў свае слова: на мачыху глядзеў мірна, бедны падарунак, на які толькі і наскраблі грошай — картовыя штаны

ў пасачку, — даў маладому ветліва, зычліва. Кіўнуў згодна, калі мачыха дадала:

— Чым багаты, Яўхімко, тым і рады. Не пагневайся.

— Мне вы і так падарылі! Усім падарункам — падарунак! — Яўхім узяў Ганну за стан. Як ён, відаць, і хацеў, вакол пачуўся смех.

Сарока ўставіла:

— От дак хвала бацьку і маці — ад разумнаго дзіцяці!

Яўхім схіліўся п’яна:

— І за етае, за штаны, дзякуваць! Спатрэбяцца!..

Толькі калі ўнеслі каравай і трое жанок, пастаўшы на лаўкі, узяліся здымаць з Ганны вянок і завязваць хустку, бацька зноў спахмурнеў, і губы яго смыкнуліся журбою і вінаватасцю. Ганна перахапіла позірк яго, весела, з любоўю ўсміхнулася, і ён паяснеў, нібы асветлены яе ўсмешкай.

Клапоцячыся пра бацьку, яна зусім не пашкадавала, што страціла вянок, знак сваёй дзявочай волі. Але весялосці, як ні старалася, хапіла ўсё ж ненадоўга, пакуль не падзялілі каравай. Пасядзелі для прыліку трошкі, і Сарока тонам знаўцы аб’явіла:

— От, папілі, пагулялі, пара і выходзіць. Пара ўжэ к другому дому — к суджанаму, к маладому!

Госці пачалі вылазіць зза сталоў хутка, ахвотна: наперадзе былі і лепшая гарэлка, і закускі ўдосталь. Але Ганна не чула крыўды на гэта, іншае падышло, зноў увяло ў душу жаль, трывогу: бачыла, бяруцца выносіць скрыню, везці к маладому.

От і настала пара ісці з дому, ісці зусім, назаўсёды. За старой дубовай скрыняй, што засталася ад маці, пойдзе і яна, пойдзе — і ўжо не вернецца ніколі сюды як у сваю хату, у свой прытулак. Іншая цяпер будзе ў яе хата, іншы прытулак — і іншая доля. Усё, што было дасюль, — добрае і злое — тут застанецца, у гэтым такім любым кутку. Не, злое тут не застанецца, злога тут, здаецца ўжо, не было нічога. Тут было ёй толькі добрае... А там — як будзе там?

## 4

Калі ехала па вуліцы, хоць старалася не глядзець, у цемры краем вока заўважыла: на Васілёвым двары — ціха, пуста. І хоць не ўбачыла нікога, хоць госці радасна, на ўвесь свет галёкалі, штосьці кальнула сэрца, як пры паглядзе на яго браціка, — вінаватае і жывое...

Ад гэтага ўсю дарогу амаль не чула, не прыкмячала нічога. Толькі і запомнілася, як — ужо на Карчовым двары — мусіць, прытка зляцеўшы з воза, Сарока паслізнулася і ўпала ў гразь, але не разгубілася, борздка ўскочыла, заверашчала:

Выходзь, свякрухо губата,—
Прыехала нявестка багата!..

Свякруха і свёкар, якія ўжо стаялі на ганку, добра відныя ў святле, што падала з хаты, запелі наперабой:

— Заходзьце... Заходзьце... Нявестачко мая... Людзі ўсе добрыя... Пад нашу страху... Заходзьце...

Глушачыха ўгледзелася ў Ганну, памацярынску пацалавала. Тады п’яная, расчуленая мачыха прыліпла да гаспадыні:

— Ой, сваццечко бо мая! Рыбачко ты мая!..

Ледзь Ганна, акружаная гоманам і тлумам, ступіла ў цяперашнюю сваю дамоўку, вінаватасць перад Васілём адразу прапала. Ганна раптам пачула сябе дзіўна няўпэўненай, нясмелай, ішла з асцярогай, паглядвала неспакойна, быццам баялася непрыемнай нечаканасці. Здавалася, нібы ступіла на кладку, якую невядома як прайсці...

Тут усё было такое непадобнае на яе родны кут: і роўная, ганарлівая печ, і далікатныя, з хітра выразанымі спінкамі, пафарбаваныя канапы, і пільныя багі, і халодная карціна за шклом з зялёнымі гарамі і жоўтымі цэрквамі, і дзіўны пах, цеплаваты, душны, што прабіваўся нават праз пах смажэння. Яна ўжо бачыла гэты пакой некалькі разоў: прыходзіла наймацца рабіць, прыносіла мяшок зпад пазычанага жыта — і кожны раз чула яна цеплаваты пах гэты, кожны раз брала яе тут нясмеласць, гняло неяк і хацелася хутчэй выбрацца на вуліцу, на волю. Можа, у гэтым вінаваты былі толькі непрыемныя згадкі, але і цяпер, хоць яна ўступала гаспадыняй, нясмеласць, даўкасць зноў дзіўна агарнулі яе.

Ганна заўважыла, што і другія «з яе рукі», хто ўваходзіў у хату, таксама прыціхалі, хутка хрысціліся на абразы.

— Заходзьце, заходзьце, людзі добрыя, — жвава тупаў, трос сухою галоўкай Глушак. — Світы от тут павесіць можно, на кручкі. Ці от на лаўку кладзіце...

— Каля печкі на палаці можно, — памагала Глушачыха. — Кладзіце, кладзіце...

— І не тапчыцеся, як у гасцях. Туды бо к сталам адразу... Заходзьце, садзіцеся... Усё даўно гатово ўжэ... Ідзіце...

— Аге, заходзьце і садзіцеся. Дзе каму лепей, спадобней...

Але людзі не ішлі, тапталіся каля дзвярэй, каля сцяны, як бы чакалі яшчэ нейкай каманды ці прыкладу якойнебудзь адважнай галавы.

— Садзіцеся, пакуль просяць, — выступіў раптам не заўважаны спачатку ў агульным тлуме Дубадзел, што стаяў каля акна на вуліцу. Ён стаяў, раскарачыўшы цыркулем тонкія ногі, дробны, гарбаносы, у вайсковай гімнасцёрцы, акінуў мутнымі вачыма гасцей і, як у прэзідыум, упэўнена пайшоў за стол. Усе моўчкі сачылі за ім: начальства.

— А то, мабуць, гарэлка ўжэ ўсохла, — адразу падтрымаў яго Яўхім. — Ну, чаго стала, як усё адно ў гасцях, — зарагатаў, штурхнуў ён пад локаць Ганну.

— Праўда ж бо, будзьце ўсе як дома! — запела Глушачыха. — От глядзіце, як Андрэйко, — кіўнула яна на Крываротага.

— Словам, бярыце прыклад з уласці! — кінуў стары Глушак. — Ідзіце бо, сваток і сваццечко, да дзяцей сваіх.

— Авечка да ягнят, а курачка — да куранят, — уставіла Сарока.

Мачыха і Ганнін бацька паслухмяна палезлі за стол, за якім ужо ўладкоўваліся ў куце побач з Крываротым Яўхім і Ганна. Правёўшы іх крыху нібы пад вартай, пасадзіўшы Сароку і Ракопа, стары Глушак вострым каршунячым позіркам глянуў на іншых: людзі ўжо не тапталіся каля дзвярэй, разыходзіліся, разбіраліся па лаўках.

Ганна сядзела на покуце ўсё з той жа нясмеласцю і насцярожлівасцю, якія не ападалі, не адступаліся, сядзела, амаль не варушачыся, нерухомая і прамая, як бы скамянеўшы, глядзела перад сабой. І так жа нерухома ляжалі на каленях яе рукі. Ад няёмкай, лішне прамой, нацятай паставы, ад нерухомасці чулася ёй у целе стома, але яна цярпела, трымалася так, як, вучылі яе, трэба было трымацца ў гасцях. Тут, у чужой хаце, у дзяржаве, дзе цараваў строгі Глушак, неяк асабліва адчувалася непарушная ўлада звычаяў і законаў.

Дзіўна, якія ўсе тут былі ціхія, паважныя, не толькі не крычалі, але амаль што і не гаварылі голасна, перашэптваліся ці найбольш маўчалі. Адзін Дубадзел трымаўся вольна — адваліўшыся на спінку канапы, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, аглядваў Ганну такім позіркам, што ёй было няёмка. Яна была, рада, калі ён адвярнуўся, заблукаў вачыма па гасцях.

— А ты, Глушак, не промах!.. — прамовіў Дубадзел, не пазіраючы на Яўхіма. — Дзеўка — з перцам!

— Хто? Мая?.. З перцам — угадаў! — Ганна пачула Яўхімаў смех. — Вока ў цябе — з аднаго пагляду заўважыў!..

— Угледзеў! Як зірну, навылёт бачу — што да чаго!..

Гаворка на гэтым перарвалася, бо падышоў Яўхімаў бацька з пляшкаю, стаў наліваць гарэлку маладым. Пасля Ганны Глушак намерыўся напоўніць шклянку Дубадзелу, але той узяў за пляшку, паглядзеў на фабрычную наклейку, паморшчыўся:

— Ты што мне, бацько, етую гарадскую? Як усё адно анцілігенту — упаўнаважанаму якому... — Ён чуў, што ўсе сочаць за ім, і ўжо гаварыў нібы не аднаму Глушаку: — Ты мне — свойскай, куранёўскага вырабу! Простай мне — як усяму народу!..

Дубадзел павёў вачыма па людзях, як бы чакаў адабрэння. За сталамі шумелі прыхільна.

— Нашай яму! «Кустоўкі» куранёўскай!

— Свой чалавек! Папростаму!..

Дубадзел улучыў момант, калі шум заціх, крыкнуў асцярожнаму Глушаку, які стаяў, вагаўся:

— Не бойся! Шабету не перакажу!

Грымнуў рогат. Яўхім сказаў са смехам:

— Дайце, тато! Не бойцеся! Чулі ж — кажа, што не перадасць у міліцыю!

5

Яшчэ да таго як Глушак управіўся наліць усім, Дубадзел падняўся, абцягнуў гімнасцёрку пад поясам, важна пакашляў у кулак. Яўхім крыкнуў:

— Ціхо! Улада хоча гаварыць!

Хоць адразу стала ціха, Дубадзел не спяшаўся гаварыць.

— Грамадзяне жыхары сяла Курані! — заявіў ён, вытрымаўшы належную паўзу. — На даным етапе, калі мы сабраліся тут у дзядзькі Глушака і сядзім за сталом, а таксамо тут сядзяць маладыя, каторыя ўступаюць тым самым у сумесную жызнь, — Яўхім Глушак і яго нявеста, а цяпер ужэ можна сказаць, яго законная жонка, — хоць яны і вянчаліся ў царкве, а не рэгістрыруваліся ў сельсавеце, як ето раяць савецкая ўлада і бальшавіцкая парція ўсім свядомым алементам... На даным етапе савецкая ўлада і парція прызывае ўсіх сялян, каторыя сваім мазалём робяць на зямлі, арганізоўвацца ў кааперацівы, а таксамо, каторыя могуць, і ў камуну — кеб, значыць, абагульніць усё разам: і землю, і коней, і курэй, і ўсё іншае, як у Вадавічах. А тых, хто шчэ не ўступіў і чэсно робіць на сваёй зямлі сам, савецкая ўласць і парція прызывае так рабіць і далей

і сплачуваць точно ў тэрмін падатак, не чакаць, як каторыя, напамінання і пены...

Выказаўшы гэту сваю дэкларацыю, якую госці слухалі хто з пачцівай, а хто з цярплівай увагай, Дубадзел момант перадыхнуў і вярнуўся зноў да маладых:

— А таму ад імя Алешніцкага сельсавета Юравіцкай воласці жадаю нашым маладым — Глушаку Яўхіму і яго нявесце, а цяпер жонцы Глушак Ганне, кеб булі здаровыя і жылі дружно і ў дастатку, як належыць па савецкаму закону! — Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але думка, мусіць, не далася, і ён раптам крыкнуў: — Адным словам — горко!

За сталамі ахвотна закрычалі ўслед за ім, і Ганна зварухнулася, паслухмяна ўстала.

— Кеб жылося і кеб вялося! — не прамінула ўставіць Сарока.

Старому Глушаку і прамова, у якой былі непрыемныя, асабліва ў такі дзень, напамінкі пра падатак ды камуну, і тое, што чужы чалавек улез, паламаў законны парадак за сталом, адпіхнуў яго, гаспадара, убок, не спадабалася, але ён прымусіў сябе змаўчаць і нават выглядам не паказаць нездавальнення. Хай чорт яго чапае, Крываротага гэтага: які ён ні ёсць, а ўлада.

Разважыўшы, Глушак нават падышоў да кутка, дзе сядзеў Дубадзел, пахваліў:

—Разумны ты чалавек, Андрэйко! Як сказаў, аж заслухацца можно. Калінін чысто!

— Калінін далёко, а ён — блізко, наш! — адгукнулася Сарока, цягнучыся чаркай да Дубадзела.

— Калінін хоць далёко, ды — галава! Над усім народам — галава! Усесаюзны стараста!

— І ты, Андрэйко, галава!

— Усім галавам галава!

Дубадзел не стаў спрачацца: мутным, важным позіркам прайшоў па тварах гасцей, запыніўся на Ганне. Глушак падліў яму ў шклянку і сказаў да ўсіх:

— Тут сядзіць у гасцях наша савецкая ўлада. Андрэйко, таварыш Дубадзел — наш алешніцкі Калінін... Дак кеб ён буў жывы і здаровы!

Глушак ужо ўзяў да губ шклянку, ужо госці зашумелі: «Кеб буў жывы і здаровы!» — калі Дубадзел ускочыў, крыкнуў:

— Няхай жыве змычка горада з сялом!

Пад гул і крыкі адабрэння ён уліў у сябе поўную шклянку самагонкі, паставіў шклянку дагары, нібы паказваючы, як трэба піць за такую вялікую справу, — да кропелькі. Дубадзел

не паморшчыўся, не адразу стаў закусваць, павёў на Ганну задаволеным, ганарлівым позіркам.

Ён быў нецвярозы, яшчэ заходзячы за стол, а цяпер, бачыла Ганна, хмель разбіраў яго больш і больш, і яго п'яныя позіркі выклікалі ў яе гідоту. Ёй і так было тут не вольна, не лёгка, а гэтыя позіркі дадавалі ёй няёмкасці. Добра яшчэ было, што хоць сядзеў ён не побач, за Яўхімам...

Але неўзабаве Дубадзел з п'янай адкрытасцю сказаў Яўхіму, каб Ганна села між іх.

— Не аднаму табе сядзець з ёй!..

— А мне што? Няхай і каля цябе пасядзіць! — Яўхім зарагатаў. — Я не раўнівы! — Ён загадаў Ганне: — Перасядзь сюды!

Ганна не адразу паслухалася. Думала спачатку, што не будзе прымушаць, зменіць усё на жарт, але ён маўчаў, і ў маўчанні яго чулася ўпартасць, злосць на яе непаслушэнства. Ён не збіраўся мяняць загад, чакаў, і яна перасела. Што ж, не свая хата, не вольная воля.

— Чаго не хацела перасаджувацца?

— А вам ето так важно знаць?

— Вы, бабы, любіце, кеб мужчына красівы буў?

— А вы не любіце красівых жанок!

— А таго не знаеце, што скалечыла мяне так за савецкую ўладу. Паляк шабляй ударыў пад горадам Баранавічы. Ясно?

— Чалавек кроў праліваў за савецкую ўладу!

— Правільно, Глушак!

Дубадзел памкнуўся да Яўхіма, задаволена, моцна ляпнуў яго — Ганна, як магла, адхілілася ад пляча, што ўткнулася ёй у грудзі. Ледзь прамаўчала.

Стары Глушак падліў гарэлкі, і Яўхім з Дубадзелам чокнуліся. Тады старшыня павярнуўся са шклянкай да Ганны, прымусіў і яе ўзяць чарку.

— Трэба піць! — заўважыў ён, што Ганна ставіць чарку на стол амаль не кранутую.

— Я выпіла, сколькі хацела...

— Усю трэба!

— А калі я — не хочу?

— Усё адно. Госцю гадзіць трэба... — не адставаў Дубадзел.

— Усім не нагодзішся. Гасцей унь сколькі, а я адна...

— І ён адзін, — заўпарціўся Яўхім. — Ён такі адзін — гірой і начальство!

— Ну, можа, і адзін. Дак хай і п'е сабе адзін.

— А я не хачу піць сам з сабою!

— Дак выпіце з цёткай Сарокай! Яна будзе рада!

— А ён хоча з табою! — гарачыўся Яўхім.

— Тады — калі яму так хочацца — няхай пацерпіць. Да другога разу.

— А ён цяпер хоча! — насядаў Яўхім, шалеючы ад яе ўпартай непакоры.

За сталамі ўсе прыціхлі. Якія ні былі п'яныя, пачулі — наскочыла каса на камень. Яшчэ не згулялі вяселля, а ўжо счапіліся, так счапіліся, што, відаць, і адзін не саступіць, і другая не паддасца. Глядзі, як набычыўся Яўхім, — яму і цвярозаму слова папярок не кажы, а цяпер, п'яны, — як рысь той. І яна ж — белаябелая, толькі вочы агнём гарацы!

— Выпі! — прасіпеў Яўхім.

— Не буду! — цвёрда сказала яна. Па тым, як сказала, чулася, што ні перад чым і ні перад кім не пераменіцца.

Дубадзел сам паспрабаваў уціхамірыць Яўхіма:

— Не хоча, ну, і няхай!.. Вып'ем удвух! — Ён сунуўся са шклянкай да Яўхіма, але той адвёў яго руку:

— І яна вып'е!

— Не буду!

Ганна раптам ускочыла, кінулася зза стала. Адразу ўзнялася мітусня. Адны абкружылі Ганну, якая рвалася з хаты, суцяшалі, супакойвалі, другія трымалі, угаворвалі Яўхіма.

— Волі багата бярэ сабе! — крычаў Яўхім. — Слухаць нічога не хоча! Падумаеш, паненка!

— Не буду я тут! Не хочу! — не слухала жаночых угавораў Ганна. — Дадому пайду! Дадому!.. Пусціце! Дадому!.. Дадому!

— Ціхо ты, ціхо, Ганначко! — лагодна сказала мачыха. — П'яны ён, п'яны. Выпіў, ну, хмель у галаву і пайшоў, замуціў. П'яны чалавек чаго толькі не нагаворыць!.. Выпіў, сама ж бачыш!..

— Працверазіцца — сам будзе нярады, — памагала ёй свякруха.

— Дадому! Дадому хочу! Тато, хадземце дадому!

— Ціхо ты, ціхо, Ганначко! Супакойся! Не ўбівай сабе ў галаву чаго не трэба!.. Усё будзе добра! Добра будзе, павер!.. — Мачыха зірнула на Ганнінага бацьку, які стаяў побач, гатовы любую хвіліну на падмогу дачцэ: — Адыдзі, без цябе разбяромся!.. Супакойся, Ганначко. Усё добра будзе!..

— Не хочу тут аставацца! Дадому хочу!

— На от выпі вады халоднай! Ці, можа, у сенцы пойдзем, астынеш? Хадзем, Ганначко, рыбко!

Калі вялі Ганну ў сенцы, мачыха супакоіла:

— Яшчэ не такое пабачыш. Усякае будзе пажыўшы!..

Маладых супакоілі, прымірылі, пасадзілі зноў разам, і рэшту вечара дагулялі як трэба, «па закону». Толькі калі госці разышліся і маладыя засталіся адны ў прыціхлай чыстай палавіне, перад шырокім, купленым к вяселлю ў Юравічах жалезным ложкам, Яўхім нагадаў спрэчку, але без злосці, згаворліва:

— Забываць бы трэба, што нічыя была. Мая цяпер, і слухацца павінна б. Не ганьбіць.

— Помніш, што я табе адзін раз казала? — прамовіла Ганна ціха: ёй здавалася, што да іх зза сцяны прыслухоўваюцца старыя Глушакі. — Што са мной трэба — кеб падобраму!

— Падобраму, падобраму! Ну і цаца ж ты! Як бы Бог знае, дзе расла!

— Дзе ні расла, а такая вырасла. Урода такая. І другая не буду!

— Дрэвы з гадамі мяняюцца, не тое што людзі. Рэчка вунь якія алешыны выварочвае!..

— Ты не рэчка, а я не алешына. Помні — хоць і жонка я, не сваёй воляй жыць павінна б, а толькі — штоб падобраму са мной!

Яўхім паглядзеў на яе — вось жа, скажы ты, упартая, яшчэ толькі ўвайшла, а ўжо камандуе, — але спрачацца не стаў, прымусіў сябе засмяяцца:

— Хопіць ужэ гаворкі етай! І так галава трашчыць! Лажыцца ж, можа, ужэ час?

У тую ноч, першую ноч замужжа, Ганна доўга не магла заснуць. Адсунуўшыся ад Яўхіма, адвярнуўшыся, стараючыся не чуць, як ён храпе, ляжала яна, спусцелая, стомленая, атупелая ад перажытага, ад нядаўняга гоману, ад самагоннага дурману. Ляжала ў душнай цемры, здавалася, забытая ўсімі, пакінутая, аднаадзінокая ў цэлым свеце.

«От і ўсё», — як бы прарываючыся праз туман, думала яна з такою тугою, нібы настаў канец свету. «Усё, усё, усё», — гаварылі, паўтаралі ёй бясконца ходзікі на сцяне. «Што — усё?» — губляла, намагалася яна зноў злавіць сэнс гэтага «ўсё» і часта не магла знайсці, вярнуць хоць якую яснасць галаве, якая поўнілася непадатным, нядобрым туманам.

«Усё адно. Рано ці позно... Ніхто не мінае... Прывыкну якнебудзь... Усе прывыкаюць, і я — таксамо...» — прадзіраліся часам у галаве важкія, цягучыя думкі, потым зноў усё прападала ў тумане і атупеласці.

На двары то адзін, то другі, то абодва разам звінелі ланцугамі, брахалі, вылі сабакі. Адзін — басавіта, паважна, другі — падзіцячы пісклява, але вельмі злосна, аж захліпваўся. Начныя старажы не спалі, пільнавалі Глушакова дабро, іх брэх сплятаўся з храпеннем побач, з храпеннем за сцяной, з мерным чыканнем ходзікаў — гукамі, якія ўвесь час напаміналі, што яна ў чужым доме, у чужым жыцці.

«Прывыкну, прывыкну... Усе прывыкаюць, і я — як усе...»

На трэці дзень, калі вясельны тлум сціх, свякруха разбудзіла яе яшчэ на досвітку і сказала:

— Ну от, пагасцявалі, пагулялі. Хопіць вылежвацца. Трэба свіней карміць!

Ганна слова не сказала, усхапілася, стала хутка адзявацца.

У канцы гэтага тыдня куранёўцы і алешнікаўцы, якія рабілі грэблю, нарэшце, сышліся. Грэбля была скончана. Роўная, шэрая, а там, дзе толькі што кончылі, жоўтая ад свежага пясочку, ішла яна між багны, між згалелага хмызняку ад нізкага куранёўскага берага да шырокага адхону перад Алешнікамі, як добры знак чалавечай моцы. Яна ўжо нідзе не перапынялася рудой балотнай тванню, твань мокла толькі па баках — адступіла перад грэбляю, перад чалавечым жаданнем.

Дзядзькі з абедзвюх вёсак, сышоўшыся, задаволена пакурылі, пагаманілі, разышліся кожны сваёй дарогай. Праз дзень, у нядзелю, на адхоне перад Алешнікамі сабраліся на мітынг. Народу сплылося столькі, колькі не заўсёды было і на юравіцкім пляцы ў кірмашовыя дні. Былі не толькі з Куранёў і Алешнікаў, але нямала і з Глінішчаў, і з Мокуці, і з іншых сёл. З Юравіч на тачанцы прыехалі на свята Апейка і двое рабочых.

Сярод натоўпу там і тут чырванелі весела сцягі. Ігралі два гармонікі, басавіта грымеў вялікі бубен. Людзі гаманілі, спявалі, жартавалі — людзям было весела. У гэтым натоўпе, можа, аднаго Васіля тачыла туга; разварушаны агульнай весялосцю, як сам не свой снаваў ён між людзей, мімаволі чакаючы ўбачыць Ганну. Дзіўнае чуў пры гэтым — і нібы хацеў пабачыць, і не хацеў, злаваў, баяўся. Ведаў, што ўсё з ёй кончана яму, а душа ўсё трывожылася, як бы спадзявалася яшчэ на штосьці.

Замест Ганны ўбачыў Яўхіма. Лепш бы не прыходзіў сюды Васіль. Сэрца заныла балюча, як убачыў Карча: стаяў Яўхім з Ларывонам вясёлы, рагатаў, увесь аж свяціўся шчасцем. Нават лакаваны чорны казырок, ссунуты набок, шчасліва зіхацеў. У такім настроі Васіль мала чуў, што гаварыў Дубадзел, які першы

ўзлез на прывезеныя калёсы, што былі замест трыбуны. Стаў слухаць толькі тады, як з калёс загаварыў Апейка.

— Дзядзькі і цёткі, хлопцы і дзеўкі! Дарагія нашы таварышы! Мы ўсе сягоння сабраліся тут, каля грэблі, як на свята... І праўда — хіба ж не свята: от ляжыць яна, роўная, сухая, новая грэбля — у дождж, у слату, зімой і ўвесну — едзьце па ёй калёсамі, ідзіце пешкі... Ідзіце — не будзеце не толькі што тануць па пояс, а і ног не замочыце... Не толькі мужчына, дзіця можа прайсці балота цяпер любой парою!.. Можна хадзіць у школу, можна ездзіць на кірмаш, можна ў госці — адзін к аднаму, абы зажадалася!.. Вялікая радасць — грэбля! І ўсе мы, уся воласць, радуемся з вамі і віншуем вас! — Апейка перачакаў гул задавальнення. — Грэбля гэтая звязвае Курані, якія па паўгода, можна сказаць, былі адрэзаны ад другіх сёл, з Алешнікамі, з Юравічамі, са ўсім светам. Цяпер Курані будуць заўсёды, як бы сказаць, у агульнай нашай сям'і... Але і для Алешнікаў грэбля таксама не абышто. Я не кажу, што цяпер дарога ў лес, на сенажаці стала ім бліжэйшая!.. — Людзі, алешнікаўцы, зноў загаманілі з ухвалай. — Грэбля гэтая звязвае разам сёлы, лясы, сенажаці. Звязвае людзей з людзьмі!.. Па такіх грэблях пойдзе ў нашы балоты, у нашу цемру святло, новае жыццё! Культура і дастатак!.. Кніжкі, кіно і трактары!..

Рабочы, што гаварыў за Апейкам, сказаў толькі некалькі слоў, потым разгарнуў чырвоны сцяг, на якім былі намаляваны з аднаго краю — жоўтае поле і жоўты трактар, а з другога — жоўтая труба з дымам. Між трубы і поля былі ў моцным поціску дзве рукі. Рабочы перадаў сцяг Дубадзелу, па знаку якога гармонікі каля калёс пад важкае буханне бубна зайгралі «Інтэрнацыянал».

Апошнім, ад Куранёў, стаў на калёсы Міканор. Ён сказаў, што беднасць і цемра закрываюць жыццё ў Куранях, як раска закрывае балота. Раска заўсёды чапляецца за балота, за ваду, якая не варушыцца, стаіць. Каб разагнаць раску, трэба разварушыць жыццё! І грэбля — гэта першае «вочка», першы пробліск у моры векавечнай раскі! Трэба, не шкадуючы нічога, не баючыся, варушыць балота, затхлае жыццё — і цемра, і раска назаўсёды прападуць. Будзе адна чыстая, светлая вада, светлае жыццё!

Міканор сказаў апошнія словы асабліва горача, можа, на ўвесь голас, і тым сапсаваў сваю прамову. Хоць ён яшчэ хацеў, было відаць, гаварыць, музыкі дружна ўдарылі марш — хочаш не хочаш, прыйшлося злазіць з калёс...

Калі ішлі назад, ужо ў самым канцы грэблі Васіль убачыў Міканора зноў, з Міканорам быў Хоня. Васіль здагнаў іх, па-

даўся побач. Ішлі доўга моўчкі, паглыбленыя кожны ў свае думкі. Круціліся белыя снежныя матылі, мякка дакраналіся да твару, раставалі. Раставалі пад нагамі людзей — уся дарога была пярэстая ад чалавечых слядоў.

Блізка ад цагельні Васіль не ўтрываў, мімаволі прабег вачыма па Глушаковай паласе. Заныла ў грудзях: ажыла, як незагоеная рана, трывожная ноч, надзеі яе і страхі, як бы зноў пачуў пад нагамі цёмную мяккасць свежай разоры. Вунь тое месца, дзе наляцеў на яго Корч, дзе счапіліся, качаліся. Дзе гразіўся яму чалавек з воласці... Грозьба яго пакуль так і засталася грозьбаю, а толькі ўсё кончылася на карысць Карчу...

Як знарок, усё напамінала Васілю ў гэты дзень пра крыўды, пра няўдачы.

— Грэблю от правялі! — прамовіў Васіль з папрокам. — А Корч як сядзеў на выгодзе, на лепшай зямлі, так і сядзіць!

— Што яна табе далася, етая яго зямля! — адгукнуўся Хоня.

— Што! Рассеўся, як рэпа, на добрай зямлі і — нігадкі! І ўпарадкаванне яму ніпачом! І не зачапі яго! Савецкая ўласць сама за яго!

— Савецкая ўлада тут не вінавата, — сказаў Міканор.

— А не сагналі ж!

— Сагналі б, кеб не ўлез ты!..

— Я — вінаваты! Найшлі вінаватага!

— Вінаваты! Еты Зубрыч з воласці, калі заікнуліся адабраць паласу ад Глушака, адразу ўрэзаў: злачынство — патураць беспарадку, разбою! Трэба вучыць паважаць савецкі закон!.. І аставілі Глушаку, як было!..

Міканор дадаў з роздумам:

— Усё адно — кеб і адабралі ў Глушака і аддалі каму другому — мало хто б парадаваўся. Крыўды було б усё адно багата. Усіх не задаволіш адным кавалкам етым, не сакрэт. От штоб да балота падступіцца, ды асушыць, ды раздзяліць!..

— Ат, слухаць няма чаго! Абы пачасаць язык!

— Ето толькі ў нас дзіво! Балото цэлае! Падумаць — і то страшно! Нам усё — страшно! Усё — выдумка!.. Нічого — прыйдзе пара!

Недалёка ўжо віднеліся прыцярушаныя сняжком, як бы не такія панурыя, як заўсёды, куранёўскія стрэхі.

— Ты б от Ганну лепей трымаў пры сабе! — зачапіў Хоня. — Такую дзеўку ўпусціў.

— Упусціў не ўпусціў — што з таго! Чаго мне було дзяржаць яе!..

— Як ето — чаго?

— А так — сам голы!.. Ды шчэ голую браць на шыю!..

— Ета, не сакрэт, на шыі не була б! — сказаў Міканор. — От дзеўка — што ўродаю, што рукамі, першая мо на ўсю воласць! Мяне аж зайздрасць брала, што яна з табою! Упусціў!

— Упусціў! — Васіль раптам ускіпеў. — Ну, упусціў! Што вам!

Міканор сумеўся: упершыню чуў такі сум, такі боль у гэтым маўклівым, недаверлівым хлопцу. Каб суцешыць, супакоіць трохі Васіля, сказаў вінавата:

— Нічога, можа, шчэ і не ўсё кончылася! У жыцці, не сакрэт, усяляк бывае...

Васіль не адказаў.

## У ЗАВІРУХУ

К. Чорнаму

Лютавала завея. Угары над Засмужцам у вершалінах дрэў глуха шумеў вецер і сыпаў на дарогу халодны пыл. Міма цёмнымі высокімі сценамі бясконца ішлі сосны, варушачы кашлатымі лапамі. Сціснутая соснамі з двух бакоў дарога безліч разоў паварочвалася, выпроствалася, і ўсюды, не перастаючы, вёў аднастайную сумную песню вецер:

— Ууууу!

Засмужцу здавалася, што не будзе канца гэтаму лесу, гэтай дарозе. Па яго разліках лес ужо даўно павінен быў скончыцца. Ён час ад часу з надзеяй падымаў галаву і пазіраў уперад, спадзеючыся ўбачыць поле, але там паранейшаму стаялі сосны.

Ён ішоў зморана, хістаючыся. Галава яго была звешана, і, калі б Засмужац не падымаў яе, можна было б падумаць, што ён на хаду спіць. Снег пластам наляпіўся на яго шапку і плечы. Ззаду Засмужца, на повадзе, таксама звесіўшы галаву, неахвотна плёўся конь. Сядло на кані пабялела ад снегу: коннік, было відаць, даўно ішоў пешкі.

Здалёк, скрозь густы гул сосен, прарваўся гук гарматнага выбуху — напамінак пра тое, што і ў гэтую ноч ішла вайна. Данесліся яшчэ некалькі выбухаў, потым стала ціха. Засмужац прыслухаўся — выбухі не паўтараліся.

Нечакана моцны парыў халоднага ветру шалёна кінуўся на Засмужца і штурхнуў назад так, што хлопец адразу спыніўся і адступіўся, каб устаяць. Конь падняў галаву, грыва на ім заварушылася. Засмужац вышэй нацягнуў каўнер шыняля і, калі расплюшчыў вочы, убачыў, што наперадзе між рэдкімі соснамі зашарэла. Гэта было поле.

Ісці стала халадней, — Засмужац то апускаў галаву, то адхіляў твар убок, каб схаваць яго ад ледзянога ветру.

Ледзь пачалося поле, ён спатыкнуўся і ўпаў у снег. Дарога абарвалася, далей яна была замецена тоўстай гурбай снегу. Засмужцу не хацелася падымацца з мяккай снежнай пярыны. Ён ціха, нерухома ляжаў, з асалодай адчуваючы, як у целе прыемна ные стома і цяпло, нібы пасля віна, разліваецца па яго руках, нагах, кружыць галаву. Хацелася спаць.

Засмужац не спаў другія суткі. На світанні ён ішоў па гэтай дарозе насустрач, у штаб арміі, з данясеннем ад камандзіра кавалерыйскай брыгады. Да штаба арміі было кіламетраў дваццаць ці крыху болей. Але ўсе дарогі і сцяжынкі былі так закіданы снегам, што дабрацца да яго ўдалося толькі за шэсць гадзін, дашчэнту змучыўшы каня і сябе. У штабе затрымалі нядоўга, не далі спачыць. Відаць, пісьмо было важнае, бо праз паўгадзіны яму ўручылі новы пакет і загадалі неадкладна ехаць назад. Калі ён выязджаў з сяла, ад стомы і бяссонніцы адчуваў сябе змарнела. У давяршэнне да ўсяго звечара разлютавалася завіруха.

Засмужац з вялікім намаганнем прымусіў сябе падняцца і пайсці па цаліку. Ногі правальваліся да каленяў. Потым ён адразу схаваўся па пояс,— ногі згубілі пад пластам снегу цвёрды грунт... Засмужац збочыў правей і зноў з палёгкай адчуў дарогу.

Неўзабаве сумёт скончыўся, агаліўся цвёрды, вылізаны ветрам шлях. Ісці стала лепей, ногі здаваліся лягчэйшымі і высока падніманіся. Толькі трэба было сачыць, каб не папасці ў санную каляіну, бо там было слізка.

Затым дарога зноў схавалася. Засмужац зноў блытаў — то губляў дарогу, то намацваў яе нагамі, лез, выбіваючыся з сілы. Хутка ён так звёўся, што спыняўся праз якіянебудзь трычатыры крокі, каб перавесці дыханне. За ўсе свае васемнаццаць год ён яшчэ ні разу не быў такі стомлены. Урэшце, калі ісці далей не хапіла сілы, хлопец сеў на каня. Гэта было каля адзінокага дуба са зламанай вершалінай, які ён запрыкмеціў, калі ішоў яшчэ першы раз. Дуб быў стары і такі шырокі, магутны, што Засмужац тады мімаволі прыпыніўся і аж свіснуў ад захаплення.

Каштан ішоў болей упэўнена, нейкім унутраным пачуццём адгадваючы дарогу. Але ён быў таксама змораны, часта спыняўся, натужна сапучы, і кранаўся далей з тупой жывёльнай упартасцю. Ад стомы ён хістаўся ў бакі, спатыкаўся. Потым, збіраючы апошнія сілы, пачаў ісці скачкамі. Засмужац пашкадаваў яго, злез з сядла і павёў каня на повадзе.

Весці каня стала цяжэй. Засмужац зразу пашкадаваў, што праехаў на ім гэтыя некалькі сот крокаў. У пачатку шляху Каштан ледзь не наступаў на пяткі і дыхаў яму на шыю; цяпер конь ледзь плёўся за ім: ішоў на тугім повадзе. Засмужцу прыходзілася не толькі ісці самому, а і цягнуць каня. Каштан часта спатыкаўся. Повад балюча рваў руку.

Засмужац зноў згубіў дарогу і ніяк не мог адшукаць яе. Ён правальваўся па пояс на кожным кроку, часам амаль поўз. Але ўпарта гробся далей. У гэтым цяжкім шляху яго падмацоўвала думка пра тое, што ён робіць баявое заданне, што ад яго залежыць лёс, можа, тысяч людзей. Засмужац трымаўся за яе, як за ратунак, і, каб не выпусціць, упарта паўтараў сам сабе: «Дайсці. Што б ні было — дайсці... Данесці пакет... Там мяне чакаюць». Па меры таго як расла стома, гэта думка рабілася аднастайнай, нібы ўціснуўся ў адно імкненне ўвесь сэнс яго цяперашняга жыцця: «Дайсці... Дайсці... Дайсці...»

Цяпер ён быў у нейкім забыцці ад нечалавечай стомы. Спатыкнуўшыся, ён упаў у снег і ляжаў колькі хвілін нерухома і маўкліва. Конь пастаяў крыху, пачакаў, потым занепакоіўся, шмаргануў повад раз, другі. Засмужац бяздумна павярнуўся і ўбачыў над сабою храпу каня: галава каня здавалася незвычайна вялікай. Каштан пазіраў круглымі вачыма трывожна і нецярпліва. Гэты позірк вывеў Засмужца з забыцця.

Ён павольна падняўся і палез уперад.

Раптам Засмужац перад сабою — крыху ўбаку — убачыў агеньчык. Ён не паверыў, з трывогай падумаў, што гэта здалося. Засмужац працёр вочы, але агеньчык гарэў.

Ён мігцеў, дрыжаў, вясёлы агеньчык. Ва ўсім свеце быў ён толькі адзін, а кругом, як і раней, трубіла бура. Але чалавек ужо нічога не бачыў, толькі гэты маленькі агеньчык. Яго ратоўны бляск трапіў у грудзі, і Засмужцу зрабілася цёпла і хораша, нібы на такой адлегласці перадавалася яго цяпло. Ён быў упэўнены: агеньчык гэты — у яго вёсцы,— яго мэта. Агеньчык быў такі блізкі, жаданы, мігцеў перад самымі вачыма, і Засмужац, грузнучы ў снезе, пабег проста туды. Ён болей не шукаў дарогі.

Перад вёскай яго аклікнулі патрулі. Засмужац узрадавана адказаў.

Калі ён ішоў да штаба, што быў пасярэдзіне вёскі, то ўбачыў некалькі дзіўных, чорных пустыроў. На адным з іх варушыўся, трапятаў агеньчык — гарэлі галавешкі. Дзенідзе, астываючы, воўчымі вачыма тлелі вугалькі. Завіруха круціла вакол іх пасмы снегу, хапалася закрыць сумную пустэчу халоднай беллю. На

чарнаце пажарышчаў добра былі відны чыстыя лапіны замеці і языкі сумётаў.

Пасля таго як Засмужац мінуў пажарышчы, да яго дайшла здагадка, што адзін з тых агеньчыкаў, напэўна, і свяціў яму. Весяліў і грэў у полі — агеньчык нечай бяды...

Перадаўшы пакет, Засмужац лёгкай хадой накіраваўся ў свой узвод. Завёў каня ў хлеў, у зацішку рассядлаў, падкінуў яму сена і ўвайшоў у хату.

У хаце прыемна пахла цёплым хлебам і напаленай печкай. Салдат весела прывітаўся з маладзіцай і доўга расшпільваў шынель. Замерзлыя пальцы не слухаліся. Жанчына, сумна сочачы за ім, паківала галавой.

— Дай дапамагу...

Яна лёгка сцягнула задубелы ад марозу шынель і ватоўку. Пад гімнасцёркай вызначыліся вострыя, неакрэплыя яшчэ плечы.

Ад нечаканага наплыву вясёласці Засмужац моцна абхапіў жанчыну за стан і прыцягнуў да сябе. Маладзіца нявесела паглядзела на яго стрыжаную галаву, на якой спераду смешна, па-дзіцячаму, тырчалі вожыкам серабрыстыя валаскі, паспрабавала вызваліцца.

— Пусці. А то мамцы тваёй напішу — наб’е,— паспрабавала яна пажартаваць.

— Кажы, кажы. Усё роўна не пушчу...

— От, на гэта сілы дык хапае! Пусці!

— Не пушчу!

Яму было весела, а чаму — ён і сам не ведаў. Засмужац па-дзіцячаму шырока засмяяўся і нечакана адпусціў яе. Усмешка, што цяпер не сыходзіла з яснаружовых шчок, з поўных лагодных губ, рабіла яго маладзейшым нават за васемнаццаць год. Цяпер цяжка было ўявіць, што зусім нядаўна гэты хлапчук з нечалавечай упартасцю прабіраўся праз завіруху.

Калі затым Засмужац сеў каля печкі, то адчуў сябе такім знябытым, што, здаецца, не змог бы скрануцца з месца. Але той вясёлы, радасны настрой, што невядома адкуль увайшоў у душу, заставаўся, хоць і крыху прыцішаны ад стомы. Ён з асалодай слухаў, як прыемна млее ўсё цела.

На хвіліну ён падумаў пра ўсё перажытае ў дарозе, і сам здзівіўся, што столькі здолеў вытрымаць. Каб яшчэ раз прыйшлося, ён, здавалася яму, не зрабіў бы і паловы таго, што раней. Але ён ведаў, што на сягоння ўсё скончана, што болей

не прыйдзецца. За акном лютавала завіруха, у коміне цягуча свістаў вецер — уууууу! — але Засмужцу радасна было чуць гэтую музыку. Цяпер усё — і вецер, і холад былі далёка.

Маладзіца выняла з печкі чыгунок і паставіла на стол. Запахла бульбай. Засмужцу было радасна сачыць, як над чыгунком падымаецца пара.

— Садзіся, кіслы. Зусім раскіс... Мужчына называецца!

Яна ўсміхнулася. Засмужац здзівіўся, як гэта ён раней не заўважыў, што ў яе такая харошая і шчырая ўсмешка. І ямачкі на шчоках прыгожыя, калі яна смяецца. І голас такі мілагучны і лагодны.

Жанчына паставіла кубак з малаком, Засмужац сеў за стол і пачаў вячэраць. А тая слала на падлозе пасцель — прывабліва шалясцела сена...

У Засмужца непераможна зліпаліся павекі, звінела ў галаве. Думкі варушыліся ляніва, часамі іх бязладна перабівалі то малюнкі сну, то малюнкі замеці... Зламаны дуб. Каламутнае поле... Агеньчык мігае... Ён паспрабаваў адагнаць сон,— нейкая надакучлівая думка неадчэпна, як сляпень, круцілася ў галаве. Засмужцу вельмі хацелася злавіць яе, а яна ніяк не давалася. Хлопец пачаў перабіраць думкі і, нарэшце, патрапіў на тое, што хвалявала.

— Ага... Дзе Казлоў і Бондар?

Казлоў і Бондар былі салдатамі з яго ўзвода і таварышамі на гэтай кватэры.

— Той ноччу на світанні як пайшлі... — уздыхнула жанчына. — Паклікалі іх на самым світанні, пасля таго як ты паехаў. Потым за сялом вельмі стралялі. І гарматы і кулямёты. У акне шыбы ледзь не павыляталі. Проста страх — так стралялі. Многа, кажуць, немцаў паклалі... Ды ты спі, Мікола. Паспі, пасля будзеш пытаць...

— І пра іх нічога не чуваць?

— Нічога... А ты кладзіся спаць... Нічога. Толькі Арсеніха казала, што і нашых лягло там. У Арсеніхі камандзір у хаце стаяў. Як бо яго прозвішча?

— Кандраценя.

— Не інакш Кандраценя. То яго забілі. Яна плакала, як па сыне. І яшчэ багата загінула. А Грышку таго рудога бачыла раненага. Уся галава ў марлях. Пра Бондара і Казлова пыталася, дык — не, кажа, не бачыў... Скінь боты, я прасушу іх...

Яна памагла яму зняць боты. Слала на печы анучы, калі стукнулі ў сенцах дзверы. У хату ўвайшоў Казлоў. Адзін рукаў

яго шыняля быў адрэзаны да локця. Рука да таго месца, дакуль адрэзаны рукаў, была забінтавана і вісела на марлевай касынцы.

— Што так гледзіцё? Не чакалі? А? Нечаканы госць!.. Здарова, салдат!.. Ну што, даплёўся?

— Выходзіць, даплёўся. І сам аж не спадзяваўся, што даграбуся. А дзе Бондар?

— Кепска з Бондарам... А Сіманава і Пятра забілі. Разведцы нашай дасталося больш за ўсіх. У нашым узводзе ты ды я ды мы з табой — чатыры чалавекі засталіся, а то ўсе раненыя. Я таксама ледзь не згуляў у скрынку, у Бога душу яго!.. Але і фрыцаў намалацілі — поле ўсё пачарнела ад трупаў. У такую пагоду палезлі. З імі гэтых дзіваў яшчэ не здаралася... Увогуле заўтра, кажуць, трэба таксама чакаць...

Засмужац спытаў, хто застаўся жывы, — імя за імем назваў таварышаў. Казлоў адказаў, і перад Засмужцам паступова маляваўся ўпарты крывавы бой, што прайшоў мінулай ноччу. Бой гэты маляваўся яму нейкім нячутным, нерэальным. Засмужац ніяк не мог адчуць мёртвымі тых, якія ўжо не жылі. Усё ж ранейшы бесклапотнарадасны настрой, хоць і нялёгка, змяняўся трывогай і прадчуваннем недалёкага бою. Яшчэ разам з гэтым, як дамешак, было глухое пачуццё няёмкасці за сябе, за тое, што ён цягнуўся недзе ў тыле тады, як тут біліся насмерць.

— Фрыцам вельмі не падабаецца наш клін. Ім ён што нож у сэрца. Наўрад ці астылі і цяпер... Але хай паспрабуюць! — пагрозліва прагаварыў Казлоў, здымаючы шынель.

Больш Засмужац нічога не чуў. Сон захапіў яго нечакана, адразу. Галава бяссільна ўпала на кулакі, пакладзеныя адзін на другі на стале.

Снілася — спакойна блішчыць Прыпяць. Засмужац узмахвае вёсламі. З вёслаў са звонам падаюць кроплі вады. А на карме, каля руля, сядзіць Галя, яго нявеста. Яна ў шаўковым белым плацці, на галаве вянок, што сплялі на лузе. Такая харошая, жаданая! Ён выпусціў вёслы з рук, пацягнуў Галю да сябе, каб пацалаваць, і нечакана пахаладзеў ад агіды. Гэта была не Галя, а немец. Той засмяяўся і выставіў губы для пацалунка. Раптам змяніўся з твару, нахмурыўся і штурхнуў Засмужца ў ваду. Смяротная стома скавала цела... Нехта схапіў яго, вывалак на бераг, валтузіў, каб вярнуць к жыццю. Засмужац чуў, як яго клічуць, і ніяк не мог падаць голасу.

Калі ён прачнуўся нарэшце, то ўбачыў, што сядзіць за сталом, а перад ім стаіць капітан, начальнік разведкі. Казлоў,

з рукой на марлевай падвязцы, неспакойна ходзіць па хаце і курыць.

— Ну і спіце ж вы, Засмужац!

— Што? — не даўмеў ён.

— Спіце, кажу, моцна...

— Здарожыўся вельмі, таварыш капітан.

— Разумею... Але спаць больш не давядзецца. Трэба адвезці пакет у штаб арміі. Вельмі тэрмінова, неадкладна.

— Таварыш капітан... — папрасіўся Засмужац.

— Ведаю, што змарыўся.

— Я проста больш не магу.

— Спачуваю. Але некага паслаць.

— Пашліце каго... Ну, Бондара...

— Памёр... ад ран.

Пры апошніх словах капітана Засмужцу раптам прыгадалася нядаўняя размова з Казловым, забытая таму, што хлопец усё яшчэ быў у паўсне. Капітан кіўнуў галавою на лаўку. Толькі цяпер Засмужац убачыў за спіною капітана на лаўцы цела таварыша. Яго прынеслі, калі Засмужац спаў. Трывожна і вінавата падышоў Засмужац да Бондара.

Капітан ступіў убок, і святло лямпы, якое загароджвала яго спіна, упала на нябожчыка. Бондар ляжаў на лаўцы, выпрастаўшыся, да грудзей накрыты шынялём, заплямленым закарэлай крывёю.

Засмужац некалькі хвілін стаяў, як скамянелы, не маючы сілы адарваць позірк ад твару таварыша. Рысы таго былі скрыўлены болем, выраз перадсмяротнай пакуты так і застыў на пабялелых, моцна сціснутых тонкіх вуснах, у напаўадкрытых цёмных вачах Засмужца ўзрушыў не столькі выраз пакуты, колькі нечаканы выраз гневу, які не магла сцерці нават смерць. Засмужцу здалося раптам, што Бондар зараз ускочыць і закрычыць яму: «Што ты яшчэ можаш патрабаваць ад мяне?! Як ты смееш звальваць на мяне?! І як ты можаш адмаўляцца пасля мяне!»

Засмужац ад неспадзеўкі спалохана выпрастаўся, падцягнуўся, як ад сапраўднага вокрыку. Стома адступіла. На яе месца прыйшлі туга ад сустрэчы са смерцю, страх і вінаватасць.

Ён быў мала знаёмы з Бондарам. Яны ўпершыню пазнаёміліся ўсяго некалькі дзён назад. Хадзілі разам перад цёмным начным полем, ахоўвалі свае зямлянкі, потым разам грэліся ў зямлянцы кіпенем з аднаго кацялка...

Ён толькі і ведаў, што Бондар — не раўня яму, вопытны, заслужаны разведчык, ваюе другі год. У іх узводзе разведкі ўсе паважалі Бондара; ён жа, Засмужац, навічок, крыху нават пабойваўся...

Цяпер, блізка стоячы перад загінуўшым, Засмужац упершыню адчуў, што нейкія не вядомыя дасюль сувязі зблiжаюць і моцна яднаюць іх. Тое, што яны ваявалі ў адным узводзе, што ў іх была адна мэта, адзін вораг, паўстала цяпер у новым, вострым святле. Чалавек, якога ён мала ведаў, зрабіўся блізкі, як бы родны.

Побач з Засмужцам стаяла і плакала жанчына. У яго ж не было ні слёз, ні думак, усю яго істоту запаўняла адно вялікае пачуццё. У тым пачуцці неразрыўна спляталіся тужлівае адчуванне смерці, горыч віны і імкненне якнебудзь паправіцца.

Ён нічога не гаварыў, не кляўся. Тое, што ён перажываў, было такім вялікім, складаным і цяжкім, што словы нічога не значылі. Засмужцу хацелася дзейнічаць, страляць, а не гаварыць. Яго вялікае пачуццё патрабавала вялікага, гераічнага.

Капітан, нібы заўважыўшы забытае, нахіліўся да мёртвага, скрыжаваў яго рукі на грудзях. Потым моўчкі павярнуўся да Засмужца. Той адвёў позірк.

— Таварыш капітан, мне патрэбен другі конь... Каштан не можа ісці...

— Вам асядлалі Бондарава Звера.

Болей Засмужац не сказаў ні слова, абуўся, адзеўся і, не развітаўшыся, выйшаў з хаты.

У твар біў сцюдзёны вецер. Курэла. Засмужцу было лягчэй стаяць пад ледзянымі ўдарамі ветру. Падвялі каня. Засмужац узняўся ў сядло, нацягнуў повад.

— Ну, бывай, — сказаў капітан, аддаючы пакет. — Шчасліва даехаць.

— Шчасліва заставацца, таварыш капітан.

Конь хутка вынес яго за сяло. Зноў аклікнулі патрулі і, пазнаўшы, прапусцілі ў поле.

Ад бяссонніцы звінела ў галаве. «Спаў дрэнна і мала; мабыць, і гадзіны не паспаў, — падумаў ён. — Нават у сне не адчэпішся ад немцаў».

Хлопец сутаргава пазяхнуў, успомніўшы перарваны сон, але ўжо не шкадаваў, што ён так нечакана скончыўся.

Халодны вецер памагаў адганяць сон. Паплылі думкі. «Цяжка будзе, — падумаў ён, згадаўшы ўвесь шлях наперад-

зе. —Але — нічога, — падбадзёрыў ён сябе.— Вытрымаю. Усю сілу збяру, але вытрымаю... Хоць і цяжка будзе, а дайду...»

Застаяўшыся ў хляве, конь ішоў лёгка, праворна. Засмужац, задумаўшыся, не заўважыў, як апынуўся сярод поля. Тут схамянуўся і агледзеўся.

Агеньчыка ззаду не было — патух ці закрыла мітуслівая заслона завірухі.

Больш Засмужац не азіраўся. Уперадзе зноў ляжала далёкая цяжкая дарога. Не змаўкаючы, гула завіруха.

*1944*

## У ГАРАХ ДАЖДЖЫ

І. Карабутэнку

Даліна ляжала між шасэ і ракою.

З аднаго боку гула мутная жаўтаватая плынь Стрыя, з другога — дыбіўся круты схіл невысокай гары, што кучаравіўся знізу хмызняком, а вышэй — галлём сосен. Гару, самае падножжа, абгінала шасэ, — гладкая істужка яго неўзабаве, нібы радуючыся таму, што вырвалася з горнай цеснаты, выпроствалася і весела бегла па бяскрайняй, здавалася, раўніне. Тут канчаліся горы, канчалася апошняя града сінезялёных Карпат.

Па даліне — найбольш усцяж берага — было раскідана некалькі дробных густых хмызнячкоў, у адным месцы ўздоўж пераразаў яе амаль высахлы, глеісты на дне раўчак. На ўсім астатнім прасцягу шаўковы ад вільготнай травы, дзенідзе куп'істы дыван быў роўны і трывалы. У карпацкім краі на многія кіламетры цяжка было б знайсці мясцінку, больш прыдатную для жыцця і заняткаў артылерыстаў, што рыхталіся да вайсковага вучэння ў гарах.

Артылерысты прыехалі сюды з глыбіні Карпат. Гэта быў дывізіён горнага артылерыйскага палка, іншыя падраздзяленні якога размяшчаліся паблізу на схілах другіх гор, а штаб у невялічкай гуцульскай вёсцы над ракою.

Летнія лагеры артылерыстаў былі за трыццаць пяць — сорак кіламетраў адсюль, на высокім беразе гэтай жа ракі. Там засталіся акуратныя рады белых палатак, густа настоены пах сасновых галін, шум вялікага лесу; засталіся зручныя, добра падрыхтаваныя парк для гармат і канавязі.

У даліну артылерысты прыехалі хмурым надвячоркам, прытомленыя нялёгкім маршам па звілістай і камяністай горнай дарозе. Адчапіўшы і ўладаваўшы маленькія гарняшкі — горныя гарматы, — да позняй ночы ў важкай цемры ўкопвалі на беразе слупы, прыбівалі бярвенні канавязей, кармілі аўсом з палатняных торб і паілі халоднай вадой са Стрыя коней.

Стрый тут — заўважылі — паводзіў сябе інакш, чым сярод гор, адкуль яны прыехалі. Рака тут не раўла па каменні. Яшчэ да таго, як выпусціць яе зусім на волю, на прастор раўніны, горы патроху адступалі ад яе, і яна ўсё шырэла ў нізкіх глiністых берагах. Яна гнала ваду не так бурна, без дзікага шалу, але больш магутна і велічна...

Жыллё сабе артылерысты абсталёўвалі каля хмызняку, блізка ад грэбня шасэ. Зрабіць простыя буданчыкі, каб прыкрыцца ад дажджу, буданчыкі з галля і плашчпалатак, было хоць справай і звычайнай, але не такой ужо лёгкай у цемры, пасля немалога паходу і ўсіх клопатаў мінулага дня. Людзі змарыліся. Калі, атрымаўшы вячэру, чародкі салдат з кацялкамі разышліся, пераклікаючыся, па сваіх буданах, даліна пачала хутка сціхаць. Праз якія пяць хвілін на ўсім беразе не спалі толькі вартавыя ды днявальныя на канюшні.

З наступнага дня пачаліся заняткі. Седзячы паўкругам, хто наўколенцах, хто — абняўшы калені, слухалі палітрукоў, што расказвалі пра міжнародныя навіны (у той час вельмі непакоіў Гітлер), пра справы роднай бацькаўшчыны. На выгане панад рэчкаю таптапі падбітымі жалезам кірзавымі ботамі траву, крочылі па загаду камандзіра «пастраявому», рабілі на хаду павароты налева, направа, кругом. Жыццё ішло такое, як і ў лагеры, звычайнае салдацкае жыццё ў летнюю пару.

На прасторным пляцы, каля прырэчнага хмызняку, займаліся з гарматамі. Заняткамі гэтымі ў першым узводзе кіраваў няўрымслівы, галасісты памкамузвода, старшы сяржант Запара. Худы, з рудаватым чубком, з кірпатым носам, ноздры якога неспакойна хадзілі, у пілотцы, надзетай глыбока, на самыя вушы, ён насіўся на маленькім махнатым коніку па поплаву і крычаў:

— Рыыыссю, маррш!

Упражкі, на якіх сядзелі ездавыя і частка разліку, дробныя горныя гарматкі, рэшта прыслугі, што была за гарматкамі таксама на конях, коні са снараднымі скрынкамі — усё гэта зрывалася з месца і з такім тупатам, ад якога аж дрыжаў, стагнаў куп'істы пляц, імчалася што было духу берагам Стрыя. Ездавыя

люта ўзмахвалі бізунамі, совалі заднікамі ботаў у конскія бакі, прыпадалі да грыў, якія ўзбіваў, раскідваў шалёны бег.

Памкамузвода ў напятай пілотцы, раздзімаючы тонкія ноздры, таксама ляцеў на сваім махнатым коніку. На ўсім ляту ён паварочваўся і, нацягнуўшы повад так, што ашчэраны конік задзіраў галаву і заміраў адразу, камандаваў:

— Гарматыыіі, к бою!!!

Негусты голас яго, што нярэдка пераходзіў у фальцэт, быў надзіва моцны. Калі Запара крычаў, салдаты, якія былі за кіламетр, без памылкі разбіралі ўсе яго каманды. Чуючы гэты галасок, увесь дывізіён ведаў: Запара займаецца.

Артылерысты яшчэ на скаку саскоўзвалі з коней і ўвішна кідаліся да прыземістых гарняшак. Запара, стрымліваючы дзікаватага каня, дробнымі няласкавымі вачыма паглядваў то на салдат, што адчэплівалі і ўстанаўлівалі гарматкі, то на выстаўленую, з жоўтымі валаскамі руку з вялікім срэбраным гадзіннікам. Звычайна пасля гэтага ўсё пачыналася спачатку. Незадаволены памкамузвода загадваў зноў прычапіць гарматы, і коні зноў ляцелі па беразе, сапучы і ўскідваючы грывы.

— Гарматыы, к бою!..

Амаль кожны раз вочы старшага сяржанта з непрыхільнасцю заўважалі, што апошні з каня злез, апошні, перавальваючыся, падаўся да гарматкі Макоўчык. Маруда, таўсцель, ён нібы знарок не спяшаецца, нібы пасмейваецца з сяржанта, трухае, як мяшок, робіць выгляд, што бяжыць, але хіба ж гэта бег? І колькі ўжо разоў адно і тое ж, колькі разоў памкамузвода ўшчуваў яго, гразіўся яму вымовамі, — ніякай перамены.

— Макоўчык, вы сёння снедалі? — грозна паварушыў тонкімі ноздрамі Запара, хвацка саскочыўшы з каня.

Макоўчык, поўны, рыхлаваты, з тоўстай шыяй, нязграбны ў ваеннай гімнасцёрцы, яснымі нявіннымі вачыма паглядзеў на памкамузвода.

— Як жа. Снедаў, таварыш старшы сяржант.

— Не відаць! Вы так ходзіце, быццам суткі не елі!

— Я, таварыш старшы сяржант, заўсёды быў такі.

— Мне не цікава, які вы былі!

— Тады выбачайце, таварыш старшы сяржант, я думаў...

Макоўчык гаварыў з самай сур'ёзнай мінай, але Запару ў яго словах чуўся прытоены смех.

— Я ведаю, што вы думаеце!.. Адпраўляю дняваліць!..

— Воля ваша, таварыш старшы сяржант,— спакойна павёў крутымі плячыма баец.

Старшы сяржант з раздражненнем падумаў, што праз аднаго такога можа на вучэннях праваліцца ўвесь узвод. «Куды б яго прыладзіць, у ездавыя — там таксама патрэбна паваротлівасць, а больш... Куды можна больш перавесці ва ўзводзе?» Гэта праблема, трэба сказаць, неаднойчы ўжо займала памкамузвода.

Запара быў чалавек, які не ведаў кампрамісаў у сваіх вывадах. Закаханы ў вайсковую службу, адданы ёй усімі сваімі пачуццямі і думкамі, старанны, ён любіў і цаніў у другіх таксама стараннасць і адданасць службе.

«Збыў жа хтосьці скарб гэтакі,— думаў ён, правяраючы, як падрыхтавана гармата да «бою».— Узнагародзіў...»

Усё было як належыць. Панарама ўстаноўлена правільна — ртутныя кроплі ўзроўняў між рысак, замок адчынен, чахол са ствала зняты. Прыслуга стаяла на сваіх месцах, іменна так, як належала па статуту. Нават Макоўчык быў гатовы: прыгнуўшы галаву, трымаў у шырокіх, з кароткімі пальцамі руках працягнуты да зараджаючага снарад. Невысокі, але плячысты, ён амаль не згінаўся, згіналася толькі яго мяккая нізкая шыя.

— Першым жа снарадам вас забіла б, — кінуўшы пагардлівы позірк, прарочым голасам, упэўнена прамовіў Запара.

— Гэта яшчэ невядома...

Плечы Макоўчыка ніяк не хацелі хавацца за шчыт гарматкі.

— Прыгніцеся! — загадаў старшы сяржант, ружавеючы ад гневу. Макоўчык неахвотна прысеў, з выглядам чалавека, які не ведае, чаму да яго чапляюцца.

Запара стаў камандаваць вугламеры, прыцэлы, і гэты клопат на нейкі час адвёў яго ўвагу ад Макоўчыка. Але калі памкамузвода загадаў змяніць пазіцыю, калі коні на ўсю сілу памчаліся да гармат, Макоўчык зноў увёў старшага сяржанта ў гнеў. Пакуль ён узлез на сядло, другая гарматка бегла ўжо на дальнім канцы пляца.

Дзень быў хмурны, невясёлы. У сініх гарбінах гор, што цямнелі наводдаль у пройме стрыйскай даліны, збіраліся, дымячыся, навальнічныя хмары. Шчэць лясоў на вяршынях, на вышэйшых схілах то там, то тут танула ў клубах дыму, знікала з вачэй. Разпоразу адтуль даносіліся глухія пагрозныя грымоты.

— Гугугу...

Адчувалася, што хутка пойдзе дождж. Але дождж нібы не спяшаўся. Вось ужо і заняткі скончылі, рассядлалі і накармілі коней, а хмарнасць якая была, такая і засталася.

Макоўчык, які пад вечар заступіў дняваліць на канюшню, гледзячы ў бок захмараных гор, прамовіў раздумліва:

— Глядзі ты, там лье, як з прорвы, а тут — ціха... І вецер пайшоў адтуль, а дажджу не нясе...

— Горы не пускаюць, — адгукнуўся павучальна яго таварыш па днявальству, узводны спявак Халюта. — Хмары, бач, ляжаць на гарах...

Макоўчык прамаўчаў. Нельга сказаць, каб не любіў ён пагаварыць з таварышамі, але меў звычку ў кожнай гаворцы шукаць нейкі сэнс, пагарджаў пустой балбатнёй. Чалавек, які сказаў некалькі пустых сказаў, мог яму здацца нікчэмнасцю, надоўга страціць яго павагу. Адным з такіх здаваўся яму Халюта, самы вясёлы ва ўзводзе і самы пявучы хлопец.

«Горы не пускаюць!.. Адкрыў», — няласкава падумаў Макоўчык, адыходзячы ад таварыша.

Ён стаў пазіраць на раку. Канавязі былі амаль на самым беразе, за якія дзесятак метраў ад вады. Макоўчыка здзіўляла, як хутка папаўнела і пашырэла за некалькі гадзін знаёмая рака. Яна зрабілася мутная, неспакойная, як там, у гарах, магутная плынь праносілася паўз Макоўчыка з такім гулам, што, здавалася, берагі ледзь стрымлівалі яе.

«Расхадзілася!» — незадаволена хмурыўся Макоўчык, пазіраючы на раку.

У гэты вечар сцямнела раней, чым звычайна. Хмары, здавалася, паважчэлі і насунуліся ніжэй. Ціха, амаль непрыкметна, пачало накрапваць, але шуму дажджу не было чуваць, бо яго глушыў няўціхны гул рачных хваль.

Нудны дождджык, хмары, аднастайны гул ракі наганялі сум. На нейкі час гэтую сумную панурасць развеялі байцы, што прыйшлі даглядаць коней, ад іх воклічаў і мітусні Макоўчыку стала весялей. Пасля таго як таварышы падаліся да палатак, Макоўчык падышоў да Халюты:

— Ты калі хочаш дняваліць — цяпер ці потым?

— Цяпер.

— Тады пайдзі зараз павячэрай... Ды не затрымлівайся, не балбачы там лішняга.

— Не бойся, не затрымаю...

Ён сапраўды прыйшоў хутка. Халюта, якому многае даравалі за песні і які не цырымоніўся з іншымі, асцерагаўся і нават чамусьці пабойваўся няўклюды Макоўчыка.

Макоўчык прайшоўся яшчэ раз каля коней, праверыў, як яны прывязаны, і, кінуўшы таварышу пахмурнае: «Ну, глядзі тут!» — непаспешлівай хадою падаўся да палатак.

Яму доўга не спалася. Дождж шапацеў і шапацеў, і рака гула не ўціхаючы. Ён заснуў амаль каля паўночы — і, калі яго разбудзілі, адразу не паверыў, што ўжо час уставаць на змену. Але гадзіннік паказваў: пара. Макоўчык надзеў яшчэ мокрую халаднаватую плашчпалатку і, сонна сапучы, высунуўся на двор.

«Выбраў сабе змену звечара, — падумаў пра Халюту. — Усё дзе лягчэй стараецца».

— Ну, тут нічога такога не было, — сказаў Халюта, узрадаваны. — Прыходзіў толькі Леанід Пятровіч...

— Які Леанід Пятровіч? — панура, сонна прамармытаў Макоўчык.

— Старшы лейтэнант Харунжы, дзяжурны па часці.

— Знайшоў Леаніда Пятровіча!

— Мы з ім добра знаёмыя... — Халюта хацеў яшчэ штосьці сказаць пра знаёмства, але стрымаўся. — Ага, ледзь не забыў, — я пераставіў Арла, біўся ён вельмі. Да дубка прывязаў. Прывязаў надзейна, так што будзь спакойны...

— Пагляджу.

— Ага, — зноў успомніў Халюта. — Харунжы казаў, нага ў Камарова нішто. Ён хутка паправіцца. Гэта дакладна.

Камароў — наводчык першай гарматы — быў гаспадаром Арла. Дзень назад наводчыку пераехала пальцы нагі колам гарматы, і ён ляжаў зараз у палкавой санчасці.

Халюта намерыўся ісці.

— А рака, Мак, ліха яе, усё пухне. Як з дражджэй. Каб яна, глядзі, нас не затапіла...

— Затопіць! Выдумаў, — буркнуў Макоўчык.

Калі Халюта пайшоў, Макоўчык сеў на цюк спрасаванага сена, накрытага папонай, паправіў на галаве капюшон плашчпалаткі так, каб не цякло за шыю, і, прытуліўшыся да другога, вышэйшага цюка, даў спакой зморанаму целу. Чорт ведае як хацелася спаць: пасля паўночы заўсёды вельмі хіліць на сон, а тут яшчэ гэты нудны шаптундожджык!

Ён і не заўважыў, як задрамаў. Але неўзабаве зашумелі коні, пасправаўшыся аб нечым, і Макоўчык прачнуўся. Ён устаў, пайшоў паўз канавязь. Коні дыхалі цяплом, пырхалі, цягнуліся да яго храпамі, што ў цемры здаваліся яму маркотнымі. Ён перавязаў чымбур, які ўжо амаль не трымаўся, стаў, пазяхаючы, пахаджваць тудысюды, баючыся, што калі сядзе, то зноў засне.

Цераз дрымотную абыякавасць чамусьці выпаўзла, згадалася Халютава трывога — «пухне... каб не затапіла». Ён зірнуў у

бок Стрыя. Ракі амаль не было відаць, яна напамінала пра сябе глухім незадаволеным гулам, якога прызвычаены Макоўчык дагэтуль нібы не чуў. Ён, як і раней, аднёсся да Халютавых слоў скептычна. «Затопіць! Балбатун!..»

І ўсё ж Макоўчык пацягнуўся да берага, пацягнуўся больш таму, што стаяць было нудна.

Тое, што Макоўчык убачыў на беразе, прымусіла яго адразу насцеражыцца. Вада, якая ўдзень была метра на паўтара ці два ўнізе, цяпер хлюпала каля самых ног, час ад часу ўзліваючыся на траву. «Глядзі ты!»

Санлівасць адразу вылецела з яго. Усхваляваны, ён адкінуў з галавы капюшон, хутка азірнуўся, нібы чакаючы парады. Але за ім было цёмна і ціха. Што рабіць? Яшчэ крыху, і несамавітая рака залье бераг, затопіць канавязі, пляц, на якім стаяць гарматы. Яму прыгадалася глеістая лагчынка раўчака, што была між канавязямі і палаткамі. Яе можа затапіць, і тады вада адрэжа канавязі ад лагера...

Макоўчык подбегам падаўся ў той бок, дзе была лагчына. Мінуўшы звыклы хмызнячок, ён ледзь не ўваліўся ў ваду — па раўчаку рушыла, бурліла незнаёмая рэчка. І хоць яна, ведаў салдат, была неглыбокая, з'яўленне яе ззаду канавязей, да якіх паступала папаўнелая рака, запепакоіла Макоўчыка.

Разважаючы, што трэба рабіць: клікаць дзяжурнага, узнімаць трывогу ці чакаць, як будзе далей, ён успомніў Запару, і гэты ўспамін нібы астудзіў. Вядома, памкамузвода, даведаўшыся, што занепакоіла Макоўчыка, гляне зняважліва на яго і кальне: аказваецца, і ён, Макоўчык, можа быць часам паваротлівы. Нават не ў меру паваротлівы. Ручая напалохаўся!..

Азірнуўшы цёмнае, зацягнутае воблакамі неба, Макоўчык падумаў, супакойваючы сябе: «Хутка пачне развідняцца. Каб не хмары, то ўжо, напэўна, святлела б».

Ну, а калі дзень недалёка, то можна і пачакаць — нават калі рака і выйдзе з берага, удзень лягчэй будзе дайсці да ладу.

Ён вярнуўся да канавязі. Неўзабаве да яго падышоў дзяжурны па канюшні, малодшы сяржант з узвода ўпраўлення дывізіёна. Ён, адчуў Макоўчык, быў таксама занепакоены разлівам, што наступаў на бераг.

— Вось чорт, падняло яе. Адкуль толькі вада бярэцца, а? — Ён пазяхнуў: мусіць, перарвалі сон.— Не паплывём мы, а?

Сяржант гаварыў папрыяцельску, адкрыта, адносіўся да днявальнага, нібы да старэйшага, і Макоўчыку гэта падабалася.

— Ды я вось таксама думаю, каб не паплыць... — шчыра прызнаўся Макоўчык.

— Трэба, мусіць, да дзяжурнага па часці пайсці, параіцца, а?

— А што ж, таварыш малодшы сяржант, пайдзіце, далажыце. Ён там далей ад рэчкі, не ведае ўсяго.

— Я таксама думаю... Значыцца, пайсці, а?

— Толькі, глядзіце, раўчак заліло. Асцярожней...

— Перайду! Ну, трымайся!..

Малодшы сяржант прапаў у цемры. Макоўчыку ўспомнілася, што гаварылі пра сяржанта ў батарэі: «добры, дружалюбны, толькі трохі дзіўны, — усё распытваецца, сумняваецца», згадалася, што ўсе між сабою завуць яго «настаўнікчарнігавец». Сяржант, ведаў Макоўчык, усяго з паўгода, як прыйшоў у армію з Чарнігаўшчыны, дзе працаваў настаўнікам. Думкі пра малодшага сяржанта хутка без следу адплылі. Макоўчык стаў прыслухоўвацца да цішыні, што панавала ў баку лагера: яна ўгадвалася, нягледзячы на гул ракі і аднастайную нуду дробнага дажджу. Там было спакойна. Усе спалі, не ведаючы, што з кожнай хвілінай рака падступае і падступае.

Ён заўважыў, што пад нагамі стала больш хлюпаць. Гэта былі ўжо не дажджавыя лужы...

Нарэшце, непадалёк пачуліся, перабіваючы шум ракі, першыя камандныя галасы, і амаль тады ж прабег дзяжурны малодшы сяржант. Не спыняючыся, ён крыкнуў Макоўчыку:

— Зараз знімемся адсюль!

Салдаты з лагера прыйшлі не адразу. Макоўчык здагадваўся, чаму яны затрымліваюцца, мусіць, разбіраюць палаткі; значыцца, лагер таксама знімецца. Ён стаў рыхтавацца да «паходу», шкадуючы, што не можа пабегчы туды: трэба было б узяць ранец, вінтоўку, шынель, — Халюта, напэўна, не здагадаецца прынесці. Не прынясе і да таго ж яшчэ сам чамусьці марудзіць. Чаго ён там, гэты спявучы пстрыкун, важдаецца?!

Ён спаткаў Халюту няветліва. Хмурна ўзяў ад яго вінтоўку і рэчы, але ўсхваляваны Халюта не заўважыў гэтага.

— Лагер, Мак, затапляе! У крайніх палатках — вада ледзь не да нар. Там жа ніжэй!.. Устаюць — і проста ў ваду — боўць! Дзіва!..

Халюта гаварыў так, нібы радаваўся. «Пустазвон! Знайшоў з чаго смяяцца!» — падумаў Макоўчык, ускідаючы на павозку падмочаныя цюкі сена.

— Падбяры папоны! Палічы!

Недзе каля лагчыны пачуўся галасок Запары. Яшчэ нявідны, здалёк, памкамузвода крычаў: «Разабраць, асядлаць коней! Ехаць у парк, па гарматы!» На канавязі пачалася мітусня, у якой кожны з артылерыстаў рабіў толькі яму відную ў цемры справу. Чуліся воклічы, пытанні, лаянка.

— Дзе сядло?! — пытаўся хтосьці нецярпліва.

— Стой! Чаго ты, д’ябал худы, круцішся! — пакрыкваў другі на каня.

— Халюта і Макоўчык! — гукнуў Запара.— Канавязь разбіць на паляне, каля лесу. Над шасэ.

— Ёсць, каля лесу, над шасэ! — стрымана прамармытаў Макоўчык.

— Авёс і сена не забудзьце! — У апошніх словах яго Макоўчыку пачулася насмешка. Халюта супакоіў памкамузвода:

— Не забудзем.

Макоўчык, які запрагаў каня, не адказаў. Ён моўчкі ўзлез на фурманку, на мяхі аўса і цюкі сена, і, сказаўшы Халюце, каб і той паглядзеў, ці не забылі чаго, каб падабраў усё, шмаргануў лейцамі.

Амаль усюды на дарозе пад конскімі капытамі плюхала вада. Калі ж коні, храпучы, неахвотна пайшлі ў раўчак, яна адразу падступіла аж да скрынкі павозкі.

Пачынала трохі развідняцца, і было відаць, што там, дзе нядаўна ішлі рады буданоў, толькі бязладна ва ўсе бакі тырчалі дручкі ды халодна шарэла ручаінамі і затокамі вада. Выйшаўшы з берагоў, рака затапіла раней не прыкметныя нізінкі, нарабіла луж, разлівала іх, злучала ў азёры, што надзіва хутка шырыліся.

Там, дзе дарогі з берага сыходзіліся ў адну і ўздымаліся на шасэ, Макоўчыку давялося прыпыніцца. Па дарозе ўзыходзілі ўпражкі з горнымі гарматкамі, са скрынкамі з боепрыпасамі. Коні, мокрыя, з глянцавітабліскучай шэрсцю, напружваліся, выцягвалі ўпарта шыі, ездавыя размахвалі лейцамі і пакрыквалі то пагрозліва, то падбадзёрліва. Ехалі гарматы з суседняй, другой батарэі.

Макоўчык перачакаў іх і выкаціў таксама на шасэ. Павозка лёгка застукацела па гладзенькім, роўным асфальце, коні пайшлі весялей. Праз паўсотню крокаў Макоўчык звярнуў з шасэ і следам за гарматкай са сваёй батарэі, што ўзбіралася па свежай каляіне, наўскасяк, на даволі круты схіл, стаў таксама падымацца на гару. Коням цягнуць было цяжка, і ён злез з павозкі, пайшоў побач, адной рукой падпіраючы скрынку. Па-

возка ішла, нахіліўшыся набок, і колы разпоразу саслізгвалі з абадранага мокрага грунту і спаўзалі, грозячыся падмяць яго.

У адным месцы павозка спынілася: змораныя коні не цягнулі яе, дыхалі цяжка і часта, і Макоўчык даў ім крыху пастаяць. Тут яго нагнаў на кані Халюта, які трымаў некалькі палатняных вёдраў. Макоўчык загадаў яму падсабіць. Папіхаючы павозку ззаду і з ніжэйшага боку, пакрыкваючы на коней, яны рушылі далей і неўзабаве дапалі да таго месца, дзе трэба было разбіць канавязі. Тут ужо ўладоўваліся днявальныя з другой батарэі.

Выбраўшы некалькі сосен ускрай лесу, што ад шасэ коса падымаўся ўгару, знікаючы недзе за схілам няблізкай, нявіднай адсюль вяршыні, Макоўчык выцягнуў з павозкі вяроўку і стаў абвязваць яе вакол камля адной крайняй сасны. Адсюль ён працягнуў вяроўку да другой сасны, потым абвязаў вакол трэцяй. Халюта дапамагаў яму, увесь час расказваючы пра розныя праявы нядаўняга здарэння.

— Эх, Мак, б’е плынь у раўчаку! На паваротцы. Я там пераязджаў... Каб яшчэ трохі, закруціла б. Ейбогу, закруціла б!

— Знайшоў чым хваліцца! Глупства зрабіў ды яшчэ хваліцца! — буркнуў без злосці Макоўчык.

— Чаму гэта глупства?!

— А таму, што хто ж разумны лезе на паваротку, дзе круціць?

— Ты — разумны! Пасля ўсе мы разумныя...

Халюта выпрастаўся, паглядзеў на раку. Стрый цьмяна паблісквaў у ранішняй мокрай шэрасці, незнаёма магутны, неабсяжны. Былыя берагі вада ўсюды затапіла. Вадзяны прастор, пачынаючыся ўнізе каля шасэ, даходзіў амаль да падножжа панурых гор, што цямнелі на другім баку. Да іх было не менш паўтара кіламетра.

Толькі дрэвы ды хмызнякі выбіваліся з цьмянай аднастайнасці разліву.

Нават адсюль было відаць, што разліў гэты неспакойны. Пасярэдзіне і па баках яго несла рознае лясное ламачча, нейкія бярвенні, вымытыя, вырваныя кусты, сена. Між усяго гэтага Халюта ўбачыў дрэва, якое, круцячы, як трэску, бурлівая рака моцна гнала ўніз.

Халюта ўбачыў непадалёк дручкі, што тырчалі сярод вады. Гэта была рэшта буданчыкаў. Ён павёў вокам далей, туды, дзе стаялі канавязі, і на яго твар раптам лягла трывога. Ён азірнуўся на Макоўчыка, які ўсё важдаўся з вяроўкай,

— Слухай, Лёня, а Арла... мы... забылі!..

Макоўчык падняў галаву ад вяроўкі. Не, Халюта не жартаваў. Ён стаяў пабялелы, і на твары, заўсёды такім вясёлым, бесклапотным, быў страх.

— Што я табе казаў, дурная галава, — правер, ці не забылі чагонебудзь!

— А ты хіба не мог напомніць?

Макоўчык не адказаў. Ад злосці задрыжалі рукі. Не мог напомніць! Яму трэба, каб за ім хадзілі ды напаміналі! Ах, як Макоўчыку хацелася выказаць тое, што цяпер у яго душы кіпіць да гэтага вертуна, выказаць увесь гнеў, усю пагарду!

Ён убачыў, што да іх, вядучы каня, ідзе мокры, як і ўсе, памкамузвода, заляпаны глінаю аж да напятай глыбока пілоткі.

Толькі гэтага і не хапала. Запара, кінуўшы на Макоўчыка абыякавы позірк, стаў рассядлоўваць каня.

— Авёс увесь прывезлі? — запытаўся ён, выціраючы далоняй запацелую конскую шэрсць пад сядлом.

— Увесь, — пахапліва адрапартаваў Халюта. — І сена, і авёс! Папарваліся, пакуль уз'ехалі, але ўсё ўзялі!..

Макоўчык гнеўна змераў вачыма таварыша і адвярнуўся. Пастаяў хвіліну панура, павольна пайшоў уніз, упіраючыся абцасамі ботаў у асклізлы грунт. У грудзях кіпела новае: нарабіў, пустая галава, кінуў у вадзе каня, і — клопату яму мала! І як гэта ён, Макоўчык, так проста даверыўся гэтаму вертуну, не затрымаўся, не праверыў усё сам?

Разам з гневам на Халюту ў Макоўчыка было і другое адчуванне: ён павінен паправіць становішча, ён, іменна ён, не хто іншы. Макоўчык наогул не ўмеў звальваць справу на другіх.

Для яго не было другой думкі — Арла трэба неяк выратаваць. Гэта быў цяпер першы, самы галоўны абавязак у жыцці. Абавязак неабходны, не якіянебудзь заняткі, дзе невядома чаму Запара ўвесь час падганяе. Яго чакае жывое стварэнне, гняды быстры Арол, конь Федзькі Камарова, што не мог са шпіталя прыбегчы на ратунак...

— Макооўчык!.. Лёёняа!..— пачуў ён ззаду, з гары. Макоўчык пазнаў голас Халюты, але не азірнуўся. Ён нават прыбавіў хады.

Перайшоўшы шасэ, Макоўчык мімаволі спыніўся. Ён здзівіўся, убачыўшы зблізку, як прыбавілася вады, але думка гэта адступіла перад клопатам. Трэба ісці крыху правей — адтуль бліжэйшы шлях да канавязей.

Ён збочыў і стаў спускацца па крутым слізкім схіле. Вада тут падступала да пояса, стрымлівала хаду, але цячэнне было нямоцнае, і ён спачатку ішоў лёгка.

Працерабіўшыся цераз хмызнячок, за якім пачыналася нізінка раўчака, ён заўважыў, што плынь стала інакшай. Вада па нейкіх сваіх законах бегла за хмызняком хутчэй, віравала, бурліла, несучы зламанае галлё і сена. Макоўчык адчуў, што яго збівае з ног, цягне ў глыбіню, і прыпыніўся. Унутры пахаладзела, калі ён падумаў, што трэба ўсё ж перабірацца далей. Ён павёў вачыма, шукаючы спакайнейшае месца, але ўсюды было адно. Макоўчыка ўзяў роздум: ці зможа ён утрымацца, пераходзячы, ці ўстаіць перад дзікай напорнасцю гэтай быстрай плыні? А калі не ўтрымаецца, калі вада сарве яго, закруціць, панясе!..

Ён нават плаваць не ўмее! Не вучыўся ніколі: у яго зялёнай вёсачцы на Віцебшчыне не было ні рэчкі, ні азярца хоць бы з добрую лужыну. Не ўмее плаваць!..

Паўз яго пранесла вялікі ашмётак сарванага недзе ў гарах вымаклага сена, — вось і яго можа так панесці. Што гэтай плыні сарваць чалавека, гэтай дзікай сіле вады!..

— Макооўчык! — пачуў ён ззаду, з гары, голас сяржанта, чарнігаўскага настаўніка.— Вярнііцесяа!

Ён не ведаў, што за ім сочаць. Яго гэта не цікавіла. Макоўчык быў запоўнены сваімі развагамі і клопатамі. А тым часам за ім сачылі,— малодшы сяржант зпад Чарнігава і Запара, стоячы на схіле гары, пазіралі ў яго бок, адзін з прыкметнай трывогай, а другі — недаверліва, скептычна.

— Чорт, я ўсё роўна як ведаў раней, што ён мне падстроіць дрэнь якуюнебудзь!.. Макоўчык твой! — не мог супакоіцца Запара.— Ну, хопіць ужо мневаждацца з ім! Хопіць!

Ён са злосцю кінуў на зямлю цыгарку, падаўся ўніз да вады. Малодшы сяржант пайшоў за ім, разважаючы ўголас, што можна б зрабіць, каб выратаваць каня.

— Што?! — адказаў нервова Запара.— Лодак тут зараз няма. Дык каб і былі — над раўчаком...

— Перавярнула б, абавязкова!

— Пустая балбатня! — Памкамузвода раптам заключыў: — Адным словам — ЧП*.

Ён, здаецца, быў перакананы, што каня выратаваць не ўдасца, і гэта злавала яго...

---

* ЧП — надзвычайнае здарэнне.

— Не трывожся, ён не пойдзе!.. Не з такіх! — Запара гаварыў малодшаму сяржанту тонам, якому няможна было не верыць. Спускаліся хутка, і памкамузвода некалькі разоў прыпыняўся, аддыхваўся.— Я іх ведаю, гэтых!.. Ён і ў ручай не пойдзе, калі там вады вышэй калена... З каня не саскочыць, каб не падвярнуць нагу... І так многа прайшоў, аж дзіва... Гэта згарача...

— А што, калі пойдзе? У вір. А? Сарве яго, чаго добрага!

Яны саскочылі на шасэ. Малодшы сяржант паглядзеў на тое месца, дзе быў Макоўчык: постаць салдата ледзь віднелася ўскрай хмызняку.

— Не пойдзе, кажу! — Запара адвярнуўся ад ракі, прамовіў непрыязна: — Эх, чорт пабяры, такога каня ўгробілі! Шляпы, — бераг залівае вадой, а яны дрэмлюць, чакаюць, калі затопіць усё!.. Я на месцы кампалка за гэту ночку тамусяму так уклеіў бы, што ён усё жыццё памятаў бы.

— Уклеіў бы! У цябе і слоў іншых няма!

— А якіх ты хочаш за такое слоў?! Можа, пахваліць, што ўгробіў мне каня?! Не, ужо не дачакаешся! І гэтага, і Макоўчыка гладзіць не думаю!..

— Ты глядзі, як бы цябе за Макоўчыка не пагладзілі, дзе трэба! — Чарнігавец гукнуў: — Макооўчык!!!

Рэха пранесла па горным схіле, па вадзяной роўнядзі: — ооўіі.

— Стаіць, яшчэ думае. Гукні ты,— сказаў ён Запару. Памкамузвода завагаўся, але не паклікаў.

Макоўчык знік у зарасніку, — напэўна, паслухаўся малодшага сяржанта і падаўся назад.

— Эх, разліло, а? — сказаў чарнігавец, акідваючы вачыма шырокі прастор вады. — Расплыўся, а? Цёк сабе дзень, другі — ціхі, звычайны, а потым — глянь. Сіла! Мора, сапраўднае мора... Канцакраю няма, а?

Ён памаўчаў і нечакана скончыў:

— Часам так і чалавек... Аднаго адразу пабачыш, а другога, брат, і за год не зразумееш...

Ён крыкнуў:

— Макооўчык!

— Вяртаецца ўжо, — прамовіў Запара. — Эх, чорт, непрыемнасць якая з гэтым канём!.. Наварылі кашы, а мне за вас аддувайся! Але не, я за цябе адказваць не буду. Сам нарабіў, адказвай сам! Няма чаго другіх ганьбіць!..

— Адкажу, калі запытаюцца.

— Ты ж вінаваты. Ты дзяжурыў... Толькі, мусіць, усё роўна на мой узвод зваляць. Мой конь застаўся, я і вінаваты!..

Запара сціх: наводдаль, за хмызняком, пачулася ржанне. Так, чорт, непрыемнасці цераз гэтага каня яму не мінаваць. Запара ўзрушана закінуў назад сумку, што збілася наперад, і стаў неспакойна ўзірацца ў той бок. Яго касцісты, з тонкімі ноздрамі твар быў нахмураны, рашучы.

— Халюта! — гукнуў ён салдата, які стаяў поруч. — Ідзіце насустрач Макоўчыку і — каб не вярталіся без каня! Ясна?

— Таварыш старшы сяржант, — тонам просьбы прамовіў Халюта.

— Ну, што?

— Я, таварыш старшы сяржант... я...

— Што?!

— Не магу...

— Чаму гэта?!

— Я не магу... плаваць... таварыш старшы...

Запара пагардліва зірнуў на яго.

— Трус!..

Халюта, угнуўшы галаву, пачаў пакорліва спускацца, але Запара загадаў яму вярнуцца. Ён не глядзеў на салдата.

Памкамузвода сарваў з сябе абшарпаную сумку, кінуў чарнігаўцу. Не гаворачы нічога, рашуча пайшоў да вады.

...Макоўчык вяртаўся. Што ж, ён хацеў зрабіць сваю справу, але не можа. Позна. Спазніўся. Калі б крыху раней, калі б Халюта сказаў адразу, як толькі выбраліся на гару, тады б ён мог бы дабрацца. А цяпер позна!..

Ёп пацерабіўся цераз хмызняк назад, пацерабіўся з той палёгкай, якая паяўляецца, калі знойдзен, нарэшце, выбар, правільны і сумленны.

Пачуўшы недалёкае конскае ржанне, Макоўчык незадаволена азірнуўся.

«Ну, чаго, чаго галосіш?! — хацелася яму крыкнуць злосна, бязлітасна. — Не ведаеш... Не магу!»

Прайшоў яшчэ некалькі крокаў — усё павольней і павольней, — нарэшце зусім спыніўся. Нядаўняй яснасці і лёгкасці зноў як і не было. У ржанні Арла быў страх безвыходнасці, поўная адчаю надзея на ратунак, апошні роспачны кліч дапамагчы. Кліч жывой істоты, што можа загінуць, што баіцца смерці...

Яе пакінулі, яе забылі, яе не шкадуюць...

Макоўчык ужо не мог злавацца на гэты кліч. Ён уздыхнуў — нічога не зробіш, на яго надзея,— і зноў падаўся да вірлівай плыні, туды, адкуль чуўся кліч на дапамогу.

Калі цяпер падступіў да віру, не раздумваў, як у першы раз. Лепш не думаць лішне. Ступіў адразу. Моцная плынь найшла на яго, націснула, стараючыся збіць, і Макоўчык, каб устаяць, колькі можна было, нахіліўся насустрач цячэнню. Вада круцілася вакол яго, булькатала, кіпела. Цяпер не было ні страху, ні шкадавання, хацелася толькі хутчэй дапасці да залітага другога берага, над якім звісалі галіны арэшніку. Але ісці было цяжка,— перад тым як ступіць, мацаў дно, да таго ж даводзілася ўсё спыняцца, нахіляцца, каб утрымаць раўнавагу. Каля берага ён нецярпліва пацягнуўся да галіны, але схапіў толькі кволы парастак з некалькімі клейкімі лісткамі. Парастак не вытрымаў і адарваўся.

Макоўчык страціў раўнавагу і апору, і магутная плынь прагна падхапіла яго, панесла, упарта стараючыся перакуліць на спіну. Ён інстынктам здагадаўся, што гіне. З усёй сілы рвануўся, пачаў пахапліва лавіць галіны, паўз якія яго так блізка і так далёка гнала. Яму ўдалося ўхапіцца за лазіну, вяршынька якой, сагнуўшыся, мокла ў вадзе. Але і гэтая лазіна магла б не ўтрымаць. Макоўчык хутчэй хапіўся за таўсцейшую, потым адразу за дзве. Трымаючыся за іх, ён, нарэшце, выбраўся на бераг.

Сэрца яго захлыналася, у роце было поўна вады, але Макоўчык не спыніўся. Усхваляваны, распалены барацьбой, перажытым, ён толькі ашалела агледзеўся, каб вызначыць, дзе адсюль Арол, — і кінуўся ў той бок.

Конь трывожна хроп і бегаў вакол дрэва, на ўсю сілу нацягнуўшы ланцуг чымбура, стараючыся парваць сваю смяротную прывязь. Жалезны ланцуг не паддаваўся, толькі шырэй і глыбей уядаўся ў кару. У незвычайна круглых, вырачаных сіняватых вачах каня быў жах, нежывёльны сум. Гэты пакутлівы, такі глыбокі і ясны выраз уразіў Макоўчыка. «Як чалавек!» — падумаў, шкадуючы, ён.

— Арол... Арлюха... Дурніца...

Ён асцярожна падступіўся, пагладзіў каню храпу, шыю, пяшчотна, як чалавека, запытаўся:

— Што, Арлюха, напалохаўся?! — Ласкава паляпаў па конскай шыі. — Напалохаўся, ясна. Дасталося табе, бедаку! Ну і мне, дружа, таксама дасталося зараз...

Слухаючы яго супакойлівы голас, паддаючыся яго пяшчотам, конь адпусціў нацягнуты ланцуг, спыніўся. Арол даверліва пацягнуўся храпай да хлопца.

— Ну вось, ну вось... разумны ты...

Макоўчык радасна засмяяўся, прыпаў да мокрай конскай шэрсці, стаў аддыхвацца. Шыя каня ад перажытага ўзрушэння дробна дрыжала.

Хлопец стаў развязваць абкручаны вакол дрэва ланцуг, пад якім вільготна бялеў свежы абадок.

— Ну, прыкруціў цябе Халюта!.. Тут бы табе і капец...

Конь згодна, весела заржаў.

Адвязаўшы Арла, Макоўчык узлез на яго. Перад тым як ехаць, ён прывыкла намерыўся паправіць пілотку, але яе не было. «Згубіў, мусіць, у віры... Яшчэ за гэта Запара прычэпіцца...»

— Ну вось, Арлюха, зараз будзем перапраўляцца! — сказаў ён каню, пад'ехаўшы да віру. — Тут я ледзь і не паплыў. Ну, а як жа мы разам?

Макоўчык зноў занепакоіўся, прыгадаўшы нядаўняе. Ён падумаў, што лепш перабірацца з канём не наўпрасткі, а наўскасяк насустрач цячэнню, — каб вада не збіла каня. Хлопец праехаў крыху берагам, праехаў непадалёк ад Запары, што быў на другім баку і сачыў за ім.

— Ну, вось тут!

Ён ужо намерыўся пусціць каня ў вірлівы паток, калі заўважыў, што зза павароту вада вынесла дрэва, шапка якога ўзвышалася на вадзяной шэрасці, як стог. З гэтага стога, бязлітасна абшматанага, вытыркаліся белымі вострымі рабрынамі зломы галін, непадалёк ад яго выглядвала з вады пакручастае, таксама паабламанае карэнне.

Макоўчык пачакаў, пакуль дрэва — гэта быў вывернуты ці падмыты недзе ў гарах дуб, — булькаючы вадою, з сіпеннем прайшло паўз яго, і, яшчэ не разумеючы як след, якую небяспеку яно несла з сабой, каб не ўдалося заўважыць у час, накіраваў каня ў ручаіну.

Вада, што хутка дайшла амаль да конскага хрыбта, збівала Арла, і конь увесь напружваўся, каб утрымацца. Ён то ўпіраўся ў грунт нагамі, то выцягваўся, прыпадымаўся, нібы збіраючыся плыць. Яго крыху зносіла, і Арол ішоў бокам, падпарадкоўваючыся Макоўчыку, які цягнуў улева чымбур.

Конь разбіваў вадзяную плынь, узняўшы галаву, фыркаючы, дзіка пабліскваючы вільготнымі з просінню круглымі вачыма.

Макоўчык адчуваў, што Арла палохае гэта кіпенне вады, гэты напор, што конь не хоча слухаць яго.

Хутчэй бы перабрацца!.. Яшчэ крыху! Яшчэ! Бераг ужо так блізка! Пальцы Макоўчыка да болю ўрэзваліся ў жалеза ланцугаповада...

— Ну, яшчэ крыху! Трымайся, трымайся, Арлюха, мілы!..

Эх, як б'е, кіпіць вада вакол каня, каля Макоўчыкавых ног!..

Дапаўшы да берага, Арол рыўком ускочыў на яго і прыпыніўся. Ён заматаў мокраю грываю і фыркнуў, — Макоўчыка гэта нібы абудзіла. Хлопец адпусціў чымбур, прыпаў да шыі каня тварам і засмяяўся.

— Што, выбраліся?! Выбраліся з чортавага пекла?!.

Тут ён убачыў паблізу Запару і спахмурнеў. Выпрастаўшыся, Макоўчык тузануў каня і абыякавы паехаў да шасэ.

*1954*

## СПАТКАННЕ ЗА ГОРАДАМ

Яна пазнілася.

Гэта было добра вядома і без гадзінніка. Але заклапочаны чалавек, што адзінока чакаў на ўзлессі, усё ж зірнуў на гадзіннік.

Ён зірнуў не ў першы раз, не разумеючы, што ж магло здарыцца, што магло затрымаць яе. Яна звычайна прыходзіла акуратна. Не, акуратна — гэта не тое слова, яна звычайна з нецярплівасцю чакала пары іх спаткання. Колькі разоў так здаралася, што ён, якому ў такія дні дома не сядзелася, прыходзіў раней і амаль тады ж, да часу, паяўлялася яна! Як яна весела смяялася, падбягаючы да яго, як шчасліва свяціліся яе вочы, калі ён ускідваў яе, лёгкую, бесклапотную, на сваіх руках!

— Аа, і ты не ўтрываў! — гарэзна смяялася яна. — Не ўтрываў, як хлапчук! Такі сур'ёзны, сталы з выгляду. Прыбег, як хлапчук... — Папраўляючы валасы, плацце, яна міла крывіла губкі і канчала безнадзейна: — А пра мяне і казаць няма чаго. Такая нецярпячка стала!..

Ён цалаваў яе. І цяпер, зноў успамінаючы ўсё, ён адчуваў, што ўнутры ўзнікла штосьці прыемнае, лёгкае. Сам сабе ўсміхнуўся: «Нецярпячка!»

Чалавек быў малады, зграбны, з лагодным, прываблівым тварам, са зменлівым, неспакойным позіркам вачэй. Быў ап-

ануты ў касцюм спартыўнага крою і трымаў на правай руцэ габардзінавае паліто.

Ён стаяў пры дарозе, якая крута збочвала да рэчкі, што ледзьве віднелася адсюль за зараснікамі алешніку. Убаку, дзе дарога падступала к зараснікам, нібы падфарбаваны, жаўцеў яшчэ новы масток. Дарога ішла нейкі час па зялёным лужку, потым узбівалася на поле, знікаючы за радам хат у вёсцы. Побач з вёскай, крыху наводшыбе, была станцыйка, невялікая, паўпустая, вядомая толькі дачнікам з недалёкага горада.

Дзень быў ясны, блакітны. Але сонца ўжо не магло як след нагрэць зямлю і паветра, і нават у гэты ясны дзень адчувалася восень, подых недалёкіх халадоў. Далячынь віднелася пасенняму задуменная, маркотная, са сваімі апусцелымі палямі, з пагалелымі там і тут дрэвамі. І неба было ўжо не лагоднае, не асмужанагарачае, а халаднаватае і нядобрае, і, гледзячы на яго, хацелася зашпіліцца ці надзець паліто.

Чалавек і надзеў паліто. Ён паглядзеў у бок станцыйкі і пачаў нецярпліва пахаджваць, мяркуючы, што ж магло затрымаць Алю. Можа, бацька не пусціў, — бацька ў яе — прыгадаліся расказы Алечкі — чалавек строгі, дэспатычна строгі. Нельга сказаць, каб ён вельмі цікавіўся жыццём дачкі, але ў тым, што так ці інакш даходзіла да яго, палкоўнік быў суддзя не літасцівы. Прыгадалася, як Аля неяк сказала, што калі хто і можа перашкодзіць іх шчасцю, дык толькі ён. «Не, нават ён ужо не зможа адарваць ад цябе!..» — запярэчыла сабе амаль адразу ж яна.

Яна не любіла непрыемных думак і неяк умела адганяць іх.

Можа, таму так лёгка і радасна было заўсёды з ёю...

Леанід успомніў, як аднойчы спаткаў іх на вуліцы разам, бацьку і дачку. Алечка ішла побач бацькі, штосьці гарэзна гаварыла. Палкоўнік слухаў яе ўважліва, дзіўна сур’ёзна, нават строга. Яна весела кіўнула Леаніду і прайшла, шчаслівая, бесклапотная, лёгка датыкаючыся плячом бацькавай рукі. Леаніду зрабілася чамусьці прыкра, не, не за яе, а за сябе, за тое, што ў іх дачыненні з Алечкай, дзе раней былі яны ўдваіх, нібы зазірнуў трэці, і не абыякавы, не так сабе цікаўны, а блізкі да ўсяго. Няўхільна блізкі.

Леанід тады збянтэжана азірнуўся ўслед ім. Увесь той дзень ён не мог адагнаць ад сябе цягучага прадчування, што мусіць здарыцца нейкае няшчасце...

Яму яшчэ некалькі разоў даводзілася сустракацца з палкоўнікам. І кожны раз Леанід мімаволі насцярожваўся, кожны

раз здавалася, што палкоўнік зараз спыніцца і пачне размову, тую размову, якая магла б пачацца даўно і якая, на шчасце, усё абыходзіла. Ён трывожыўся перад гэтай размовай. Ён баяўся яе, бо не ведаў, што скажа: ён адчуваў сябе нібы падсудным...

Прыгадалася іншае: як Аля спаткала яго і Таню, жонку, ва універмагу. Таня і ён стаялі ў дзіцячым аддзеле на другім паверсе і выбіралі трыкатажны касцюмчык для Валодзькі, сынка. Леанід павярнуўся да Тані, паказваючы касцюмчык, які яму спадабаўся, і неспадзявана заўважыў Алю. Яна, мусіць, была ў суседнім, парфумным, аддзеле і ўбачыла яго таксама нечакана. Аля ўбачыла не толькі яго, а і тую, каму ён задаволена ўсміхаўся. Яна хутка, абражана павярнулася, не сказаўшы ні слова, не прывітаўшыся нават...

Таня не зразумела, чаму так рэзка перамяніўся настрой у яго, чаму ён стаў раздражнены і няласкавы. Яна наогул часта не разумела яго з той пары, як у яго жыццё ўвайшла гэтая дзяўчынка.

Так, усё стала блытаным. Дома былі спрэчкі, папрокі, падазрэнні, якія трэба было трываць ці ўціхамірваць. Пасля ўсяго гэтага не лёгка і не проста было думаць пра тую, з якой бачыўся патайком...

Тут Леанід перапыніў непрыемныя назойлівыя думкі. «Чорт, што гэта сёння найшло на мяне! — падумаў незадаволена. — Умею я тлуміць сабе галаву, ды яшчэ ў святочны дзень. У такі дзень!..» Ён заўважыў, што ўжо не стаіць, а ходзіць, неспакойны, заклапочаны.

Добры ж дзянёк выдаўся сёння на гэтым узлессі каля рэчкі! Нібы знарок для іх з Алечкай пастаралася прырода, каб парадаваць яшчэ раз перад тым, як пойдуць нудныя бясконцыя дажджы і раскісне слатою зямля. Леанід убачыў на дарозе, што ішла паўз станцыю, сіненькую «Пабеду» і, абнадзеены, настрыўся позіркам, — ці не яна едзе, не Алечка?

«Пабеда», уздымаючы рудаватую хмарку пылу, прайшла да мастка, а на гэтым беразе адразу павярнула ў другі бок, да лясочка на пагорку. Мусіць, па грыбы нехта выбраўся, — аўталюбіцель ці хтонебудзь з начальства...

Што ні кажы, добры дзянёк!..

Леанід, злажыўшы рукі на жываце, так, як ён гэта рабіў, калі выступаў на сходах, хвіліну пазіраў на той лясок, у якім схавалася сіненькая «Пабеда». Лясок, як і гэты, каля якога ён стаяў, яшчэ быў амаль увесь у асеннім сваім убранні, ён, зда-

валася, свяціўся на сонцы. Дрэў голых у ім было мала, чарнелі галлём толькі дзенідзе вострыя вяршыні. А ў полі ўжо ўсе дрэвы агалелі. Вецер абтрос, абскуб да пары...

Там, за ляском, каля апошніх рэдкіх сосен, іх дача, дача палкоўніка, Алінага бацькі. Леаніду добра знаёмыя пыльная дарожка, па якой пайшла «Пабеда», і лясок, у якім ён з Аляй развітваліся. У грудзях у Леаніда соладка заныла, калі прыгадаў дарогу, ростані, яе ў абдымку, — першы дзень удваіх. Як яна строга, непадступна развяла яго рукі, калі ён першы раз паспрабаваў яе абняць, як яна ўпарта адварочвалася ад яго пацалункаў, дакорліва пазірала сваімі мілымі, з касым разрэзам — нібы ў кітаянак — вачыма. Яна пагразілася, што, калі яшчэ раз гэта паўторыцца, ніколі больш не пойдзе з ім! Леанід ведаў, што яно магло б так і стацца. Аля не жартавала. Яна цяжка, неахвотна ішла насустрач яму. Не, больш праўдзіва, яна ніяк не ішла да яго, яна ставілася тады да яго як да чалавека, якога, нічога не зробіш, трэба цярпець. Яго крыўдзіла, абражала гэтая абыякавасць. Да таго ж у яе быў тады друг, па ўсім відаць, па вушы закаханы ў Алечку. Друг, прыгожы, рослы, з наіўна-яснымі і чыстымі вачыма, былы яе таварыш па школе. «Слаўная пáра!» — падумаў Леанід, пабачыўшы іх у першы раз.

Яму тады, — смешна згадаць, — як ніколі раней, захацелася быць прыгожым. Быць такім, каб яна бачыла, што ён лепшы за іншых, каб глядзела на яго так, як пaглядаў на яе ў той дзень ён.

У памяць надоўга ўрэзалася, якой Леанід убачыў яе ўпершыню. Алечка сядзела на беразе рэчкі ў блакітным з белымі каёмачкамі купальніку, жмурылася ад яркага святла, падзіцячы матляла нагой па вадзе і чамусьці ўсміхалася. Усмешка была, мусіць, самая звычайная, бесклапотная і, можа, пустая, але яна дзіўна вабіла і хвалявала тады. Леанід гаварыў штосьці з прыяцелямі, адказваў ім, але што — і сам не ведаў, ён, нават адводзячы вочы, бачыў бесклапотную дзяўчыну, што жмурылася ад сонца і зайздросна ўсміхалася. Каму, чаму ўсміхалася?

На яе яшчэ не зусім падсохлых каштанавых, адкінутых назад валасах таксама смяялася гуллівым праменьчыкам сонца. Хлопец, друг яе, ціха падкраўшыся, схапіў дзяўчыну за руку і хутка пацягнуў у ваду. Усмешка знікла, дзяўчына ўскрыкнула ад раптоўнага вадзянога холаду. Праз момант, у вадзе, Алечка шчасліва зарагатала, і юны смех гэты крануў самыя чулыя куточкі сэрца.

У той дзень Леанід пазнаёміўся з ёю. Ён кінуў сваіх прыяцеляў, якія гразіліся, што зараз паедуць на «Масквічы», які

прывёз і яго сюды. Леанід абыякава адмахнуўся. Яму хацелася бачыць Алечку, слухаць яе, ведаць, што з ёй можна будзе яшчэ пабачыцца. Праўда, ён не толькі слухаў яе, ён і сам гаварыў, гаварыў, як, можа, ніколі, цікава і хвалююча. Леанід яшчэ ад сваіх выступленняў у будканторы ці на гарадскіх сходах будаўнікоў ведаў цудоўную сілу красамоўства. У той жа дзень ён быў у асаблівым настроі. Гэта было натхненне. Ва ўсім Алечка вінавата, яе суседства. Яна так добра, падзіцячы сур'ёзна слухала, так слаўна смяялася... Друг яе (Аля звала яго Вовачка) ішоў, памахваючы галінкай, поруч і таксама смяяўся, не ведаў, не здагадваўся, як нявесела абыдзецца яму гэты смех!

На трэці дзень Леаніду пашчасціла быць аднаму з Аляй. Яны і купаліся, і хадзілі па лесе, адурманеныя цяплом, весялосцю, густым пахам хвоі. Аля амаль безупынку смяялася яго жартам, здавалася такою даверліваю, блізкаю, што Леанід не ўтрываў, памкнуўся абняць. Як яна строга паглядзела на яго: «Калі вы яшчэ хоць раз!..» Мілая дзяўчушка! Леанід Андрэевіч мімаволі ўсміхнуўся, успомніўшы гэты позірк. Мілая дзяўчушка, яна не ведала, што чым стражэй абыходзіцца з ім, тым больш жаданай становіцца.

Увечары, на ціхай, яшчэ цёплай ад нядаўняй спёкі дарозе, што ішла да іх дачы, ён упершыню пацалаваў яе. Яна гнеўна вырвалася і ледзь не заплакала ад абурэння. «Хто вам дазволіў, як вы можаце так!.. Думаеце, калі вы такі, дык вам усё можна?!» Леанід не спрачаўся, не даводзіў нічога. Толькі сказаў, што ён няшчасны, што, відаць, такі лёс яго, быць нямілым, непрыемным усім, і што калі ён сапсаваў Алі дзень, то няхай яна даруе. Леанід гаварыў гэта з болем, — ён адчуваў сябе ў той час — ці так здалося — амаль няшчасным чалавекам.

Ён толькі правядзе дахаты і, можа, больш ніколі не будзе замінаць ёй. «Вы ж ведаеце, што гэта няпраўда...» — сказала ціха Алечка, калі Леанід холадна паціснуў на развітанне руку. Леанід здагадаўся, што значылі гэтыя словы, але зрабіў выгляд, што не разумее іх. «Не выдумляйце, вы ўсё разумееце, —прамовіла ўсё так жа ціха яна. — Усё разумееце... А не разумееце — дык здагадаецеся...»

Яна запрасіла Леаніда прыйсці заўтра.

Стрымліваючы ўнутры радасную хвалю, што запоўніла грудзі, Леанід, яшчэ засмучоны, пакорлівы, падзякаваў. Гэта цяпер здаецца дзіўным, але ў той вечар ён адчуваў на сабе нейкую яе ўладу. Праўда, у душы пакорлівасць яго не была

такой вялікай, як ён паказваў. Яму падабалася выстаўляць яе, павялічваць, каб Аля ўбачыла і ацаніла, каб злітасцілася. Ён узяў яе запрашэнне як добры знак прыязнасці. Ідучы тады па вячэрнім бязветраным шляху ў горад, ён быў, помніцца, шчаслівы, узрушаны прадчуваннем блізкага шчасця...

Аля пакахала. Пакахала так горача, самааддана, што ён і ўзрадаваўся і занепакоіўся. Яго яшчэ не кахалі так, уся душа, увесь пал непатрачанай, не падзеленай ні з кім маладосці быў у гэтым, першым у яе жыцці, даверлівым каханні.

Яна гаварыла пра яго, думала пра яго, жыла толькі ім, для яго.

За што яна пакахала, што яна ўбачыла ў ім! Яна знайшла ў ім такія цуды, пра якія ён і сам не здагадваўся. Аказалася, што ён чалавек незвычайны, выключны, яна захаплялася яго розумам, яго ведамі. «Як вы так многа ведаеце?! Вы ж проста —геній! Геній, я адчуваю!.. Пасля вас усе здаюцца такімі дробненькімі!»

Леанід стаў не толькі самы разумны, але і самы прыгожы...

Пасля сустрэчы ва універмагу каханне яе змянілася. Яна нібы прачнулася, ужо не было такога бясхмарнага захаплення, між броваў нярэдка вырэзвалася маршчынка сумнага, цяжкага роздуму. Усё ж каханне не згасла. Яно стала толькі цяжэйшым, але, можа быць, нават памацнела...

Да таго ж, Аля ўмела адганяць смутак...

Тут Леанід, што задуменны пахаджваў па ўзлессі, убачыў на дарозе, якая спускалася з лясочка на ўзгорку, дзявочую постаць. Хоць дзяўчына была далекавата, ён пазнаў: гэта Алечка! Пазнаў па лёгкай постаці, па хадзе, сціплай,строгай.

Паявілася. Нарэшце. Але чаму яна так запазнілася, чаму прымусіла столькі чакаць? Леанід мімаволі адсунуў рукаў, каб зірнуць на гадзіннік. Зрабіў ён гэта звыклым жэстам, — адсоўваць рукаў пінжака і глядзець на гадзіннік даводзілася кожны дзень па многа разоў. Глядзець, праўда, з іншай нагоды, —каб не спазніцца на працу або — на будаўнічай пляцоўцы, каб ведаць, колькі ўзяла часу якаянебудзь аперацыя. Леанід здзіўляў на службе дакладнасцю.

Амаль на пяцьдзесят пяць хвілін спазнілася! Ён гэтага не даруе, не павінен прапусціць так сабе, нават калі ў яе была ўважлівая прычына. Ці мала што можа перашкодзіць прыйсці ў час, калі вельмі глядзець на ўважлівыя прычыны? Хіба яму проста было вырвацца з горада, а ён жа не затрымаўся!

Ён сачыў за Аляй. Дзяўчына ішла ціха, непаспешліва. Гэта былі не тыя лёгкія не то хада, не то бег, якія ён бачыў звычай-

на, калі Алечку нібы вецер нёс насустрач. У Леаніда ўзнікла раўнівае падазрэнне — а можа, яна ўжо астыла да яго, можа, гэтае спатканне ўжо не ў радасць? Адразу нагадалася, што, калі ён званіў некалькі дзён назад з аўтамата каля кніжнага магазіна, яна нешта вельмі нявесела згадзілася паехаць сюды. Казала, што баліць галава...

Так, усё ў жыцці мае ўздым і спад, пачатак і канец. І хіба ён, калі быць шчырым, цяпер так любіць, як тады, у дні першых іх сустрэч, калі вельмі вабіў нязведаны чароўны свет незнаёмай дзяўчыны? Хіба не находзілі на яго такія хвіліны, калі выпаўзала трывожнае сумненне, — ці не дарэмна пачаў ён гэтае блытанае, цяжкае жыццё?

Леанід сам сабе запярэчыў: не, якая часам прыходзіць у галаву бязглуздзіца, — думаць, што дарэмна зазірнула да яго шчасце, такое шчасце, аб якім іншыя мараць!..

Не, ён не шкадуе, што лёс звёў, звязаў іх. Усе непрыемнасці, усе трывогі, калі зірнуць спакойна, калі ўзняцца над дробнымі развагамі і трывогамі,— нішто ў параўнанні з тым, што дала яму гэтая любоў, гэтая мілая дзяўчына. Колькі радасці прайшло цераз яго сэрца за адно лета!

Леаніду ўспомніліся радкі верша. Ён ведаў вершаў вельмі многа: любіў іх, а на памяць наракаць не прыходзілася, — мог не адну гадзіну пераказваць іх — Ясеніна, Фета, Надсана, Шчыпачова. Цяпер выплылі, ажылі чатыры амаль забытыя радкі, аўтар якіх ужо і не помніўся. Ён прамовіў іх уголас:

> Не знаю, что будет, не помню, что было,
> Ты знаешь и помнишь, ответь.
> Но если такая меня полюбила,
> То можно и плакать и петь...

«Сімпатычна! — падумаў ён. — Трэба будзе расказаць Алі. Цікава, як ёй гэта спадабаецца? «Не знаю, что будет, не помню, что было...» Ну, тут пра тое, што было, — «не помню», вядома, хлусня. Мусіць, не было чаго вартага, каб помніць, а то б не забыў. А наогул сімпатычна зроблена. Прыгожа...»

Леанід пайшоў насустрач Алі. Ён ужо не крыўдаваў на яе, у Леаніда быў цяпер велікадушны, не памятлівы на зло настрой. Леанід нават сарваў светлую, з крапінкамі кепку і гарэзна, прывітальна памахаў ёй.

— Аляа!

Яна адказала, таксама махнула рукой, але, здалося яму, нібы няўпэўнена. А, мусіць, адчувае, што не абысціся без «наганяю»!

Аля была апранута ў летняе клятчастае паліто, падпяразанае такім жа поясам. Паясок гэты добра паказваў, якая яна тоненькая, стройная, лёгкая, стройнымі, прыгожымі былі яе загарэлыя высокія ногі ў прыпыленых туфельках.

Не, сёння было ў ёй штосьці не зусім звычайнае. Можа, гэта пакуль толькі здавалася Леаніду, яна і праўда нібы не вельмі радавалася сустрэчы. Як і тады, калі была далей, Аля не толькі не бегла да яго, але быццам і зусім не спяшалася.

«Гм... Дзіўна».

Леанід не ўбачыў у знаёмых карых вачах звычайнага шчаслівага бляску, калі Аля і ён сышліся. Аля прывіталася стрымана, як малазнаёмая, падала руку.

— Я спазнілася, здаецца...

Вузкая, з кволымі пальчыкамі рука яе, якую Леанід трымаў у сваёй руцэ, была халодная і безуважная. Такой жа халоднай здавалася і сама Аля.

«Няласкавая якая. Што з ёй?.. Разлюбіла?.. Бывай, каханне?.. Ці, можа, непрыемнасць якая? Мусіць, непрыемнасць... Штонебудзь з бацькам. Можа, паспрачалася...»

Ён пастараўся зрабіць выгляд, што не заўважае нічога. Ці доўга яму развеяць гэты прыкры настрой!

— Спазнілася? Ды за такое цябе трэба было б... Кары такой не прыдумаеш адразу... На гадзіну!..

Леанід сказаў гэта з сяброўскай, жартаўлівай пагрозай, тым манерам гаварыць, які ён пераняў ад яе і які ўстанавіўся між іх як знак асаблівай іх блізкасці. Аднак Аля сёння, мусіць, не хацела жартаваць, не адказала на вясёлую пагрозу. Чорнае брыво нават незадаволена варухнулася.

Не, так легкадумна гаварыць з ёй не трэба. Леанід далікатна ўзяў дзяўчыну за локцік, і яна паслухмяна, хоць і без радасці, падалася поруч з ім па дарозе, у той бок, адкуль Леанід прыйшоў.

— Я ўжо збіраўся павярнуць назад. Што здарылася, Аля?

Яна маўчала, насцярожаная, строгая.

— З бацькам штонебудзь?

— Не, нічога...

Яна не хацела гаварыць. Леанід усё ж запытаўся:

— Ён затрымаў?

— Выехалі позна... Да яго таварыш зайшоў...

Леанід сказаў гарэзліва:

— А я ўжо думаў, ці не разлюбіла? Раўнаваць пачаў...

Чорнае брыво зноў незадаволена варухнулася.

— Ты ці не захварэла?

— Не...

Аля зноў змоўкла, і Леанід адчуў, што пытацца ні аб чым не трэба. Яны далей ішлі ціха, — дзяўчына незразумела сталая, нібы стомленая, з затоенымі нейкімі пачуццямі і думкамі, і ён, старэйшы з выгляду за яе, але памаладому бесклапотны, нават вясёлы. Леанід падтрымліваў яе пад локцік, памахваў кепкай у левай руцэ і паглядваў то на дарогу, то на прырэчны лазняк, то на лес, то на сваю спадарожніцу. Спадарожніца безуважна пазірала перад сабой і не заўважала, здавалася, не толькі навакольнага хараства, але і яго пяшчотнай рукі пад локцем.

— Ты ўсё роўна што праблему важную рашаеш, — папракнуў Леанід. — Пра што ты думаеш?

Брыво зноў незадаволена варухнулася.

— Так. Рознае.

— Што?

Яна не адказала. Леанід пакрыўджана адвярнуўся, замармытаў: «И хорошо мне здесь остановиться, и, глядя вдаль, подумать, помечтать!» Мімаволі праплыла думка — так, халодная далеч у гэты ясны дзень, усё халоднае. І блакітнае, без хмурынкі, неба, і асаблівая, незвычайная празрыстасць чысцюткага паветра. І нават гэты лес, ахоплены апошнім пагібельным заравам, апошняй успышкай шчодрай красы.

Яны ўвайшлі ў лес. Галлё, што высоўвалася на сцежку з абодвух бакоў, час ад часу перагароджвала ім дарогу, і Леанід, выпусціўшы Алін локаць, клапатліва адводзіў галіны, пакуль яна праходзіла. Лес быў напоўнены шолахам, — шолахам лісця пад нагамі, шолахам ветру, ціхім гулам вяршынь.

Дзенідзе трапляліся цэлыя дзялянкі зусім згалелых дрэў, і лес сумна хваляваў пустэчай.

Пуста было і на любімай палянцы над ярком. Трава, на якой яны калісьці сядзелі, цяністая аксамітная трава, была цяпер рудая і асклізлая. Асіна, стройная, нібы ababітая цынкам, шумела ўжо зусім голымі галінамі.

— Толькі пянёк наш не змяніўся... — сказаў Леанід і абняў Алю.

Ён пацалаваў халодныя вусны дзяўчыны. Аля хутка адарвала свае губы і схавала твар на яго грудзях.

— Ты чаго гэта такая?

Яна маўчала.

— Ты, здаецца, і гаварыць не хочаш?

На яе каштанавых валасах ён заўважыў серабрыстую нітку бабінага лета. Леанід пяшчотна зняў павуціну, падумаў: «Нібы сівізна...» І раптам яго позірк выхапіў яшчэ серабрыстую нітку — адну, другую, трэцюю. Гэта была ўжо не павуціна!

«Што гэта?! Адкуль гэта?»

— Аля, ты штосьці тоіш!..

Ён сказаў гэта рэзка, ён патрабаваў адкрыць затоенае. Аля вызвалілася, адвярнулася і адышла на некалькі крокаў.

— Я пакрыўджуся!

Яна не паварухнулася. Стаяла плячом да яго і маўчала. «Вось дык спатканне!» — падумаў Леанід, адчуваючы, што пачынае злавацы.

Над імі, вакол іх, задуменна, тужліва шумеў лясны лістапад.

— Ну што ж, маўчы... Будзем маўчаць!..

— Добра!

Аля раптам парывіста павярнулася да яго, і Леаніда апаліў яе позірк, нецярплівы і патрабавальны:

— Леанід... скажы, ты мяне любіш?

Яна не пыталася, а патрабавала. Леанід адчуў, што яе вочы, у якіх гарэла вялікая рашучасць, тон гаворкі ўзялі яго, падначалілі.

— Вось яшчэ!.. Што ты гэта? Вядома... люблю.

— Любіш?

— Ты... сумняваешся!

Вочы яе не верылі. Нязвычныя, дзіўныя былі сёння гэтыя вочы, якія так умелі калісьці смяяцца, як строга і рашуча яны глядзелі.

— А чаму ж ты не хочаш... — яна запыніла дыханне, збіраючы сілу, каб дагаварыць, сказаць такое цяжкае, — жаніцца са мной?

— Жаніцца?

— Так!

— Чаму — не хачу?

— Так, чаму?

Ён уздыхнуў.

— Выдумала... «Не хачу»... Хіба ў тым справа — не хачу?

— Хочаш? Так, праўда, гаварыў... Хочаш...

— Ты ж ведаеш, Алька, — Леанід знарок з велікадушнай усмешкай, гатовай усё дараваць, як дзіцяці, паспрабаваў абняць Алю. Яна непадступна, непрыхільна адвяла яго рукі.

— Не трэба!

Леанід вінавата замармытаў:

— Калі б не Валодзька... Даўно б... Шкада мне яго... Не аддасць яна, разумееш?

Чарнабровы, паўнаваты твар з падпухлымі мяшочкамі пад вачыма спахмурнеў, пакутліва паморшчыўся.

Аля, здаецца, нічога не хацела разумець. Нядобра маўчала. Леанід з непакоем чакаў.

— Як гэта брыдка! — прамовіла яна з болем.

— Што?

— Жыць з чалавекам, з другам, і ледзь не штодня ашукваць яго! І глядзець прытым у вочы.

— Аля... Ты нічога не разумееш...

— Брыдка!

— Ну, ведаеш, — прамовіў ён з раздражненнем. — Урокі паводзін мне не патрэбны!..

Яна маўчала. Не пярэчыла — нібы не чула. Не падымала вачэй на яго. Леанід прыгадаў, як збіраўся на гэтае спатканне, усхваляваны, памаладзелы. Ён яшчэ напярэдадні сказаў жонцы, што трэба наведаць таварыша ў вёсцы, настаўніка, але сёння ў яго быў, мусіць, такі прытоеназладзейкаваты выгляд, што ў яе ўзнікла недавер'е. Да яе ўжо не раз даходзілі розныя чуткі, яна тоесёе ведала, аб тымсім здагадвалася. Непрыемна кальнуў апошні, насцярожаны позірк яе, — ад гэтага ўвесь час, пакуль стаяў у тамбуры прыгараднага поезда, да самай станцыйкі, на душы было гадзенька...

Чорт пабяры, як яна, Аля, умее сёння вярэдзіць самыя непрыемныя пачуцці! Яна становіцца злой, яе проста цяжка цярпець. Яшчэ не стала жонкай, а ўжо гаворыць так, нібы мае на гэта права!

— Аля, ты не маленькая, ты зразумей. Ты ўсё можаш зразумець, дык зразумей... гэта не так проста... Думаеш, мне прыемныя гэтая мана, фальш?!

— Але ж вы яе ўсё ж церпіце? І — нішто...

— Стаміўся я. Ад маны гэтай, ад гэтай разарванасці...

Ён недагаварыў. У Леаніда сёння неяк не хапала звычайнай лёгкасці ў словах, закончанасці. Што сказаць, каб апраўдацца?

Чаму ён цярпеў і церпіць ману? А што ж было рабіць у такім стане? Што? Ён спачатку думаў, разважаў. Гэта было непрыемна і без карысці. Потым ён проста стараўся не тлуміць галавы сабе невясёлымі, блытанымі пытаннямі, якім, здаецца, не было адказу і ад якіх жыццё траціла многа сваёй прывабнасці...

Ён, можа, і Алю любіў таму, што з ёй было лёгка і весела. Леаніду ніколі не думалася пра тое, што з ёй можа быць нешта іншае. Ён амаль ніколі не задумваўся глыбока. Леанід лічыў, што людзі часта няшчасныя ад таго, што загадваюць на ўсё жыццё, тады як трэба жыць тым, што ёсць. Ён ведаў адно: жыццё існуе для радасці, і браў яе, гэтую радасць, для сябе, не лічачыся ні з чым...

— Як усё гэта цяжка, складана, заблытана, Аля! — прамовіў ён з пакутай у голасе.

— Вам цяжка! Вам — аднаму!

Леанід падумаў, — якая яна жорсткая, бязлітасная! Хто б мог уявіць, што ў яе, такой нібы добрай, ласкавай, столькі чэрствасці да другога. Як можна памыліцца ў чалавеку!..

— Калі б не сын, Аля, не Валодзька!..

— Сын! — дзіўна нервова адгукнулася яна.

Аля зірнула на яго, і ў яе вачах Леаніду адкрылася столькі нястрыманага болю, столькі безразважнай рашучасці, што яму стала страшна.

— Сын!..

Яна раптам крыкнула з адчаем:

— Цяпер ён не адзін!

Пакута ў вачах, ва ўсёй постаці Леаніда адразу знікла, яе змянілі спалох і разгубленасць. Што, што яна сказала? Не адзін? Пра якога яшчэ сына гаворыць яна?

Выказаўшы тое, што так доўга і балюча ўтрымлівала, Аля адразу абмякла і заплакала. Горка, няўцешна.

Ён слухаў, бачыў гэта, думаў, што трэба нешта рабіць, нешта сказаць, — і не мог зварухнуцца.

— Ты што гэта, Аля?.. — выціснуў ён нарэшце. — Гэта — праўда?..

Леанід азірнуўся, — ці не чуў хтонебудзь, ці не паглядае на іх. Нікога не было. Толькі лес гуў маркотна і цягуча.

Яна, мусіць, чакала, што ён нешта скажа ратоўнае, што падтрымае, але ён адно разгублена гладзіў яе локаць. Чорт пабяры, гэтага толькі і не хапала! Але што рабіць, што ёй сказаць? Дзіўна, як пуста зрабілася ў яго грудзях, у галаве.

Не дачакаўшыся ні падтрымкі, ні суцешлівых слоў, Аля бяссільна апусцілася на мокрую траву, прыпала да камля асіны і няўціхна, захліпаючыся ад роспачы, зарыдала. На нейкі час яна была сціхла, выцерла насовачкай слёзы, здалося, паспакайнела, але неспадзеўкі застагнала, застагнала так, што Леанід затрывожыўся.

Ён нахіліўся да Алі, няўпэўнена паспрабаваў абняць.

— Аля... ты не... памыляешся?..

Яна не адгукалася. Рыдала, рыдала і стагнала.

— Даўно гэта?

Гаворачы гэта, лашчачы яе валасы, успомніў той вечар, які дасюль здаваўся вельмі прыемным і ў які, мусіць, і адбылося непапраўнае. Алечка ездзіла ў Бабруйск, да цёткі, і ён ездзіў з ёй...

Не даехалі крыху, сышлі на станцыі перад горадам... Хадзілі, закаханыя, забыўшыся аб усім, па незнаёмай дарозе, па зжатым полі, сядзелі на ўзлессі. Гэта было таямніча і хораша... Толькі на світанні, бесклапотныя, заснулі на траве... Прачнуліся ў абдымках, пад шчабятанне птушак, пад гул травяной драбнаты, прыгрэтай шчодрым сонцам... Абняўшыся, ішлі да горада...

— Аля!.. Супакойся!..

Цяпер яна гаравала за тое. А Леанід, — якім ён бездапаможным, нікчэмным здаваўся і сам сабе. Паўтараў адны і тыя ж словы і ніяк не мог прыдумаць, чым можна было б уцешыць яе. Дзіця, у яго — дзіця, у яго і ў Алі, — з гэтай думкай цяжка было адразу звыкнуцца... На гэту вестку цяжка было адказаць чымнебудзь ясным...

— Аля... не трэба адчайвацца!..

Яна не адказала.

Так, моцны вузялок завязаўся. Усё жыццё імкнуўся Леанід унікаць гэтых вузялкоў, а жыццё завязвала ды завязвала. З Таняй было ж амаль тое самае: пачалося з дробязі, з глупства, — провады, вершы, лірыка, а кончылася тым, што жаніўся. І сам, здаецца, не заўважыў, як здарылася ўсё, а калі заўважыў, пашкадаваў, — было позна... У гэты час ён ад душы пашкадаваў і пра ўсё, што здарылася з Аляю. Хіба гэта было неадступна, неабходна? Зноў убачыў сівыя ніткі ў яе валасах і ўспомніў ясна, аж зашчымела ў сэрцы, — як яна сядзела на беразе ў той дзень, калі былі яшчэ незнаёмыя, як яна вадзіла дураслівa нагамі ў вадзе. Якая цудоўная, шчаслівая ўсмешка трапятала тады на яе губах!

Ён убіўся ў яе жыццё, убіўся, замуціў яе спакой, яе радасны позірк, напоўніў яе вочы слязамі!.. Для чаго?

Плечы Алі перасталі ўздрыгваць, плач сціх. Усё ж дзяўчына не адказвала на яго пяшчоты. Леанід адчуваў, што яна, як і раней, халодная і няласкавая.

— Наплакалася, дурніца, — сказала дакорліва, строга сабе. — Вы, вядома, не чакалі такога сюрпрызу?

У голасе яе Леанід пачуў непрыязную насмешку.

— Не, чаму ж... У жыцці ўсяк бывае...

— Як жа. Усё смяялася бесклапотна, весяліла. Птушачка, шчабятуха... І сёння ішлі, думалі пачуць шчабятанне, а тут раптам — такі сыры прыём. Слёзы. Жаночыя слёзы. Здаецца, мужчыны вельмі не любяць глядзець на іх... Жанчына ў слязах, кажуць, робіцца вельмі непрыемнай, брыдкай, праўда?..

Аля кінула калючы позірк.

— Аля, адкуль у цябе столькі злосці?

— У мяне яе заўсёды столькі было. Проста вы мяне, Леанід Андрэевіч, не ведалі. Думалі, шчабятуха, а я такой толькі здавалася...

Ён зрабіў выгляд, што не заўважыў, як яна нядобра прамовіла: «Леанід Андрэевіч». Спачувальна, павучальным тонам папракнуў:

— Ты дарэмна здзекуешся з сябе!..

— Я не здзекуюся, Леанід Андрэевіч. Я зусім сур'ёзна. — Яна памаўчала, задумалася, незадаволена прыўзняўшы брыво, потым загаварыла інакш, шчыра: — А з чаго мне быць вельмі ласкавай да сябе? З якой прычыны?

Яна глянула проста ў яго вочы сваімі нядобрымі, яшчэ вільготнымі, незвычайна яснымі. Леаніда ўразіла незнаёмая, недзявочая цвёрдасць яе позірку. Позірку, што многа бачыў і многа ведаў, пранікаў, здавалася, у самае сэрца.

— У гэтым няма нічога страшнага...

— Няма?

Ён сказаў, як мог, бадзёра:

— Цяпер гэта проста...

— Проста?! — Вочы яе адразу ўспыхнулі. — Проста?! Які вы!..

— Я любіў цябе і — люблю, — заспяшаўся паправіцца Леанід. — Хіба гэта дзіўна, што людзі, якія любяць, не баяцца нічога, ні перад чым не спыняюцца?.. — Аля не запярэчыла на гэтыя словы, і ён адчуў, што думка яго знайшла якраз тую яснасць і пераканаўчасць, якую ён шукаў. — Аля, — сказаў Леанід, беручы яе руку, — калі я думаў пра цябе, я забываў на ўсё. Забываў пра Таццяну, пра ўсё. Я не мог не думаць пра цябе. Ты была для мяне незвычайным, радасным, казачным светам.

— Казачным, радасным, бесклапотным... І вось — казка скончылася. Усе казкі, нарэшце, канчаюцца, нават самыя дзіўныя і доўгія. А калі яна скончылася, то аказалася, што за ёю — жыццё, шэрае і зусім звычайненькае. І з такою развязкай...

— Ты дарэмна злуешся. Ты ні ў чым не вінавата... У імя кахання...

— А скажыце, вы ўпэўнены, што сапраўды кахалі мяне і — будзеце кахаць?

— Так... — паспяшаўся, прымушаючы сябе, адказаць Леанід. Аля, заўважыў ён, не паверыла. У Леаніда гэта выклікала ўпартасць, рашучасць. — Вось, калі не верыш, я прашу стаць маёй... Заўтра я падам заяву... пра развод...

Сказаўшы гэта, ён адчуў у сабе зноў прыкрую пустату, незразумелую кволасць. «Не, толькі так. Я правільна... — падбадзёрыў сябе. — Правільна... Гэта — адзіны выхад...»

Яна нібы ўбачыла, што робіцца ў ім.

— Не кажыце!

— Аля...

— «У імя кахання»! — прамовіла яна насмешліва, злосна. — Эх, Леанід Андрэевіч!.. «У імя кахання»!.. Ды хіба я шкадавала б?! Ды за вялікае каханне!.. Эх, што казаць!.. «У імя кахання»... Маўчыце!

Яна перавяла дыханне.

— Што са мной было?! — сказала яна здзіўлена, са шкадаваннем. — Як дурман найшоў! Чаму я не бачыла ўсяго раней! Не хацела бачыць нічога! Чаму трэба было здарыцца гэтаму, каб я ўзялася за галаву! Задумалася!.. Паразумнела — калі позна!.. Якая я была! — прамовіла яна зноў, з горыччу. — Выдумала сабе каханне, героя! Выдумала сама і паверыла ў выдумку! Як сляпая! Як у сне!.. Што са мной зрабілася?! Як гэта магло здарыцца! Як я магла не бачыць усяго! Не бачыць, што для героя майго ўсё гэта — толькі забаўка! Маленькая забаўка!..

— Аля, ты няпраўду кажаш...

— Няпраўду?.. Гэта — няпраўда?.. Вы казалі, што вам нудна ад хатніх клопатаў, а я і не падумала, што прыйдзе час...

— Але ж я абяцаю, Аля... я сказаў...

— Не трэба... Вы думаеце, я не заўважыла, як вы спалохаліся, калі я сказала пра дзіця! Я разумею ўсё... Вы пашкадавалі пра тое, што было.

— Аля, я выпраўлю памылку... — Леанід адвёў вочы ў бок ад яе позірку. Аля строга павяла галавой.

— Памылку?! Не, памылку давядзецца, мусіць, мне адной выпраўляць. — Губы яе перасмыкнуліся, яна ледзь стрымалася, каб не заплакаць, але не заплакала. — Мне адной. На жаль, жанчынам адным даводзіцца выпраўляць такія памылкі... Што ж, калі папраўляць, дык папраўляць адну, чым рабіць другую.

Аля хутка адвярнулася, і плечы яе затрымцелі. Леанід, пачуўшы прыдушаны стогн, паспрабаваў абняць яе, але яна непрыязна зняла яго рукі. «Мамачка... мамачка...» Леанід здагадаўся, што Аля, мусіць, падумала, як яна раскажа пра ўсё маці, нелітасціваму бацьку.

Ён стаяў разгублены, гнучы, ламаючы ў руках маладую галінкупарастак з бярозкі, невядома калі і як сарваную, думаў пра тое, як усё гэта непрыемна і якое ўсёткі жорсткае і здрадлівае жыццё. Як усё павярнулася! Ён стараўся прыдумаць, што ж зрабіць у такім становішчы, які выхад знайсці. Жаніцца з ёй, але ж, чаго крывіць душою, ён і сам адчуваў, — гэта была б другая памылка. Потым, — развод, уся цяжкая працэдура, тлумачэнні... Тлумачэнні, ад якіх, можа быць, залежыць яго лёс? Але ж — як яна прызнаецца маці? Што скажа бацька? Што рабіць з дзіцем?

Ні на адно з гэтых пытанняў не знаходзілася яснага адказу... Трэба супакоіцца, абдумаць усё. Можа, яшчэ штонебудзь прыдумаецца, штонебудзь добрае, і вузел можна будзе развязаць... «А што ж з Таняю, — заныла, падступіла няўхільна, — што, асабліва, з Валодзькам?»

Ён усё гнуў і ламаў у руках кволы бярозавы парастак...

Аля неяк адразу перастала плакаць, выцерла незадаволена слёзы, злуючыся на сябе, павольна паправіла валасы. Сказала сумна:

— Нам, здаецца, няма чаго больш гаварыць. — Яна заўважыла, што Леанід намерыўся праводзіць яе, і з нянавісцю дадала: — Не трэба!..

І пайшла па сцежцы, стомленая, сумная, строгая.

*1955*

## ЧУЛАЕ СЭРЦА

Ішла трэцяя восень вайны.

У тую восень у дачным пасёлку пад Масквой, на Сходні, упершыню за вайну сабралася прыкладна паўтары сотні дзяўчат і хлопцаў з заняволенай Беларусі. Гэта былі студэнты, — на Сходні пачынаў сваю працу наш універсітэт.

Мужчын было мала, — толькі некалькі зволеных з арміі пасля шпіталяў хлопцаў у армейскіх шынялях ды паранены хлапчукпартызан.

Хлапчук, з адным пустым рукавом, чарнавокі, сталы не па сваіх шаснаццаці гадах, вечарам расказваў нам пра тое, што перажыў нядаўна на сваёй роднай Бабруйшчыне. Гэта былі расказы пра блізкіх, дарагіх людзей, — ён з затоеным болем гаварыў, як спалілі гітлераўцы жывымі яго маці і бацьку, як ён выратаваўся, уцёк у партызаны, як ваяваў у партызанскай разведцы.

За верандай падмаскоўнай дачы, над якой гусцеў змрок, мірна шумелі бярозы, а мы былі думкамі па другі бок фронту, на той зямлі, дзе стаялі іншыя вечары і ночы, дзе людзі выходзілі на справы са зброяй, дзе палалі вёскі і гінулі бацькі, дзе была няволя.

Гэты чарнавокі хлопец і сказаў:

— Днямі гаварыў са мной Кузьма Чорны, пісьменнік. У партызанскім штабе спаткаліся...

— Чорны?.. Які ён сабой? — зацікавіліся слухачы.

— Які? Просты ён, зусім просты. І вельмі дапытлівы. Казаў — кніжку збіраецца напісаць пра тое, што я расказваў... У госці нават запрашаў прыходзіць.

Якім ні цікавым здавалася мне жыццё хлапчука, я тады не паверыў яму. Не проста было паверыць у тое, што гэты мой знаёмы стане героем кнігі, ды яшчэ якой, кнігі Чорнага, і зусім не хацелася верыць, што вядомы пісьменнік так проста запрашаў у госці.

Пазней, пазнаёміўшыся з Кузьмой Чорным, я мог пераканацца, што дарэмна не паверыў партызанскаму разведчыку. Я ўбачыў, які ён цікаўны да людзей, які просты і шчыры ў абыходжанні з імі, як умее радавацца чужой радасці і спачуваць чужому гору. Няма ніякіх падстаў не верыць, што сярод шматлікіх няспраўджаных задум, ненапісаных твораў засталася ненапісанай і аповесць пра юнага партызанскага разведчыка.

Мне выпала пазнаёміцца з пісьменнікам праз некалькі месяцаў. Яшчэ ў шпіталі на Каўказе, а потым у заволжскім

гарадку я напісаў два апавяданні і цяпер, у гуртку таварышаў, наважыўся прачытаць. Калі мы выйшлі пасля чытання на двор, М. Р. Ларчанка, які быў выкладчыкам універсітэта, параіў аддаць гэтыя апавяданні на суд Кузьме Чорнаму.

— Ён мой сусед. У «Якары» таксама...

Чорны жыў тады ў гасцініцы «Якар», што недалёка ад Беларускага вакзала. Там у той час былі многія беларускія пісьменнікі, вучоныя, артысты.

Ларчанка ўзяў сшытак з апавяданнямі і завёз у Маскву.

Праз дзень ці два, спаткаўшы мяне ва універсітэцкім калідоры, ён сказаў трывожна:

— Чулі? Чорны захварэў. Вельмі цяжка... Удар. Кровазліццё ў мозг.

Гэта быў адзін з тых трагічных «удараў», другі з якіх звёў пісьменніка ў магілу.

Сумная вестка ўзрушыла многіх студэнтаў, якія ведалі і любілі пісьменніка па яго творах. Кожны дзень, сустрэўшы кагонебудзь з выкладчыкаў, што жылі ў «Якары», мы пыталіся:

— Як здароўе Чорнага?

Здароўе пісьменніка было вельмі слабае, ачуньваў ён марудна, цяжка. Яму было забаронена працаваць, ды забарона была фактычна лішняй — ён не мог працаваць.

Як жа здзівіла мяне вестка, якую праз некалькі дзён паведаміў Ларчанка:

— Вашы апавяданні Чорны прачытаў. Учора.

— Ён жа не можа чытаць, — не паверыў я.

— Ён папрасіў дачку. Ірына, дачка, чытала, а ён слухаў, лежачы ў ложку.

У такім стане ўспомніў пра рукапіс нейкага студэнта, успомніў, пацікавіўся ім! Як гэта непадобна на тую абыякавасць, з якой часта даводзіцца сустракацца нашым пачынаючым у кансультацыях розных рэдакцый.

Ён тады яшчэ не мог хадзіць. А праз некалькі дзён, ледзьве ўзняўшыся з ложка, пісьменнік напісаў ліст, адказ на сшытак прынесеных яму апавяданняў.

Мне прынеслі ліст на заняткі. З таго, што гаварыў выкладчык, я амаль нічога не чуў — мусіць, дзесятак разоў чытаў і перачытваў радкі, напісаныя на аркушыку паперы.

Я дасюль берагу гэты ліст як адзін з самых дарагіх успамінаў студэнцкіх год. Ён, гэты ліст, напісаны яшчэ не цвёрдай, не акрэплай пасля хваробы рукой: літары ў ім няроўныя, няўпэўненыя, хісткія. І пры ўсім тым ён напісан не абыяк, не для

таго, каб адпісацца, — на дзвюх старонках хворы пісьменнік разабраў плюсы і мінусы абодвух апавяданняў, даў некалькі карысных парад, падбадзёрыў, пажадаў поспехаў у літаратуры.

«У Вашых апавяданнях, — пісаў Кузьма Чорны, — правільна дадзен аналіз чалавечай душы і добра нарысавана тыповая абстаноўка, у якой дзейнічаюць Вашы персанажы. І надалей сачыце за псіхалагічным абгрунтаваннем чалавечых учынкаў. У гэтым сэнсе ёсць хіба ў апавяданні «Апошняя аперацыя». Не пададзена псіхалагічная прычына таго, чаму немец так абышоўся з раненай жанчынай. Толькі таму, што ён немец? Тут трэба яшчэ нейкая псіхалагічная дэталь. Рэдакцыя, — Чорны працаваў тады ў рэдакцыі часопіса «Беларусь», — возьме на сябе пры друкаванні ў гэтым месцы зрабіць у апавяданні ўдакладненне.

Сачыце за чыстатой свае мовы. Напр. замест *пакой* Вы пішаце *комната* і г. д. Займайцеся заўсёды сваёй беларускай мовай. Ведайце, што мова — гэта аснова літаратуры».

Тыдні праз два мне пашчасціла пабачыцца і гаварыць з ім.

Сшытак з апавяданнямі, перададзены Чорнаму, быў у мяне адзіным рукапісам, ніякіх копій я не зрабіў, і я прасіў М. Ларчанку, каб ён зайшоў да пісьменніка і ўзяў сшытак.

На другі дзень М. Ларчанка сказаў:

— Чорны не даў сшытка. Прасіў, каб вы самі зайшлі. Зайдзіце да яго ў рэдакцыю «Беларусь».

Мне, вядома, хацелася ўбачыцца з Чорным, але такое гасціннае запрашэнне зайсці тады ўсё ж здзівіла. Я яшчэ не ведаў, што пісьменнік вельмі любіў знаёміцца з людзьмі, гаварыць з імі, бачыць іх.

У першы ж дзень пасля заняткаў паехаў у Маскву. Рэдакцыя часопіса «Беларусь» у той час змяшчалася на плошчы Пушкіна, у будынку «Известий». Чорны акурат быў у рэдакцыі.

— Пачакайце крыху, — сказаў ён, калі я назваўся. — Пачытайце от газету нашу. А я тым часам зраблю, што трэба, і тады мы пойдзем да мяне.

Сапраўды, хутка ён стаў апранацца, узяў у рукі кіёчак. Ён быў з выгляду поўны, гэтая паўната здавалася нездароваю. Ішоў ён павольна, абапіраючыся на кіёк, адчувалася, што ў яго задышка.

Вуліца Горкага, на якую мы выйшлі, была асабліва шумлівая і гаманкая ў той дзень. Усталёўвалася вясна, павеснавому чыста сінела неба, і ўжо вельмі лагодна ўгравала сонца. Пісьменнік быў таксама вясёлы і нібы святочны.

— Пешкі пойдзем? — ён усміхнуўся. — Пісьменніку трэба мець добрыя ногі. Каб многа хадзіць... Вы не ўрач? — нечакана запытаўся ён.

Я сказаў, што не. Чорны здзівіўся:

— А апавяданні абодва пра ўрачоў. І, здаецца, вы іх ведаеце...

Я сказаў, што пазнаёміўся з імі, лежачы ў шпіталі. З гэтага пачаліся яго роспыты: дзе быў у вайну, адкуль родам, дзе бацькі, як жывецца на студэнцкіх харчах.

На ўсё — добры просты позірк, час ад часу вясёлая заўвага, жарцік. Ён, было відаць, любіў і ўмеў заўважаць у з’явах смешнае, любіў пасмейвацца.

Увайшлі ў гасцініцу. «Кватэра» Чорнага мясцілася, калі не памыляюся, на другім паверсе. Гэта быў даўгаваты, невялікі і вельмі сціплы гасцінічны нумар. Ложкі каля сцен, дбайна прыбраныя, накрытыя светлымі пакрываламі, стол каля акна, якое выходзіла на двор, на стале, таксама прыбраным, — некалькі акуратна складзеных кніжак.

Ён узяў са стала сшытак і, падаючы яго, прамовіў:

— Ну, от — пазнаёміліся. Пішыце, абавязкова пішыце! І пабольш — калі толькі ёсць час... А часу вольнага, мусіць, небагата?

Я сказаў, што мала: вучымся па праграме пяцігадовай, а трэба адолець яе за чатыры гады. Ды розныя ранейшыя даўгі.

— Ну, усё роўна трэба пісаць. Часу заўсёды будзе мала... А напішаце — прынясіце!

Ён сказаў так, што адчувалася — гэта не абы сказаць на развітанне, а шчырае слова. Гэта ад сэрца: прынясіце. Гэта быў нібы наказ.

...Я прынёс цераз некалькі месяцаў. Былі ўжо даўно здадзены экзамены за трэці курс, сыходзіла ўжо незабыўнае лета сорак чацвёртага. Універсітэт рыхтаваўся да вяртання на радзіму.

Доўга і старанна пісалася апавяданне, якое я нёс на суд пісьменніку, нёс з трывогай і сумненнямі. Гэта было апавяданне «У завіруху», задума якога даўно, яшчэ з фронту, не давала спакою. У ім было многа перажытага, дарагога, — таму так трывожыў лёс яго.

Чорнага дома не было. Жонка — Р. І. Свераноўская — сказала, што ён заняты, але папрасіла пачакаць. Чорны прыйшоў хвілін праз пяць, прывітаўся.

— Прынеслі? Чытайце, — сказаў ён без далейшых роспытаў.

Прысеў да стала, узяў кавалачак паперы, склаў удвая. Слухаючы, ён разпораз штосьці адзначаў.

За акном гусцеў змрок цёплага летняга вечара. Звінелі дзіцячыя галасы, з недалёкай вуліцы даходзіў шум аўтобусаў і тралейбусаў, заклапочаны шум вялікага горада. Усё гэта было вельмі непадобна на тое, аб чым гаварылася ў апавяданні, дзе гула завіруха, дзе стомлены чалавек, грузнучы ў снезе, шукаў дарогу. Я хваляваўся, бачачы, што Чорны робіць нейкія заўвагі, апавяданне раптам страціла ў маіх вачах усялякую цікавасць, і я хацеў толькі аднаго, каб яно хутчэй скончылася.

Калі яно нарэшце было дачытана, Чорны хвіліну маўчаў.

— Добра, — прамовіў ён раптам. — Увогуле добра.

Ён сказаў, што яму спадабалася ў апавяданні, — гэтых слоў было дастаткова, каб прыгнечаны аўтар зірнуў на свет больш бадзёра, — услед за гэтым Чорны зазначыў, што ў апавяданні ўсё ж недадуман сюжэт.

— Пружынкі не хапае. На самым важным месцы раптам пустата. Мне здаецца, трэба дапісаць, дамаляваць тое месца, дзе ваш герой падымаецца на гераічны ўчынак. Што яго падымае? Як ён расце? Гэта вельмі важна ведаць, а ў вас пра гэта — нічога. Тут штосьці трэба дапісаць... Падумайце.

Я абяцаў падумаць.

— А напішаце — прыносьце. Надрукуем у «Беларусі».

Ад Чорнага, чуў я і ад таварышаў, людзі выходзілі бадзёрымі, выходзілі з жаданнем працаваць. Умеў ён зрабіць заўвагу, паправіць, перасцерагчы так, што ў гэтым не было і ценю крыўднага. Ён, вядома, ведаў, як лёгка аўтар можа зняверыцца ў сваёй рэчы, кінуць яе, загубіць тое добрае, што ўжо зроблена, і таму, папраўляючы, раячы, заўсёды падтрымліваў, падбадзёрваў. Не губляйце надзеі, усё будзе добра,— як бы гаварыў ён кожнаму юнаку.

Гэта было добрае, чулае да людзей сэрца. Мусіць, ад гэтай сваёй дабраты, ад чуласці, а можа ад пераканання, што лагоднае, добразычлівае слова больш дае сілы чалавеку, чым лаянка, ён людзям, што адкрывалі яму першыя, запаветныя свае сшыткі, задумы, часта гаварыў добрыя, абнадзейлівыя словы. Напэўна, па гэтай прычыне ён быў шчодры на пахвалу. Каму, як не яму, былі добра відны шматлікія пралікі і прамашкі няспелых твораў нявопытных пачынаючых, каму лягчэй было «зарэзаць» такі твор, а ён — шукаў крупінкі добрага, назіральнасці, роздуму, жыццёвага вопыту, крупінкі таленту. Шукаў, знаходзіў і паказваў: глядзіце, вось тут у вас добра, вось тут, а тут — кепска, але вы не вешайце галавы, усё будзе добра! Папрацуйце і прынясіце!

Я вярнуўся да апавядання, якое нядаўна лічыў завершаным. Чорны чамусьці назначыў тэрмін, за які трэба было дапісаць рэч, — ён, здаецца, нярэдка ўстанаўліваў тэрміны «здачы працы», як бы даводзячы, што адкладу рабіць не трэба. Як і многім маім равеснікам, што хадзілі да Чорнага, папраўляць мне, дапаўняць сваю рэч было справай хоць і нялёгкай, але прыемнай: пасля сустрэч з ім кожнаму з нас, пачынаючых, працавалася добра! Да таго ж тэрмін абавязваў: не марудзіць.

У назначаны тэрмін апавяданне, дапісанае, папраўленае, зноў было на стале ў пісьменніка. Ён зноў сказаў прачытаць, зноў паслухаў...

У той вечар пісьменнік многа гаварыў пра літаратуру. Найбольш, мусіць, пра Талстога, якога вельмі паважаў.

— Вы любіце Дастаеўскага? — неспадзеўкі запытаўся ён.

Помню, я сказаў, што Дастаеўскі здаецца мне вельмі панурым пісьменнікам, што людзі ў яго хваравітыя, і настрой у творах нездаровы, і стыль нейкі сумбурны — нібы сядзеў і пісаў, пісаў, не вельмі абдумваючы раней.

— Гэта вы дарэмна нагаворваеце на яго. Хваравітасць — праўда. А от што не абдумваў — памыляецеся.

Ён павярнуўся к сталу і ўзяў адну кніжку.

— Глядзіце, якія папярэднія нататкі да «Братьев Карамазовых».

Ён падаў кніжку, далікатна кашлянуўшы. Гэта быў том «Литературного наследства» — спадчына Дастаеўскага. Пачакаўшы, пакуль я паглядзеў адгорнутую старонку, ён сказаў з захапленнем:

— От знаўца душы! От псіхолаг! Геніяльны чалавек!.. Адны «Братья Карамазовы» — якая глыбіня пачуццяў!.. Будзе час, перачытайце, прыгледзьцеся.

Памаўчаў.

— Усім бы нам напісаць сваіх Карамазавых. Не хворых, — з такой сілаю!

Ён стаў гаварыць пра тое, што кожнаму пісьменніку трэба старацца ствараць вялікія, глыбокія вобразы нашых сучаснікаў з іх сацыяльнымі рысамі і нацыянальным каларытам.

У той вечар ён сабраўся па нейкай справе да П. Глебкі, які жыў у гасцініцы на Пушкінскай вуліцы. У метро, на станцыі «Беларускай», Чорны загаварыў пра хуткі свой зварот на радзіму.

— Прыеду ў Мінск — абавязкова пасялюся дзенебудзь на далёкай вуліцы. У драўляным дамочку. Каб ціха было і каб можна было пісаць, пісаць, пакуль аж рука не забаліць. Як у касца...

Гэта было самае дарагое яму: вярнуцца і — пісаць, пісаць!..

...Хутка яго можна было бачыць у Мінску. Кожны дзень ён хадзіў па вуліцы Берсана, каля універсітэта — павольна, цяжка, абапіраючыся на кіёк, яшчэ малады, але вельмі хворы чалавек.

Ён радаваўся, сустракаючы знаёмых, ахвотна і доўга распытваў, расказваў сам.

— Ну, што новага напісалі? — запытаўся, прывітаўшыся са мной.

Мне здавалася, што ён нешта абдумваў перад тым, і я, адказаўшы на яго пытанне, хацеў быў развітацца, але ён апярэдзіў:

— Давайце паходзім!

Пакуль хадзілі, распытваў пра універсітэцкае жыццё, пра студэнтаў, — ён заўсёды цікавіўся моладдзю. Я прызнаўся, што задумаў адно невялікае апавяданне ці абразок, але не ведаю, ці брацца за яго. Ён папрасіў расказаць змест.

Апавяданне было просценькае: жанчына непакоіцца пра свайго чалавека, які недзе на фронце і ад якога другі месяц няма пісьмаў. Ёй сумна, балюча, свякруха раіць паплакаць, «каб адлегла ад сэрца», але яна не можа плакаць. «Усе слёзы высахлі». Вечарам прыносяць пісьмо: чалавек яе жывы! Ад радасці яна... плача!

— Задума, памойму, цікавая, — сказаў Чорны. — Гэта вельмі правільна псіхалагічна — тое, як жанчына паводзіць сябе ў горы і ў радасці. Пажаночаму... Чаго ж вы сумняваецеся?

— Ды вельмі ж проста ўсё гэта. Можа, нецікава будзе...

— Калі ёсць праўда, дык будзе і цікавасць. Сапраўдная, а не тая, якую робяць літаратурныя цыркачы, з іх таннымі цыркавымі штучкамі.

Развітваючыся, сказаў ужо звыклае:

— Дык заходзьце, прынясіце, што напісалі. Паслухаю... Я тут, у гэтай мураванай хаце. На другім паверсе. Уваходзіць з гэтых дзвярэй. Заходзьце пад вечар, гадзін пасля пяці.

Я сказаў, што баюся, як бы не надакучыць, што і так многа часу яму даводзіцца марнаваць праз нашага брата.

— Не кажыце гэтага... — Ён усміхнуўся. — Мне ж таксама неахвота сядзець аднаму, як на хутары. Вечары цяпер вялікія, сумнавата, а от прыйдуць людзі — і нагаворышся, і пасмяешся...

І тут ён сказаў тое, што, відаць, тады асабліва балела:

— Працую мала. Дактары забаранілі многа пісаць... На рэжыме строгім жыць даводзіцца.

Калі зайшоў у гэты раз, ён ляжаў у ложку. Нібы апраўдваючыся, прамовіў:

— От усё нешта нездаровіцца.

Але, калі я намерыўся развітацца, разважыўшы, што лепш зайсці іншым разам, ён спыніў, папрасіў распрануцца.

— Слухаць я магу. Толькі от што ў ложку, прашу прабачыць...

Слухаў ён, як звычайна, уважліва, — не перабіваючы, крыху прыплюшчыўшы стомлена павекі...

Было гэта непагодным асеннім вечарам, тыдні за два да таго халоднага, ветранага дня, аднаго з апошніх дзён лістапада, калі мінчане правялі яго ў апошні шлях...

*1955*

## УСТУП

*У адзін з першых дзён вайны, калі прыйшоў загад адступаць, трывожным вечарам я закапаў у гайку каля граніцы скрутак з даваенным сваім скарбам — запіснымі кніжкамі, канспектамі, вершамі. Пастараўся прыкмеціць месца сховы.*

*Думаў вярнуцца неўзабаве. Але пачалося пакутнае, бясконцае адступленне.*

*Вярнуўся я на былыя нашы пазіцыі толькі гадоў праз пятнаццаць. Месца, дзе былі акопы, знайшоў і пазнаў. Але гаю ўжо не было. І не было знаку маёй сховы.*

*Зрэшты, я і не стаў шукаць. Увесь даваенны скарб мой прапаў. Два вершы «Жураўлі» і «Багдановіч» я аднавіў па памяці. [...]*

## ЖУРАЎЛІ

У асенняй вышыні бязмежжа,
Роўны зык раняючы к зямлі,
І на захад — к вольнай Белай вежы
Рэй вядуць нязвыклы жураўлі.

Над шчаслівым Пінскам строй праходзіць,
Цень бяжыць па дахах, па траве.
Ў звонкім гуле, ў строгай, стройнай згодзе
Іх вядзе блакітны журавель.

Йдуць над лесам, над рачною плыняй.
Ў полі дзеўчына не зводзіць воч,
Сочыць: ціхнуць, таюць ў высі сіняй
Жураўлі, што адагналі ноч.

***1940 г.***

## БАГДАНОВІЧ

Сціхае горад. Стукне крок
І змоўкне, недарэчны, гулкі.
Васковы, месяцавы рог
Застыў у змроку над правулкам.

Гняце ў пакоі цішыня.
Журботу адзінокасць будзіць.
Лажыся, спі! Даволі дня!
Спачні! — Хрыпяць нядобра грудзі.

Ён лямпу ўзяў.
　　　　　　Гары, святло!
Няхай сухоты душаць грудзі,
Насуперак хваробе злой
Ён ноч усю жыць, дзеяць будзе!

...Дзень надышоў, і сон здалеў,
Глыбокі, моцны.
　　　　　　Ноч не сцерці.
Гарэў у сшытку на стале
Нядаўні верш.
　　　　　　Жыццё. Бяссмерце.

***1940 г.***

*На другі ці на трэці дзень вайны, калі мы стаялі ў гарах на пазіцыях, адзін з маіх таварышаў прывёз мне з горада чыстую запісную кніжку.*

*Блізка справа няспынна грымела, а ў нас было ціха. Але спакою ў нас не было. Мы ўвесь час чакалі, што і на нас пойдуць, што і ў нас пачнецца. Мы стаялі напагатове, і ў нашых трывожных сэрцах жыло адчуванне вялікай, нязвыкла важкай бяды.*

*Тады мне захацелася запісаць усё, што было ў першы дзень вайны. Здолеў я напісаць, аднак, толькі некалькі слоў. Усё ж і гэтых слоў, здалося мне, было даволі: было такое адчуванне, нібы яны спрасавалі ў сабе ўсё, што адбылося.*

*Я і цяпер не магу спакойна чытаць гэтыя скупыя, хапатлівыя словы, столькі тояць яны для мяне невыказнага. Не магу чытаць спакойна, бо бачу не толькі тое, што не выказана, але і помню, у якім стане ўсё пісалася. Калі кожны запіс мог аказацца апошнім.*

*Таму, хто будзе чытаць гэта, я хацеў бы напомніць: многія мае запісы пісаліся на зняможных, нярадасных дарогах адступлення, пад пранізлівымі вятрамі зімы 1941/42 года.*

*Таму яны такія скупыя і таму ў іх столькі гаркаты.*

*Гэта акалічнасць дае падставы таксама спадзявацца на тое, што чытач даруе мне паспешлівасць запісаў.[...]*

*У дадатак неабходныя факты. У пачатку вайны я быў намеснікам палітрука, служыў спачатку ў 298-м горнаартылерыйскім палку 192-й горнастралковай дывізіі, пазней — у 269-м (70-м гвардзейскім) артылерыйскім палку Рэзерву Вярхоўнага галоўнакамандавання. Гэта Паўднёва-Заходні і Паўднёвы франты.*

*Турка, якая ўпамінаецца на першай старонцы дзённіка, — гарадок у Карпатах. У той час каля яго ішла дзяржаўная мяжа.*

*З франтавых таварышаў, якія тут названы, мне вядома, вярнуліся з вайны трое — Павел Матора, Іван Карабутэнка і Губанаў.*

*Карабутэнка і Губанаў скончылі вайну ў Дзень Перамогі, а Матора вярнуўся дамоў з Нарвегіі, з палону, у які ён трапіў, паранены, у маі 1942 года пад Харкавам. Там, пад Харкавам, у акружэнні, амаль усе мае аднапалчане або загінулі, або трапілі ў палон. Але сцяг палка выратавалі. Пад гэтым сцягам зноў сфарміраваны полк абараняў Сталінград, вызваляў Беларусь, браў Кёнігсберг. Скончыў ён вайну ў Маньчжурыі, за Хінганам.*

*Я не трапіў у акружэнне пад Харкавам таму, што ў гэтыя дні быў на курсах. Але аб гэтым ёсць у дзённіку.*

### *22 чэрвеня 1941 года*
### *Турка. Нядзеля*

У 7 гадзін лагер паднялі па трывозе. Хтосьці незадаволена бурчаў: «Зноў раней тэрміну паднялі! Нават у выхадны дзень не дадуць пакою. Мабыць, коней чысціць». Але здарылася нешта большае. У канюшні раздавалі процівагазы, патроны. З парку гарматы спешна перацягнулі да ракі. Нехта сказаў на вуха: «Нямецкія самалёты бамбілі Явору». Я не веру. Не можа быць, каб Германія ўвязалася ў вайну з намі ў такую цяжкую для яе хвіліну. Вайна з Англіяй не скончана, спрэчка ў разгары. У горшым выпадку самалёты гэтыя — чарговая правакацыя... Каля 9 гадзін. Над канюшняй праляцеў нямецкі бамбардзіроўшчык, абстраляў нас. А мы, стоўпіўшыся, глядзелі на яго і не верылі. Над паркам ён развярнуўся і кінуў бомбы, пасля бамбіў горад... Усе мітусяцца, ніхто толкам не ведае, што рабіць.

Нарэшце прыходзіць загад. Дывізіён цягнецца па дарозе, да граніцы, на пазіцыі.

### *26 чэрвеня, пазіцыі*

Акапаліся добра. Падрыхтаваны даныя. Але мы пакуль маўчым і немцы таксама. Наперадзе — высокая, пакрытая лесам гара. У бінокль відаць белы дамок — на схіле гары. Там — немцы. Перад гарой — Сан, яго не відаць. Ля ракі наша пяхота. Дні цягнуцца ў цягучым чаканні нечага вялікага і страшнага, што немагчыма ўявіць, такое яно незвычайнае. Удалечыні, справа, гарматная кананада. Яна ўсё пасоўваецца ў наш тыл. Што гэта значыць? Уначы не сплю, пільную, нельга давярацца асабліва. Картушын сказаў: «На вайне камандзіры менш за ўсіх спяць». І ён не спіць. Ён трымаецца па-ранейшаму цвёрда, упэўнена, у той час як многія разгубіліся... У Турцы пакуль усё спакойна. Адправіў ліст, адтуль прывезлі пячэнне, цукеркі. Працуюць магазіны... Учора эвакуіравалі жонак камсаставу.

### *28 чэрвеня*

Увечары 26 чэрвеня нас папярэдзілі: «Сёння ўначы чакаецца бой. Глядзець за коньмі, быць гатовымі». Зрабілася чамусьці цяжка і сумна на сэрцы, успомніліся родныя, сябры. Можа, у гэтую ноч... Але ў гэтую ноч бою не было. Як толькі добра сцямнела, мы зняліся з пазіцый і пайшлі ў напрамку Туркі. Рабілася штосьці незразумелае.

Перад горадам дарогі былі забітыя войскамі, машынамі, павозкамі. Нашу калону ўвесь час разрывалі. Сірэны, цокат капыт, лаянка... Мільгнуў збоку дом райкома, кніжны магазін, мост угары; мы выйшлі на дарогу ў Явору. Што такое робіцца? Ніхто не ведае. Хтосьці кажа: новую пазіцыю каля Яворы зоймем. Але не — хутка і Явора засталася ззаду. А мы ўсё ішлі ды ішлі... Увечары падышлі да вышак Барыслава — яны яшчэ працавалі. Потым ззаду застаўся і горад, а мы ішлі ды ішлі... Нарэшце спыніліся на вышыні ля Драгобыча. Увесь горад быццам на далоні. Прыгажун горад блішчыць на сонцы. З горада прывезлі цукерак, мыла. Адпачываем пакуль. Хутка будзе бой, будзем абараняць Драгобыч. Карпаты засталіся ззаду.

### *30 чэрвеня*

Пасля поўдня пакінулі Драгобыч. Чамусьці загадалі праз горад праскакаць рыссю, хаця мы тады былі спакойныя. Нашто было рабіць разгублены выгляд? Калі мы былі за горадам, узарвалі нафтазаводы. Вялікае чорнае воблака закрыла паўнеба, схавала сонца. Удзень зрабілася цёмна, нібы ўначы. Усё далей ідзем без бою.

### *1 ліпеня*

Ноч усю ішлі. Раніцай падышлі да ўскраіны Стрыя. Сэрца ахапіў жах. Упершыню я адчуў з усёй яснасцю, што такое вайна. Горад увесь палаў. Выбухі непадалёк ад нас тузалі паветра — можа, ірвалі склады, можа, стралялі. Коні з перапуду ўздрыгвалі, то кідаліся ў рысь, то ішлі ступою. Вось па гэтай шашы мы калісьці ўязджалі ў лагер. Цяпер усё тут мела іншы выгляд: усё было чужое, страшнае... Праскочылі цераз палаючы мост, у дыме... Ля дарогі стаяла некалькі танкаў. Яны прыкрыюць нас... Спераду гарэў склад боепрыпасаў. Агонь ускідваў высокія струмені. Асколкі з шыпеннем падалі непадалёк дарогі... Гарэла на дарозе спехам падпаленая танкетка. Абозы, абозы, што бягуць на ўсход. Не магу зразумець, што гэта робіцца. Лепш не думаць, усё роўна зараз не зразумець. Развіднела. Выехалі ў лес. Ціўкаюць птушкі. Выбухі далёка ззаду.

### *4 ліпеня*

Будынак, што мы ўсе гады ўпарта будавалі, бурыцца, штодзень цагліна за цаглінай адпадае ад будынка. Цагліны — гарады. Мы іх пакідаем без бою, цудоўныя, зялёныя ўкраінскія гарады. Кажуць, выходзім з мяшка. Дзесяткі гарадоў і сотні вёсак прамільгнулі,

ззаду. Сёння прайшлі Чарткоў. Хутка Заходняя Украіна застанецца ззаду. Вайна такая непадобная на тую, якой мы яе ўяўлялі. Ой, як сурова яна нас вучыць. Бязлітасна. Я думаў, што бой будзе ісці за кожнае сяло. Думаў, што ў першы ж дзень будзем здорава біцца. Але не, усё наадварот. Прайшло каля паўмесяца, а мы яшчэ не былі ў баі. Вайна яшчэ наперадзе... На аэрадроме ля Тарнопаля нямецкай мінай паранены Маеўскі. Прапаў недзе сяржант Леўскі. Радзее наша сям'я. У 1-м дывізіёне 9 чалавек паранена яшчэ 22 чэрвеня. (Іх вайна заспела на баявых стрэльбах. Па шляху з палігона яны папалі пад бамбардзіроўку.)

### *5 ліпеня*

Учора ўвечары хтосьці застрэліў Сафронава, калі той стаяў на пасту. Дзве кулі прабілі галаву. Хто страляў — высветліць не ўдалося. Сёння была сустрэча з немцамі. У твар іх мы, праўда, не бачылі. Білі па пяхоце. Упершыню пачулі віск мін і гук разрыву. Гэта — пачатак. Потым міны рваліся бліжэй, спераду, ззаду, па баках. Мы прыкрывалі адыход батарэі. Картушын загадаў: «Хто лішні, ідзіце!» Я мог бы пайсці, але пачуццё сумлення і годнасці перамагло страх смерці. (Я цяпер ганаруся гэтым.) Міны рваліся ўсюды, але мы стралялі і стралялі. Матора быў наводчыкам. Толькі па загаду адышлі да лесу. У лагчыне ляжала пакарэжаная наша гармата. Міна ўцэліла ў передок. Некалькі чалавек забіла. Раненыя былі пакінуты. Мы іх пасадзілі на свае гарматы і вывезлі... Спыніліся на ўзлессі. У лесе недзе зусім блізка страчылі кулямёты. Я стаяў назіральнікам на флангу. Мне здавалася, што ўсё скончана. Немцы ўжо зусім побач. Толькі ўвечары прыйшоў загад адысці. У вячэрняй цемры — злавесныя языкі полымя. Гэта гарыць запаленае сяло. Усюды валяюцца кінутыя ў спешцы ранцы. Мы натрапілі на скрынку з яйкамі. Можна было суцішыць свой голад. Толькі цяпер усе ўспомнілі, што нічога не елі. Спрабавалі прайсці праз лес, вывезці гарматы. Іншага шляху не было, мы ў акружэнні. Круты ўздым і вузкая сцяжынка. Гармату немагчыма ўратаваць. Узарвалі. Ідзем да Збруча, праз лес. Цёмна, як у магіле.

### *6 ліпеня*

Усю ноч блукалі. Ішлі лесам, у цемры натыкаліся адзін на аднаго. Нашы на конях кудысьці паехалі іншай дарогай, і я з некалькімі байцамі апынуўся сярод незнаёмых байцоў. Мы ішлі ланцужком. Узбіраліся ўгару, спускаліся ў яры, дзерліся па схілах. Толькі не-

задоўга перад раніцай дабраліся да Збручча. Маленькая, хуткая і глыбокая рэчка. Доўга шукалі пераходу. Потым перайшлі ўброд. Я пачакаў сваіх, але не дачакаўся нікога. Усе адыходзілі, і я пайшоў, заставацца далей рабілася рызыкоўным. Прачыналіся немцы. Загаварыў кулямёт. Становішча незайздроснае. Галодны як воўк. Добра, што я не адзін. Са мной Абаротаў, Карманаў і інш. Разам усё-такі весялей.

### *9 ліпеня*

Зноў са сваімі. Ляцічаў. Абаротаў ужо тут. У Ліціне мы ледзь не трапілі ў лапы немцаў. Меркаванні нашы разышліся, мы паспрачаліся. Час быў крытычны, нашы ўсе пайшлі, нямецкія танкі былі ўжо ля ўскраіны. Мы разышліся ў розныя бакі. І вось зноў сышліся. Жывем ля будынка парткабінета. Справа з забеспячэннем пастаўлена добра. Я гаспадару ў раскошнай бібліятэцы. Праўда, тут ужо «пагаспадарылі» раней: кнігі валяюцца на падлозе, па іх ходзяць; разарваныя карты. Непрыемнае адчуванне — над намі ўвесь час вішчаць нямецкія міны, абстрэльваюць нашы батарэі... Забіты Бягун — даведаўся толькі цяпер. Картушын у шпіталі.

### *12 ліпеня*

Немцы ўзарвалі наш дот. Загінулі камбат Рашчупкін, Ляшкоў і іншыя разведчыкі 5-й батарэі. Мінай адарвала рукі і ногі лейтэнанту Харунжаму. Ён прасіў прыстрэліць. Раненыя Таркоўскі, Камароў. Кожны дзень са строю выбываюць сябры, але мы трымаемся, тут умацаванні.

### *15 ліпеня*

Мы адышлі. Стаім на новым рубяжы. Ад нашага дывізіёна засталася адна гармата. Чыжыкаў і палітрук прапалі, напэўна, забіты. Нашу калону бамбіў нямецкі бамбардзіроўшчык. Забіты: сяржант Лабуцін, Крачкоў, Лінкоў, Кісялёў, Лейкін. Ранены Смірноў і інш. Лінкоў — весялун, каваль 5-й батарэі — ранены ў 9 месцах, Кісялёва разарвала ў шматкі... Мы будзем у рэзерве.

### *19 ліпеня*

Нам далі некалькі гаўбіц з братняга палка, і мы ваюем. У нас са старых камандзіраў засталіся толькі лейтэнанты Сітнікаў і Шылін. Сітнікаў камандуе дывізіёнам — галоўным чынам 5-й батарэяй. 4-я — у рэзерве. Ад чацвёртай засталося ўсяго чалавек дваццаць. Учора нас пабілі нямецкія танкі. Мы ішлі з абозам. Потым абоз спыніўся. Абознікі ціхамірна драмалі. Я таксама задрамаў. Раптам недзе наперадзе, збоку, пачалі страляць. Умомант уся дарога апусцела. Павозкі рыссю памчалі наперад. Мы былі каля павароту, ён быў прамым вуглом. Вырашылі па полі, напрасткі, праскакаць, каб дагнаць сваіх. Але ў полі лопнулі пастронкі. Я, Матора, Землякоў кінуліся звязваць... А стрэлы — усё бліжэй. «Давайце адыходзіць», — кажу я. Хлопцы марудзяць. Раптам бачу — з-за ўзгорка танкі! Мы кінуліся бегчы. Танк — за намі, трасіруючыя кулі абганяюць нас. Збегшы з дарогі, упаў у траву, ледзь не задыхнуўся ад стомы. Танк падышоў, насупраць на дарозе спыніўся, пастрачыў, потым пайшоў далей. За танкам прайшла калона. Грымела наша артылерыя. Калі танкі прайшлі і ўсё трохі супакоілася, я ўстаў. Сустрэў Землякова, Паўла не было. Я пайшоў шукаць, баючыся, што яго паранілі, як раптам заўважаю, што насустрач ранейшым ідуць таксама танкі. Схаваўся ў сланечніках, метраў за сто ад дарогі. Нада мной ірваліся нашы снарады — гарматы білі па танках, страчылі танкі. Адзін танк, абыходзячы прыстрэленую дарогу, ледзь не раздушыў мяне. У мяне не было і гранаты. Толькі пад вечар усё змоўкла. Адно рваліся снарады на двух разбітых танках ды гарэлі нашы аўтамашыны. Гэты дзень, напэўна, самы жахлівы з усіх мінулых дзён вайны. Толькі ўначы я дабраўся да сваіх. Землякоў быў ужо там. Няма Вятошкіна, яго цяжка параніла. Няфёдава — таксама.

### *29 ліпеня*

Забіты Драбкін, цяжка паранены Сітнікаў, выбыў са строю адразу амаль цэлы разлік... Немцы па нядзелях маўчаць. Ноччу таксама ўсё змаўкае. Кажуць: яны прымаюць адбой.

### *7 жніўня*

Мы ідзем на фарміраванне. Ззаду — Першамайск, Умань і Вазнясенск. Непадалёку ад Вазнясенска мы адсталі ад калоны. Коней у нас забралі, і мы ехалі на трактары. Вось у гэтым месцы трактар стаў. Нам было шкада яго кідаць. І мы засталіся да раніцы рамантаваць. Калі адрамантавалі, дагнаць сваіх не змаглі, а сувязныя, пакінутыя «батарэяй», зблыталі дарогу. Мы стараліся здагнаць іх па дарозе на Нікалаеў. А яны, напэўна, пайшлі на Кіравагград. Маршрут мы не ведаем. Факт застаецца фактам. Мы — я, Матора, Арцём'еў, Маляроў, Новікаў — адсталі, без надзеі на сустрэчу. Трэба хутчэй знайсці сваё месца ў страі, інакш нам не паздаровіцца.

### *10 жніўня*

Новая Адэса. Мы ў новай часці. Першыя хвіліны азнаменаваны вельмі моцным абстрэлам нашых пазіцый. Увесь час ірвуцца ля акопаў міны. У 9-й міна трапіла ў акоп. Забіты адзін з нашай тройкі — Віктар Кузьміч Арцём'еў. Матора быў побач з ім, але ўцалеў. Цяпер нас толькі двое старых таварышаў, туркаўскіх працаўнікоў.

### *11 жніўня*

Нас увесь час абстрэльваюць. Немцы абыходзяць нас з флангу, за Бугам. Мы ўжо страляем уздоўж лагчыны, якая, відаць, прагледжваецца. Міны дакладна кладуцца ў цэль. Пад абстрэлам спрабуем зняцца. Пачуўшы віск міны, падаем. Я звычайна хаваўся між станін. Але потым кінуўся — маё месца занята. Я прысеў пасля разрыву. Баец, які ўкрыўся на маім месцы, быў цяжка паранены ў грудзі, праз 3 хвіліны памёр.

### *12 жніўня*

Ідзем па начах. Увесь час па флангах, непадалёк ад дарогі, ірвуцца снарады. Немцы, відаць, па шуме трактараў угадваюць нас. Удзень стаім у стэпе, капаем ровікі. Няпэўнасць нашага становішча мучыць нас.

### *17 жніўня*

Страшэнная раніца. Аднекуль нахлынулі абозы, быццам нехта іх дасюль трымаў. Чароды іх цягнуцца па ўсім стэпе. Стэп шырокі, роўны. З'явіліся нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Ад іх няма дзе схавацца ў гэтым шырокім, бязлесным стэпе. Думалі: наробяць «кашы». Але яны пралятаюць міма. Справа рвуцца міны. Правыя абозы паварочваюць улева, збіваюць іншыя. Увесь паток паварачвае ўлева. Рушым так. Раптам міны рвуцца злева. Левыя рады кінуліся ўправа, уперад, паскараючы хаду. Павозкі рыссю ляцяць. Тады зачыняецца апошні выхад. Мінамёты б'юць у цэнтр. Мора абозаў у паніцы кідаецца па крузе. Яно не ведае, што рабіць. Засталося адно, толькі разгубіцца — і вялізная маса абозаў, гармат загінула б. Але камандзір нашага палка загадаў развярнуцца. Першы дывізіён б'е па станцыі. Другі б'е па сяле з вежай. Трэці — таксама, трохі ўперадзе. Мінамёты немцаў змаўкаюць. Кажуць, снарады нашы пахавалі цэлую нямецкую калону. Немцы адышлі. Нам дапамаглі штурмавікі, і мы выйшлі з акружэння, усе ў цэласці, жывымі. А былі хвіліны, калі, можа, ніхто не думаў, што вырвемся.

### *19 жніўня*

Спакойна рушым па стэпе. Перапраўляемся цераз Дняпро ля вёскі Качкароўка. Купаемся ў Дняпры.

### *20 жніўня*

Вёска Зялёнае. Нечакана-негадана сустрэў земляка, з Людзвіна. Разам некалі хадзілі ў Хойнікі, бавілі вечары ў Гарбатых. Ён глядзеў на мяне, я на яго. Потым ён спытаў: «Ты быў у Людзвіне?» Толькі тады я ўспомніў. Пачаліся ўспаміны, апавяданні. З ім ёсць яшчэ землякі. Кавалёў, відаць, Шура, і Шчэрбін з Тунеўшчыны. Але Шура адстаў недзе і не вярнуўся. Яго лёс невядомы.

Кажуць, будзе кароткі адпачынак.

### *23 жніўня*

Пагрузіліся на ст. Прышыб. Кудысьці рушым па дарозе. У сэрцы надзея: ці не трапім у родныя мясціны. Хлопцы таксама гадаюць ля акна вагона.

### *25 жніўня*

З раніцы доўга тырчалі на нейкай станцыі. Побач — таксама эшалоны. Мабыць, дарога забіта. Нудна, дрэмлем. Пасля поўдня поезд рушыў. Я драмаў. Моцны штуршок, як выбух. Поезд стаў. Хтосьці сказаў: пэўна, бамбяць. Выскокваем з вагона. Не, усё спакойна. Зноў — у вагон. Яўна чую моцны выбух, потым другі, трэці. Выскокваем з вагона. Немцы разбілі пуць у сярэдзіне эшалона. Паравоз з двума вагонамі прарваўся ўперад, у Запарожжа. Астатнія вагоны мы пад абстрэлам рукамі адганяем па адным, па два назад. Са ст. Канкрынаўка прыйшоў паравоз. Прычапілі вагоны і адвялі. Некалькі чалавек загінула. Абстрэл вялі з в. Хорціца. На ст. Канкрынаўка нас бамбілі. Адна бомба разарвалася ў затоцы ля берага, і нас заліло вадой і граззю. Абышлося шчасліва. Але кулямётнай чаргой паранены Растаропаў. На другі дзень нас павезлі зноў на злашчаснае месца. Многія бурчалі — на пагібель яшчэ раз вязуць. Але ўсё абышлося ўдала. Ст. Запарожжа амаль уся разбіта — сляды абстрэлаў з Хорціцы. Хутчэй бы скончыўся гэты шлях, на фронт, хутчэй бы.

### *26 жніўня*

Згрузіліся на ст. Іларыёнаўка. Займаем пазіцыі за сялом, у лагчыне. Ахоўваем Дняпро. З назіральнага пункту відаць Днепрапятроўск, мост цераз Дняпро.

### *10 верасня*

Занялі новую агнявую пазіцыю ў стэпе. Немцы спрабуюць нас намацаць, але без поспеху. Мне здаецца, што немец тады добра страляе, калі вокам бачыць. Усе гэтыя гукавыя і іншыя разведкі дапамагаюць дрэнна, інакш іх старанні былі б паспяховыя. Жывем спакойна. Выкапалі бліндажы, уцяплілі палаткі. На дварэ мароз раніцай серабрыць траву. Дні ідуць у чытанні, у гульнях, у спевах, — што каму да сэрца. Нават неяк не па-франтавому. Весткі з франтоў абмяркоўваем, як нешта далёкае.

### *27 верасня*

У наша жыццё зноў уварваліся трывога, неспакой. Знімаемся з пазіцый і стаім ля Грыгор'еўкі (пад Сінельнікава). Чуткі чорныя, трывожныя. Кажуць, быццам немцы ўзялі Новамаскоўск, ноччу ўварваліся ў горад. Ідуць гаворкі: сюды ідуць нямецкія танкі. Цэлы дзень сапёры рвуць дарогу. Гукі разрываў гнятуць сэрца. Стаім, нічога не ведаем пра становішча — гэта самае горшае... Сустрэў Озерава, разведчыка 298-га. Ён расказаў пра трагедыю пад Самарай. Якая цяжкая вестка! З ім больш з нашых нікога не было, ён спяшаўся. Паведаміў: Мартынава забілі, Макавецкі паранены. «Дзе іншыя — не ведаю», — сказаў ён на развітанне.

### *28 верасня*

Чакалі лейтэнантаў Драбашка і Ткаленка з разведкі. Час вярнуцца, а іх — няма. Паехалі на машыне — і ні слыху ні дыху. Нарэшце вярнуліся шафёр і яго памочнік. Яны расказалі наступнае. Пасля таго як яны выехалі, на ўскраіне Іларыёнаўкі іх аклікнуў нямецкі патруль. Ён, мабыць, палічыў іх за сваіх. Побач стаяў матацыкл і спалі немцы. Вартавы, спакойна падыходзячы, нешта па-нямецку спытаў. Сержант, што ехаў у кузаве, схапіў вінтоўку ў байца і стрэліў. Немец закрычаў і ўпаў. Немцы, што спалі пры ўзбочыне, усхапіліся. Шафёр, лейтэнанты кінуліся бегчы пад стракатню стрэлаў. Шафёр з памочнікам уначы прыбеглі да сваіх, а лейтэнантаў няма. Мусіць, папаліся ў рукі немцаў.

### *3 кастрычніка*

Становішча няяснае і заблытанае. Мы па некалькі разоў то адыходзім назад, то зноў вяртаемся на старыя месцы. Гэта злуе — падобна на недарэчную гульню. Байцы таксама бурчаць: усё развінаем гарматы ды капаем, а якая карысць — ніводнага снарада не выпусцілі. Пасля аднаго з такіх поўзанняў пад Сінельнікава мы ледзь не наскочылі на нямецкія танкі. Мы ішлі па адной вуліцы сяла, а яны па другой, паралельнай першай. Паміж вуліцамі — лагчына, у ёй сады, агароды. Знакі на танках не былі відаць, і мы, чакаючы, паглядалі на іх, але працягвалі ехаць. Калі мы пачалі супакойвацца, пярэдні з танкаў развярнуўся і застрачыў. Мы саскочылі з гармат і кінуліся ва ўкрыцці. Адзін снарад трапіў у люльку, другі — у трактар; загарэўся прычэп. Калі доўгая танкавая калона прайшла, мы рушылі зноў. Адзін трактар выйшаў са строю, гарматы таксама

моцна пакалечаны. Снарад трапіў у бачок з макаронамі (мы не паспелі паснедаць), і ўся гармата была абвешана гэтай аздобаю. Калі прывезлі абед, байцы жартавалі: «Давайце зараз, а то не атрымалася б гісторыя, падобная на снеданне».

### *5 кастрычніка*

Мы ў Васількоўцы. Тут яшчэ «мірнае» жыццё: працуюць магазіны, сталовая. Захацелася пацешыцца адчуваннем мірнага жыцця. З Паўлам паснедалі ў сталовай, пабадзяліся па магазінах, куплялі непатрэбныя дробязі — для адчування. Цэлую ноч рамантуюць гарматы.

### *7 кастрычніка*

Гарматы адрамантаваць не ўдалося. За сялом — страляніна. Абстрэльваюць сяло. Мы спешна пакідаем яго. Ірвуць элеватар, цыстэрны, пуць. 9-я і 8-я застаюцца, займаюць агнявыя пазіцыі. Ноччу дабраліся да Прасянога. Начуем. Упершыню за час вайны спалі на ложку. Нас спала тры чалавекі, было цесна, але спаў цудоўна, як ніколі.

### *10 кастрычніка*

Згрузілі гарматы на станцыі Дэмурына. Цяпер як пяхота, — кажа камандзір батарэі, генерал без арміі. У адной вёсачцы сустрэў Шчэрбіна. Распытваў яго пра родных, але ён таксама нічога не ведае... Увечары прыехалі зноў у Прасяное. Прамёрз да таго, што не магу дыхаць. Думаў, што захварэў. Ледзь дацягнуўся дадому і ўсё не мог заснуць, дрыжаў. Твар гарэў. Позна раніцай разбудзіў Раманаў.

### *12 кастрычніка*

Добра адпачылі ў Прасяным! Якія прыгожыя гэтыя ціхія спакойныя дні (пасля баёў і трывогі), гэтыя вечары пры святле лямпы і ў цяпле пакоя!

### *14 кастрычніка*

Прыйшлі гарматы, што абаранялі Паўлаград. Вярнуўся Дубінкін, які пайшоў паўмесяца назад, і яго разлік. Хваліўся, што пяхота была вельмі задаволена імі. Шампанскім пачаставала камандзіра групы. Начуем у пасёлку каля Чапліна... У 9 гадзін лёг, а ў 11 паднялі. Зняліся з АП і адправіліся назад. Пранізлівы вецер. Праклінаю ўсё ў свеце і самога сябе.

### *15 кастрычніка*

Удзень стаялі недалёка ад Дэмурына. А ўвечары зняліся і зноў дрыжалі ад холаду і дробнага дожджыку з ветрам. Сунуліся ў цьме непрагляднай, нічога не бачачы. Загрузлі. За 5 гадзін прайшлі 4 кіламетры. Адпачываем у пустой школе.

### *16 кастрычніка*

Пасля 40 км шляху прыбылі ў Краснаармейск. Зайшоў у хату абагрэцца і заснуў. Са мной заснулі і хлопцы. А гарматы пайшлі. За намі паслалі. Вось дык гісторыя!

### *17 кастрычніка*

Дабраполле. Мы ў Данбасе. Гарaць шахты. Тут, відаць, будзем біцца па-сапраўднаму.

### *19 кастрычніка*

Адыходзім на ўсход. Не даязджаючы да с. Акцябрскае, сустрэў Землякова, Тышчанка, Хазіева, Чыгілейчыка, Шмідава. Землякоў расказаў іх гісторыю з часу нашай разлукі. З Умані яны накіраваліся на Кіравaград, а затым у сяло Вольнае ля Ніжнедняпроўска. Тут іх фарміравалі. Землякоў і другія трапілі ў 203-ці, а Пісьман, Удовенка, Грыгар’ян у 657-ы пяхотны. Пасля трагедыі за Самарай яны ледзь выратаваліся, а Удовенка і ўсе з 657-га прапалі без вестак. Дзе Пісьман, Грыгар’ян, Удовенка — невядома. (Але яны, кажуць, не загінулі.) Карабутэнка, аказваецца, працуе ў «Начеку». Мяне таксама лічылі загінуўшым. Ля Ніжнедняпроўска Землякоў выпадкова знайшоў згублены блакнот. Глядзіць — мой подпіс. Ён аддаў яго Івану.

### *21 кастрычніка*

Стаялі на ўскраіне Канстанцінаўкі. Мы бачылі, як гарэлі дзесяткі заводаў горада. Увесь дзень і вечар грымелі выбухі. Мы пойдзем у напрамку на Арцёмаўск. Такі важны горад здаем без адзінага стрэлу. Што робіцца? Незразумела. Зрэшты, гэтага і ніхто з нашых не ведае.

### *22 кастрычніка*

Сяло Чырвонае. Лёс зноў прывёў у сяло, у якім я бываў на занятках паўтара года назад. Тады я быў маладым чырвонаармейцам. Першы начны паход у Чырвонае. Памятаю нават асобныя думкі, што ўзніклі ў начным паходзе пры сустрэчы з закаханай парачкай, што засядзелася на марозе да глыбокай ночы.

### *23 кастрычніка*

Усю ноч і палову дня ехалі. Не паспелі даехаць на пазіцыі ля Канстанцінаўкі і размясціцца, як прыйшоў пасыльны з загадам ісці назад. Трактар на ўздыме буксаваў, а ў рэшце рэшт і зусім заглух. Давялося гармату цягнуць перакатамі: дзве гарматы па чарзе адным трактарам.

Пасля поўдня паказаўся Арцёмаўск. Я з хваляваннем узіраўся ў знаёмыя і родныя мясціны. Аэрадром, дзе быў на варце. Вось тут, ля антэн, у нас былі заняткі... Ваенны гарадок, я хадзіў па казармах, адкуль толькі што выехаў шпіталь. Падлога зацярушана сенам, раскіданы слоікі ад варэння, абрыўкі газет, бінты... У адным з пакояў ніжняга паверха, відаць, стаялі коні, едка шыбала ў нос пахам мачы. Мала што напамінала пра першыя дні армейскага жыцця. Толькі сталовая засталася такой жа. Вось тут у клубе ў першы дзень мы чакалі размеркавання, вось па гэтай дарозе ішлі ў лазню. Адсюль, з гэтай станцыі, я ехаў дадому ў адпачынак... Але як змяніўся горад! Дамы і тыя пахмурнелі. На дарозе ляжаў конь з разбітым каленам, вакол яго тоўпіліся жыхары. Па ўзбочынах — разбітыя машыны. Чыгілейчык і Шмідаў ішлі ў горад, відаць, да знаёмых дзяўчат. Мы праехалі горад. Ззаду чуліся выбухі, у розных месцах гарэла. Бывай, родны Арцёмаўск! Ці сустрэнемся? Не многім давялося цябе ўбачыць цяпер, каму ўдасца ўбачыць яшчэ раз! Хто ведае!

### *26 кастрычніка*

«Вымушаная пасадка» ў сяле Далінаўка. Мы прайшлі Луганскае, Троіцкае. Гаручага няма, і мы начавалі ў Далінаўцы. Цэлы дзень прайшоў таксама тут. Я «круціў» патэфон. Па некалькі разоў слухаў «Ноч светла» і «Мой костер». У пакоі было чыста, утульна. Насупраць сядзела медсястра Рая Я. Каля нас не рваліся снарады. Зноў раптам узнікла вострае жаданне радасці і шчасця, забытае на франтавых дарогах, зашчымела ў сэрцы вострае адчуванне спакойнага жыцця. Дні ў інстытуце, такія кароткія і непрыкметныя, — што я аддаў бы для таго, каб вы вярнуліся, але вы далёка... І я амаль упэўнены, што вы не вернецеся. Ворагі ля варот Масквы. Не трэба пра гэта думаць. Лепш думаць пра сённяшні дзень у Далінаўцы. Ён добры: хлопцы знайшлі дзяўчат, смяюцца, звініць гітара...

### *27 кастрычніка*

Учора ноччу прыехалі ў Сярго. Стаім на ўскраіне. Горада амаль не відаць. Горы пароды ля вугальных шахт, нібы егіпецкія піраміды, акружаюць нас. Вакол шахты, заводы. Хутка паедзем на Варашылаўск.

### *28 кастрычніка*

Варашылаўск. Вадзілі ў лазню. Калі чакалі ў чарзе, была аб'яўлена паветраная трывога. Праляцеў «юнкерс» у напрамку Варашылаўграда. Жыхары адчуваюць сябе амаль спакойна, відаць, абстраляны.

Ля станцыі вялікі металургічны завод. Ён ужо паўмесяца стаіць. Яго бамбілі «юнкерсы», але амаль не пашкодзілі. Адна бомба ўпала ў заводскую сталовую ў час абеду. 70 чалавек забіта і паранена. У горадзе чэргі за хлебам, за насоўкамі. Купляюць усё, нават цацкі, якія непатрэбны. У магазінах амаль пуста. Купіў дзве паштоўкі — любімыя — Левітанавы «Залатая восень» і «Сакавік», люстэрка і ножык.

### *29 кастрычніка*

Начуем у Міхайлаўскім. Гусараў сказаў, што штаб арміі застаўся ззаду і мы едзем на адпачынак. Нас павінны абмундзіраваць, узброіць. Трактары таксама зменяць. Мы ідзем вельмі марудна. Учора

кінулі адзін трактар, стары, які патрабаваў капітальнага рамонту. Другі ледзь-ледзь цягне абедзве гарматы, як не рассыплецца.

Старая жанчына мяне спытала, адкуль я родам. Я сказаў, што з Арцёмаўска. Няма ў мяне больш родных Глінішч, і дарогі туды зараз усе зачынены. А мяне там нехта чакае, доўга і нецярпліва чакае, не верачы, што я яшчэ жыву. Мілыя, родныя, бацька, маці, сястрычкі, Геня, вы не ведаеце, што я жывы, што я цэлы і здаровы, еду на адпачынак. Выплакалі вочы. Як бы я хацеў убачыцца з вамі, мае юныя сябры і сяброўкі: Алеся, Каця, Вася Паўленка, Іван Карабутэнка, Міканор Ярош, па ўсім свеце раскіданы, невядома дзе. Можа, таксама ўспамінаеце пра свайго сябра. Усё так страшэнна змянілася, усё светлае мінулае і ясныя надзеі выкраслены няшчадна лёгка, хутка; адразу і бязлітасна. Ці будзе ваш зварот? Ці ў шырокіх стэпах згублюся і высахну, пахаваўшы з сабою ўсе думкі, надзеі, толькі белыя косці пакінуўшы на ўспамін?

### *30 кастрычніка*

Прайшлі праз Варашылаўград. На станіцу Луганскую. Тут «нармальнае» жыццё: дыхае завод, кіпяць вуліцы, плакаты «Чым ты дапамог фронту», «Знішчым...» і інш. Горад шырокі, будынкі больш сельскія, — маленькія, белыя — вялікая вёска. Выключэнне — цэнтральныя вуліцы. У астатнім усё ўжо знаёмае — чэргі за хлебам, пустыя вітрыны. Ішлі па знаёмых вуліцах, сэрца пяклі жывыя ўспаміны. Увечары прыбылі ў станіцу.

### *3 лістапада*

Станіца Луганская. Вось ужо некалькі дзён стаім на адпачынку. Дзіўна, але грызе туга. «Адпачынак» адрадзіў успаміны, забытыя адчуванні. Не даюць спакою думкі. Масква, Мажайск, Валакаламск, Тула. Нож ля горла. Не, лепш не думаць. Надрываецца Хенкін «Ноччу на дачы...». Недзе мерзнуць, гінуць таварышы, ды і мы, можа, заўтра таксама. Хіба можна спакойна сядзець з такімі думкамі?

Жыццё наша спрабуюць падпарадкаваць распарадку: зарадка, снеданне, заняткі.

### *7 лістапада*

Хто б мог падумаць, што 24-ы Кастрычнік я буду святкаваць у ст. Луганскай. Колькі светлых надзей ускладаў я на гэты дзень! І як жорстка ашукаўся! Думаў, сустрэнуся з сябрамі, з роднымі, —

цяпер гэта зусім немагчыма, нават лістом не адзавуцца. Адзін Паўлік са мной. Увечары быў урачысты абед. Грымела цяжкае артылерыйскае «ўра». Што вы робіце сёння ў роднай «загранiцы», родныя, сябры, сяброўкі? Я п’ю, дарагія таварышы, за тое, каб 25-ы Кастрычнік святкаваць у вызваленай роднай Беларусі!

### *9 лістапада*

Сталін на парадзе сказаў: «Яшчэ некалькі месяцаў, яшчэ паўгода, можа, гадок, і Германія павінна рухнуць». Вясёлы агеньчык у цёмнай начы. Маракам, што сярод мора засумаваліся па зямлі, паабяцалі, што хутка будзе бераг. Мой дэвіз — надзея і вытрымка.

### *10 лістапада*

Некалькі слоў пра жанчыну. У нашай батарэі была адзіная ў дывізіёне жанчына — медсястра Рая Я. П-к яе «падчапіў» недзе на дарозе, здаецца, у Акцябрскім. Ён клапатліва бярог яе, вазіў з сабою ў тачанцы, ухутваў, падарыў плашч. Калі станавіліся на прывал, ён шукаў для яе добрую кватэру і сам разам з ёю начаваў. У батарэі яго не бачылі па сутках. Ён казаў, што ў іх нічога, акрамя «дзелавых» адносін, няма. Потым аднойчы капітан Л. аб’явіў, што сястра будзе ўзята з батарэі для абслугоўвання адначасна іншага падраздзялення. Рая перасела з тачанкі ў «эмачку». У батарэі паяўлялася толькі для таго, каб зрабіць перавязку. П-к напіўся і «пад мухай» хваліўся сваімі перамогамі над дзяўчынай, прычым абліў яе граззю, аблаяў. Мне дзіўнай была гэтая хуткая змена — ад клопату да варожасці. У яго было многа спачуваючых, якія не дабіліся яе ласкі, таму што яна была з усімі аднолькава ласкавая... Хутка Рая пасля перавязак стала праводзіць вечары ў батарэі — чым далей, тым часцей і даўжэй. Над ёй пачалі падсмейвацца, абыходзіцца занадта бесцырымонна. Не магла (ці не хацела) зразумець, што яе «кавалерамі» не кіравала пачуццё кахання ці павагі да жанчыны, а проста жывёльнае жаданне. Скончылася гэта ўчора тым, што яе раптам знайшлі «звыш штату» і спіхнулі ў іншае падраздзяленне.

### *12 лістапада*

2 гадзіны ночы. Учора вечарам паведамілі, што ў 5.00 будзем грузіцца. Куды паедзем — невядома. Чуткі самыя супярэчлівыя. З галавы не ідуць словы камандзіра: «Пасля адпачынку нам дадуць важнае заданне». Роўная плынь жыцця перарвана. Што будзе праз

некалькі дзён? Зноў маразы, трывогі, бяссонныя халодныя начныя паходы... Бывай, Луганская. Дзесяць дзён, упершыню за вайну, мы пажылі спакойна, без трывогі, адпачылі і целам, і сэрцам. Твае дні, як светлыя агеньчыкі, будуць свяціць мне, саграваць успамінамі.

### *13 лістапада*

Цэлы дзень прайшоў у чаканні. Рушым толькі перад вечарам. Цяпер мы на станцыі Кандрашаўка, будзем начаваць, бо эшалон для нас не сфарміраван. Пішу, весела блішчыць агеньчык лямпы ля вуха, гамоняць хлопцы, а за акном вые вецер, ледзяны, няласкавы, круціць снежны пыл. Пачынаецца зіма.

Хочацца напісаць пра тое, як праводзілі хлопцаў. Калі ад'язджалі са станіцы, многія доўга ішлі з дзяўчатамі, парачкамі. Развітваючыся, некаторыя ледзь не плакалі. Мяне ніхто не праводзіў. Было сумна і чамусьці зайздросна.

### *17 лістапада*

Учора згрузіліся на ст. Сямейкіна, за 35 км ад Варашылаўграда. Два дні чакання, дзень пагрузкі, ноч язды — і 35 км шлях! Увечары прыехалі ў сяло Паўлаўку. У 9 гадзін лёг спаць, а ў 11 па трывозе падняли. Пайшлі на хутар Усцінаўку, займаць агнявыя пазіцыі. Мы знаходзімся ў складзе другога эшалона. Ззаду нас трэці эшалон. Нашы НП побач з пазіцыямі цяжкіх батарэй першага эшалона. Схватка будзе, відаць, гарачая. Войск многа. Усе дамы літаральна забіты імі, нават у канюшнях і хлявах палаюць вогнішчы, у акружэнні вайсковых.

### *18 лістапада*

Учора зняліся з пазіцый і рушылі наперад, на захад. Пазіцыі занялі км у 5-ці далей мінулых НП. Не паспелі выкапаць ровікі, як прыйшоў загад выступіць на падтрымку нашай пяхоты ў мястэчку N. Рушылі на поўдзень, уначы прыбылі на АП у полі. Холадна. Мароз працінае ўсяго. За 200 метраў канюшня. У канюшні поўна вайсковых усіх родаў войск, дзесяткі вогнішчаў аблеплены імі. Паспаць не ўдалося. Страляем, асабліва цяпер, раніцай. Наперадзе таксама чуваць батарэі. Стаяць напагатове танкі. Мы ў наступленні. Тут учора ўдзень былі немцы.

## *20 лістапада*

Учора ўвечары зняліся з пазіцый. Ноч блукалі, рушылі на новае месца. Стаім недзе ў полі. Холадна. Вецер. Запалілі вогнішчы і грэемся. Усю ноч не спаў, стараўся сагрэцца і не змог. Удзень увесь час лятаі нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Бамбілі сяло, дзе НП. Пікіруюць па некалькі, адзін за адным, скідваюць пры кожным піке па бомбе. Стаім у полі, цэлы полк, многа машын, усё на віду, адкрыта. Здзіўляюся, як нас да гэтай пары не зачапілі.

## *21 лістапада*

Рушым па Любімаўцы. Дзесяткі разбітых хат, выбітыя вокны, пустыя вуліцы. Ля аднаго двара каля двух дзесяткаў забітых чырвонаармейцаў. Кажуць, палонныя, расстраляныя. Разбітыя машыны, кінутая процітанкавая гармата. Жыхары ў падвалах. Стаім на ўскрайку сяла, бо наперадзе пікіруюць бамбардзіроўшчыкі.

## *22 лістапада*

6-ы месяц вайны. Усю ноч ішлі. Бясконца доўга. А прайшлі, кажуць, каля 12 кіламетраў. Стаім у нейкім закінутым хутары... Знайшоў брудны, завалены паграбок, вычысціў, расклаў агонь — гэта жыллё. Спаць немагчыма, холадна. Вось прыйдуць таварышы, наб'юцца, як селядцоў у бочцы, абагрэюць адзін аднаго — будзе цёпла. Толькі калектыў здольны адолець тыя цяжкасці, што сустракаліся і будуць сустракацца на шляху. Таму і жыве такая асаблівая, франтавая цяга адзін да аднаго ў тых, хто побач, плячо ў плячо. Стойка праз усе выпрабаванні мы прайшлі з Паўлам М. разам, і я яго люблю, быццам дзяўчыну, не, болей! Калі скончыцца вайна, мы таксама будзем разам. Цікава будзе ўспомніць гэтыя, тады ўжо былыя, гады, пакуты!

## *23 лістапада*

Аб жыцці. У якіх бы выпрабаваннях ні быў, я заўсёды любіў жыццё. Я заўважыў, што чым слабей туліла мяне да сябе жыццё, тым мацней я за яго трымаўся, тым больш салодкім яно здавалася мне, мяне радаваў проста-такі кожны ўдых. Мне было як шчасце бачыць любое хараство жыцця: сіняе — звычайнае — неба, палі, лугі. Я шчаслівы быў ад таго, што мог гаварыць, спяваць! Заўсёды я адужваў усе цяжкасці ў імя будучыні, у імя жыцця. Светлы

вобраз будучыні быў мне ўвесь час пуцяводным агеньчыкам сярод чорнага быцця сённяшняга дня. Мары сагравалі мяне, рабілі больш бадзёрым, моцным. Мары, у якія пастаянна ўпляталіся цёплыя ўспаміны былога!

### *24 лістапада*

Стаім у полі, грэемся ў саломе. Каля гармат вогнішчы. Надвор’е яснае. Увесь час самалёты. Апоўдні чаргой з бамбардзіроўшчыка параніла Новікава. Ён спаў ля гарматы, прабіла мякаць абедзвюх ног. Штаны загарэліся. Ён усё крычаў: «Гару, гару!» Дзяжуру ля кулямёта. Матора перадаў прывітанне ад Картушына.

### *26 лістапада*

Пішу. У маленькай магіле-акопе. Цемнавата. Святло працінаецца праз маленькую шчыліну. Цёпла і цесна. Прыцiснуўся нагамі да ног кулямётчыка Фядотава. Ён укрыўся матрацам і дрэмле, а я пішу, паклаўшы кніжку на калені. Ранішні агляд раблю. У люстэрку — зарослы шчацінай, чорны ад пылу і сажы твар. Няўжо гэта я? Шапка і шынель — у чырвонай гліне. Захлынаючыся, кашляю. Пасля вайны, калі і ўцалею, я, відаць, буду калекай, хворым. Але аб гэтым я нікому не кажу.

Фядотаў узняў галаву. «Ты ўсё дзённік? Кінь. Гэтыя дні і так ніколі не забудуцца».

### *29 лістапада*

Стаім усё там жа. Немцы шалёна супраціўляюцца. Авіяцыі амаль не відаць. (Можна палюбавацца яснымі асеннімі днямі.) Але ў немцаў з’явіліся танкі. Кажуць, моцна пабілі камандны пункт 1-га дывізіёна. Гэтыя дні цягнуцца ў чаканні танкаў.

Баяцца і трывожыцца я ўжо не магу. Дзіўна, але боязі зусім няма. Сяджу спакойна ў сваім заканурку, цёпла (дзякуй — родная зямля грэе і аберагае). Па начах дзяжуру. Холадна. Але горш тое, што ў цішы неадменна выплываюць нярадасныя думкі, успаміны. Я не магу ўратавацца ад іх. Тады становіцца цяжка. Тады здаецца, што не стае цярпення далей цягнуць нярадасную, бясконцую нітку такога жыцця, няпэўную, слабую, гатовую ў любую хвіліну абарвацца. Можа, усё дарэмна. Канца не відаць. Ці блісне нарэшце ясны дзень, калі ўсё трывала стане ў свае месцы, як раней? Я столькі чакаў адказу на гэта пытанне, але мінула ўжо больш за пяць месяцаў, а

ясны дзень такі ж далёкі, як і ў пачатку вайны... Менш думак, больш вытрымкі, — цярпенне, цярпенне. Ты ж салдат!

### *1 снежня*

Я з нейкім задавальненнем паставіў гэтую дату — 1 снежня. Пачатак зімы. Снегу няма. Вятры дзьмуць халодныя, пранізлівыя. Лянiва круцяцца матылі снегу... Пачатак зімы. Я спадзяюся, што яна будзе паваротнаю ў ходзе вайны. Яна дапаможа нам, халодная руская зіма.

Сёння разляцелася чутка пра нашу перамогу пад Растовам. Кажуць, нашы вярнулі Растоў, узялі каля сотні танкаў, 180 гармат, каля 20 тысяч палонных. Ці 5 ці 50 тыс. забітых — цяжка зразумець колькі, таму што ўсе гавораць па-рознаму. Але агульны настрой цудоўны, усе смяюцца, строяць надзеі на хуткую перамогу.

Зноў зіхнула зыркая іскра, не ўпершыню ярка, казачна засвяцілася ўсё вакол і — спераду. Але гэта — іскра. Хутчэй прыйдзі, дзянёк, калі такіх іскраў будзе многа, калі яны сальюцца ў адзінае пераможнае, яснае зарыва.

### *2 снежня*

Стаім усё там жа, але нас папярэдзілі пра тое, што хутка будзе адбой. Нуда чакання.

Паблізу знайшлі забітага байца. Непадалёк варонкі ад бомбы. Ён даўно быў забіты, ужо зацярушаны снегам. Рукі падняты, твар глядзіць угару, чысты, нібы жывы. Вочы паўзаплюшчаны, але ў іх блішчаць іскрачкі-сняжынкі. У кішэні знайшлі ліст. Жонка пісала аб тым, што дачка Люся ўвесь час чакае бацьку, што дапамогі пакуль не далі, што яна чакае. «Ці хутка?..» Не хутка. Ніколі не вернецца. Не чакайце. Мы яго закапалі ў глыбокай варонцы, навалілі на яго грудзі цяжкія глыбы мерзлай зямлі. Ніхто не ведае яго прозвішча, яго імя. Колькі такіх Невядомых ляжыць на рускіх палях, — адарваныя ад сем'яў, ад працы. Колькі горкіх слёз!.. Спяшаюся, скамандавалі адбой. Рушым далей.

### *4 снежня*

Новаспасаўка. Учора мы праязджалі праз в. Крукава. Яна ўся спалена. Дамы ўсе без дахаў. Быццам фабрычныя, тырчаць абгарэлыя каміны. Пустыя вокны, чорныя сцены. Жыхароў няма, яны пакінулі вёску пад пагрозай немцаў. Мы ледзь знайшлі дамок, дзе

былі цэлыя падлога і дах. Прыйшоў гаспадар, разам з намі адважыўся спаць у хаце. Было холадна, бо шыбы выбіты. Прачнуўся ноччу з дрыжыкамі, паехалі далей. У Лысагорцы на вуліцы валяліся трупы кароў, коней. Па дарозе ўвесь час сустракалі жанчын з дзецьмі і клункамі — вярталіся дадому. У Н-Спасаўцы зайшоў абагрэцца. Гаспадыня пасадзіла за стол, запрасіла снедаць. Я быў галодны і не адмовіўся. Было няёмка за чыстым сталом за свой закураны твар і чорныя рукі. А гаспадыня апавядала аб месячным гаспадаранні немцаў.

Спрабавалі дастаць паесці, ездзілі ў нямецкую калонію. У ёй не было нікога. Усе жыхары ці эвакуіраваны, ці пайшлі разам з нямецкай арміяй. Усё забралі з сабой.

### *5 снежня*

Выкапалі зямлянку. Цэлы дзень працавалі, таму што зямля прамерзла амаль на паўметра. У зямлянцы цёпла. Можна сядзець. Весела трашчыць печ. Прыемна сядзець ля яе і пісаць. Прынеслі абед. Хлеб замерз, як камень, яго сякуць шабляй. Спяшаюся паесці, рукі ўмомант стынуць. Усе спяшаюцца ў зямлянку.

### *6 снежня*

Нашы вядуць баі на подступах да Таганрога. Узята Куйбышава. Немцы кінулі мноства трафеяў. Мы пакуль стаім. Немец умацаваўся на зручнай вышыні. Уперад падцягваюцца рэзервы. Ідуць роты, батарэі праязджаюць. Нашы метадычна б’юць па вышыні, але тут спакойна. Пайшоў у вёску, памыцца і папарыць бялізну. Вельмі ж пачалі непакоіць насякомыя.

### *7 снежня*

Я вельмі люблю песні. Калі ў ветраную халодную ноч мы паўзем па дарогах вайны, мармычу песню. Яна дапамагае пераадолець дрыжанне, яна саграваe. Калі становіцца цяжка і сумна, прыходзіць зноў песня. У песні цёплыя ласкавыя ўспаміны мінулага і светлыя надзеі будучыні. Кожная песня — успамін, агеньчык. «Тучи над городом» — і ўспамінаецца Мазыр, чыстае, шчырае каханне, ласкавыя позіркі. «Ночь светла» — гэта голас з роднай вёскі, дзе маці, бацька, маё каханне, першае каханне. Прыемна спяваць песню, ціха, цешачыся мараю, расцягваючы з асалодай словы, і думаць ціха разам... Я люблю песні за тое, што яны заўсёды са мной, як самыя

верныя сябры, у самую сцюжу, на адзіноце — усюды. Што насіць салдату — яму можна мець толькі самае неабходнае, каб нішто не замінала.Песня яму не абцяжарыць плечы ў паходах, не трэба яе сцерагчы, яе ніхто не ўкрадзе, яна не згубіцца. Песня — нямногая з радасцей на вайне.

### *11 снежня*

Занялі новую пазіцыю на вышыні. Зрабілі некалькі стрэлаў. Немцы некалькімі стрэламі прыстралялі нашу пазіцыю. Блізка, спераду і ззаду, ірвуцца снарады. Я капаў акоп. Раптам чую: «Санінструктара!» Аказваецца, у 9-й батарэі некага параніла. Я ўстрывожыўся, дапытваюся, аказваецца: Матору, але, кажуць, — лёгка, і ў шпіталь яго не адправяць. Ён таксама капаў і не паспеў ускочыць у акоп. Асколак выцеў, абадраў лоб. Павел паўгадзіны ляжаў непрытомным. Другі раз смерць яго шкадуе. Добра, што і далей будзем разам.

### *12 снежня*

Недарэчны, няшчасны выпадак. Мой твар і правая рука абпалены. Увесь час хаджу па полі, на ветры — інакш нельга трываць жудаснага болю (гэтыя радкі пішу па памяці 7 студзеня, таму што рука не дзейнічае).

### *16 снежня*

Ляжу ў санчасці. Раніцай і ўвечары — тэрмометр і перавязкі, прыпяканне перакісам марганца. Калоціць, асабліва ўвечары. Правая рука не здатная ні на што, пальцы зусім не варушацца. Я цяпер зразумеў, што значыць страціць правую руку. Я быццам інвалід, на кожным кроку адчуваю патрэбу ў чужой дапамозе. Мне смешна глядзець, як маладзенькая блакітнавокая «сястра» Оля даглядае мяне, як дзіця.

### *20 снежня*

Ціха. Бялеюць у вачах прасціны, белыя адзенні хворых. Хворых — тры чалавекі. За акном павольна ідзе абоз. Ціха, кружачыся, падае снег. Там таксама бела. А недзе грыміць кананада, хмарамі рушаць войскі. Нашы ўзялі Ялец, Ціхвін, Калінін, фронт рушыць

на захад. Надзеі спраўджваюцца. Светлыя мары, белыя як снег за акном, плывуць у галаве. Добра было б дажыць да перамогі. Колькі тады будзе мне работы! Ёсць аб чым расказаць, я так многа перажыў і пабачыў. Адразу пасля вайны засяду за апавяданні і аповесці, толькі б... А перамога набліжаецца.

Оля здзівілася, калі даведалася пра мой год нараджэння. Вы, кажа, па выгляду значна старэйшы — і наогул, па вашых учынках.

### *28 снежня*

Выпісаўся з санчасці. Хлопцы сустрэлі радасна. «Твар зусім загаіўся. Нават прыгажэй зрабіўся — маладзей, далікатней». Я таксама радаваўся: вярнуўся ў сваю сям'ю. У мяне цяпер няма нікога, акрамя гэтай сям'і. Хіба можна іх не любіць усім сэрцам. З імі ўсё перажылі. Дык няхай жыве сёмая!

### *31 снежня*

Апошні дзень 1941 года. Цяжкі ты быў, 41-ы год. Доўга будзем цябе памятаць. Але канчаешся ты, вяселячы надзеяй. Фронт рушыў на захад, туды, дзе мае родныя пакутуюць, дзе мая родная Беларусь. Які вялікі шлях паміж першай тваёй лічбай і апошняй. Мірнае жыццё ў Турцы — пачатак, і зямлянкі, зацярушаныя снегам, сярод поля — канец. Я аднаго хачу, каб у новым годзе гэты шлях паўтарыўся, пачынаючы з канца. Ад зямлянак у полі да мірнай працы ў Мінску, гордым і непераможным.

### *1942 год. 1 студзеня*

Пачаўся новы год. У гонар такой урачыстасці нам выдалі падарункі ад рабочых Баку. У зямлянцы сядзелі Смоквін, Лугавы, сувязісты. Гусараў увесь час глядзеў на гадзіннік. Без 5-ці ў 12 мы выйшлі. Была ясная марозная ноч. Блішчаў месяц. Рыпеў снег пад нагамі. Роўна ў 12 мы далі залп. Некалькі хвілін справа і злева, далёка і блізка, гаварыла артылерыя. Потым падышлі спачатку Гусараў, а пасля іншыя таварышы, пажадалі шчасця, усе разышліся, але я доўга не спаў, успамінаючы сяброў. Гадаў, дзе яны ў гэтую ноч. І многіх не мог уявіць. Згубіў з імі ўсякую сувязь. Тры такія ночы — тры гады — не быў з імі. Але ўсюды, дзе б вы ні былі, сябры, я зычу вам шчасця ў гэтую ноч. Веру, што мы ўсё ж сустрэнемся яшчэ.

## *2 студзеня*

Перадалі, што ўзяты Арол. Калі так будзем ісці і далей, то ў канцы лютага я змагу паслаць паштоўку ў Глінішча.

Прынеслі газеты. Чытаем на двары. Халодны вецер круціць снежны пыл. Ля гармат ходзяць толькі вартавыя. Усе астатнія сядзяць у зямлянцы, вылазячы толькі па крайняй неабходнасці. Тады вецер заносіць снег у зямлянку.

## *4 студзеня*

Выклікаў камісар. Папярэдзіў, што ўвечары знімемся з пазіцый, будзе цяжкі і, відаць, доўгі шлях. Больш нічога невядома. Трэба падрыхтаваць людзей да паходу. Анучы высушыць, сабраць усё, злажыць на месцы. Каб усё было напагатове.

## *5 студзеня*

Увесь час з учарашняга вечара да 3-х гадзін сённяшняга дня ішлі. Надвор'е жудаснае. Увесь час паўночны вецер біў у твар. Вочы забівае снегам. Стыне твар. У некаторых твары з цёмнымі плямамі абмарожання. Ісці цяжка. Дарога ў многіх месцах засыпана снегам глыбока. Байцы ўвесь час перапытваюць, ці далёка яшчэ. Але ніхто не ведае. А мы ўсё ідзем і ідзем. Наперадзе зачарнелі дамы. Мільгнула надзея, можа, — прывал, але не, мы няспынна цягнемся наперад. Сесці на гармату, адпачыць нельга, мароз адразу скоўвае ногі. Толькі ўдзень калона спынілася. Сяло наперадзе праз восем кіламетраў. Камісар з групай пайшоў у разведку. Стаім. Мерзнем больш ранейшага. Лепш ужо ісці. Робімся танцорамі нехаця. Хтосьці дастаў кавалак цвёрдага, як цагліна, хлеба. Адразу ўзнікае чарга. З учарашняга абеду мы нічога не елі. Камісар вярнуўся без вынікаў. Зварочваем назад, потым убок. Потым яшчэ пакутлівыя пяць кіламетраў з двума хутарамі, якія забіты ваеннымі і якія мы вымушаны абмінуць — і вось, нарэшце, мы ў хаце. Халаднавата. Усе прыладжваюцца бліжэй да пліты. Але яшчэ горш мучыць голад. Абед будзе не хутка. Загадваюць класціся спаць, таму што адразу, як толькі прыйдзе запраўка, рушым. Хутчэй спаць.

### *6 студзеня*

Вечарам дабраліся да шахты Алмазная. Горача натоплены вугалем маленькі пакойчык. Нарэшце трапілася магчымасць спакойна адпачыць. Двое сутак зусім не спалі. Праз 5 кіламетраў станцыя, шлях закончаны.

### *7 студзеня*

Аказваецца, маршрут прадоўжаны. У Ровеньках няма пагрузачных платформ. Паедзем на Лобаўку, яшчэ 15 кіламетраў. За Ровенькамі дарогі занесены снегам. Трактары грузнуць. Загадалі спыніцца — кіламетр ад сяла, выставіць ахову, а астатняму саставу ісці спаць у вёску.

### *9 студзеня*

Лобаўка. Тут пачалі адбудоўваць заваленую шахту. Многіх шахцёраў вярнулі з арміі. Учора, я бачыў, збіраўся партыйны сход. Хутка шахта будзе працаваць. Сёння першы дзень заняткаў у школе. Але наглядных дапаможнікаў няма, падручнікаў мала. Магазіны ў большасці яшчэ без вокан, клуб забіты дошкамі. Усё ж жыццё патроху пачынае ажываць.

Аказваецца, грузіцца будзем на наступнай станцыі. Хутка паедзем туды.

### *10 студзеня*

Шчотава. Пагрузіліся. Куды паедзем — невядома. Праўда, мяне гэта мала цікавіць: відаць, звычка.

### *11 студзеня*

Паўзем па дарозе. Доўга стаім на станцыях. За суткі прайшлі 30 кіламетраў. Ровенькі.

### *13 студзеня*

Другія суткі стаім у Радакава. Увесь час праходзяць міма эшалоны, гружаныя танкамі, гарматамі, цяплушкі з людзьмі. Ідуць і ідуць эшалоны на фронт. На станцыі тоўпяцца людзі. Плакаты: «Все в помощь фронту!» У залах цёмна і пуста. Буфет не працуе. Магазін

чарнее разбітымі вокнамі. Схаваўшы пад палой буханку хлеба, крадком праходзіць ля эшалона жанчына. Мяняе на пачак махоркі. Жанчыны расчышчаюць пуць. Мы ў тыле. Зноў пачынаюць патроху «падціскаць». Увечары, вярнуўшыся з нарады, палітрук патрабуе, каб усе хадзілі падцягнутыя, запраўленыя, забараніў выходзіць з вагона без дазволу старэйшага па вагоне. Здорава пападае за «мат», які ўжо «працвітае». Гэта добра, народ вельмі ж ужо распусціўся.

### *14 студзеня*

Закінуты раз’езд, згублены ў шырокіх снежных прасторах. Вечарэе. Байцы зноў пачалі нудзіцца аднастайнасцю шляху, доўгімі стаянкамі. Усё радзей прыпадаюць да вокан. Кожны стараецца заняцца чым-небудзь. У Заічанка самае дарагое, відаць, альбом з фатаграфіямі. Можа, у соты раз ён павольна гартае яго, падоўгу ўглядваецца, расказвае. Пажылыя па старой звычцы гаспадараць, у рэчмяшках усё перакладваюць — рушнік, яшчэ, мусіць, жончыны, дамашнія шкарпэткі. Многія заняты «пытаннем харчавання». Дымяць кацялкі на печы. Потым п’юць чай, часта без цукру, таму што чаяпіцце паўтараецца некалькі разоў на працягу дня, і цукру не хапае. Вечна хто-небудзь жуе. Гусараў чытае... Жыгалава просяць расказаць казку. У мяне ўцеха-дзённік. Чым ён мне дарагі! У цяжкія хвіліны яму я давяраў свае запаветныя мары і думкі, якія не маглі зразумець лепшыя сябры. З ім у хвіліны адзіноты я шчыра гаварыў і, быццам сябра, слухаў яго. Не песціць нас жыццё, мала ўцех прыносіць яно нам, дзённік — у ліку іх. Ён разрастаецца падрабязнасцямі, цяпер не цікавымі, гэта — для заўтрашніх дзён... Цяжка растлумачыць усё гэта. Атрымліваецца неяк блытана, бязладна. Пасля як-небудзь абдумаем, збяромся з думкамі.

### *15 студзеня*

У ранішнім тумане прайшоў міма Варашылаўград. Аднапавярховыя, невялікія дамочкі, голыя дрэвы. Гэта — знаёмае — нечым кранула глыбіні сэрца. Стаім на Кандрашоўскай. Станіца Луганская засталася недзе ззаду, у цемры. Цяпер ноч.

### *16 студзеня*

Ззаду Валуйкі. Наперадзе — Купянск. Стаім на нейкім паўстанку. За станцыйнымі будынкамі сцяной устаў сасновы бор. Сасонкі, абцярушаныя снегам, маўклівыя, задуменныя! Сэрца заняло ад

аднаго выгляду іх. Шэсць месяцаў валтузіліся мы на бязлесных прасторах Украіны. Мусіць, адчуванне гэта падобна на адчуванне марака, доўгі час адарванага ад роднага мора. Увесь час па баках дарогі цягнуцца лясы. Я быццам прыліп да акна.

### *19 студзеня*

Купянск — сартавальная. Хутка выгрузка. Марозы стаяць жахлівыя. Мы амаль усе ў ботах. Боты да ўсяго летняй падгонкі, цесныя. У многіх ногі абкручаны адной анучай. Баявая задача — абматаць боты зверху. На гэта спатрэбіліся старыя шынялі, ватныя курткі, кабель. Выгляд у такім касалапым абутку невайсковы, але затое цяплей.

Скончыўся тытунь. Сказалі, пакуль не прыбудзем на месца, не будзе. Прадуктаў не хапае... Варта толькі закурыць каму папяроску, як з усіх бакоў чуваць: «мне дваццаць», «мне дзесяць». Папяроска ходзіць па ўсяму вагону — кожнаму па зацяжцы. Лесныху сказалі, што яго шукае зямляк. Пасля першага слова сяржант спытаў: «Зямляк, тытунь ёсць?» Далей зайшла размова пра родныя мясціны, але яна не ладзілася — не было махры.

### *20 студзеня*

Лісічанск. Выгружаемся. Проста з платформ рушым на фронт. Так сказаў камбат. Апошняя надзея на кароткатэрміновы адпачынак, на лазню ў хлопцаў знікла. Павінен быць начны паход у Серабранку, кіламетраў трыццаць.

### *21 студзеня*

Начавалі на паўдарозе. Атрымалі хлеб на ўвесь дзень. Позна ўночы, гадзіны ў тры, паднялі абедаць. Абед добры, макаронны. Значыць, справа наладзілася, кухня забяспечана. Але гэта не ўсё. Цяжкасці на кожным кроку. Не паспелі выехаць з вёскі, дзе начавалі, як трактар Заічанкі стаў. Усе старанні завесці матор не далі нічога. Давялося пакінуць другую гармату. Першая гармата пайшла наперад. Трактар давялося вяртаць праз 15 кіламетраў назад. Так даводзіцца рухацца ўвесь час. Трактар, матор якога стаў, мабыць, кінем, адхадзіў свой тэрмін, усю Украіну прайшоў.

### *22 студзеня*

8-ы месяц вайны. Нас увесь час ганяюць нямецкія бамбардзіроўшчыкі. На працягу некалькіх кіламетраў засыпаюць нашы калоны бомбамі. А калоны ўсё ідуць і ідуць. Вёска і станцыя Яма.

### *24 студзеня*

Нашы войскі прарвалі абарончую лінію немцаў на Калінінскім фронце. А мы пакуль стаім усё там жа. Пастрэльваем патроху — і ўсё. Надвор'е на дварэ жахлівае. Замяло дарогі. Вецер кідае ў твар пякучыя крупінкі снегу, твар пячэ мароз. Але ў зямлянцы цёпла. Трашчыць самаробная, з бляшанкі, печ. Полымя кідае чырвоныя водбліскі на байцоў, што стоўпіліся ля печы. У такі час можна пачуць многа казак, анекдотаў, успамінаў, жартаў — самых разнастайных. Шкода — няма дзе запісваць, а ўсё забываецца. [...]

Адчыняецца палатка ля ўвахода — выходзіць назіральнік. У палатку сыплецца снег, клубамі коціцца пара. Потым спяць, толькі адзін-два сядзяць ля агню, падкідваюць ламачча, абаграваюцца з марозу, сушаць анучы ці шукаюць насякомых. Горш за ўсё даводзіцца пры пераездах, пакуль не выкапана зямлянка, а ў зямлянцы — рай.

### *28 студзеня*

Другія суткі ідзем. Дарогі замяло снегам. Жанчыны расчышчаюць лапатамі дарогу. Трактар цягне снегаачышчальнік. З драўлянымі лапатамі ланцужком ідуць байцы. Усё дарэмна. Дарогі замятае снегам. Толькі трактары ды павозкі праходзяць. На дарогах, да паловы засыпаныя, стаяць грузавікі. Шафёр расклаў агонь, грэецца. Пагана ісці ў такое надвор'е. Ногі грузнуць у снезе, слізгаюць. Трэба ісці сцяжынкай. Але мы стаміліся, хістаемся, ногі ступаюць не туды, убок. Сіл няма ісці прама. Дарэмна наперадзе вочы шукаюць сяло — усё снег ды снег, ды тэлеграфныя слупы.

### *31 студзеня*

Стомленыя, дабраліся да сяла Чырвоны Ліман. Хочацца ў першую ж хату заваліць. Хтосьці жартуе: «Гэта хата незайздросная, але затое варэнікамі пахне, і ў ёй паліцца». Кухня пайшла наперад, мы не снедалі, а час ужо абедаць. Добра б зараз пагрэцца і паесці! Утрох уваходзім у хату. Усе разыходзяцца па два, па тры. Уваходзім з надзеяй... Аднак памаўчым аб ёй. Паліцца пліта — пагрэемся. Але

паесці... У таварышаў плітка канцэнтрату — адна на траіх, у кішэні ні сухарыка. Што ж, хоць гэтым падсілкуемся. Гаспадыня скардзіцца на цяжкае становішча, а мы разуваемся, пасушыць анучы. Бот зняў, а ануча не вылазіць, прымерзла, прамокла. Гаспадыня бядуе над намі, а я стараюся прыкрыць ногі шкарпэткамі. Ногі мае ўжо даўно патрабуюць лазні. Прыхоўваю бялізну. Бянтэжуся. Таварыш, смеючыся, гаворыць пра тое, з якім задавальненнем ён памыў учора галаву. Хто не быў у акопах, не валяўся месяцамі ў гразі, той не зразумее мяне... Сёрбаем гарохавы суп. Гаспадыня моўчкі глядзіць. «Чаму без сухароў?» Мы маўчым. Яна частуе сухарамі. Потым расказвае: «Учора былі ў мяне два начальнікі. Бялізна, як сценка. Прыйшлі і кажуць: ты не кладзі нас на падлозе, а на ложку. Потым прынеслі кілаграмы два каўбасы (тоўстай), булачак, бялейшых за маю сцяну, масла. Гэтыя вось жывуць! Ім вайна — што прагулка. Я аднаму кажу: «Вы, мусіць, равеснік майму сыну. Вам 20 год». А ён: «Мне 29». Канечне, так жывучы, не састарышся». Як шкода, што на нашай шыі ёсць такія паразіты, бадзяюцца па тылах, аб'ядаюць краіну, не даючы ёй карысці. Яны, як вошы, былі пры войнах заўсёды, і ў гэту вайну не вывеліся. На фронт бы іх, у акопы.

### *6 лютага*

Адолелі цяжкі саракакіламетровы шлях ад Чырвонага Лімана да Нованікалаеўкі. Трэба далей ісці — няма на чым. Адну гармату праз снежныя гурбы ледзь дацягнулі да сяла. Другая гармата засела на дарозе. Прыйшлося пасылаць трактар. Потым трактар пайшоў за кухняй. Назад ён не вярнуўся. Добра, што непадалёк ад вёскі заглух. Трактарыст Заіченка прыйшоў цёмнай ноччу адзін, без трактара, другі трактарыст застаўся вартаваць. Паслалі трактар, каб выцягнуць кухню і трактар. Заіченка сядзіць ля пліткі, грэецца і кажа: «Я ж казаў. Хіба можна доўга так ганяць трактары. Такой нагрузкі ні адзін трактар не вытрымае. Ірвеш, ірвеш над сілу. За такую работу ў другой абстаноўцы судзілі б». Так, трактарыстам у нас дастаецца больш за ўсіх. Вось і заўтра на 40-градусным марозе Заіченка і Кручкоў будуць цэлы дзень корпацца ў халодным трактары, абмарожваць пальцы, лаяцца, праклінаючы і мароз, і трактар. Калі трываць не стане змогі, прыйдуць, абагрэюцца ля пліткі, пасварацца, каб адлягло на сэрцы, і пойдуць зноў і абавязкова зробяць усё, «вылечаць» трактар! Так яны рабілі не раз. Сустрэўшы разбіты трактар, здымаюць неабходныя часткі. Заіченка дзесятак серг беражэ ў запасе. Рамантаваць даводзілася і даводзіцца вельмі часта. На старых разбітых трактарах яны вядуць нашы гарматы па

ўсіх дарогах, пакуль не выціснуць з машын сваіх апошнія сілы... Дык вось, стаім у Нованікалаеўцы, у цеснаце, напаўгалодныя. Усе дарогі замецены, лютуе завіруха, цісне мароз. Пайшлі павозкі за прадуктамі. А пяхота па сумётах прабіраецца наперад, у снежную замець, у самы цяжкі час, ноччу падкрадваецца да сяла, дзе немцы.

### *8 лютага*

Так што сёння зампалітруку Мележу Івану Паўлавічу 21 год. Тры гады з іх прайшлі ў арміі. Трэцюю гадавіну святкую я ў шэрым шынялі, з туга зацягнутым поясам, сярод падобных да мяне. Далёка, ледзь чутны перажыванні светлага юнацтва і кахання, пахаваны мары аб вучобе. Залатое юнацтва, ты ўжо ззаду. Жыццё сурова сцябае. Сёння ў мяне таго юнацтва няма, ёсць толькі грозная, цяжкая, франтавая... як бы гэта назваць — сталасць, ці што? Я на жыццё гляджу проста, я далёкі ад тугі, расчараванняў. Я не смяюся бесклапотна (як раней), але і не бядую, такая ўраўнаважанасць, я заўважыў, характэрна для дарослых і, асабліва, для вопытных, якія сербанулі з мора жыцця, людзей. Такі быў Картушын, такі будзе хутка Гусараў... Той з равеснікаў, хто вытрымае гэту буру, не зламаецца, няхай выгнецца, але выпрастаецца горда, — той будзе моцны.

Чым парадуе мяне гэты дзянёк? Дзіўна, з нейкім вострым адчуваннем я адзначаў падзеі сённяшняга дня. Дробязі, на якія я звычайна не звяртаў увагі, учэпліваліся ў памяць. Усё нібы вылучала гэты дзень з іншых. Ноччу падзьмуў моцны веснавы вецер, глуха шумеў, стукаў аканіцамі. Удзень раставаў снег, ледзяшы капалі з дахаў, веснавая млявая пяшчота ўсялілася ў хлопцаў. Дыхнула вясна. (Чырвонаармеец на двары, разаслаўшы дзяружку, выбіраў зерне са старых сланечнікаў. «Першы верабей», — пажартаваў нехта.) Прыйшоў старшына з весткай, што прыбылі хлеб, мяса і гарэлка. Дзве падводы яшчэ засталіся на базе, так што харчовае пытанне вырашаецца добра. Вырашылі памыць байцоў. Ужо грэюць ваду. Дасталі два тазы, вядро, нагрэлі пакой у пуставаўшай школе — вось і лазня. Шкода, дэзкамеры няма. Увечары, захапіўшы пару чыстай бялізны, я пайшоў у лазню, але памыцца не ўдалося. Пасыльны-баец вызваў да камбата, а Раманаў загадаў збіраць рэчы і адпраўляцца ў штаб дывізіёна. Ён ведае толькі, што пасылаюць на курсы палітсаставу, больш я нічога не змог дабіцца. Напісалі характарыстыку, доўгую і гучную. Развітаўся і больш не вяртаўся. Праз гадзіну мы крочылі ўтрох, па снежнай зыбкай дарозе, у начной халоднай цемры, узрушаныя, асабліва мае таварышы. Недзе ззаду ўскінулася полымя, і праз некалькі хвілін — разрыў.

— Бывай, фронт, амаль восем месяцаў хадзілі мы па табе, жартавалі са смерцю і трывалі нягоды. Бывай, можа, не хутка сустрэнемся.

Сябры безупынку гаварылі — то баяліся, што не прымуць, то меркавалі, дзе будуць і колькі часу працягнуцца курсы. Паабяцалі адзін аднаму «там» быць «землякамі», дапамагаць адзін аднаму. Я больш маўчаў і думаў аб тым, ці будзе шчаслівы гэты дзень, ці здружымся мы з новымі таварышамі, чым парадуе нас новае, амаль забытае жыццё. Усё роўна, зараз выбару няма — вучыцца ці не вучыцца — вайна закрыла ўсе далягляды. Там, за даляглядам, ёсць светлая будучыня, але да яе шлях праз вайну. Я ніколі не марыў пра вайсковую кар'еру, а зараз буду вайсковым. Іншага шляху няма.

Так што, ішлі салдаты з фронту. Заначуем у першай вёсачцы, а заўтра далей у дарогу.

### *11 лютага*

Усе мінулыя дні пайшлі на пераходы са штаба ў штаб. Сёння хаджэнні гэтыя скончаны, мы ўзялі кірунак на станцыю. Пакуль сёння будзе прывал у Чырвоным Лімане. Мы спрытна ўчапіліся ў машыну і прыкацілі ў сяло.

Маленькае адступленне. Многае ў маёй кніжцы ўпушчана, але больш за ўсё я лаю сябе за тое, што мала пісаў пра таварышаў, аддаў вялікую ўвагу ўласным думкам і перажываням. [...]

### *12 лютага*

Дабраліся да Крамяной, у кузаве выпадкова «падкінуўшага» нас грузавіка мы забраліся пад брызент і з задавальненнем праімчалі шлях да станцыі. Марозы стаяць пякучыя, злыя. Вецер. Снегу няма.

### *16 лютага*

Зноў Варашылаўград. На такі невялікі адрэзак дарогі мы патрацілі трое сутак. 13-га апоўдні пагрузіліся на Крамяной. Праз тры пралёты (25 км) высадзіліся. Далей паязды не ідуць, шлях перарэзаны немцамі. Ад Пераезнай да Сенцян (каля 20 км) дабіраліся пешкі і машынамі. Апоўначы — пасадка ў Сенцянах. Вагоны таварныя. Забіты пасажырамі. У наш вайсковы вагон раней за нас набілася нейкіх жанчын. Цесна да таго, што сесці нельга, хаця б на падлогу (лавак не было). Праз 20 км перасадка, зноў чатыры гадзіны чакання. Вакзал заняла нейкая часць. Мы забраліся ў прыёмную ваеннага каменданта і там паспалі трохі. Яшчэ некалькі дзесяткаў

кіламетраў — Радакава. Раніца. Поезд у 2 гадзіны. Адпачываем у выпадковай знаёмай — спадарожніцы па вагоне. Каля самага Варашылаўграда стаялі, пуць заняты, — да чаго дарогі загружаны! 15-га прыбылі ў Варашылаўград. Многія «пасажыры» едуць на прыступках. Раскладу паяздоў няма. Транспарт загружаны страшэнна. У Варашылаўградзе вырашылі пабыць дзянёк, адпачыць, пацешыць сябе. Раніцай бадзяліся па горадзе, па магазінах, сталовых, глядзелі кінафільмы. Нарэшце збавіўся ад ненавіснага свербу, памыўся ў лазні і бялізну прадэгазаваў. Адчуваем сябе добра. Пасля фронту радуемся кожнай дробязі. Ідзеш па вуліцы сярод спакойных твараў — і радасна, проста радасна, без прычыны. Заходзіш у сталовую, сядаеш за стол з белым абрусам — на сэрцы лёгка і весела. Чытаю «Горький об искусстве».

### *17 лютага*

Ніяк не ідзе з галавы думка пра дзяўчыну, што сустрэў у вагоне. Мы спачатку жартавалі з ёй, пыталіся, куды едзе, адкуль. Дзяўчына нам не адказвала. Потым мы пачалі між сабой успамінаць франтавыя эпізоды. Яна слухала. Раптам, нібы выпадкова, выняла ваенны білет. Чаму білет — зацікавіла нас. Яна сказала, што хутка паедзе на фронт, медсястра. Мяне парадавала, што яна добра глядзіць на жыццё. Яна разумела, як цяжка на фронце. Такія будуць моцнымі. Аказваецца, працавала ўжо ў шпіталі. Выратавала некалькі раненых. Раненаму хацелі адрэзаць руку, яна сказала яму — каб не дазваляў — і вылечыла... Неяк у гутарцы яна сказала, што вайсковым не верыць, яны ашукваюць. Яна амаль мае рацыю. Насумаваўшыся па дзяўчатах на фронце, многія з нас кідаюцца да першай, хто трапіцца, а трапляюцца тыя, хто сам шукае; таму лёгка здраджваюць ім. Добра, я застаўся «нягрэшным», але мне не раз хацелася дружбы добрай, сумленнай дзяўчыны, сэрца прасіла ласкі. У Мілерава яна сышла. І быццам нечага не хапала, сумна. Лаю сябе, чаму не папрасіў адрас, трэба было сказаць, што яна добрая, каб і далей была такой.

### *20 лютага*

Мы ў Каменску. У школе пакуль не былі. Мінулую ноч амаль не спалі, хочацца спаць. Акрамя таго, трэба азнаёміцца з горадам, пакуль ёсць магчымасць. Але ў горад не хадзілі, праспалі ўвесь дзень.

### *24 лютага*

Усё яшчэ не пачалі нармальных заняткаў. Фармальна заняткі праводзяцца, але бессістэмна, без плана, — каб курсанты не «нудзіліся». Камандзір узвода, камандзіры аддзяленняў з нашых жа хлопцаў, франтавікі. Адносіны ў нас сяброўскія, свабодныя. Падбор курсантаў у асноўным добры. Асабліва падабаюцца мне Губанаў, Гныпель, Тарабан, Осіпаў, Сахно. Першая тройка з аднаго палка. У дарозе яны супольна забяспечвалі сябе прадуктамі, супольна разведвалі становішча на станцыях і абмяркоўвалі яго. Жывуць яны і тут дружна, робяць усё сумесна... Першыя дні ў Каменску нудзімся. Былі ў ДКА і ў кіно. А ў астатні час расказваем адзін аднаму франтавыя эпізоды, спрачаемся аб самых розных пытаннях. Сёння Гныпель і Тарабан спрачаюцца пра розніцу паміж прастытуцыяй і распустай, прыводзячы розныя прыклады. У горад — толькі па звальніцельных. Мяне і Смірнова ледзь было не павялі да каменданта за тое, што не прывіталі нейкага са «шпалай»... Словам, «старое пачынаецца зноў».

### *1 сакавіка*

На вуліцы — вясна. Удзень прыгравае сонца, растае снег. Па вуліцы бягуць ручайкі, і сонца веснавое плешчацца ў іх, як дзіця. Але ноччу яшчэ трымаюцца маразы. Раніцай зямля цвёрдая, звініць, як чыгун.

Заўтра пачынаюцца планавыя заняткі. Увесь мінулы час нас ганялі з аднаго аддзялення ў другое, з аднаго ўзвода ў другі, некалькі разоў мянялі пакоі і вінтоўкі. Сёння ў нас за камандзіра аддзялення Осіпаў. Ён прыйшоў з нарады ў камандзіра роты. Выпраўка, знешні выгляд, прывітанні, дакладнае выкананне загадаў камандзіраў аддзяленняў і ўзводаў. Вось словы, якіх найбольш у яго інфармацыі. Пасля фронту нам гэта здаецца непатрэбным, штучным. Я думаю пра форму нашых адносін. На фронце, у баявой, гарачай працы, гэтыя адносіны прасцей, шчырэй, натуральней, чалавечней. «Вінаватае» ў гэтым, відаць, само франтавое жыццё, дзе камандзір любіць байца за дапамогу, смеласць, адданасць, а баец камандзіра за кіраванне, розум, чуласць. Франтавое жыццё не церпіць фармалістаў, самадураў, яны на фронце ці перавыхоўваюцца, ці маладушнічаюць, ператвараючыся ў нікчэмныя стварэнні. А тут глеба вельмі ўраджайная на бюракратаў, бяздушных фармалістаў і інш. І гэтае пустазелле не прапалваецца, нават, наадварот, клімат ім спрые. Я гутарыў з палітруком, пазнаёміўся з камандзірамі, і мне здаецца,

што вучоба можа пайсці ў атмасферы дружбы, шчырасці, свядомай дысцыпліны. Дыхаць будзе лёгка, хоць работы наперадзе многа.

Некалькі эпізодаў з учарашняга дня. Назначылі камандзірам аддзялення Смірнова («белая шапка»). Смірноў праводзіў заняткі па страявой. «Хлопцы, давайце пап'ём бражкі». Павёў аддзяленне ў горад. «А ці не засыплемся мы?» — нехта непакоіцца. «Я камандзір, я адказваю», — смяецца: «Хе-хе». Прывёў, выстраіў аддзяленне ў чаргу. Папілі, прыйшлі пад канец заняткаў. На страявой, калі вучыліся вітаць, ён скамандаваў: «Смірна, раўненне налева!», а злева — жанчына. Сам засмяяўся сваім асаблівым, шчырым смехам — хе-хе. Так заўсёды — весела з ім жыць, вучыцца. Так лягчэй справа ідзе, спарней. Калі хто чужы падыдзе — як «секанём» страявым, любата!

Ага, забыў. Хлопцы вырашылі па-ранейшаму між сабой быць на ты, статуту прытрымлівацца толькі ў прысутнасці начальства.

### *8 сакавіка*

Вось зноў мы сталі студэнтамі. Пад падушкамі ў нас кніжачкі, розныя статуты і «наставления». Спім на ложках, засланых беласнежнымі прасцінамі. У пакоях па-дамашняму ўтульна і цёпла. У класах часта разгараюцца дыскусіі — гарачыя, хвалюючыя. Здаецца, чаму б не быць спакойным. Але і тут часта ўспамінаецца фронт, дзе засталіся мае сябры, дзе хутка буду я. Па начах сняцца бамбардзіроўшчыкі, аўтаматчыкі. Подых далёкага фронту чуваць і тут. Па рэйках няспынна спяшаюцца эшалоны — з танкамі, са снарадамі, з ваеннымі людзьмі, а назад — пасажырскія вагоны з крыжамі. Цяпер пакуль стаяць марозы, выпаў снег, хрупае пад нагамі. А дні бягуць, бягуць. Пралятаюць, як паязды, толькі лёгкі ўспамін застаецца; сціхаюць, бы стук адышоўшага эшалона. З пад'ёму да адбою — заняткі. Раніцай 4 гадзіны — тактыка, вучаць атакаваць. Потым палітпадрыхтоўка, статуты. Да канца дня выматаешся дарэшты. Мне яшчэ далі партработу роты — сакратар. Выпусцілі газету, «баявыя лісткі», агітатары працуюць, спаборніцтва разгортваем. Работы многа, тым больш, што ўсё гэта трэба рабіць у перапынках між заняткаў.

З фронту мала добрых вестак. Нашы ідуць наперад, але вельмі марудна. Ціхае жыццё зноў і зноў нараджае ўспаміны пра Глінішчы, пра родных, пра каханне. Я часта забываюся на занятках, гадаю, што робіцца ў гэты час на маёй далёкай радзіме. Што робіць маці, ці дома бацька, браты? Сёння прысніўся цудоўны сон, нібы еду я па Алексічах. Свята. Еду — і назад, як кветкі, праносяцца прыбраныя дзяўчаты. Адну пазнаў — Каця! «Гэй, чарнабровая», — крыкнуў

я і раптам анямеў: гэта не Каця. Потым снілася Алеся — родная, мілая, быццам мы сядзім ля плятня. Цэлы дзень хаджу сам не свой. Адчуванне такое, нібы толькі што сустрэў яе сапраўды, такая ж цеплыня ў сэрцы. Ці хутка ўбачымся? Узяў звальніцельную. Са мной Гныпель, Губанаў, Смірноў, Тарабан. Пайду пахаджу па горадзе, у кіно пойдзем.

### *6 мая*

З усім пакончана. Разлічыўся з тактыкай і агнявой. Здаў партыйныя справы, пратаколы. Нуда, калі не ведаеш, чым засмуціцца, аб чым патрывожыцца, да чаго прыкласці рукі. Трошкі сумна, трошкі, таму што глыбока сумаваць я развучыўся даўно. Пайду пабадзяюся па горадзе. Не для таго, каб знайсці сяброўку — цяпер позна, а проста, каб не шчымела сэрца назойлівая туга. Заўтра выпускны вечар.

### *9 мая*

Апошнія гадзіны ў Каменску. У адзінаццаць раніцы мы паедзем. Усё гатова да ад’езду. У маім пакойчыку сумна. Ложак голы, кнігі раскіданы; усё неабходнае складзена ў рэчмяшок. Запіскі падраны, дробныя шматкі іх валяюцца ля этажэркі. Бывай, Каменск! Добрыя ўспаміны павязу я на фронт пра цябе — пра твае сонечныя вуліцы, пра Данец, пра маіх сяброў... Смірноў, Саседка, Кірычэнка, Выстаўкін паехалі дамоў — у адпачынак...

На станцыю прыйшлі пасля другога званка. Не паспелі сесці — поезд крануўся. Я пацiснуў руку Красніцкаму і на хаду ўскочыў на падножку. Адыходзяць назад Спартак, Красніцкі, — махаючы рукамі — станцыя, склады. Вось ужо за акном праплывае стэп сіні ля гарызонта, срабрыстая гладзь Данца, белыя дамкі на тым беразе. Колькі разоў я, бывала, любаваўся імі! Цяпер я ў апошні раз гляджу на іх, і сэрца сціскае ад гэтай думкі. Вось у першым акне праплывае поле, дзе праходзілі заняткі па тактыцы...

Бывай, Каменск! Поезд усё далей і далей нясе нас на захад.

### *10 мая*

Варашылаўград. Мы ў адным узводзе — Гарадзецкі, Пацянкоў, Сцяпанаў, Гаркуноў, Кулакоў. Наша рэзідэнцыя — «Стандартны гарадок». Мы з Гаркуновым спім на адным ложку.

### *12 мая*

Учора адправілі Паўла Вушава і Цыганкова. Павел абяцаў паведаміць свой адрас Надзялюеву, каб той перадаў мне. На развітанне я пажадаў яму — і сабе — сустрэцца ў роднай Беларусі. Ці давядзецца? Як гэта было б цудоўна! Ці хутка мая чарга? Хутчэй бы на фронт!

### *15 мая*

З фронту паведамляюць — пачалося наступленне нашых войск на Харкаўскім напрамку. Ля гучнагаварыцеляў на вуліцы збіраюцца натоўпы, узрушана абмяркоўваюць зводку. «У Керчы цяжка». — «Затое на Харкаўскім справы ідуць цудоўна!» — «Да, гэта не мінулы год!» Нехта задуменна прамовіў: «Пачалося!» Так, пачалося. Пачалася веснавая схватка, не на жыццё — на смерць. Запомнім, гэта — пачатак.

...Мы жывем па-ранейшаму. У шэсць устаем, збіраемся на паверку, удзень бадзяемся па горадзе. У 10 вечара ўсё змаўкае. Хадзіць увечары забаронена. Толькі патрулі крочаць па вуліцах ды пражэктар рассякае, бы нажом, цемнату неба.

### *16 мая*

Гутарыў з Ільёй Фр.*. Рэдакцыя месціцца на ўскраіне горада, у несамавітым, амаль сялянскім дамку. Мы сядзелі на дворыку, на тоўстым бервяне і гутарылі — на хвалюючыя літаратурныя тэмы. Даўно ні адна гаворка не цешыла так мяне, як гэтая. І. Ф. прасіў прыслаць два мае вершы. Прышлю, але пазней, пакуль пачакаю.

### *17 мая*

Глядзеў «Машаньку». Калі пасля абеду чакаў пастаноўкі «Запарожац за Дунаем», паведамілі, што заўтра мяне адправяць. Пасля другога акта я выйшаў з тэатра, не вытрымаў, пабег у канцылярыю. Там нікога не было, і я нічога не даведаўся.

---

* Паэт Ілья Фрэнкель.

## *18 мая*

Раніцай выстраілі нас — вялікую групу. Аб'явілі: у 11 гадзін явіцца з рэчамі для адпраўкі. Хутка паснедаў і — збіраць рэчы.

Як звычайна перад ад'ездам, абходзілі з ліссткамі і атэстатамі незнаёмых раней начальнікаў, стаялі ў чарзе за іх подпісамі. Потым развіталіся з таварышамі, драмалі ў цені дрэў, чакаючы пастраення. Нарэшце загад строіцца, падзел на групы. Я ў групе 19— артылерысты. Грузавік імчыць нас па горадзе — шумлівым, з тэатрамі, з магазінамі, з натоўпамі прыбраных жанчын. На цягнік спазніліся, начуем у горадзе.

## *20 мая*

Зноў Чырвоны Ліман. Таксама, як і раней, з-за ракі, з боку Маякаў, прылятаюць нямецкія снарады. Учора ўночы некалькі снарадаў упала ў цэнтры, у гарадскім садзе. На вуліцах — чэргі ля магазінаў, жанчыны ў прывабным майскім адзенні. Цяпер Ліман па-майску ззяе сонцам. Яго шматлікія вуліцы тонуць у зяляніне. Вокны расчынены, у іх плыве шум маладых бярозак. Я быў у доме, дзе мы, дзядоўцы, начавалі пасля пераезду з-пад Растова. Гаспадыня сказала, што таварышы мае паехалі адсюль усяго які месяц назад, доўга стаялі побач — у Бандышаве. Цяпер яны далёка. Прыслалі ліст, у кутку паведамілі, што стаяць у Краснапаўлаўцы — за 70 кіламетраў ад Харкава. Усе жывыя, акрамя аднаго, які загінуў ад бамбёжкі — гэта ў штабной. Вось усё, што яна ведала.

Франтавікі паведамілі нядобрыя весткі. Становішча вельмі трывожнае. За два дні, з 17 мая, нечаканым, моцным ударам немцы выбілі нашы войскі з іх пазіцый і адцяснілі на левы бераг Данца. Хрысцішча, Голая Даліна, Чаркаскае, Адамаўка, Багародзічна і іншыя сёлы, за якія мы столькі пралілі крыві ў зімніх баях, зноў заняты немцамі. Адышлі нашы войскі і ў раёне Славянска. Немец працягвае цясніць нашы часці. Б. пакінута намі. Баі ідуць на подступах да Ізюма. Усё гэта чуткі, але яны ўпарта паўтараюцца і прымушаюць верыць у іх. Падобна на тое, што і мой сямідзесяты ўдзельнічаў у баях на харкаўскім напрамку. І, відаць, як ні горка верыць, — застаўся ў акружэнні. У кальцы... Кажуць, што такіх бязлітасных баёў, як гэтыя, даўно не бачылі. За 40 км было відаць безупыннае зарыва артылерыйскіх разрываў, яно пачалося ў 1 гадзіну ночы і не знікала да світання. Самалёты пікіравалі на нашы войскі вялікімі групамі.

Гэтыя баі паказалі, што барацьба будзе лютая. І ўсё ж я ўпэўнены — тое, што было ўлетку мінулага года, прайшло і больш ніколі не вернецца.

### *21 мая*

Адпачываем у садку ў Навасёлаўцы. Над намі гамоняць вішні, гайдаюць галіны, пакрытыя кволым белым цветам. Вецер зрывае пялёсткі, і над намі круціць чароўная белая завея. Лёгкія пялёсткі-матылькі кладуцца на нашы твары, на гімнасцёркі, на разасланыя шынялі. Над садам высока сінее неба, ласкава кудлаціць валасы ветрык, — так і хочацца засмяяцца. Як добра жыць! І такое адчуванне ўсюды — у зялёных палях, у ажыўшых лясах. Я ніколі не забуду гэту зялёную трывожную вясну, здаецца, ніколі не любіў я так жыццё!

### *22 мая*

Дванаццаты месяц вайны. У першыя дні казалі: такая разбуральная вайна можа цягнуцца толькі адзін-два месяцы. Аднак вось пасля 11 месяцаў мы бачым: вайна не толькі не ідзе на спад, а робіцца ўсё больш бязлітаснай. Вораг гатовы пайсці на ўсё, толькі не на капітуляцыю. Прывід паражэння яго, прывід расплаты за яго злачынствы ўсё больш выразна акрэсліваецца перад ім. Але забойца здатны на ўсё, толькі б утрымацца на краі бездані. Ён загіне, але загіне не адзін, у сваім імкненні панаваць ён пастараецца пацягнуць за сабой усё, што можа. Як камень, што сарваўся з гары. Многія з нас — каменьчыкі гэтай гары — нашай радзімы — стануць ахвярамі. Вайна будзе доўгай, непрымірымай, кровапралітнай. Вайна на смерць за жыццё, вайна да таго часу, пакуль рукі маюць сілу, а вочы бачаць зямлю.

Жывём у лесе. Размясціліся ў цені густых хвой на жоўтых іголках. Між дрэў пад палаткамі стукаюць машынкі, на чамаданах, складзеных як сталы, сядзяць штабісты. Здалёк даносіцца вурчанне батарэй. Пахне смалой, уверсе шуміць вецер.

### *25 мая*

Чырвоны Шахцёр. 18 кіламетраў вышэй Ізюма. Вёсачка стаіць на Данцы. На гэтым баку, у сяле — нашы, на тым беразе, на вышыні — немцы. Некалі людзі ездзілі туды на работу. Спакойна пераязджалі цераз мост, у стэп. Цяпер маста няма. Па рацэ ідзе лінія

фронту. У лесе ля ракі сядзяць нашы і ловяць немцаў на мушку. Адтуль, заўважыўшы рух на нашым баку, адгукаюцца мінамёты. На гародах за хатамі працуюць жанчыны. Тут часта рвуцца снарады, забіваюць, але жанкі працуюць, хавацца няма часу, вясна канчаецца.

Жыццё на перадавой ідзе знешне звычайна: па чарзе — з асцярогай — ля платоў гоняць жывёлу ў лес, закрываюць вокны з выбітымі шыбамі, робяць на агародах. Сёння Сёмуха. Калісьці ў гэты дзень ставілі дрэвы пад вокнамі, бялілі хаты. Цяпер хаты чорныя, сцены патрэскаліся ад разрываў, чорныя вокны забіты дошкамі. Цяпер не да весялосці, немец блізка, як бы не прарваўся сюды. Людзі жывуць у трывожным чаканні. Фронт ужо быў тут, увосень, але ў студзені яго далёка адвялі. Тады ўсе былі ўпэўнены, што вораг не вернецца — столькі нашых танкаў прайшло ў той бок. І вось зноў нашы восьмы дзень трымаюць абарону на Данцы.

Тут трэці дзень мы ў камандзіроўцы. Цёмнымі начамі перапраўляем зброю, машыны, павозкі, што былі пакінуты на тым баку пры пераправе цераз Данец. Падышоўшы да Данца, нашы артылерысты білі прамой наводкай, але таго берага не аддалі. Давалі пераправіцца іншым. Пераправы ішлі пад няспынным абстрэлам і бамбёжкамі. Ішлі крывапралітныя баі. Цяпер у асноўным усё перапраўлена, артылерыя вядзе агонь з гэтага берага.

### *31 мая*

Атрымаў прызначэнне. На шляху да месца працы заначаваў у сяле. Тут пазнаёміўся з фельчарам. Сівы, няголены, ён сядзеў у маленькім пакойчыку, што быў цяпер амбулаторыяй. Прасторны будынак былой амбулаторыі занялі вайскоўцы, і ён ужо амаль паўгода туліцца тут. У пакойчыку ложак ды пліта з кацялком. У кацялку кіпіць вада. Фельчар гатуе вячэру. Медыкаменты раскладзены на вокнах і на століку, на якім таксама ляжыць сшытак запісу хворых. Ён мне расказаў сваю гісторыю. Трыццаць год працуе фельчарам, дзесяць год бязвыезна ў гэтым сяле. Прывык, зрадніўся. Цяпер дні ідуць у трывозе, ён з надзеяй услухоўваецца ў гул батарэй. Калі нашы не стрымаюць, ён пойдзе з Чырвонай Арміяй. Нялёгка гэта слабому старому, але ён пойдзе. Немцы збіраліся расстраляць яго за лячэнне партызан у 18-м годзе, яны цяпер таксама не даруюць. Сям'ю ён адправіў у роднае сяло, а сам жыве адзін. Прымае хворых.

Пасля аднаго гарачага бою, калі ішло многа раненых, ён вывесіў сцяжок з чырвоным крыжам. Двое бяссонных сутак ён памагаў раненым, перавязаў 106 чалавек. Адзін з раненых падарыў гэты кацялок. Ён усё перагледзеў, падрыхтаваўся да горшага. Сабраў

самае неабходнае, яно павінна ўмясціцца ў партфелі. З гэтым ён забярэ самае дарагое — пісьмы. Ён возьме іх з сабой як памяць пра сваю шматгадовую працу.

### *3 чэрвеня*

Я на месцы, у рэдакцыі. Начальнік мой — сакратар рэдакцыі Галецкі. Ён тут ужо даўно, але да сённяшняга дня быў у камандзіроўцы, ездзіў за папаўненнем. Пазнаёміўся таксама з работнікамі друкарні: Любімскі, Мая, Вайншток, Харашаеў. У склад рэдакцыі «ўваходзіць» таксама палатка з архівамі газет, у якой мы спім. Вось і ўсё. Рэдактара няма. Друкарні няма. Газета не выходзіць. Усё гэта мы павінны чакаць. Гэта нас хвалюе. Каб хутчэй...

Яшчэ ў дарозе гаваркі Вайншток расказваў пра сябе і таварышаў. На ўсім шляху да рэдакцыі — сем км — ён уводзіў мяне ў курс падзей. Я даведаўся, што друкарня загінула ў грозныя майскія дні. Машына стаяла ў сяле. У самым пачатку наступлення нямецкія бамбардзіроўшчыкі прайшліся па тылах. Адна з бомб падпаліла машыну. Асколкам бомбы быў цяжка паранены ў спіну сакратар рэдакцыі Спірын. Па дарозе ў шпіталь ён памёр. Машыны згарэлі, з імі пайшла агнём уся маёмасць, што ў іх была. У наступны дзень быў ранены рэдактар Трахтэнберг. У дом, дзе ён на той час быў, трапіла тэрмітная бомба. Адзежа на ім загарэлася, ён выбег з дому ў агні. Потым ён ляжаў — чорны, да непазнавальнасці абгарэлы. Адправілі ў шпіталь у безнадзейным стане. Майго папярэдніка — літработніка — задоўга да гэтых падзей паслалі на курсы. Такім чынам, склад рэдакцыі амаль цалкам новы. Няма пакуль рэдактара. Газета, мяркуючы па архівах, была нядрэннай, лепшай за многія армейскія. Думаю, у нас будзе не горшая.

### *16 чэрвеня*

Ззаду Новашахцінск, Шахты, Новачаркаск. Мы ў Растове. Вуліца Сямашкі. Жывем на другім паверсе, у кватэры Сіважалезава — справавода з нашай дывізіі. (Ён таксама прыехаў з намі.) Нястомна хаджу па шумнаму зялёнаму гораду. Спраў многа, клопату многа.

Жыву з адчуваннем, што такія дні сустракаюцца нячаста.

### *3 ліпеня, Есентукі*

Я ранены. Ранены цяжка, у плячо. Далёка ад фронту. Тады, калі, здавалася, быў зусім у бяспецы.

Я ледзь не загінуў. У апошні момант я павярнуўся, і гэта мяне выратавала.

Гэта было дваццатага чэрвеня, у Растове.

### *5 ліпеня*

У Растове мне зрабілі аперацыю. Рабіў яе галоўны ўрач шпіталя Антонаў.

Спачатку мне збіраліся ампутаваць руку, і я згадзіўся. У мяне было зусім разбіта плячо, і баяліся гангрэны. Але Антонаў забараніў рабіць ампутацыю. Ён сказаў, што рука спатрэбіцца, малады хлопец. Ён сам наглядаў за мной і сам зрабіў аперацыю.

### *6 ліпеня*

Наогул, я пяражыў пасля ранення вельмі цяжкія дні. Некалькі дзён быў страшэнны боль. Калі б я не трапіў хутка ў шпіталь, не ведаю, ці быў бы жывы.

Мяне літаральна выратавалі. У шпіталі аказаліся побач цудоўныя людзі. Я ім усё жыццё буду ўдзячны. Я ім абавязаны жыццём. Асабліва — хірургу Антонаву.

Праз некалькі дзён пасля ранення мяне закавалі ў гіпс, ад шыі да пояса. Рука таксама ў гіпсе, на падстаўцы выцягнута наперад, на ўзроўні пляча.

Гэта завецца «самалёт».

### *7 ліпеня*

Цяпер я ў Есентуках, у былым санаторыі № 2. Мой дом — невялікі, двухпавярховы, палата — на другім паверсе. Я ў палаце пакуль адзін. За вокнамі, вялікімі, сонечнымі, зелянеюць каштаны.

Учора з аднаго пакоя бачыў снежныя вяршыні Эльбруса. Цудоўнае відовішча!

Я паволі ачуньваю. Боль ужо не такі моцны. Тое, што рука замацавана нерухома, дае ране спакой. Але часам я раблю неасцярожныя рухі, і тады боль бярэ зноў. Часам стукаюся пальцамі аб што-небудзь. Гэта таксама выклікае боль.

### *9 ліпеня*

Усё яшчэ цяжка без рукі. Аднак прызвычайваюся патрохі. Усё ж з цяжкасцю ўладкоўваюся на ноч з «самалётам». Пакуль уляжашся як трэба. І потым — паварочвацца нязручна.

І ўвогуле — кальчугу гэтую на целе, кажуць, месяцы два насіць трэба будзе, пакуль здымуць.

Тут за мной назірае вельмі добры і сімпатычны ўрач — Марыя Дзмітрыеўна Рубанік. Клапатліва абыходзіцца з намі сястра Ася. Абедзве яны — масквічкі і, здаецца, нават сваячкі.

### *10 ліпеня*

У Растове, калі трохі сціх боль, я чытаў у часопісе «Новый мир» раман «Ціхі Дон» М. Шолахава, чацвёртую кнігу.

Кніга вельмі хвалявала. Успамінаўся Каменск, дзе я быў так блізка ад тых мясцін, у якіх жылі героі кнігі. Я быццам нанава хадзіў па роднаму цяпер, такому знаёмаму стэпу. І як бы зноў дыхаў яго, насычаным ветрам і травамі, паветрам. І разам з гэтым я ўспамінаў Глінішча: жыццё на Доне здавалася такім падобным да нашага. А вайна і памяць пра тое, што мая радзіма і радня мая там, за фронтам, надавалі чытанню майму горыч і вастрыню перажыванняў.

Цудоўная кніга. І зараз жыву пад яе ўражаннем.

Тут знайшоў любімую сваю «По следам войны» Вайталоўскага. Я яе чытаў калісьці ў Турцы, перад вайной, і яна ўвесь час нагадвае мне пра Турку. Быццам я не ў Есентуках, а зноў там. І часам раптам здаецца, што і не было вайны.

Але гэта толькі часам. А наогул, гэта кніга выклікае многа параўнанняў з гэтай, нашай вайною.

### *11 ліпеня*

Чытаю «По следам войны». Раблю выпіскі ў запісную кніжку. Здзіўляюся, як многа падобнага ў побыце, у паводзінах людзей у тую вайну і ў гэтую. Найбольш значныя месцы выпісваю для памяці. І як навучанне, аб чым і як трэба пісаць. Наогул, вельмі праўдзівая і павучальная кніга. Бадай, толькі «Агонь» А. Барбюса можна паставіць побач.

Вось так і трэба пісаць.

### *12 ліпеня*

Штодзень мне робяць перавязкі. Аперацыя гэтая, трэба сказаць, мала прыемная: тады, калі прысохлы бінт аддзіраюць ад раны. Але гэта нічога. Тым больш што сястра і ўрач робяць гэта асцярожна і ўмела.

Я паздаравеў даволі і хадзіў ужо ў парк. Горад, колькі я бачыў яго, увесь у бульварах і прысадах, у зяляніне. Усюды сустракаюцца раненыя, разгульваюць у халатах, як дома.

Нейкая мірнасць быццам ляжыць на дрэвах гэтых, у траве, у ціхіх вулачках. Ціха-ціха навокал, і гэта навявае спакой. І неяк цяжка думаць, што недзе вайна, гінуць людзі.

Але весткі з фронту трывожныя. Тыдзень назад нашы пакінулі Севастопаль. А цяпер нешта нядобрае адбываецца пад Варонежам і Харкавам. Нашы пакінулі Росаш і вядуць баі ў раёне Кантэміраўкі і на Лісічанскім напрамку.

### *24 ліпеня*

Немцы вядуць баі ўжо і ў раёне Растова. Яны рвуцца на Каўказ. Ася сказала, што нас збіраюцца эвакуіраваць.

### *25 ліпеня*

У Растове цяжкія баі з танкамі і мотапяхотай. У раёне Цымлянскай немцы імкнуцца пераправіцца цераз Дон.

У шпіталі клопаты ў сувязі з тым, што нас эвакуіруюць.

Акрамя таго — у душы сум. Шкада пакідаць Есентукі, людзей, з якімі звыкліся, падружыліся.

Нібы адрываю часцінку ад сэрца.

### *26 ліпеня*

Мы ў дарозе. Нас поўны састаў раненых. Заняты ўсе лаўкі.

Многіх уносілі ў вагоны на насілках. Пагрузка ішла доўга, марудна. Было многа мітусні, неразбярыхі.

Нейкая старая хадзіла па пероне сярод насілак і хадзячых калек, усё выглядала, выпытвала сына.

Зараз стаім у Мінводах. Раніца. Душна. Чуваць стогны. Гоман. Завіхаюцца сёстры.

### *26 ліпеня*

Мы праехалі Маздок, Гудэрмес. Прайшла разам з мостам палоска Церака. Злева ад нас — раўніна, справа — паблізу горы.

Прыпынак у Махачкале.

### *27 ліпеня*

Поезд ад Махачкалы ішоў уночы. Вагон драмаў. А я сядзеў ля акна і глядзеў — побач было мора. Яно амаль падыходзіла да насыпу. Ноч была светлая, і мора было добра відаць. У змроку ночы на бераг накатваліся белыя палосы пены.

Я ўпершыню бачыў мора. Хоць на фронце быў недалёка ад Чорнага мора, але так і не ўбачыў яго. Убачыў мора ўпершыню тут. Каспійскае.

Поезд ішоў павольна. Часам спыняўся, чакаў, пакуль шлях стане вольны. Тады было чуваць, як шуміць мора. Спакойна, велічна. Яно быццам дыхала.

Уночы праязджалі Дэрбент. Назва, якая нагадала дзяцінства («Дэрбент — Калуга»). Баку не бачыў. Праспаў.

### *28 ліпеня*

Мы ў Тбілісі. У вялікім доме, на чатыры паверхі, з доўгімі калідорамі.

Тут была, відаць, школа. Калідоры і пакоі-класы яўна школьныя. Занялі пад шпіталь, можа быць, часова.

Наша палата, а праўдзівей — клас — на чацвёртым паверсе. Вокны выходзяць на вуліцу, шырокія, вялікія. У вокнах, удалечыні — голыя, рыжыя горы, а поблізу — дамы, дахі. Побач цікавы будынак, санітарка сказала — серныя лазні.

Палата хутка запаўняецца. Ужо амаль поўная. Толькі адзін ложак вольны. А ўсяго ложкаў — шэсць. Усе раненыя — «ручнікі». Параненыя ў руку. Ёсць яшчэ двое з «самалётамі». У астатніх рукі на падвязках. Адзін — без рукі.

Толькі што даведаўся: нашы пакінулі Новачаркаск і Растоў! У Цымлянскай баі працягваюцца па зводцы: з пераменным поспехам.

### *29 ліпеня*

Мы абжываемся патрохі, знаёмімся з урачамі і з сёстрамі і між сабой.

Сястра ў нас Эліко, грузінка, маўклівая, сухаватая, трохі дзіўная. Гаворыць па-руску дрэнна. Фінкель, Сенькін і Брыцін у яе атрымліваюцца так: Фінькін, Сінькін і Брынькін. Жучкоў у яе — Шучкоў. Хлопцы пасмейваюцца адзін з аднаго.

Быў, рабіў абход доктар Бачылава, наш галоўны лекар, стары, сівы, хударлявы. Таксама малагаваркі.

Наш непасрэдны лекар — Лена Саркісава. Вельмі сур'ёзная і важная маладая жанчына. І вельмі ўважлівая.

Баі ідуць ужо ў раёне Батайска. Значыць, немцы з ходу пераправіліся цераз Дон. Пераправіліся яны, паведамляецца, і ў Цымлянскай. Але там нашы трымаліся колькі часу.

Растоў занялі немцы, а я ўсё ніяк не магу прызвычаіцца да гэтай думкі. Усё ўспамінаю яго, якім бачыў да ранення, як было ў шпіталі. Такі горад страцілі! І што з людзьмі яго? Дзе Антонаў, Ася? Усе астатнія?

У раёне Батайска баі вельмі моцныя.

### *6 жніўня*

Мне няёмка пісаць тут у палаце. Пісанне прыцягвае ўвагу, выклікае пытанні, пакепліванне. Але пісаць больш няма дзе. Толькі тут, седзячы на ложку.

Я стараюся не звяртаць увагі на кепікі. Часу вольнага цяпер многа, і я хачу скарыстаць яго з толкам. У мяне шмат спраў. Мая запісная кніжка запаўняецца патрохі. Я пачаў запісваць таксама расказы Валодзі Сінюкова. І акрамя ўсяго, я задумаў апавяданне. На жаль, пісаць як след левай рукой я так і не навучыўся. Рука стамляецца. Не дачакаюся, калі здымуць гіпс — цяжкую кальчугу, якая так абрыдла мне.

### *7 жніўня*

Мой урач Лена Саркісава сказала, што гэтымі днямі гіпс з мяне здымуць.

Штодзень хаджу на перавязкі. Робіць іх у перавязачнай Жэня, умелая перавязачная сястра. Урач амаль кожны дзень аглядае рану. Кажа, што рана зажывае добра.

### *9 жніўня*

Мне знялі гіпс. Дыхаць стала лягчэй. Але рука не ўхваляе гэтага, з'явіўся моцны боль. Кожны раз, калі адпусціш руку, — яна цягне ўніз як жалезная. Няма пляча! А мышцы не хочуць трымаць! Каб руцэ было зручней, на мяне, пад руку — надзелі «торбу». Урач, жартуючы, назваў мяне «паштальёнам». Усё ж я цяпер больш падобны да чалавека. Хоць і трымаю руку на падвязцы.

### *11 жніўня*

Баі, акрамя Армавіра, пад Краснадарам і Майкопам. Майкоп — гэта ўжо, па-мойму, зусім Каўказ. Немцы прарваліся да Каўказа!

Сённяшняя вестка турбуе і тым, што Майкоп — гэта таксама нафта.

У зводцы неаднойчы гаворыцца аб зверствах немцаў у Беларусі.

Чытаю з цікавасцю «Цяжкі дывізіён» Лебядзенкі, раблю выпіскі. Чытанне дапамагае мне на час забыцца пра цяжкія думкі аб фронце, аб радзіме.

### *12 жніўня*

Мяне жартам называюць тут «начальнікам штаба». Называюць так таму, што ў мяне ёсць карта і па ёй я сачу за тым, што адбываецца.

Да мяне часта падыходзяць ад ложкаў, прыходзяць з другіх палат. Распытваюць, разглядваюць. Выказваюць меркаванні.

Усё ж у нас жыве надзея, што ўрэшце немцу дадуць па зубах. Ды так, што не злічыць зубоў, — так ляцець будзе. Вельмі ж ужо нахабна лезе.

Немцы прарваліся да Чаркаска.

Зноў паведамленне аб родных мясцінах. Нямецкі начальнік скардзіцца, што немагчыма жыць ад партызан. «Немагчыма браць падаткі. Жывем, як на вулкане...»

### *21 верасня*

Хачу больш падрабязна напісаць пра раненне. Пра першыя дні ў шпіталі ў Растове.

## *20 чэрвеня*

Дык вось дзе «таилась погибель моя». Я ляжу і праз жахлівы боль у правай руцэ намагаюся звязаць абрыўкі страшных думак. Я паранены, цяжка паранены асколкам авіябомбы... Пяць гадзін... Страшны грукат... Я падаю... Можа быць, спачатку — падаю, а потым грукат. Дым клубіцца па вуліцы. Ляцяць камені і падаюць на асфальт. Уецца абарваны дрот. Я ляжу тварам уніз. Першая думка — няўжо смерць? Бягуць людзі, спалоханыя, бязладныя выкрыкі. Побач ляжыць маладзенькая дзяўчынка, напэўна, школьніца. Шчака парвана. Яна падплывае густой крывёю, стогне, нешта апошняе намагаецца вымавіць, здаецца: «Мама». Паварочваю галаву — яшчэ ляжаць, нязручна, няёмка, нерухома, падплываючы крывёю. Свішча міліцыянер. Не, я жывы. Болю няма. Галава добра працуе. Паспрабаваў нагу, дзейнічае. Зірнуў на руку — дзе быў штуршок, — рана, ірваныя краі, белая галоўка плечавой касці рассечана і тырчыць з раны. Я абыякава агледзеў рану. Падняўся. Правая рука бяссільна апусцілася. Цягучы, жалезны боль. Я падцінаю руку. Лягчэй, але рука па-ранейшаму ные. Іду па вуліцы. Жанчыны, зірнуўшы на маё правае плячо, з жахам адварочваюць твары. «Дзе шпіталь?» — пытаюся. Хлопец паказвае рукой уздоўж вуліцы. Цягучая знямога адбірае мае сілы, я хістаюся, вуліца кружыцца. Дрыжаць ногі, падкошваюцца. Я апускаюся на тратуар. У атупелай галаве няма думак, няма трывог, толькі неадольнае, соннае — легчы, легчы, забыцца. Але забыццё не прыходзіць, — усё працінае цягучы, глухі боль. Да мяне падбягае Вася — сваяк Сіважалезава. «Ваня, што з табой?» Ён нахіляецца нада мной. Я абыякава ўздымаю вочы. Ён кліча маракоў, што прабягалі па вуліцы. Яны спыняюць машыну. Кладуць у кузаў. Вася трымае маю галаву і руку. Побач нехта ляжыць са скалечаным тварам, вока вылезла з вачніцы, гайдаецца. Усё тое ж жаданне — забыцца, каб не было цягучага болю ў плячы і руцэ. Машына спынілася. Крычаць: «Насілкі сюды!» — «Куды яго?» — «Сюды, сюды давайце». «Гэты ўжо гатовы», — кажа ўрач пра майго таварыша з выцеклым вокам. Калышуцца насілкі. Урач кажа: «Не хвалюйся, нічога страшнага». Я не адказваю. Я не хвалююся, толькі б сціх цягучы боль. Аперацыйны стол. Уколы, якія я амаль не адчуваю. Урач, дзяўчаты ў белых масках. Мяне ўгаворваюць, каб я не скідваў наркозавую маску, хоць гэта вельмі непрыемна. Я спакойна дыхаю, соннае жаданае забыццё цяжка навальваецца на мяне. «Не турбуйцеся, — кажу я. — Я ўсё перанясу добра», — і засынаю.

Прачынаюся я ноччу. Цёмна. Цьмяна паблісквае сіняя электрычная лямпачка. Горача. Ссоўваю коўдру. Робіцца халадней. Рука ў

бінтах, і боль сціх. Ля ложка сядзіць незнаёмая маладзенькая сястра, усміхаецца. У мяне таксама бесклапотная ўсмешка нованароджанага. «Як вас зваць?» — пытаюся. «Ася. А я вас ведаю. Вас завуць Ваня». Я слухаю, яна гаворыць. «Я была дома, калі мяне выклікалі. Кажуць: новага «цяжкага» прывезлі. Я прыйшла. Ух, і доўга ж вы спалі! Моцна!» Спаць больш не хочацца. Ася мне расказвае. Бацька яе — ваенны, падпалкоўнік, на фронце, пісьмаў ад яго даўно няма. Перад вайной жылі ў Львове. Яна была на фронце, была паранена, два месяцы ляжала ў Сочы. Адтуль паслалі працаваць сюды, у шпіталь. Тут яе клічуць «медзведзяня», яна часта танцуе танец «медзведзяняці», які раненыя вельмі любяць.

### *22 чэрвеня*

Растоў. Шпіталь. Другія суткі ляжу на спіне. Рука прывязана да ложка. Не магу павярнуцца. Ніколі не думаў, што гэта так цяжка — двое сутак ляжаць нерухома. Самае вялікае шчасце, якое мне малюе ўяўленне, — гэта павярнуцца на бок і ляжаць на баку, толькі не на спіне. Другія суткі нічога не ем, нічога не хачу есці. Пажылая сястра рада падаць мне ўсё, каб я мог падсілкавацца, але я адмаўляюся. Мне толькі хочацца піць, і я п'ю, часта, многа, прагна. П'ю журавінавы квас — з вялікай ахвотаю. Без намагання піў раствор англійскай солі. Жую таблеткі стрэптацыду, якія ем дзесяткамі. Гэта, каб не было гангрэны. Учора зрабілі аперацыю. Кажуць, адрэзана галоўка, шыйка правай плечавай касці, адростак лапаткі і частка ключыцы. Але гэта не ўсё. Мне трэба быць гатовым на большае. Урач Антонаў, галоўны ўрач шпіталя, шчыра кажа, што можа пачацца гангрэна і тады руку прыйдзецца ампутаваць. Я даю згоду. На фронце я амаль увесь час жыў пад пагрозай усякіх страшных нечаканасцей, я звык гатовым быць да ўсяго. Я думаў, што магу быць забіты, магу страціць абедзве нагі, абедзве рукі — усялякі, хто глядзеў у вочы смерці, ведае гэта, таму я без вагання, вельмі лёгка, можа быць, легкадумна даю згоду адрэзаць руку. Урач кажа, што ён зробіць усё, каб руку зберагчы, пойдзе на рызыку. «Рука ўсё ж трэба хлопцу!» — жартуе ён. Усе гэтыя дні праходзяць у чаканні — будзе гангрэна ці не, будзе рука ці не. Сёння і заўтра гэта яшчэ не вырашыцца. Будуць адно рабіць усё, каб зберагчы руку. Урачы амаль не адыходзяць ад мяне.

Я ляжу адзін у палаце. Круглыя суткі сястра сядзіць ля майго ложка, я стагну ад болю і ад стомы. Двое сутак я зусім не спаў.

### *24 чэрвеня*

Ледзь толькі настае ноч, роўна ў адзінаццаць на дварэ непадалёк тужліва і даўка вые сірэна. Трывога, на горад ідуць нямецкія самалёты. Прыбягаюць сёстры, і мой цяжкі ложак разам са мной нясуць на першы паверх. Сховішча няма. Усе сядзяць у калідоры і нацята слухаюць, як, то набліжаючыся, то аддаляючыся, б'юць зеніткі. Я па-ранейшаму не магу спаць. А спаць нечалавеча хочацца. Бяссільна абвісае цела. Баліць кожная костачка, кожная часцінка. Я мару аб тым, каб хоць некалькі хвілін паляжаць, заснуць, забыцца. Але легчы нельга, імгненна ўспыхвае востры боль, — не ў плячы, а ў локці і ў пальцах. Нават схіліць галаву на бок нельга, ажывае боль. Больш няма сілы трымаць прама галаву. Мяне абклалі падушкамі з усіх бакоў, але аблакаціцца на іх нельга. Ледзь схілюся на бок — выбухае боль. Каб заснуць і забыцца, прашу ўкола морфію. Не даюць. Я ўжо і так вельмі многа яго прыняў, гэта можа дрэнна адбіцца на аслабленым арганізме. Прашу сястру, угаворваю, яна спачувае, але ўкола не дае, баіцца гневу ўрача. Урэшце, урач злітаваўся над маімі пакутамі, дазваляе даць укол. Дзякую. Прыняўшы ўкол, спадзяюся заснуць, але сон не прыходзіць. Нясцерпны боль не сціхае. Морфій не дапамагае. Схіліў галаву на нейкі падрыхтаваны пюпітр і трохі задрамаў. Праз дрымоту — тузае гэты пракляты боль. Ад яго нідзе няма спакою. Пакуль яшчэ невядома, што будзе з рукой. Яе адно стараюцца ўратаваць.

### *1945 год. г. Мінск*

Няма, мабыць, цяжэй долі, чым матчына доля. Дзеці, расціць іх, з дня ў дзень жыць іх думкамі, іх жыццём, і потым губляць па адным. Адных у дзяцінстве, другіх ад хвароб, трэціх — на вайне. Самае страшнае ў жыцці — гэта маці, якая перажыла сваіх дзяцей. Яна жыве сваімі дзецьмі, якіх перажыла, яе жыццё ўсё ў мінулым. Як прываблівы, мабыць, тыя ўспаміны і як жывы, і яркі яны, і сумны, і балючы. Мужнае сэрца бывае ў матак. Напісаць пра матку.

Нашай беларускай літаратуры не хапае глыбокай філасофскай думкі (за выключэннем хіба Чорнага) і, можа, увогуле глыбіні пранікнення ў рэчы, падзеі.

Наша літаратура як ні адна народная, цалкам народная. Мы амаль не ведалі класіцызму, рамантызму, сентыменталізму. У гэтым і сіла яе, і слабасць, абмежаванасць.

Наша літаратура (правільней проза) нясе адбітак нейкага правінцыялізму. Патрэбен пісьменнік, група пісьменнікаў, якія б прарвалі правінцыяльную абмежаванасць і паднялі б літаратуру (прозу) на ступень агульнасаюзную, агульнасусветную.

Без моцнай хвалюючай філасофскай думкі, ідэі нельга стварыць харошую рэч. Перш за ўсё ідэя, філасофія. Яна — кроў, якая дае жыццё твору! Сюжэт не забываць. Мастацкі твор — мастацкі твор, а не навуковы трактат. Мастацкі твор павінен быць захапляючым і ўздзейнічаць на эмоцыі.

Аднаўленне Мінска. Выбухі на вуліцах — ірвуць каробкі.

Жывапісь апавяданням. Пісаць фарбамі, каб пераліваліся (як у Дзяржавіна), гарэлі, перадаваць гукі, каб гаманілі (у Шолахава).

Канкрэтнасць. Дабівацца зрокавай асязальнасці вобразаў (Дзяржавін, Блок, сімвалісты ўмелі).

Вобраз, перш за ўсё вобраз у мастацкім творы. Як бы ні была харошая ідэя, без вобраза нельга стварыць мастацкага твора. Умець ствараць вобраз — вельмі цяжкае мастацтва (Чэхаў умеў некалькімі штрыхамі рысаваць людзей). Мову героя падаць — вучыцца трэба.

У мяне небяспека — натуралізм. Помніць і сцерагчыся.

Не разьменівацца на дробязях. Пісаць толькі пра важнае, аддаваць душу.

У мяне мова невыразная. Пісаць вобразна, ярка. Не расцягваць апісанні і псіхалагічныя аналізы (як у К. Чорнага). Маляваць людзей у простай абстаноўцы, з простымі словамі, звычайнымі і нібы няважнымі, але як у жыцці. Добра «У завіруху».

І болей слухаць людзей, гаварыць, у кожнага многа цікавага можна пачуць, многа незвычайных думак, поглядаў. Вучыцца ў людзей, для таго, каб іх вучыць.

## *[1948 год]*

У Мінску. Разбураныя дамы. Збоку здаецца, што яны паданы ў разрэзе, як вучэбныя супрацьгазы, каб бачылі ўнутранае ўстройства. Страшнае стала простым, звычайным.

Аднаўляюць дамы. Замест вырванай сцяны ставяць новую — чырвоная цэгла — здаецца нібы латка на раненым целе. Выламаны праём вокан залатаны чырвоным цагельным пластырам.

Усе адноўленыя дамы ў латках. Як толькі такія вышэзныя сцены-латкі трымаюцца — дзіву даешся!

У пакойчыку — цесна. Горад разбураны. Веласіпед вісіць на сцяне, стоячы дыбкі. Вісіць стрэльба поруч.

Садзіцца да стала прыходзіцца не ўсім на табурэтах, недзе ставіць — на ложку прыходзіцца.

Купаліха. Прываліла ў Вязынку на машыне з цэлай світай. З шумам увайшла ў хату, затараторыла. Скінула з рук гару скруткаў, услед за ёй — паклалі ўсе іншыя.

«Як тут жывяце? Што новага?»

«А мы гэта толькі што з М. — дождж вялікі, каб ён няладны быў. Вось сукенку прамачыў наскрозь. Ну дык вы, дзяўчаткі, тут збірайцеся, а я пайду пагляджу, якія там у нас на гародзе гуркі ўрадзіліся!»

Выйшла. Аблазіла гарод, агледзела ўсё, нарвала абярэмак салату, цыбулі ды морквы, вымакла ў вадзе, вярнулася, кінула ўсё на стол.

«Дзяўчаткі, трэба нешта падрыхтаваць паабедаць, бо есці хочацца». А дзяўчаткі і без каманды раней яшчэ пачалі, ведалі сваю справу.

Потым развязала пакунак з экспанатамі, узяла партрэт і сама палезла, тоўстая, непаседлівая, на табурэт, прыбіваць. «Паглядзіце, дзяўчаткі, ці добра так будзе? Ды дайце мне малаток».

Злезла. Не спадабалася, паднялася ў другі раз, перабіла.

У кашолцы і скрутках былі: хлеб, мяса, пляшка гарэлкі, рыба. Тым часам яна гаварыла з карэспандэнтам, якога застала тут:

«Дык чаму ж вы не сказалі — што едзеце сюды. Я ж бы вас падвезла на машыне. Дык вы хоць абсушыцеся... Ну нічога — цяпер вы будзеце з намі. Мы тут пераначуем, а заўтра паедзеце назад...»

«Мне трэба сёння».

«Нічога, паспееце яшчэ».

Яна адразу становіцца на блізкую нагу са ўсякім, проста гаворыць у вочы. Даверлівая.

Па сяле пры паяўленні яе машыны пайшла чутка: «Цёця Уладзя прыехала!»

Дзеці пасыпалі да хаткі музея. Не дарма — у цёці ў кашолцы былі цукеркі, як заўсёды. Цёця любіць дзяцей — яна многіх ведае па імені.

У калгасе — «цёця» дабілася аўтамашыну, рухавік. Гэта калгас імя Янкі. Заўсёды ўспаміны пра Янку. «Мой Янка» — і слёзы. «Хто любіць Янку — той мой друг, а хто не — вораг... Адзін мне сказаў дрэнна пра Янку, дык я яму адказала: што ўсе вы памрэце, я Янка будзе жыць!»

Гаворыць, гаворыць — здаецца без ладу — з аднаго на другое: з успамінаў пра Янку на свае чаравікі, у якіх падэшва аказалася кепская. Потым зноў — на трэцяе, далей можа вярнуцца да першага.

З ёю мімаволі стамляешся. Колькі ў ёй энергіі. Якая яна была ў маладосці?

Гадзіны чатыры паказвала мне архіўныя дакументы. Спачатку было цікава паглядаць, потым — нуднавата, а ўрэшце я адчуў, што галава пачынае кружыцца — блізка да вобмараку.

Любіць маладых хлопцаў — пагаманіць, паклікаць іх на абед. Першыя тосты — «за маладосць!» «За мужчын, бо іх мала!» і г. д.

Партрэт — поўная, старэчы абвіслы твар, кароткія, падрэзаныя скобкай валасы, — па-мужчынску амаль. Знаёміцца адразу. Адразу — друг. Усе тайны табе.

## *[1956 год]*

У Пушкіна лепшая рэч у прозе «Капітанская дачка» — аб падзеях стогадовай даўнасці. Тое ж у паэзіі — «Палтава», «Бахчысарайскі фантан»; тое ж у драматургіі — «Барыс Гадуноў», «Моцарт і Сальеры», «Сцэны рыцарскіх часоў»... Суцэльны «перакос»! Усё — гісторыя!.. Уцёкі ў мінулае?.. Пушкіну, праўда, можна даравацць: ён не быў дастаткова арганізаваны. Не было Саюза пісьменнікаў, такога дасканалага апарата!

Чалавек без гісторыі, без традыцый, што дрэва без карэння.

## *[1961 год]. Думкі аб літаратуры*

1. Погляд на літаратуру — як на ілюстрацыю.

Дайце пра Салігорск, Нафтабуд.

Тэма для нарыса, для верша, для манаграфіі гістарычнага плана.

Задача літаратуры — даследваць, абагульняць, маляваць чалавечыя тыпы.

Як бы добрасумленна не апісаць, што было, гэтага недастаткова будзе для рамана. Пісьменнік непазбежна скоціцца да рэгістратара, апісальніка падзей.

Неабходны — праблемы, ідэя, вобразы. Яны — аснова твора. Толькі ідэя, праблема, новая, сучасная, можа даць аснову, мэтанакіраванасць твору.

2. Пераваліччэнне значэння тэмы, матэрыяла.

Літаратура дзеліцца на: завадскую, калгасную, ваенную, гістарычную. Прымат тэмы, матэрыяла. (З «Гісторыі» прыклады). А што такое «Яўгеній Анегін» — раман у вершах на тэму жыцця дваранства. А «Вайна і мір» — гістарычны раман аб вайне 1812 года. Проста, зручна.

Але чаму нас хвалююць — дваранская гісторыя і гісторыя 1812 года?

Душа твора. Ідэя. Духоўны свет твора — вось што аснова, што набліжае і князя Балконскага і Карэніну, Рамэо і Джульету, ідэі — зразумелыя, блізкія, я б сказаў — сучасныя нам.

3. Прыніжэнне ролі ідэйнай, мастацкіх якасцей твораў прыводзіць да нівеліроўкі літаратуры. Рэабілітацыя твораў слабых, у імя тэмы.

Яснасць патрэбна — для правільнай арыентацыі літаратуры і пісьменніка. Спрэчка аб літаратуры пра вайну. Сучасная ці не сучасная? Патрэбная ці не патрэбная?

Творы пра вайну — душа іх? Калі як ілюстрацыя, яны не патрэбны. Але душа іх — гераізм савецкага чалавека, хараство яго. Гераізм — устарэлае? У наш час, калі пахне порахам?

4. Аб сучаснасці твораў.

Сучаснасць:

а) ідэі, думкі, праблемы, тэмы;

б) мастацкіх сродкаў, формы: стылю, мовы, кампазіцыі і г. д.

Многа спрэчак аб форме. Стыль — тэлеграфны..., сцэнарны. Кампактнасць — раман не больш 10 арк. Эпапеі — устарэлі...

Але — імкненне да эпапей «Поднятая целина», «Абай», «Берег ветров», Стэльмах, Ганчар. У нас— Колас, Пестрак, ненапісаныя

эпапеі. Зарубежныя: Мартэн дзю Гар, Арагон «Камуністы». Мова. Фолкнер «Особняк» (1959) — адзін сказ (прыклад).

Разнастайнасць.

Якія ж новыя адзнакі: імкненне да прастаты, адмаўленне ложнага пафасу, гучных слоў. Без доўгіх пейзажаў, доўгіх партрэтаў. Дарэчы, у Л. Талстога — партрэты ў руху. (Л. Талстой пра партрэт.) Лёс эпічнага жанру. Будзе расці. Рост заканамерны — час такі.

5. Задачы жанраў. Чаму асабліва хутка старэюць сучасныя раманы?

Таму, што не ўлічваюць асаблівасці жанраў. Тое, чаго даволі для нарыса, недастатковa для рамана. Нарыс, верш — перадавы падраздзел літаратуры. Раман — артылерыя. Нельга з пушкі па вераб'ях. Раман — менш аператыўны, затое — больш вясомы. Раману — шырокае поле, важныя праблемы, абагульненні.

Раманы губіць дробнаідэйнасць, ілюстрацыйнасць.

Жыццё ідзе. Раманіст павінен бачыць і прадбачыць — гадоў на 10 наперад. Тое, што важна цяпер і што будзе важна цераз 10 год.

Майстэрства. Быць на ўзроўні ўсёй савецкай, сусветнай літаратуры.

«Краткость — сестра таланта» — Чехов.

Колькі іх гэтых сясцёр у талента? У сям'і, якая павінна быць у пісьменніка?

Здаецца, многа.

Найперш самая строгая — сястра — праўда, потым — самая добрая, шчырая — сястра — сардэчнасць, трэцяя — разумнасць, тактоўнасць, чацвёртая — сястра — глыбіня (погляду, пранікнення ў жыццё), пятая — шырыня (бачання жыцця), шостая — вольнасць унутраная (не скованасць), сёмая — натуральнасць (безискусственность — якая ўмее паводзіцца без ламання, без фальшу; такі талент асабліва прыгожы ў жанчын), восьмая... восьмая, можа быць, ёсць кароткасць, але... Але я пры гэтым успамінаю словы, якія я чуў аднойчы ў Маскве ад немаладога пісьменніка: «У творы не павінна быць нічога лішняга, але і не павінна нічога быць упушчана...» Я ўспамінаю Талстога і Дастаеўскага — ці заўсёды шанавалі яны гэту сястру?..

Дзевятая сястра... Ці не даволі? Ці мала яшчэ сясцёр, якія кожнага любяць па-свойму і па-свойму памагаюць кожнаму. Ведаю адно, чым больш гэта сям'я і больш дружнейшая, тым багацей брат-пісьменнік.

*(16/XI-1961 г.)*

### *27.3.62 г.*

Ніколі не думаў, не гадаў, што «Людзі» так пойдуць. Пісаў наперакор усім заклікам (да сучаснасці), і от, на табе. Калі друкавалі ў «Полымі» — усе карэктуры расхапалі. Колькі пацiскаў рук, віншаванняў; цяпер няма такога пленума ці схода, каб не згадалі добрым словам. З усяго гэтага я не чую ніякага кружэння ў галаве. Я, аказваецца, вельмі спакойны да славы, да хвалы; мне становіцца нават сумна: і гэта — усё?!

З усіх гэтых гаворак для мяне самае галоўнае: я магу! Я зрабіў добрае, вартае; варта гэта рабіць і далей — от што самае важнае. Так бы напісаць і другую! Не горш!

### *17.6.62 г.*

Лета. Сонца, сіняе неба. Людзі бадзяюцца па лесе, песцяцца на моры. А я — як катаржнік — аўтарызую на дачы...

### *21.8.62 г.*

Сядзеў у Маскве. Ва «Украіне» дараблялі з Часнаковай пераклад. Нарэшце, здаецца, давялі да канца. Паўгода ўбіў за ніштo часу! І стаміўся...

## *[1967 год]*

### *1 студзеня*

Прыехаў на два дні з Масквы. Пабуду сёння да вечара і зноў — за кнігу, за пераклад. Трэба канчаць! І так столькі часу загінула попусту — з-за чужога нядбальства.

Навагоднюю ноч быў у Саюзе. Сядзелі разам — Адамовіч, Брыль, Скрыган, жонкі. Танцавалі трохі. Брыль спяваў.

Вярнуўся каля чацвёртай гадзіны. А вечарам — еду. Білет у кішэні. Мінулы год увесь выйшаў пусты. Хварэў, быў стомлены. Як у новым пойдзе?

### *7 студзеня*

Прыехаў у Мінск. З Масквы. Загубіў яшчэ адзін месяц на пераклад. Яшчэ адна нядбайная (амаль халтурная работа), а я павінен пакутаваць. Ён «стаміўся», таму не мог зрабіць як след, перачытаць — адзін раз. Тое, што настукаў. Аб якой там творчай рабоце казаць! Нават вычытаць не знайшлося часу. І я павінен быў месяц мучыцца, кіпець, «дацягваць»! Гэта — да таго паўтара месяца, што я дацягваў увесну, — калі я яшчэ прасіў: прачытай, дарабі! Чамусьці мне ўпарта не шанцуе на пераклады! Ці іх няма зусім — добрых перакладчыкаў?

Цяпер трэба на працу ў Саюз. Я так доўга займаўся «сваімі» справамі.

### *9 студзеня*

Гаварыў з Канавалавым. Пра выданне Збору твораў. Паставілі ў план, калі — невядома. Ён паказаў ужо новы — на самы канец плана, на 1970 год. Нехта там вельмі «прыяе» мне ў выдавецтве. Канавалаў абяцаў — уключыць на 1969 год, па крайняй меры. Шэсць тамоў. Ён пакрыўджаны за мае крытычныя выступленні па выданні кніг.

Ужо калі вярнуўся, успомніў, што ў лютым 1969 года — мне трыццаць год. Трыццаць год друкуюся — юбілей творчай работы. Падстава для таго, каб пачаць выданне ў 1969 годзе.

Цэлых трыццаць! Падумаць толькі — ужо трыццаць. Думаю пра тое, што паправіць. У першую чаргу «Мінскі напрамак».

### *17 студзеня*

Сяджу ўсе дні дома. Пераглядаю і праўлю «Мінскі напрамак». Акрамя праўкі — дапаўненні. Прачытаў новыя «Гісторыі» — многа дакладных фактаў, раней мне невядомых і недаступных. Гэта мне вельмі зашкодзіла, асабліва з Чарняхоўскім у другой кнізе.

Трэба падцягнуць. Адзін раздзел пра Чарняхоўскага прыйдзецца напісаць нанава. Вельмі сумбурна, выдумана, несур’ёзна было. Цяпер можна лепей. Можна і — трэба!

### *18 студзеня*

З Саюза сказалі: памёр Аркадзь Чарнышэвіч.

Успамінаю, якім ён прыходзіў тыдзень назад у Саюз. Задыханы, ціхі і цярплівы. Звыклы цярпець. Шкода.

### *20 студзеня*

Праўлю «Мінскі напрамак». Пачаў раздзел — Чарняхоўскі на камандным пункце. Калі пачалося наступленне. Атрымліваецца нешта прыстойнае. Ва ўсякім разе лепшае за тое, што было. На вуліцы — ясна і вельмі марозна. Некалькі прыгожых дзён.

## *«Лепшыя гады»*

### *14.1.70 г.*

Пісаць як пра лепшае. Як пра самую вялікую радасць.

Уся рэч — павінна быць прасякнута шчасцем жыцця.

Першая радасць. Сонца, раніца. Поўна святла.

Звон у паветры. Вёска прачынаецца. Яшчэ адзін дзень радасці.

Яшчэ сплю. І ўжо жыву — ціхая радасць, без прычыны.

Проста таму, што сонца на двары, у хаце. Што сонцам повен увесь.

Радасць — трава на двары. Цёпла.

Радасць — буяе ўсё на агародзе.

Радасць — сонца і сінь. І зелена — балота за агародам, алешнік. Канавы.

Якая вастрыня пачуццяў. Дасюль помню цеплыню зямлі пад босымі нагамі. І цвёрдасць сцежкі ў полі.

І пах кропу.

І колкасць гарбузовага ліста.

І жоўты, бухматы, як чмель, цвет гарбузовы. І прахалода — у засені, пад лісцем — зялёнага ў пухірах гурка. Які ён быў салодкі!

А першая, маладая бульба. Якую варыла маці.

А кулага — звычайна зімой. Пад лямпай з хліпаннем, каля замерзлага акна.

А алей, прывезены бацькам з мястэчка.

Як цёпла і добра было зімой на выслізганым зрэб’ем чаране.

Калі ў акне мароз і ў коміне гудзе завея.

Тут — казкі, тут — кніжкі, тут — сваркі малых. Якія часта перапыняла толькі маці з венікам.

Лучына ў комінку. Неспакойны, мігатлівы водсвет па хаце.

Сіпіць смала. Куродым ідзе.

Чаму я ўспамінаю пра цябе з радасцю і ўцехай.

Таму, што ўсё было радасцю. І ты — частка яе.

Якое шчасце было вясна — пасля зімы!
Першыя праталіны. Голая зямля. Цёплыя прызбы.
Басанож па снезе.
Басанож па зямлі, у якой ужо такое дарагое цяпло.

Вясной шукалі, выкопвалі хрэн.

Сыходзіў снег. Залівала ўсё вадой. Па вуліцы не прайсці, гразь.
У полі — ногі грузнуць, вада ўсюды. Азёры. Рабацінне на сіняй вадзе.
За агародамі — на балоце — мора. Да алешніку. Алешнік у вадзе.
Шчасце ўлезці ў ваду. Плыты строім. Захліствае дошкі вадой.

Бярозы на шляху. Вецер вясновы і сок.
Набраць гладыш.
Гудуць правады.

Адчуванне еднасці з прыродай, з зямлёй.
Дзіця прыроды, частка яе.

Чаму так цягне вада. І такое шчасце яднання з вадой?

Падсыхае. Усё цяплей на зямлі. Пасядзець добра.
Вербы на могілках. Цэлыя дні тут. Вярба — на дудкі. Дудкі.
Лета. Цвітуць грушы. Як пахне цветам. Дасюль цвет напамінае — грушы.
Кругі. Вучымся плаваць. Голас.
Паўлаў круг. Мелка, трава высокая. Цяплынь вады. Аж жмурымся ад асалоды. Ляжым у вадзе, траве.
Берагі — шэрая зямля, далей — жоўтая квецень.
Колькі тут апалонікаў.
Помню — як пахне вада з глеем, напоўненая сонцам, цяплом.
І дасюль — хораша чую сябе. Добра і бесклапотна.

Сады. Агароды. Наш сад і агарод.
Паходы ў чужыя.

Святы. Арэлі пад грушамі на выгане.

Дзядзькава таполя. Вераб'і. Узлезці хацелася. Спрабуем.

Таўшчэзная.
І страх бярэ.
Забавы.
Чараду гоняць з пашы. Ірвём шчаўіну. Трэба зарабляць.

Мне сніцца, што я лятаю. Дарэчы, мне і цяпер — праз сорак гадоў — сніцца гэта. Проста няёмка!

Мяне ўвесь час чамусьці цягне ўгару.
На дрэвы. На страху хлява. На дах хаты. На гарышча. На даху — шырыня, як ляціш. Хочацца зляцець са страхі. Скакаю. Балюча выцяўся.
Балота. У зарасніках. — Каля копані.
Каля канавы — лаза. Вяжу каробкі. Творчасць — пачатак.
Захоплены.
Гонар першай удачы.
Зацішак над канаваю. Слодыч адзіноты.

Едуць касіць. І я хачу. Угаворы застацца. Подкуп не памагае.
За возам.
Біты.
Еду ў калёсах.
Лясная дарога. Арэшнік. Дубняк. Луг.
Асіннік малады. Узлесак — лясны калодзеж.
Вечар на лузе. Незабыўнае на ўсё жыццё.
Агні. Страх. Таямнічасць.
Кладзём стагі. Адзёнак.
Едзем з лугу.
На возе з сенам. Вагаецца воз — ямы, карэнне. Страх. Голле чапляе за верх воза.
Увесь час — «прыгніся».
Усё-ткі страх недарэмны — воз валіцца. І я спаўзаю на зямлю.
«Не пабіўся?»
Не. Сэрца калоціцца соладка. З такой вышыні.
І зноў лес. Зноў едзем. Пакуль выбіраемся на роўнае.

Ягады паспелі. Луцішча, Барысаўшчына (лес).

Ловім рыбу ў балоце.

Зіма блізка. Падсыхае, шэрхне зямля. Грудкі.
Абуваемся. Апранаемся. Сівер дзьме. Вада цямнее.
У лужынах зранку белы лядок. Трашчыць прыемна. Ломім.

От і ўсё. Цісну тваю руку, зычу шчасця тваёй сям'і. Прывітанне хлопцам.

*Іван Мележ*

P. S. Дарэчы, Васіль не кіне Маню: у спрэчцы ідэальнага і матэрыяльнага перамагло зямное... Так што «разрыву» фактычна поўнага не было...

## 5. У СВАТКАЎСКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ

*25 красавіка 1966, Мінск*

Дарагія таварышы!

Вельмі прашу прабачыць, што адказваю са спазненнем. Я быў вельмі заняты markdown рознымі справамі.

Вы пытаецеся, чаму ў мяне ўзнікла жаданне напісаць раман «Людзі на балоце». Галоўнай прычынай тут была памяць пра людзей, сярод якіх я нарадзіўся, доўга жыў у маладыя гады; пра родныя мясціны, якія з гадамі сталі яшчэ даражэйшыя мне. Усе тыя дарогі, па якіх ходзяць мае героі, не выдуманыя, як не выдуманыя і вёскі, і мястэчка, у якіх яны жывуць ці ў якія ездзяць. Мне хацелася расказаць пра тое, як жылі, як гаравалі, як спадзяваліся родныя мне «людзі на балоце» на лепшую долю і як яны ішлі к гэтай долі па нялёгкіх дарогах жыцця.

У вобразах Васіля, Ганны, Хадоські і другіх я хацеў расказаць тое, што я ведаў пра розных людзей, з якіх складаўся народ на Палессі ў мінулыя гады. Вобразы гэтыя ўзніклі з многіх падобных хлопцаў, дзяўчат, дзядзькоў, якіх я бачыў у сваім жыцці. Так што, хоць я і стварыў іх, нельга сказаць, што яны выдуманыя зусім, — яны выраслі з такіх людзей, якіх было многа, і, значыць, іх трэба разглядаць як людзей рэальных, жывых.

Як на рэальнае, жывое, трэба глядзець і на жыццё герояў. Так людзі жылі сорак гадоў назад, трыццаць пяць гадоў назад. І так калечыла іх каханне і самыя лепшыя мары беднасць, нястача, беззямелле, як калечыла яна жыццё Ганны, Васіля, другіх герояў. Калі вы хочаце зразумець герояў раманаў, пастарайцеся найперш зразумець *той час*, у які яны жылі, асаблівасці тых гадоў. І Васіль, і Ганна, і Міканор — людзі свайго часу, яны залежаць ад умоў свайго часу. Наша шчасце якраз у тым, што многае з таго, што калечыла людзей, што перашкаджала ім жыць пачалавечы, засталося ззаду.

Я не магу пераказваць і тлумачыць змест абодвух раманаў, — не толькі таму, што пра іх доўга пісаць, а і таму, што пра кнігі, пра тое, што яны расказваюць, трэба думаць *самім*. Раіцца, спрачацца і так дабівацца ісціны. Ну, а дзе не зможаце дадумацца самі, спадзяюся — паможа настаўнік ці крытыкі, якія багата пісалі пра абедзве кнігі. Прачытайце артыкулы Р. Бярозкіна, Р. Шкрабы, Ф. Куляшова, У. Юрэвіча, вялікі раздзел у новай кнізе «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры», том 2гі.

Яшчэ адкажу на адно пытанне: ці думаю я яшчэ пісаць кнігу. Думаю. Але калі яна паявіцца, сказаць не магу, — сам не ведаю. Відаць, хутка.

Вось усё. Жадаю Вам усім вялікіх поспехаў у вучобе, радасці ў жыцці.

Любіце і шануйце родную нашу беларускую мову і беларускую літаратуру.

*25.IV.66 г.*

*І. Мележ*

## 6. Г. С. ШУПЕНЬКУ

*10 кастрычніка 1967, Мінск*

Дарагі Генадзь!

З вялікім хваляваннем прачытаў я твой ліст. Вельмі ўзрушылі мяне і твой неспакой, і твой боль, узрушылі асабліва таму, што яны мне таксама блізкія. Я, пэўне, калі глядзець збоку, магу здацца чалавекам шчаслівым, удачлівым, але гэта ўражанне вельмі далёкае ад таго, чым ёсць маё жыццё ў сапраўднасці. Праўда, у справе літаратурнай мне нібыта і сапраўды шанцуе, але колькі затое падрыхтавала мне жыццё горкага ў іншых акалічнасцях. Я ніколі нікому не казаў (бо ніхто і не хацеў асабліва слухаць ці не ўмеў зразумець) пра тое, колькі перажыў, падступіўшы да свайго трыццацігоддзя, калі ў мяне раптам адкрыўся туберкулёз, прытым у цяжкай і небяспечнай форме. А з ім адна за адной, год за годам, яшчэ некалькі іншых, ні трохі не лепшых, хвароб. Пішу — ніколькі не лепшых таму, што і цяпер, калі туберкулез прыціх, я вымушан увесь час пакутаваць з гэтымі іншымі і ведаць, што адну з іх я ніколі не вылечу і што яна прывядзе мяне да апошняй мяжы. Што зза іх я цяпер тыднямі і месяцамі (асабліва ўвосень) бываю зусім выбіты з паўнацэннага жыцця,

месяцамі вымушан чакаць, калі зноў прыйдзе пара здароўя, працы, радасці. Вось якраз цяпер настаў такі час — дажджы, імжа, слота, такія імгненныя перамены ў надвор'і, што я ледзь іх вытрымліваю. Ні чытаць, ні пісаць нічога не магу, у той час калі мне павінен быць дораг кожны дзень, кожная гадзіна. Мая бяда — у тым, што ў мяне ёсць кнігі, якія на віду, пра якія пішуць і гавораць, і ўсім здаецца, што ўсё вельмі добра, што мне можна адно зайздросціць!

Вось такая мая «шчаслівая» доля, дарагі Генадзь. У гэтыя дні я, калі на тое пайшло, думаю таксама пра тое, як бы легчы ў якую добрую клініку — хай бы паглядзелі, хай бы паспрабавалі памагчы. Можа, усётакі можна штонебудзь зрабіць!

Думаю, пасля ўсяго гэтага ты адчуеш, што мае словы пра тое, што ўся твая бяда блізкая майму сэрцу, — не проста словы. Таму я і не проста так кажу табе: я вельмі хачу, каб у цябе ўсё было добра. Каб добра прайшла аперацыя і каб ты яшчэ багата зрабіў для людзей, для нашай беларускай культуры, якой заўсёды так патрэбны былі сумленныя, разумныя людзі. Вер майму вопыту: не трэба адчайвацца. Я не раз раней думаў, што канец прыходзіць, але жыццё выводзіла мяне кожны раз з гэтай безнадзейнасці. Веру я, што і твая зорка яшчэ свеціць і будзе доўга свяціць.

Вось я і жадаю табе гэтага ад душы! І зычу табе: вер у яе!

*Іван Мележ*
*10.X.1967 г.*
*Мінск*

## 7. Л. А. СУШЧАНКУ

*7 студзеня 1975, Мінск*

Дарагі Леанід Акімавіч!

Перш за ўсё — паведамляю, што падарунак на Новы год — яблыкі — атрымаў, за што дзякую ўсім ад сэрца, і асабліва загадчыку навучальнай часткі школы, які мне бачыцца арганізатарам многіх добрых пачынанняў у сваёй школе, у тым ліку, мабыць, і гэтага.

Дзякую!

Дзякую таксама за ліст (і паштоўку да Кастрычніка), якія мяне парадавалі і на якія я не адказаў па той прычыне, што ха-

целася многае напісаць, а для таго, каб напісаць гэтае многае, часу было малавата. Адна з прычын гэтага таксама тое, што я спадзяваўся летам пабыць дома і пабачыцца, але паездка гэтая адклалася на восень, а там так усё закруцілася, што я, праязджаючы праз Хойнікі, не змог завярнуць у Людзвін.

Але павінна быць яшчэ лета, і будзем аптымістамі, будзем верыць, што ў гэта лета часу на паездку па родных мясцінах будзе больш і спяшацца не трэба будзе.

Усё гэта — бяда невялікая. Горш тое, што мне апошнія гады нездаровіцца, што і стварае такую сітуацыю, у выніку якой я трапляю ў даўгі перад харошымі людзьмі і вымушан адчуваць сябе перад імі вінаватым глыбока.

Горш таксама тое, што з гэтай прычыны я працую — пішу — з перапынкамі, перабоямі і не даю ў час сваю асноўную прадукцыю — творы. Праўда, затрымаўся я з новым раманам збольшага таму, што вяртаўся да першага свайго — да «Мінскага напрамку», які моцна дапоўніў і паправіў, але затрымка выйшла ў некаторай меры і з-за хваробы.

Між тым, у гэтым годзе выйдзе вялікая кніга — том — маіх крытычных твораў і артыкулаў публіцыстычнага характару. Пад канец гэтага ці ў пачатку наступнага пачну друкаваць той раман, які найбольш ад мяне чакаюць і які без майго дазволу аб’явіла рэдакцыя часопіса «Полымя». Толькі назва яго будзе, відаць, іншая, чым аб’явілі.

Вось пакуль усё.

Паклон зямлі нашай, якая ніяк не дачакаецца снегу, зімы.

*Ваш Іван Мележ 7.1.75 г.*

# КАМЕНТАР

*Людзі на балоце (с. 25)*

Раманы Івана Мележа «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань» складаюць трылогію «Палеская хроніка». «Людзі на балоце» — першы твор трылогіі; напісаны ён у 1956–1960 гг.

Упершыню надрукаваны ў час. «Полымя», 1961, №№ 8, 9, 10.

Першае асобнае выданне — 1962.

Друкуецца па Зб. тв., 1981, т. 5.

Раман мае сваю творчую гісторыю.

У артыкуле «Не застацца ў даўгу», напісаным у 1964 г., Мележ згадвае: «Нядаўна ў адным са сваіх старых блакнотаў я знайшоў запіс, зроблены ў 1946 годзе, калі зноў вярнуўся ў родныя мясціны: «Напісаць аповесць пра Палессе».

У 1947 г. у запісной кніжцы занатоўвае: «Напісаць вялікую рэч (калі-небудзь) пра тое, як мянялася і ламалася псіхіка беларускага селяніна з 1914 года да нашага дня. Пражыты страшэнна жорсткія, ломкія гады. Этапы — 1914, 1917, 1921, 1926, 1930, 1937, 1941, 1945 г. Ісці недалёка за вобразамі — узяць жыццё бацькі або маткі».

Крыху пазней у тым жа годзе зноў запіс:

«а) «Наступленне на балоты» — вялікая, прыгожая, нацыянальная тэма. Напісаць.

б) Пяскі Беларусі. Барацьба за ўраджай на пясчаных глебах (нацыянальная тэма)».

Тэма Палесся, меліярацыі і асушэння балот закраналася пісьменнікам у 2-ой палове 40-х гадоў і ў публіцыстычных артыкулах.

З 1947 па 1952 год Мележ самаахвярна працуе над раманам «Мінскі напрамак».

І толькі ў 1956 г. у інтэрв'ю карэспандэнту «Литературной газеты» (5 студзеня) пісьменнік зноў гаворыць пра твор, прысвечаны людзям Палесся. «У гэтым жа годзе прыступлю да рэалізацыі задумы, якая хвалюе мяне ўжо некалькі год. Падрыхтоўчая работа завершана. Гэта раман аб простых людзях беларускага Палесся».

Быў напісаны першы раздзел. Ды Мележ адчуў глыбокую незадаволенасць, нават разгубленасць. Узнікаюць сумненні. Урэшце пачаў пісаць кнігі пра роднае Палессе «з самага пачатку».

18 лютага 1959 г. у газеце «Калгасная праўда» быў надрукаваны невялікі ўрывак пад назвай «Дадому». Публікацыя суправаджалася рэдакцыйнай заўвагай: «Цяпер Іван Мележ працуе над новым вялікім раманам «Час спадзяванняў», дзеянне якога адбываецца ў перадваенныя гады на Палессі. Гэта раман аб тым, як у гады Савецкай улады расло, пераўтваралася Палессе, як раслі, мяняліся людзі, гаспадары свайго лёсу».

Тэматычна гэты ўрывак (потым друкаваўся як самастойнае апавяданне) суадносіцца з раманам пра асушэнне палескіх балот.

Мележавы «Запісныя кніжкі» дапамагаюць заглыбіцца ў творчы працэс, прасачыць і ўбачыць, як узнаўленне эмацыянальна-бытавой атмасферы беларускай вёскі, паэтызацыя працы, план маральна-псіхалагічны паступова пераходзяць у план сацыяльны, у шырокае эпічнае асэнсаванне лёсу чалавека ў страшэнных жыццёвых катаклізмах паслярэвалюцыйных пераўтварэнняў.

У 1963 г. у адказах на пытанні часопіса «Вопросы литературы» (№ 5) Іван Мележ гаварыў, што «вельмі доўгай была «падрыхтоўка» да рамана «Людзі на балоце». Задума рамана пачала хваляваць мяне гадоў дзесяць назад, але «матэрыял», які ўвайшоў у яго, быў часткова «адабраны» за многа гадоў да задумы, уласна, нават да таго часу, як я наогул навучыўся пісаць». Асабліва пісьменнік акцэнтаваў увагу на момантах аўтабіяграфічных. «З уражанняў далёкага маленства ўвайшлі ў раман, вядома, справіўшыся з вымыслам, такія, напрыклад, малюнкі, як выезд куранёўцаў на сенакос, як святкаванне Каляд. Больш познія «загатоўкі» дапамаглі мне пісаць сцэны першых спатканняў маіх герояў — Васіля Дзятла і Ганны. Сцэны вясковых сходаў, будаўніцтва грэблі, малюнак кірмашу. Увайшлі ў раман многія мае землякі — знаёмыя тых гадоў».

Пазней, ужо ў 1970 г., у тых жа «Вопросах литературы» (№ 10) Мележ зноў (і больш шырока) гаворыць пра моманты аўтабіяграфізму ў рамане «Людзі на балоце». Прызнаецца, што «захаваў у рамане ўсе дарогі, лясы і пералескі, назвы некаторых вёсак і нават імёны некалькіх, праўда, другарадных, герояў. Я не выдумаў поле, пра якое марыў Васіль, і цагельню, каля якой ён біўся з Глушакамі. Ёсць у сапраўднасці (ужо амаль зарасло) возера, у якім намервалася ўтапіцца Хадоска; і дарога, па якой Ганна ехала на кірмаш, і плошча, дзе гэтыя кірмашы збіраліся».

Для пісьменніка прынцыпова важна было акрэсліць, пазначыць крыніцы праўдзівасці, жыццёвасці герояў, сітуацый, гісторый, карцін прыроды.

Яшчэ не быў канчаткова завершаны раман «Людзі на балоце», а Мележа турбуюць новыя планы, новыя задумы. У невялікай прадмове да кнігі «Што ён за чалавек» (1961) пісьменнік абяцае чытачу: «Калі стане сілы, напішу некалькі раманаў, звязаных адзін з адным, якія ахопяць трыццаць гадоў палескага жыцця. Цыкл, мусіць, будзе называцца «Куды ідуць дарогі».

Як вядома, пазней многае змянілася. Цыкл атрымаў назву «Палеская хроніка». Быў завершаны другі раман — «Подых навальніцы», трэці — «Завеі, снежань». Захаваліся матэрыялы, планы яшчэ некалькіх раманаў. Велічнасць, маштабнасць задумы здзіўляе, захапляе.

За першыя два раманы І. П. Мележу была прысуджана ў 1972 годзе Ленінская прэмія.

Паводле раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» ў 1965–1966 гг. на беларускім тэлебачанні рэжысёрам В. Туравым створаны фільм пад назваю «Людзі на балоце».

Спектакль па гэтых раманах пастаўлены Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатрам імя Я. Купалы ў 1967 г.

## АПАВЯДАННІ

### *У завіруху (с. 377)*

Упершыню надрукавана ў часопісе «Беларусь», 1945, № 1.

Друкуецца па Зб. тв., 1979, т. 1.

Прысвячаецца К. Чорнаму.

У прадмове да зборніка «Што ён за чалавек» Мележ піша: «Апавяданне «У завіруху» большай часткай было напісана летам у Глінішчах, роднай вёсцы, у якую я вярнуўся пасля доўгай разлукі. На месцы нашага дома, які сніўся мне ўсе гэтыя гады, чарнела адно халоднае вуголле ды сівеў прыбіты дажджамі попел. Бацькі жылі ў чужой хаце. Стала ў пакоі не было, і пісаць прыйшлося на скрыні, адзіным сямейным скарбе з набытку, што, закапаны ў зямлю, уцалеў ад ваеннай навалы».

### *У гарах дажджы (с. 385)*

Упершыню надрукавана ў часопісе «Беларусь», 1956, № 10.

Друкуецца па Зб. тв., 1979, т. 1.

Прысвячаецца Карабутэнку У. Ф. — крытыку, перакладчыку, нарысісту.

### *Спатканне за горадам (с. 401)*

Упершыню надрукавана ў часопісе «Работніца і сялянка», 1956, № 9.

Друкуецца па Зб. тв., 1979, т. 1.

### *Чулае сэрца (с. 417)*

Упершыню надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1955, 5 снежня. З заўвагай: «Некалькі сустрэч з Кузьмой Чорным».

Друкуецца па Зб. тв., 1979, т. 1.

# ДЗЁННІКІ

Друкуюцца ў скарачэнні па Зб. тв., 1984, т. 9.

Упершыню значная частка «Дзённікаў» і «Запісных кніжак» (пазначаных 1941–1942 гг.) была надрукавана ў «Першай кнізе» (Мн., 1977). Пазней часткова друкаваліся ў час. «Маладосць» (1981, №№ 1, 2) і час. «Неман» (1981, № 2).

У невялікім «Уступе» да «Першай кнігі», напісаным падчас яе падрыхтоўкі, Мележ згадвае: «У адзін з першых дзён вайны, калі прыйшоў загад адступаць, трывожным вечарам я закапаў у гайку каля граніцы скрутак з даваенным сваім скарбам — запіснымі кніжкамі, канспектамі, вершамі. Пастараўся прыкмеціць месца сховы.

Думаў вярнуцца неўзабаве. Але пачалося пакутнае, бяскончае адступленне.

Вярнуўся я на былыя нашы пазіцыі толькі гадоў праз пятнаццаць. Месца, дзе былі акопы, знайшоў і пазнаў. Але гаю ўжо не было. І не было знаку маёй сховы.

Зрэшты, я і не стаў шукаць. Увесь даваенны скарб мой прапаў».

Адсюль можна меркаваць, што ўсё сталае жыццё, ва ўсякім разе, пачынаючы са службы ў войску яшчэ ў даваенны час, Іван Мележ вёў дзённікі і запісныя кніжкі. Вёў да апошніх дзён. На фронце і ў шпіталях пісаў толькі дзённік, пазней — запісныя кніжкі.

У невялічкай прадмове да другога раздзела «Першай кнігі» — «Сшыткі. З запісных кніжак» пазней Мележ зазначыць: «На фронце я не пісаў запісных кніжак. І на скупы дзённік часта не хапала часу і сілы. Але ў шпіталі мяне зноў пацягнула да запісных кніжак. Далей — больш: я завёў блакнот, сшытак, куды запісваў цэлыя апавяданні-нарысы. Зноў час ад часу вяртаўся да вершаў».

Змест Мележавых дзённікаў з запісных кніжак багаты і даволі разнастайны. Тры з палавінай дзесяцігоддзі пісьменнікавага жыцця — асабістага і літаратурнага — знайшлі ў іх своеасаблівы адбітак. У «Выбраных творах» ўключаны пераважна запісы першых ваенных гадоў, якія сваёй паслядоўнай сувяззю з біяграфіяй аўтара, сваім эмацыянальным ладам, пэўнай завершанасцю як бы ўяўляюць самастойны твор, а таксама запісы пасляваеннага часу, больш за ўсё звязаныя з літаратурнымі клопатамі Мележа. І ў дзённіках, і ў запісных кніжках запісы рабіліся з надзеяй, што «гэта спатрэбіцца для нейкіх твораў, аб якіх марылася туманна». Але не спатрэбілася. І толькі пазней пісьменнік прызнаецца і зразумее, «чаму так хацелася запісаць усё. Гэта была патрэба жыцця, быў таксама *дзённік*, больш вольны і шырокі. Неабходная частка таго першага, яго працяг». З гэтай прычыны і дзённікі, і запісныя кніжкі перш за ўсё і цікавы асобай іх аўтара, дзе ён адкрыты, шчыры, творча актыўны і глыбокі. У іх рэалізавана неадольная патрэба самавыяўлення творчай натуры.

# АРТЫКУЛЫ, ЛІСТЫ

## Артыкулы

### *Трохі згадак і думак (с. 499)*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя», 1962, № 11, пад рубрыкай «Пісьменнікі пра сябе».

Друкуецца па Зб. тв., 1983, т. 8.

### *Не застацца ў даўгу (с. 510)*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Дружба народаў», 1964, № 7, пад рубрыкай «Рассказывают писатели».

Друкуецца па Зб. тв., 1983, т. 8.

### *Бачыць глыбока і шырока (с. 515)*

Інтэрв'ю А. Гардзіцкаму ў сувязі з выхадам з друку рамана «Подых навальніцы».

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Маладосць», 1966, № 5.

Друкуецца па Зб. тв., 1983, т. 8.

### *На вышыні жыцця (с. 520)*

Напісаны на падставе выступлення на нарадзе ў ЦК КПБ па пытаннях развіцця беларускай крытыкі і літаратуразнаўства. Нарада адбылася 20 лютага 1968 г.

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Жыццёвыя клопаты», 1975.

Друкуецца па Зб. тв., 1983, т. 8.

### *Майстэрства — гэта імкненне (с. 528)*

Упершыню надрукаваны ў кнізе «Жыццёвыя клопаты», 1975.

З невялікімі скарачэннямі друкаваўся ў часопісе «Литературное обозрение», 1975, № 6, пад рубрыкай «На пути к читателю».

Друкуецца па Зб. тв., 1983, т. 8.

### *Знайсці сябе (с. 537)*

Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вопросы литературы», 1970, № 10, пад рубрыкай «Мастерство писателя»; на беларускай мове ўпершыню ў кнізе «Жыццёвыя клопаты», 1975.

Друкуецца па Зб. тв., 1983, т. 8.

## Лісты

Усе Мележавы лісты, а таксама ліст Я. Скрыгана да Мележа друкуюцца па Зб. тв., 1985, т. 10.

### *1. І. А. Скрыгану (с. 554)*

Гэты ліст — адказ на ліст Я. Скрыгана ад 9.03.1961 г., у якім ён прапануе І. П. Мележу выслаць свой раман для часопіса «Полымя».

Скрыган Янка (Іван Аляксеевіч; 16.11.1905 — 18.09.1992), беларускі пісьменнік. У час перапіскі з І. П. Мележам — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».

### *3. І. А. Скрыгану (с. 556)*

Прачытаўшы раман «Людзі на балоце», Я. Скрыган 18.05.1961 паслаў І. П. Мележу ліст:

«Дарагі Іване!

Дзён колькі як збіраюся напісаць табе. Проста, каб падзякаваць за тыя харошыя часіны, якія даў ты мне тваім раманам. Папраўдзе, Іване. Даўно я не чытаў з такім жарам, любуючыся на тое, што створана табою. Як хараша і ўдумна ўсё зроблена, як тонка, дасціпна і глыбока. І як праўдзіва і адчувальна. Колькі ?? і ў часе і людзях. Які тонкі псіхалагічны рысунак. А Ганна — гэта нешта непаўторнае і вельмі самабытнае.

Усё ўдалося табе, усё, мабыць, глыбока і даўно прадумана, гэта відно па самой фактуры. Мне нават шкода падумаць, каб што-небудзь тут скарачаць. Пастараемся, каб абысціся без гэтага. Хіба ўжо будзе прымушаць нас сама плошча часопіса.

Рукапіс чытаў я дома. Думаў, буду чытаць штодзень падвечар, а зранку рабіць сваё. Але прыйшлося-такі парадак парушыць: чытаў і зранку, і ўдзень, і ўночы. Бо на душы хараша было ад твае кнігі: і ад дасканалай філіграннай манеры пісьма, і ад сказу, і ад людзей, і ад атмасферы. Аніякіх маіх заўваг няма табе. Дай Божа табе і далей так пісаць. І каларыту мовы я нідзе не крануў, і сказаў стылістам, каб не кранаді. Каб кранаді толькі тое, што патрабуе граматыка, бо там былі, мабыць, і машынапісныя памылкі. Калі ты прыедзеш, то мы можам паглядзець рукапіс: калі там што і ёсць, дык толькі ў парадку сяброўскага меркавання па якіх-небудзь трох-чатырох словах. Ці, лепш кажучы, у парадку высвятлення: ці ты так напісаў, ці так надрукавана на машынцы. Дый то — гэта ўжо ідзе па лініі стылістаў.

Дык от жа, Іване, цісну табе руку і дзякую за харошыя часіны, якія даў ты мне сваім раманам.

Янка Скрыган».

### *4. У. М. Юрэвічу (с. 557)*

Гэты ліст — адказ на ліст У. Юрэвіча ад 21.04.1964, у якім той рабіў некаторыя заўвагі і ставіў пытанні, што ўзніклі пры чытанні часткі рамана «Подых навальніцы» («Полымя», 1964, №№ 1, 2).

Юрэвіч Уладзімір Міхайлавіч (н. 1916), беларускі крытык і літаратуразнавец.

### *5. У Сваткаўскую сярэднюю школу (с. 559)*

Ліст гэты — адказ на ліст са Сваткоўскай школы, які «ад імя ўсіх» склаў Мікола Пашкевіч (1935–1972), настаўнік беларускай мовы і літаратуры.

### *6. Г. С. Шупеньку (с. 560)*

Ліст гэты — адказ на ліст Г. Шупенькі ад 1.10.1967, напісаны ў Маскоўскай бальніцы (НДІТ).

Шупенька Генадзь Серафімавіч (н. 1936), беларускі крытык. У час перапіскі з Мележам быў аспірантам пры кафедры беларускай літаратуры БДУ.

### *7. Л. А. Сушчанку (с. 562)*

Сушчанка Леанід Акімавіч (н. 1925), загадчык навучальнай часткі Дварышчанскай СШ Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Знаёмы з Мележам з даваенных часоў, калі той жыў некаторы час у сваякоў у Людзвіне ў час вучобы ў 8–10 класах Хойніцкай СШ № 1.

# SUMMARY

The People's writer of Belarus Ivan Mielezh (1921–1976) is rightfully considered to be a classic of the Belarusian literature of the $20^{th}$ century.

Ivan Mielezh came from the village of Hlinishcha in Paliesie, a picturesque piece of the Belarusian land now covered with the dust of Chernobyl. There passed the days of his childhood and youth. In 1940 a future writer was mobilized to the Soviet army and in the first days of World War II was moved onto the front line. At that war he was seriously wounded.

Everything Ivan Mielezh went through, saw, and experienced became material for his future literary works — stories, narrations, and novels.

The present edition of the selected works compose all the best and the most significant that was created by Ivan Mielezh. First of all, it is his widely known novel *People in Marshland*, the first one in the series *The Chronicle of Paliesie*. In the centre of narration is a Paliesian village in the period of collectivization (obligatory amalgamation of private households into a single collective farm) and a tragedy of its inhabitants, the peasants, being deprived from the essense of their life — their own land.

A number of stories compose a separate book section. There one can learn about horrors of war time and difficulties and hardship of the post war period. Besides, it is worth saying about the diary of Ivan Mielezh that he kept writing from the beginning of the war up to his last days. His publicistic works are of great interest as well. Nothing could pass beyond the writer's attention but made a deep impression on him. So, everything that was going on in our country and the way it was reflected and illustrated in our home literature was a matter of his great concern.

The compiler and author of the commentaries as well as of a thorough introductory article "Road that Leads to the Wide World" is a famous Belarusian critic, Doctor of Philology Serafim Andraiuk.

# ЗМЕСТ

**Мележ І.**

М 47 Выбраныя творы / І. Мележ; Уклад., прадм. і камент. С. Андраюка. — Мн.: «Беллітфонд», 2001. — 576 с. [8] с.: іл. — («Беларускі кнігазбор»: мастацкая літаратура).

ISBN 985-6576-17-2

У аднатомнік народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа ўключаны выдатнейшы раман «Людзі на балоце», першы з цыклу «Палеская хроніка», лепшыя апавяданні, старонкі з «Дзённіка» і з «Запісных кніжак», а таксама шэраг літаратурна-публіцыстычных артыкулаў і лістоў, у якіх найбольш дакладна выяўлена эстэтычная пазіцыя пісьменніка

Гэта — семнаццатая кніга серыі «Беларускі кнігазбор».

**УДК 882.6-3**
**ББК 84 (4Беи) 6-4**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя I. Мастацкая літаратура

МЕЛЕЖ ІВАН

Выбраныя творы

Укладальнік Серафім Андраюк
Рэдактар Кастусь Гадыцкі
Мастак Мікалай Казлоў
Тэхнічны рэдактар Алег Глекаў
Карэктар Ніна Цвірка
Набор Аліна Федарэнка і Ларыса Ваўчок
Вёрстка Ларыса Ваўчок

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 20.05.2001.
Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 30,24 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 28,0.
Наклад 4000 асобнікаў. Зак. 1571.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь
АК РБ 007-98 ч. 1 код 22.11.20.300.

ГА «Беллітфонд».
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5. Ліцэнзія ЛВ № 364 ад 03.02.1999 г.
Пры ўдзеле і на заказ МГА «Беларускі кнігазбор».
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5. Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.1997 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя І.*

ЯН ЧАЧОТ
Выбраныя творы

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ
Выбраныя творы

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ
Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА
Выбраныя творы

ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ
Зборнік

ЯН БАРШЧЭЎСКІ
Выбраныя творы

ЯНКА БРЫЛЬ
Запаветнае. Выбраныя творы

КУЗЬМА ЧОРНЫ
Выбраныя творы

ЭЛІЗА АЖЭШКА
Аповесці, апавяданні, нарысы

ЛАРЫСА ГЕНІЮШ
Выбраныя творы

ПАЎЛЮК ТРУС
Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ
Зборнік

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ
За нашую вольнасць. Творы і дакументы

МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК
Выбранае

ЯЎХІМ КАРСКІ
Беларусы

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ
Выбраныя творы

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Рыхтуюцца да друку:***

АЛЕСЬ ГАРУН
Выбраныя творы

ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН
Выбраныя творы

СТАРАЖЫТНАЯ ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСІ
Зборнік

ЦЁТКА
Выбраныя творы

ЦЁТКА
Выбраныя творы

*Не прамарудзьце з набыццём тамоў «Беларускага кнігазбору» — тыраж іх абмежаваны!*

По ўсіх пытаннях набыцця гэтай залатой бібліятэкі Беларусі, а таксама з прапановамі наконт іх выдання і заўвагамі просім звяртацца па тэл./факсе (017) 220-70-27.
E-mail: kniha@bk.lingvo.minsk.by